*Уладзімір*
# ЛІПСКІ

# Я
*праўдзівы аповяд пра твой і мой радавод*



МІНСК «БЕЛАРУСЬ» 1998

*Калі не ведаеш, адкуль прыйшоў,*
*то не ведаеш, куды пойдзеш.*

Народная мудрасць

# УСЕ МЫ — АД ЕВЫ І АДАМА

Я, Ты, Ён, Яна — людзі на планеце Зямля.

Што мы робім?

Жывём!

У прызначаны для нас гістарычны міг дыхаем і думаем, працуем і харчуемся, пазнаём свет і сябе, весялімся і плачам, спрачаемся і радуемся, кахаем і ненавідзім, ваюем і сябруем...

Жывём, як маятнік: туды-сюды, дзень-ноч, галодны-сыты, адзеты-голы, шчаслівы-гаротны, свой-чужы...

Стоп! Маятнік хай цікае далей. А мы задумаемся: свой і чужы? Ці правільна, што дзелім людзей на процілеглыя лагеры? Мо адсюль бяруць свае вытокі войны, бойкі, калатнеча, варожасць, падазронасць, ганьба, здзекі?

Прызнаем: Адам і Ева — карані нашага чалавечага дрэва. Такая выснова стукаецца ў сэрца, калі пачынаеш усведамляць: хто Я? Калі пачынаеш плесці ланцужок свайго радаводу. Калі хочаш разгадаць тайну стагоддзяў, блізкую да тваёй сям'і, а значыць, і для самога сябе, да сваёй Радзімы.

Японскія вучоныя пацвердзілі гэту ісціну. Шмат гадоў вывучалі яны мітахондрыі, арганічныя ўтварэнні ў клетках чалавека. Вывад, які надрукавалі вучоныя ў часопісе «Сюкан Майнити», стаў сенсацыяй ва ўсім свеце. Тайна спадчыннасці пацвердзілася: існуе пэўная заканамернасць у перадачы «эстафеты» ад адной яйцаклеткі да другой.

Варта вывучыць гены некалькіх пакаленняў адной сям'і, і можна скласці мадэль асноўнага геннага матэрыялу старажытнейшага прадстаўніка любога роду.

Вучоныя з Японіі збіралі звесткі пра гены ў людзей розных рас на Зямлі. Вывад адназначны: усе галіны чалавецтва маюць адну прапрародзічку, агульную Маму. Яна жыла каля двухсот тысяч гадоў назад недзе ў Афрыцы. А мы, яе дзеці, жывём у розных краінах і ніяк не можам дамовіцца аб міры і згодзе.

Адам і Ева — нашы карані.

Корань сілкуе дрэва, дае яму моц. Расце дрэва, множыцца і... гіне. Ці па ўзросту падае, ці ад сякеры дрывасека, ці ад хвароб, ці ад нядбайнасці гаспадароў. А на яго месцы вырастае новы ствол. Жыццё прадаўжаецца!

У кожнага сямейнага радаводу — сваё дрэва. У яго свае карані, ствол, галіны, лісце, насенне, плады.

У прыродным лесе растуць дуб, ліпа, граб, клён, бяроза, асіна...

У лесе чалавечым жывуць Дубовікі, Ліпскія, Ліпніцкія, Граблёўскія, Клёнскія, Асіноўскія...

Лес прыродны не можа расці без кустоў, парасткаў, зараснікаў. Ёсць дрэвы-волаты і карлікі, засохлыя і крывыя, кучаравыя і абкарнаныя.

Гэтак жа і ў лесе чалавечым. Ёсць цары і слугі, геніі і дурні, начальнікі і халуі, злачынцы і праведнікі, багатыя і бедныя, набожныя і грэшнікі.

А я веру: у кожнага чалавека сваё Я. Непаўторнае!

Кожны чалавек — Асоба!

Кожнае чалавечае жыццё — Кніга!

І глыбока ўсвядоміў новую ісціну: чалавек — гэта цэлая планета.

Не верыце?

А давайце разам намалюем гэту чалавечую планету. У цэнтры паставім — Я. Гэта толькі ў алфавіце Я — апошняя літара. А ў жыцці кожнае Я — галоўная фігура, пуп Зямлі, стрыжань, вакол якога адбываюцца ўсе падзеі.

Я — сын. Я — дачка.

Я — бацька. Я — маці.

Я — брат. Я — сястра.

Я — муж. Я — жонка.

Я — дзед. Я — баба.

Я — прадзед. Я — прабаба.

Я — дзядзька. Я — цётка.

Я — цесць. Я — цешча.

Я — свёкар. Я — свякруха.

Я — унук. Я — унучка.

Я — праўнук. Я — праўнучка...

Не Багі гаршкі лепяць, а людзі-чалавекі, у якіх ёсць адно агульнае імя — Я.

Вакол Я правядзём дужку, вясёлку, карону, касмічны скафандр, адным словам, як хто ўяўляе той арэол над сабой. Але прызнаем галоўнае: як бы чалавек ні выстаўляў сваё Я, у якія б высі ні ўзнімаўся, як бы нізка ні падаў, павінен помніць, улічваць бацькоўскае біяполе. Хочам таго ці не, а нам з малаком маці, па спадчынных генах, перадаецца ўсё тое важнае і важкае, што рухае нас па Зямлі і ўтрымлівае ў вобразе чалавека.

І гэта абавязвае нас над Я правесці яшчэ адну дужку. Атрымліваем арбіту з дзвюх раўнацэнных палавін: бацька і маці. Яны далі жыццё нам. Мы ў вечным і неаплатным даўгу перад імі. На іх молімся. За іх падымаем тосты. Яны сняцца нам, не пакідаюць нас, калі нават адыходзяць у вечнасць.

Над бацькамі — свая арбіта: нашы бабкі і дзяды. Іх у кожнага Я — чатыры. І гэта не залежыць ні ад якіх жыццёвых бедаў: сіратой чалавек гадаваўся ці ў сям'і, з адной маці ці з адным бацькам. Усё роўна на гэтай вышыні яго «нараджалі» чацвёра людзей і перадалі яму свой генны гасцінец.

І калі далей будаваць арбіты вакол Я, то блізкія, роднасныя сувязі з кожным новым вітком удвойваюцца. У трэцім калене ў




кожнага з нас ужо восем прабабак і прадзедаў. У чацвёртым — шаснаццаць, у пятым — трыццаць два. А у дзесятым — 1024!

Калі ўлічыць, што за сто гадоў мяняецца прыкладна тры пакаленні людзей, то ў дадзеным выпадку наша Я атрымала спадчыну ад дзесяці пакаленняў — 1024 прародзічы! Яны на працягу трохсот гадоў «ляпілі» сённяшняга цябе, мяне, яго, яе...

Ці апраўдваем іх давер?

Ці ўдзячны ўсім тым людзям, якія па генах перадавалі нам жыццё?

Ці зрабілі крок да таго, каб нешта даведацца пра іх колішняе існаванне?

Закрый вочы, сённяшняе Я, задумайся, не палянуйся пашавяліць мазгамі — і цябе апануе неўтаймоўная цікаўнасць. Давай разам уявім, у якую эпоху жылі нашы 1024 блізкія прародзічы?

А яшчэ ўлічым, што ў кожнага з іх былі браты і сёстры, а нашы — прапрадзядзькі, прапрацёткі. А ў тых — свае дзеці. Дык вунь які пласт радні меў кожны з нас трыста гадоў назад!

Прашчуры нашы жылі ў канцы семнаццатага — на пачатку васемнаццатага стагоддзяў. Што адбывалася ў свеце?

Расіяй па тым часе правіў цар Пётр І. Гэта ён зрабіў Новы год з 1 студзеня. Гэта ён распачаў будаваць Пецярбург. Багата і беларусаў палягло на дрыгвяністых берагах Нявы, у падмурках будучай сталіцы імперыі.

Папярэднік Пятра І цар Аляксей Міхайлавіч змагаўся з паўстанцамі Сцяпана Разіна, Багдана Хмяльніцкага. Іх вызваленчыя ідэі па-рознаму ўспрымалі беларусы. І жорстка паплаціліся за гэта.

У вайне Расіі з Рэччу Паспалітай загінула амаль палова беларусаў, а трыста тысяч гвалтоўна вывезены да расійскіх памешчыкаў. Палонных ператваралі ў прыгонных. Іх можна было купіць за тры—пяць рублёў. Ці не трапіў хто з тваіх родзічаў у тыя «госці»?

Па нашым краі пракаціліся страшны голад і вялікія пажары.

У Варшаве рашэннем Сойму беларуская мова была забаронена для выкарыстання ў дзяржаўным справаводстве.

Вацлаў Ластоўскі ў сваёй кнізе «Кароткая гісторыя Беларусі» так ацэньвае гэта злачынства: «Роўна з тым часам, калі палякі, дзякуючы Люблінскай уніі, забралі ў свае рукі ўнутранае жыццё ўсяго гасударства, — значыць, і літоўска-беларускіх зямель, — гіне і ўсякая свабода ў Польшчы. Гэта не галаслоўная казка, а праўда...»

Хваля новых бедаў абрынулася на пакутную Беларусь, калі Расія распачала вайну са Швецыяй. Так званая Паўночная вайна доўжылася два дзесяткі гадоў (1700—1721). «Тэатр» гэтай бойні зноў адбываўся на нашай скрываўленай зямельцы. Згарэў Віцебск... Абрабаваны Магілёў... Знявечаны Полацк... Зруйнаваны замак у Смалянах... Беларускі народ збяднеў у тыя гады яшчэ на 800 тысяч чалавек. Ушануем сваёй памяццю светлыя імёны нашых продкаў!

А цяпер вернемся да высновы: кожны чалавек — асобная планета!

Крышку вышэй мы склалі радаводную схему Я з дзесяці каленаў. Атрымаўся спектральны паўкруг блізкай радні.

Праз пэўны час Я сустракае Яе. Кахаюцца, жадаюць прадоўжыць род. Яны ідуць у Палац рэгістрацыі шлюбаў, альбо ў царкву, ці касцёл, сінагогу, мячэць. Узнікае Сям'я! Я і Яна аб'ядноўваюць, злучаюць два свае радаводныя паўкругі, і атрымліваецца планета родных людзей. Ядро ў ёй — маладажоны, стваральнікі новых жыццяў.

Кажуць, сям'я — клетка, ячэйка грамадства. А ці не прыніжаецца гэтым роля сямейнай планеты? Ці не звужаецца яе ўплыў на развіццё дзяржавы?

Клетка і ячэйка — краты, абмежаваная сфера. Яны не могуць змясціць у сабе той велічы, якую нясе сям'я.

У ёй — перададзеная генная энергія продкаў.

У ёй — стагоддзямі накопленыя культура, традыцыі, звычкі, характары.

Гэта планета-ракета здольна вынесці на арбіту новых і новых прадаўжальнікаў роду. Вось і жывуць вакол яе найдаражэйшыя спадарожнікі — Дочкі, Сыны, Унукі, Праўнукі...

Дзеці — спадарожнікі планеты Сям'я. На ёй яны напаўняюцца мудрасцю, сілай, жыццёвым зарадам. І, адчуўшы моц у крылах, з дапамогай бацькоў узлятаюць на сваю арбіту. Ствараюць сваю жыццёвую планету «Я».

Так было.

Ёсць!

І будзе!..

Але ж чаму мы, беларусы, сёння плачам, што сем'і ў нас рушацца.

Чаму, не паспеўшы ўкараніцца, развальваецца сямейная суполка (разводаў амаль столькі, як і шлюбаў)?

Чаму маці, нарадзіўшы дзіця, вынасіўшы яго пад сэрцам дзевяць месяцаў, кідае немаўля на сметнік?

Чаму людзей пазбаўляюць бацькоўскіх правоў?

Чаму багата нашых дзяцей жывуць не дома, а ў казённых дзетдамах? І чаму дзеці ўцякаюць з хатніх гнёздаў?

Чаму сям'я не можа вылечыць дзіця, жыць бязбедна?

Чаму?..

А таму, што бязродныя мы.

Безабаронныя: і перад гісторыяй, і ў асобе дзяржавы нашай.

Глухія і сляпыя да продкаў, свайго радаводу.

Не ведаем імёнаў тых, хто з калена ў калена па генах перадаваў нам здароўе, фігуру, характар. Не спяваем прабабчыных песень. Не помнім бабулін лячэбнік. Не ўмеем перахрысціцца перад абразамі.

Ад гэтага сорамна і горка. А з гадамі яшчэ і балюча. Бо не спазнаўшы сваё Я, сямейную планету, дрэва радаводнае, мы — сіроты, абрубкі, проста пні.

Дзе і як шукаць сваю пупавіну?

У славянскіх родах. У чатырох іх накірунках: беларускім, рускім, украінскім, польскім. У балтаў-літоўцаў. Менавіта на абсягах гэтых дзяржаў зачаліся карані нашых продкаў. Для захавання іх прозвішчаў у гісторыі чалавецтва правіцелі розных эпох прымалі такія-сякія меры.

Рускі цар Іван Грозны, якога на Беларусі называлі Жахлівым, у гады свайго панавання загадаў складваць радаводныя кнігі. Непрадказуемыя ўладары, той жа Іван Жахлівы, патапіў Полацк у крыві, вакханалію садызму ўчыніў у сваёй краіне. Па міласці Грознага гінулі людзі, роды. І ў той жа час па яго загадзе пісаліся радаводныя кнігі. Гэта было ў сярэдзіне шаснаццатага стагоддзя. Можна і трэба шукаць тыя унікальныя дакументы!

Пётр Першы, які жадаў бачыць сваю краіну культурнай дзяржавай, правёў у 1722 годзе першы ў Расіі ўсеагульны перапіс насельніцтва. Няўжо бясследна зніклі тыя аркушы, у якіх пазначаны ўсе насельнікі на шырокіх абсягах Еўропы і Азіі?

Кацярына Вялікая, пры якой адбылося тры падзелы Рэчы Паспалітай, увяла метрычныя кнігі. А яшчэ да яе ў беларускіх праваслаўных, уніяцкіх, каталіцкіх храмах спраўна запісвалі новаахрышчаных у кнігах. З тых часоў і аселі ў архівах каштоўныя метрычныя кнігі, па якіх можна тое-сёе даведацца пра нашых родзічаў.

Пры пазнейшых рускіх правіцелях быў створаны аддзел геральдыкі пры Сенаце. У ім накопліваліся звесткі пра дваранства, шляхту. У тых дакументах мноства прозвішчаў і сялян, якія служылі панам. Па дробязных звестках можна зрабіць жадаемыя адкрыцці.

Найбольш распрацаваная і старажытная геральдыка і генеалогія ў раманскіх краінах, у Нямеччыне, Польшчы. Па-добраму зайздросціш людзям, якія здаўна ведаюць герб свайго роду, вытокі свайго паходжання. Вядомы 164 даўнейшыя гербы шляхты польскай. І калі ўлічыць той гістарычны факт, што на Віленскім (1401 г.) і Гарадзельскім (1413 г.) з'ездах багата хто з баяраў Вялікага княства Літоўскага атрымаў польскія шляхецкія гербы, то нам, беларусам, варта шукаць свае карані ў тых радаводах.

А калі яшчэ ўлічыць, што існавала Рэч Паспалітая, ад Люблінскай уніі 1569 года да ганебных трох падзелаў нашых зямель у канцы васемнаццатага стагоддзя, то можна ўявіць, як моцна пераплецены нашы карані, якой блізкасцю мы злучаны з палякамі.

Цяпер вучоныя ды гісторыкі пачынаюць пакрысе даследаваць генеалагічныя табліцы старадаўніх княжацкіх і магнацкіх беларускіх родаў. Пад аб'ект вывучэння трапілі вядомыя князі, ваяводы, кашталяны, гетманы, канцлеры — Радзівілы, Сапегі, Глябовічы, Хадкевічы, Пацы, Вішнявецкія, Агінскія, Астрожскія, Кішкі, Завішы, Тышкевічы, Валовічы, Гальшанскія...

Уявіце, што вы седзіце за вялізным і доўгім сталом. Справа ад вас сядзяць бацька, маці. За імі — дзяды, прадзеды. Ці ведаеце іх імёны? А далей за сталом, як вокам кінуць, сядзяць пра-пра-пра... Хто яны?

Злева сядзяць — жонка, сын, дачка, унук... Далей, як вокам кінуць, пустыя месцы. Хто зойме іх? Як уславіць дрэва сямейнае?

Шмат гадоў збіраў па зярнятку радавод людзей, якія носяць прозвішча Ліпскі. Карані іх адшукаў амаль ва ўсіх раёнах Беларусі, у Польшчы, Літве, Германіі, Амерыцы, Канадзе, Аўстраліі...

Адразу агаваруся: не дзеля свайго Я вывучаў розныя дрэвы Ліпскіх. Мне цікава было вывучаць усіх людзей пад дахам гэтага прозвішча. Яны, аказваецца, здаўна атабарыліся на Беларусі, жывуць, самі таго не ведаючы, пад шматлікімі гербамі. Сотні іншых прозвішчаў уведзены ў гэту радаводную планету, парадніліся з Ліпскімі. Цэлы пласт людзей закрануў сваім даследаваннем. І здабытыя «на-гара» навіны спяшаюся перадаць цікаўным і дасціпным чытачам.

Галоўны герой майго дакументальнага аповяду Я жыве пад рознымі імёнамі на ўсіх старонках кнігі. Ён жыве і сярод вас, і ў вас саміх. Дык успрымайце яго, якім ён ёсць, і станавіцеся багацейшымі ад гэтага знаёмства.

# ЦЮХАІ

*Зазвані моцна, звон, загудзі,*
*Каб пачулі цябе на ўвесь край,*
*Беларуса хутчэй разбудзі,*
*Хоць цяпер яму спаць ты не дай.*

Міхась Чарот

## ГЕРБ «ЛЮБІЧ»

Родавы герб не толькі спадчынны знак. У ім як бы закадзіравана біяграфія сямейнага дрэва. Ён — своеасаблівая мемуарная энцыклапедыя.

Першыя гербы займелі рыцары. Шлем, забрала закрывалі твар ваяра. А герб на шчыце вызначаў: хто ён?

Пасля гербы выбіралі для сябе больш уплывовыя людзі: князі, магнаты, графы, дваране. Так чарга дайшла і да дробных уладароў зямлі, да панства, якое здабывала хлеб потам і расою. Пра такіх спявалі:

Шумі, гудзі, дуброва, —
Едзе князь па дровы!

Вакол вядомага роду групаваліся меншыя. Геральдычны знак можна было набыць, атрымаць у спадчыну, як падарунак, узнагароду. Так і здаралася, што адным і тым жа гербам карысталіся розныя сямейныя роды.

Герб «Любіч» меў два варыянты сваёй выявы.

Першы: у блакітным полі срэбная падкова з кавалерыйскімі рыцарскімі залатымі крыжамі ўсярэдку і наверсе падковы. У кляйноце над шлемам — тры страусавыя пяры.

Другі: у блакітным полі — такая ж падкова з крыжамі. У кароне — тры пяры. А вось па баках шчыта — ваенныя атрыбуты: шаблі, трубы, сцягі, гарматы.

Першая пячатка з такім гербам адносіцца да 1348 года.

Герб «Любіч» зарэгістраваны ў землях: брэсцкай, кіеўскай, інаўроцлаўскай, любельскай, ленчыцкай, познаньскай, сандамірскай, сіродскай.

Гербам «Любіч» карысталіся такія сямейныя роды (прозвішчы тут і далей пададзены ў польскім алфавіце. — *Ул. Л.):*

*Абрагамовіч, Абрамовіч, Адамовіч, Альгміновіч, Анчэўскі, Анджэйвовіч, Арынка, Бабецкі, Бачэўскі, Багенскі, Багіновіч, Байкоўскі, Баканоўскі, Бар-*

*ціцкі, Барцікоўскі, Барткоўскі, Барташэвіч-Ламніцкі, Барвінскі, Бяднарскі, Бярдоўскі, Белаблоцкі, Белахоўскі, Беч, Белавейскі, Бярнацкі, Бесякерскі, Блядзеўскі, Бабакоўскі, Баброўскі, Бацяноўскі, Багдановіч, Баляноўскі, Балецкі, Бархоўскі, Бароўскі, Барткевіч, Бажахоўскі, Бажастоўскі, Бажэўскі, Бажымоўскі, Бажапольскі, Брахоўскі, Брыкчынскі, Бжазіна, Бжазінскі, Бжоўскі, Бжазоўскі, Бжумінскі, Бучынскі, Будараскі, Будрэвіч, Будзіслаў, Будзіслаўскі, Будзішэўскі, Бурнейка, Бурніцкі, Бужэнскі, Бужымоўскі, Хаборскі, Хабоўскі, Хахлеўскі, Халхоўскі, Халмоўскі, Хмялецкі, Хахлоўскі, Хаецкі, Хайноўскі, Харамансі, Хатольскі, Храблоўскі, Хрямінскі, Храстоўскі, Хршчаноўскі, Хыбскі, Ціхоцкі, Ціхоўскі, Цяцерскі, Целямэнцкі, Цярпінскі, Цясельскі, Цясліцкі, Ценжадлоўскі, Чапліцкі, Чартарыйскі, Часлаўскі, Чаховіч, Чарневіч, Чэрвінскі, Чэрвонка, Чупрыноўскі, Домбек, Дамбкоўскі, Дамброўскі, Данілоўскі, Давідовіч, Дарналовіч, Длугакэнцкі, Дабкевіч, Дабажынскі, Дабжанскі, Дабжэвінскі, Дабжыялоўскі, Дабужынскі, Дольнер, Даманецкі, Даманеўскі, Даманоўскі, Давейка, Давятт, Дрыздэля, Джавецкі, Дурыеўскі, Дыбоўскі, Дзяжэнскі, Дзежыц, Дзенгялеўскі, Фэдковіч, Філіцкі, Галэнскі, Гарбалеўскі, Гэркоўскі, Гячэвіч, Гярчынскі, Геватоўскі, Глячынскі, Глінскі, Глэмбоцкі, Гадлеўскі, Галкоўскі, Гарчыцкі, Гарачкоўскі, Гурскі, Гасліцкі, Гасціцкі, Гасліноўскі, Гасткоўскі, Гастынскі, Гашчыцкі, Градоўскі, Грабяноўскі, Грабоўскі, Гражэвіч, Графен, Грэгаровіч, Грахоўскі, Градзіцкі, Грушэцкі, Грушкоўскі, Гружэўскі, Грыневіч, Гуткоўскі, Гузоўскі, Гузэўскі, Гузькоўскі, Гарынак, Герцык, Глябовіч, Гогаль, Галуўка, Гальшанскі, Гарамацкі, Галавач, Гардзевіч, Гарадэцкі, Гарадыскі, Грэгаровіч, Грынцэвіч, Ідзькоўскі, Яцэвіч, Ягняткоўскі, Янчэўскі, Янікоўскі, Янкоўскі, Янушкевіч, Ярахоўскі, Ястшэмбскі, Яшоўскі, Яварніцкі, Явароўскі, Яздоўскі, Яглінскі, Яўніцкі, Енджэёвіч, Юрэвіч, Кабрыт, Карвасецкі, Каліноўскі, Каліцкі, Кэнцкі, Кярэкес, Кяўнарскі, Кіеўскі, Класінскі, Каблінскі, Кабылянскі, Кахансі, Качоўскі, Качаноўскі, Кацьмяроўскі, Камацкі, Канарскі, Канопка, Копец, Капінскі, Капышынскі, Кашыбскі, Кашарскі, Касмінскі, Казарскі, Казажэўскі, Казэрскі, Казлоўскі, Казмінскі, Казмірскі, Казнеўскі, Краснадэмбскі, Красоўскі, Красніцкі, Красноўскі, Круповіч, Крыскі, Кшэч, Кшыжаноўскі, Кшэчкоўскі, Кшыцкі, Кшычкоўскі, Кшынецкі, Кшывіцкі, Кшываноўскі, Кухарскі, Куклінскі, Кульнаў, Куроўскі, Куземскі, Лялёўскі, Лявіцкі, Лігэмза, Ліпскі, Лісоўскі, Ляпенскі, Любіч, Люберскі, Любінскі, Любавіцкі, Людзіцкі, Лютаборскі, Лыскоўскі, Лапа, Лапінскі, Ломцкі, Ламжынскі, Лэмкоўскі, Лапацінскі, Лапацкі, Лапенскі, Лашэўскі, Лаўчынскі, Луба, Лугоўскі, Лужэцкі, Лысакоўскі, Мацкевіч, Майкоўскі, Макавецкі, Мальчэўскі, Манковіч, Маркевіч, Машоўскі, Мэйснер, Мечнікоўскі, Межаеўскі, Мяжынскі, Мілятыцкі, Мілеўскі, Мількевіч, Мілаш, Місбацкі, Мішэўскі, Мішталт, Младынскі, Мніхоўскі, Мнішэўскі, Магільніцкі, Манкевіч,Мрачкоўскі, Мужыносўкі, Мушынскі, Мышлецкі, Набялка, Нагродцкі, Ненха, Нятрэбскі, Няборскі, Нябоўскі, Незабытоўскі, Ніньскі, Нітоўскі, Насажэўскі, Навацкі, Навіцкі, Абрэмпальскі, Арлоўскі, Ажэнскі, Асяцімскі, Асоўскі, Ашкоўскі, Айжынскі, Азевіч, Пахоўскі, Паянчкоўскі, Паплонскі, Пэнчкоўскі, Пэрчынскі, Пядлеўскі, Пядзеўскі, Пянчынскі, Пічкоўскі, Пекутоўскі, Пяшкоўскі, Пятрашка, Пінскі, Пісанка, Пўніцкі, Пляеўскі, Плюшкоўскі, Плашчынскі, Плазоўскі, Пладоўскі, Платоўскі, Пагажэльскі, Пакшыўніцкі, Панікоўскі, Папенскі, Партоўскі, Патоцкі, Простак, Прашынскі, Прушыньскі, Пшаноўскі, Пшэгалінскі, Пшыбыслаўскі, Пшылуцкі, Пунікоўскі, Пужэвіч, Рачэнскі, Рачэўскі, Радахоўскі, Радзімінскі, Радзішэўскі, Ракоўскі, Рапацкі, Ратынскі, Рэдэр, Рэмбялінскі, Рэвенскі, Рэйчынскі, Родэр, Ракіцкі, Рамановіч, Равіцкі, Ражыцкі, Рудніцкі, Рукша, Рушкоўскі, Рымкевіч, Рытэль, Жапецкі, Садлінскі,*



Герб «Любіч»

*Садоўскі, Самек, Сарнецкі, Савіцкі, Сафаровіч, Сэрак, Сэркоўскі, Сэрвінскі, Сандзіцкі, Сельскі, Сяменскі, Серакоўскі, Сяркоўскі, Сяркучэўскі, Серскі, Скавінскі, Скіўскі, Скалімоўскі, Скалдыцкі, Скшынецкі, Славінскі, Смушэўскі, Спэндоўскі, Стаброўскі, Ставецкі, Ставіцкі, Ставіроўскі, Стаўскі, Стогнеў, Стаяноўскі, Ставароўскі, Струдзінскі, Стшалкоўскі, Стшэмэцкі, Стшэшэўскі, Стыпулкоўскі, Сухорскі, Сулімірскі, Сулістроўскі, Супінскі, Сускі, Шантыр, Шчуцкі, Шэляшчынскі, Шэракоўскі, Шамоўскі, Шпакоўскі, Шрэтэр, Штрэм, Шумборскі, Шумоўскі, Шыдлоўскі, Шымонскі, Шырма-Лах, Свідэрскі, Свірскі, Таргоўскі, Таршэнскі, Трапянскі, Тупік, Тшэмескі, Тубішэўскі, Тубароўскі, Туліцкі, Уяздоўскі, Унікоўскі, Усцінскі, Ушынскі, Вандалкоўскі, Вандалоўскі, Васнеўскі, Ватлеўскі, Вэнгжэцкі, Вадліцкі, Вяліцкі, Вяжбіцкі, Вяжбоўскі, Вежухоўскі, Вяшчыцкі, Вількоўскі, Вільпішэўскі, Вінскі, Вісігерд, Вітоўскі, Вітцінскі, Вайцяхоўскі, Вайдоўскі, Вай-*

*наровіч, Вайткевіч, Вілінскі, Вольскі, Валка-віцкі, Валунскі, Варткоўскі, Вайткоўскі, Врачэнскі, Врублеўскі, Вычалкоўскі, Выгражэўскі, Выперскі, Выжыкоўскі, Высоцкі, Жабка, Заблоцкі, Загорскі, Задыкевіч, Заджэўскі, Закжэўскі, Залескі, Залэмскі, Залускі, Занеўскі, Заорскі, Затор, Збажынскі, Збыслаў, Здзанскі, Згадзінскі, Зялінскі, Знавецкі, Зажэўскі, Зыгалдовіч, Жакоўскі, Жэвацкі, Жалпінскі, Жалчынскі, Жулкеўскі, Жыдовіч, Жыліч, Жылінскі.*

## *ПРЫВІЛЕЙ КНЯЗЯ ЯРАСЛАВАВІЧА*

*— Што ты за чалавек?*
*— Я не чалавек, а пінчук.*

П. П. Сямёнаў.
«Живописная Россия»

Шукаць Ліпскіх з гербам «Любіч» усё роўна, што закінуць вуду ў акіян. Пад гэтым старажытным знакам жылі ў свой час 513 сямейных родаў.

Але ж праўду кажуць, хто шукае, той знаходзіць, хто стукаецца, таму адчыняюць, хто жадае, той дамагаецца свайго.

Верасноўскім днём 1992 года мне пашчасціла «вылавіць» у Нацыянальным архіве Беларусі «Справу № 53» Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу аб дваранскім паходжанні роду Цюхаёў-Ліпскіх.

На шэрай вокладцы стаяла чырвоная пячатка і дата: «Снежня 23 дня 1802 года». Трымаў у руках важкую папку, сэрца разрывалася ад цікаўнасці: што за вокладкай, за пячаткай?

Прайшло 190 гадоў, як пісаліся тыя паперы. За іх плацілі срэбрам. За імі хадзілі людзі з пінскіх балотаў у губернскі Мінск. Нехта са справаводаў старанна падшыў усе аркушы. А царскія і савецкія архівы захоўвалі скарб гісторыі ва ўсе гады міру і ліхалецця. Дзякуй вам, мужныя і сціплыя байцы!

Падобна, што за столькі гадоў я першым адкрываў патаемную папку. Вір навін і адкрыццяў абрынуўся на мяне.

Доўга не мог адарвацца ад намаляванага герба. Вопытная рука выводзіла яго абрысы. А фарбы такой якасці, што, здаецца, мастак працаваў зусім нядаўна. Пад малюнкам прыгожым почыркам выведзены подпіс: «Гербъ Любичъ Фамилии Благородныхъ Тюхаевъ-Липскихъ».

Звярнуў увагу: усе словы ў гэтым сказе напісаны з вялікай літары. У іх пісар, відаць, укладваў асобны сэнс і павагу. І лёгка ўявіць, як даражылі сямейным гербам, як ганарыліся ім, як беражліва перадавалі яго з хаты ў хату. Усё гэта выхоўвала фамільную высакароднасць, любоў да сваіх каранёў.

Наступны дакумент пацвярджаў гэткую выснову. Ён быў падпісаны самім князем Пінскім Фёдарам Іванавічам Яраславічам. Прачытаем яго няспешна, уважліва:

# HERBARZ
# POLSKI

## KASPRA NIESIECKIEGO S. J.

POWIĘKSZONY DODATKAMI Z POŹNIEJSZYCH AUTORÓW, RĘKOPISMÓW, DOWODÓW URZĘDOWYCH

I WYDANY PRZEZ

## JANA NEP. BOBROWICZA.

---

TOM VI.

---

W LIPSKU

NAKŁADEM I DRUKIEM BREITKOPFA I HÆRTELA.

1841.

Вокладка кнігі Каспара Нясецкага «Гербоўнік Польскі». Шукайце сябе ў тамах даследчыка радаводаў

**«Чэрвеня 4 дня 1513 года № 1746 даная, а кастрычніка 9 дня ў Актах Давыдгарадоцкіх яўленая Прывілей князя Фёдара Іванавіча Яраслававіча Івану Паўлаву Цюхаю-Ліпскаму на ўладанне нерухомым маёнткам у ваколіцы Ольпені ляжачае. З тым, каб ён, Цюхай, з братамі сваімі ўжываў яго, адбываючы ваенную службу нараўне з протчымі каранованымі зямянамі*, незалежна ад цяглавых сялян...»**

Сонца 4 чэрвеня 1513 года прачнулася ў 4 гадзіны сорак тры хвіліны. Дзень доўжыўся 17 гадзін трыццаць шэсць хвілін. Для заснавальніка роду Івана Цюхая-Ліпскага, які пераходзіў на аседлае жыццё, які прысягаў на вернасць зямлі, гэта стала знакам яго новых турбот: ранелька ўстаць, доўга-доўга працаваць і позна легчы спачываць! Такая зямелька! Яна патрабуе ад свайго гаспадара любові ад усходу да захаду сонца.

А яшчэ ў той дзень хрысціяне адзначалі дзень прападобнага Мяфодзія, ігумена Пяшношскага. Святы айцец па благаславенні свайго настаўніка Сергія Раданежскага стаў жыць ля ракі Яхрама, «ища безмолвия».Збудаваў сабе келлю ў лясістым, балоцістым месцы «для подвигов отшельничества». Але пра ігумена Мяфодзія хутка даведаліся «пустынножители» і пачалі ісці да яго. Давялося будаваць храм і новую келлю. На сабе, пяшком насілі дрэвы. Ад таго і названа была тая будыніна Пяшношскай.

Нешта падобнае адбывалася і з Іванам Цюхаём-Ліпскім. Ён даслужыўся да вознага ў Вялікім княстве Літоўскім. Хутчэй за ўсё выконваў свае абавязкі ў Пінскім павеце, бо менавіта мясцовы князь выдаў яму такі шчодры гасцінец.

Возны па тым часе быў важнай шышкай у земскім урадзе. Прызначаўся самім ваяводам, па прапанове суда і шляхты. Прымаў прысягу. Выконваў розныя даручэнні суда: аглядаў месцы злачынстваў, спрэчак, вызначаў памеры шкоды. Падаваў, развозіў позвы ў суд, прывозіў на пасяджэнні падсудных. Недатыкальнасць вознага гарантаваў статут. За абразу яго маглі даць штраф альбо пасадзіць крыўдзіцеля за краты на дваццаць дзён. Пасядзі, падумай, ці варта на службоўца пляваць.

А за нанясенне ран ці забойства вознага прымянялася смяротная кара. Роўна як да самога вознага, калі ён даваў наўмысна няпраўдзівыя дазнанні. Во якім чыноўнікам быў Іван Цюхай-Ліпскі!

Відаць, ён служыў верна і душэўна, бо далёка не кожнаму князі адломлівалі ад свайго «пірага» кавалак зямлі.

Пра вознага Цюхая не захавалася ў архівах аніякіх звестак. Тым больш пра яго не пісалі кніг, а вось праз жыццяпіс князя Яраслававіча тое-сёе можна даведацца пра тую эпоху.

Тураўска-Пінскае княства да 1157 года не мела самастойнасці, а ўваходзіла ў склад Вялікага княства Кіеўскага. Былі, праўда, ка-

---

* **Зямяне** — у Статутах Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 гадоў ужываецца ў значэннях «шляхціцы», «землеўладальнікі».

роткія перыяды, калі ім спрабавалі верхаводзіць Святаполк Акаянны ды Ізяслаў, блізкія спадкаемцы святога Уладзіміра.

Тут мне хочацца зрабіць невялікае адступленне і выказаць адну гістарычную супярэчнасць, якая здаўна не дае мне спакою і разгадкі якой не знаходжу. Кіеўскаму князю Уладзіміру Святаслававічу нададзены сан святога ў XIII стагоддзі па загадзе Аляксандра Неўскага. Хай сабе! Ён, можа, і заслужыў перад Богам такой ухвалы за ўвядзенне хрысціянства на Кіеўскай Русі. Ёсць у яго, безумоўна, іншыя заслугі перад небам і зямлёй. Але як можна сумясціць званне святога з крывавымі дзеямі? Гэтага мая душа не можа дараваць усемагутнаму князю.

Як вядома, ён пажадаў узяць у жонкі маладзенькую дачку полацкага князя Рагвалода, чароўную Рагнеду. Яна адмовіла яму. Нібыта адбрыла сватоў такімі словамі: «Скажыце свайму князю, што не іду за рабыніча». Уладзімірава матка была нявольніцай, рабыняй.

Дык што зрабіў разгневаны князь?

Пайшоў вайною на Полацк. Спаліў горад. Забіў Рагнедзінага бацьку, яе маці, двух братоў, а яе самую перад гэтым, на вачах у знясіленых бацькоў, у лужыне крыві... згвалціў. Сілком завёз у Кіеў, зрабіў яе сваёй жонкай, надаў новае імя — Гарыслава. Ці можа такі чалавек быць святым?

Хай яму і тым, хто ўзвёў яго ў святыя, суддзёй будзе сам Бог. А мы прадоўжым аповяд пра шчодрага пінскага князя Яраслававіча. Яго прапрародзіч — святы Уладзімір. Перад ім у роднаснай лесвіцы — Уладзімір Манамах, Юрый Далгарукі, Андрэй Багалюбскі. Сам жа Фёдар Іванавіч Яраслававіч знаходзіцца ў дванаццатым калене да Уладзіміра Святаслававіча. Бацька яго Іван быў жанаты на князёўне Варатынскай, валодаў Клецкам, Рагачовам, пазней — Давыд-Гарадком. Сястра Юльяна стала жонкай князя Рыгора Гальшанскага, а сястра Васіліса — жонкай Івана Хадкевіча.

Фёдар — адзіны сын у князя Івана Васільевіча. На яго ўскладваў бацька ўсе надзеі. Напачатку ўсё ішло найлепшым чынам. Фёдар ажаніўся на князёўне Алене Аляльковіч. Яе багаты род таксама пачынаўся ад кіеўскіх князёў. Яе маці князёўне Марыі, брату і ёй самой перайшло ў 1471 годзе ў спадчыну Пінскае княства. На самай справе валодаў княствам муж Алены, зяць Марыі, былы гарадзецкі князь Фёдар Іванавіч Яраслававіч.

У гэткім званні ён дачакаўся старасці. Дзяцей з Аленай Аляльковіч не нажыў. Яна памерла ў 1518 годзе. Князю заставалася жыць два гады. І, відаць, адчуўшы сваю канчыну, не маючы спадкаемцаў, Фёдар Іванавіч пачаў шчодра задорваць усіх, хто верна служыў яму. Пры гэтым выдаваў такі акт: «Я, князь Фёдар Іванавіч Яраслававіч, з княжной сваёй Аленай чынім знакамітым нашым лістом, каму будзе патрэбна бачыць яго, ахвяраванні нашы...»

Так Іван Цюхай-Ліпскі атрымаў маёнтак і зямлю ў ваколіцы Ольпень, што ў пяці кіламетрах ад Давыд-Гарадка. Саму Ольпень князь падарыў Зяновічу-Ольпенскаму. Баярыну Алешу Яраслава-

віч аддаў вёску Бережное. Роду Карповічаў дасталася ад князя вёска Дубой. Жыхарам вёскі Пераходзіла — царква. Вёска Рубель перапала Зышчынічам, Пашкевічам ды Грышку Разанаву, вёска Уголец — Ігнату Ахматаву, а Вялемічы — Лявону Ранцэвічу...

Вось так, з аднаго княства, бралі гаючыя вытокі новыя сямейныя крыніцы. Нараджаліся новыя дынастыі, якія нясуць на сабе зялёныя парасткі аж па сённяшні дзень. Толькі, на вялікі жаль, нашчадкі радаводных сямейных дрэваў анічоганькі не ведаюць пра сівую даўніну.

## *СПРЭЧКІ З РАДЗІВІЛАМ*

Іван Цюхай-Ліпскі і ёсць тое Я, ядро ў ольпенскім радаводзе. Але звесткі пра яго больш чым сціплыя. Бацьку Паўлам звалі, ён — Іван, Ян. Імёны хрысціянскія, беларускія. Дый прозвішча не складанае — Ліпскі. Пасяліўся чалавек каля ліпы, вось і празвалі Ліпскім. А гэта дрэва ў людзей у вялікай пашане. Тураўцы нават прымаўку склалі: «Хоць вусокі, ліж бы добры, як ліпа».

З ліпавага лісця пяклі коржыкі. З драўніны робяць музычныя інструменты, чарцёжныя дошкі, фанеру, мэблю, пратэзы, лыжкі, шкатулкі, з лубу — вяроўкі, канаты, цыноўкі, з насення — алей. Калода для пчол з ліпы — ліпня. Высушаныя кветкі — лекі. Ліпавы мёд, ліпец, духмяны, адзін з лепшых ласункаў у свеце. З аднаго дрэва можна атрымаць да 12 кілаграмаў такога мёду.

Ліпа — даўгавечнае дрэва. Устойлівая да маразоў, вятроў, газаў, дыму, ценевынослівая. Умее змагацца з хваробамі, шкоднікамі. Жыве 300—400 гадоў.

На Беларусі ёсць нават ліпавыя лясы — ліпнякі.Найбольшыя масівы ў Горацкім, Валожынскім, Навагрудскім, Касцюковіцкім, Аршанскім, Асіповіцкім, Віцебскім, Крупскім, Гродзенскім лясгасах.

Нават у цяперашняй геаграфічнай Беларусі ёсць вёскі: Ліпск у Ляхавіцкім раёне, Ліпка ў Клецкім, Ліпнішкі ў Іўеўскім, Ліпава ў Калінкавіцкім, пасёлак Ліпаў у Жлобінскім. У Бялыніцкім раёне працякае рака Ліпаўка, правы прыток Сожа — Ліпа бруіцца у Буда-Кашалёўскім раёне, а ў Сенненскім раёне ёсць возера Ліпна. У Лунінецкім раёне ляжыць Ліпскае балота на 3,5 тысячы гектараў, а ў Старадарожскім раёне — Ліпніцкі бор...

Прозвішча Ліпскі мог набыць чалавек ад свайго гаспадара. Жыў які-небудзь багацей Ліпскі, меў парабкаў, у якіх ні свайго імя, ні свайго прытулку. У пэўны час багацей даў вольную свайму двароваму, адшкадаваў зямлі загон. І ў знак удзячнасці новы зямлянін стаў называць сябе Ліпскім. Так і ўкаранілася, прыжылося прозвішча да новага клана людзей.

Але што за дадатак, прыдомак «Цюхай» да прозвішча вознага Івана Ліпскага?

У архівах знайшоў сведчанне мазырскага павятовага прадвадзі-

целя дваранства ад 27 лютага 1870 года за № 69, у якім ён тлумачыць аднаму з ольпенскіх Ліпскіх, якому не ўпісалі ў нейкі дакумент, што ён яшчэ і Цюхай:

«Слова «Цюхай» не азначае другога прозвішча, а толькі перадфамільную назву. У дамашнім быце яно не заўсёды называецца і ў метрыках не заўсёды ўжываецца, як не абавязковае...»

Але мне давялося адчуць па дакументах, што Цюхаі-Ліпскія рэўнасна і беражліва ставіліся да свайго двайнога прозвішча. Падкрэслена ганарыліся: яны паходжання не простага, а шляхецкага.

Дарэчы, у Пінскім павеце складаныя прозвішчы не рэдкасць. На століншчыне жылі Бут-Гусаімы, Бруцкія-Стэмпкоўскія, Бальдвіны- Рамульты, Колбы-Сялецкія, Наздрыны-Плотніцкія...

Не выключаецца і яшчэ адна версія паходжання прозвішча Цюхай-Ліпскі.

Неяк я быў у Варшаве. Прагульваліся з панам Матэвушам Корвін-Шымаюўскім па вуліцах. Ён носіць пярсцёнак з выявай свайго герба, багата чаго ведае пра свой род. І вельмі хацеў дапамагчы мне ў зборы звестак пра Ліпскіх.

У той час я ўжо «вырошчваў» дрэва Цюхаёў. І быў ашаломлены, калі ў адным з кніжных магазінаў адкрыў «Гербоўнік родаў татарскіх у Польшчы», выдадзены ў Вільні ў 1929 годзе. Там на старонцы 420 напісана: «Ліпскі гербу Любіч. Шляхта засцянковая ва ўсходнім Палессі. Продак іхні ардынскі татарын Цюхай атрымаў Ольпень паблізу ад Давыд-Гарадка ў 1560 годзе...»Што ж, былі татары на Піншчыне. Калашмацілі іх там харугвы Вялікага княства Літоўскага. Багата палонных асела на землях беларускіх. Былі і добраахвотнікі. Можа, і «Цюхай», злучаны з «Ліпскім», — сімвал таго, як важна не варагаваць, а жыць у міры?

Але ж не састыкоўваюцца даты. Архівы сведчаць, што князь Яраслававіч даў у 1513 годзе прывілей Івану Цюхаю-Ліпскаму на маёнтках у Ольпені, што ўсю Ольпень падарыў Зяновічу-Ольпенскаму. А віленскі даведнік даводзіць, што нейкі безыменны татарын Цюхай атрымаў Ольпень у 1560 годзе. Веру ўсё-ткі архівам, якія чытаў і перачытваў не адзін год.

Перад тым, як паведаць цікаўным чытачам пра радаводныя галіны Цюхаёў-Ліпскіх, мушу зрабіць дзве невялікія сентэнцыі.

У 1569 годзе князь Мікалай Крыштаф Радзівіл даў заданне свайму чыноўніку Ваўжынцу Кернажыцкаму зрабіць перапіс людзей у яго ўладаннях. Князеў службіст перастараўся: у рэвізскія спісы ўнёс і Цюхаёў-Ліпскіх з ваколіцы Ольпень. Гэта выклікала буру гневу ў родзічаў вознага. Яны пачалі ўсюды пісаць. І дамагліся свайго. На агульным сходзе дваран у Вільні было прынята рашэнне, што Цюхаі-Ліпскія — самастойныя землеўласнікі, ніколі Радзівілам не належалі.

І яшчэ. У «Справе № 53» пра Цюхаёў-Ліпскіх пасля згаданага ўжо прывілею пінскага князя Яраслававіча падшыты духоўны запавет Івана Цюхая-Ліпскага, адрасаваны сваім сынам. Звернем увагу: у князевым прывілеі і ў духоўным запавеце адзін і той жа ад-

расат — Іван Цюхай-Ліпскі. Але паміж імі — 185 гадоў. У адной са схем, складзенай родзічам, Іван, які даваў запавет сынам, стаіць у падмурку роду, але над ім нехта з геральдыстаў алоўкам паставіў лічбу «4».

Што гэта азначае?

А тое, што возны Іван Паўлаў Цюхай-Ліпскі жыў у Ольпені да сваёй смерці. Пасля яго маёнткам карыстаўся сын альбо нехта з братоў, пасля сынаў сын ці сыны братоў. У знак павагі да роданачальніка нашчадкі ўслаўлялі яго імя ў новых і новых пакаленнях.

І ў 1698 годзе, 20 лістапада, было «учинено» ў Мазырскім гродскім судзе «духовное завещание» Іванам Цюхаём-Ліпскім № 4. Ён «отказывал» — перадаваў родным сынам сваім Аляксандру, Паўлу, Тэадору і Рыгору нерухомы маёнтак Цюхаёўшчызну, які застаўся яму ад бацькі Івана ў ваколіцы Ольпень.

З гэтага часу і складзена мною схема роду Цюхаёў-Ліпскіх. Можна па-добраму пазайздросціць, якое магутнае радаводнае дрэва ўзрасло ў Ольпені. Што ведаем пра яго?

## *ЧАТЫРЫ БРАТЫ*

*Хочаш есці калачы,*
*то не сядзі на пячы.*
Д. Г. Булгакоўскі. «Пінчукі»

На жанчынах трымаецца свет.

Але даруйце, чароўныя, радавод вядзецца толькі па мужчынскай лініі. Вось чаму землеўладальнікі нястомна «шукалі» дзяцей. З асаблівай радасцю замочвалі нараджэнне сына. На яго ўскладвалася надзея: не згубіць прозвішча, будзе гаспадаром на зямельцы.

Ад Івана Цюхая-Ліпскага засталося чатыры сыны. Прасочым іх галіны на працягу дзесяці пакаленняў. Паспрабуем уявіць, як развіваліся яны. Ды кожны з чытачоў хай на вус наматае, хай кожнаму закарціць пашукаць сябе праз стагоддзі.

**ЛІНІЯ АЛЯКСАНДРА.** Аляксандр — старэйшы з Іванавых хлопцаў. У яго самога быў толькі адзін сын Антон. Гэта, відаць, непакоіла бацькоў. І яны прыкупілі ў 1715 годзе для спадчынніка частку маёнтка ў Аляксандра Зяновіча і яго жонкі ў ваколіцы Ольпень. У 1743 годзе купілі яшчэ маёнтак Бутрымаўшчызну з сялянамі ў Івана Канапніцкага, таксама ў Ольпені. Усё гэта, разам з бацькоўскім спадчынным маёнткам, Аляксандр запісаў у духоўным запавеце свайму сыну Антону. У кнігах падкаморскіх Мазырскага павета той запавет зарэгістраваны 24 снежня 1754 года.

Не дзяржаўнай важнасці дакумент. Непрыкметны нават для павета. Радавы для Ольпені. А, бачыце, пра яго ведаюць архівы. І з якой дакладнасцю: запавет набыў сілу за 6 дзён да новага, 1755



**ГЕРБ «ЛЮБІЧ»**
да раздзелаў «ЦЮХАІ», «ДУНІН МАРЦІНКЕВІЧ І ПІНСКАЯ ШЛЯХТА»

- 1. ІВАН ЦЮХАЙ-ЛІПСКІ
  - 2. АЛЯКСАНДР
    - 6. АНТОН
      - 16. АНДРЭЙ
        - 29. ЮЗЭФ — I
        - [redacted]. АНДРЭЙ — II
      - 17. ЛЮДВІГ
        - 31. ІВАН — III
  - 3. ПАВЕЛ
    - 7. АНДРЭЙ
      - 18. АЛЯКСАНДР
    - 8. МІХАІЛ
      - 19. АНТОН
        - 32. МІКАЛАЙ
    - 9. ІВАН
      - 20. РЫГОР
        - 33. ЮЗЭФ — IV
        - 34. ІВАН — V
        - 35. ПЁТР
        - 36. ІВАН — [redacted]
  - 4. ФЁДАР
    - 10. ВАСІЛЬ
      - 21. ІВАН
        - 37. ФЁДАР-1 — VII
        - [redacted]. ФЁДАР-2 — VIII
      - 22. САМУІЛ
        - 39. ПАВЕЛ — IX
        - 40. ФАДЗЕЙ — X
    - 11. ІВАН
      - 23. ФЁДАР
        - 41. АНТОН — XI
        - 42. АПАНАС — XII
        - 43. ІВАН — XIII
        - 44. АНДРЭЙ — XIV
  - 5. РЫГОР
    - 12. СТЭФАН
    - 13. КАРП
      - 26. МІХАІЛ
      - 24. ФЁДАР
        - 45. ІВАН-1 — XV
        - 46. ІВАН-2
      - 25. МАРТЫН
        - 47. АНДРЭЙ — XVI
        - 48. СТЭФАН — XVII
    - 14. РЫГОР
      - 27. АНДРЭЙ
      - 28. ЮЗЭФ
    - 15. ЛЯВОН




49. ФЛАРЫЯН
50. КАНСТАНЦІН
51. АНДРЭЙ
52. МАЦВЕЙ
54. ВАСІЛЬ
53. ІВАН
55. СЫМОН
56. ІВАН
57. РЫГОР
58. ФЛАРЫЯН
59. ВІКЕНЦІЙ
60. ФАМА
61. КУЗЬМА
62. ІВАН
65. ФРАНЦ
63. ВІКЕНЦІЙ
64. ІГНАТ
66. АНТОН
67. АНДРЭЙ
68. СТЭФАН
69. ФЁДАР
70. ІВАН
71. ЯКАЎ
72. АНДРЭЙ
73. ІВАН
74. ЦІМОХ
75. ПАВЕЛ
76. ФЁДАР
77. ІЛЛЯ
78. ПЁТР
79. ВАСІЛЬ
80. ПАВЕЛ
81. ЛУКА
82. ІВАН
83. ЯКАЎ
84. АНДРЭЙ
85. ІОСІФ
86. МІКАЛАЙ
87. МІХАІЛ
88. РЫГОР
89. АНТОН
90. СЦЯПАН
91. ІЛЛЯ
92. ЛЯВОН
94. ТОДАР
93. СЦЯПАН
95. ЮЛІЯН
96. ІОСІФ
97. ІВАН
98. ФЁДАР
99. ВІКТАР
100. АМБРОЗІЙ
101. ЛЕЎ
102. ВАСІЛЬ
103. ІВАН
104. АДОЛЬФ
105. ФРАНЦ
106. РЫГОР
107. МІХАІЛ
108. СЦЯПАН
109. АНТОН
110. ІВАН
111. СТЭФАН
112. ЛЯВОН
113. АЛЯКСАНДР
114. КІРЫЛ
115. МІКАЛАЙ
116. АДАМ
117. ВАСІЛЬ
118. СЯМЁН
119. ВІКЕНЦІЙ
120. АДАМ
121. ПЁТР
122. РЫГОР
123. УЛАДЗІМІР
124. ВАСІЛЬ
125. МІХАІЛ
126. ЮЛЬЯН
127. ІВАН
129. ІГНАТ
128. ЮЛЬЯН
130. АДАМ
131. ІГНАТ
132. АДАМ
133. ФЁДАР
134. МІХАІЛ
135. АДАМ
136. АНДРЭЙ
137. ІВАН
138. ПЁТР
139. АЛЯКСАНДР
140. ІЛЛЯ
141. МАКСІМ
I
II
III
IV
V
VI
VII
VIII
IX
X
XI
XII
XIII
XIV
XV
XVI
XVII
XVIII
XIX
XX
XXI
XXII
XXIII
XXIV
XXV
XXVI
XXVII
XXVIII
XXIX


XVIII
142. ІВАН
143. ВІКТАР
144. УЛАДЗІМІР
169. ІГАР
170. ЛЁВА
171. МІРЭК
XIX
145. ІГНАТ
146. ІЛЛЯ
147. ІВАН
172. ВАСІЛЬ
173. ІВАН
XX
148. СЯРГЕЙ
149. АНАТОЛЬ
150. ВАСІЛЬ
174. ВАСІЛЬ
175. МІКАЛАЙ
176. МІКАЛАЙ
193. СЯРГЕЙ
XXI
151. ЮЛЬЯН
XXII
152. ІОСІФ
177. ВІКТАР
178. ІВАН
194. ІВАН
195. ВІКТАР
XXIII
153. АЛЯКСАНДР
154. УЛАДЗІМІР
179. ІЛАРЫЁН
180. АЛЯКСАНДР
181. ІЛАРЫЁН
182. МІХАІЛ
196. ІГАР
197. АЛЯКСАНДР
XXIV
155. ВІТАЛЬ
156. АЛЯКСАНДР
157. ВАСІЛЬ
183. ІВАН
184. ВЯЧАСЛАЎ
XXV
158. УЛАДЗІМІР
159. ФЁДАР
160. ПЁТР
161. СЦЯПАН
162. ФАМА
XXVI
163. ФРАНЦ
185. ВАСІЛЬ
186. ЗЫГМУНД
198. ЯЎГЕН
199. АЛЯКСАНДР
XXVII
164. АНТОН
187. АНДРЭЙ
200. ВІТАЛЬ
XXVIII
165. АНДРЭЙ
166. ВІКТАР
167. ПЁТР
188. ВІКТАР
189. МІКАЛАЙ
190. СЯРГЕЙ
191. РУСЛАН
201. ІЛЛЯ
202. АЛЯКСАНДР
XXIX
168. АНТОН
192. ПЁТР

года. А гэта якраз той год, калі на землях Беларусі пачалі вырошчваць замежны ласунак — бульбу. Магчыма, Антон і стаў першым «бульбянікам» сярод Цюхаёў-Ліпскіх.

Вядома, што восенню 1780 года ў Ольпені здарыўся пажар. Згарэла некалькі дзесяткаў дамоў. Сярод іх быў і Антонаў маёнтак. Агонь знішчыў дакументы на зямлю. І яму даводзілася стукацца да высокіх чыноўнікаў, доказваць сваю спадкаемнасць.

Антон з жонкай «расстараліся» двух сыноў — Андрэя і Людвіга. Яны і вывелі Цюхаёў па лініі Аляксандра на чацвёртую арбіту.

Андрэй жаніўся на Юстыне, Людвіг — на Анастасіі. Жылі на бацькавай зямлі ў Ольпені. А калі сабралі грошай, купілі ў Івана Жэлігоўскага 7 ліпеня 1785 года ніўку зямлі на шэсць загонаў. Бацькаў жа маёнтак у Бутрымаўшчызне прадалі Бернарду Аскерку. Аб чым ёсць запіс 11 сакавіка 1794 года ў кнігах гродскіх Мінскага ваяводства.

На пятае калена выйшлі: ад Андрэя — Юзэф і Андрэй, ад Людвіга — Іван.

На гэтых хлопцаў захаваліся нават метрыкі. Юзэф нарадзіўся 4 ліпеня 1799 года, Андрэй — 10 верасня 1796 года, Іван — 17 ліпеня 1796 года. Па тым часе Ольпень уваходзіла ў Мазырскі павет, а іх бацькі вялі жыццё «адпаведна дваранскаму званню».

Шостае калена самае моцнае ў гэтай галіне: дзевяць нашчадкаў!

У Юзэфа і Магдаліны — сыны Фларыян, Канстанцін, Андрэй, Мацвей. У Андрэя з Таццянай — Іван і Васіль. У Івана — Сымон, Іван, Рыгор. Бачыце, з кожным новым пакаленнем ушаноўваецца Я родапачынальніка — Іван. І яшчэ заўважым: галіна Аляксандра, якая ледзь-ледзь не «засохла», расквітнела ў шостым калене, набыла новыя жывільныя сілы.

Усе дзевяць нашчадкаў шостай лініі нарадзіліся пасля вайны з Напалеонам. Былі немаўлятамі, калі адбылося польска-беларускае паўстанне 1830—1831 гадоў. Усіх іх хрысціў у Ольпенскай царкве свяшчэннік Стэфан Данькевіч. А падняўшыся на ногі, хлопцы вучыліся ў бацькоў здабываць хлеб. Шукалі нявест, гулялі вяселлі ды намоталі на вус мудрыя пажаданні:

— Дай, Божа, спажыць вам бацькаву зямельку, каб у пары састарыліся.

— Дай, Гасподзь, добра пажываць ды хлеб на здароўе паядаць!

У застоллі абавязкова знаходзіліся песняры, яны не шкадавалі галасоў:

Маці сына выпраўляла,
Месяцам аперазала,
Зоркаю засцягнула,
Доляю абгарнула...

Якой доляй? Свет на гэта праліваюць пісьмы Фларыяна Юзэфавіча Цюхая-Ліпскага да цара. Колькі ён іх склаў, не ведаю, але ў архівах захоўваюцца сем яго лістоў. Спачатку да Мікалая I, а пасля — да Аляксандра II.

Усе Фларыянавы пасланні з Ольпені ў Санкт-Пецярбург пісаў «по словам просителя» дваранін Даніла Антонаў Маліноўскі. Прасіцель толькі «руку прыкладваў», распісваўся «Флоян Иосифов Липски». Літары тлустыя, расцягнутыя, відаць, вельмі хваляваўся, калі выводзіў іх. Верыў, што сам цар убачыць яго подпіс. Хай ведае, што і ён у Ольпені не лыкам шыты, пяро ўмее трымаць і за сябе пастаяць.

Для сучасных чытачоў, якія толкам не ведаюць, як звярнуцца да чалавека — ці то «спадар», ці «пан», ці «таварыш», у царскай іерархіі чынашанаванне было проста віртуозным. Хочаш напісаць цару, купі гербавую паперу, а на ёй ужо надрукаваны зварот да адрасата: «Всепресвѣтлѣйший, Державнѣйший, Великій Государь Императоръ Александръ Николаевічъ, Самодержецъ Всероссійскій, Государь Всемилостивѣйшій!»

Пісьмы да цара даходзілі толькі вельмі важныя, але ўсе прасіцелі вялізнай імперыі адрасавалі свае лісты «Всемилостивейшему». І верылі: імператар не дасць у крыўду, разбярэцца, падможа, заступіцца.

Што прасіў Флор у цара?

Першае пісьмо падпісаў 22 лістапада 1844 года, у якім скардзіўся цару, што яшчэ 7 сакавіка 1835 года паслаў у Мінскі дваранскі сход дакументы на зацвярджэнне яго ў дваранстве, а адказу ўсё няма.

Дзевяць гадоў чакаў Флор пісьма з Мінска. Яго ліст цару — гэта крык душы, адчай, крок насустрач буры. Адчайны Флор!

Вось і атрымаў праз тры месяцы адказ з Мінска. Чыноўнікі вырарадзілі сябе: «За несвоевременное представление нужных дополнительных документов ■ Геральдию Вы, Флориан Иосифович, переведены ■ однодворцы...» З яго запатрабавалі яшчэ 30 капеек срэбрам гербавага падатку за адзін аркуш простай паперы, «употребленной канцелярией на производство ответа».

Ольпенскі Флор Цюхай-Ліпскі піша яшчэ два пісьмы цару, дасылае патрэбныя дакументы. І вось — перамога! Указам урадавага Сената па дэпартаменце Геральдыі ад 29 студзеня 1862 года за 908 Фларыян Іосіфаў «сопричислен» да роду дваранства. Прапрадзед Аляксандр мог бы ганарыцца сваім нашчадкам, які 27 гадоў дамагаўся праўды ў самадзержца. І дамогся! У яго на покуце, пад абразамі, ляжала пасведчанне ў цвёрдай вокладцы, на якім чырвонымі літарамі было напісана: «ДВАРАНІН».

Уся Ольпень, відаць, ганарылася Флорам. Асабліва радня. Паверылі ў яго баявітасць і моц. Ён, Флор, сын Юзэфа, стаў абаронцам роду. І гэта пацвярджаюць наступныя пісьмы да цара.

Пакуль ішла валтузня з прысваеннем яму звання двараніна, у яго самога, у яго братоў родных і стрыечных нарадзіліся дзеці, якіх аўтаматычна «причислили» да аднадворцаў, сялян-уласнікаў з выкананнем пэўных павіннасцей і выплатай падаткаў.

Выправіць гэту несправядлівасць бярэцца Флор. Піша новае пісьмо цару, збірае патрэбныя дакументы і па 10 рублёў срэбрам

пошліны з кожнага Цюхая, які хоча мець пасведчанне двараніна. Такіх Ліпскіх набралася дванаццаць чалавек з Ольпені: Мікалай Фларыянаў, Міхаіл Канстанцінаў, Ілья Іваноў, Сцяпан і Лявон Івановы, Рыгор Андрэеў, Міхаіл Фёдараў, Сцяпан Андрэеў, Іван і Цімафей Фадзеевы, Іван Пятроў і Лука Андрэеў. Пісьмо адпраўлена 5 красавіка 1866 года.

Праз чатыры гады Флор вымушаны плаціць яшчэ за адно пісьмо цару, бо чыноўнікі з геральдыі пазнаходзілі шмат недакладнасцей у дакументах. Чаму ў братоў Лукі і Паўла ў аднаго бацька «показан» Андрэем Феадосавічам, а ў другога — Андрэем Фёдаравічам? Чаму ў метрыках Мікалая бацька запісаны Флорам, а называецца — Фларыянам? Чаму ў метрыках Міхаіла Фёдарава прапушчана імя маці? Чаму ў метрыках пішацца Фёдар, а ў пісьме — Тодар?

Флор цярпліва тлумачыць рускім чыноўнікам, дыктуе пісару, запішы:

— Праваслаўнае імя Фёдар адпавядае рымска-каталіцкаму Тодар...

І на гэты раз Флор перамог: 18 лістапада 1874 года за № 3277 дэпартамент геральдыі зацвердзіў дванаццаць ольпенцаў у дваранскім званні. Сярод іх быў і адзіны сын Флора Мікалай. Яму па тым часе ўжо споўнілася трыццаць гадоў. І ён прадстаўляў сёмае калена Цюхаёў ад Аляксандра.

На сёмым вітку радаводнай арбіты я налічыў таксама дзевяць Цюхаёў. Адзін з іх — Лявон, Міхайлаў сын, асабліва вылучыўся. Ён нарадзіўся 17 чэрвеня 1872 года, як сцвярджаюць астролагі, пад знакам высокага Меркурыя. І ўзляцеў над усімі Цюхаямі, вырваўся ў людзі з Ольпені.

За нейкія заслугі, за пэўныя здольнасці ольпенскага двараніна Лявона Міхайлавіча Ліпскага ў 1909 годзе вылучылі земскім гласным ад Мазырскага павета ў Мінскі губернскі камітэт па справах земскай гаспадаркі. Узначальваў камітэт сам губернатар, дзейсны стацкі саветнік Якаў Эрдэлі. Членамі былі: губернскі прадвадзіцель дваранства, віцэ-губернатар, кіраўнік казённай палаты, пракурор, воінскі начальнік, а таксама гласныя ад паветаў. Разам з Лявонам Ліпскім інтарэсы Мазырскага павета абаранялі ў камітэце Іярон Кяневіч, Феафан Марцынкевіч, Міхаіл Чапчыц.

Лявон Ліпскі з чароўнай жонкай Пелагеяй меў трох сыноў — Івана, Віктара і Уладзіміра, тры дачкі — Любу, Веру, Надзею. З Любоўю Лявонаўнай я меў шчасце бачыцца, гаварыць. Яна спявала колішнія песні. Галасістая, гасцінная, з маладой душой, бабулька ўвайшла ў маё сэрца назаўсёды. А вось пра бацьку толькі і ведала, што быў «культурны».

Антон Мацвееў, таксама з сёмага калена, чамусьці аказаўся ва Усурыйскім краі, на станцыі Акіянская. Працаваў там на Усходне-Кітайскай чыгунцы стрэлачнікам. Летам 1913 года «потомственный» ольпенскі дваранін пісаў з далёкага краю мінскаму губернатару:

*«Имея сына Кирилла — восьми лет, дочерей Елену — шести, Ольгу — пяти лет, Антонину — трех лет, которым я желаю дать образование в среднем учебном заведении, но от меня требуют Указ о дворянском моем происхождении, а потому имею честь покорнейше просить распоряжения Вашего Превосходительства о высылке мне Дворянского Указа...»*

Адказ з Мінска ва Усурыйск да Цюхая-Ліпскага Антона Мацвеева пасланы праз дзесяць месяцаў. Адказ несуцяшальны: «Ходатайство Ваше не может быть удовлетворено, потому что Вы не числитесь в списках дворян Мозырского уезда». Не хапіла стрэлачніку Антону настырнасці яго стрыечнага дзядзькі Флора. Так ён і яго дзеці засталіся без дваранскага звання. Цікава, як склаўся іх лёс?

Адчуў, што чым вышэй падымаўся па радаводнай лесвіцы Аляксандра, а ў восьмым, дзевятым, асабліва дзесятым каленах дыхнула дваццатым стагоддзем, нашай сучаснасцю, тым больш узнікала пытанняў. Хацелася кінуць архівы і ляцець, шукаць тую Ольпень, да якой прыкіпела душа. Але вырашыў стрымацца ад паездкі, пакуль не адшукаю дакументы на радавод астатніх трох сыноў Івана Цюхая-Ліпскага.

**ЛІНІЯ РЫГОРА.** Яна самая кароткая. Абрываецца на шостым калене. Чаму?

Па нейкай прычыне Рыгор Іваноў 8 верасня 1736 года прадаў сваю частку нерухомага маёнтка ў Ольпені братам Аляксандру, Паўлу і Фёдару. А купіў сабе маёнтак у ваколіцы Грыўкавічы ў Андрэя Гарагляда. Мо гэта звязана з жаніцьбай? Як кажуць, жонка перацягнула ў сваё гняздо. Мо з братамі не ўжыўся?

У Рыгора было чатыры сыны — Стэфан, Карп, Рыгор, Лявон.

Стэфан і Лявон пражылі нежанатымі. І на схіле гадоў перадалі сваю долю маёнтка, ацэненага ў 3 тысячы злотых, братам Карпу і Рыгору.

Рыгор памёр рана, у сорак гадоў. Пакінуў у Грыўкавічах малалетніх сірот: Андрэя — пяці год, Восіпа — двух гадкоў. Яны не займелі патомства.

У Карпа нарадзілася тры сыны: Фёдар, Марцін, Міхаіл. Апошні прадаў сваю частку маёнтка Цюхаёўшчызна ў Ольпені за 6800 злотых Льву Загурскаму. Гэта адбылося 13 сакавіка 1794 года. Міхаілу ішоў тады трыццаты год. І сляды яго губляюцца. Можа, разам са сваімі злотымі ён прыйшоў на падмогу паўстанцам, якіх праз месяц узначаліў Тадэвуш Касцюшка?

Фёдар і Марцін, сыны Карпа, жылі ў Грыўкавічах. У дакументах Пінскага павятовага суда ёсць купчая, «учиненная» 18 красавіка 1802 года, па якой браты займелі нерухомы маёнтак у Міхаіла Багаткі, у ваколіцы Грыўкавічы.

Фёдар і Марцін прадоўжылі лінію Рыгора яшчэ на два калены. У іх былі сыны — два Іваны, Андрэй і Сцяпан, а таксама чатыры ўнукі — Іван, Якаў, Андрэй, Іосіф. Яны хрышчоныя ў Вуйвіцкай царкве Пінскага павета свяшчэннікам Стэфанам Кіркевічам.

І апошняя звестка пра гэту лінію. Пінскі прадвадзіцель дваранства Скірмунт выдаў 7 снежня 1834 года пасведчанне ўладальніку зямлі ў ваколіцы Грыўкавічы Марціну Карпаву, унуку Рыгора, што ён, Цюхай, яго сыны Андрэй і Стэфан, унук Якаў Андрэеў і бранічы два Іваны Фёдаравы змешчаны ў дваранскіх спісах 2-га разраду пад № 509.

Грыўкавічы на 1909 год лічыліся ваколіцай, якая ўваходзіла ў Пінскі павет, у Лемяшэвіцкую воласць. Да Пінска — 44 вярсты, да Мінска — 349. Двароў дванаццаць, жыхароў 69. Адгукніцеся, родзічы Рыгора Іванава Цюхая-Ліпскага!

**ЛІНІЯ ФЁДАРА.** У ёй сорак тры мужчынскія постаці. Сам Фёдар, відаць, быў любімым сынам у бацькоў, бо менавіта яму маці-ўдава Матруна Машляк перадала свой маёнтак у Любры.

Фёдар жаніўся на Ганне Бачкоўскай, у якой быў свой маёнтак Лыскі з сялянамі ў Браслаўскім павеце. Да спадчыннага маёнтка яны тое-сёе яшчэ прыкупілі. Так што іх сыны Васіль і Іван мелі надзейны падмурак у жыцці: багатыя маёнткі і дзве валокі* зямлі ў ваколіцы Ольпень.

У жыцці ольпенцаў Васіля і Івана нічога істотнага не адбылося. Хіба што была валтузня з дакументамі на валоданне нерухомым маёнткам, якія згарэлі пры пажары ў ваколіцы Любра ў 1797 годзе. А ў час «нашествия неприятельских французских войск» у 1812 годзе згарэла і актавая кніга Браслаўскага гродскага суда. Меліся цяжкасці з пераафармленнем спадчыннага па маці маёнтка.

Вялі хлопцы гаспадарку, трымаліся сваіх сем'яў. Ды як у пінскай прымаўцы сказана: «Круці не круці, а трэба ўмерці».

Смерць раўняе ўсіх. І толькі два скарбы ўзвышаюць чалавека над вечнасцю: памяць і дзеці. Якая памяць застаецца, залежыць ад самога чалавека: як жыў, што рабіў? А дзеці — найгалоўнейшая спадчына. І можна толькі дзівавацца з людзей, якія не хочуць дзяцей, якія злачынна крыўдзяць іх і нават забіваюць.

Васіль і Іван Фёдаравы мелі ў Ольпені ўсё: маёнткі, грошы, зямлю, жонак, сяброў. А прадоўжылі іх жыццё сыны: у Васіля — Іван і Самуіл, у Івана — Фёдар.

Архівы сведчаць, што Іван і Самуіл 3 жніўня 1792 года «переуступили» маёнтак Лыскі на Браслаўшчыне сваёй сястры Ганне Ліпскай, у замужжы — Савіцкай. Як бачым, спадчынныя гены Цюхаёў перакінуты з Піншчыны ў край азёраў. Яны перайшлі ў іншыя сем'і. Дык мо не лозунг, а жыццёвая праўда ў тым, што на Зямлі ўсе людзі — браты і сёстры. Як у Божай Біблії!

Пра Самуіла «вывудзіў» у архівах, што жонка ў яго была Люба, а ў 1835 годзе ён ужо жыў бабылём і было яму 78 гадоў. Выходзіць, нарадзіўся ён у 1757 годзе.

Фёдар Іванаў таксама дажываў удаўцом. Яго маладзенькая Пелагея, Палашка-мурашка, падарыла яму чатырох сыноў — Антона

---

* **Валока** — зямельная мера і адзінка абкладання павіннасцямі ў Вялікім княстве Літоўскім, існавала з XVI стагоддзя. Яе памер — 21,36 гектара.

(нараджэння 12 лютага 1798 года), Апанаса (нараджэння 5 ліпеня 1803 года), Івана (нараджэння 11 студзеня 1806 года), Андрэя (нараджэння 27 лістапада 1812 года).

Даруй, чытач, што стамляю такой дакладнасцю пра невядомых табе асоб. Якая, урэшце, розніца, хто калі нарадзіўся. Але ж радасць у іншым. Зірні, як даўно жылі тыя Цюхаі. А метрыкі іх захаваліся. І праз столькі гадоў мы варушым памёрлых у сваёй памяці. Такое ўражанне, што яны ажываюць і вось-вось загавораць, раскажуць пра сваю эпоху, пра што думалі, клапаціліся.

Антон, можа, адкрые сакрэт, як адшукаў жонку Таццяну і як нажыў з ёй дзетак: Тэадора, Ілью, Мар'ю, Таню?

Дваранін Апанас не пашкадуе слоў пра сваю жонку Праскоўю, сына Пятра і дачку Маню. Ды, можа, падахвоціцца расказаць, якой была Ольпень на пачатку дзевятнаццатага стагоддзя. І адкрые тайну, чаму ён так рана, у трыццаць два гады, адышоў у вечнасць? Што здарылася: хвароба, вайна, няшчасны выпадак, рэўнасць?

Дык вось як можна раскадзіраваць скупыя архіўныя звесткі. Галоўнае, чытач, каб у цябе з'явіўся нясцерпны душэўны зуд — адшукаць імя свайго прапрапродзіча і даведацца, калі ён нарадзіўся. Тады ярчэй засвеціцца вясёлка над тваім асабістым Я.

**ЛІНІЯ ПАЎЛА.** Самая магутная галіна на дрэве Цюхаеў-Ліпскіх. Як самастойны ствол. І што важна, ад яго захавалася зялёная крона па сённяшні дзень. Пра жывых Цюхаеў раскажу, як паеду ў Столін, Давыд-Гарадок, Ольпень. А цяпер пра архіўныя знаходкі.

Павел, сын Івана, напісаў свой духоўны запавет дзецям 20 студзеня 1764 года. Праз 66 гадоў пасля бацькавага запавету. Па гэтым ужо можна меркаваць, што пражыў ён пад сонцам і зоркамі не меней як семдзесят гадоў. Мацак чалавек!

Ад Паўлавага кораня вырасла ў адзінаццаці каленах 70 мужчын. Але што дзіўна? Сярод іх — ніводнага Паўла. Затое Іванаў — восем, Вікенціяў — чатыры, Адамаў — тры. Ёсць Міхаіл, Мікалай, Андрэй, Антон, Рыгор, Франц... І нават Леў, Амброзій, Адольф, Зыгмунд.

У гэтай лініі, здаецца, было ўсяго. Яна, як кажуць, выйшла з берагоў, за межы Ольпені, дзедзічнага спадчыннага гнязда.

Сын Паўлаў Іван выслужыўся перад польскім каралём Станіславам Аўгустам. Асобным прывілеем кароль дараваў ротмістру Івану Цюхаю пасаду скарбніка ваяводства Мсціслаўскага. Гэта было 12 снежня 1776 года.

Іванаў сын Рыгор, яго ўнук Юзэф і праўнукі Вікенцій, Флор, Караліна і Кацярына, якія жылі ў Ольпені, сталі правобразамі герояў неўміручай п'есы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта». Пра гэта раскажу ў асобнай главе.

Прыкметнай зоркай на Паўлавым небе стаў Пётр, сын Рыгораў, Цюхай-Ліпскі. Мне ён уяўляецца самым адукаваным у родзе, бо сам пісаў лісты цару. Яго кар'ера пачалася з войска, і пасля ён імкнуўся, як паплавок, калыхацца на хвалях жыцця. Ва ўсялякім разе для ольпенскіх суродзічаў ён быў прызнаным аўтарытэтам.

Да яго сядзібы ішлі з просьбамі, паклонамі, кансультацыямі. Да таго ж падобна, што ён вёў вобраз жыцця старога халасцяка. Меў душу чыстую і праведную, імкнуўся да ўзлёту высокага.

Дакументы сведчаць пра яго актыўную дзейнасць, пачынаючы з 1831 года. У гэты час, як вядома, адбываліся крывавыя падзеі ў Польшчы і на Беларусі. Адны гісторыкі называюць іх шляхецкім паўстаннем, іншыя — вайной паміж Расіяй і Польшчай. Па розныя бакі «тэатра» аказаліся насельнікі тых мясцовасцей. Не суддзі мы ім. І не падправім іх дзетак, як бы нам цяпер хацелася. Гісторыю не перапішаш. Усвядомім і прымем факты, як яны захаваліся ў архіве.

У справе ольпенскага двараніна Пятра Рыгорава ёсць сведчанне ад мазырскага павятовага прадвадзіцеля дваранства Лянковіча, які пакінуў такую даведку: «Дворянин Петр Григорьев Липский по распоряжению высшего начальства имел от меня приличные благородному званию, его отличному поведению и способностям разные поручения...»

Якія ж даручэнні выконваў Пётр Рыгораў з Ольпені? Улічым: ад яго ваколіцы да павятовага Мазыра больш за сто кіламетраў. На такой адлегласці трэба было прыкмеціць чалавека, паверыць яму і даверыцца.

Прадвадзіцель мазырскага дваранства паведамляе: у 1829 годзе Пётр Рыгораў Ліпскі склаў спісы павятовай шляхты для збору з іх земскіх падаткаў; у 1830 годзе — сабраў звесткі пра вінакурныя заводы ў павеце; у 1831 годзе — прызначаны дваранскім чыноўнікам для перавозкі ад Пружан і Слоніма да Брэста на падводах казённага правіянту і фуражу; у тым жа годзе служыў дазорцам за дзеяннямі насельнікаў даверанага яму ўчастка; у 1831 годзе даверана быць дваранскім чыноўнікам у перасоўным магазейне* дзеючай арміі для перавозкі на параконных павозках правіянту і фуражу. Усё гэта Пётр Рыгораў Ліпскі «исполнил при похвальном поведении и с крайним усердием».

Архівы данеслі да нас яшчэ адзін вельмі цікавы дакумент. Гэта пісьмо палкоўніка Шыбекі, кавалера ордэнаў Святой Ганны і Уладзіміра за № 200 ад 3 лютага 1832 года. Прачытаем яго ўважліва ў арыгінале і ўдумаемся, якой была эпоха, узаемаадносіны палкоўніка Шыбекі і зямяніна з Ольпені Пятра Ліпскага:

*«Чиновнику Подвижного магазейна Г. Петру Липскому.*

*По воли его светлости Господина Главнокомандующего Действующей Армии подвижной магазейн уничтожен, а погонщиков его велено распределить по домам. Вручая Вам в команду по прилагаемому списку тех погонщиков из разных уездов Минской губернии, предписываю их отвезти в уездный город Пинск. В пути наблюдать и соблюдать следующее: 1/ получив маршрут и кормовые деньги, следовать Вам до города Пинска и по прибытии всех под квитанцию Пинской городской полиции сдать, оттуда*

---

* **Магазейн** — сістэма забеспячэння войск у ваенны час прадуктамі, у яе ўваходзілі склады, хлебапякарні, гужавы транспарт.

*их отправят по домам. Квитанцию и списки с остатками денег представить мне; 2/ обязанностью Вашей будет следить за исправным продовольствием людей, вверенных Вам; 3/ заболевших погонщиков оставлять ■ гошпитолях под квитанции. В пути никаких обид жителям не причинять и стараться унимать погонщиков от всякого рода шалостей, за которые взыскивать с них по мере вины, и за то самим Вам ответствовать; 4/ о всем случившемся ■ пути, как равно и жалобы, доносить господину Гражданскому губернатору с описанием причин; 5/ наблюдать за исправным следованием погонщиков, чтобы они в пути и на отдыхе никуда от своих мест не отлучались; 6/ продовольствие для погонщиков определяется платежом от казны, которое Вы производить должны: погонщикам из Гродненской губернии по 14, а Минской — по 13 $^1/_2$ коп. в сутки за каждого человека за надлежащими росписями, и претензий от обывателей никаких не должно быть; 7/ занятие квартир для ночлегов ■ стоянок должно быть не по самоуправию, ■ по отводу местного начальства или Экономии; 8/ о благополучном прохождении Вашем с командой Вы должны получать квитанции от местных Экономий ■ оное хранить на случай надобности; 9/ по сдаче всех погонщиков в ведение Земства, представляется Вам полное право вернуться в свой дом. Всякое отступление со стороны Вашей от порядка или малейшее упущение, законные претензии со стороны обывателей, утеснение вверенных вам людей и, словом, вся неисправность отнесена будет к личной Вашей ответственности и подвержена военному Суду».*

Гэта складанае і адказнае даручэнне Рыгораў сын Пятро Ліпскі выканаў бліскуча. Можна ўявіць, колькі вечароў ён, вярнуўшыся ў Ольпень, расказваў родзічам пра сваё падарожжа па Беларусі з вайсковым магазейнам. Ён быў для балотнай і глухой Ольпені прышэльцам з іншага свету, носьбітам цікавых звестак. А сам для сябе заставаўся адзінокім, без сямейнага цяпла, не зведаўшы пяшчоты дзяцей. Пра такіх палешукі спявалі:

Ой, горэ, горэ таму нежанатаму,
Як таму гаршочку шчарбатаму:
Кыпыць, кыпыць,
Ды ўсё збягае,
Куды павернецца —
Шчасця нэ мае...

Свой апошні грамадзянскі абавязак Пётр Рыгоравіч выканаў перад раднёй. Гэта яго ўнутраны подзвіг, які прынёс сарака шасці сем'ям Цюхаёў свята, унутраную ўзнёсласць свайго Я.

А справа ў тым, што багата хто з Ліпскіх ужо ў пятым, шостым каленах не маглі даказаць свайго дваранскага паходжання. Перад бюракратычнай сцяной чыноўнікаў яны апускалі рукі. Як сабраць воз патрэбных дакументаў?

Не ў кожнага з іх было срэбра, каб купіць паперу, наняць пісара, натарыуса, паслаць пісьмо. Не кожны з іх меў час, каб ісці ў воласць, ехаць у павет ці губернскі горад. Зямля моцна трымала бедных дваран каля сябе.

За справу ўзяўся Пятро Рыгораў Ліпскі. Сабраў дакументы пра свой род. Пабываў у сарака шасці сем'ях Цюхаёў-Ліпскіх, якія

жылі ў Ольпені, Рублі, Вялемічах, Вуйвічах, Грыўкавічах. Аб'ехаў касцёлы і цэрквы, дзе хрысціліся Цюхаі, дзе прасілі ў неба падмогі.

На адзінаццаці старонках гербавай паперы, коштам у адзін рубель срэбрам, Пётр Рыгораў апісаў гісторыю свайго радаводу. Прыгожым почыркам, старанна выводзячы слова за словам, ён складваў летам 1835 года пасланне самому цару:

*«Всепресвятлейший Державнейший Великий Государь Императоръ Николай Павлович Самодержец Всероссийский Государъ Всемилостивейший*

*Просит Минской Губернии Мозырского уезда Дворянин Пётр Григорьев сын Тюхай-Липский, жительствующий ■ собственном фольварке Ольпени, о нижеследующем*

*Фамилия наша Тюхаев-Липских, употребляя Герб Любичь, защищалась с давних ■ непомнящих времен дворянским достоинством, пользуясь всякими соответственными своему званию наградами бывших королей Польских, засчитанных в пользу Отечества. Хотя по разным переменам в свете, служащие к доказательству как преимуществ, так ■ получаемых награждений, бумаги остались затерянными, однако находящиеся в живых наследники, собрав некоторые документы, представили таковые ■ Минское дворянское депутатское собрание, которые еще в 1802 году Декабря 23 дня в полном дворянском достоинстве признаны и в родоводную книгу 6-ой части занесены. Поскольку согласно Высочайшему Повелению обязаны представить доказательства свои на утверждение Правительствующего Сената по Герольдии, ■ из числа признанных в дворянстве некоторые лица потеряли свои свидетельства, другие же прежде оных и после них родившиеся не получили доказательств и оставались невключенными в оное решение. Ходатайствуя за них, поясняю следующее...»*

Далей аўтар даводзіў вядомыя яму дакументы: прывілеі, купчыя, сведчанні «обывателей», метрыкі, запаветы, выпіскі земскіх судоў, спісы дваран з пэўных вёсак...

Сваё пісьмо Пётр Рыгораў закончыў просьбай:

*«Из явленных доказательств происхождения фамилии нашей Тюхаев-Липских Всеподданейше прошу дабы Высочайшим Вашего Императорского Величества Указом повелено было сие прошение удовлетворить и купно приписать нашу фамилию Тюхаев-Липских, находящихся ныне в живых, к Минскому дворянскому депутатскому Собранию...»*

І Пётр Рыгораў яшчэ раз перапісвае сорак шэсць Ліпскіх, за якіх ён хадайнічае. На пісьме стаіць дата: 28 жніўня 1835 года.

Падобна, што сваё пісьмо Пётр Рыгораў не пасылаў, а сам вазіў у сталіцу. Якраз жа на гэты час прыпадае хадайніцтва мазырскага павятовага прадвадзіцеля дваранства аб выдачы пашпарта дваранину 2-га разраду Пятру Рыгоравічу Ліпскаму на праезд да сталічнага горада Санкт-Пецярбурга.

Прадвадзіцель даводзіць у Мінск:

*«Имею честь просить Ваше Превосходительство уведомить Г. Начальника Губернии в благонадежном сего Липского поведении и образа мыслей».*

Праз пэўны час усе сорак шэсць Цюхаёў атрымалі пасведчанні, што яны дваране. Толькі ці лягчэй ім ад гэтага стала вырошчваць хлеб — араць, сеяць, касіць? Ці вальней і заможней зажылося?

Жыццё як на планеце, так і ў Ольпені прадаўжалася.

Жыццё для Пятра, сына Рыгора, унука Івана, праўнука Паўла, закончылася ў 1844 годзе. Ён захварэў і памёр у Мінскім гарадскім лазарэце.

А магутная Паўлава лінія «о непомнящих времен» квітнее на Століншчыне і па сённяшні дзень.

## САМАЗВАНЦЫ І ГАЛАДРАНЦЫ

Пра князёўну Тараканаву, якая выдавала сябе за пазашлюбную дачку імператрыцы Лізаветы, свет перапоўнены чуткамі, здагадкамі, прыдумкамі, байкамі і легендамі. Хто яна на самай справе, не ведае ніхто.

Мог бы пра яе расказаць пінскі «консилярий» Міхаіл Даманскі, але і ён даўно не жыве на свеце. А быў той адчайны пінчук кавалерам князёўны Тараканавай, ледзь не жаніўся на ёй.

Яна называлася пані Франк. Выдавала сябе за князёўну Валдамір з Каўказа, графіню Піняберг, сястру Пугачова, урэшце, называла сябе ўсерасійскай князёўнай, дачкой імператрыцы Лізаветы ад тайнага яе шлюбу з Аляксеем Разумоўскім.

Прыгажуня, магніт для мужчын, яна не ведала межаў свайго ўплыву. Валодала еўрапейскімі мовамі, мела характар італьянкі. Малочнага колеру твар, чорныя валасы, вялікія вочы рабілі яе абаяльнай.

Сам гетман Вялікага княства Літоўскага, таленавіты маэстра Міхаіл Агінскі сустракаўся з князёўнай Тараканавай, прынцэсай Азоўскай, у Парыжы, перадаваў ёй рамантычныя запіскі.

І вось на арбіту князёўны выходзіць віленскі ваявода Караль Радзівіл, Пане Каханку. Не прызнаўшы караля Станіслава Аўгуста, ён вырашыў часова эмігрыраваць, пабадзяцца па свеце. Свае патрыятычныя перакананні даводзіў так:

— Аддаю хвалу Богу! У д'ябла не веру. Прытрымліваюся справядлівасці. Не ведаю караля без дваранства. Мой голас гучыць вольна. Я — абаронца перадавога накірунку, не прашу нічога ў іншых, як робяць тыя, хто свой вольны голас прадае маскалям...

Жывучы з такім настроем у Італіі, Пане Каханку спаткаў прынцэсу Азоўскую, князёўну рускую.

А ў гэты час Расіяй правіла жорсткая Кацярына II. Палякі, дый беларусы, не маглі дараваць ёй падзелу Рэчы Паспалітай. Мо для патрыёта сваёй радзімы Караля Радзівіла самазванка Лізавета бліснула выратавальнай зоркай?

Праз свайго галоўнага памочніка ў палітычных справах пінскага кансілярыя Міхаіла Даманскага ён сустрэўся з «унучкай» Пятра I, апошняй прадстаўніцай дома Раманавых, князёўнай Лізаветай. Невядома, чым завяршыліся б тыя спатканні, але Радзівіл вымушаны быў спешна пакінуць замежжа. З радзімы даляцела звестка, што яго пасада віленскага ваяводы аб'яўлена вакантнай.

У пачатку лістапада 1774 года ён выехаў з родзічам, рэчыцкім старастам, дамоў.

З князёўнай застаўся малады і гарачы пінчук Міхаіл Даманскі. Ён адкінуў убок усе палітычныя інтрыгі, па вушы закахаўся ў прыгажуню-авантурыстку.

А «князёўне» спадабалася гуляць у «царыцу», і невядома якім чынам, але па свеце пачаў гуляць яе покліч:

*«Божией милостью, Мы, Елизавета II, княжна Всея России, объявляем всем верным нашим подданным, что они могут высказаться только за Нас или против Нас. Мы имеем больше прав, чем узурпаторы государства, и в скором времени объявим завещание умершей императрицы Елизаветы. Не желающие Нам принять присягу будут наказаны по освящённым, установленным самим народом, возобновлённым Петром I, повелителем Всея России, законам».*

Дайшла гэта лістоўка і да Кацярыны II. Яна загадала свайму фаварыту Арлову выслаць каго-небудзь за прэтэндэнткай на прастол, заманіць на борт рускага карабля і даставіць у сталіцу. Пачалося паляванне на «разбойніцу».

Раніцай 6 ліпеня 1775 года для «царыцы» і яе каханага пінскага кансілярыя Міхаіла Даманскага былі вызначаны асобныя «пакоі» ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Па даручэнні Кацярыны II дазнанне пачаў весці сам пецярбургскі генерал-губернатар, князь Аляксандр Міхайлавіч Галіцын.

У найбольш складанай сітуацыі аказаўся Даманскі. Трэба было выгарадзіць князёўну Тараканаву, выратаваць рэпутацыю Радзівіла і сябе не патапіць. Але што тычыцца інтымных пачуццяў, то Даманскі, да яго гонару, не ўтойваў іх. Галіцын вымушаны быў аб гэтым рапартаваць Кацярыне II 13 ліпеня 1775 года. Яго, следчага, здзівіла, што сярод сцен жывой дамавіны пінскі чыноўнік у парыве маладога энтузіязму заявіў: «Калі б вы аддалі мне яе ў жонкі, я ўзяў бы яе нават у адной кашулі».

Кацярына II вырашыла гэта прызнанне выкарыстаць для следства. Яна даручыла Галіцыну прапанаваць Даманскаму наступнае: калі ён скажа, адкуль князёўна Тараканава родам і хто яна на самай справе, то атрымае яе ў жонкі і вясельны падарунак — волю для абаіх.

Каханыя захавалі тайну. Выбралі адзінае на крутым вітку жыцця — смерць.

Загадкавая князёўна аддала Богу душу ў сем гадзін вечара 15 снежня 1775 года. Яе сэрца вытрымала толькі 162 дні няволі ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Яе там жа і пахавалі, у Аляксандраўскім равеліне.

А што з пінскім «консилярием» Міхаілам Даманскім? Для Кацярыны II, Галіцына, дый для даследуючых гісторыкаў, ён памёр, сканаў разам з канчынай авантурысткі.

Для нас жа ён цікавая, загадкавая постаць з беларускага Палесся. Відаць, ён быў неардынарнай асобай, што служыў самому Радзівілу, Пане Каханку.

Пад яго чыноўніцкім вокам жылі, множыліся і паміралі Цюхаі-Ліпскія. Іх сем'і, як тысячы іншых у Пінскім павеце, потам выраблялі і выплачвалі падаткі, за якія «консилярий» раскатваў па замежжы, утрымліваў каханку, аплачваў яе даўгі.

Зусім іншы «рай» панаваў на абшарах Піншчыны.

Непадалёк ад Ольпені, у сонечны дзень нават дахі і дрэвы бачныя, здаўна стаіць вёска Вялемічы. Мне пашчасціла адшукаць некалькі старых дакументаў пра жыхароў гэтай вёскі. У іх не прыгадваюцца Ліпскія. Але яны жылі побач, у Ольпені, маглі быць сведкамі тых падзей. Дый тое, пра што згадваецца, магло быць і з імі, вернымі служкамі палеткаў, балотаў, лесу.

Просьба да чытачоў: калі будзеце чытаць пісьмо вялеміцкіх мужыкоў, то прыкіньце, ці не такія абяцалы і валакітчыкі сучасныя начальнікі, ці не менш жабрачае жыццё ў сённяшніх земляробаў?

*«Его Превосходительству Господину Минскому Губернатору Генерал-Майору Шелгунову*

*3-го Мирового участка, Хорской волости,*
*села Велемичи нижеподписавшиеся крестьяне.*

*Покорнейшее прошение*

*В бытность Вашего Превосходительства в волости Лядецкой, что ныне Хорская, ■ 1865 году в месяце Августе изволили Вы, Милостивый наш защитник, мило объявить в числе прочих крестьян и нам, что, если кто из нас будет кем-либо и в чем-либо объвиняем, имеет право жаловаться Вашему Превосходительству. Обнадеенные таким начальничьим словом, осмеливаемся заявить настоящее прошение в следующем:*

*1. Нам положено платить оброка за землю, озеро и болото по 5 рублей 50 копеек в год, что мы безостановочно и безпрекословно исполняем. Но ■ настоящем году по распоряжению Г. нашего Мирового Посредника 3-го участка Мясоедова и волостного Хорского Правления нам приказано платить оброка по 22 рубля, что очень превышает стоимость ■ ценность малоплодной нашей земли, частью песчаной и частью низменной, заливающейся водой.*

*2. Мы издавна беспрепятственно и без всякой дани занимались пчеловодством в лесах и борах Велемичской, а ныне Давыд-Городоцкой Администрации Князя Радзивилла. Теперь нам и это воспрещено под условием платежа по 50 коп. за каждые пчёлы или сдачи половины мёда и воска.*

*3. Ловля рыбы и вьюнов, единственное поддержание нашего состояния, до сего времени не воспрещаемая нам, ныне не только запрещена, но даже лесные стражники наши коши рубят, жаки ■ сети забирают, а этим причиняют нам большую обиду.*

*4. Топливо для нас до сих пор было беспрепятственно, ныне позволено под условием платежа даже на отведенном нам участке.*

*5. Земля в урочище Здынком, присужденная нам, но находившаяся во владении Экономии Князя Радзивилла, через 3 года хотя и возвращена нам, но за трехлетнее владение мы не получили удовлетворения по 15 рублей на каждого хозяина дома. А это было объявлено нам бывшим Г. Посредником Крапиковским.*

*6. В прошлом, 1866 году по распоряжению бывшего Велемичского сельского старосты Емельяна Никанчука нами свалены на магазейн 9 пар сос-*

*новых кроквов. За что мы после оштрафованы на 82 рубля 26 копеек, а нам же было приказано свалить сосны.*

*Все выше прописанные наши кривды представляя на благоуважение Вашего Превосходительства, всепокорнейше просим разобраться. Наше прошение имеет целью нахождение справедливости...»*

Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай нашу Беларусь падмяла Расія. Усюды правілі расійскія чыноўнікі. Самазванцы ў законе. Губернатар Шалгуноў — перад ім здымалі шапку вялеміцкія мужыкі і ольпенская шляхта. Міравы пасрэднік Мясаедаў вырашыў драць з гаспадароў зямлі не па 5 рублёў 50 капеек, а па 22 рублі. Разгараўся апетыт у самазванцаў, а беларусы ўсё ніжэй і ніжэй гнулі спіны ў пакорнасці. Ім нават скаргу трэба пісаць на мове самазванцаў, а не на пінчуковай, паляшуцкай, якой яны дыхаюць і жывуць.

Як жа дапамог губернатар вялеміцкім сялянам знайсці справядлівасць? Ён, як быў у іх, «мило» аб'явіў ім, што калі хто будзе пакрыўджаны кім-небудзь, то хай скардзяцца прама яму, генералу губерні Шалгунову. Паверылі, даверлівыя, напісалі ліст з шасці пунктаў.

І вырашылі вялеміцкія праўдашукальнікі, што пісьмо нельга пасылаць поштай. Ці мала хто перахопіць, а мо згубіцца. Выбралі трох баявейшых мужыкоў, сабралі для іх харчоў на восем сутак і адправілі ў Мінск. Знайшлі яны логава губернатара, прабіліся на нейкі калідор. Хацелі самога галаву спаткаць, з рук у рукі перадаць скаргу ды славесна растлумачыць мужыцкія крыўды, але губернатар, сказалі, «пребывают в Санкт-Петербурге».

Уручылі хадакі сваё пасланне нібыта сакратару Шалгунова. Прачытаў ён пры іх пісьмо, сказаў, каб спакойна ехалі дамоў, рашэнне атрымаюць праз павятовае праўленне.

Тры доўгія месяцы чакалі вялеміцкія сяляне рашэння свайго абаронцы. І дачакаліся. Іх скаргу разгледзела Мінскае губернскае па сялянскіх справах прысутствіе 23 сакавіка 1868 года. Пастанавілі: «Объявить просителям через волостное правление, что жалоба их, как необоснованная, покинута без последствия».

Крумкач крумкачу вочы не выдзеўбе. Хіба могуць самазванцы крыўдзіць адзін аднаго? Зладзеі адной зграі ведалі, як прыгожа схлусіць людзям. Але ж і пінчукі ўпартыя. Надумалі яны пісаць новую скаргу губернатару. А ў ёй — пра свежыя «притеснения».

Пайшлі да міравога пасрэдніка, каб выдаў davеранымі асобам пашпарты ў г. Пінск для падачы на пошту прашэння губернатару, а мясцовы самазванец адмовіў. «Изволил» напісаць наступную рэзалюцыю: «Не выдавать дотеле паспортов, пока не заплатят недоимку за землю по 15 рублей».

А дзе ж селяніну ўзяць такія грошы? Вось і паляцелі ў Вялемічы крумкачы: старшына, павятовы пісар, пан станавы прыстаў Мухля. Пачалі апісваць рухомую і нерухомую маёмасць сялян «на предмет уплаты недоимки». Прымушалі адкрываць бодні — так у Вялемічах называюць куфры, дзе хаваюць грошы, адзенне, палатно.

«Повинуясь этому, — пісалі вялеміцкія змагары за праўду, — двое из наших крестьян с прискорбием ■ сердце отозвались: «Ах! Боже наш! Ужели Закон велит, чтобы и наши бодни были отпираемы?..» Из-за этого те крестьяне были посажены Г. Посредником ■ м. Туров на целую неделю в холодную, на хлеб и воду, признав их ослушниками власти. Да сохранит нас Господь от сего. Извольте видеть, Ваше Превосходительство, как крестьянская беззащитная правда страждет!..»

У тыя пагромныя дні ў некаторых вялеміцкіх гаспадароў забралі кароў, цялушак, коней. Грабілі нават беднякоў, якіх «посетил падеж скота». І рабілі гэта без паліцыі, пры адной давыд-гарадоцкай адміністрацыі.

*«Стесненные и крайне обиженные самовольным забором и продажею нашего скота, не получив и доселе никакой помощи от Вашего Превосходительства на прошение об обидах и притеснениях, причиненных нам Давыд-городоцкой Администрацией ■ ее местной стражей, а также и насчет платежа оброка за землю и прочее, вторично почтительнейше просим Ваше Превосходительство:*

*а) вникните, Милостивейший наш Отец, в настоящее наше прошение и положите конец нашим обидам и притеснениям;*

*б) объявите нам посредством Волостного Правления, какой оброк за землю мы должны платить: по инвентарю или по поверочной комиссии. Если по инвентарю, да будет обращено на это внимание Вашего Превосходительства, что земля наша то низменная, то песчаная, не стоит инвентарной ценности, а только оценки поверочной комиссии, добросовестно оценившей ее;*

*в) Старшину, писаря и сельского Велемичского Старосту, как вредных нашему обществу, штрафующих нас и строго телесно наказывающих без разбирательства дела, без закона и совести, удалите от должностей и впредь избрание их представьте обществу на мирской сходке, т. к. они получают от нас жалование, а писарь, кроме возвышенного жалования в количестве 250 рублей, получает ■ ссыпку озимого и ярового хлеба до 25 бочек;*

*г) недоимку, причитающуюся нам по 15 руб. на каждого хозяина дома, сделайте распоряжение об отдаче нам;*

*д) лесных стражников, противных нам, без согласия нашего Велемичского общества не допускать ■ служению по двору Помещика;*

*е) настоящее наше прошение благоразсудите разобрать на месте и нам резолюцию объявить...»*

Пад пісьмом, якое «сочинено» 11 сакавіка 1868 года, стаяць прозвішчы сялян вёскі Вялемічы, суседняй з ваколіцай Ольпень. Запомнім гэтых смелых змагароў за праўду. Хай іх унукі і праўнукі ўпішуць слаўныя імёны продкаў у свой радавод:

*Сяргей Рыгораў Нікончук,*
*Павел Паўлаў Мамойка,*
*Іанікій Мацвееў Мароз,*
*Гаўрыла Кірылаў Гушча,*
*Харытон Іванаў Кананчук,*
*Іван Іванаў Аблавушка,*
*Іван Маісееў Давідчук,*
*Пракоп Міхайлаў Слуцкі,*
*Цімафей Іванаў Рэкеш,*
*Ахрэм Іванаў Крупец,*
*Фёдар Яфрэмаў Пенчук,*
*Пётр Харытонаў Кузміч,*
*Раман Іванаў Шмат,*
*Майсей Паўлаў Пішчык,*

*Фёдар Цімафееў Шабунька,*
*Ерафей Савін Жлоба,*
*Пракоп Мікалаеў Шчэпка,*
*Нічыпар Сямёнаў Кругліч,*
*Іосіф Мішын Раўкач,*
*Павел Пятроў Горбач...*

За ўсіх неадукаваных сялян, па іх асабістай просьбе, распісаўся, гэта прашэнне з іх слоў склаў і перапісаў вялеміцкі дзяк Максім Струкоўскі. Разам з усімі падпісаў пісьмо намеснік сельскага старасты Лявон Харытонаў Кананчук. Спачуваў сялянам і маліўся за іх святар мясцовай царквы Каржанеўскі.

Што ж «приказал» на гэты раз «Милостивейший Отец»? На скаргах сялян пастаўлена рэзалюцыя віцэ-губернатара: «Мозырскому уездному суду представить материал о подстрекательстве крестьян Велемичского общества и по неплатежу оброка. Произвести следствие и делу дать законный ход, а переписку по Правлению зачислить оконченной».

Самазванцы загналі галадранцаў у кут і рабілі з імі што хацелі. Дзесяць чалавек у хуткім часе былі аштрафаваны як бы за самавольную парубку лесу. Лявон Кананчук заплаціў за тры вазы дроў не па 25 капеек, колькі яны каштавалі, а ў тры разы болей — 2 рублі 25 капеек. Уласу Нікачнуку адзін воз дроў каштаваў 75 капеек. Ды яшчэ атрымаў штрафу тры рублі за няяўку да міравога пасрэдніка, а тры рублі — за супраціўленне лясной стражы.

Найбольш перапала двум Фёдарам — Шабуньку і Пенчуку, якія падпісвалі скаргу губернатару. Апроч грашовага штрафу ім укапнулі яшчэ па дваццаць бізуноў прама ў лесе. «Маё рашэнне канчатковае,— аб'явіў міравы пасрэднік,— і абвярганню не падлягае».

Пра гэты выпадак, ■ таксама пра супраціўленне сялян і шляхты вёскі Рубель каморніку маёнтка князя Льва Людвігава Радзівіла было данесена мінскаму губернатару і праведзена «объяснительная» работа сярод жыхароў вёсак Харомск, Гарадзец, Вялемічы, Рубель, ваколіцы Ольпень...

На пачатку дваццатага стагоддзя вядомы беларускі патрыёт А. Цвікевіч напісаў у выгнанні палітычны нарыс «Беларусь». У ім ён выказаў, здаецца, прарочую думку:

«Нацыянальная рыса беларусаў — нецярпенне гвалту, у чым бы ён ні праяўляўся. Можна прызнаць, што гэта слабасць беларускага народа ў цяперашнім, але сіла і гордасць яго ў будучым».

У канцы дваццатага стагоддзя Беларусь атрымала незалежнасць і суверэнітэт. Хай жа спраўдзіцца мудры запавет яе слаўнага сына!

## СУСТРЭЧЫ КАЛЯ ЦАРКВЫ

У Ольпені я пабываў у 7502 годзе ад утварэння свету. У 1993 годзе — ад нараджэння Хрыстова. І на 514 годзе ад першага ўспамінку шляхецкай ваколіцы ў архіўных паперах.

Але калі ўлічыць, што вакол Давыд-Гарадка, а Ольпень у пяці кіламетрах ад яго, знойдзены старажытныя курганы, то можна ўявіць, з якой даўніны тут селяцца людзі.



Ална з сямей Цюхаёў-Ліпскіх каля Ольпенскай царквы

Курганы тыя па-мясцоваму называюць «капцы», «татарскія могілкі», «татарскія горкі». Мо і звязаны яны з колішнімі ваяўнічымі ордамі?

Вядома з летапісаў і тое, што тут атабарвалася некалі славянскае племя драўлян, якое «сідзяша ■ лесах».

Хто сёння жыве тут? Якія людзі? Ці помняць мінуўшчыну? Як бачыцца ім заўтрашні дзень?

Каля ракі Гарынь мы павярнулі направа. Машыну затрэсла па разбітай дарозе. Ехалі ўздоўж канавы, у якой мужчыны і хлопцы лавілі рыбу, уюноў. Цяпер не трэба пытацца дазволу ў пана, але іншая бяда — рыбы няма. Вынішчылі яе нядбайныя гаспадары, травячы ваду згубнымі нечыстотамі. Вытравілі рыбу і нашы ратавальнікі — меліяратары, якія выпрамілі рэкі, асушылі балоты, прапісалі пясчаныя пустыні на Палессі.

І вось — паселішча Ольпень!

Божа! Колькі гадоў і месяцаў рыхтаваўся, каб убачыць «пупавіну» Цюхаёў.

Вёска як вёска. Драўляныя дамы. Агароды. Стаяць хаты пустыя, ніхто ў іх не жыве, не абагравае. Хіба толькі бацяны ладзяць на




Цяперашні пашпарт
былой дваранкі



Дваранка з Ольпені
Любоў Лявонаўна
Цюхай-Ліпская

іх свае кватэры, ніяк не верацъ, што гаспадары са сваёй вечнасці сюды ніколі не вернуцца.

Вёска адметная хіба тым, што ў ёй — ажно пятнаццаць вуліц і завулкаў. Яны так пераплецены, што амаль усе сядзібы маюць індывідуальную, незалежную забудову. У Ольпені кожны ўладар «маёнтка» імкнецца нечым адметным вылучыцца ад свайго суседа. Адсюль — непаўторнасць.

А вось назвы вуліц да крыўднага стандартныя, на ўзроўні мыслення сучаснага Кручкова, суддзі з п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта». У старажытным паселішчы Ольпень ёсць вуліца Парыжскай Камуны, хаця вёска пастаўляла сваіх вояў на Давыд-Гарадоцкае паўстанне 1648 года. Ёсць вуліца Гагарына, а ваколіцу вывеў на арбіту гісторыі Дунін-Марцінкевіч. Ёсць, а як жа без іх (!), — Савецкая, Кастрычніцкая, Піянерская. А далей і зусім безгустоўшчына — Ціхая, Паўднёвая, Новая...



Станіслаў Ліпскі
з Ольпені

Мы прыехалі ў Ольпень у жніўні. Стаяў сонечны, лагодны, Божы дзянёк. І быў святок — Успенне. Тут кажуць: «Надышло Успенне — цягні бульбу за карэнне». Але ў гэты дзень ольпенцы кінуліся не на палеткі, а з усіх вуліц і завулкаў, як з рэк і ручаёчкаў, сцякліся да царквы. Здаецца, сюды завіталі ўсе 780 чалавек з 370 хат. Дарэчы, у 1909 годзе тут было 1145 жыхароў, а двароў — 175.

Варта сказаць колькі слоў і пра саму царкву. З засяленнем ваколіцы Ольпень востра паўстала патрэба ў будаўніцтве свайго Хрыстова дома. Хіба справядліва, што заняты зямянін павінен думаць, дзе перахрысціцца, замаліць грахі, папрасіць у Бога прабачэння і падмогі?

Кажуць, у Ольпені некалькі разоў будавалася царква. І па розных прычынах знікала. У 1784 годзе, напрыклад, прададзена ў Белавушу.

Змайстравана і адштукавана нанава Ольпенская царква ў 1888 годзе. Яе склалі мясцовыя ўмельцы з дрэва трохзрубным храмам. На трохгаловым завяршэнні засвяціліся на ўсё наваколле пазалочаныя крыжы.



Васіль Ліпскі з Ольпені задаволены: ёсць хлеб — будуць песні

З таго часу царква і гарэла, і разбуралася бурай, і закрывалася бязбожнікамі. Але выжыла, выстаяла перад усімі нягодамі, як і самі ольпенцы.

Апошні раз паўстала царква ва ўсім сваім харастве 22 жніўня 1989 года. Ажыла на ахвяраванні вернікаў і з падмогай мясцовага калгаса «За Радзіму». Перад гэтым 26 гадоў не працавала.

У той дзень, калі мы прыехалі, ольпенцы памаліліся, паставілі свечкі, паслухалі пропаведзь святара. А тады выйшлі ўсе на свежае паветра. Зацвіў людскі кветнік вакол драўлянай Успенскай царквы.

Вяскоўцы разбіліся на купкі па інтарэсах, вялі няспешную гамонку. Здавалася, гаварылі абы пра што, а мне хацелася ўсё пачуць і запомніць, бо то баялі нашчадкі пінскай шляхты. Сярод іх адшукаў дзевятнаццаць Цюхаёў-Ліпскіх. Кожны, не будзем удакладняць хто, сказаў нешта сваё, атрымалася калектыўная споведзь:

— Ольпень, сынок, то ест друга Варшава!

— Цяперачка тут мала Ліпскіх. Старынныя толькі засталіся. Маладыя паўязжалі...

— Нашы ольпенцы ёсцека ўсюды: у Польшчы, Амерыцы, Канадзе, Аўстраліі...



Адна з Ліпскіх
з вёскі Ольпень.
Жыццё чалавека
і дрэва — агульны лёс

— Даўней у Пінск пешака хадзілі — сто кіламетраў. Быў адзін дзед: занясе ў Пінск скаргу, дай вечарам дамоў...

— Говорылі, шо Ліпскія, етыя Цюхаі, ці не дворане былі, о! Нейкі князь даў ім зямлю. Заслужаныя людзі!..

— У Ольпені раней культура была, а цяпера — цяп-ляп. Зараз і мужыкі тут насяліліся. А раней шляхта была такая: «Проша не дотыкаць пальцам!..»

— Шляхта ніколі не танцавала мужыцкіх танцаў. У нас свае — полечка, танго, падыспан. Хлопец у канцы танца пераверне, у ручку чмокне, правядзе на месца. О!..

— Воспітанне пошло другое. Даўней нельга дзяўчыне одной ісці на танцы. Сорам! Карова раз затрымалася ў полі, пакуль загнала яе ў хлеў — танцы пачаліся. О, ё-ёй, як зойці одной — позор! Брата ўпрасіла, завёў...

— Бабка мая була така пявуння, што ад баршчыны вызвалялі...

— А мой дзед як заспявае, дак лямпа тухла.

— Тады так не ўпіваліся, як цяпер. Румочку пацэлуе, паставіць.



Ліпскія
Анатолій Васільевіч і
Яўгенія Канстанцінаўна
з вёскі Ольпень

Адной пляшкай можна госці справіць. Цяпер не наносішся на стол...

— Няхай цар прыедзе, я прыму яго, бо ведаю, дзе відэлец пакласці, дзе нож. У нас кніжкі былі па культуры. Калі не так робіш — білі па руках, губах. Нельга!

— Дзе ты ўзяла мужыцкае слова «нельга»? Трэба казаць «нельзя»...

— Паноў у нас не было — адна шляхта. Перад настаўнікам на калені падалі. Цяпер — фшыстка една...

— Мой бацька браў Зімні палац, і як вярнуўся дамоў, дак яго сталі браць, бо багач — дванаццаць кароў. Так бы і «сасваталі» на Салаўкі, каб не вайна. Бацькаву песню помню:

Закіпела ў моры пена —
Будзе перамена!
Братцы, перамена!..

Гэта сказаў Анатоль Васільевіч Цюхай-Ліпскі. Па клічцы — Херык. Сярэдняга росту, каранасты, бялявы, з агністай рыжынкай.



Нашчадкі роду Цюхаёў-Ліпскіх у Вялемічах — Уладзімір Міхайлавіч і Вольга Лукінічна

Добры з вачэй. Да бляску паголены. Акуратна, у чыстае апрануты. Шляхцюк!

— Паскольку знаю, бацька служыў на флоце дзевяць гадоў. Дайжа расказваў: толькі ісці дамоў, а тут вайна з немцам. А тады — рэвалюцыя... От ён і спяваў нам дома:

Мачты в'юцца,
А ў матросаў слёзы л'юцца,
Братцы, перамена!..

Расказвае Херык ды час ад часу голас сцішвае:

— Жылі мы на дзедавым хутары. А ў яго было некалі сто пяцьдзесят гектараў зямлі, два надзелы лесу. Багач! А мы ўжо пакаціліся ўніз. У калгас усё абагулілі: зямлю, коней, плуг, лапату, курэй... Дак цяпер ні ў калгасе, ні ў людзей. Пуста і гола, о як выйшла... У нас усё сваё было: мэбля, інструменты, шытво, яда. Казалі: «Пойдзеш да шляхты, там хоць наясіся ды розуму набярэшся».

— А ў мужыкоў чаму можна было навучыцца?

— Калі бязбожны, то мужык. У іх мова свая, з мацюкамі. П'юць без меры. У двары і ў хаце — брудна. Гультаяватыя яны. Жаніцца з імі — пазор...

— Чаму ў вас цяпер не двайное прозвішча?

— Хэ, па пашпарту я — Цюхай-Ліпскі. А прыстаўку ў арміі згубіў. Не запісаўся Цюхаём, бо вельма ж насміхаліся. І ў калгасных дакументах — Ліпскі. Дак як ішоў на пенсію, у сабесе не хацелі афармляць. Ты, кажуць, Цюхай, а грошы хочаш атрымліваць як Ліпскі. Во як было...

Анатоль Васільевіч з лініі Аляксандра. Ён — з дзевятага калена.



Сцёпка Ліпскі, распытай бабулю Ганну пра ольпенскіх Цюхаёў

Пра бацьку Васіля ведае. Жыў з ім, пахаваў на Ольпенскіх могілках. Назваў дзеда Ілью. Вось усё яго пазнанне пра род.

— А чаму на надмагільнай пліце па бацьку высечана, што ён нарадзіўся ў 1884 годзе, няма даты?

— Я ж, мамачка, ня помню, а бацька перад смерцю сам забыўся, калі нарадзіўся. Яму ішоў ужо дзевяты дзесятак. Галава схапіла. Ён і памёр...

Адшукаў у сваіх архіўных звестках, што Херыкаў бацька Васіль нарадзіўся 13 красавіка 1887 года ў Ольпені. Дзед яго Ілья нарадзіўся 20 ліпеня 1848 года. У яго была жонка Марыя Вікенцьева. Дамогся сабе дваранскага звання ў дваццаць шэсць гадоў. Пісаў пісьмо цару, каб далучыць да гэтага звання сваіх сыноў — Васіля і Адама, Херыкавага бацьку і дзядзьку.

Калі я сказаў Анатолю Васільевічу, што яго прадзед Іван нарадзіўся 10 верасня 1826 года, хрышчоны ў Ольпенскай царкве пад № 12, а хрысціў яго Стэфан Данькевіч, ён ад узрушанасці аж падскочыў:

— Розныя дзівы, мамачка, сустракаў, а такога яшчэ не даводзілася. Пайшлі ў мой маёнтак, жонцы раскажаш, а то не паверыць...

Вось тут і адчуў, што не дарэмна глытаў архіўны пыл. Ён прыносіць асалоду нашым бязродным сучаснікам.

За святочным сталом, разам з тостамі і песнямі, удакладнілі, што ў Херыкавым калене жывуць яго два браты. Сяргей з жонкай Сцепанідай у Ольпені, а старэйшы Васіль — у Аўстраліі.

— Ва врэмя вайны, — растлумачыў Анатоль Васільевіч, — наш Васіль служыў у польскай арміі капралам. У плен да немцаў тра-



Надзея Цюхай-Ліпская з Ольпені

піў. Адтуль не вярнуўся дамоў, пабаяўся, што сашлюць далёка. Сам з'ехаў у Аўстралію...

Удакладнілі дзесятае калена Цюхаёў па лініі Аляксандра. У Васіля, які жыве ў аўстралійскім горадзе Адэлаіда, дзяцей няма, хаця тры разы жаніўся. У Херыка — сын Коля, дачка Марына, а ў іх дочкі — Ірына і Сашка. У малодшага з братоў, Сяргея, — сыны Коля, Васіль, дачка Люба. Аказалася, што толькі Сяргей з сынамі можа вывесці род на наступнае калена.

Анатоль Васільевіч задумаўся, хмурынка прабегла па твары, ён кіўнуў у бок сваіх дзяцей Колі і Марыны:

— Няўломкі яшчэ. Старайцеся, каб сыноў займець!..

За гэта і паднялі святочны тост.

Не магу забыць Любоў Лявонаўну Цюхай-Ліпскую. Ёй 82 гады, а вочы зіхацяць, сэрца — у маладым запале. Калі гаворыць, шчочкі пунсавеюць, умее сабраць губкі ў сарамлівы банцік. Пазней пачуў, як яна спявала, і паверыў: баба Люба — вясновая душа! Пра свой род сказала:

— Фаміліянка я Ліпская і па бацьку, і па мужу. Колісь спявалі: «Пусці мяне, маці, па воду да броду...» Так во кожны свайго броду й шукае.

Удакладнілі: Любоў Лявонаўна з лініі Аляксандра, як і Херык. Яна з Анатолем Васільевічам у дзявятым калене. У іх адзін прапрародзіч у чацвёртым калене — Андрэй Антонаў, шляхціц ваколіцы Ольпень, жыў у сярэдзіне васемнаццатага стагоддзя. Купляў



Герасім Лук'янавіч і Вольга Іванаўна Ліпскія з Ольпені

зямлю ў Івана Жэлігоўскага. З жонкай Юстынай заклалі падмурак роду Цюхаёў, якіх я і сустрэў на святце Успення ў Ольпені.

А Любін бацька Лявон Міхайлаў, дачка не ведала пра гэта, далучаны да дваранскага роду указам № 1806 па дэпартаменце геральдыі ад 30 красавіка 1897 года. Жыў на сваёй зямлі ў Ольпені. У 1909—1910 гадах выбіраўся земскім гласным па Мазырскім павеце.

У той зорны для земскага гласнага з Ольпені Лявона Ліпскага час і нарадзілася ў яго сям'і дачка Люба.

Люба, Лявонава дачка з лініі Аляксандра, выйшла замуж за Фаму з лініі Паўла. Так у дзевятым калене нанава парадніліся Цюхаі. Яна прыйшла з сям'і, у якой былі дзеці Іван, Віктар, Уладзімір, Мікалай, Вера, Надзежда. Трапіла зноў у шматдзетны гурт: Сцяпан, Пётр, Фёдар, Уладзімір, Марыя, Паўліна і яе Фама. Нажылі з мужам дваіх дзяцей — Зыгмунда і Дануту. Ды на сорак пятым годзе яе Фама памёр. А Любоў Лявонаўна ўдавой дажывае свой век. Па святах песні любіць співаць. І нам падарыла сваю любімую:

Вой, не ідзе мой мілы ка мне,
Пайду я да яго сама...
Без любві я таю, як канфета,
А без яго я вяну, як трава...

Па лініі Паўла сустрэлі Веру Ліпскую, жонку Хведара Францава, ад якіх прадаўжае род іх сын Франц, 1952 года нараджэння.

Працуе брыгадзірам на Брэстчыне. А дачка Вольга ўжо «прышчэплена» на іншае дрэва.

Жывая і жонка Іллі — Вера. А Ілья — сын Адама, пляменнік дзядзькі Васіля, бацькі Анатоля-Херыка. Вера таксама тое-сёе ведала пра род Цюхаёў. З цікавасцю разглядвала схему свайго радаводу, і здзіўленню яе не было мяжы.

Як да прадказальніка Глобы, падыходзілі да мяне ўсё новыя Цюхаі.

— Браток, а мае хто продкі? — пацікавіўся Васіль Іванаў Цюхай-Ліпскі.

Ён ведаў толькі сваіх братоў, сясцёр і бацькоў. А ў той дзень пабагацеў на дзядзькоў Юльяна, Міхаіла, Васіля, цётак Пелагею і Марыю. Даведаўся, што яго дзед Віктар нарадзіўся 15 ліпеня 1850 года ў 12 гадзін дня, хрышчоны 18 ліпеня ў Давыд-Гарадоцкім касцёле святаром Якавам Гарбацэвічам. Хрысцілі дзеда Канстанцін і Фаўстына Гарбацэвічы, у прысутнасці Івана Лашкевіча і Кацярыны Ліпскай. А жонка яго Аляксандра Іванава была праваслаўная. Прадзед у Васіля — Фама (Тамаш), нарадзіўся ў 1816 годзе, 9 верасня, першы раз жанаты на дваранцы Ганне Рынчынскай, другі — на Міхаліне Васільевай. Хадайнічаў аб дваранскім званні для сваіх сыноў Івана, Фёдара і Віктара праз губернскага сакратара Канапліцкага, які жыў у Мінску, у доме графа Чапскага. Прапрадзед Васілёў Іван нарадзіўся зімою, 12 лютага 1798 года. Меў землі ў Ольпені і Рублі. Прапрадзеда Івана нарадзілі Рыгор і Хвея, ад якіх і загарэлася нашумеўшая справа аб пераводзе Цюхаёў-Ліпскіх з каталікаў у праваслаўныя, якія натхнілі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча напісаць «Пінскую шляхту».

Ад такой інфармацыі Васіль Іванавіч быў прыемна ашаломлены:

— Няўжо?! Адкуль такія звесткі?! За іх можна карову прапіць...

Па абедзе людзі пачалі разыходзіцца з царквы. Пачаўся святок у кожнай ольпенскай хаце. Весела прыгадвалі мінулае, ахвотна спявалі даўнейшыя песні. Сталы ўгіналіся ад сушанай і заліўной рыбы, сыроў і вяндліны, яблыкаў і мёду. Як кажуць, і я там быў, мёд, віно піў, па барадзе цякло і ў рот перапала. А найбольш — у блакнот. Папоўнілася мая энцыклапедыя пра цюхаёўскіх нашчадкаў.

# СПОВЕДЗЬ

*Гаворкай мяккаю адметны*
*Далёкі Столін-чарадзей.*
*Ён круглы год, нібыта кветнік,*
*Усмешкай цёплаю прыветны,*
*Як добры дзядзька-хлебасей.*

Уладзімір Паўлаў. «Столін»

Я — Васіль Сцяпанавіч Ліпскі. Убачыў свет 25 кастрычніка 1939 года. Жыву ў Століне, на Брэстчыне. Што ведаю пра свой род?

Па ўспамінах нябожчыка дзядзькі Пятра, род наш пачаўся ў вёсцы Ольпень. Нібыта нашы прашчуры паходзілі з дваран ці шляхты, мелі герб «Любіч». Які той герб, дзядзька і сам ніколі не бачыў. Казаў, як ён малы быў, то бачыў на гарышчы хаты валялася нейкая тоўстая папка, у якой пісалася, што Ліпскія належаць да шляхецкага роду.

Ад каго пачаўся наш род — ніхто не ведае. Кажуць, ад прадзеда Амбросія. Ён нарадзіўся ў шматдзетнай заможнай сям'і. На выхаванне яго ўзяла бяздзетная цётка Юстына. Таму ўсіх маіх продкаў па-вулічнаму клікалі Юстынковымі.

Дзеда звалі Юльян. Жыў ён у Ольпені. Яго крышачку помню, як у сне. З белай вялікай барадой. Лысы. Твар шырокі, вочы добрыя. Урэзаўся ў памяць адзін эпізод. Аднойчы я вымазаўся ў гразь. Кажу дзеду: «Я — негр». Ён сядзеў на прызбе. Падняўся. Ухапіў дубчык: «Васька, ідзі-тка сюды!» Я спалохаўся, што паб'е, пабег мыцца.

Помню яшчэ, як у вайну дзед прынёс нам мяшок бульбы. Апрануты ён быў у брудна-карычневы кажух.

А як немцы адступалі, дзеда завезлі на могілкі. Ляжаў ён на падводзе, а сківіцы былі падвязаны хустачкай.

Пахаваны дзед Юльян на могілках у Давыд-Гарадку.

У мяне было чатыры дзядзькі. Ды ўсе ўжо паўміралі. Рана памёр дзядзька Уладзімір. Быў інжынерам-землеўпарадчыкам. Наступіў на цвік, прабіў нагу. Ад заражэння крыві памёр. У яго было тры дачкі.

Дзядзька Пётр жанаты з Паўлінай. Да 1939 года быў афіцэрам. Дык яго за гэта празвалі «прапаршчык». Жыў багата. Халасцяком ездзіў на заробкі з братам Фамой у Канаду. Калі ў Ольпень прыйшла савецкая ўлада, дзядзьку Пятру прапаноўвалі ўступіць у Чырвоную Армію. А ён не хацеў, хаваўся. Яго ўсё-ткі падлавілі, арыштавалі і саслалі ў Сярэднюю Азію. Адтуль ён некалькі разоў уцякаў. Яго лавілі, вярталі ў лагер. Апошні раз ён уцёк назаўжды. Быў у Палесціне, Англіі, жыў у Канадзе, працаваў садоўнікам. Там і памёр.

Дзядзька Фама жыў у нашай сям'і. Пры Польшчы настаўнічаў. За што і загрымеў ў 1940 годзе ў Сібір. У камеры — па плечы



Столінскі
Васіль Сцяпанавіч Ліпскі,
які напісаў «Споведзь»

вада стаяла. Такое пакаранне за тое, што вучыў дзяцей грамаце. А ў вайну кінулі яго ў штрафны батальён. Вярнуўся паранены ды хутка і памёр. Быў дзядзька Фама высокі, плячысты і прыгожы.

Дзядзьку Фёдара па-вулічнаму звалі «Сода». Відаць, мучыла пякота, і ён піў соду. Ён не жаніўся, але меў сына ад Тэклі. Завуць яго Іванам, а пішацца пад прозвішчам Бруцкі. Пасля вайны з немцам Фёдар жыў у Польшчы. Пазней брат яго Пятро выклікаў у Канаду. Там ён захварэў і памёр ад рака страўніка. Пахаваны ў Манрэалі.

Цётку Марыю, бацькаву сястру, звалі Казачыха. Замужам была за казаком. Ад яго нарадзіла дзве дачкі — Ганну і Вольгу. Жылі багата і весела. Людзі ахвотна хадзілі ў іх хату. А казак любіў жарты. Падвяжа да доўгай ніткі піражок — надкусі! Укіне ў цэбар з вадой срэбраную манету — дастань без рук!

Жылі яны на хутары. Мелі багата зямлі, сенакосу, худобы. Былі шчодрымі багацеямі і працавітымі сялянамі.

Бацька мой Сцяпан у сям'і самы малодшы. Рана асірацеў. Маці памерла. Таму рана жаніўся, у 18 гадоў, і аддзяліўся ад усіх.

Закончыў шэсць класаў польскай школы. Калі што не так, настаўнік Бенік клаў «лапу» вучня на стол і біў лінейкай. Мацвей Базылёў часцяком спазняўся. Настаўнік дапытваў: «Матэвуш, почто спознився?» А той надуваў шчокі: «Еў алей з гарачаю бульбай». Клас паміраў ад смеху.

Пасля бацька служыў у польскай арміі. А ў вайну з немцамі быў дома. Сядзеў за калючым дротам у Праксэдавай старой хаце. Пазней пайшоў на фронт. Прывёз мне з вайны губны гармонік і будзільнік.

У маладосці бацька быў добры задзіра. Яго празвалі Пеўнем.

Росту ў яго было 168 сантыметраў, а ў плячах — круты, шырокі. Моцна курыў. Гарэлку піў па святах, але не ўпіваўся.

Па характары — упарты. Бывала, пасправчаецца за што-небудзь з маці — два дні не бярэ есці.

Апроч зямлі любіў ваду. Гусей трымалі па пяцьдзесят штук. Бацька любіў рыбаліць. Асабліва радаваўся, калі траплялiся ліні. А маці з імі варыла шчаўе.

Хадзіў да Мальца Мікалая слухаць «Голас Амерыкі». Вельмі абураўся нашымі парадкамі.

Маці мая Ганна Іванаўна нарадзілася 7 студзеня 1915 года. На год маладзейшая за бацьку. У сям'і — старэйшая. Таму рана навучылася ўсё рабіць. Адзін год хадзіла ў школу. Расказвала пра Надзю Майчыміну, якая за год запомніла дзве літары — «о» і «с», кружочак і паўмесяц.

Маці пела ў царкоўным хоры, але мала, бо рана выйшла замуж. Першым нарадзіла Колю. Пажыў ён толькі дзевяць месяцаў. Пасля нарадзіла дачку Броню, а ўжо за ёй — і мяне.

Помню, у вайну, мама кінула нас адных дома, панесла ў Давыд-Гарадок прадаваць малако. Купіла нам з сястрой па драбку цукру. Але па дарозе адзін драбок згубіла. Зіма. Снег. Дзе шукаць той цукар? А яна вярнулася і ўсё-ткі знайшла згубу. Радасць неймаверная была ва ўсіх. Таму і запомніўся той драбок цукру.

Яшчэ перажывалі, калі прапала рабая кура з куранятамі. Знайшлі нашу карміцельку ў суседа. Яны схавалі нясушку, хацелі прысвоіць.

Хадзілі з маці зімой па дровы. Дапамагалі ёй ткаць палатно.

Бацька вярнуўся з вайны хворы. Нарадзілі яны нам сястрычку Вольку, але яна пражыла толькі два гады. Захварэла на менінгіт. Яе з маці самалётам завезлі ў Пінск. Прабылі там тыдзень, Вольцы горш і горш. Маці не хацела, каб яна памерла ў бальніцы. Села з ёй у цягнік, даехала да станцыі Лахва, адтуль несла паўжывую Вольку дамоў. Была ранняя вясна, яшчэ ляжаў снег. Вечарам яна ледзь дацягнулася да хаты. А ў пяць раніцы Волька сканала.

Маці з бацькам паспелі яшчэ нарадзіць Люду. Бацька хварэў на сухоты, з кожным днём усё болей адгукалася вайна. І ён у пяцьдзесят гадоў памёр. Гаспадарка, усе зямныя клопаты леглі на плечы маці. Малюся за яе здароўе ўсё жыццё.

Я — Васіль, нарадзіўся ў кастрычніку 1939 года. Пішуся па метрыках 25 чысла, а маці кажа, што нарадзіла 17 ці 18 кастрычніка.

Першыя ўспаміны — вайна, немцы ў чорнай форме. Помню, хадзіў у нейкі бункер да немцаў, каб памяняць яйка на цукерку. Ішоў, зачапіўся, упаў. Яйка разбілася, немцы смяяліся, а я плакаў ад крыўды. З таго часу зненавідзеў немцаў. І было за што, бо пазней яны чамусьці трымалі бацьку за калючым дротам.

Пасля вайны летам пасвіў кароў. Я, Зыгмунд, Андрэй, Васюха, Мечык пагонім, статак да рэчкі. Каровы пасуцца, а мы купаемся, на дубы лазім. На іх жылі вароны, хацелася зазірнуць у іх гнёзды.

З радасцю пайшоў у школу. Не трэба было кароў пасвіць. Вучыўся добра, асабліва лёгка давалася арыфметыка. Мо ад канапляных коржыкаў, якія пякла маці? Ці ад салёных, сушаных сыркоў?

Аднойчы, помню, ішоў у школу і заблудзіўся. Стаяў густы туман. Дайшоў да канавы, павярнуў у другі бок. От перажываў!

Я закончыў сем класаў Ольпенскай школы ў 1953 годзе. Пачаў хадзіць у Давыд-Гарадок, у сярэднюю школу. За сем кіламетраў. Кожны дзень хадзіў, у любое надвор'е. Дарогу ведаў да пясчынкі, мог прайсці па ёй з завязанымі вачыма.

Аднойчы вясной ледзь не ўтапіўся ў Гарыні. Вёз у чоўне дровы. Узняўся вецер. Перакуліўся човен. У час гэтай «адысеі» нацярпеўся страху ад ледзяной вады. Басанож вярнуўся дамоў. Расціралі мяне, саграваді. Тады ўпершыню пакаштаваў гарэлкі.

Пасля школы спалохаўся паступаць у інстытут. Нямецкую мову дрэнна ведаў. Настаўнік у нас быў немец Кандрат Кандратавіч Маркус. Слепаваты, у акулярах. Мы гэтым і карысталіся. Алоўкам напішам у кнізе пераклад: ён не бачыць, мы — бачым. Так і атрымлівалі «ліпавыя» пяцёркі. А пасля, як паразумнелі, шкадавалі. Ды ўжо позна.

Вырашыў паступаць у Лісічанскі горны тэхнікум. Ад Ольпені да станцыі Гарынь плыў параходам. Пасля цягніком да Кіева, далей — у Харкаў. Так далёка ніколі не адлучаўся з дому.

У адной кішэні ў мяне ляжала трыццаць рублёў, у другой — дзесяць. І тыя хацелі ўкрасці, але я ўсю дарогу пільнаваў свой капітал.

Здаў экзамены, ды ўсё-ткі не прынялі. Па здароўі. Сэрца падвяло. Сказалася вясновае «плаванне» з дрывамі ў Гарыні. Вярнуўся ў Пінск і паступіў у электратэхнікум сувязі.

Працаваў у Расіі. Армію там адслужыў. Там жа сустрэў і жонку-украінку. Вось такім інтэрнацыяналістам, з сынам Яўгенам вярнуўся на радзіму. Знайшлася праца і кватэра ў райцэнтры Столін. На радасцях «знайшоўся» і другі сын — Саша.

Яўген — будаўнік, Саша — ваенны. Жывуць на Брэстчыне, на радзіме прадзедаў.

Яўген падарыў унучку Насцю. А я ведаю, што для працягу роду Ліпскіх патрэбны ўнукі. Сыны абяцаюць...

Вось такая споведзь!

Яна складзена з 54 старонак. І пісаў яе Васіль Ліпскі не для маёй кнігі. А для сваіх дзяцей і ўнукаў, для сваёй памяці.

Звычайнае жыццё. А споведзь чытаецца з цікавасцю. У ёй — душа аўтара, яго захапленне гісторыяй і сучаснасцю. Умее прыкмячаць дэталі, цаніць пражыты дзень, радавацца імгненню.

Споведзь Васіля Сцяпанавіча, столінскага сувязіста, і мае архіўныя здабыткі дазволілі скласці сямейнае дрэва ад 1698 да 1994 года. Парадуемся за нашчадка трох Іванаў, Паўла, Рыгора, Фамы, Амброзія, Юльяна, Сцяпана.

Па тэлефоне кажу Васілю Сцяпанавічу:

— У вашым Століне працуе ў гарсавеце Ліпскі Іларыён Уладзіміравіч, ці не радня вы з ім?

— Не!.. Проста прозвішча ў нас аднолькавае. Бацька яго з Вялеміч...

Разглядваю карту ольпенскіх Цюхаеў. О Божа! У Васіля і Іларыёна ў пятым калене агульны прапрадзед Фама. Яны жывуць у адным горадзе, ходзяць аднымі вуліцамі, купляюць хлеб у адным магазіне, мыюцца ў адной лазні...

Давайма, людзі, радніцца, пакуль жывём. Тады дзеці нашы стануць багатымі нашчадкамі.

## *РУБЕЛЬЦЫ*

Ольпенцы, як садзяць агарод, кажуць:

— Зарадзі, Божа, па сваёй волі, на ўсіх долю!..

Дык і ў суседняй вёсцы Рубель таго ж просяць у Бога.

Там і там, у шляхты і мужыкоў, свае клічкі. Прыдумляюць з гумарам, дасціпна.

Адзін выйдзе на вуліцу, аратуе, што цар, дык от і Царык.

Дзед другога ў войску быў кірасірам, а нашчадак — Карась.

Трэці, маленькі і чарнявы, любіў пра Карэю пагаварыць, от і празвалі на векі вечныя — Карэец.

Ёсць і такія: Князь, Гузік, Чаўко, Ладыга, Булава, Адэса, Цапра, Моха, Пушыха...

У Ольпені і Рублі агульныя прыкметы.

Калі дрозд крычыць рэзка і трывожна — да непагадзі.

Калі сляпні і авадні шалеюць, калі лес без ветру шуміць — будзе дождж.

Кошка цягнецца да вады, багата і прагна п'е — зменіцца надвор'е.

Дык жа яшчэ ёсць агульнае ў ольпенцаў і рубельцаў — карані радаводныя. Праўда, яны самі пра гэта мала ведаюць, толькі здагадваюцца, як і пра жыццё на Марсе.

У некаторых губернскіх дакументах пра Ліпскіх сказана, што яны валодалі землямі ў Ольпені і Рублі. Па звестках на 1909 год, гэта былі даволі вялікія паселішчы ў Мазырскім павеце. Уваходзілі яны ў Хорскую воласць. Бліжэйшая чыгуначная станцыя — Лохва, а пошта — у Давыд-Гарадку. У Ольпені — 175, у Рублі — 448 двароў. Спакваля, парушаючы даўнейшыя завядзёнкі, перамешваліся,ператасоўваліся шляхта і мужыкі. Мяняліся землямі. Уводзілі ў сем'і іншаверцаў. Зруйноўваліся ў званнях, якія канчаткова скасавала рэвалюцыя ў 1917 годзе.

Адну з такіх «зроўненых» адшукаў у Рублі. Каця Антосева, па мужу Ліпская, па клічцы Пятрыха, кінула рэзаць буракі карове, не выпускаючы з рук доўгі нож, пачала расказваць:

— Была я Бабішчэвіч, а стала — Ліпская. Пяць братоў у мяне. Водзін вумер з войны. Ад ціфусу. Хацелі забраць на хронт, а ён занядужаў. Хто хворага возьме? А бацька вумер, як мне было

шэсць гадоў. Маці ў школу не пусціла. Сказала: «Хай, Каця, хлопцы вучацца». Дак яны па тры класы скончылі, а я — ніводнага. Голыя былі. Хлеба ўволю не мелі. Калатушы жытняй маці зварыць, засмажыць — от смачна!.. Мужаў бацька хварэў, дай вумер. Бедны быў, а шляхтай называўся. А мы з Пятром во хату збудавалі, карову маем, агарод і дзяцей — Антона, Рыгора, Сцёпу, Толю, Лёню, Косцю і Вольгу. Дачка ўжо замужам. Былі хлопцы іншыя, а яна сіротку ўпадобала. Хай жывуць...

— Ці маеце які грэх на душы?

— Ага, ёсць, — уздыхнула Пятрыха. — У царкву не хаджу — от і грэх. Няма колі хадзіць, от і грэшная...

Чалавека яе, Аляксандра Пятровіча Ліпскага, не дачакаўся. Ён, сказалі, вернецца з сенакосу позна вечарам.

На іншай вуліцы, а іх у Рублі болей за два дзесяткі, сустрэў Паліну Цімафееўну Ліпскую. Каб не клічка, не знайшоў бы яе. Ніхто не ведае бабу Паліну, а Гумарыху адразу паказалі.

— Вуньдзека яна, сядзіць на лавачцы.

Гумарыха сустрэла мяне з радасцю. Надакучыла, відаць, цішыня, маўчанне, ахвотна пачала расказваць пра сябе:

— Чалавек мой быў Пятро Данілаў Ліпскі. Родам адселе, з Рубля...

— Хто яго бацька?

— Каб жа я, дзіцятка, ведала. Мо й ведала, дак забылася. Я з дзяўятага году, о колькі мне! Хіба ўсё запомніш?..

— Што помніце?

— Помню, дзіцятка, што ў нас з Пятром было дзевяць дзяцей. Раней меней не рабілі. Адзін сын на вайне галоўку склаў. Двое тут умёрлі...

— Вы — шляхцянка?

— Мой жа Пятро з Цюхаёў. Ого, каб мужычку ўзяў — трымай вуха!.. Гэта зара трохі пераляшаліся, а тады клеіліся да свайго клану...

— Багатыя былі?

— Ага, дзіцятка, абраблялі сваю зямельку, дык усяго й мелі. Шэсць кароў, тры кані. Багатыя на ўвесь Рубель!..

— Чаму вас Гумарыхай празвалі?

— Вясёлая ўрадзілася. Цяпер галава баліць. З кіёчкам хаджу. На вуме — нічоганькі... — і нечакана для мяне, а мо і для самой сябе, баба Паліна заспявала: — «Шумяць вербы, што я пасадзіла, няма майго міленькага, што я любіла...»

Гумарыха змоўкла, перанеслася ў нейкі далёкі, патаемны свет. Так нічога і не сказала болей. Мо ўспомніла свайго Пятра, каханне з ім?

А мне ў гэты час прыгадалася пісьмо шляхцюка, памочніка павятовага пісара да сваёй каханкі, дачкі фельчара. Арыгінал яго прыводзіць Н. Янчук у кнізе «Па Мінскай губерні», якую ён выдаў пасля падарожжа па Палессі ў 1886 годзе. Хай гэта пасланне з таго стагоддзя запоўніць тужлівую паўзу бабы Паліны з вёскі Рубель.

По архивной описи № 2132.

№ 200
1899 года.

# ДѢЛО

## МИНСКАГО ДВОРЯНСКАГО ДЕПУТАТСКАГО СОБРАНІЯ

О сопричисленіи къ роду Тюхай-Липскихъ, утвержденному въ дворянствѣ указомъ Правительствующаго Сената 17 ноября 1839 г. за № 12397, Александра, Ильи и Максима Ивановыхъ

Опредѣленіе Депутатскаго собранія 30 сентября 1899 г. № 173.
Указъ Правительствующаго Сената отъ 20 [illegible] 1900 года за № 2046
Объ утвержденіи

Началось 21 августа 1899 г.
Кончено 20 ноября 1899 г.

На десяти листахъ.

Адна з асабістых спраў Цюхаеў-Ліпскіх

*«Мілая Юлька!*

*Сумна! Сумна! Не толькі на сэрцы, а ўсюдую. Паглядзіце на надвор'е, нават і яно сумуе па вас. Сонца зайшло за горку, помніце, за тую, што кала царквы, і пайшоў такі вялікі снег, што не можна з хаты вылезці. Не тое було ў Забалоцці, калі вы булі ў нас. Сонца заўсёды весела іграла на небе, а я на гармоніку. От вы пайшлі скакаць польку, так було радасна пазіраць, як вявірачка — скок ды скок. Помніце? Гэта було, калі вы прыехалі ад Н. і калі казалі, што выпілі там тры бутэлькі віна. Тады вы напісалі на цыгарэтнай паперцы, што любіце мяне. Я ж тую паперку схаваў сабе на памяць у штаны. Не думайце, каб я ўздумаў вас кампузаваць, беражы Бог, я так шчыра вас люблю, што ніколі не скуру тую паперку. А як успомню вашы міленькія вочкі, дак яны пранізваюць стрэлкамі мае грудзі. Бог сведка, як баляць мае грудзі. І калі доўга не буду бачыць вас, то памру. Гарызонт наш цяпер пахмурны, бо вас няма. А можа, не знаеце, што такое гарызонт? Ета мардафара (відаць, метафара. — Ул. Л.), так выражаюцца толькі разумныя людзі, і я думаю, што колісь буду разумным чалавекам. З ісціным пачытаннем вашага дабрадушша застаюся ваш паклоннік. Цалую вашы малінавыя вусны. Шчыры друг і добразычлівец (подпіс)...»*

Пакуль мы думалі кожны пра сваё, Гумарыха-Ліпская першай ачнулася, загадала на развітанне загадку:

— Адгадай, дзіцятка, хто ета: мудры мудрэц не поле арэць, а белы хлеб жарэць?

— Такіх цяпер багата: і ў вашым калгасе, і ў раёне, і ў Мінску...

— А даўней гэта быў пісар, — пырснула ад смеху Паліна Цімафееўна, задаволеная, што абставіла мяне.

Ішоў шукаць новага рубельскага Цюхая, прыгадваў дзвюх сясцёр Ліпскіх з Ольпені. Яны хваліліся, што бацька і дзед мелі зямлю ў Рублі. А яшчэ хваліліся, што кожнае лета багата цялушак трымаюць:

— Пабацце колькі!.. Палічыце!..

Не хацелася радавацца такому багаццю, бо ведаў думку іх суседа:

— Гэтым дзеўкам ужо па семдзесят, а розуму не нажылі. Пасуць етых цялушак ўсё лета, мучаюцца, а зімой іх худоба з голаду дохне. А не прадаюць... Мурзатыя ўсё жыццё, як тыя цялушкі... Купілі веласіпед, павесілі ў сенцах — не ездзяць, шкадуюць. Скажы ім: «Дзеўкі, вы няправільна робіце», а яны адбрыюць: «Ты сам не ўмееш жыць...» О якія рубельскія дваранкі жывуць у Ольпені...

Гэта пра такіх, відаць, прыдумаў народ песню:

Кароўка мычэ — вясну кліча,
Волік бушуе — вясну чуе,
Курка кудахча — есці хоча,
Дзеўка плача — замуж хоча...

Адплакалі сваё незамужнія Цюхаіхі. Цяпер злуюцца на ўвесь белы свет: няма каму перадаць хату, цялушак, веласіпед...

У Івана Антонава Цюхая-Ліпскага нібыта хапае спадчыннікаў, а застаў яго са слязамі на вачах.

Ён ляжаў у сынавай хаце і... паміраў. Твар нельга было адрозніць ад белай падушкі. Ні крывінкі. Толькі зрэдку пашавельваліся пасінелыя стужкі губ.

Іван Антонаў давёў, што іх род Цюхаёў доўжыцца ад дзеда Андрэя і прадзеда Паўла. Гэта пацвердзіла і архіўная карта. Я паказаў яе паміраючаму Івану, ён слаба ўсміхнуўся:

— О, колькі нашых...

І вельмі быў рады, што род іхні пачаўся з Івана, і ён, Іван, прыстойна пражыў на свеце. Любіў зямлю і жонку Веру, глядзеў, каб дзеці не былі галодныя. А іх у яго чацвёра — Віктар, Андрэй, Пётр, Соня.

Перасохлыя губы Івана зашавяліліся, і зноў пачуў прыглушаны, асіплы голас апошняга сведкі з восьмага калена Цюхаёў. Ён прыгадваў, як яму здавалася, самае памятнае ў яго жыцці:

— У Рублі пажар быў у трыццаць другім годзе... Перад тым вада вялікая стаяла. А восенню мы пагарэлі... Буран узяўся. За рэчку агонь перанёс... Трыста хат згарэла. Млын драўляны згарэў... Бульбу капалі ў полі. Прыехалі, а хат нашых няма...

Іван Антонавіч стаміўся гаварыць. Ляжаў, пазіраў у столь. Якія думкі роіліся ў галаве? Можа, думаў пра тое, пра што, сабраўшыся з сіламі, сказаў мне на развітанне:

— Вера, мая жонка, ужо месяц, як умёрла. Ёй добра, яна ў Божым доме. Я збіраюся да яе...

Іван Антонавіч заплакаў. Нявестка Таня паднесла вады. Прыгубіў. Крыху супакоіўся. На хваравіты твар, як сонечны зайчык, ускочыла іскрынка радасці:

— От, дзякуй, што зайшлі да мяне... Сын мой Пеця таксама жыве ў Мінску. Машыну мае, а не збярэцца прыехаць. Пісьмы не піша. Калі ўбачыце, скажыце: «Бацька вельмі слабы...»

Адшукаў Пятра Іванавіча Ліпскага ў Мінску, на вуліцы Нямізе. Жыве амаль што ў цэнтры горада. Мае сыноў Сяргея і Руслана. А жонка Наталля — унучка дзеда Талаша, якога ўславіў у літаратуры і ў жыцці народны пісьменнік Беларусі Якуб Колас, працуе памочнікам пракурора ў адным са сталічных раёнаў.

Расказаў мінскім Ліпскім пра сваё наведанне вёскі Рубель, пра размову з хворым бацькам. Перадаў яго просьбу-скаргу.

Кінуліся маладыя ў дарогу, на Століншчыну. Ды паспелі толькі на пахаванне Івана Антонава Цюхая-Ліпскага. Як тут не крыкнуць:

— Людзі!.. Спяшайцеся ўбачыць жывымі сваіх бацькоў!.. Не спазніцеся распытаць іх, нагаварыцца з імі!.. Людзі!.. Не абрывайце зажыва карані!.. Ці будзе без іх дрэва — зялёным?..

# *БАРЫСАЎСКІЯ ЦЮХАІ*

Стаяць вілы. На вілах — вісіць торба. На торбе — кузня. На кузні — зяпа. Над зяпай — мігала. На мігале — ельнік. А ў ельніку свінкі ходзяць.

Што гэта?

Загадка «простанародная». Яе запісаў у Віцебскай губерні Н. Я. Нікіфароўскі, дзейсны член губернскага статыстычнага камітэта. І было гэта ў 1898 годзе.

Дык хто адгадаў простую народную загадку?

Э, ды ў тым і справа, што яна не вельмі простая. Аказваецца, гэта — чалавек. Ногі ў яго — вілы, торба — жывот, кузня — зубы, зяпа — рот, мігала — вочы, ельнік — валасы на галаве, а свінкі — вошы...

Цяжка разгадаць загадку, прыдуманую сялянамі. А як жа разабрацца ў радаводзе, які складзены з адных загадак?

Вось і я раздабыў у архівах новыя звесткі пра Цюхаёў-Ліпскіх з Барысаўскага павета і насіўся з імі цэлы год. Так і не адшукаў прывязкі тых Цюхаёў да сённяшніх нашчадкаў. Ніводнага не знайшоў. І вырашыў напісаць, што ведаю. А раптам знойдзецца дасціпны чытач, хто-небудзь з Ліпчукоў-родзічаў ці з даследчыкаў апантаных, дый разгадае, што гэта за парастак Цюхаёў-Ліпскіх атабарыўся быў у Барысаўскім і Вілейскім паветах.

Дык слухайце, каму цікава.

Уважлівыя чытачы запомнілі, што прывілей на зямлю ў Ольпені атрымаў ад пінскага князя Яраслававіча родапачынальнік Цюхаёў Іван Паўлаў Ліпскі. У дакуменце было падкрэслена: «з братамі сваімі». Мы ж разглядвалі пакуль што дрэва Цюхаёў, коранем у якім быў Іван — возны ў Вялікім княстве Літоўскім, а пра братоў не згадвалі.

Магчыма, новая іскра зардзелася ад братоў Івана, магчыма, на небасхіле Цюхаёў засвяцілася зорка новага Івана, нашчадка вознага, але дакладна сведчаць архівы, што ў процілеглым баку ад Ольпені, у Віцебскім ваяводстве, пад гербам «Любіч», развілося магутнае дрэва Ліпскіх. Моцнае па сваім багатым мужчынскім складзе. І неардынарнае ўжо тым, што новыя Цюхаі былі не проста земляробамі, а мелі па тым часе высокую адукацыю і нават пасады ў губернскім Мінску.

Вінцук, Вінцэнт, Вікенцій — сын Ігната Ліпскага, шляхціц Барысаўскага павета, «собственноручно», прыгожым, разборлівым почыркам напісаў ва ўправу дэпутацкага радаводу Мінскай губерні сваю просьбу. Яна праляжала ў архіве звыш ста гадоў. Вывудзім з яе ўсё самае каштоўнае і цікавае ды яшчэ раз нізка паклонімся архівістам.

А з прашэння Вікенція Ліпскага, якое падмацавана дакументамі, найперш даведваемся, што нейкі Іван з Цюхаёў выслужыўся перад польскім каралём Янам Казімірам. У прывілеі сказана: «За ваенныя заслугі і мужнасць у абароне Радзімы зямянін і абывацель Пінскага

павета Іван Цюхай-Ліпскі ўдастоены ранга ротмістра Харугвы Пяцігорскай, а грамадзянскім дэпартаментам Генерала Надворнага яго Каралеўскай Вялікасці надзелены пажыццёва маёнткам Зайброжа Казанова ў Віцебскім ваяводстве».

Гэты важны дакумент, «явясь лично в Суд Гродский Пинского замка», прад'явіў Іван Цюхай-Ліпскі падчашаму Піліпу Іздэбскаму, стольніку і суддзі Андрэю Тарлецкаму, урадніку судоваму Георгію Нелюбовічу. І было гэта 1 ліпеня 1643 года. Падпісаў грамату «всепросветлейшего» караля польскага канцлер* Вялікага княства Літоўскага князь Альбрэхт Станіслаў Радзівіл, унук знакамітага Мікалая Чорнага Радзівіла.

Праз 37 гадоў, 5 жніўня 1680 года, у Галоўны трыбунал Вялікага княства Літоўскага ротмістр Іван Цюхай-Ліпскі падаў духоўны запавет. Ён пачынаўся такімі радкамі:

«Калі апошні раз ударыць сэрца і мёртвыя знакі пакрыюць цела, то па міласці Госпада сыны мае Антон і Казімір Ліпскія, каб цела маё пры траурным абрадзе каталіцкага веравызнання пахавалі ў зямлю...»

Сваім сынам-нашчадкам ротмістр Іван Ліпскі закладваў маёнтак, ахвяраваны каралём, а ў прыдачу — фальварак Азярышча з трыма аселымі сялянамі ды грашовыя сумы. Селяніну свайму Івану Пятвіцкаму «пожаловал вольность» за верныя паслугі і праяўленую адданасць у ваенных паходах.

Двума сынамі, як двума рагамі, упёрся род гэтых Цюхаёў у паднябессе гісторыі. У Аўцюках, кажуць, везлі быка здаваць на мясакамбінат, рогі не пралазілі паміж таполямі, якія раслі паабапал дарогі, дык вымушаны былі спілаваць векавыя дрэвы. А як «павязу» ў вечнасць сваіх новых Цюхаёў з тымі «рагамі», якія адшукаў у архіўнай пушчы?

Больш магутны «рог» у Казіміра, сына Івана Цюхая. Гэта ж яго ўнук Вікенцій, працiскаючы сваіх сыноў у дваранства, сабраў дакументы, якія і высвецілі барысаўскае дрэва Цюхаёў герба «Любіч».

Што ведаем пра самога Казіміра?

Ажаніўся на ўдаве Еве з Вадоўскіх. Апроч бацькавых спадчынных маёнткаў меў нейкае дачыненне да маёнтка Матыкалы. Архівы данеслі сціплую і патаемную звестку, што 12 верасня 1722 года суд гродскі Слонімскі ваяводства Бржэскага разглядваў справу Казіміра і Евы Ліпскіх з Міхаілам Грабоўскім і «протчими» пра сядзібу Матыкалы. Ці то судзіліся? Ці куплялі, дзяліліся? Хто ж цяпер разбярэцца. А калі б і рассакрэціў даўнейшую спрэчку за зямлю і маёнтак, то якая справа сённяшнім гаспадарам зямелькі нашай? Яны, бедакі, ніяк не могуць вырашыць, хто павінен быць уласнікам на ёй: ці то калгас, ці то фермер, ці то сельсавет?

---

* **Канцлер** выконваў абавязкі міністра замежных спраў, ведаў дзяржаўным архівам, прымаў прашэнні на імя караля, быў захавальнікам вялікай дзяржаўнай пячаткі з гербам «Пагоня».

Яшчэ захавалі архівы вельмі ж пікантную звестку. Нейкая пані Піатравіцкая пляснула па шчацэ пані Еву Ліпскую. Быў суд шостага мая 1724 года (мне гэтая дата вельмі ўрэзалася ў памяць, бо я сам нарадзіўся 6 мая, праўда, праз 216 гадоў пасля таго скандальнага суда). Цікава было б ведаць, за што Ева атрымала такога прачуханца? За зямлю, маёнтак ці з-за рэўнасці пані Піатравіцкай?

Ведаем, што крыўдзіцельцы суд выпісаў штрафу 12 рублёў. Па тым часе гэта вялізная сума. І запомнім яшчэ некалькі даўнейшых паэтычных радкоў, якія ўхвалялі дзягу, папружку, бізун, аплявуху. Хай гэта нечаканая для нас, дэмакратаў, хвала і стане разгадкай подзвігу пані Піатравіцкай.

Розгою Дух Святой детище бити велит,
Розга убо ниже мало здравию вредит,
Розга разум в голову детям вгоняет,
Учит молитве и злых всех истязает,
Розга родителям послушны дети творит,
Розга божественного писания учит.

Казімір і Ева Ліпскія нарадзілі аднаго сына — Ігната. І адбылася гэта падзея 11 жніўня 1735 года. Сапраўды, падзея, бо інакш засохла б Казімірава галіна. На ім бы і закончыўся род, затухла б сямейнае полымя, якое так старанна раздзімаў ротмістр Іван Цюхай-Ліпскі.

Бацькі мелі жаданне вывесці ў людзі новы парастак родапачынальніка Івана. Малалетнім яны ўладкавалі свайго Ігнася ў Віцебскае езуіцкае вучылішча. Да нас дайшоў цікавы дакумент. Хочацца прадоўжыць яго жыццё ў кнізе, захаваўшы стыль і мову:

*«Все имеющие сие читать здравствуйте ■ Господу.*

*Настоящим письмом свидетельствуем, что Господин Игнатий Липский в училище нашем ордена священников Иезуитов ■ Витебске был в риторике 1743 года и ни в чем добре — порядочному поведению ■ учиненным правилам не оказался преступным, ■ удостоверение чего, сие письмо мы писали и печатью Монастырей утверждаем.*

*Сделалось ■ Витебске лета Господне 1743 года августа 10 дня.*

*Префект училища ордена Иезуитов*
*св. Михаил Одронпальский».*

Але, відаць, Ігнат не пайшоў угору па святарскай дарозе. Бог бачыць з неба, чаго каму трэба. Яго прозвішча сустракаем у спісе арэнднай шляхты Барысаўскага павета. Захаваўся кантракт на права арэнды зямлі, выдадзены Ігнату Ліпскаму, сыну Казіміра.

Падзеі ў свеце разгортваліся не на карысць шляхты. Беларускія землі, на якіх яна пусціла глыбозныя карані, гвалтоўна далучаліся да Расіі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай у 1772, 1793 і 1795 гадах.

І хаця царскі ўрад нібыта захоўваў за шляхтай беларускай усе правы дваранства Расіі, але ў той жа час скасаваў шляхецкае самакіраванне, пачаў праверку гэтага вольналюбівага саслоўя. Пад пэўным уціскам праводзілася палітыка, каб кожны шляхціц прысягнуў на вернасць цару.



**ГЕРБ «ЛЮБІЧ»**
да раздзела
**«БАРЫСАЎСКІЯ ЦЮХАІ»**




## ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «БАРЫСАЎСКІЯ ЦЮХАІ» (ГЕРБ «ЛЮБІЧ»)

**2** — возны, духоўны запавет у 1689 г., валодаў маёнткам у Віцебскім ваяводстве; **3** — ж. Ганна са Шмунтоў; **4** — ж. Ева з Вадоўскіх; **5** — нар. 1755 г., ж. Насця з Бароўскіх, Докшыцкі павет; **6** — 1757—1812 гг., ж. Разалія Гаткоўская, Докшыцкі павет; **7** — нар. 1789 г., ж. Францішка, землямер у Вілейскім павеце; **8** — нар. 1800 г., у 1825 г. эканамічны бухгалтар у Полацкім ваяводстве; **9** — нар. 1775 г.; **10** — нар. 1789 г., ж. Петранела Фамакоўская; **11** — нар. 1832 г.; **12** — поўнае імя Юрый-Іосіф-Станіслаў, нар. 1820 г.; **13** — нар. 1827 г.; хрышчаны ў Жодзінскім касцёле; **14** — нар. 1859 г.; **15** — нар. 1842 г.; **16** — нар. 1844 г.; **17** — нар. 1848 г.; **18—19** — нар. 1830 г., блізняты, Эдвард памёр маладым; **22** — расстраляны ў 1866 г.; **23** — нар. 1902 г., **25** — нар. 1908 г.; **26** — нар. 1915 г.; **28** — нар. 1906 г.; **29** — нар. 1892 г.; **56** — нар. 1952 г., мастак, жыве ў Мінску.




---

Тыя, хто не пакарыўся гэткаму прымусу, аб'ядналіся пад вызваленчым сцягам таленавітага ваяра Тадэвуша Касцюшкі. Былі ў атрадах паўстанцаў і Ліпскія, пра якіх раскажу пазней.

А вось Ігнат Казіміраў Ліпскі прыняў прысягу на вернасць трону. Дакументы сведчаць, што адбылося гэта 1 красавіка 1793 года. Мы не можам ні асуджаць, ні хваліць шляхціца Ігната. Кажуць, Бог лесу не параўнаваў, дык і людзей не раўнуе. Відаць, былі ў яго свае меркаванні. У яго была зямля ў Барысаўскім павеце. Яе страціць не жадаў. Гадаваліся тры сыны. Пра іх будучыню клапаціўся.

Памёр Ігнат Ліпскі на пачатку дзевятнаццатага стагоддзя, на 74-ым годзе жыцця. Пахаваны ў Хведарскай царкве. Засталіся ад

яго тры сыны-дубы — Вікенцій, Антон і Дамінік. Старэйшаму з іх, Антону, было 34 гады, сярэдняму, Дамініку, — 20, а малодшаму, Вінцуку, усяго 9 гадкоў. Атрымліваецца, Ігнат Казіміраў, бацька іхні, прыдбаў апошняга сына ў свае шэсцьдзесят пяць гадоў. Зайздросная зацяжная вясна душэўнай маладосці захоўвалася ў гэтай шляхецкай сям'і барысаўскіх Цюхаёў.

Антон Ліпскі, старэйшы Ігнатаў сын, валодаў закладным у суддзі Адахоўскага фальваркам Дамброжыца ў Барысаўскім павеце. У адрозненне ад бацькі зямлёй ён не займаўся, бо ёсць у архівах пасведчанне, датаванае 20 чэрвеня 1817 года, у якім адзначаецца старанная эканамічная служба Антона Ліпскага ў памешчыка Трацэўскага, у фальварку якога ён жыў.

За добрую эканамічную службу меў пасведчанне і брат Антона Дамінік. Гэты дакумент падпісаў нехта Юрый Красоўскі.

У красавіку 1829 года такое ж пасведчанне за пахвальную эканамічную службу атрымаў ад графа Бжазоўскага малодшы Ігнатаў сын — Вікенцій. У яго быў яшчэ пахвальны ліст ад Ганны Грабніцкай, якая жыла ў маёнтку Міхальцы Полацкага ваяводства. Вікенцій служыў ёй чатыры гады «економическим» бухгалтарам. Адзін год быў эканомам Балынскага фальварка ў ротмістршы Алены Ісаевічавай. Гэта — у Дзісненскім павеце.

Як бачым, у новай плыні Цюхаёў пачалі набіраць моц асобы адукаваныя, інтэлігентныя. Бацька змог даць ім адукацыю, скіраваў у надзейнае рэчышча жыцця. Вось толькі нідзе не згадваецца, што яны з Цюхаёў. Можа, саромеліся такой прыдумкі? А ольпенскія Цюхаі-Ліпскія, наадварот, ганарыліся сваім двайным прозвішчам. Нават крыўдавалі, калі нехта з пісарчукоў прапускаў прыстаўку. Нават судзіліся, да бойкі даходзіла, як у той «Пінскай шляхце».

Апошні пласт гэтага крыла барысаўскіх Цюхаёў — дзеці братоў Антона, Дамініка, Вікенція. Іх я налічыў дзесяць. Яны ўсе нарадзіліся ў прамежку ад 1820 да 1859 года.

Ад старэйшага — Антона з жонкай Схалястынай з Астроўскіх пайшлі дзеці — трохімянны Юрый-Іосіф-Станіслаў, двухімянны Нарцыс-Антоній і Павел. Малодшаму чамусьці не чаплялі іншых імёнаў.

Надаваць дзіцяці шматступенчатае імя — даўнейшая традыцыя каталіцкіх сямейных родаў. Лічылася, чым больш імёнаў у чалавека, тым больш у яго анёлаў-ахоўнікаў. Як яны выканалі сваю ролю ў дзяцей Антона Ліпскага, хто ж згадае цяпер. Ведаю толькі, што Юрый-Іосіф-Станіслаў нарадзіўся ў маі 1820 года. Яго хрысцілі ў Лебядзеўскім касцёле. Нарцыс-Антоній убачыў свет пад студзеньскія маразы ў 1827 годзе. Хрышчаны ў Жодзінскім касцёле. А Павел з'явіўся праз пяць гадоў, у лютым месяцы. Яго хрысцілі ў Кабыльніцкім касцёле.

Пра сыноў Антона нічога болей невядома. Апроч таго, што Паўла ўладкоўвалі ў Полацкі кадэцкі корпус. І генерал-маёр корпуса звяртаўся ў штаб яго імператарскай вялікасці па ўправе ва-

енна-навучальных устаноў, каб пацвердзілі, ці мае Павел Антонаў Ліпскі права на дваранскае званне.

Як бачым, сям'я Антона Ліпскага, не заякараная на зямельнай пупавіне, гайдалася з павета ў павет, дзе знаходзілася эканамічная служба. Сам Антон, яго сям'я і сем'і братоў Дамініка і Вікенція былі ўнесены ў дваранскія спісы другога разраду Барысаўскага павета.

У сярэдняга — Дамініка Ліпскага доўга не складвалася сям'я. Позна сустрэў і пакахаў Петранелу Фамакоўскую. З ёй займелі сыноў-блізнят — Эдварда і Франца. Бацьку немаўлят ішоў тады ўжо сорак першы год. Дзетак спешна перахрысцілі, бо Эдвард нарадзіўся вельмі слабенькім. Ён і не пажыў доўга.

Малодшаму з братоў — Вікенцію Ігнатаву мы ўдзячны за пісьмы ў высокія чыноўніцкія кабінеты. Ён дамагаўся дваранскага звання для сваіх дзяцей, таму і назбіраў розных дакументаў пра свой род. З іх праліўся свет і на яго сям'ю.

З жонкай Каралінай Садоўскай яны ўзбагаціліся ажно чатырма спадчыннікамі. У прамежку семнаццаці гадоў нарадзілі Браніслава (1842), Аляксандра (1844), Вікенція (1848), Васіля (1859). Была яшчэ дачка Віргінія.

Пра іх сына Аляксандра Вікенцьева Ліпскага вядома са спіса землеўладальнікаў Мінскай губерні за 1876 год, што ён меў па спадчыне 136 дзесяцін арандаванай зямлі ў маёнтку Чэрніца Барысаўскага павета. Ён значыўся дваранінам рымска-каталіцкага веравызнання.

Праз дваццаць гадоў, а было гэта 7 верасня 1879 года, Васіль Вікенцьеў Ліпскі звярнуўся з пісьмом да цара Аляксандра з просьбай выдаць пасведчанне, што ён дваранскага роду. Васіль указваў на сваё паходжанне з дваран Барысаўскага павета. А месца жыхарства меў у Мінску, на Паліцэйскай вуліцы, у доме Петрапаўлаўскага.

Такое ж пісьмовае хадайніцтва за сына Васіля склала і яго маці-ўдава Караліна Ліпская. Свой ліст накіравала ў Мінскі дваранскі дэпутацкі сход.

Праз тры гады, заплаціўшы дзесяць рублёў срэбрам, Васіль Вікенцьеў Ліпскі атрымаў патрэбны дакумент. Ён, відаць, падмог яму ў службовай кар'еры.

А ці прынесла пасведчанне аб дваранскім родзе радасць яго сынам ды сынам яго братоў? Яны ж, напэўна, дажылі да бальшавіцкай рэвалюцыі 1917 года.

Другі «рукаў» Іванавага роду, які зачаўся ад сына Антона, збеднены на спадчыннікаў. Бог, кажуць, з людзей робіць ігрыска: аднаго ўгору, а другога — нізка.

Ад Антона пайшоў сын Ігнат-Юрый, ад таго — Антон-Ян, які выбіўся ў землямеры Вілейскага павета. Землямер жыў у маёнтку Антонізберга і быў самы «заможны» на сыноў у лініі Антона. Іх у яго была Божая тройца — Юрый, Станіслаў, Нарцыс.



Мастак Аляксей Міхайлавіч Ліпскі з Мінска з сынамі Міхасём, Аляксеем, Кастусём. Іх «буслянка» на Барысаўшчыне

Ёсць цікавы дакумент: пісьмо прадвадзіцеля Вілейскага межавага апеляцыйнага суда Іосіфа Шалавы-Галко Антонію Ліпскаму на пасаду землямера Вілейскага павета. У ім чорным па беламу пішуць: «Аб'яўляю, што згодна высачайшых указанняў, па жаданню мясцовых памешчыкаў Вы, Пане Антоній, прызначаецеся землямерам Вілейскага павета».

Па тым часе, калі ўся зямля наша была падзелена паміж уласнікамі, дробнымі і буйнымі, калі яна, карміцелька, служыла людзям найвялікшым багаццем, калі з-за яе межаў найчасцей узнікалі спрэчкі, бойкі, судовыя справы, землямер лічыўся ці не галоўным «стрэлачнікам» у павеце. Яго запрашалі памешчыкі, і ён жыў у іх маёнтках па некалькі месяцаў, пакуль складваў карту зямлі ўласніка. Яго пасылалі суды для ўдакладнення межавых спрэчак.



«Рагнедзіна Гарадзішча» — рэпрадукцыя з карціны А. М. Ліпскага

Яму ў памагатыя заўсёды давалі дваровых, сялян, каня. Каля яго круціліся і гаспадар, і яго дзеці. Уважлівы ды назіральны землямер мог бы, апроч асноўных клопатаў, назбіраць мех баек, жартаў, загадак, прымавак. Так і карціць сыпануць цікаўным чытачам жменю дасціпных народных прыдумак. Верыцца, што іх чуў і чухаў чуб, каб разгадаць, землямер Вілейскага павета Антон-Ян, сын Ігната-Юрыя, унук Антона Іванава Ліпскага.

Дык узвіхрыце і вы сваю фантазію, адгадайце, што гэта: «Стаіць бабка ракам з чорным задам»? Ды гэта ж печ! Без яе ні пану, ні селяніну не пражыць. Таму і складвалі пра яе ўсё новыя і новыя загадкі, паэтычныя і мудрыя. «Матка — таўстуха, дачка — красънуха, а сын — перабор, пайшоў на двор». Печ, полымя, дым.

А гэта што?

«Хто не ідзе, а старую бабу за пуп бярэ». Правільна, дзверы ў хату, а на іх ручка. Сапраўды, хто толькі не бярэцца за дзвярны пуп. Пра гарэлку прыдумалі такое: «Душа кажа — згуба мая, а цела кажа — радасць мая!»

Пра жорны: «Дзедава брушка і бабіна брушка труцца адно аб адно».

А цяпер некалькі мудрых народных прыдумак без адгадак. Паламайце галаву!

«Залез баран у бычыную скуру».

«Тырчыць Харытон на хату гарбом».

«Прыехалі камісары — усё поле спісалі».

«Зялёны-зелянец з бабай заігрывае».

Землямер Антон Ліпскі быў багаты не толькі на загадкі, а і на грошы. Існуе у архівах пад пэўным кодам дакумент, згодна якому паручнік польскага войска Лаўрэнцій Стралкоўскі ўзяў у пана Антона Ліпскага на свае патрэбы адну тысячу рублёў асігнацыямі. За гэта дазволіў Ліпскаму тры гады карыстацца сваім фальваркам Латыголь ў Данілавіцкім Ключы Вілейскага павета. Паручнік даручыў Ліпскаму і сваіх трох сялян Сідара Рыжага, Ігната Будзіву ды Івана Рыжага. У дагаворы падкрэслена: «Угнетание крестьян запрещается».

Дамова замацавана подпісамі і адпаведнымі пячаткамі ў адзінаццаты дзень красавіка месяца 1831 года. Ці не на карысць паўстання спатрэбіліся грошы паручніку Лаўрэну Стралкоўскаму?

У дакуменце ёсць адна агаворка, якая можа зацікавіць сучаснікаў Ліпскага ды Стралкоўскага: «Калі тысяча рублёў за гэты час не будзе вернута, то Ліпскі можа карыстацца фальваркам і далей...»

Шукайце, спадчыннікі, грошы і маёнткі далёкіх прашчураў. Ды не спатыкніцеся на сучасныя законы.

Такі ж дагавор меў некалі і Антонаў Дзед, таксама Антон, сын родапачынальніка ротмістра Івана Паўлава Ліпскага.

Збяднелы пан Ашмянскага павета Іван Дзерангоўскі з жонкай Антоляй з Кавалеўскіх пазычалі ў Антона Іванава Ліпскага 5000 злотых. І закладвалі яму на тры гады, з 1773-га па 1776-ы, свой фальварак Збутовічы з вёскай Заброжа, чатырма сялянскімі сем'ямі, з усімі дваровымі забудовамі і ўсімі падаткамі, баршчынай з сялян.

Як бачым, гэты клан Ліпскіх-Цюхаёў здабываў багацці не потам, а розумам, чыноўніцкай кар'ерай, спецыяльнасцямі. Яны ўмела перадавалі шчодрыя набыткі сваім наступнікам. Яскравым пацвярджэннем таму — духоўны запавет Ігната-Юрыя Ліпскага. Давайце ўважліва прачытаем яго ў арыгінале:

*«Распоряжение прижизненное, что милостью Всевышнего о нас определено, учинил заблаговременно ■ при здоровых чувствах души я, Игнатий-Юрий по метриках, а в жизни Егорий Липский. Будучи по разуме неослабленный, желая после себя оставить спокойствие в лице моих родичей, друзей и соседей, решил следующее учинить распоряжение:*

*1) Душу мою грешную Всевышнему отдаю, тело же мое, как свое начало на земле, похоронить оное в земле Минской Кальварии без всякого приготовления. За траурное богослужение и за кладбищенское место тамошнему священнику — 10 злотых польских.*

*2) На обедни траурной и колокольне на костеле в Минске — 50 злотых польских.*

*3) В фольварке на городской земле состоящим, принадлежащим мне разного рода строения с домашней рухлядью, всякого рода скот рогатый и нерогатый, птицы, гардероб и все, что к хозяйству относится, за приверженность любезной моей супруге Анастасии с Боровских Липской отказываю. С тем однако, чтобы со всего сего старателям моим, а именно господину Адаму Ейсмону, Иосифу Мрачковскому, Антону Липскому по три рубля серебром было уплачено. Протчих долгов никаких не имею.*

*4) Дочери моей Гелене Пиоциевской, кроме приданого, за приверженность 300 злотых польских завещаю с заключением, чтобы жене моей, а своей матери всегда повиновалась. Касательно опеки, которую я по прошению ее супруга покойного Игнатия Пиоциевского над нею имел, ближайших моих родственников о таковой прошу, а паче в дележе меж братьями ея супруга.*

*5) Касательно моего сына Антона Липского, когда будет снисходителен для своей матери, а моей любезной супруги Анастасии, в таком случае назначение последует с общинного моего имения. Сей дозвол оставляю ■ в том обязываю.*

*6) Господ колежских протоколистов Иосифа Домашевского ■ Петра Ейсмонта для вспомоществования моей жене ■ делах ■ над моими детьми избираю.*

*И напоследок: прощаюсь с моей супругою Анастасией, благославляю дочь Гелену, Сына Антония, и в последний раз прошу извинений у родственников, друзей и соседей за причиненные какие-либо неприятности.*

*Яко грамотный собственного приложения руки подписал 1806 года, месяца апреля, 13 дня.*

*Совершено в фольварке Волчье Болото в Вилейском уезде.*

*Игнатий-Юрий Липский».*

Заверыў запавет рэгент Мінскага галоўнага 2-га дэпартамента Іосіф Васілеўскі.

Пераканаты: жывуць на Беларусі зялёныя парасткі гэтага роду Цюхаёў-Ліпскіх, двух яго галін ад ротмістра Івана Паўлава. Жывуць і не ведаюць, што ў іх такая багатая чалавечая спадчыннасць. Хай жа знойдзецца сярод іх апантаны энтузіяст і зробіць новыя адкрыцці. Хай расшавеляць яго памяць шаноўныя продкі. І не дадуць спакойна спаць, як не сплю я ўжо каторы год.

# *ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ І ПІНСКАЯ ШЛЯХТА*

*Бог не ўкладвае без мэты ў нашы галовы і сэрцы любві і таленту да якой-небудзь галіны ведаў. Ён мае адносна нас і нашага прызначэння свае мэты, якія мы павінны выканаць...*

Уладзіслаў Сыракомля
*(З артыкула пра В. Дуніна-Марцінкевіча)*

## *ГЕРБ «ЛЕБЕДЗЬ»*

Пошукі Цюхаёў-Ліпскіх з Ольпені напрасткі вывелі да беларускага песняра мінулага стагоддзя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Ён уславіў сваё імя рознымі творамі. А неўміручасць заслужыў п'есай «Пінская шляхта». У ёй дзейнічае герой — Іван Цюхай-Ліпскі. Хто ён? Ці не з ольпенскай шляхты?

Давайце няспешна разбяромся, што да чаго. А напачатку пачастую цікаўных чытачоў новымі звесткамі з біяграфіі пісьменніка, якія ўдалося адшукаць у даўнейшых крыніцах ды архівах.

Радаводны герб у Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча называецца «Лебедзь». На чырвоным полі — срэбраны лебедзь. І ў кляйноце над шлемам, на кароне такі ж лебедзь. Велічная птушка, з узнятымі крыламі, ва ўпэўненай постаці выклікае давер, павагу і замілаванасць. Яна цвёрда стаіць на кароне. Яна гатова ўзляцець з яе ў нязведаныя высі.

Пачцівая птушка — як бы ў аснове, падмурку герба і на яго вяршыні, на самой кароне. Гэта знак таго, што род Марцінкевічаў даўні, чысты і знакаміты. Гісторыя гэта пацвярджае: герб «Лебедзь» засведчаны яшчэ ў сярэднявеччы, з 1257 года, на зямлі кракаўскай.

Актам Гарадзельскай уніі, дзесьці ў сярэдзіне пятнаццатага стагоддзя, герб перанесены на Літву і Беларусь. Ім карысталіся шмат сем'яў. Адны з «прыдомкам» Дунін, іншыя — без яго. Старажытны герб мелі Дуніны-Баркоўскія, Дуніны-Галавінскія, Дуніны-Вольскія, Дуніны-Раецкія. Пад гэтым слаўным знакам хадзілі нейкія Дуніны-Ліпскія, але пра іх пакуль не ведаю нічагуткі.

Карысталіся «Лебедзем» 219 дваранскіх родаў. Сярод іх:



Герб «Лебедзь»

*Аўдыцкі, Бальбас, Балашка, Баневіч, Бартадзейскі, Бярвальдцкі, Бяржанскі, Бяловіч, Бялоўскі, Бельскі, Бярнацкі, Біжышка, Блінструб, Блашкоўскі, Багдановіч, Багданоўскі, Дунін-Баркоўскі, Баркоўскі, Брэаньскі, Дунін-Бжэзінскі, Буйніцкі, Буркартх, Бутрысовіч, Цялевіч, Цямніцкі, Чаевіч, Дамнёўскі, Дунін-Дамуёўскі, Дашчынскі, Дабулевіч, Долгерт, Даўгайла, Доўгірд, Дунін, Душнікевіч, Душынскі, Галінскі, Ганцкаў, Гялдоўскі, Гярдоўскі, Гінвіл, Гірскі, Глішчынскі, Глушэўскі, Дунін-Глушынскі, Галігунт, Гальгіневіч, Дунін-Галавінскі, Гасцікоўскі, Дунін-Газдзікоўскі, Гурковіч, Гурскі, Граеўскі, Градзінскі, Градзіцкі, Грамацкі, Грудзінскі, Дунін-Гатніцкі, Гатоўскі, Галаўчынскі (князі), Гарбачэўскі, Гарадыйскі, Гарашэвіч, Грышкевіч, Ібянскі, Ішлінскі, Ягеловіч, Ялгальдовіч, Янчэўскі, Дунін-Ястшэмбскі, Яўгела, Юдыцкі, Юндзіл, Юневіч, Каменамойскі, Канямойскі, Кантовіч, Капускінскі, Карнкоўскі, Карвацкі, Дунін-Карвіцкі, Касперскі, Кансіноўскі, Кэмпліч, Кэнстовіч, Кэнстоўскі, Кейзгайла, Клапоцкі, Калачка, Камароўскі, Канчэвіч, Кандарэвіч, Дунін-Канінскі, Кормулт, Кос, Кас-*

*тшэўскі, Козіц, Казялецкі, Казіцкі, Казельскі, Краёўскі, Крачоўскі, Дунін-Кжэчаноўскі, Дунін-Кжэслаўскі, Кудрэвіч, Кульвец, Кунцэвіч, Куніцкі, Ліпчынскі, Дунін-Ліпскі, Дунін-Ліпсінскі, Дунін-Лабэнскі, Лэнганіцкі, Мацяёвіч, Маеўскі, Дунін-Марцінкевіч, Маркевіч, Матушэвіч, Матышэвіч, Дунін-Мячынскі, Мяшчанскі, Мікалаевіч, Мілашэвіч, Мінігайла, Місопад, Дунін-Мадлішэўскі, Монстальд, Мажэйка, Нямекша, Артынскі, Строўскі, Атоскі, Авадоўскі, Палацкі, Панткоўскі, Петрусевіч, Пэнткоўскі, Петрашкевіч, Пянткоўскі, Пілецкі, Плёэц, Поліб, Памескі, Прымус, Пракульбіцкі, Пшыхоўскі, Дунін-Пшысталоўскі, Пшышоўскі, Радонскі, Радастоўскі, Радзіўіловіч, Рафалоўскі, Дунін-Раецкі, Ратынскі, Рафароўскі, Растоцкі, Дунін-Русіноўскі, Дунін-Рускоўскі, Дунін-Жухоўскі, Садкоўскі, Саляманович, Сарторыюш, Сасуліч, Себастыяновіч, Сямашка, Сямнішка, Дунін-Скшынскі, Слепсць, Смялкоўскі, Сміглевіч, Дунін-Смашэўскі, Сакалоўскі, Станіслававіч, Стэцкевіч, Стос, Дунін-Стшэшкоўскі, Студзінскі, Судывой, Дунін-Сулігастоўскі, Шэмет, Шэмпінскі, Шостак, Шастакоўскі, Дунін-Шпот, Шпатанскі, Шпатоўскі, Шторц, Швіхоўскі, Таленці, Тальваш, Танаеўскі, Таляфус, Тодт, Тамасевіч, Тоўтвіл, Тшцінскі, Тшэбіцкі, Тумлінскі, Урбановіч, Валентыновіч, Валяшынскі, Варшэўскі, Вашэвіч, Дунін-Вансовіч, Вейсенгоф, Ванцэвіч, Відэйка, Вадзірацкі, Ваенскі, Вайткевіч, Дунін-Вольскі, Валадкевіч, Войшка, Залескі, Завіша, Дунін-Збажынскі, Жэлігоўскі, Жухоўскі, Жукоўскі.*

Пра сябе Дунін-Марцінкевіч сказаў у апавяданні Навума Прыгаворкі «З-над Іслачы, або Лекі на сон»:

> Мой герб такога роду,
> Які налічвае дванаццаць ваяводаў!

Калі пільна прасачыць яго радавод, то можна, відаць, налічыць у розных каленах тых дванаццаць ваяводаў. Мы ж ведаем, што пачынальнікам роду Дунінаў-Марцінкевічаў быў возны Аляксандр. Дынастыю ваяводаў прадоўжыў яго сын Дзмітрый і ўнук Тамаш. У чацвёртым калене вылучыўся ротмістр гусарскай харугвы Тодар. Яго заслугі адзначыў пахвальным патэнтам вялікі гетман Вялікага княства Літоўскага Казімір Ян Сапега.

Яшчэ аднаго Дуніна, ротмістра палявой службы Мікалая Тодаравіча, дзеда Вінцэнта, хваліў сам вялікі гетман Міхаіл Казімір Радзівіл. Тут важна нагадаць, што той яснавяльможны пан Рыбанька заснаваў у Нясвіжы друкарню і прыдворны тэатр.

Пра служылы род Дунінаў-Марцінкевічаў падказвае і іх сямейны герб. У цэнтры малюнка — металічны рыцарскі шлем. Ён абараняе твар і грудзі. Зроблены элегантна, з узорчатымі ўпрыгажэннямі. Такі шлем мог насіць вой заслужаны, камандзірскага звання.

Важна яшчэ запомніць мясціны, у якіх мелі ваяводы Дуніны свае маёнткі. Роданачальнік Аляксандр атрымаў маёнтак Марцінкевічы ў Смаленскім ваяводстве. Унукі вознага Тамаш, Якуб і Марк прадалі дзедаву сядзібу. І наступнікі Марцінкевічаў мусілі выслужваць новыя кавалкі зямлі.

Вядома, што дзед Вінцэнта, ротмістр Мікалай, карыстаўся маёнткам Высоха ў Слонімскім павеце. А пасля прадаў яго пану Блонскаму. Бацька Вінцэнта Ян і яго дзядзька Ігнат, ротмістр поль-

скай службы, валодалі радзівілаўскім маёнткам Новы Двор. Плацілі манаршыя падаткі.

Ці то падаткі былі цяжкімі, ці браты не падзялілі ўласнасць, ці тое, што Ян аўдавеў, застаўся з сынам Ігнатам ды другі раз ажаніўся, а мо ўсё гэта разам паслужыла таму, што Ян Мікалаевіч Дунін-Марцінкевіч пераехаў жыць у Бабруйскі павет.

Там, у фальварку Панюшкавічы, у Яна і Марцыяны з Нядзведскіх на пачатку стагоддзя нарадзіўся двухімённы сын Вінцэнт-Якуб, якому сам Бог наканаваў закласці новы падмурак беларускай літаратуры.

## *ПАНЮШКАВІЧЫ — КАЛЫСКА ПАЭТА*

На дваццаць чавцёртым годзе жыцця Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч атрымаў патэнт на званне двараніна. Ён быў занесены ў шостую частку дваранскай радаводнай кнігі Мінскай губерні.

Для сучаснага чытача растлумачым: шаноўныя дваранскія кнігі падзяляліся на шэсць раздзелаў. У першы ўносіліся радаводы, якім дваранства прызначалася як бы за выслугі, з вяршынь улады. У другі — за ваенныя заслугі. У трэці — набытыя на службе грамадзянскай альбо атрыманыя ад нашчадкаў. У чацвёрты — замежныя роды. У пяты — тытуламі адзначаныя сем'і. У шосты — старажытныя пачэсныя дваранскія дрэвы.

З таго жніўня 1832 года землямера Мінскага павятовага межавага суда Вікенція Іванавіча Дуніна-Марцінкевіча чыноўнікі называлі не інакш як дваранінам, панам. А сам ён?

У першым драматычным творы «Сялянка» (1846) войт Навум Прыгаворка, ролю якога сыграў у Мінскім тэатры сам аўтар, так адказвае Юліі на яе запытанне: «А ты, мужык, хто такі?»:

— Мужык! Але, мужык! Хоць я сабе і мужык, да ўсё не просты. Знаеш гутарку: мы і самі з вусамі. Я — войт тутэйшага сяла, Навум.

Цяга да сялянскай мудрасці, жаданне ўшанаваць і ўзвысіць мову народа, служыць яму — гэта, верыцца, успрыняў Вінцэнт з малаком маці. Тут трэба мець на ўвазе, што яго бацькі хоць і шляхецкага роду, але свае зямлі не мелі, маёнткаў не будавалі. Гэткі статус набліжаў іх да становішча селяніна, які павінен быў пастаянна служыць, арандаваць, плаціць падаткі.

Біёграфы і даследчыкі Дуніна-Марцінкевіча пішуць коратка: «Нарадзіўся ў фальварку Панюшкавічы Бабруйскага павета ў сям'і арандатара». Мае архіўныя пошукі паглыбілі звесткі пра гэту мясціну, а яны ў сваю чаргу дапамаглі зразумець шлях пісьменніка да «Пінскай шляхты».

Маёнтак Панюшкавічы здаўна ўваходзіў у Бабруйскую бенефіцыю. Ён, нараўне з іншымі ўладаннямі, належаў магілёўскаму архібіскупу Сестржанцэвічу. Па іншых рукапісных дакументах —



Гэтыя краявіды Бярэзіны бачыў малы Вінцэнт

Сестранцэвічу. Прыкмеціў: калі да яго звярталіся палякі, то пісалі: «Сестржанцэвіч», калі рускія, то — «Сестранцэвіч».

Поўны тытул архібіскупа па тым часе пісаўся так: «Мітрапаліт Рымска-каталіцкіх цэркваў у Расіі, Архібіскуп Магілёўскі, Адміністратар Віленскай епархіі, старшыня Рымска-каталіцкай Духоўнай Калегіі ў 1-ым Дэпартаменце, святога Андрэя Апостала і іншых ордэнаў Расійскіх, Польскіх і Святога Іаана Іерусалімскага, Вялікага Крыжа, Кавалер Сестранцэвіч Station Станіслаў Богуш». У гэтым звароце змешчана кароткая біяграфія слыннага на Беларусі чалавека.

Духоўны айцец пражыў доўгае жыццё — дзевяноста пяць гадоў, з іх больш паўстагоддзя займаў высокую рэлігійную пасаду. Дарэчы, нарадзіўся ён у шляхецкай сям'і: бацька — кальвініст, маці — каталічка. Хварэў з дзяцінства, для яго наймалі настаўніка, і сам ён марыў стаць дамашнім настаўнікам для дваранскіх сем'яў.

Вучыўся ў кальвінісцкім пансіёне, слухаў лекцыі ў Франкфурце, Амстэрдаме, Лондане. Ды нечакана для сябе стаў афіцэрам гусарскага палка. Служыў харунжым у літоўскай гвардыі. Страляўся на дуэлі і з параненай рукой пайшоў у адстаўку.

Адстаўнога капітана Станіслава Богуша Сестранцэвіча прыняла настаўнікам Радзівілаўская сям'я. Там ён закахаўся ў багатую прыгажуню. Яна паставіла ўмову: «Замуж пайду толькі за католіка». Сестранцэвіч выканаў просьбу каханай, але яна яго падманіла, шлюб не адбыўся.

Душэйную рану дамашняга настаўніка змог залячыць віленскі біскуп Масальскі. Ён і прывёў Сестранцэвіча да рэлігіі. Пасля багаслоўскіх курсаў у Варшаве Масальскі даў свайму вучню пасаду каноніка і багатую плябанію ў Гомелі.

Сестранцэвіча прыкмеціла царыца Кацярына II. Сваім указам ад 22 лістапада 1773 года яна прызначыла таленавітага духоўнага айца ў новую беларускую епархію і даверыла яму ўзначаліць каталіцкую царкву ў Расіі.




Мемарыяльная дошка на будынку музея ў вёсцы Сычкава Бабруйскага раёна

Сестранцэвіча ведала Расія і Польшча. Ён быў прэзідэнтам імператарскага вольнага эканамічнага таварыства, ганаровым членам Маскоўскага, Віленскага, Кракаўскага універсітэтаў. Сам Фёдар Глінка, прадвадзіцель Санкт-Пецярбургскага таварыства аматараў расійскай славеснасці, вядомы паэт, аўтар папулярнай песні «Тройка», пісаў у Магілёў 23 снежня 1821 года: «Ваша высокапраасвяшчэнства, маю гонар паведаміць, што Вы абраны ганаровым членам нашага Таварыства за выдатныя пазнанні Вашы ў навуках і працах на карысць айчыннай славеснасці».

Можна і далей цытаваць архіўныя паперы, якія сведчаць пра вядомасць і пачцівасць архібіскупа. Але для нашых пошукаў важна адзначыць, што Сестранцэвіч — блізкі сваяк Марцыяны Нядзведскай, кажуць, родны дзядзька. І калі яна выйшла замуж за Яна Марцінкевіча, даў прытулак ім у маёнтку Панюшкавічы.

Марцыяна нарадзіла жаданага сынка Вінцэнта, якога ахрысцілі ў Бабруйскім касцёле. А Ян Марцінкевіч хутчэй за ўсё служыў адміністратарам у маёнтку Панюшкавічы. Гэты каштоўны і дужа прывабны куточак, відаць, любіў і наведваў сам архібіскуп Сестранцэвіч, бо давяраў яго толькі людзям надзейным.

Вядома, што з 1817 года адміністратарам у маёнтку Панюшкавічы быў тытулярны саветнік Станіслаў Сестранцэвіч, пляменнік архібіскупа. У той час Вінцэнту споўнілася дзевяць гадоў. Пазней ён сам напіша пра сябе: «З дзяцінства асірацелы...»Дык вось, той адміністратар Панюшкавіч Сестранцэвіч, якога дзядзька архібіскуп «снабдил полною доверенностью по управлению хозяйственными

деламі», і займаўся, думаецца, апекаю над асірацелым Вінцэнтам. Для пачатку ўладкаваў яго ў Бабруйскую павятовую школу.

Не выключаецца апека над сіратою і састарэлага архібіскупа Магілёўскага і мітрапаліта ўсіх рымска-каталіцкіх цэркваў у Расіі. Вядома, што цар Павел І займеў на Сестранцэвіча нейкую няміласць, і з лістапада 1800 года архібіскуп адседжваўся ў сваіх маёнтках: то ў Буйнічах, што за шэсць вёрст ад Магілёва, то ў Маляцічах, якія ўваходзілі тады ў Чэрыкаўскі павет. Мясцоваму губернатару быў аддадзены загад: «Сачыць за паводзінамі і вобразам жыцця архібіскупа». Відаць, да гэтага перыяду адзіноты і роздуму можна аднесці творчы ўзлёт Сестранцэвіча. Ён пісаў пропаведзі, трактаты па гісторыі, склаў трагедыю ў вершах, перакладаў англійскіх аўтараў.

Хочацца верыць, што дваюрадны дзед Сестранцэвіч перадаў па генах свайму ўнуку Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу багата якіх сваіх прыродных якасцей і жыццёвы вопыт. У Вінцэнта, як і ў дзеда, таксама здарыўся палюбоўны раман у сям'і, якой служыў. Але ён быў больш рашучы і ўкраў у бацькоў сваю шаснаццацігадовую каханку Юзэфу. Як і дзед, Вінцэнт Іванавіч быў пад наглядам паліцыі, і маёнтак яго Люцінка абкладваўся штрафнымі зборамі за ўдзел гаспадара ў паўстанні 1863 года. У літаратуры ўнук пераўзышоў свайго дзеда, бо яна стала для яго сэнсам жыцця.

І штуршком для паэтычнай узнёсласці Дуніна-Марцінкевіча сталі Панюшкавічы, іх чароўныя краявіды.

О, магіла бацькоў! — любых продкаў сядзіба!
Я вітаю цябе, мая родная скіба!
Я душою твае бачу ціхія нівы
І прыгадваю час — час мінулы, шчаслівы!..

*Благаслаўлёная сям'я*

На гэты куточак беларускай зямлі паэт гатоў прамяняць і пекны Парыж, і слынны Рым, і туманны Лондан, і старыя Афіны, і швейцарскія горы. Тут, здаецца яму, і ветрык больш лагодны, і жаўруковыя песні больш звонкія, і сонца на свет пазірае весялей, тут і дзяўчаты прыгажэйшыя, чым дзе, і нявесту вярнейшую не знойдзеш, чым тут. Чаму так? Ды таму, што паэт больш за ўсё адданы бацькоўскаму краю, «тут прывольна і ўтульна на ўлонні прыроды, тут ёсць праўда і шчырасць, тут людзі з душою, тут бацькоў маіх прах пад сырою зямлёю».

# ПОШУКІ СІВЫХ СЛЯДОЎ

*Я, выхаванец Бабруйскага павета,*
*ужо ў пазнейшыя часы, неаднаразова*
*наведваючы зямлю бацькоў,*
*з цікавасцю прыглядаўся да быту сялян,*
*якія насялялі бабруйскія нівы.*

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.
«Купала»

Праз 185 гадоў, як нарадзіўся ў Панюшкавічах Вінцэнт, едзем шукаць яго родны кут. Ні я, ні шафёр Мікола Дарашэнка, ні мае спадарожнікі Саша Трухан і Віктар Капацэвіч ніколі не былі там.

З архіваў ведаю: маёнтак Панюшкавічы знаходзіўся раней у Гарбацэвіцкай воласці, у 4-ым стане, ад Бабруйска — 12 вёрст, ад Мінска — 151 вярста. У 1909 годзе маёнтак складаўся з двух дамоў, у іх жылі 12 чалавек. Побач — пагост і хутар Панюшкавічы.

Але дзе сённяшнія Панюшкавічы?

На шашы стаяць гандляры бензінам. У іх галовах адно: як пабалей сарваць з падарожнікаў? Пра Дуніна-Марцінкевіча, Панюшкавічы і кончыкам вуха не чулі. Таксіст паціснуў плячыма. Запытаў па рацыі ў дыспетчаркі, з трубкі вылецеў ахрыплы жаночы голас: «Не морочь мне голову...» І ў самім Бабруйску гараджане здзіўленнем адказвалі на наш роспыт пра Панюшкавічы.

Крыўдна! Якія мы няўдзячныя да продкаў і сваёй гісторыі!

Перагортваю канспект, які занатаваў у Нацыянальным архіве Беларусі. У пісьме Мінскай казённай палаты губернатару ад 11 снежня 1839 г. сказана: «...у маёнтку Панюшкавічы, па восьмым народным перапісу, лічыцца 736 мужчынскага полу душ сялян, у тым ліку: у вёсцы Сычкова — 121, Краснай — 124, Пабокавічах — 77, Дуброве — 412, Юрыздзіцы — 2...»

Ага, трэба шукаць гэтыя вёскі. Дзесьці побач будуць і Панюшкавічы. Не сучасны ўказальнік, а даўнейшы дакумент дапамог знайсці патрэбны накірунак.

На дарозе каля вёскі Шчадка прыпынілі жанчыну ў фуфайцы. Шэрая ўся, што зямля, яна ішла і апетытна ўплятала аблупленую бульбіну. Калі спыталі ў яе, ці правільна едзем, усміхнулася на ўсе свае два зубы:

— Хэ, чытала калісь «Пінскую шляхту». От анцярэсна напісаў!..— махнула рукой у бок вёскі. — Панюшкавічы — каля магазіна налева...

Каля магазіна сустрэлі хлопчыка са школьным ранцам. Ходзіць у чацвёрты клас, але яшчэ не чуў, што жыве на радзіме Дуніна-Марцінкевіча, у адным кіламетры ад Панюшкавіч.

На выездзе з вёскі яшчэ раз перапыталі жанчыну, якая мыла ў балеі дзіцячыя курткі:

— Ці правільна едзем у Панюшкавічы?

— Туды! — кіўнула галавой перад сабой.

— Мо чулі, якога пісьменніка гэта радзіма?

— Тамка адны пенсіянеры, — абыякава буркнула жанчына.

Трывожны кіламетр дарогі. Хацелася ўсё-ўсё запомніць. І шызае качанне капусты, і рэдкія дрэвы на палетках, і восеньскі лес. Кінуліся ў вочы два дубы — кучаравы і ссохлы побач. Той, ссохлы, помніць, напэўна, Вінцэнта...

Ды нечакана засвяціліся на сонцы хаты. Убачылі на ўскрайку вуліцы бабульку, прыпынілі яе роспытамі:

— Гэта вёска Панюшкавічы?

— Ага, — бабулька паставіла на зямлю два кашы бульбы, рада, што можна адпачыць і пагаварыць.

— Кажуць, тут некалі нарадзіўся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч?

— Чула, але я няграматная, сынкі. Мне ўжо восемдзесят восьмы гадок, што й ведала, то забылася...

— Як жа вас велічаць?

— Кацярына я Станіслававa, а хвамілія — Гудзей... Тутка ў нас жыве Цыгун, Трухан, Жыгун і шчэ Гудзей... Восем хатаў... А Дуніна, сынкі, — нету...

— Ці быў тут які панскі дом?

— А як жа, сынкі, быў дом і быў пан Савеніч. От там, на пагурку, стаяў драўляны. Помню, як жа... Як памёр, бегала з сястрычкамі Богу маліцца. Свечкі ставілі. Вот пан харошы быў!..

У Кацярыны Станіславаўны заружавеліся шчокі. Несла з поля бульбу, думала пра нешта сваё, раптам акружылі незнаёмцы, распытваюць. Яна, задаволеная, ветліва расказвае:

— Мой бацька батрачыў у пана. От накосяць сена. Сабе шчыльна ўвяжуць, а пану высокі воз накладуць, усярэдзіне — пуста. Падвязуць пад вокны: «Выбірай, пане, каторы табе». Ён сядзіць на балконе, паказвае рукой на высокі воз, — смяецца Гудзеіха, аж слёзы высыпалі. — Харошы пан быў!.. От дзе сенажаць цяпера, там стаяў драўляны дом на два паверхі. Маёнтак той даўно разабралі...

На сенажаці мужчыны грабуць сена. Адзін возіць конную грабалку. Два маладзейшыя складваюць копы. А трое кансультуюць іх ды пакурваюць.

Каля дарогі — лапінка травы, не кранутая касой. Расце дзядоўнік. Іду па гэтай іржавай, калючай шчаціне. «Тут, вось тут стаяў маёнтак!.. Тут нарадзіўся Вінцэнт!..» — выстуквае сэрца. Ды вось жа, во вельмі выразныя дзве даўгія пасмы травы. Шыракалістая, цёмна-зялёная мяжа сярод дзядоўніку. Тут быў падмурак!

Кірую да саўгасных грабцоў. Яны маладога веку, але мо што чулі пра даўнейшыя Панюшкавічы, пра Дуніна-Марцінкевіча. Бавейшы з іх бае:

— Стаяла тут некалі іменне. Жылі ў ім розныя паны. Кажуць, наязджалі сюды і ксяндзы. Адзін з хадзяінаў удаўся бяздзетным. Нанялі пастуха. Пані з ім скруцілася. От ён падладзіўся і... нарадзіўся ў іх рабёнак. Ета і ёсць той самы Дунін. Ад пастуха нарадзіўся. Таму й разумны...



Бабуля Кацярына
з вёскі Панюшкавічы
чытала кнігу
свайго земляка
Дуніна-Марцінкевіча

Іржуць мужыкі, што коні. Грабуць сена. Хай у агульнай «капе» памяці будзе і іх легенда. Толькі крыўдна, ніхто не ведае сапраўднага лёсу Дуніна-Марцінкевіча.

Баба Гудзеіха падахвоцілася схадзіць з намі да помніка, растлумачыла:

— Тамка, кажуць, паставілі нейкі крыж. Сама не бачыла, няма калі хадзіць...

Пакідаем ціхую вясковую вуліцу. Выходзім у поле. Пясчаная дарога кіруе да лесу. Азіраюся: у восеньскім сонейку пазалотай высвечваюцца сядзібы. Усе восем асірацелых хацін захоўваюць назву вёскі — Панюшкавічы. Жывы помнік! А «гідам» сёння ў нас слаўная бабулька Кацярына, бацька якой нарадзіўся «тутка». Яна даводзіць пра тое, што апякло яе памяць:

— Ай, сынкі, адгаравала і я сваё. Мужа ў вайну расстралялі за сувязь з партызанамі. Шасцёра дзяцей на мне, меншая шчэ цыцку прасіла. Разграбілі ўсё чыста: сена, бульбу забралі, крупінка якая была — усё падмялі. Пакінулі ў чым стаялі. Во як жылі, сынкі, не давядзі Госпадзі... Пасля вайны закідалі мяне падзякамі за мужа-патрыёта. А каб дапамагчы жыць, дак ніхто на руку не плюнуў...

— У вайну Панюшкавічы не гарэлі?

— Вой, сынкі, ледзь ад нас галавешкі не засталіся. Ужо як назад немец вяртаўся, то вунька з таго лесу немцы выйшлі, хацелі узяць нашу вёску. А тутка наляцела «кацюша», як жа ўсыпала ім! Усіх пакасіла, што мост ляжалі перад Панюшкавічамі...

Падыходзім і мы да лесу. Тут — піянерскія лагеры: «Орленок», «Лесная сказка», «Ромашка». А вось і прафілакторый для рабочых Бабруйска, як сказала Гудзеіха, «дом вотдыху». На асфальтаванай стужцы, у канцы якой стаіць бетонная стэла, сустракаем трох маладзіц. Яны — на «вотдыху». Ідуць няспешна, адпачываюць, дыхаюць. Экзаменуем іх:

— Каму гэта стэла ўстаноўлена?

Баявейшая тлумачыць:

— Понимаете, он — не пролетарий, не коммунист. По культурной линии какой-то...

— А як яго прозвішча?

— Понимаете, сложная у него фамилия, двойная, трудно запомнить... Понимаете, Марианну знаем, Барбару из испанского телесериала любим, а о нем никто не говорил...

Вось і шэрая стэла. На бетоннай пліце прылеплена аблупленая выява Дуніна-Марцінкевіча, зроблены надпіс яго прозвішча. Вакол — трава, цішыня і адзінота.

Баба Кацярына абураецца:

— Госпадзі, колькі бывае тут за лета вучняў і настаўнікаў, хаця б кветкі пасадзілі... Маладзёж — прасі капейку... Ага, пакладуць кветку, дагоняць да яшчэ раз пакладуць...

Мы выйшлі за бетонную сцяну, якой абнесена стэла і «дом вотдыху». Ва ўсёй прыгажосці адкрыліся краявіды Бярэзіны. Як вокам кінуць, ляжаць зялёныя дываны лугоў. Кашлатае кустоўе вартуе берагі старажытнай рэчкі. А сама яна задумліва плыве і плыве на спатканне з Дняпром. От бы Бярэзіна расказала пра Панюшкавіцкі маёнтак, яго гаспадароў і гасцей! Яна — сведка таго, як цікаўны хлопчык Вінцэнт задумліва сядзеў каля яе чароўнага берага, як будучы паэт пакутліва шукаў першыя рыфмы.

На пяцідзесятым годзе свайго жыцця Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч пачне «пераварочваць» на беларускую гаворку шляхецкія быліцы Адама Міцкевіча пад назвай «Пан Тадэвуш». У прадмове да гэтай працы ён уласнаручна напіша: «Пана Тадэвуша», апранутага мною ў мужыцкую сярмягу, ахвярую панам і простаму народу з-над Дняпра, Дзвіны, Бярэзіны, Свіслачы, Віліі і часткова Нёмана».

# ШЛЯХ ДА «ЛЕБЯДЗІНАЙ» П'ЕСЫ

Наступным, пасля Панюшкавіч і Бабруйска, жыццёвым прыстанішчам для Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча стала Вільня. Як вядома, ён там вучыўся ў базыльянскай бурсе, а пасля — ва універсітэце.

Па сённяшні дзень існуюць дагадкі: ці то Вінцэнт паступаў у Віленскі універсітэт, ці то ў Пецярбургскі. Удакладненнем гэтага факта я не займаўся, але сваё меркаванне выказаць магу.

16 мая 1816 года цар Аляксандр I піша прасвяшчэннаму мітрапаліту Сестранцэвічу:

*«По случаю смерти Виленского Администратора Епископа Иеронима Стройновского Всемилостивейше повелеваем быть Вам впредь до повеления Администратором оной Епархии с сохранением настоящего звания Архиепископа Могилевского и Митрополита всех Римско-католических церквей в России...*

*Пребываю Вам всегда Благосклонный.*

*На подлинном собственною Его Императорского Величества рукою подписано тако: Александръ».*

Гэтым жа ўказам цар «повелел» даплачваць Сестранцэвічу 10 тысяч рублёў срэбрам у год за новыя службовыя абавязкі.

Улічым яшчэ адзін факт. Пляменнік мітрапаліта тытулярны саветнік Станіслаў Сестранцэвіч пасля смерці дзядзькі ў 1826 годзе перастае быць адміністратарам у Панюшкавічах і пераязджае на жыхарства ў Вільню. І няма ніякага сумнення, што дваюрадны дзед яго, адміністратар Віленскай епархіі Станіслаў-Богуш Сестранцэвіч, яшчэ пры жыцці сваім, і дзядзька, тытулярны саветнік, жыхар Вільні Станіслаў Сестранцэвіч далі прытулак Вінцэнту менавіта ў горадзе, у якім мелі ўладу і месцажыхарства, у горадзе, які вылучаўся ўжо тады як цэнтр высокай культуры і адукацыі.

Важна згадаць яшчэ аднаго чалавека, які пастаянна дапамагаў асірацеламу Вінцэнту. Ім быў біскуп Мінскай епархіі Мацвей Ліпскі, які паходзіць са славутага сямейнага роду герба «Граблі».

Шлях Ліпскага да біскупа азораны пастаяннай падтрымкай мітрапаліта Сестранцэвіча. Ён прыкмеціў таленавітага духоўніка яшчэ юнаком, калі той быў членам базыльянскага ордэна. Сестранцэвіч наблізіў яго да сябе, даверыў быць асабістым сакратаром. І пастаянна ўзвышаў Ліпскага па рэлігійнай службовай лесвіцы. Прызначыў яго канонікам Магілёўскай епархіі, пасля — прэлатам, архідыяканам, асэсарам рымска-каталіцкай калегіі. Урэшце Сестранцэвіч дамогся ў Ватыкана высокага сану для Мацвея Ліпскага — біскупа.

Пры ўсіх званнях і пасадах Мацвей Ліпскі пастаянна заставаўся асабістым сакратаром Сестранцэвіча, асобай даверанай і набліжанай да спраў, клопатаў і тайнаў мітрапаліта. Думаецца, Сестранцэвіч даручаў свайму сакратару вырашаць пытанні спадчыннасці, дапамогі родзічам, маёмасныя і фінансавыя праблемы.

У жніўні 1826 года Сестранцэвіч паслаў Мацвея Ліпскага з дэ-

легацыяй ў Маскву для ўдзелу ў каранацыі імператара Мікалая I. На такім пачэсным свяце трэба было б прысутнічаць самому мітрапаліту, але яму ішоў дзевяноста пяты год, а жыць заставалася ўсяго чатыры месяцы. Вось ён і даручыў ганаровую місію свайму вучонаму сакратару Мацвею Ліпскаму.

Вывудзіўшы з гісторыі такі факт і ўважліва прачытаўшы «быліцу, расказ» Навума Прыгаворкі «Халімон на каранацыі», хочацца верыць, што і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч быў «па блату» ўключаны ў каталіцкую дэлегацыю на каранаванне цара. Яму па тым часе споўнілася васемнаццаць гадоў. Юнацкія ўражанні ад незвычайнай падзеі намоцна аселі ў памяці. І калі ён ужо амаль у пяцідзесяцігадовым узросце пачаў пісаць тую «быліцу», то з дакладнасцю відавочцы падрабязна апісаў і дарогу праз Магілёў, Смаленск, Барадзін, Вязьму, і саму Маскву, якая «вяселлем кіпела».

У «Халімоне на каранацыі» ёсць такія малюнкі, што іх проста трэба бачыць, каб перадаць чытачу:

Такая там куча стаўпілась народу,
Што памеж галовак лінь ты смела воду,
Да яна да зямлі пэўна не даб'ецца,
З галоў людскіх склеен чыста пол, здаецца.

«Быліца», як бы даведнік Масквы, дзе пабываў аўтар разам са сваім героем: «на дварэ Крамліна», «у касцёле Успення», «Пры Васкрасенскіх варотах», «на Балванца» (Валхонка, старадаўняя вуліца ў Маскве. — *Ул. Л.*), «на Вараб'ёвых горах», «Сухаравай башні дзівілісь нямнога...».

У «быліцы» падрабязна апісана, як герой ратуе жанчыну з дзіцём у ашалелым натоўпе. Ён пачуў заклік: «Ратуйце, хто ў Бога верыць, добрыя людзі!» Ён убачыў, што «дзівы нарабілі квасу», і «стаў праціскацца паміж кучы многі». Кінуцца ратаваць у шматлюдным натоўпе жанчыну з дзіцём мог толькі моцны чалавек, з маладой, неўтаймоўнай энергіяй, якога ўзрушыла чужая бяда...

Біскуп Мацвей Ліпскі неўзабаве пасля паездкі ў Маскву на каранацыю ўзначаліў Мінскую каталіцкую кансісторыю. І пасля смерці мітрапаліта Сестранцэвіча ён застаўся вернай жыццёвай апорай для Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Падтрымліваў яго да канца сваіх дзён. Гэты вывад пацвярджаецца фактамі з біяграфіі пісьменніка.

Дзе шукае паратунку закаханы Вінцэнт са сваёй 16-гадовай Юзэфай Бараноўскай? У Мінску, у каталіцкай кансісторыі. Толькі біскуп Ліпскі, верны вучань шаноўнага Сестранцэвіча, мог узяць на сябе смеласць заступіцца за безабаронных маладых. Больш таго, даць Вінцэнту зарабляць на хлеб. Ён уладкоўвае яго то ў архіў сваёй кансісторыі, то на пасаду перакладчыка. У адным з архіўных дакументаў я прачытаў, што дваранін Марцінкевіч «вначале занимался у Епископа Липского делами по Канцелярии и по кабинету, потом переводами, и даже имел хождения по Его поручениям...»

Атрымліваецца, што працоўны стаж Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча складае дзевяць гадоў: з 1831 года, калі ён вяртаецца з Вільні ў Мінск з украдзенай жонкай, і па 1839 год, калі з жыццёвай арэны сыходзіць яго апякун біскуп Мацвей Ліпскі.

Пры жыцці шаноўнага біскупа ніхто не асмеліўся крыўдзіць ні Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, ні самога біскупа, доктара багаслоўя і кавалера ордэнаў Святой Ганны і Святога Уладзіміра.

Сямідзесяцігадовы біскуп Мацвей Ліпскі памёр 21 лістапада 1839 года. Праз два месяцы яго пераемнік прэлат Рава, згінаючыся перад губернскімі чыноўнікамі, узбуджае справу па высвятленні прэтэнзій да памёрлага біскупа. Адгалоскі гэтага следства балюча ўдараюць і па Дуніну-Марцінкевічу. У яго адбіраюць ужо выпісаны замежны пашпарт, адмяняюць паездку. І ўсё з той прычыны, што Вінцэнт Іванавіч нібыта павінен даваць паказанні духоўнай камісіі.

Пра гэта ганебнае следства я раскажу крыху пазней. Яно стане больш зразумелым, калі чытач даведаецца пра судзілішча над сям'ёй Іосіфа Цюхая-Ліпскага з ваколіцы Ольпень. Глыбока веру, што менавіта гэты царскі фарс даў штуршок для вялікага майстра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ўвасобіць зведанае ў фарсе-вадэвілі «Пінская шляхта».

## *ПІНСКІЯ ЎЮНЫ*

Сучасны даследчык жыццяпісу Дуніна-Марцінкевіча, нястомны шукальнік тайнаў Язэп Янушкевіч у прадмове да твораў пачынальніка беларускай літаратуры здзіўляецца: «Адкуль з'явілася ў пісьменніка дасканалае веданне Масквы, каб так падрабязна і дакладна намаляваць воблік тагачаснага горада ў быліцы «Халімон на каранацыі»? Адкуль драматург ведаў пінскую гаворку і чаму менавіта на ёй напісаў свой лепшы твор — камедыю «Пінская шляхта»?

На першае пытанне я выказаў сваю версію. Цяпер справа гісторыкаў удакладніць яе, праверыць. Дапускаю, што Вінцэнт мог і не ездзіць у Маскву на каранацыю цара, а яму пра гэта расказаў, падрабязна і ўзрушана, яго таленавіты апякун біскуп Мацвей Ліпскі. У любым выпадку свет на гэту таямніцу праліты.

Цяпер пра другую загадку Дуніна-Марцінкевіча: чаму яго лепшы твор звязаны з пінскай шляхтай?

Пра Палессе, Піншчыну ў мінулым стагоддзі напісана багата кніжак, даследаванняў. Лічылася, што царства лясоў і балот па абодва бакі Прыпяці самае глухое і цікавае па сваёй прыродзе і вобразу жыцця насельнікаў, што кожны беларус-паляшук абавязкова раз у год бегае ваўком па лесе.

Пінчукоў малявалі замкнёнымі дзікунамі і рэдкімі дзівакамі. Для іх пабываць у павятовым горадзе — падзея! А калі хто з падарожнікаў трапляў у іх паселішчы, то ўжо не шкадаваў фарбаў,

каб апісаць побыт балотных людзей, іх гаворку, песні, жарты, загадкі.

Напружце сваю фантазію і адгадайце пару паляшуцкіх прыдумак: «Каб не дзедава рамясло, у бабы б па калена нарасло». Што гэта? Аказваецца, не што іншае, як венік. «Стаіць слуп, а на тым слупе — хата». Ды гэта ж, ва ўяўленні пінчука, — чалавек.

Пра свае хаты яны прыдумлялі невясёлыя песні:

В сій хаты
Нэма чого даты:
Солому товкуть —
Пырогы пэкуть...

І вось сярод балотнага царства з даўніх-даўніх часоў пачалі з'яўляцца астраўкі іншай «цывілізацыі» — шляхецкія засценкі і ваколіцы. У засценках пасяляўся які-небудзь адзін род, а ў ваколіцах гуртавалася шляхта з рознымі прозвішчамі. Былі вёскі-«мешанкі», але пры ўмове, што ў адным канцы селяцца мужыкі, у другім — шляхта.

У розных канцах вёскі з саломы пякуць пірагі, але пагарджаюць адзін адным. У кожнага свае танцы і вяселлі. Хлопец з мужыкоў не мае права браць у жонкі дзяўчыну з шляхецкай сям'і.

Што б шляхціц з мужыцкай дочкай ажаніўся!
Я ж бы меж сваімі тагды не ўжыўся!
Пальцамі бы мяне усё вытыкалі,
Як ад злой сабакі, чурацца бы сталі!..

*В. Дунін-Марцінкевіч.*
*«Купала»*

Аднолькава аруць палетак. У адзін і той жа час сена косяць. Аднаму Богі моляцца. У адной сажалцы ўюноў ловяць. А не дай жа Госпад шляхціца абазваць мужыком!..

Гэта тэма, як кажуць, ляжала на паверхні. Яна цешыла багата каго. І не думаю, што такі востры і пільны мастак, як Дунін-Марцінкевіч, «клюнуў» на яе, каб «бязлітасна выкрыць пыхаватую забабонную шляхту, самой гісторыяй асуджаную на выміранне, і царскае самадзяржаўе з тупымі, прадажнымі чыноўнікамі-кручкатворамі». Не, дарагі Язэпе Янушкевіч, было, відаць, крыху не так.

Найперш улічым, што сам Вінцэнт з шаноўнага шляхецкага роду, які пачаўся «З найдаўнейшых часоў». Па-другое, у Дуніна-Марцінкевіча было сваё, адметнае знаёмства з пінскай шляхтай, сваё разуменне іх «пыхі».

Прыгадаем яшчэ раз «Халімона на каранацыі», там ёсць такія радкі:

Знайце ж, дзеткі, павет Пінскай,
Зямля губерніі Мінскай —
Вяліка там нізіна;
А ўюноў — мае міленькі!
Лаві прыполам радзенькі,
Што роў, то прыстань ўюна!..

Такія звесткі Халімон атрымаў ад смаленскага старшыні Стахоўскага: «Базылём яго хрысцілі, Шавалончыкам манілі, ён з Пінска вядзе род свой». Стахоўскі таксама ездзіў на каранацыю, браў з сабой «уюноў ражончык — то ж, брат, царская яда!».

Так мы ў дальшую дарогу
З Базылём вось — хваліць Богу! —
Ў адной брычцы пацяглі,
І нам было весяленька,
Да і кішэні схадненька —
Папалам мы кошт вялі...

Калі праўда, што Вінцэнт ездзіў на каранацыю цара ў Маскву, то апраўдана і тое, што ён пасябраваў менавіта са смаленскім старшынёй. Род жа Дунінаў-Марцінкевічаў зачаўся ў Смаленскім ваяводстве, калі яго прапрародзіч быў «узнагароджаны» маёнткам Марцінкевічы.

А што да ўюноў, то іх хлопцы «дзельна» ўпляталі ў Маскве. Выходзілі ранкам «із квацеры», клалі ў кішэні: «я талакна мяшок, уюноў Шавалонак». На іх беларускія ласункі аднойчы пакваціліся маскоўскія жулікі...

Уюнамі задобрываюць і Іван Цюхай-Ліпскі з сынам Грышкам станавога прыстава Кручкова ў «Пінскай шляхце»:

«Кручкоў. А Цюхай-Ліпскі з сынам ёсць?

Дзесяцкі. Цюхай, апроч мёду і рыбы, прыцяг дзесяць вянкоў сушаных баравікоў, а сын яго — капу ражынкаў-уюноў.

Кручкоў. Добра, добра! Усё ўпакаваць асцярожна!..»

Як бачым, Дунін-Марцінкевіч даволі «апетытна» згадвае пінскія ўюны. Імі не толькі ласаваліся, а і разлічваліся за падаткі, штрафы, тавары. Калі я расказаў пісьменнікам Віктару Карамазаву і Анатолю Кудраўцу пра гэта, яны амаль у адзін голас прапанавалі:

— Слухай, от бы беларускія грошы так і назваць: «уюны»!

Прыкінулі, колькі «ўюноў» каштавала б пляшка «Белавежскай», тона паперы, кватрплата. Пажартавалі, пасмяяліся, а прапанова вядомых празаікаў асела ў памяці.

У нашай жа сур'ёзнай размове пра тайну Дуніна-Марцінкевіча ўюны — толькі «нітачка», першыя яго «крокі» насустрач самабытнаму краю, яго пачатковая цікаўнасць да «царства лясоў і балот», да іх насельнікаў.

А ключом да стварэння «Пінскай шляхты», верыцца, стала «Справа № 39», заведзеная ў Мінскай духоўнай кансісторыі па загадзе Мінскага губернскага праўлення. Сутнасць яе закладзена ў віхляста-кручкатворнай назве «Об учинении распоряжения к присоединению семейства шляхтича Иосифа Липского, совратившегося из православия в римско-католический обряд».

«Справа» пачата 17 лістапада 1837 года, якраз тады, калі Вінцэнт Іванавіч Дунін-Марцінкевіч дапамагаў біскупу Мацвею Ліпскаму па канцылярыі і па кабінету, «имел хождение по Его поручениям». Ганебная валтузня вакол сям'і Іосіфа Цюхая-Ліпскага апісана на 436 старонках і доўжылася... трыццаць тры гады. Пра

гэта раскажу асобна ў сваім даследаванні. А пакуль што звернем увагу толькі на адзін факт.

Іосіф Рыгораў Цюхай-Ліпскі, які правінаваціўся перад праваслаўнай царквой, меў пастаяннае месца жыхарства ў шляхецкай ваколіцы Ольпень. Дарэчы, назву ваколіцы мне карцела пачынаць з літары «А», але даведаўся ад старажылаў, што спрадвеку, хто там жыве, называюць сваё паселішча з націскам на пачатковае «О».

Дык вось, тая знакамітая ваколіца Ольпень знаходзілася то ў Мазырскім, то ў Пінскім паветах. Цяпер гэта Столінскі раён.

А мы ўжо ведаем, што Ольпень — радаводная крынічка Цюхаёў-Ліпскіх. Яна «бруіцца», згодна з архівамі, аж з 1513 года.

Цяпер зноў звернемся да неўміручай п'есы Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта» і прачытаем уважліва самыя першыя радкі: «Рэч адбываецца ў ваколіцы О... паміж балотаў, у глушы Пінскага павета. Сцэна паказвае шляхецкую ваколіцу...» Сёння мы маем поўнае права дапісаць замест шматкроп'я назву ваколіцы — Ольпень. І можам сцвярджаць, што тут у свой час бываў сам аўтар Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Прачытайце яго верш «Вясна!»:

Жаўруча, сіняй вясны вястуне!
Высока ў неба, малы, узбіся,
Збудзі прыроду, жыцця пяюне,
Удзячнаю песняй з высяў...

Далей паэт услаўляе апантаныя песні салаўя, адзначае, што «воляю дыхае наваколле, сонейка нават смяецца вясёла».

О Божа! Бясконцы дабра крыніцы,
Калі твой люд, што цябе абражае,
Заместа кары з тваёй жа дзясніцы
Такое багацце мае.

Пад вершам аўтар зрабіў подпіс: «Ольпень, мая 12 дня 1849 года». Наступным днём, 13 мая, напісаны новы верш — «Прыпяць», а пад ім адзнака: «На водах Прыпяці». Дык быў жа, быў Дунін-Марцінкевіч у ваколіцы Ольпень! Быў на тым месцы, дзе паспрачаліся і пабіліся Іван Цюхай-Ліпскі з Ціхонам Пратасавіцкім!

Сярод герояў фарса-вадэвіля ёсць і Цімох Ольпенскі. Сем'і з такім прозвішчам, як і Цюхаі-Ліпскія, Шпакоўскія, Ляшкевічы, Бруцкія, Канапліцкія, жывуць і ў сённяшняй вёсцы Ольпень, што за пяць кіламетраў ад Давыд-Гарадка.

## *СЕНАТ, СІНОД І ЎПАРТЫЯ ЦЮХАІ*

Усё пачалося з кахання.

Рыгор Іванаў Цюхай-Ліпскі нарадзіўся ў чацвёртым калене ад маці Хвеі. Ён быў адзіным сынам у бацькоў і ўвесь сабраны імі капітал пусціў у справу.

У дваюраднага брата Аляксандра набыў маёнтак у ваколіцы Ольпень. А ў зямяніна Юзэфа Калусоўскага выкупіў хутар, там жа, у Ольпені, з двума падданымі — Грышкам Самусковым і Амелькам Лапатовічам. Выкупіў з іх «обоего пола» сямействамі за паўтары тысячы срэбраных манет «на вечные и невозвратимые времена». Акт купчай афармлены ў земскім судзе Мінскага ваяводства «генвара восьмага 1781 года».

Набыўшы нерухомы і рухомы скарб, праваслаўны Рыгор Іванаў ажаніўся ў 1793 г. на «девице римско-католического исповедания и сам принял ее исповедание». З гэтай скупой даведкі напрошваецца адзіны вывад: Рыгор быў закаханы ў сваю абранніцу. Відаць, гром і маланкі праносіліся паміж іх бацькамі. А маладыя варылі свой «квас», і рашучы Рыгор адчаяўся нават памяняць сваю веру дзеля святога пачуцця.

Ці ж не героі гэта «Пінскай шляхты»?

Памятаеце, у п'есе Грышка, сын Івана Цюхая-Ліпскага, закахаўся ў Марысю, дачку Ціхона Пратасавіцкага. П'яныя іх бацькі завяліся да пабіліся. Ціхон на «кручкоўскім» судзе даў тлумачэнне сваёй агрэсіі: «Дык ён жа назваў мяне мужыком, — хрэн яму ў вочы!»

Грышка Ліпскі просіць суддзю: «Найяснейшая карона! Мы — ад веку пінская шляхта, і ты шляхціц. Не глумі ж, не пэцкай у балоце шляхецкай, братняе табе, крыві! Скасуй строгі твой дэкрэт, на сорам нашай ваколіцы пісаны, — паміры майго бацьку з Ціхонам, сатвары маё і Марысі шчасце, а мы, цэлаю ваколіцай, век за цябе будзем Бога прасіць і век табе дзякаваць».

У Марысі Пратасавіцкай свая малітва: «Няхай ганіць бацька, няхай лае маці, а я люблю Грышку і любіць яго век буду. Ой, бедныя ж нашы галаванькі!..»

Гэтак у п'есе. А жыццё ў Ольпені рухалася, як зямля па арбіце. Шчаслівы Рыгор Іванаў Цюхай-Ліпскі з «девицею римско-католического исповедания» займеў ажно чатырох сыноў — Юзэфа, Івана, Пятра і Гаспара. Усе яны ахрышчаны ў касцёле, трымаліся веры бацькоў.

Ды вось жа паўтарыўся радаводны стрэс. На гэты раз Рыгораў сын Юзэф закахаўся ў дзяўчыну з процілеглага рэлігійнага лагера. І зноў мацнейшай і больш паслядоўнай стала нявеста. Жаніх, католік Юзэф, у 1805 годзе даў пры вянчанні падпіску, што яго дзеці, па жаданні жонкі Таццяны, будуць ахрышчаны і выхоўвацца ў праваслаўнай веры.

Сыр-бор разгарэўся з-за таго, што дзеці таго Юзэфа, Іосіфа Рыгорава Цюхая-Ліскага, — Вінцэнт, Фларыян, Караліна і Кацярына — у абход бацькавай распіскі, а можа, з яго благаславення, трымаліся каталіцкай веры, былі ахрышчаны не ў царкве, а ў касцёле. Вось і трапілі ў няміласць да царскага Сінода.

Трэба ўлічыць, што якраз ішло ўмацаванне праваслаўя на Беларусі пасля яе далучэння да Расіі. І тут, відаць, выкарыстоўваліся ўсе «прыемлемыя» метады насілля. Так і з'явілася «Справа № 39»

№ 284.
441.

Тюхай-Липскій

16 Октября 1870 г.

201

ЦѢНА 70 КОП. СЕРЕБРОМЪ

ВСЕПРЕСВѢТЛѢЙШІЙ, ДЕРЖАВНѢЙШІЙ,

ВЕЛИКІЙ ГОСУДАРЬ ИМПЕРАТОРЪ

**АЛЕКСАНДРЪ НИКОЛАЕВИЧЪ,**

САМОДЕРЖЕЦЪ ВСЕРОССІЙСКІЙ, ГОСУДАРЬ ВСЕМИЛОСТИВѢЙШІЙ!

Проситъ Дворянинъ Мозырскаго Уѣзда Игнатій Иванова-Гаспрова Тюхай-Липскаго о нижеслѣдующемъ

разрѣшить Прошенія

1.

Родственникъ просителя дворянинъ Мозырскаго уѣзда Флоріанъ Іосифовъ Тюхай-Липскій ходатайствовалъ о сопричисленіи Липкорода Тюхай-Липскихъ, къ утвержденнымъ въ Дворянствѣ отцамъ ихъ, и при его прошеніи поданномъ въ Минское Дворянское Депутатское Собраніе 8. Іюля 1870 года, между прочими документами представлено было свидѣтельство Мозырскаго Уѣзднаго Предводителя Дворянства отъ 24 февраля 1870 года за № 69. выданное о томъ: что Тюхай не составляетъ особаго фамильнаго названія а только предъ-фамильный Прійдомокъ; каковое свидѣтельство вмѣстѣ съ прочими документами покойнаго сопричисленія Тюхай-Липскіе къ роду, представлены на разсмотрѣніе Правительствующаго Сената по Департаменту Герольдіи при рапортѣ Минскаго Дворянскаго Депутатскаго Собранія отъ 21 Іюля 1870 года за № 1385.

Посему прошу

2.

При отзывахъ Мозырскаго Уѣзднаго Предводителя Дворянства отъ 14. Апрѣля 1860. года и 6. Апрѣля 1870 г. за №№ 230. и 126. представлены между прочими, о Тю=

аб далучэнні шляхціца Іосіфа Цюхая-Ліпскага і яго дзяцей з ваколіцы Ольпень да праваслаўнай веры.

Цяжка цяпер устанавіць, хто першым кінуў запалку ва ўзрыўную справу, але 18 жніўня 1837 года з'явіўся на свет указ урадавага Сената пад № 3289, які імем яго імператарскай вялікасці самадзержца усерасійскага патрабаваў ад Мінскага губернскага праўлення вярнуць дзяцей шляхціца Іосіфа Рыгорава Цюхая-Ліпскага з каталіцкай у праваслаўную веру. Узнік і яшчэ адзін чыноўніцкі вокрык: прыцягнуць да адказнасці духоўных асоб, якія правялі з дзецьмі Іосіфа Ліпскага каталіцкі абрад!

Маланка бліснула ў Санкт-Пецярбургу, гром грымнуў у Мінску, а дождж паліўся над шляхецкай ваколіцай Ольпень. З праваслаўнай кансісторыі за подпісам архіепіскапа Міканора градам пасыпаліся ў Пінск і Мазыр строгія ўказанні: даручыць праваслаўнаму святару, прыстойнаму і здольнаму, які жыве непадалёк ад шляхціца Ліпскага, цярпліва пераканаць «означенного» ў далучэнні яго дзяцей да грэка-расійскай рэлігіі.

З Мазырскага духоўнага праўлення спешна адпісалі, што ваколіца Ольпень уваходзіць у Пінскае духоўнае праўленне. Пісьмо наводзіць на роздум: Мінская кансісторыя не арыентавалася ў сваіх геаграфічных уладаннях, а мясцовыя святары не вельмі жадалі склочных спраў.

Неахвотна кідаліся «увещевать» дзяцей католіка Ліпскага і пінскія святары. Настаяцель астраглядавіцкі Пазняк паспяшаўся прасіць «по причине болезни увольнения его от производства следствия». Святар петрыкаўскі Грабоўскі растлумачыў архіепіскапу Міканору, што ў яго прыход ваколіца Ольпень не ўваходзіць і што яна далекавата ад Петрыкава.

Урэшце «апякун» над Цюхаямі знойдзены. Ім аказаўся вялеміцкі святар Стэфан Каржанеўскі.

Вялемічы ад Ольпені кіламетры чатыры. У сонечны дзень бачны дахі ваколіцы. І Каржанеўскі пратупаў па той палявой дарозе не адзін раз. Асабліва на першым часе, акрылены даверам самога архіепіскапа. Учытаемся ў яго рапарт:

*«В исполнение указа Пинского Духовного Правления, коим поручено мне вразумлять и увещевать детей Иосифа Тюхая-Липского возвратиться в недра Православной церкви, честь имею Вашему Высокопреосвященству донести, что, сколько я ни старался делать вразумений и увещеваний дочерям Иосифа Липского Екатерине и Королине, но за всем тем мои увещевания остались тщетны. Они заявили, что лучше согласны лишиться жизни, нежели возвратиться в недра Православия...»*

Я прачытаў пяцьдзесят адзін рапарт вялеміцкага благачыннага Стэфана Каржанеўскага ў Мінскую кансісторыю. Яго звесткі зводзіліся да аднаго: дзеці шляхціца Ліпскага ўпарцяцца, не з'яўляюцца на споведзь, застаюцца пры сваіх перакананнях, пры ўсіх стараннях царквы не бачыцца надзеі...

Пра ўсё гэта адміністрацыя кансісторыі рэгулярна дакладвала губернатару. І вось з яго ўладарных кабінетаў паступіла ўказанне:

Працтэнне Караліны Патоцкай, дачкі Іосіфа Цюхая-Ліпскага, аб абароне яе каталіцкай веры

тэрмінова выклікаць непакорных Цюхаеў-Ліпскіх у Мінск і ў сталіцы паставіць іх на калені!

Як кажуць, пайшла пісаць губерня. Даляцела вестка і ў Ольпень да двараніна Юзэфа Ліпскага, які мардаваўся на сваёй валоцы ад цямна да цямна, а капіталу так і не займеў. Ён купіў гербавую паперу коштам адзін рубель срэбрам і прадыктаваў брату свайму Пятру, які ведаў алфавіт, прашэнне ў Мінскую грэка-расійскую духоўную кансісторыю:

*«Хотя оная Консистория указом и предписала Детей моих, а именно Дочерей Каролину и Катерину и сына Викентия выслать в оную для наклонения их в православие, но как сие состоит с большим расходом и я, будучи не состоятельным для того прибытия под покровительство оной Консистории, прошу покорнейше от таковых расходов меня уволить...»*

Сваё пісьмо напісала высокапраасвяшчэннаму архіепіскапу мінскаму і гродзенскаму і кавалеру Міканору дачка Юзэфа Цюхая дваранка Караліна Патоцкая. За яе, неадукаваную, падпісаў ліст ўсё той жа Пётр Ліпскі. А пісьмо складзена зноў жа па-руску, бо тады беларускія праваслаўныя чыноўнікі і самі карысталіся, і прымалі пасланні толькі на мове расійскай. Вось споведзь Караліны Іосіфавай:

*«Отец мой вероисповедования католического, по сему обряду крестил меня, брата моего Викентия и сестру Катерину, и по сему обряду мы в оной вере от младенчества находились, о чем удостоверяют крестные метрики и исповедные расписки.*

*Сейчас не знаю, по какому случаю истребовано меня с братом и сестрой в Минскую греко-российскую духовную консисторию для обращения в православную веру. Признаю и почитаю сию веру за единую, что и*

*римско-католическая, ибо основание оных от Единого Бога, Сына Его Исуса Христа и Святого Духа происходит. Осмеливаюсь всенижайше просить Вашего Высокопреосвященства оставить меня с братом и сестрою при всех тех же обрядах веры римско-католической, исполнение которых не противится религии Бога и Сына его установленной».*

Ні мальба бацькі аб яго беднасці, ні просьба дачкі аб яе вернасці Богу, Сыну Яго і Святому Духу не супынілі духоўных чыноўнікаў. Яны ўсе дрыжалі перад указам Сената. Час ішоў, а ўказ не выконваўся, таму і былі прыняты экстрэмальныя меры.

Пад канвоем мазырскага станавога прыстава Ціханоўскага ў Мінск на пачатку верасня 1839 года дастаўлены з Ольпені дзеці Іосіфа Ліпскага — Караліна, Кацярына, Вікенцій. Давайце ўзбудзім наша ўяўленне.

Верасень. Дні ў гэтым месяцы пачынаюць карацець. Завітваюць дажджы, загульваюць вятры, пракідваюцца замаразкі. Гаспадары зямелькі спяшаюцца выкапаць бульбу, убраць гародніну, садавіну. У гэты час бацька Юзэф і маці Тацццяна выпраўляюць у далёкую дарогу траіх сваіх дзяцей.

Шлях далёкі — да Мінска 293 вярсты. Едуць параконкай. З начлегамі. Што думаюць у дарозе, пра што гавораць?

У Ціханоўскага ў кішэні «Адкрытае прадпісанне» з чырвонай сургучнай пячаткай да паліцэйскіх служак. У ім сказана, што ён вязе ў сталіцу па загадзе Мазырскага земскага суда дзяцей дваравіна Цюхая-Ліпскага. Яму і яго спадарожнікам трэба даваць дзённыя і начныя кватэры з харчам. А калі спатрэбіцца, то браць праваднiка і пільнаваць, каб хто з Цюхаёў не збег па дарозе.

Паперка гэта захоўваецца ў архіве. Бачна, што складвалася раней у чатыры столкі. Зашмальцаваная, напэўна, Ціханоўскі багата каму паказваў яе на доўгім шляху.

У станавога прыстава роля вызначана. Ён казённы служка. А вось пра што думаюць на марудных вёрстах Караліна, Кацярына, Вікенцій Іосіфавы Цюхаі-Ліпскія? За якія грахі тармосяць іх? Няўжо за бацькоўскае каханне? Чым яны прагнявілі Бога? Вераць жа яму з люлькі, спавядаюцца перад ім за кожны крок! Няўжо ў Санкт-Пецярбургу і ў Мінску лепш за іх ведаюць, якой рэлігіі ім прытрымлівацца? Ці няма чаго рабіць Сенату, губернатару?

Старэйшая з іх Караліна, ёй ад роду трыццаць гадоў. Хрышчаная ў касцёле. Нічога не ведае пра бацькаву падпіску перад вянчаннем. Але пры чым тут бацька, калі яна даўно замужам за католікам Васілём Патоцкім. Яе сыну Мікалаю ўжо дванаццаць гадоў, Аляксандру — дзевяць, Феліксу — шэсць, Адаму — чатыры, дачцы Вікторыі — восем. А пад сэрцам носіць шостае дзіця.

Малодшыя з Ліпскіх, Кацярына і Вікенцій, усю дарогу мілаваліся краявідамі. Побач з трывогай, таямніцай паездкі жыла і радасць: хаця ўбачаць свет, пабываюць у сталіцы, адпачнуць ад сялянскіх мазалёў.

Іх прывезлі ў праваслаўную кансісторыю і пачалі «увещевать», апрацоўваць, паварочваць да праваслаўнай веры. Чатыры дні, а ме-

навіта 6, 7, 11 і 13 верасня, з імі гутарылі кафедральны протаіерэй Іаан Шыманоўскі і два саборныя святары — Васіль Канапацкі і Іаан Прорвіч. «В духе евангельской кротости с довольным внушением и вразумением» ім даводзілі важнасць праваслаўнай рэлігіі. Самому архіепіскапу Міканору данесена: дзеці шляхціца Ліпскага з ваколіцы Ольпень — неслухі, упартыя ў сваіх пераканаННях, іх сэрцы халодныя да грэка-расійскай веры.

І тут міжволі ўзнікае пытанне: адкуль у тых Цюхаеў смеласць, якая гаючая крыніца іх натхняла?

Вытокі мне бачацца два. Першы: іх асабістая прыхільнасць да абранай веры, бязгрэшнасць перад небам і людзьмі, перакананасць у сваёй праваце. Другі: іх нехта моцна падтрымліваў у барацьбе супраць урадавага Сената і самога архіепіскапа Міканора. Хто гэта быў?

Логіка жыцця падказвае, што такім уплывовым чалавекам мог быць біскуп Мінскай каталіцкай кансісторыі Мацвей Ліпскі, людзі яго адміністрацыі.

Дзеці Цюхая-Ліпскага з Ольпені жылі ў Мінску дзесяць дзён. Гордых шляхцюкоў, якія дагэтуль ніколі далёка не ад'язджалі са сваёй ваколіцы, чатыры дні «увещевали» высокія праваслаўныя чыноўнікі. А што рабілі, чым займаліся Караліна, Каця і Вікенцій у астатнія дні, доўгімі вераснёўскімі вечарамі?

Няма сумнення, што яны шукалі паратунку ў процілеглай кансісторыі, якая служыла інтарэсам католікаў. Верыцца, што старэйшая з Цюхаеў—Караліна разам з сястрой і братам пратапталі тайную сцяжыну да біскупа Мацвея Ліпскага. Яны паскардзіліся яму на самавольства, насілле над імі грэка-расійскай царквы, папрасілі паратунку і парады. Іх з разуменнем прынялі, інакш і не магло быць у каталіцкай кансісторыі. А ў ёй у гэты час служыў перакладчыкам і даручэнцам біскупа Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

Вось і адбылася сустрэча пісьменніка з будучымі героямі «Пінскай шляхты». Іх трагедыя, душэўная і маральная, да якой падштурхнулі царскія сатрапы, глыбока асела ў чуллівым сэрцы мастака. Праз дзесяць гадоў ён збярэцца і паедзе на Піншчыну, пабывае ў ваколіцы Ольпень, у Мазыры, праплыве па чароўнай Прыпяці. А ў зеніце актыўнай і плённай творчасці напіша сваю «лебядзіную» п'есу.

Падзеі з Цюхаямі, за якімі, верыцца, сачыў і не мог іх не ведаць Дунін-Марцінкевіч, абрасталі як снежны камяк, які падае з гары. Новай «гарой», калючай і крутой, стаў свяцейшы Сінод.

У лютым 1840 года новым праваслаўным архіепіскапам у Мінску стаў праасвяшчэнны Антоній. Калі яму далажылі пісьмовым рапартам пра неслухаў Цюхаеў-Ліпскіх, ён налажыў на ім архіпастырскую рэзалюцыю: «Вызвать их вторично и ко мне представить».

І загрымела зноў у Мінск параконка з ольпенскімі «злачынцамі». Яны мелі на руках адкрытае прадпісанне да ўсіх паліцэйскіх

служак. Начавалі ў Слуцку, бо на прадпісанні стаіць пячатка мясцовага земскага суда.

Караліну, Кацярыну, Вікенція прыняў сам архіепіскап Антоній. Ён, відаць, быў пераканаты, што сваім высокім санам і аўтарытэтам зробіць пераварот у душах непакорнай шляхты. Гэта была б яго перамога і над сваім папярэднікам архіепіскапам Міканорам, якому не ўдалося «совратить» Цюхаёў у праваслаўе.

Але і на гэты раз духоўнае «увещевание» не выратавала «заблудших овечек». Антоній піша сваё заключэнне: «Поелику Липские не знают общих основ христианской религии и потому не могут с пользой принять увещеваний, поручаю их учить катехизису протоиерею Шишко. Если они не имеют чем в Минске содержаться, дозволить, дабы они учились катехизису у местного благочинного, [redacted] после изучения были востребованы [redacted] консисторию для увещевания».

У дзяцей Іосіфа Цюхая-Ліпскага закончыліся ольпенскія запасы хлеба, сала, сушаных уюноў, і яны пачалі прасіцца дадому. Іх адпусцілі пад залог, што дома засядуць вучыць мудры катэхізіс.

Архіепіскап Антоній данёс аб праведзенай рабоце губернскаму праўленню. Тыя ў сваю чаргу адрапартавалі пра безнадзейных Цюхаёў ва Урадавы Сенат. Так справа дакацілася да Свяцейшага Сінода. Ёю заняўся асабіста обер-пракурор Сінода генерал-ад'ютант граф Мікалай Аляксандравіч Пратасаў. Яго грознае ўказанне маланкай прыляцела ў Мінскую кансісторыю:

«Предписываю Вам заботиться о немедленном, на законном основании, удовлетворении по сему делу требований Гражданского ведомства и доложить мне о причине замедления».

Зноў завіхурыла вакол Ольпені і Цюхаёў-Ліпскіх. Калі чытаеш усялякія кручкатворныя даносы, прадпісанні, даручэнні, то часам здаецца, што іншых клопатаў у дзяржаўных мужоў і духоўных пастараў не мелася, як толькі даканаць ольпенскіх парушальнікаў, каб яны прынялі «первобытную» праваслаўную веру.

Умяшаўся ў гэту склочную справу і сам бацюхна цар. Пра гэта сведчыць даклад Пратасава ў Сінодзе 18 кастрычніка 1844 года. Ён паведаміў:

*«Сие дело было представлено на Высочайшее усмотрение Государя Императора. Его императорское величество в 21 день минувшего марта между прочим повелеть изволили поручить Православному Епархиальному начальству склонить Екатерину Иосифову Липскую и Каролину Иосифову Потоцкую к возвращению вместе с дочерьми последней и Викторией, рожденной в 1839 году, в православие...»*

Обер-пракурор Пратасаў заўважыў прысутным, што за невыкананне гэтага «повеления» вінаватыя будуць пакараны па ўсёй строгасці законаў.

У царскім указанні, як бачым, не ўпамінаецца сын Цюхая Вікенцій. З хлопцам перад гэтым правялі сілавыя ўгаворы. Выклікалі ў Мазыр, пасадзілі на некалькі дзён у следчы ізалятар. З ім вялі гутарку член суда і духоўны дэпутат. У выніку Вікенцій «даў»

падпіску, пра якую тут жа паведамілі ў Міністэрства ўнутраных спраў, Сінод і кансісторыю.

Вось гэты дакумент, які пісаў Вікенцій пад дыктоўку мазырскага суддзі:

*«Я, нижеподписавшийся Дворянин, утвержденный в сим звании Герольдиею, околицы Ольпень Викентий Иосифов Липский дал сию подписку Мозырскому земскому суду в том, что я чистосердечно принял исповедать православную веру отныне и навсегда, и в таковой вере буду исполнять до конца жизни моей. В том собственноручно расписываюсь».*

Праз нейкі час вялеміцкі святар Стэфан Каржанеўскі прыслаў свой чарговы данос у Пінскае духоўнае праўленне. Адтуль ліст паляцеў у Мінск. Які ўжо раз мясцовыя ўлады прызнавалі сваё бяссілле. Яны паведамлялі ў сталіцу, што не толькі Караліна і Кацярына, але і брат іх Вікенцій, які даў падпіску, быць праваслаўнымі не жадаюць. А Вікенцій пры гэтым тлумачыць: «Дал подписку по принуждению».

Упартых дачок Цюхая-Ліпскага захацеў убачыць мінскі губернатар. Іх прывезлі ў Мінск пад канвоем. Прывялі ў кабінет уладара, і той, распушыўшы вусы, даводзіў ольпенскім шляхцянкам, што імі зацікавіўся сам цар Мікалай I.

Па выніках гэтай сустрэчы губернатар напісаў архіепіскапу Антонію сваё заключэнне:

*«Екатерина Иосифова Липская и Каролина Иосифова Потоцкая, присланные ко мне Мозырским земским судом на основании Высочайшего повеления от 21 марта сего года, после всех сделанных мною увещеваний остались в своем упорстве непреклонными. И потому, согласно выше означенному Высочайшему повелению, имею честь препроводить упомянутых женщин Липскую и Потоцкую для дальнейшего со стороны Вашего Высокого преосвященства распоряжения...»*

З неслухамі праводзіў духоўныя ўрокі протаіерэй Ануфрый Мінкевіч. Цюхаямі пачаў займацца новы, трэці (!) за гэты час, архіепіскап мінскі і бабруйскі Міхаіл. Яшчэ дзевяць разоў разбіраў справу ольпенцаў Ліпскіх Свяцейшы Сінод. З дакладаў оберпракурора Пратасава даведваемся, што гасудар імператар яшчэ раз, а менавіта 25 снежня 1852 года, «Высочайше повелеть соизволил» мясцоваму праваслаўнаму духавенству пераконваць дзяцей Іосіфа Ліпскага ў ісцінах праваслаўя, «не стесняя впрочем их личности», а нованароджаную дачку Караліны Патоцкай праз хрышчэнне далучыць да праваслаўя.

Дырыжорам выкручвання душы ў ольпенскай шляхты быў обер-пракурор Сінода Пратасаў. Валтузня, бойка Пратасава і Цюхая-Ліпскага выклікае гнеў і смех, горыч і пацеху. Як і ў фарсевадэвілі Дуніна-Марцінкевіча: пабіліся, «хрэн ім у вочы», два прыстойныя ольпенцы — шляхцюк і мужык. Дык мо герой вадэвіля Ціхон Пратасавіцкі і «ахрышчаны» аўтарам у такое прозвішча, каб тонка высмеяць пыхлівага графа Пратасава? Да таго ж паны Пратасавіцкія жылі ў Пінскім, Мазырскім паветах. Аўтару выгадна было «схавацца» за іх.

Дзеянні Пратасава, як обер-пракурора, праглядваюцца і ў паводзінах станавога прыстава Кручкова з «Пінскай шляхты». Прыгадаем, як «найяснейшая карона», паставіўшы адзін вус угору, а другі ўніз, шпарыць, бы рэпу грызе, усялякія назвы законаў:

*«Па ўказу ўсяміласцівейшага цара Пятра Вялікага 1779 года, аўгуста 10-га і па Статуту літоўскаму раздзела 3-га, параграфа 375-га гэта ўгалоўнае прэступленне Сібірам пахне...»*

*«По указу Пинского земского суда от 23 мая сего года за № 2312 прибыл я ■ околицу...»*

*«По указу всемилостивейшей государыни Елисаветы Петровны 19-го апреля 1893 года и всемилостивейшей Екатерины Великой от 23-го сентября 1903 года, а равномерно ■ смысле Статута литовского раздела 8-го, параграфа 193-го, коим назначается ■ пользу суда от тяжущихся гривны...»*

Дык гэтаксама палохае непакорную ольпенскую шляхту і оберпракурор Мікалай Пратасаў. У яго пісьмах-пасланнях і рашэннях Сінода ёсць нямала спасылак на самыя розныя законы:

*«...Здесь применимы статьи 186 п. 884 XV тома свода Законов... Из Устава Духовных Епархиальных Консисторий Высочайше одобренного параграфа 36... В Указе 1722 года Апрель 29-го за № 3987 определено... Иосифа Липского, преступившего закон, отослать к суду на основании свода Законов том 15, статья 41...»*

А вось і заключны акорд прысуду Кручкова для пінскай шляхты. Прачытаем яго ўважліва разам з Дунінам-Марцінкевічам, але з усмешкай:

*«Сообразно указу всемилостивейшего государя Петра Великого в 1688 г. марта 69-го дня последовавшего и применяясь к Статуту литовскому раздела 5-го параграфа 18-го, — определило:*

*а) Тихону Протосавицкому, как уголовному преступнику, назначается: 1-е) 25 лоз на голой земле без дывана и 2-е) штрафа 25 руб. в пользу временного присутствия; б) Ивану Тюхаю-Липскому, как нанесшему личное оскорбление Протосавицкому, назначается: 1-е) 15 лоз на дыване и 2-е) 15 руб. штрафа в пользу временного присутствия...».*

Звернем увагу на мову чыноўніка. Ці не на такой жа трасянцы гавораць і сённяшнія нашы чыны? А яшчэ запомнім, што з абаюднай бойкі суддзя Кручкоў, а разам з ім і аўтар, большую віну бачыць за Пратасавіцкім—Пратасавым. Ён вызначаецца як «уголовный преступник», і яму далі «лазы» на голай зямлі, без пасцілкі, што ўдвая ганебна, абразліва для двараніна. А Цюхая-Ліпскага суддзя шкадуе, называе яго не злачынцам, а «как нанесшему личное оскорбление Протосавицкому». Перакінуўшыся ў рэаліі тых падзей, можна гэты зварот расшыфраваць так: «як нанесшаму асабістыя клопаты Пратасаву». Іван Цюхай-Ліпскі і «лазу» атрымае не на голай зямлі, а на дыване, і штрафу будзе плаціць на 10 рублёў меней. Ды ўсё таму, што бедныя Цюхаі і так ужо даволі растраціліся, ездзячы на споведзь то ў Пінск, то ў Мазыр, то ў Мінск.

Як разгортваліся дзеі ў «Пінскай шляхце», вядома. А чым жа

закончылася змаганне Сената, Сінода і мінскіх архіепіскапаў з Цюхаямі-Ліпскімі.

Кацярына Іосіфава выйшла замуж за праваслаўнага і праз «миропомазание, исповедь и святое причастие» далучылася да праваслаўнай веры. І ў гэтым шлюбе не насілле і законы, а каханне і асабістае жаданне прывялі Кацярыну да такога рашэння.

Найбольшыя клопаты ў Сінода і Мінскай кансісторыі былі ад упартасці Караліны Ліпскай. Маладзенькай яна ўступіла ў шлюб з ольпенскім хлопцам Васілём Адамавым Патоцкім. Нарадзіла васьмёра дзяцей. Вольная і прыгожая шляхцянка так і не скарылася перад уладалюбівымі грамадзянскімі і духоўнымі чыноўнікамі.

З нейкай лёгкасцю і несхаванай радасцю напісаны данос Каржанеўскага ў Мінскую кансісторыю 30 жніўня 1853 года: «Покорнейше имею донести, что Каролина Потоцкая и некрещеная дочь ея от холеры умерли...»

Праз чатыры месяцы новая «радасць»: «Дети покойной Каролины Иосифовой Юлия и Михалина умерли, а на Викторию и Стефаниду мои увещания не подействовали...»

У хуткім часе Вікторыя выйшла замуж за двараніна Жэлігоўскага. І службіст Стэфан Каржанеўскі скардзіцца мінскаму начальству, што яна не прыходзіць да яго на «увещевания и неразлучна с мужам от совместного сожительства...»

Найбольш «нацярпеліся» ўсе ад сыноў Караліны. Нечакана для праваслаўных служак Аляксандр і Фелікс Патоцкія абвянчаліся ў Давыд-Гарадоцкім касцёле. Нечуваная дзёрзкасць! Іх хацелі перавесці ў праваслаўную веру, а яны пайшлі вянчацца да ксяндза.

Відаць, дапяклі хлопцаў да белага напалу, бо яны купілі гербавую паперу і разам з малодшым братам Адамам, які ўмеў пісаць, склалі ліст да «Всепресвятлейшего, Державнейшего, Великого Государя Императора Александра Николаевича, самодержца Всероссийского, Государя Всемилостивейшего».

На што і на каго скардзіліся дзеці Караліны Цюхай-Ліпскай і Васіля Патоцкага? Дарэчы, яны былі ўжо другім пакаленнем у той «злачыннай» справе.

Маладыя двaране паведамлялі, што нарадзіліся і выраслі ў сям'і каталіцкай. Ім невядома, чаму святар Каржанеўскі данёс у духоўную кансісторыю, нібыта яны, будучы ў праваслаўі, вянчаліся ў касцёле. Цяпер іх прымушаюць хадзіць кожную нядзелю ў Давыд-Гарадоцкую царкву да свяшчэнніка Смоліча. «Мы исполняем волю начальства с большою потерею времени и понесением в хозяйстве убытков. Мы расстроили свое хозяйство и приходим к нищете». Браты ківалі на Каржанеўскага, які дамагаецца праз земскую паліцыю і суд, каб Аляксандра і Фелікса раз'яднаць з жонкамі, пакуль не будуць павянчаны ў царкве. Браты прасілі «учинить» указ, згодна якому іх вызвалілі б ад прыняцця праваслаўнай веры. На пісьме рэзалюцыя: «Принять самые скорейшие меры».

І меры былі прыняты.

Мазырскі павятовы суд разгледзеў справу аб супраціўленні дваран Патоцкіх па прыняцці праваслаўя. Вызначылі: Аляксандр, Адам і Фелікс вінаватыя ў невыкананні найвысачэйшай волі цара. А за гэта, згодна з артыкулам 306, часткі першай, тома пятнаццатага Крымінальнага кодэкса, можна заключаць ва ўціхамірвальны дом тэрмінам ад двух да трох гадоў. Суд абраў найменшую меру: заключыць у турму Аляксандра, Фелікса і Адама на адзін год і чатыры месяцы, ■ 19-гадовую іх сястру Стэфанію — на адзін год. Шлюбы Аляксандра і Фелікса суд палічыў несапраўднымі.

Ад такога крыміналу здрыгануліся хаты ў ваколіцы Ольпень і вёсцы Харомск, дзе жылі ўнукі Іосіфа Цюхая-Ліпскага. Іх справу пачала пераглядаць Мінская палата крымінальнага суда. А духоўнікі прыступілі да новых «увещеваний».

Урэшце Фелікс і Аляксандр былі зломлены: 8 верасня 1867 года яны далі падпіску аб прыняцці праваслаўя і былі перавенчаны ў царкве. Праз год Стэфан Каржанеўскі адрапартаваў, што Адам і Стэфанія Патоцкія таксама вернуты да праваслаўнай веры.

Драма Ліпскіх-Патоцкіх падышла да той адзнакі, калі пара закрываць заслону. Але раптам Каржанеўскі падкінуў новыя звесткі ў затухаючы касцёр. Ён паведаміў духоўнай кансісторыі, што дзеці Аляксандра і Фелікса Патоцкіх «исповедуют римскую религию».

Канцоўка жыццёвага фарса-вадэвіля — як і ў «Пінскай шляхце» Дуніна-Марцінкевіча. Памятаеце, калі шляхта ап'янела, Кручкоў шапнуў Альпенскаму: «Ведаеш, што на цябе казаў Статкевіч?.. Ён казаў, што ты не шляхціц». Альпенскі хоча распачаць бойку, але станавы прыстаў супыняе яго: «Не пры мне...» І тут жа падначвае Статкевіча: «Знаеш? Цябе Альпенскі аблаяў мужыком». Да Кручкова звяртаецца Ліпскі: «Найяснейшая карона! Шляхта напілася і завялася біцца. Бойцеся Бога, раздыміце, а то і з вас штраф будзе належаць». — «Не ка мне, не ка мне, — няхай у суд падаюць, тагды прыеду на следства! Бывайце здаровы!..»

І ў жыццёвым фарсе наспяваў працяг ганебнай валтузні. Цяпер ужо з праўнукамі Іосіфа Цюхая-Ліпскага. На апошнім даносе святара Стэфана Каржанеўскага накрэмзана ўладарная рэзалюцыя: «Какие дети?! Ежели они остались ■ католическом обряде, то были ли предлагаемы убеждения? Донести!..»

## *НАШЧАДКІ «СПРАВЫ № 39»*

Як разгортваліся падзеі далей? Ці жывуць сёння нашчадкі Цюхаёў-Ліпскіх і Патоцкіх? Ці можна з іх спісаць сучасны фарс-вадэвіль?

Па звестках столінскай уліковай службы, у раёне пражывае дваццаць адзін Патоцкі. Палова з іх — у вёсцы Харомск.

Імклівы «газік» намотвае на колы шэрую стужку асфальту. Паабапал дарогі — жудасныя прыкметы нядаўняй паводкі. Вывернутыя бурай дрэвы. Бульбяныя палеткі чорныя. Плаваюць стажкі



У вёсцы Харомск жывуць нашчадкі рода Патоцкіх —
Уладзімір Канстанцінавіч і Ганна Дзям'янаўна

сена. Вакол хат — штучныя сажалкі. Кажуць, да ганка адной пенсіянеркі падплыў шчупак і яна ганялася за ім з качаргой.

Ды вось і Харомск. Доўгі шнур хат на бязлюднай вуліцы. Бачу абарванку каля плота. Старая, мо з таго веку, жанчына пазірала на нас раўнадушна, з адкрытым ротам. Пытаюся, крычу ёй у вуха:

— Дзе жыве Патоцкая Петранела?

— Умёрла...

Бог ты мой, а ў раённых спісах яна лічыцца жывой. Самая старэйшая з Патоцкіх. Спазніўся распытаць. Якія ж мы даўжнікі перад гісторыяй?! Упускаем сведак, неабдумана рушым тое, што сёння нам не падабаецца, закопваем чалавечую памяць у зямлю.

На невялічкіх могілках адшукаў зарослую магілу. На драўляным крыжы вісіць бляшанка з надпісам: «Здесь покоится Потоцкая Петронелла Матвеевна (1905—1979)». Чатырнаццаць гадоў лічыцца Петранела жывой у раённым спісе жыхароў!

Непадалёк ад могілак стаіць счарнелая хата, як бы хароміцкі хутар. Сабака ветліва сустракае мяне. Сумна яму ў адзіноце, бо па зарослай сцяжыне да хаты мала хто ходзіць.

Тут жыла Петранела. Цяпер гаспадарыць у матчынай хаце яе дачка Ала. Адзіная з усёй галіны Патоцкіх, якая ішла ад Фелікса. Перавянчаўшыся некалі па рашэнні Мазырскага земскага суда ў царкве і «перахрысціўшыся» ў праваслаўную веру, ён займеў двух сыноў — Мікалая і Юліяна. Вось Мікалай Патоцкі і даводзіцца Але дзедам.

На мой стук у хату ніхто не адазваўся. Так я, няпрошаны, бразнуў клямкай, увайшоў у сенцы. На відным месцы стаіць даўнейшы вясельны куфар на тры замкі, акаваны па краях. От бы ён мог расказаць, як Петранела выходзіла замуж за Міхаіла, праўнука Караліны Цюхай-Ліпскай-Патоцкай. Дык жа маўчыць куфар, дажывае свой век у халодных сенцах.

У пустой хаце на канапе сядзела дваранка Ала Міхайлава Патоцкая. На галаве даўно не расчэсваліся валасы, на твары, замест румян, сляды сажы. Буйныя, мурзатыя рукі ляжалі на прыполе. Ногі босыя, запэцканыя зямлёй. Кофта квятастая, некалі была жоўтай, цяпер невядомага колеру. Спадніца шэрая. Цішыню ў хаце парушыў мой роспыт і ахрыплы голас гаспадыні.

— Нічога не ведаю пра род Патоцкіх. Жылі во тут мае бацька, матка, брат. Ды ўсе ўжо і ўмёрлі. Адна я засталася. Замужам ня была. Узяла цяперака п'яніцу, жыве ў мяне. Хоць сена карове накосіць... Бедна жылі. Нічога ня нажылі. У бацькі было чатыры браты і дзве сястры. Усе ўмёрлі. Адзін яго брат Амбросій у Англіі пахаваны. А мама з Ольпені, з Ляшкевічаў...

— Якой веры трымаліся?

— Праваслаўнай, як і ўсе...

Ала Міхайлаўна параіла зайсці да Уладзіміра Патоцкага. Паказала, дзе стаіць яго хата. Так я пазнаёміўся з праўнукам Караліны па лініі яе сына Адама. Харомскі родзіч хаця і пражыў на свеце восемдзесят два гады, але нічога не ведае пра скандальную справу ў яго родзе. Ды дзякуй яму зы шчырую споведзь пра сваю жытку.

Два сівыя галубкі, Уладзімір Канстанцінавіч і Ганна Дзям'янаўна, як я ўвайшоў да іх у хату, сядзелі за сталом і пілі малако з пячэннем.

— Збіралі яблыкі. Стаміліся. Рашылі адпачыць, — растлумачыў гаспадар, шчокі яго запунсавеліся ад сарамлівасці, быццам я застукаў іх за нейкай недазволенасцю.

Перайшлі ў чысцейшую палову хаты, пачалі прыгадваць пражытае:

— Я — з шляхты, яна — мужычка, — усміхаецца нашчадак Патоцкіх.— Пайшлі вянчацца ў царкву. Бацюшка загадаў даць яму сто злотых. Па тых грашах — дзве каровы. А ў нас такая сума не вялася, дык мы сабраліся да пайшлі да ксяндза. Ён нас за чацвяртак павянчаў. А пішамся праваслаўныя. І дзеці нашы — праваслаўныя.

— Ён мяне браў замуж маладзенькай, толькі шаснаццаць споўнілася, — падказвае Ганна Дзям'янаўна. — Не па любві замуж ішла, а па бядзе. Бацькі паўміралі. Нас трое малых асірацела. Дак Валодзя во еты на мне ажаніўся, а брата і сястру ўсынавіў...

Жонка-бабулька ласкава пазірае на мужа, і той натхняецца гаварыць далей:

— Бацька мой золата меў. Саломай хаты крыў. Зарабляў. Зямлі чатыры гектары абрабляў. У мяне самога зямля была. З братам магазін трымалі, цагляны заводзік. Сад вялікі ўзрасцілі. У сажалцы

карпаў гадавалі. Усё было! Мардаваліся, але не галадалі, абарванцамі не хадзілі...

Уладзімір Канстанцінавіч змаўкае, цяжка гаварыць, яшчэ цяжэй — варушыць памяць.

— А мяне, як адлучылі Піншчыну ад Польшчы, у калгас прымусілі ісці. Не хацеў, дак хату падпалілі. Тры разы гарэў і тры разы адбудоўваўся...

У Патоцкіх цяпер цагляны дом. Адзін з лепшых у Харомску. Дажываюць у ім свой век старыя бацькі. Сыны звілі гнёзды ў Пінску, Пружанах. Хто і як прадоўжыць слаўны род?

Па лініі Цюхаёў-Ліпскіх таксама адшукаў далёкі парастак. Сакратаром гарсавета ў Століне працуе Іларыён Уладзіміравіч Ліпскі. Душэўны чалавек, ласкавы бацька, любячы муж, гасцінны гаспадар. Цікавіцца гісторыяй горада і раёна. Але мой аповяд пра скандальную справу з Цюхаямі, якая доўжылася 33 гады, проста ашаламіў яго. Тым больш што продак сённяшняга сакратара гарсавета Іван у пятым калене быў родным братам таго самага Іосіфа Цюхая-Ліпскага, вакол дзяцей якога завіхурыліся і цар, і Сенат, і Сінод, і архіепіскапы.

Паехалі ў Вялемічы, дзе жыве Іларыёнаў бацька і адкуль некалі страчыў рапарты ў Мінск святар Стэфан Каржанеўскі. Непадалёк ад сельсавета знайшлі хату, у якой чысціня і парадак. Маўклівы пенсіянер Уладзімір Міхайлавіч Ліпскі пакрысе разгаварыўся. І мы даведаліся, што ён «згубіў» прыстаўку «Цюхай», калі быў у арміі. Ён і яго бацька Міхаіл — праваслаўныя. Праўда, бацьку, вялеміцкага фельчара, палякі хацелі перавесці ў каталікі, прапаноўвалі за гэта больш прэстыжную пасаду. Але ён не здрадзіў праваслаўнай веры.

Як бачым, на ўсіх этапах грамадскага развіцця рэлігійныя ідэолагі прымяняюць розныя метады, каб перацягнуць у свой лагер вернікаў. А жыццё падказвае простую ісціну: свой выбар чалавек павінен зрабіць сам!

Калгасны пенсіянер Уладзімір Міхайлавіч Ліпскі да вайны, як найдарожшую спадчыну, захоўваў у куфры чырвоную папку з гербам і надпісам залатымі літарамі «Дваранін». Вельмі шкадуе, што не ўратаваў сямейную рэліквію ад пажару. Задумліва памаўчаў. І нечакана для ўсіх выдаў адну вялеміцкую быль:

— Гэта ж некалі ўвялі шлемы для матацыклістаў. От наш адзін прывёз з горада той шлем і хваліцца на кожным вуглу: «Цяпер мне нічога не страшна!..» Двое пад’юдзілі яго: «Давай праверым». Хвалько насунуў на галаву той шлем, а двое ўзялі яго за рукі, за ногі. Расхісталі ды шлемам я-як бабахнулі ў сцяну хаты. Матацыкліст і абмяк. І не падняўся...

— Быў суд?

— Які суд?! Ён жа даў згоду на выпрабаванне. — Уладзімір Міхайлавіч памаўчаў крыху і сказаў, як прысуд, прарочыя словы:

— Нас, людзей, пастаянна нечым выпрабоўваюць. Голадам...

Вайной... Верай... Страхам... Хлуснёй... Адзін смяецца з гэтага, другі — плача. От вам і фарс-вадэвіль...

Нашчадак Цюхаёў-Ліпскіх, сам таго не ўсведамляючы, даў высокую ацэнку неўміручай «Пінскай шляхце», упісаў у яе сучасны варыянт свой радок.

На мой кліч «Адгукніцеся, Ліпскія», які надрукавалі амаль усе раённыя газеты Беларусі, даслаў ліст Іван Ліпскі з вёскі Субачы Ваўкавыскага раёна. Два аркушы ў клетачку даносілі, здавалася, сціплую інфармацыю. Але па ёй я разгадаў Іванаў корань, чым вельмі ўзрушыў яго пенсійныя будні.

Ды спачатку прачытаем пісьмо Івана Юльянавіча Ліпскага:

«Калі я даведаўся, што вы шукаеце Ліпскіх, то вельмі ўсхваляваўся. Ніхто ніколі не цікавіўся мной. А вам, калі так, то раскажу. Сам я родам з Ольпені, са Століншчыны. Там нарадзіўся ў 1929 годзе. Там вырас, вучыўся. Працаваў на бацькавай гаспадарцы, а тады запісаліся ў калгас. Закончыў ветэрынарны тэхнікум. Працаваў ветэрынарам да пенсіі. А жонка мая з Ваўкавыска, от чаму я і трапіў у гродзенскі край. Нажылі двух сыноў — Івана і Віктара. Брат у мяне Віктар. І дзеда звалі Віктар.

Бацька мой Юльян служыў у царскай арміі унтэр-афіцэрам. Усё хаваў дакумент, у якім значылася, што ён «потомственный дворянин». Але ў вайну той дакумент згубіўся.

Ведаю адно: мой бацька, дзед і прадзед жылі ў Ольпені, мелі вялікую гаспадарку. Яны ганарыліся сваім прозвішчам, іх паважалі ў сяле. А болей нічога не ведаю...»

Дык вось, шаноўны Іван Юльянавіч, ваш дзед Вікенцій нарадзіўся 20 мая 1885 года. Яго дзедам, а вашым прадзедам быў той самы Вікенцій, сын Юзэфа, якога вазілі на «увещевание» ў Мінск, якому хацелі сілком навязаць іншую веру, за якога заступаўся сам Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Дару вам, Іван Юльянавіч, і вашым дзецям радавод Цюхаёў-Ліпскіх да дзесятага калена.

## *СУД... НАД ПАМЕРЛЫМ*

Цары і правіцелі ўсіх колераў ва ўсе часы аднолькавыя дэспаты. Нават калі ў іх і застаецца чалавечнасць, то каманда, якая корміцца каля ўрадавага карыта, ніколі не дапусціць праявіць яе.

Цар на то і валадар, каб трымаць сваю «паству» пад страхам і ў паслухмянасці. Яго вуснамі, хочацца верыць яму, гаворыць сам Бог. Адсюль да смешнага іх упартасць і фанабэрыя.

Цар Мікалай І, на каранацыю якога ездзіў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, не выклікаў у пісьменніка вялікіх захапленняў. Дзіву даешся, як ён прароча ўбачыў манаршую пыхлівасць і злобу да праяў дэмакратыі. А выказаў гэта ва ўмовах жорсткай цэнзуры вельмі далікатна:

Над горадам зорка ясна засвяціла,
Настаў дзянёк важны, — і Масква ажыла!
Крычыць на ўсё горла народ весяленькі,
Што навясціць горад царочак дабрэнькі...

Чаго ж мы так дзерліся? Згадаць я не ў стане.
Чы што цар прыехаў на каранаванне?
Аслі што ў багату адзежку убраўся
Дый на красным ганку людзям паказаўся?

Досыць, што крычалі са ўсяго галасочка,
Аглушылі, пэўне, беднага царочка...

Мікалай I пачаў сваё цараванне з таго, што задушыў паўстанне дзекабрыстаў. Пазней разграміў паўстанне 1830—1831 гадоў у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. Ён аўтар трыадзінай ідэалогіі ў Расіі: самадзяржаўе, праваслаўе, народнасць. Яму, Мікалаю I, належыць указ, які забараняў ужываць назву «Беларусь», мову народа. Наша радзіма надоўга стала «Северо-Западным краем».

Пры такім узурпатарстве ці можна было чакаць, што цар даруе каму-небудзь непаслушэнства? Ніколі!

У справу з ольпенскімі Цюхаямі-Ліпскімі два разы ўмешваўся сам Мікалай I. Што ён «повелевал»? Ды найперш тое, каб каталікі Цюхаі неадкладна прынялі іншую веру. Праўда, ён агаварыўся, каб пры гэтым «не стесняли, впрочем, их личности». Але мы ведаем, што ў цароў вельмі часта не сходзяцца словы са справамі. І Цюхаям з новай атакай пачалі выкручваць рукі, цяпер ужо не толькі святары, а і паліцэйскія, суддзі. Урэшце, у трэцім пакаленні, упартая шляхта была зломлена і іх справа здадзена ў архіў.

На лаве падсудных побач з Цюхаямі-Ліпскімі і Патоцкімі аказаліся і каталіцкія святары, кіраўнікі гэтай канфесіі. Гэта ж ім яшчэ на самым пачатку справы пагражальна кіўнуў сам Сенат: прыцягнуць да адказнасці духоўных асоб, якія хрысцілі дзяцей Іосіфа Ліпскага па каталіцкім абрадзе!

У архівах захавалася тлумачальная запіска давыд-гарадоцкага ксяндза Якава Гарбацэвіча. З пэўнай наіўнасцю, насмешкай і смеласцю ён дакладваў следчым, што яму невядома рашэнне начальства, каб дзеці Іосіфа Цюхая-Ліпскага належалі да праваслаўя. Ён увогуле не ведае, ці хрысціліся дзеці таго шляхціца ў яго касцёле, бо кніга метрычная адаслана начальству на праверку, а шлюбная кніга згарэла пры пажары.

Не спяшаліся рапартаваць, дакладваць, абвінавачваць, здымаць з пасады каго-небудзь і ў Мінскай каталіцкай кансісторыі, якую ўзначальваў паважаны біскуп Мацвей Ліпскі. Па ўсім бачна: тут разумелі ольпенскіх заложнікаў, спачувалі ім і ўсімі даступнымі мерамі дапамагалі вытрымаць шквал насілля. Мо тут першую скрыпку сыграла агульнае прозвішча, якое аб'яднала шляхту і біскупа? А мо памяркоўнасць і мудрасць перакладчыка, дарадцы біскупа, яго падапечнага Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча?



Марыінскі кафедральны касцёл на плошчы Свабоды ў Мінску

Так гэта ці не, але дзяржаўныя чыны неўзабаве праявілі супраць іх сваю агрэсіўнасць, несхаваны гнеў.

Праз два месяцы пасля смерці біскупа Мацвея Ліпскага, у лютым 1840 года, супраць яго «рукамі» самой жа кансісторыі, пад напорам губернатара і міністра ўнутраных спраў, а можа і самога Сената, была заведзена справа «По выяснению претензий, простираемых ■ покойному Епископу Липскому».

Стварылі спецыяльную камісію з трох уедлівых рэвізораў. Імі сталі: канонік духоўнай кансісторыі асэсар Дамінік Вальтэр, ксёндз і кавалер з Вілейскага павета Тарулевіч і чыноўнік па асобых даручэннях мінскага губернатара надворны саветнік Багдановіч. І пачалі жукі капацца ў гнойнай кучы.

Спісалі кілаграмы папер пра тое, што біскуп не плаціў апошнім часам заробкі пратакалісту Ігнату Санькоўскаму, перакладчыку Віктару Фадзееву, рэгістратару Аляксандру Толкачу, канцылярысту Іосіфу Дубовіку. Пасля высветлілася, што сам біскуп Ліпскі нядабраў жалавання на 3333 рублі і 33 капейкі асігнацыямі ды 955 рублёў і 56 капеек срэбрам. А ўсім сваім работнікам выплочваў грошы не з казны, а за кошт пабочных заробкаў.



Унутранае убранства Кафедральнага сабора ў Мінску ў часы, калі біскупам быў Мацвей Ліпскі

Трэба шукаць новую крамолу. І члены камісіі прысталі да нашчадка біскупа Мацвея Ліпскага, прадвадзіцеля дваранства Веліжскага павета Іосіфа Ігнатава Ліпскага. За тое прысталі, што той хавае ў сваім маёнтку Савіжна дзядзькаў ордэн Святой Ганны І ступені з імператарскай каронай, стужкай і зоркай. Праз Веліжскі земскі суд камісія дамагалася гэтай рэліквіі.

Амаль кожны дзень камісія дакладвала новаму адміністратару епархіі прэлату Раве аб сваіх адкрыццях. Вось мінскі абывацель Іван Іваноў, сын Дарфпера, дае паказанні, што калісьці вырабляў для біскупа Ліпскага тры скуры і «вручил самому покойному», а ён не заплаціў, бо адсутнічаў касір казны Ляўданскі. Іваноў піша: «Между тем епископ умер, не сделав просителю никакого удовлетворения».

Мешчанін мінскі Іван Маркевіч даводзіць камісіі, што рабіў для дома біскупа дваццаць акон. Рамы зрабіў сасновыя, а заказчык прасіў дубовыя. Перарабіў іх, але біскуп не даплаціў яму за працу.

Палезлі цікаўныя члены камісіі і ў куфры біскупа. Агледзелі там 73 пазалочаныя лыжкі і відэльцы, іншае сталовае срэбра. У

адной шкатулцы ляжалі залатыя бранзалеты, ланцужкі, пярсцёнкі, дамскі гадзіннік, пярсцёнак з жэмчугам...

На допыт у камісію пачалі выклікаць лакея Паўла Бартулевіча, фурманаў Івана Альшэўскага і Ярмолу Ціхавана, памешчыка Віцебскай губерні Вікенція Станішэўскага. Урэшце высветлілі: усе гэтыя дарагія рэчы належаць не біскупу Ліпскаму, а яго роднаму пляменніку Івану Ігнатаву Ліпскаму, адстаўному штабс-капітану, памешчыку Дрысінскага павета.

А было так. У верасні 1839 года біскуп Ліпскі пабываў на Віцебшчыне, заехаў у маёнтак свайго пляменніка Свону. На той час жонка пляменніка Юля, дачка графа Завіша, памерла. Сам Іван «через дозволение Правительства восстанавливал расстроенное свое здоровье за границей». Біскуп Ліпскі, па просьбе эканома з маёнтка Станішэўскага, узяў гэтыя дарагія рэчы, каб перадаць малалетнім дзецям пляменніка, якія выхоўваліся ў дзеда Завіша, у маёнтку Кухчыцы Ігуменскага павета.

З паездкі біскуп вярнуўся зусім хворы. Праз два месяцы памёр, так і не паспеў перадаць прывезены скарб сваім унукам у Ігуменскі павет.

Чым больш чытаеш вось такія «разборы» камісіі, якая настойліва шукала прэтэнзій да памерлага біскупа, тым больш становіцца сорамна за духоўнікаў. Тым больш відавочна, што справа надуманая, сфабрыкаваная. Яна як помста праведніку і сумленнаму чалавеку. Не маглі падступіцца да жывога, вырашылі паздзекавацца над нябожчыкам. Бог, дзе ты, чаму дапускаеш такія вар'яцтвы?

Не знайшла камісія сур'ёзных прэтэнзій да біскупа-нябожчыка ў яго куфрах, паперах ды сярод ксяндзоў і служак епархіі. Пачала шукаць у маёнтках Бабруйскай бенефіцыі, якія належалі біскупу Ліпскаму з 1827 года і да дня смерці, ажно дванаццаць гадоў.

Не будзем паглыбляцца ў кратовую справу рэвізораў, якія з асалодай пераглядвалі грашовыя ведамасці, перамяралі зямлю, бочкі з зернем, пералічвалі худобу і сялян. Тут нас могуць зацікавіць толькі звесткі пра маёнтак Панюшкавічы. І няхай яны бессістэмныя, але праліваюць такое-сякое святло на мясціну, дзе нарадзіўся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Тым і каштоўныя!

Пасля смерці мітрапаліта Сестранцэвіча Мінскае губернскае праўленне «нарядила» камісію і даручыла ёй праверыць, як выкарыстоўваюцца даходы з маёнтка Панюшкавічы. Але біскуп Ліпскі апярэдзіў тую камісію і заключыў міралюбны дагавор са Станіславам Сестранцэвічам. Так ён пазбавіў цяжбы і вызваліў пляменніка мітрапаліта ад уедлівай камісіі і ад прэтэнзій сялян і святароў, што карміліся ад даходаў з маёнтка Панюшкавічы.

Але новая камісія «дагнала» біскупа Ліпскага ўжо мёртвым. Яна засведчыла: за калежскім асэсарам Сестранцэвічам лічыцца даўжок у 131 рубель срэбрам. Не хапае, як высветлілася, у параўнанні з 1796 годам у маёнтку Панюшкавічы 7 кароў, 13 авечак, 9 ягнят, 7 коз, 8 казлянят, 2 свінні, 4 кабаны, 17 парсюкоў,

2 качкі. Затое «лішнімі» аказаліся 1 бугай, 75 курэй, 14 пеўняў, 12 індыкоў.

Эканом з Панюшкавіч Сестранцэвіч не ўнёс у касу 8 рублёў за карыстанне малаком ад 4 фуражных кароў з 11 красавіка да 8 кастрычніка 1827 года. Не заплаціў 0,35 рубля за адну асьміну ячменю і 5 рублёў 25 капеек за паўтары бочкі жыта, узятыя ў сялянскім магазіне. Не разлічыўся з сялянамі вёсак Сычкава і Краснага за патраву панюшкавіцкімі пастухамі іх палеткаў... Віленскі земскі суд адшукаў на сваёй тэрыторыі памешчыка Сестранцэвіча і спагнаў з яго ўсе рублі і капейкі на карысць Мінскай епархіі.

Пасля Сестранцэвіча адміністратарам маёнтка Панюшкавічы стаў мясцовы памешчык Аляксандр Венцлавовіч. І яму камісія накідала «шароў»: 13 рублёў пераплачана гуменнаму цівуну і 25 рублёў нібыта выплачаны цырульніку за абслугоўванне сялян, а яны ходзяць касматыя; 8 рублёў не аддаў Астапу Кузьміну, пастуху, які 17 тыдняў у сваёй адзежы быў на «ўслугах» у Венцлавовіча; 5 рублёў 29 $^1/_2$ капейкі павінен за ўзятых гусей, курэй і 399 яек; 1 рубель за выкапаную яблыню...

Знайшліся прэтэнзіі і да наступнага адміністратара Ягора Непаканчыцкага, які, згодна кантракту, павінен уплачваць у год даходаў 2650 рублёў срэбрам. А ён з даходаў заклаў за сялян 327 рублёў 29 $^1/_2$ капейкі падатку. Пазычыў ім 77 бочак і 8 гарнцаў жыта, 20 бочак, 7 асьмінаў і $^1/_2$ гарнца ячменю. І камісіі аніяк нельга было растлумачыць, чаму бедныя сяляне не могуць вярнуць закладзеныя за сялян грошы, пазычаныя жыта і ячмень.

З дакументаў даведваемся, што ў Панюшкавічах быў млын, вінакурня, сялянскі запасны магазін. Дазорца таго магазіна Яўстрат Піліпаў, селянін з вёскі Сычкава, давёў на допыце камісіі, што яго «аб'ект» бедны, сяляне мала ссыпаюць зерня ў засекі, просяць адміністратара, каб купляў на пасевы і для харчу.

Даходамі маёнтка Панюшкавічы карміліся два святары з Бабруйскага касцёла. З іх рахункаў рамантаваліся плябані, жылыя дамы адміністратараў, праваслаўная царква ў Сычкаве.

Новай старонкай следства камісіі сталі скасаваныя манастыры ў Мінскай губерні. Пачалося высвятленне, хто і каму, колькі і калі не выплаціў працэнтаў. Нас жа ў гэтай мышынай валтузні цікавіць сама геаграфія каталіцкіх астравоў на Міншчыне. Гэта — Ракаў, Івянец, Нясвіж, Заслаўе, Слуцк, Маладзечна, Барысаў, Бабруйск, Мазыр, Пінск, Ашмяны, Полацк...

Яны размяшчаліся на землях вядомых у той час уладароў-гаспадароў Пілецкіх, Плявакаў, Вітгенштэйнаў, Аскеркаў, Радзевічаў, Ваньковічаў, Тышкевічаў, Корыкаў, Раўтовічаў, Буйніцкіх, Пузынаў, Валовічаў, Солтанаў, Чарноцкіх...

Хочацца верыць, што гэтыя адрасы і адрасаты былі добра вядомы біскупу Мацвею Ліпскаму і яго надзейнаму, вернаму, амаль родзічу, памагатаму Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу.

Пара спытаць, дзе быў Вінцэнт, як сябе паводзіў у той час, калі насунуліся хмары-злыдні над магілай біскупа Ліпскага?

Состоящій въ должности:

МИНСКАГО

Гражданскаго Губернатора

Канцелярія

Столъ 1.

№. 247

Февраля 24 дня 1840 го.

Г. Минскъ.

27 февраля 1840.

34

Господину управляющему Минскою Римско-Католическою Епархією.

Ваше Высокопреподобіе отношеніемъ отъ 18. сего Февраля №: 710 изволите сдѣлать распоряженіе насчетъ обязанія законнымъ порядкомъ Дворянина Викентія Марцинкевича чтобы онъ удовлетворялъ всѣ требованія Коммиссіи назначенной для повѣрки денежныхъ счетовъ о монастырскихъ капиталахъ, и о другихъ искахъ

по-

Унікальны дакумент. Ён адрасаваны дваранiну Дунiну-Марцiнкевiчу 24 лютага 1840 года

Камісія, «наряженная для открытия истины претензий, простираемых к покойному Минскому епископу Липскому», пачала дзейнічаць 9 лютага 1840 года. У першыя ж дні канонік Вальтэр склаў губернатару ліст, каб той загадаў перакладчыку Мінскай кансісторыі дваранiну Марцінкевічу даць «все те сведения, какие ему известны и какие могут служить доказательством к обнаружению злоупотреблений».

къ покойному Епископу Минскому прости-раемыхъ. На что имѣю честь увѣдомить Васъ Милостивый Государь что какъ въ дѣлахъ Канцелярiи Губернаторской нѣтъ въ виду формальнаго доноса Марцинкевича о растратѣ Епископомъ Минскимъ помонастырскихъ суммъ то за-симъ, я считаю себя не вправѣ по-нуждать его къ выполненiю требованiй Коммиссiи, а слѣдователи зная законъ должны руководствоваться онымъ имѣя подъ рукою для своихъ соображенiй доку-менты вѣдомости и прочiя свѣдѣнiя, — если же они хотятъ чтобы Марцинкевичъ содѣйствовалъ въ успѣшномъ окончанiи возложеннаго на нихъ порученiя, — то это зависитъ будетъ отъ ихъ самихъ пригла-сить его.

Вице Губернаторъ

Адказ прыйшоў на імя пана ўпраўляючага Мінскай рымска-каталіцкай епархіі прэлата Равы. Яго падпісаў віцэ-губернатар 24 лютага:

*«Ваше Высокопреподобие отношением от 18 сего февраля № 710 просите сделать распоряжение насчет обязания законным порядком Дворянина Викентия Марцинкевича, чтобы он удовлетворял все требования Комиссии, назначенной для поверки денежных счетов о помонастырских*

*капиталах и о других исках к покойному Епископу Липскому простираемых. На что имею честь уведомить Вас, Милостивый Государь, что как в делах Канцелярии Губернаторской нет в виду формального доноса Марцинкевича о растрате Епискапом Липским монастырских сумм, то засим я считаю себя не вправе понуждать его к выполнению требований Комиссии, а следователи, зная закон, должны руководствоваться оным, имея под рукою для своих соображений документы, ведомости и прочия сведения. Если же они хотят, чтобы Марцинкевич содействовал в успешнейшем окончании возложенного на них поручения, то это зависит будет от их самих пригласить его».*

Такі памяркоўны адказ мог задаволіць Дуніна-Марцінкевіча і нават... нябожчыка біскупа. Ён можа пацешыць і сучасных чытачоў, бо пралівае свет на тое, што і тады сярод чыноўнікаў былі светлыя галовы. Але гэты адказ не задаволіў службістаў каноніка Вальтэра і надворнага саветніка Багдановіча.

Яны нацiскаюць на прэлата Раву, каб той «вошел с Господином Минским Гражданским Губернатором в сношение» і вытрабаваў ад яго асабіста загад, патрэбны камісіі. Чаго яны дамагаюцца? Каб «Господин Марцинкевич до удовлетворения требований Комиссии, затем до минования надобности из Минска за границу, куда, как слухи доходят, намерен отправиться по своим делам, не выезжал».

Такая раздражнёнасць і настырнасць камісіі становіцца зразумелай, калі знаёмішся з яе пісьмом да двараніна Вікенція Марцінкевіча ад 18 мая 1840 года за № 16. Аказваецца, гэта ўжо чацвёртае яму пісьмо (пісалі 21 лютага, 15 сакавіка і 15 мая).

На пісьмо ад 15 мая Дунін-Марцінкевіч адгукнуўся тым жа днём. Відаць, надакучылі яму рэвізоры, як шалёныя мухі, і ён адмахнуўся ад іх кароткім лістом. Яго, на вялікі жаль, няма ў архіве, але змест становіцца зразумелым, калі ўважліва чытаеш адказ камісіі:

*«Получив от Вашего Благородия надпись, комиссия не находит никаких сообщаемых сведений по предметам, касающихся Епископа Липского в отношении Его злоупотреблений, а только видит совет Ваш, дабы истребовать первую по Моностырям за 1832 фундушевую ведомость и по ней проверить платежи, о чем сама Комиссия даже в начале, при открытии ее, уже имела в виду и распорядилась...»*

З гэтага пісьма мы даведваемся, што дадзеная камісія адкрыта згодна ўказу Юстыц-Калегіі ад 16 снежня 1839 года за № 3844. Дзікунства! Яшчэ не астыў нябожчык, ён памёр 21 лістапада, яшчэ не адышла душа біскупа на неба, а гэта, кажуць, адбываецца на саракавы дзень пасля смерці, яшчэ не адбыўся Божы прысуд — у рай нябожчыка ці ў пекла, ды зашавяліліся зямныя суддзі.

Вальтэр і Багдановіч ківаюць былому перакладчыку кансісторыі Вікенцію Марцінкевічу, што яны патрабуюць ад яго звестак не ад свайго імя, а Юстыц-Калегія «поставила на вид, именно сказавши, что Вы дать сведения и указать злоупотребления можете...»

Назваўшы трынаццаць «предметов», па якіх камісія хацела б мець паказанні Марцінкевіча, аўтары пісьма яшчэ раз палохаюць

Минскаго
Гражданскаго Губернатора
Канцелярія

Столъ

N: 6314.

Мая 24 дня 1840 го.

Г. Минскъ.

Господину управляющему Минскою Римско Католическою Епархіею.–

На отношеніе Вашего Высокопреподобія отъ 22. сего Мая №1046 честь имѣю увѣдомить, что Дворянину Викентію Марцинкевичу воспрещенъ уже выѣздъ заграницу, отобраніемъ отъ него паспорта, кромѣ того и вмѣстѣ съ симъ предписано Минскому полицмейстеру обязать его подпискою, дабы до окончанія надобнаго по дѣлу производимому Коммиссіею [illegible] противъ [illegible] Епископу Минскому, онъ никуда не отлучался.–

Въ должности Гражданскаго Губернатора [illegible]

яго: «Из сего усмотреть изволите, что Комиссия не сама собою догадчива, но на основании Указания Юстиц-Коллегии вошла с Вами в сношение...»

Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча хацелі зрабіць даносчыкам, кляўзнікам на чалавека, з якім ён працаваў. Мы адчуваем, колькі адкрытых і скрытых сексотаў, нават сярод сучаснікаў, кішыць вакол сумленных людзей. Усім ім прыкладам хай будзе наш класік

Дунін-Марцінкевіч. Ён ігнараваў строгія ўказанні і просьбы камісіі. А калі вельмі прылiплі, прыслаў адпіску «коею» запатрабаваў папярэднюю аплату за свае паказанні.

Вінцэнт Іванавіч добра ведаў, што камісія не стане плаціць срэбрам за яго звесткі, бо вунь колькі ў іх бясплатных даносчыкаў.

Смелы Вінцэнт! Ён жа добра ведаў, што чыноўнікі не даруюць яму гэтай насмешкі.

Гумарыст Вінцэнт! Як ён з'едліва пацешыўся з камісіі, якая разбівала лоб перад начальствам.

Вынік быў ужо прадвызначаны. Мая 24 дня 1840 года мінскі губернатар за № 6314 даслаў у Мінскую рымска-каталіцкую епархію свой канчатковы прысуд:

*«На отношение Вашего Высокопреподобия от 22 сего под № 1046 честь имею уведомить, что Дворянину Викентию Марцинкевичу воспрещен уже выезд за границу, отобранием от него паспорта, кроме того я вместе с сим предписал Минскому полицмейстеру о обязании его подписью, дабы до минования надобности по делу, производимому Комиссиею для открытия истины претензий, простираемых к покойному Епископу Липскому, он никуда не отлучался».*

Так Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч замест Карлсбада і Эмса паехаў з жонкай Юзэфай і дачкой Каміліяй у Люцінку. Купіў там невялікі маёнтак. Стаў жыць-пажываць, неўміручыя творы пісаць, беларускую мову ды простых людзей услаўляць.

## *ЛЮЦІНКА — ЖЫЦЦЯ ПАВУЦІНКА*

З паэтамі Міколам Маляўкам, Міколам Чарняўскім, за рулём наш любімы шафёр — Мікола Дарашэнка, едзем у сённяшнюю Люцінку. Тры Міколы-малойцы прыкметна хвалююцца перад сустрэчай з мясцінкай, куды некалі цар Мікалай I рукамі верных слугжак схаваў, зняволіў нашага песняра.

Праехалі Ракаў, Пяршай, Мішаны. На пагорку вытыркнуліся счарнелыя хаціны — Люцінка! Няўжо гэта і ёсць тая зямелька, якая натхніла Вінцэнта?!

Дамок мой любы! — Бачу з кожнаю хвілінай,
Што нашы дні жыцця ідуць к зямлі няспынна.
Мы разам пастарэлі, час той недалёкі,
Калі ахопяць нас з табой нябыту змрокі.

*«З-над Іслачы, або Лекі на сон»*

Цярусіць нудны восеньскі дождж. І пад гэты настрой маркоцімся на мурожным пагорачку. Тут стаяла драўляная хата дваранінa Дуніна-Марцінкевіча. Засталіся толькі цэментаваныя прыступкі ад ганка, стары бэз і лысы пень ад ліпы, якая некалі была «ўласнаю пасаджана рукою».

Тут з-пад пяра пісьменніка выйшла ўсё, што ён паспеў напісаць:



Па гэтых сходах хадзіў Дунін-Марцінкевіч. Яны вялі яго да сядзібы, у якой пісалася «Пінская шляхта»

Пень ад ліпы, якую садзіў некалі ў вёсцы Люцінка Дунін-Марцінкевіч



Бабулю Усціну Арцюшэўскую з Люцынкі некалі вучылі грамаце дочкі Дуніна-Марцінкевіча

камедыя-опера «Сялянка», драматычная сцэна «Неспадзяванка для майстрыні», меладрама «Апантаны», фарс-вадэвіль «Залёты», вершаваная аповесць «Гапон», «Вечарніцы», народная аповесць «Купала», «Благаслаўёная сям'я», гістарычнае апавяданне «Славяне ў XIX стагоддзі», «Літаратурныя клопаты», аповесць «Шчароўскія дажынкі», гістарычнае апавяданне «Люцінка, альбо Шведы на Літве», аповесць з мясцовай легенды «Травіца брат-сястрыца», «Быліцы, расказы Навума».

Тут Вінцэнт перакладаў «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча, складваў вершы, лісты і пасланні. І тут, у Люцінцы, нарадзілася «Пінская шляхта»!

Хоць мой дамок і цесны, сціплы, небагаты,
Аднак у ім з душою кожны быў прыняты.
Сярод вясёлых смехаў, дружнае гаворкі
Гулялі весела, пакуль не згаснуць зоркі.

*«З-над Ісла̀чы, або Лекі на сон»*

Даўно няма гаспадара маёнтка, няма каму прыняць гасцей. Узрадаваліся, калі на пустой вуліцы ўбачылі жанчыну. Яна даручыла мужу заганяць авечак у двор, назвалася Ядвігай Кужоўнік, пачала тлумачыць:

— Ну што я магу вам сказаць? Стаяў вуньдзека дом Дуніна. Яго ж мы не ведаем. А жылі тутка паненкі — Ванда, Марыя, Ва-



У бабы Зосі з Люцінкі прозвішча Марцінкевіч, яе муж служыў у Дуніна-Марцінкевіча. Быў яму радня

лерыя. Ванда за Крыжанскім была замужам, а сёстры яе — старыя дзевы. Казалі, нейкія стрыечныя ўнучкі таму Дуніну...

— Дом помніце?

— Хэ, тры вакны сюды, два туды, дзе прыхвасцень-прыбудова. Там пякарня была. Ліпа стаяла, кажуць, Дунін садзіў. Дак ужо абвалілася. Вунь у тых бэзавых кустах Крыжанскі быў пахаваны...

Пакуль Ядвіга Кужоўнік давала нам інтэрв'ю, на былую сядзібу Дуніна-Марцінкевіча зайшлі тры рабыя каровы. Апетытна скублі траўку каля помніка, капытамі растоптвалі кратовыя пагоркі. Забіраць кароў прыйшла бабуля, і наша субяседніца ўзрадавалася, што можа збыць ёй нас, дапытлівых.

— Вунь Зося Марцінкевіч! Яна служыла ў тых паненак...

Дапамаглі бабулі загнаць кароў у двор. Адну, якая дае малако, яна залыгала каля плота, сыпанула ёй у вядро яблыкаў. Запрасіла:

— Хадземце цяперака ў хату.

Найперш мы пацікавіліся яе прозвішчам, ці не родзічка яна Дуніну-Марцінкевічу.

— Муж мой — Марцінкевіч Браніслаў Францавіч. Хадзяінам быў у паненак, эканомам. Родам ён недзе з-за Мінска, з Падляддзя. У Мінску жыў брат Ян, а ўсяго іх — чатыры браты... Пры Саветах муж кладаўшчыком быў, дэпутатам выбіралі. Баёўся расказваць, што з паноў. Людзі ўсялякія, маглі і шапнуць. Дак от пра яго нічога і не ведаю.

— Пра паненак раскажыце, пра апошніх жыцелек у сядзібе Дуніна-Марцінкевіча.

— Дом быў з дзерава. Зала, дзве спальні для старух, сталоўка, прыхожая, а тады кухню прыбудавалі. Кніжак багата мелі. Валерыя, старшая з іх, вучыла туташніх дзяцей. Маня вучыла ў Венцы. А Ванда Крыжанская вучыла ў Мішанах, адкуль я родам. Прозвішча ў Валерыі і Мані — Асіповічы...

— Што вы ў іхнім доме рабілі?

— Усё рабіла. Печы паліла. Кароў даіла. Потым у пакоях прыбірала. А другая дзеўка паліла ў печы. У іх багата зямлі было. Жылі добра, куплялі што захочуць. Коней трымалі, кароў мо пятнаццаць штук. Валы былі. Трохднёвікі два служылі і парабак — удавец з сынам. Я ім паталяла, добра рабіла, дак і мяне любілі. Гасцінцы давалі — хустачку, матэрыял, тапкі. Ім — пацеха, мне — радасць. Усе людзі паненак паважалі...

— Як абышліся з імі Саветы?

— Вой, не пытайцеся. Аб'явілі, што ў іхнім доме будзе галасаванне. Сказалі, каб яны выехалі куды-небудзь. Што ж, выехалі ў Гродзеўшчыну, на хутар да Мінкевіча. Там дзве нядзелькі жылі, пакуль тыя выбары закончыліся... А ў вайну, як палілі Мішаны, дак і яны з усімі пабеглі хавацца. Тады, слава Богу, вярнуліся... Пасля вайны з'ехалі ў Польшчу. А хату іх разабралі людзі, самагонку гналі, трэба былі дровы. У Мінск нібыта збіраліся дом забраць, але туды нічога не перапала. Разнеслі па бервяну, вокны, дзверы павыдзёрвалі, цэглу разабралі...

Баба Зося цяжка ўздыхае, пазірае ў нейкую сваю даль-далячынь. А мы маўчым. Ад крыўды хочацца крычаць і плакаць. Хто пачуе? Які адраджэнец верне незваротнае?

Высвятляем: у цяперашняй Люцінцы жывуць Кулік, Радзюк, Віткоўскі, Бобрык, Арцюшэўскі, Маркоўскі. Хто з іх можа пазалаціць скарбонку ўспамінаў?

Заходзім у хату, якая насупраць сядзібы Зосі Марцінкевіч. Сустракае згорблены, хваравіты чалавек. Цяжка, хрыпла дыхае, але курыць самакрутку.

— Ёсіф я, Маркоўскі. З бацькам арандаваў зямлю. Тутка паноў было, у які бок пальцам не ткні — пан. Навіцкі быў, Грынкевіч, Прасмыцкі, тады Лагуновіч, Пачыноўскі, Палянскі, Голуб, Ліпскі...

Пан Юрый Антонаў Ліпскі меў свой маёнтак у Залессі, Ракаўскай воласці. Ён пісаўся дваранінам, рымска-каталіцкай веры. Меў 164 дзесяціны спадчыннай зямлі, і яму служылі чатырнаццаць былых дваровых. Так што нашчадкам пана Юрыя варта парупіцца, каб адшукаць залатыя сляды багатага продка.

Нас жа зацікавіла тое, што маёнткі пісьменніка Дуніна-Марцінкевіча і землеўладальніка Ліпскага амаль што межавалі. Яны маглі сустракацца на дарогах у Ракаў ці Івянец, у Заслаўе ці Пяршай. Яны маглі разам хадзіць на паляванне, піць чай. І хто ведае, мо сусед-памешчык Ліпскі, яго сям'я, іх норавы паслужылі ў нейкай меры правобразамі герояў «Пінскай шляхты»?



Дзед Юзік Маркоўскі з Люцінкі некалі арандаваў зямлю ў Дуніна-Марцінкевіча

Перакананы ў адным: шляхцюк Юрый Антонаў Ліпскі — парастак тых барысаўскіх Цюхаёў, якім прысвяціў цэлы раздзел у гэтай кнізе. Ён, буйны землеўладальнік, працаваў канцылярыстам Мінскай казённай палаты, меў жыхарства ў горадзе. І па гадах гэта супадае з працай у Мінску Дуніна-Марцінкевіча.

А былы арандатар Маркоўскі тым часам прадаўжаў прыгадваць:

— Мы з бацькам узялі зямлю ў гэтых паненак Дунінавых. Запраўляў іх зямлёй, усёй гаспадаркай пан Крыжанскі. Арандавалі дванаццаць гектараў, а ўсяго яны мелі — трыццаць тры. Плацілі так: нам сто кілаграмаў зерня, ім — палову з гэтага, нам дзве капы сена, ім — адна. Харошыя былі паны. Людзі за іх заступаліся... Дом мелі вялікі, з пачэсаных бярвенняў. Мая маці, як Саветы сталі, напісала ў Валожын, каб у ім школу адкрылі. Пакуль рашалі, дак хату іхнюю разабралі, расцяглі... Школу адкрылі ў Ляснікох, а гадоў пяць пісалася «Люцінская школа», паколькі было такое ра-

шэнне... Матка мая малаадукаваная, але пахадкая, актыўная. Хадзіла, збірала подпісы, каб бальніцу тутка адкрылі. Так і не выхадзіла нічога, умёрла...

Іосіф Маркоўскі, калі выдахся апавядаць, параіў нам сходзіць да Юстыны Арцюшэўскай.

Сухенькая бабулька сядзела ў хаце на лаве. Апранута цёпла, «не грэюць старыя косці». Пасвятлела, заўсміхалася, калі даведалася, чым цікавімся.

— Ага, тутка жылі: Манька, тады Валерачка, тады Ванда Крыжанская. Яны вучылі нас! Мяне — Валерачка вучыла, па-польску і па-нямецку. Як пачне швэргатаць, мы рагочам, і яна рагоча. Ніколі не крычала на нас... Вершы вучылі, спектаклі ставілі... У іх на хаце бацяны вяліся. Аднаго разу хлопцы зацягнулі барану на вольху. От бацяны і пераляцелі туды, дак хадзілі прасіць іх, каб вярнулі ім бацяноў. Харошыя паненкі, мілыя... У іх яшчэ брат быў Казя, неталковы нейкі, дурны. Шараваў усё галаву, а тады — умёр. А ў Крыжанскіх — двое дзяцей, дачка Галя і сын Вандыль. Сын, кажуць, жыў у Кракаве, у яго пяцёра дзяцей... Наша вёска Люцінка — з прадаўнага. Яна — мая радзіна! Бабка мая Караліна тутка служыла ў паноў. Можа, у самога Дуніна?

Зямля пад шэрым парасонам. Дробны дождж абмывае нашы твары. Не хаваемся ад яго. Ходзім па Люцінцы, слухаем галасы сведак нядаўняй мінуўшчыны. Усё цікава!

Балючыя пытанні вярэдзяць душу. Чаму не паважаем памяць людскую, гісторыю нашу і людзей, якія ўслаўлялі нашу Айчыну?

Чаму спадчыннікі мала ведаюць класіка свайго, пачынальніка беларускай літаратуры Дуніна-Марцінкевіча?

Чаму тэатры Беларусі ігнаруюць «Пінскую шляхту»?

Чаму мы такія?..

# НА БАЛОЦЕ —У БЯДОЦЕ

*Наш народ наўздзіў трывалы!*
*Шмат прыдбаў чужынцам славы...*
*Аб сабе адно забыўся,*
*Толькі вось цяпер збудзіўся.*

Цётка

## ЦІ КАСЦЮШКАЎЦЫ БРАТЫ-КАВАЛІ?

У глухім Палессі, за непраходным балотам, за такою тхланню, што адтуль і свету Божага не відно, было сяльцо. І жылі-пажывалі там людзі...

Прыкладна так завязвалася адна даўнейшая казка, якая запомнілася сваім узрушаным пачаткам. Як у вядомым выслоўі балотнай паляшучкі:

— А няўжо й за Гомлем людзі ё?..

Пра што баялася далей у той казцы, не ўхапіў у памяць. Ды галоўнае — пачаць, падлавіць кончык клубка. Як адзін хваліўся: «Мяне толькі кончыкам зачапі, а я цябе — усім бізуном».

Вось і я на ўвесь «бізун» паспрабую паспавядацца аб сустрэчы з жывым паданнем, аб маіх адкрыццях бязгербавых Ліпскіх сярод дзікіх палескіх балот.

Калі спускацца па Прыпяці ўніз, недалёка ад Петрыкава, у самыя глухія лельчыцкія балоты, збочвае рака Убарць. Даўнымдаўно, так даўно, што ніхто не згадвае дакладнага часу, прыплылі па ёй у дрыгву браты Ліпскія. Нібыта былі яны кавалямі, майстрамі на ўсе рукі. У гэта паверыць лёгка, бо лайдакам і няўмекам няма чаго рабіць сярод неабжытай багны. А яшчэ можна ўявіць, што гэта былі смелыя адчаюгі. Наўмысна шукалі селішча дзікага, глухога, тайнага.

Вось тут і ўзнікаюць пытанні: чаму тыя браты Ліпскія зашываліся ў глухую твань, што прымусіла іх сарвацца з аселага месца, ад каго ратаваліся?

Ёсць некалькі версій.

Найперш, можна дапусціць, што тыя Ліпскія былі апантаныя шукальнікі кветкі папараці. Убачылі, адчулі на сваёй скуры, што род іхні збяднелы церпіць невымерную пагарду ад уласнікаў, уладароў, разбойных войнаў. Давай ламаць галаву, як самім упрыго-

жыць сваю долю. Прачулі пра неачалавечаныя, але багатыя балоты, сабралі манаткі і рушылі насустрач свайму шчасцю.

Другую версію падказвае рускі даследчык В. Маракуеў, які ў 1879 годзе выпусціў у Маскве свае дарожныя нататкі «Палессе і палешукі». Аўтар сцвярджае, што ў глухія палескія мясціны паабапал Прыпяці рускія цары ссылалі некалі вальнадумных сялян. Калі так, то сярод выгнаннікаў маглі быць і браты Ліпскія.

Тут важна помніць, што ў выніку розных ваенных спрэчак паміж рускімі ўладарамі і Вялікім княствам Літоўскім, Рэччу Паспалітай мноства беларускіх насельнікаў прымусова ці вольна эмігрыравалі ў расійскія княствы. Магчыма, там яны пачалі ўводзіць свае парадкі і іх пад прымусам вярнулі назад. Толькі не на радзінныя месцы, а ў неабжытыя балоты.

Трэцяя версія найбліжэй да маёй душы. Яна звязана з «русінам племені беларусаў» Андрэем Тадэвушам Банавентурам Касцюшкам-Сяхнавіцкім. А дакладней — з вызваленчым паўстаннем 1794 года ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве, якое ўзначаліў таленавіты, слынны ў свеце генерал Тадэвуш Касцюшка, сын беларускага шляхціца з-пад Брэста.

Падштурхнуў да гэтай версіі апантаны краязнаўца і гісторык-аматар Лельчыцкага раёна Іван Купрыянавіч Бондар. Яго, начальніка калгаснага ўчастка, я спаткаў у вёсцы Усаў, якая выселена пасля чарнобыльскай катастрофы.

— Я тут када-та жыў, — задумліва сказаў Іван Купрыянавіч, і позірк яго вільготных вачэй прабег па апусцелых хатах.

— Вы цяпер тут галоўны? — спытаў я.

— Бываю і галодны, — адказаў, як бы не пачуў майго пытання, яшчэ крыху паўзіраўся ў далячынь, пачаў гаварыць, прапускаючы багата чаго паміж абрывістых фраз.

— Я тут жаніўся... Жонка адсюлека... Цяпер жывём у Лельчыцах... Сюды па службе езджу... Бібліятэку туташнюю расцягнулі: хто на чытво, хто на падпал... Кніга летапісу вёскі вялася... Знікла... Дак от, запісвайце: мой дзед, які нядаўна памёр, чуў ад свайго дзеда, што ў нашы балоты, як скончылася паўстанне Касцюшкі, прыйшлі Ліпскія, Сініцкія і Хамутоўскія. Дак етых хвамілій багата па ўсяму раёну. Нібыта яны звярнуліся да пана-католіка, які жыў у Лельчыцах: «Схавай нас!.. Дай жыць у балоце!..» Тэй, відаць, узрадаваўся, бо ў яго балоце вадзіліся адны нячысцікі. Так і нарадзіліся селішчы нашага раёна Усаў, Лохніца, Семяніцкая Рудня, Буйнавічы, Каросцін, у якіх і цяперака жывуць Ліпскія, Хамутоўскія, Сініцкія... Кожная сям'я — радня другой... Клубок!.. Так, кароча гавара, спладзіліся на нашай зямлі етыя трудзягі... Мора іх тут!..

А цяпер звернемся да гісторыі.

Паўстанне касцюшкаўцаў — гэта барацьба вольналюбівых, шчырых патрыётаў супраць гвалтоўнага падзелу Рэчы Паспалітай. Як вядома, па першаму падзелу да Расіі адышлі ваяводствы Мсціслаўскае, Віцебскае, Полацкае, Інфлянцкае і частка Мінскага за

Дняпром. Па другому падзелу імперыя атрымала ўсё Мінскае ваяводства, частку Віленскага, Навагрудскага і Берасцейскага. Дзяржаўная мяжа распаласавала Беларусь з поўначы на поўдзень ад Друі на левым беразе Дзвіны да возера Нарач. Далей яна ішла па межах Віленскага ваяводства ў напрамку да Стоўбцаў, адтуль — на Нясвіж і Пінск, аж да Валыні.

З гэтых мясцін і збіраліся паўстанцы. Яны паверылі ў абнадзейваючы лозунг барацьбы за волю, роўнасць, незалежнасць. Яны праніклiся заклікам начальніка сіл узброеных Тадэвуша Касцюшкі:

*«Найдастойнейшыя Грамадзяне, трэба захацець узбудзіць у сабе любоў да волі і мужнасць даўнейшых продкаў вашых і па іх прыкладу праз пасполітае рушэнне бярыцеся ўсе за зброю...»*

Даследчыкі сцвярджаюць, што са 150 тысяч паўстанцаў — 40 тысяч, амаль кожны чацвёрты, былі насельнікамі нашага краю. Гінулі змагары за вольную Беларусь у бітве пад вёскай Паляны, што на Ашмяншчыне, ва ўстанаўленні паўстанцкай улады ў Бярэсці, Ваўкавыску, Слоніме, Навагрудку, Пінску, Кобрыне, Лідзе, Браславе...

Палягло браткоў-беларусаў за сваю Бацькаўшчыну і пад Крупчыцамі, што каля Кобрына. Супраць сялян-касіянераў змагаўся рускі адборны корпус пад камандаваннем самога Суворава. Ён, вопытны камандзір-ваяка, выйграў бой. За гэта царыца Кацярына II надала Сувораву званне фельдмаршала і падаравала больш за 13 тысяч прыгонных сялян у Кобрынскім павеце.

Магчыма, прыгонныя Ліпскія, Сініцкія ды Хамутоўскія і ратаваліся ад ганебнага рабства ў балотах Палесся. А магчыма, то былі непасрэдныя паўстанцы альбо іх надзейныя памагатыя. Яны ратаваліся ад суровага загаду імператрыцы: прыняць прысягу «ад усялякага звання жыхароў»! Такой здрады вальналюбцы перанесці не маглі. Ратаваліся, як хто мог і як хто ўмеў. Паратункам рабіліся непраходныя багны з грудкамі зямлі, прыгоднай для жыцця.

Адтуль, відаць, і бяруць вытокі народныя паданні пра лесуноў, вадзянікаў, балотнікаў. Людзям сярод глухамані чуўся са страху дзікі, злосны рогат нячысцікаў, яны верылі ў іх прахіндзействы. От і нараджаліся павер'і, якім хочацца верыць і ў наш цывілізаваны час. Каб не быць адурманеным нячыстай сілай, трэба штонебудзь з адзення насіць навыварат альбо насіць шапку брылём назад. А найлепш — памаліцца штодня перад абразамі. Хаця б вось так:

*«Ойча наш, Ты ёсць на нябёсах! Да свяціцца імя Тваё, да прыдзе Царства Тваё, да будзе воля Твая, як на нябёсах, так і на зямлі. Хлеб наш надзённы дай нам, і пакінь нам даўгі нашы, як і мы пакідаем даўжнікам нашым, і не ўвядзі ў спакусу, але асцеражы нас ад нячысціка».*

Не помнім і не прытрымліваемся народных павер'яў. Іх ахрысцілі бальшавікі забабонамі.

Не ведаем малітваў і не молімся. Не ўмеем гаварыць з Богам. Можа, ад таго такія гаротныя?

Праўдзівыя версіі пра бязгербавых Ліпскіх я сабраў, блукаючы па Лельчыцкім, Ельскім, Мазырскім ды Калінкавіцкім раёнах. Іх адкрыў у рэдкіх бібліятэчных кнігах ды архівах.

А цяпер — сенсацыя! Адкрыццё для мяне, для ўсіх Ліпскіх, хто родам з Убарцкай Рудні. Удзячны будзем мешчаніну Мікалаю Адамаву Ліпскаму, які напісаў скаргу земскаму начальніку 3-га ўчастка Мазырскага павета. Скарга зарэгістравана ў канцылярыі начальніка 25 красавіка 1902 года за № 986. А старанныя «пчолкі» з Нацыянальнага архіва Беларусі занеслі гэты дакумент у фонд 1595.

Пра аўтара скаргі звесткі скупыя. Яму — трыццаць пяць гадоў. У яго — жонка Альжбета і два маленькія сыны Сцяпан і Іван. Ён мае брата Ігната трыццаці гадоў і дзвюх сясцёр — Аляксандру і Надзю. Бацька Адам памёр, і ён, старэйшы ў родзе, павінен заступіцца за сябе, за усіх, хто стаіць за ім. Тут без смеласці і рызыкі не справіцца.

У скарзе Мікалай Адамаў Ліпскі называе сябе мешчанінам. Для сучаснага чытача растлумачым, што ў XIV—XVIII стагоддзях так называлася падатковае саслоўе ў Вялікім княстве Літоўскім, у якое ўваходзілі рамеснікі, дробныя гандляры, домаўладальнікі і іншыя катэгорыі местачковых вольных людзей. Гэта саслоўе юрыдычна абаранялася законам. Мяшчанам гарантаваліся правы судовага разбору па маёмасных і крымінальных справах, права прыцягваць да суда шляхціца за нанясенне ран, шкоды, права завяшчання маёмасці. Абавязкам мяшчан была ваенная служба ў выпадку вайны.

Важна адзначыць, што і збяднелая шляхта магла трапіць у саслоўе мяшчан. У Статуце прадугледжвалася пазбаўленне правоў і прывілей таго шляхцюка, які *«занехавши именья и обыстья своего шляхетского, або про худобу свою ищучы собе поживенья, ушол бы до места и мешкал там, торг местский ведучи або шинк в дому маючи, и локтем меречи або ремесло робечи на варстате...»*

Дык што, урэшце, прымусіла мешчаніна Убарцкай Рудні Мікалая Адамава Ліпскага пісаць скаргу ў Мазырскі павятовы з'езд? Чаго ён хацеў, чаго дамагаўся, якую праўду шукаў?

А справа ў тым, што ён не згодзен з рашэннем земскага начальніка 3-га ўчастка ад 30 сакавіка 1902 года аб пазямельным уладкаванні пры вёсцы Убарцкая Рудня на землях графа Аляксандра Тышкевіча. Яму адмовілі ў атрыманні надзелу зямлі, спасылаючыся на правіла ад 25 ліпеня 1864 года. Згодна з правілам, зямлю давалі вольным людзям, былым прыгонным, альбо часоваабавязаным сялянам. А Мікалай Адамаў Ліпскі, згодна з прадпісаннем Казённай палаты ад 28 лютага 1866 года за № 1615, з часоваабавязаных сялян далучаны да мазырскіх мяшчан.

Смеласць і рашучасць Мікалая відавочныя. Ён просіць з-за сваёй неадукаванасці распісацца пад скаргай нейкага Лянкевіча, але гатоў пастаяць за свае гонар і правы. Ведае сабе кошт.

Праз два месяцы Мазырскі павятовы з'езд у складзе чыноўнікаў Рыдзені, Полазава, Барысава і сакратара Крыцкага разгледзеў скар-

гу Ліпскага. Пры разборы прысутнічаў паверааны графа Тышкевіча Захарэвіч.

І што?

Пацвердзілася даўнейшая звычка: начальства заўжды правае. Адмовілі Мікалаю Адамаву Ліпскаму ў яго просьбе. Граф Тышкевіч і яго служкі аказаліся мацнейшымі. Яны ўпарта адбіралі землі ва ўласнікаў, якія спрадвеку карысталіся імі, зрабілі іх урадлівымі, багатымі.

Відаць, граф Тышкевіч паставіў задачу ўвайсці ў пяцёрку самых багатых людзей Мінскай губерні. Пад заслону дзевятнаццатага стагоддзя звыш ста тысяч дзесяцін зямлі мелі толькі князі Пётр Львовіч Вітгенштэйн і Антон Вільгельмавіч Радзівіл, графы Канстанцін Канстанцінавіч Патоцкі і Маўрыкій Аляксандравіч Патоцкі. А ў графа Тышкевіча па тым часе лічылася ўсяго 78 766 дзесяцін. Трэба адабраць кавалак зямлі і ў мешчаніна Мікалая Адамава Ліпскага, якой ён карыстаўся ў вёсцы Убарцкая Рудня.

Але ўпарты мешчанін Ліпскі, загартаваны балотнымі нягодамі Палесся, піша новую скаргу. Цяпер ужо ў Мінск, у губернскае прысутствіе.

*«З рашэннем Мазырскага павятовага з'езда я не магу пагадзіцца, бо вольнымі людзьмі лічыліся мой бацька Адам, мой дзед Антон яшчэ за шмат гадоў да вызвалення сялян ад прыгоннай залежнасці. І я, і іншыя Ліпскія з вёскі Убарцкая Рудня належым да гэтай катэгорыі людзей. А мяне пазбаўляюць права выкупу зямлі па чыншаваму закону ад 9 чэрвеня 1886 года...»*

Трэба ведаць, што чыншавае права забяспечвала бестэрміновае, спадчыннае землекарыстанне сялян і мяшчан сваімі надзеламі. Як бачым, Мікалай вёў барацьбу за зямлю, а значыць, за сваіх спадчыннікаў — сыноў Сцяпана і Івана.

У верасні 1902 года Мінскае губернскае прысутствіе слухала скаргу жыхара хутара (аўтар пісаў «вёскі». — *Ул. Л.*) Убарцкая Рудня Буйнавіцкай воласці мешчаніна Мікалая Адамава Ліпскага. У пастанове запісана: «Покинуть жалобу без последствий».

Далейшыя ўчынкі, як і далейшы лёс Мікалая Адамава Ліпскага, устанавіць не давялося. Праз пятнаццаць гадоў пачалася рэвалюцыя, якая рэзка змяніла месцажыхарства і настрой усіх уласнікаў. Для тых, хто зацікавіцца радаводам Мікалая Адамава Ліпскага, хто захоча знайсці агульныя карані з ім, даводжу звесткі з яго сямейнага спіса, складзенага на 1 студзеня 1894 года.

У Мікалая быў бацька Адам, 1849 года нараджэння, маці звалі Паўліна. У бацькі Адама быў старэйшы брат Васіль, 1840 года нараджэння. У яго жонка — Марцэля. У іх дзеці — Мікалай (жонка Кацярына) і Адам (жонка Караліна).

З усёй справы найцікавейшы дакумент — гэта выпіска з архіва Мінскага акружнога суда аб рашэнні Мазырскага павятовага суда ад 3 верасня 1858 года па справе Ліпскіх хутара Убарцкая Рудня Буйнавіцкай воласці аб вызваленні іх ад прыгоннай залежнасці.

Цяжка ўстанавіць ступень сваяцтва паміж гэтымі Ліпскімі і Мі-

калаем Адамавым Ліпскім, але можна з упэўненасцю сцвярджаць, што ва ўсіх іх адны карані. І таму зарука — архіўная даведка, якую цытую з арыгінала:

*«1858 года Сентября 3 дня, ■ присутствии Мозырского уездного суда СЛУШАЛИ: дело о крепостных Убортской Рудни Липских, отыскивающих свободы из-под владения помещика Рудиевского. ПРИКАЗАЛИ: из дела этого значится Иосиф Григорьев и Франтишек Иванов Липские прошением 24 июня 1857 года поданным, прописуют, что родоначальники их родные братья Иван, Михаил, Юрко ■ Петро Липские свободного происхождения, прибыв из Царства Польского ■ 1773 году в Мозырский уезд в имение езуитское Осовец, взяли в арендное владение Рудню Убортскую с железоплавильным горном, мельницею и сукновальнею с условием платежа за эти статьи ■ за четыре уволоки земли по 567 злотых. Когда же ■ том году составлялся инвентарь с объяснением лежащей на крестьянах повинности, то ■ оный инвентарь введен заключённый ими контракт с пояснением, что сказанные Липские захожие люди и платящие только за пустопорожнюю землю ■ за пользу с Рудни, мельницы и сукновальни. На основании этого контракта родоначальники Липские и снисходящие от них деды и отцы, занимаясь присвоенным ремеслом, жили спокойно по 1829 год. Впоследствии же нынешний владелец Иван Рудзиевский, уничтожив железоплавильный завод, начал подвергать их крестьянской повинности...*

*Крестьяне помещика Рудзиевского имений Острожанки, Глинницы ■ Замошья — всего семь человек, а также Буйнович помещика Добриньского — три человека, за присягаю показали, что деды и отцы означенных Липских с давних времен арендовали ■ Убортской Рудни землю и занимались выделкаю из руды сошников, коих родители были захожими людьми. За уничтожением завода помянутые Липские начали отбывать за землю крестьянские повинности и посему, вероятно, записаны по ревизским крепостным сказкам...*

*Сих людей, происходящих от поселившихся в Убортской Рудне предков Михаила, Юрки, Петра и Ивана Липских, на основании статей 931, 943, тома 9, как равно ■ статей 2321, 2329, 2402, тома 10, из крепостного звания деревни Убортской Рудни помещика Ивана Рудзиевского уволить, с предоставлением права на избрание рода жизни свободного подданного состояния с положенными по законам льготами от податей и от рекрутства. О чем постановить разъяснительное определение...»*

Дык вось адкрыццё: у 1773 годзе ў вёсцы Убарцкая Рудня (цяпер Лельчыцкі раён) быў свой маленькі металургічны заводзік — рудня. Там з балотнай жалезнай руды ў спецыяльных сырадутных печах-домніцах выплаўлялі метал. А з яго браты Ліпскія выраблялі сашнікі. У іншых месцах для патрэб земляробаў «металічныя» майстры рабілі сякеры, сярпы, косы. Вось чаму і па сённяшні дзень на Беларусі існуе больш за сто вёсак, якія маюць назву «Рудня». Вакол той жа Убарцкай Рудні ёсць яшчэ Сіманіцкая Рудня, Руднішча, Кавалі, Леская Печ, Сярэднія Печы. А далей пайшлі паселішчы і ўрочышчы без загадкавай тапаніміі: Замошша, Заполле, Забалоцце, Крынічная Града, Вужаў Лясок, Ліпляны, Дуброва, Балота Тапілаўскае, Казіміраўка, Якімы, Казлы, Шуты...

Архіўная даведка пацвярджае, што беларус заўжды любіў волю. Ціхі і нібыта інертны, як падаецца таму, хто яго мала ведае, ён

дамагаецца свайго і, урэшце, выходзіць пераможцам. Хацелі Ліпскія даказаць у 1858 годзе, што яны вольныя, і даказалі. Пачаў Мікалай Адамаў Ліпскі пад канец стагоддзя шукаць праўду, думаю, перамог, бо ён у сваім змаганні быў не адзінокі.

У архівах знайшоў хадайніцтвы аб выкупе зямлі ад жыхароў вёскі Убарцкая Рудня Кірылы і Івана Іванавых, Лявона Францава, Ксенафонта Данілава, Якава Іосіфава, Паўла Лявонава, Восіпа Сцяпанава Ліпскіх. Верыцца, яны былі ніткай аднаго клубка, патрыётамі свайго роду, бо з той жа апантанасцю хацелі даказаць, што яны вольныя людзі, гаспадары свайго лёсу і свайго надзелу зямлі. Ім верыш, бо які ж ты чалавек на зямлі, калі не маеш сваёй зямлі, калі не адчуваеш грунту пад нагамі, калі не жывішся крынічнай сілай, зямным водарам і натхненнем?

Усе Ліпскія з Убарцкай Рудні скардзіліся на графа Тышкевіча ў Мінскае губернскае па сялянскіх справах прысутствіе. Іх лісты пазначаны 1894—1895 гадамі. Усім ім, відаць, пісаў адзін пісар, бо паўтараецца адна фраза: «Мы з даўніх часоў тут жывём, абрабляем зямлю, а нас пазбаўляюць права выкупу надзелаў, сілком зганяюць з дзедзічавых месцаў...»

Адмаўляючы на скаргі Ліпскіх, начальства спасылалася на новы закон ад 19 студзеня 1893 года. Аказваецца, быў такі «мудры» закон аб пазямельным уладкаванні рускіх арандатараў, «водворившихся на владельческих землях» у губернях паўночна-заходніх і беларускіх да 1861 года. Арандатар павінен быў быць праваслаўнага веравызнання. Вось за гэта і ўчапіліся царскія служкі. І давай сілком зганяць з зямлі ўбарцкіх Ліпскіх, родапачынальнікі якіх прыбылі туды ў 1773 годзе з Польшчы.

А мы ж ведаем, што па тым часе існавала Рэч Паспалітая, якая аб'ядноўвала Каралеўства Польскае і Вялікае княства Літоўскае. Межы гэтай дзяржавы даходзілі ледзь не да Масквы, да Чорнага мора. І калі архівіст напісаў, што чатыры браты Ліпскія прыбылі ў вёску Убарцкая Рудня з Царства Польскага, то гэта зусім не азначае, што яны палякі і прыехалі ў лельчыцкія балоты з-пад Кракава ці Варшавы. Хутчэй за ўсё гэта былі збяднелыя пінскія шляхцюкі альбо мазырскія, петрыкаўскія. Прабіцца ў Рудню па тым часе яны маглі толькі водным шляхам — па Прыпяці, пасля па Убарці.

Дарэчы, скаргі Ліпскіх напісаны не толькі з Убарцкай Рудні. Мешчанін Павел Ліпскі пазначыў у лісце месцам свайго сталага жыхарства вёску Злодзіна. Піша: «У нас 30 домаўладальнікаў, і ўсе яны Ліпскія. Мы жывём ужо больш за трыста гадоў тут». Гэту праўду пацвердзілі пад прысягай сяляне Стахей, Бялоцкі, Стасенка, Чэчка, Карповіч.

Восіп Сцяпанаў Ліпскі хадайнічаў за зямлю з вёскі Рудня, маёнтка Астражанкі. Яго сілком выселілі з абжытага месца нібыта за тое, што не плаціў арэндны падатак і не хацеў заключаць новы арэндны дагавор. Пасля пісьма ў Мінск Восіп пасылаў скаргу нават ва Урадавы Сенат. Але яго і там не падтрымалі.

Аляксандр Ліпскі, жыхар вёскі Сіманіцкая Рудня, таксама дамагаўся права на выкуп арандуемага ўчастка зямлі. У сваім пісьме, падладжваючыся пад закон, тлумачыў:

*«Паверанны ўладальніка Вішнеўскага Ручынскі прадставіў для разгляду маёй справы сведчанне ад Мазырскага ксяндза, што я ў 1860—1868 гадах быў на споведзях у Петрыкаўскім касцёле. Гэты дакумент не можа пацвердзіць, што я католік. У той час, будучы пад уплывам памешчыка-католіка, амаль усе наведвалі касцёл, хто пражываў на яго зямлі...»*

З хутара Лохніца напісаў скаргу мешчанін Сільвестр Мікадзімаў Ліпскі. Даводзіць, што ён нарадзіўся 23 жніўня 1833 года ад праваслаўных бацькоў — Мікадзіма і Канстанцыі. Бацька яго арандаваў зямлю ў Лельчыцкай эканоміі з 1849 года, а ён — з 1865 года. Сільвестр дамагаўся права на пашавы сервітут* і лясныя ўгоддзі. Піша ў Мінск, як бы там хто пачуе яго: *«Уладальнік граф Тышкевіч адмовіў мне ў пашавым сервітуце і лясных угоддзях. Лічу гэта няправільным і крайне мне крыўдным, бо зямля без пашы і лесу карысцю для мяне служыць не можа. Уладальнік маёнтка за выпас худобы накладваў празмерныя плацяжы, якіх я выплаціць не магу...»*

З той жа Лохніцы напісалі скаргу ў Мінск 26 красавіка 1901 года Вікенцій і Фелікс Сініцкія, Канстанцін Капітонаў Ліпскі, Станіслаў Хамутоўскі, Андрэй Некрашэвіч, а з хутара Жмурнае — Гаўрыла Хамутоўскі. Яны просяць, каб далі права выкупіць ім зямлю, якую з-пад лесу і балот распрацавалі для сябе, за якую акуратна плацілі арэнду.

Канстанцін Капітонаў Ліпскі прад'явіў пры гэтым пасведчанне Лельчыцкага павятовага праўлення ад 9 верасня 1899 года за № 1136, што ён па прадпісанні Мінскай казённай палаты ад 16 жніўня 1874 года за № 6940 далучаны да сялян Лельчыцкага павета з былых вольных людзей.

Канстанцін Капітонаў паведаміў, што ён прытрымліваецца праваслаўнай веры. Але і гэта не выратавала яго. Начальства мела свае кампраматы супраць гэтага Ліпскага, і яму адмовілі ў просьбе.

А вось Фабіян Венядзіктаў Ліпскі з хутара Усаў сваю скаргу насіў у Мінск. Ён даводзіў, што паходзіць са Славечанскага таварыства Оўруцкага павета Валынскай губерні, а жыве на хутары Усаў, маёнтка Буйнавічы, на землях Вільгельма Рэгеля. Карыстаецца надзелам з 1850 года, выплачвае эканоміі па 30 рублёў у год. І просіць дазволу выкупіць гэту зямлю.

Праверыць скаргу Фабіяна прыехаў у Буйнавічы нязменны член Мазырскага павятовага па сялянскіх справах прысутствія Радзендорф. Вось што ён дакладваў у Мінск:

---

* **Сервітут** — абмежаванае права карыстання чужой уласнасцю. У Вялікім княстве Літоўскім зямельныя сервітуты былі на права праезду, выпасу жывёлы, рыбнай лоўлі, карыстання сенажацямі, ляснымі ўгоддзямі і інш.

*«Я прыбыў у Буйнавічы 7 красавіка 1896 года і павесткай запрасіў да сябе Фабіяна Ліпскага і паверанага Рэгеля. Фабіяну ўжо 70 гадоў. Сыноў у яго няма. Ёсць дачка Аляксандра, якая замужам за Раманам Сініцкім. Яму — 48 год, мае сына. Мешчанін Фабіян Венядзіктаў Ліпскі давёў, што з 1850 года пасяліўся на хутары Усаў, але пацвердзіць дакументальна гэтага не можа. Паверăны Рэгеля заявіў, што хаця ўчастак зямлі і лічыцца за Фабіянам, але фактычна ім упраўляе зяць Раман Сініцкі, асоба рымска-каталіцкага веравызнання (падкрэслена. — Ул. Л.). І сам Фабіян бывае на споведзях у Вяледнінскім касцёле. Да яго ў снежні 1895 года прыязджаў на хутар ксёндз Спраноўскі, у якога ён спавядаецца...»*

Пасля такога даносу Фабіяну Ліпскаму адмовілі ў выкупе арандуемай зямлі на хутары Усаў, бо дзеянні закона ад 19 студзеня 1893 года «не распространяются на лиц римско-католической веры».

Фабіян паспрабаваў яшчэ раз паскардзіцца, давёў у Мінск вось такую праўду пра сябе:

*«Правяраючы Радзендорф не звярнуў увагу на мае метрыкі, выпісаныя святчэннікам Сіманіцкай праваслаўнай царквы, затое ўзяў на прыкмету галаслоўныя паказанні паверанага Рэгеля Кавалеўскага. Я быў моцна хворы ў снежні 1895 года, папрасіў свяшчэнніка на споведзь. А радня запрасіла ксяндза, які ехаў якраз па хутары. От як было, а не так, як давёў Кавалеўскі...»*

Надпіс на скарзе: «За пропускам тэрміну падачы скаргі пакінуць яе без увагі».

За нешта ж помсцілі царскія ўладары лельчыцкім Ліпскім? А мо ведалі нешта большае? Мо браты-кавалі Міхал, Юрка, Іван і Пятро Ліпскія ўзялі ў рукі жалезарудную печ і млын ва Убарцкай Рудні, каб каваць там не толькі сашнікі? Мо яны кавалі касцюшкаўцам штыкі і вілы? А пасля іх спадчыннікі адбывалі баршчыну ў царскіх паноў, пісалі скаргі і атрымлівалі ўпартыя адмовы...

Простым людзям заўжды цяжка шукаць праўду. Мы больш за 70 гадоў, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, высмейвалі царскіх чыноўнікаў, крывадушных, хцівых, чэрствых. А за гэты час спладзілі сваіх, таўстаскурых і абыякавых да людскіх слёз і бедаў.

Пішу гэтыя радкі, а ў акно зазіраюць стромкія, гонкія сосны. Зялёныя верхавіны пагойдвае лагодны ветрык, яны як бы гамоняць з небам, цешацца вышынёй і сонейкам. А ўнізе, у зямлі — карані. Яны дзень і ноч здабываюць у цемры вітаміны для зялёнай верхавіны. Да каранёў-рабоў ніколі не перагнецца верх, аж пакуль не адамруць карані ці не нападуць на дрэва ворагі — бура, пярун, караеды, дрывасекі...

Так і ў людзей: на троне — цары, унізе — рабы.

Ды ўсё-ткі панаваць павінна Чалавечнасць, бо мы — істоты з розумам.

# *АСФАЛЬТ НАД МЁРТВАЙ БАГНАЙ*

*Гуляй, душа, без кунтуша*,*
*Шукай пана без жупана...*
Уладзіслаў Сыракомля

Адчыняюцца дзверы. У мой рэдакцыйны кабінет уваходзіць сонечны мужчына. Твар загарэлы, усмешлівы. Кажуць, аб такога можна запалку чыркаць. Рослы. Шырокі ў плячах. Падае для здароўкання моцную руку, кажа:

— А я таксама Ліпскі!.. Якаў Дзмітрыевіч... Родам з Лельчыцкага раёна... Працую ў Ельску... Дырэктар школы-інтэрната...

Вось ужо праўда: хто шукае, той знаходзіць.

Шукаю Ліпскіх, і яны адгукаюцца пісьмамі, тэлефоннымі званкамі. А гэты сам прыехаў да мяне, як да папа на споведзь.

Маладыя, як водзіцца, мала ведаюць пра свой радавод, нават апантанай цікаўнасці не маюць. А гэты, шчыра-ўсмешлівы, адразу запаланіў мяне любоўю да Ліпскіх, якія здаўна выбралі для сябе балотныя лельчыцкія вёскі.

Якаў Дзмітрыевіч падахвоціўся быць маім гідам, і праз нейкі час ён руляваў, вёз мяне па лясной асфальтаванцы ад Мазыра да Лельчыц. Калі на дарогу вытыркаліся, як вокам кінуць, палеткі, сенажаці, ён не стамляўся паўтараць:

— О, тут стаялі непраходныя балоты... Во што зрабілі!.. Каб убачылі гэта нашы продкі, ад радасці б нанава памерлі...

Зноў уехалі ў лес. Па абочыне таропка ішла жанчына з падвязанай рукой. Мы падабралі яе. І яна з сялянскай адкрытасцю расказала пра сваю бяду.

— Гэта-ж, мае вы людцы харошыя, карову ранкам выганяла на пашу. Я — як замахнулася на яе пугаўём, дак рука — хрась і вывернулася... Ехаў сусед у Мазыр, кажу: «Іванка, завязі, бо сканаю». Паслухаўся, праўда... У бальніцы, во, уставілі, падвязалі, я і пайшла паціху... Аўтобусы цяпер рэдка ходзяць...

Да Таццянінай вёскі, так звалі нашу падарожніцу, заставалася яшчэ вёрст дваццаць. Яна збіралася іх прайсці, бо хату пакінула незачыненай, свінні хлеў разрываюць. Ад радасці, што яе ўзялі ў машыну, жанчына ахвотна паддалася нашаму роспыту. Ёй — 72 гады. Рана аўдавела. Жыве адненькая, а дзеці «свет сшываюць».

— А ці ёсць у вашых Махнавічах Ліпскія?

— Іе, мае харошыя, у канцы сяла жыве адзін. З нейкага Севера прыехаў. Ева наша была тамака, дак адтулека прывезла таго Ліпскага...

---

* **Кунтуш** — верхняе адзенне шляхецтва, як плашч, прыкмета нацыянальнай, саслоўнай прыналежнасці, а жупан — таксама традыцыйнае беларускае шляхецкае адзенне, прыталенае, кідкіх узораў. Вернасць кунтушова-жупаннаму строю захоўвала пераважна правінцыйная і дробная шляхта.

Каля магазіна ў Махнавічах развітваемся з бабай Таццянай. Яна ўдзячна раскланьваецца нам і, веру, раскажа ўсёй вёсцы, якія добрыя людзі падабралі яе, прывезлі амаль да хаты. Як мала трэба, каб падарыць чалавеку свята!

А мы, двое Ліпскіх, едзем да трэцяга. Хату знайшлі адразу. На вуліцу выйшаў хлёсткі мужык з рыжымі вусамі. Нападпітку. З цыгарэтай. Валасы на галаве даўно не часаныя. Напачатку крыху разгубіўся: прыехалі двое «в штатском», на вуліцу выклікалі. Ох, сядзіць у кожным з нас, хто носіць сівізну, адвечны страх да нечаканага стуку ў дзверы, да незнаёмай машыны ля брамкі. Але мы хутка астудзілі хваляванне махнавіцкага Ліпскага, і ён з палёгкай усміхнуўся, прадставіўся:

— Я і ёсць — Рыгор Рыгоравіч Ліпскі... Сын собственных радзіцелей, радзіўся па собственнаму жаланню...

Рыгор Рыгоравіч гаварыў з рускім акцэнтам, падкрэсліваючы, што аб'ехаў свет. У Карэліі туляўся па вярбоўцы. З нафтавікамі-буравікамі шастаў па Расіі. Нават у Аўцюках быў.

Зацягнуўся цыгарэтай, выпусціў клуб сівога дыму, як паравоз, чмыхнуў і пачаў расказваць:

— Не знаю, хлопцы, хто я, адкуль. Собственна гавара, з Іванаў, не помнячых радства... Я, собственна гавара, не тутэйшы, а петрыкаўскі, з вёскі Скалодзін... Родзічы жылі ва Убарцкай Рудні. Там, собственна гавара, ісключыцельна ўсе Ліпскія...

— Што пра бацькоў скажаце?

— Бацька Рыгор Лукіч быў агентам па налогах у Петрыкаве. У магазінах рабіў. Собственна гавара, галоўкаварыла... Забралі ў армію перад вайной. Адтулека не вярнуўся. Паперчыну даслалі: «Загінуў». Брахня! Не веру!.. Грыша Селіч з Убарцкай Рудні казаў: «Памёр у палоне...» Мне было восем гадоў, як бацьку забіралі на фронт. Помню: высокі, чорны, худашчавы, прыгожы. На хаду, казалі, падмёткі адрываў. Баб любіў. Ніводная не ўстаіць. Іграў вельма на скрыпцы, мандаліне, цымбалах, собственна гавара, на ўсіх інструментах...

— А маці?

— А вот пра маці, собственна гавара, нічога не ведаю. Памерла пасля вайны. Пра сябе і свой корань не любіла расказваць...

— Пра дзеда Луку што ведаеце?

— Собственна гавара, мой дзед, казалі, трымаў нейкі завод, млын. Выходзіць, мы з заводчыкаў, за зямлю не чапляліся. От і сын мой Валодзя аж пад Мурманскам атабарыўся...

Да нас падышоў статны, спартыўнага крою Валодзя, сын Рыгорава, падтрымаў размову:

— У нашых Апацітах дзве сям'і Ліпскіх жывуць. Там багата выхадцаў з Беларусі...

— У Скалодзіне адна сям'я Ліпскіх жыве, — прыгадаў Рыгор Рыгоравіч.

Яго цыгарэта дыгарала. І мы зразумелі: гэты Ліпскі ўжо больш нічога не скажа пра свой род, бо проста не ведае яго.

Далей наш маршрут ляжаў у вёску Буйнавічы. Сельсавецкія мадамы падказалі хату, у якой жыве Мікалай Сяргеевіч Ліпскі. І мы пакіравалі туды.

Не даязджаючы да ўказанага маёнтка, я ўбачыў чалавека, які на абочыне дарогі пасвіў карову. У саламяным капелюшы. Клятчастая светлая кашуля зашпілена да апошняга гузіка. Чорныя штаны. Кіёчак у руцэ. Я закрычаў Якаву Дзмітрыевічу:

— Тармазі!.. Гэта ж Ліпскі!.. Толькі шляхцюк можа пасвіць карову ў святочным уборы...

Так і ёсць! Выгульваў карову ля дарогі Мікалай Сяргеевіч Ліпскі. Маладая ўсмешка застыла на яго круглым ружовым твары, як у калабка на малюнку. З несхаванай радасцю (яго адшукалі Ліпскія!) ён і гутарыў з намі.

— Што, бацька, апроч каровы маеш?

— Што? — паўтарыў ён пытанне і давай пералічваць: — Хату маю, агарод, студню. Бабу пасля вайны знайшоў, дак яна мне сямёра дзяцей нарадзіла...

— З вамі жывуць?

— Каб жа з намі. Толя ў Магілёве, Сяргей у Свярдлоўску, Іван за Гомелем. Нашы Ліпскія ўсюды іе.

— А калі яны пасяліліся на лельчыцкіх балотах, адкуль прыйшлі?

— Хто яго ведае. Бацька мой родам з Ліснага. І ў мацеры дзявоцкае прозвішча Ліпская. Але яны не радня. Бацьку забралі па лініі энкэвэдэ, як мне было дзевяць гадоў. І што ў ваду ўпаў. А як пасля камуністаў стала свабода, дак прыслалі паперку: расстралялі ў Мазыры. Далёка не адвезлі... Дзед Янка Ліпскі жыў у Сіманіцкай Рудні. Пасля прыняўся да Адаркі Навіцкай ў Ліснае. У яе зямля была...

На гэтым генеалагічныя звесткі Мікалая Сяргеевіча заканчваліся, і ён пачаў расказваць пра вайну.

— Я ж, каб вы ведалі, адвечны трактарыст, даваенны. Пра нас спявалі:

Трактарыста палюбіць —
Не трэба саромецца.
Тону мыла закупіць,
А тады — знаёміцца!..

Як немец пайшоў на нас, дак мяне першага і цопнулі. Акуірвалі з трактарам. Сваім ходам, на драўляным паліве, даехаў да Прыпяці. Там нас пагрузілі на баржу. І паплылі ў бок Кіева. Трапіў я ў стралковы полк...

Каб выслухаць успаміны франтавіка, трэба мець багата часу. Яго ў нас не было, і я задаў два нечаканыя для Мікалая Сяргеевіча пытанні. Адказы ён зноў звязаў з вайной.

— Што самае непрыемнае, сумнае было ў жыцці?

— Як трапіў на фронт неабучаным. Камандзір загадвае: «Ліпскі, аднясі камандзіру пісьмо!» Я боты зняў і бягом. Прыбягаю, дакладваю: «Таварыш начальнік, я прынёс вам...» А ён даў каманду

абучыць мяне. Паставілі каля пня і муштравалі: выша ножку, шыра шаг, запявай!..

— А што самае вясёлае было?

— Як з амерыканцамі сышліся на Эльбе. Вельмі ж спірт пілі... Да дна!..

Мікалай Сяргеевіч страпянууўся, ажыў, вочы яшчэ больш заблішчэлі, прапанаваў:

— Мы сёння з бабай на сваім трактары ў ягады ездзілі. Яна варэнікі робіць. Запрашаю!..

Шкада, але мы адмовіліся. Наперадзе чакалі нас новыя сустрэчы з Ліпскімі. У тым ліку і з братам Мікалая Сяргеевіча Уладзімірам.

Ад яго даведаліся, што прапрадзедам братоў быў Якаў. Ад яго — іх прадзед Андрэй, 1836 года нараджэння. Ад Андрэя тры сыны — Іван, 1858 года нараджэння, Сцяпан, 1860 года нараджэння, Ахрэм, 1864 года нараджэння. У Івана — два сыны і пяць дачок. Зямлі мала мелі. Жылі бедна. Хлеба не хапала да вясны. Дзецям даводзілася батрачыць. Сам Іван памёр з голаду ў 1933 годзе.

Адзін з сыноў Івана — Сяргей (бацька Мікалая і Уладзіміра, з якімі мы спаткаліся ў Буйнавічах і Ельску), нараджэння 1887 года, служыў у царскай арміі, у Выбаргу. Пасля ў калгасе, як кажуць, валам хвасты накручваў, каб не ленаваліся плуг цягаць, воз гною везці. У 1932 годзе рэпрэсіраваны, расстраляны. Жонку Матрону высылалі на вольнае пасяленне ў Валагодскую вобласць.

Цікавы аповяд пачулі і пра радавод Сяргеевай жонкі, маці Мікалая і Уладзіміра, Матроны Нічыпараўны Ліпскай.

Яе прадзед Ліпскі Фёдар Антонавіч нарадзіўся ў 1830 годзе. Жыў на Украіне, у пасёлку Валеўск. Батрачыў у памешчыка. Аднойчы паспрачаўся з упраўляючым. А даўно ж вядома: з начальствам задзірацца, што супраць ветру пляваць. Падвесілі Фёдара гайдукі ўніз галавой, знялі штаны і ўсыпалі плётак.

Ачомаўся Фёдар, падгаварыў каханую дзяўчыну, узяў пілу, сякеру, селі ў лодку і паплылі куды вочы пазіраюць. Толькі б далей ад жорсткага пана. Так яны, урэшце, выплылі на раку Убарць. Спадабаўся Фёдару на беразе густы лес, сярод якога быў грудок пустой зямлі. Туды яны на сваёй лодцы і прычалілі назаўжды. У лясах па тым часе вадзілася шмат звяроў, асабліва ліс. Адсюль і назва паселішча — Ліснае.

Прадзед Фёдар займеў са сваёй каханай чатырох сыноў — Нічыпара, Івана, Міканора, Лявона і дачку Хвядору.

У Нічыпара — тры сыны (Марцін, Раман, Трахім) і тры дачкі.

У Івана — два сыны (Андрэй, Васіль) і дачка Таццяна.

У Міканора — сын Пётр і чатыры дачкі — Хрысціна, Праскоўя, Марыя, Анастасія.

У Лявона — тры сыны і тры дачкі, у яго сына Юльяна, 1919 года нараджэння, — таксама тры сыны, адзін з іх, Анатоль, жыве ў Мінску, працуе журналістам.

Вось такі вывадак у гэтых Ліпскіх. Але, на жаль, нават падра-

бязныя звесткі пакуль аніяк не змотваюць у адзін клубок лельчыцкіх Ліпскіх. Мо сапраўды былі яны розных радаводных каранёў? А мо таму, што яны — выгнаннікі і не жадалі, страшыліся выдаваць нашчадкам сваё паходжанне?

І ўсё-такі, хай градам сыплюцца пытанні, на іх не заўсёды ёсць адказы, але ў пошук даўно і надзейна ўпрэжаны натхненне і жаданне ведаць усё пра Ліпскіх: што за людзі жывуць пад небам Беларусі?

Вось такія «вараныя», а ім у прыпрэжку «Жыгулёнак», нясуць нас у вёску Усаў.

Ведаем, вёска выселена пасля чарнобыльскай атамнай катастрофы. Але там жывуць самасёлы. І сярод іх — Ліпскія.

Асфальт аж звініць пад коламі, роўны і неабкатаны. Праклалі магістраль да Усава, а жыць, аказалася, там нельга. Свеціць сонца. Стаіць маўклівы, трывожны лес. На дарозе — адна наша машына. Ад пякучай крыўды замірае сэрца.

Мой нястомны спадарожнік Якаў Дзмітрыевіч Ліпскі даводзіць:

— Вёска Усаў — сярод балот. Яны цяпер асушаныя. А раней вытыркаўся з багны вус зямлі. От і паселішча так назвалі — Усаў. Дзесяць гадоў назад тут жылі сто сорак сем'яў. Пасля Чарнобыля разбрыліся хто куды...

Едзем па пустой вуліцы. Быццам пасля патопу — гола і бязлюдна. Хаты — разбураныя. У цагляных дамах павырываныя вокны, як павыколваныя вочы. На былым калгасным двары — раскіданыя хлявы, заржавелыя, разабраныя трактары, сеялкі, камбайны. Жудасна ад такога пейзажу.

Каля сіласнай ямы ўвіхаецца жанчына. Прымае самазвалы з кукурузнай сечкай. Нічога больш разумнейшага не прыдумалі мясцовыя гаспадарнікі, як нарыхтоўваць корм у чарнобыльскай яме. Такое ўражанне, што людзі на апустошаным атамным палігоне аглухлі ад катастрофы, машынальна прадаўжаюць рабіць тое, да чаго прызвычаіла жыццё.

Старшыня мясцовага калгаса, кажуць, быў з Убарцкай Рудні — Ліпскі Іван Пятровіч. Уцёк у Лельчыцы. Гандлюе ў магазіне. Пра гэта нам давяла даярка Ліда Хамутоўская. У яе чацвёра дзяцей. Найменшай, Машы,— чатыры гады. Дзяўчынка слабая, удзень просіцца спаць, скардзіцца, што баліць галоўка. А ў маці свая скарга:

— Хацелі пераехаць у Лельчыцы, дык Ліпскі Іван Кузьміч не дае кватэры.

— А хто гэты Ліпскі?

— Сам ён з Берзавоза, а ў раёне начальнік па Чарнобылю, от хто ён. Як убачыце, скажыце: Ліпскі крыўдзіць Хамутоўскіх...

На вялікі жаль, мы не знайшлі крыўдзіцеля Ліпскага ў Лельчыцах, а вось усаўскіх Ліпскіх спаткалі, пабывалі ў іх бедных хатах.

З ложка споўз да нас невысокі хваравіты мужчына. На галаве — рэдкія, кароткія валасы. Вочы слязлівыя. Гэта і ёсць Ліпскі Пётр Цімафеевіч, па клічцы Гопчык.

Пачалі распытваць яго, а мужчына заплакаў. Жонка накінулася:
— Не плач, узяўся плакаць, — а нам растлумачыла: — Гэта ж ён хварэе даўно, ляжыць і ляжыць... Ото во толькі падняўся. Як яму дабіцца пенсіі па інваліднасці?..
Пагаварылі і пра гэта. А пасля давай высвятляць радаводную Гопчыка. Аказваецца, яго бацька Хамутоўскі рана памёр. Маці Мальвіну ўзяў замуж Ліпскі Томаш Базыльевіч, запісаў і Пятра на сваё прозвішча. Відаць, добры быў айчым Томаш Ліпскі, бо Пятро Гопчык зноў праслязіўся і сказаў:
— Пражыў бацька мала... Мо трыццаць гадоў... Забралі энкэвэдзісты... У мазырскім яры ўлажылі...
Мы выходзілі з хаты быццам вінаватыя, што расшавялілі памяць. Запомніліся: вялізная белая печ, шырокая лава ля яе і чырвоныя, слязлівыя вочы гаспадара. Калі і хто ў апусцелую вёску прынясе яму пенсію?
З цяжкімі пачуццямі адчынялі брамку ў яшчэ адзін «маёнтак» Ліпскіх. Ён асірацела стаіць на ўскрайку Усава. І жыве тут Юзік, Лаўрэнаў сын, па-вулічнаму — Матросік!
Сустрэў сам гаспадар. У майцы. Босы. Плечы вузкія, рукі тонкія. Трохі забегаў па пустой хаце, дзе пасадзіць гасцей, а тады супакоіўся, сеў на табурэтку і нам падсунуў такія ж седалы. Усё паўтараў:
— От каб баба не сышла ў лес, то мо яйка якое б узбіла на патэльню...
А я, бачачы пустыя шафы, прыгадаў даўнейшы жарт. Завітаў кум у госці. Кума разбіла адзінае яйка на патэльню. А дзеці бегаюць вакол яе падола, плачуць: «Мамачка, і мы яечка хочам». Кума на ўсю хату кажа: «Сціхніце, дзеці, не равіце. Хіба кум свіння, хіба ўсё яйка з'есць».
Нешта падобнае адчувалі б і мы, каб елі ў гэтай хаце. Супакоілі Матросіка, што мы не галодныя, папрасілі яго ўзяць галаву ў рукі і прыгадаць пра свой сямейны род. Ён схамянуўся, сапраўды сціснуў галаву далонямі:
— Зара-зара што ўдумаю... Дак во, дзед мой, як і я, Юзік родам з Лохніцы. Іх некалі пяць сем'яў адтулека прыйшлі сюды, на пясок. Дзед тады шчэ малы быў, штаноў сваіх не меў. А пражыў сто шэсць гадоў. Памёр перад вайной з немцамі, у трыццаць восьмым. Можаце прыкінуць, калі ён нарадзіўся, калі пераехаў з Лохніцы ў Усаў...
Бразнула дзвярная клямка. На парозе з'явіўся стомлены, бледны хлапец з кошыкам за плячыма.
— Ну што? — спытаў Матросік.
— А-а, лісянак кілаграмы два сабраў. Гарадскія ўсё падчысцілі...
— Гэта мой сын Пятро, — растлумачыў гаспадар. — Жыў у Ленінградзе. З жонкай нешта забузіў, пераехаў да нас...
Просім шустрага Юзіка прадоўжыць радаводную, а ён зноў уздыхае:

— От каб баба дома была, мо б што на стол знайшла... А пра наш род што дадаць? У дзеда Юзіка былі браты Марцін, Тодар, Базыль. Усіх кулачылі, трэслі. Майго дзеда прамінулі...

— А чаму вас Матросікам клічуць?

— Хэ, мой бацька Лаўрэн дзевяць гадоў на марфлоце служыў. Ён — матрос, а я, следавацельна, матросік. Прывёз быў альбом, дак там сфатаграфаваны ён пяцьдзесят шэсць разоў. І кожны здымак — з новым караблём. Во які ў мяне бацька! Казаў, на караблі «Пацёмкін» служыў. Дык што аднойчы зрабілі? Усіх афіцэраў за борт выкінулі!.. А тады іх бралі, кожнага дзесятага, і выводзілі на расстрэл. Бацьку пашчасціла вярнуцца дамоў. Дак у трыццаць восьмым нашы з энкэвэдэ падгрэблі. Каня свайго меў. Ездзіў у заробкі. Нехта сказаў, што надта багаты. От і хапанулі. А мы, чацвёра дзяцей, з мамкай ратаваліся ад голаду...

Зразумеў: Матросік Юзік Лаўрэнаў Ліпскі больш нічога не прыгадае, бо вачыма, і без таго павільгатнелымі, пачаў узірацца ў нейкую сваю далячынь, адкуль не вельмі хутка вяртаюцца.

Ён толькі яшчэ раз, уздыхнуўшы, паўтарыў:

— От каб баба дома была, на стол бы знайшла што паставіць...

Мы паверылі ў яго шчырую гасціннасць, але пры гэтым развіталіся і пакіравалі па новай асфальтаванай дарозе. Мой цярплівы і спагадлівы рулявы Якаў Дзмітрыевіч з палёгкай аб'явіў сваё самае жаданае рашэнне:

— Усё, Сцяпанавіч, едзем у вёску Новае Палессе, былое Кароцціна. Там жыве мой бацька. І таксама — Ліпскі!..

На нашым шляху паўставалі розныя людскія селішчы. На кожнае з іх у настаўніка Якава Дзмітрыевіча Ліпскага мелася сваё меркаванне.

Стадолічы: тут жывуць людзі, у якіх сто долей, столькі ж лёсаў. Як не пагадзіцца, бо ў кожнай хаце — свой павук, свая мыш.

Лельчыцы — раённы цэнтр. У народзе існуе павер'е пра прыродную няню. Нешта падобнае на туман з павольнымі крыламі лятае над паселішчамі, закалыхвае немаўлят. От і клічуць маладыя мамы выратавальніка:

Ой, Лелі, Лелі,
Прыйдзі да пасцелі!
Ой, Люлі, Люлі,
Прысніся Ганулі!..

Адсюль і назва — Лельчыцы, сталіцы балотных туманаў, радзімы Лелі — прыроднай няні.

Чырвонабярэжжа — вёска ля Убарці. Мо якраз на гэтым беразе некалі здабывалі чырвоную балотную руду, з якой майстравалі металічныя вырабы.

Замошша — назву гэту мог бы растлумачыць кожны, хто жыў тут да прыходу меліяратараў. Ад машкары, камароў і аваднёў тут стагнала зямля. Хто вытрымаў, выжыў — той замошац, заможны і замшэлы. У гэты куточак раёна не даляцела нават чарнобыльская брыдота.

І вось, урэшце, — Новае Палессе. Вёску назвалі так меліяратары. Яны запраўлялі балем, абнавілі край і далі новую назву паселішчу. Але і старая з вялікім сэнсам — Каросцін. Хай бы ведалі і помнілі сучаснікі, што людзі жылі на балоце, адольвалі каросту, пачвараў-ведзьмакоў, нягоды рабінзонавага адзіноцтва. Пра гэта якраз і паведаў бацька майго спадарожніка — Дзмітрый Якубаў Ліпскі.

Ён распрог кабыліцу, вакол якой круцілася жарабя, завёў іх у хлеў. Гаспадарскім вокам акінуў двор, агарод. Паганяў курэй з град і, накульгваючы, пакіраваў па сцяжынцы міма студні да хаты. Яшчэ здаля твар яго расплыўся ва ўсмешцы, рукі растапырыў, каб злавіць у абдымкі свайго старэйшага сына Якава.

— Здарова, сынок!.. Добра, што падскочыў... Мы тут з Мішам замучыліся касьбой... Табе коску падкляпалі...

— Іншым разам, бацька. Сёння пагуляем. Глядзі, якога госця прывёз.

Дзмітрый Якаўлевіч моцна сціснуў маю руку, з хітрынкай прыжмурыў вочы:

— От і добра, дарагі пісьменнік, што завіталі да нас, хоць адпачнём разам. Ліпскія — парода гарушчых людзей. Дзень і ноч капошацца, нешта робяць. Няма калі ім, бедным, блох ад сябе адагнаць...

— Добра, добра, бацька, яшчэ нагамонімся. Мый рукі, — прыспешваў старога Якаў Дзмітрыевіч.

— На стале ўжо ўсё! — аб'явіла маці.

Праз колькі хвілін мы сядзелі ў самым вялікім пакоі, за самым шырокім сталом. А на ім стаялі ўсе прысмакі, чым багата была хата. Лілося пітво ў чаркі, шкварчэла патэльня на дванаццаць жаўткоў. А галоўнае — хата напоўнілася ўспамінамі. І, як водзіцца ў слаўных сем'ях, гаварыў старэйшы, на вус маталі ўсе астатнія.

— Мой дзед Янка, родам з Лохніцы, а ў Каросцін у прымы прыйшоў. Ён са шматдзетнай сям'і, былі яшчэ браты Тодар, Павел, сястра Мальвіна. Зямлі сваёй не мелі, і прыблудзіўся на чужую гаспадарку, — пачаў расказваць Дзмітрый Якаўлевіч. — Даўней тут хутары стаялі. Кажуць, разам жылі цяляты, свінні і ваўкі. От мой дзед Янка і пачаў жыць-пажываць, дзяцей з Хрысцінай нажываць. Пасыпаліся, як гарох са струка, — Іван, Якуб, Ганна, Параска, Зіна... Можа, і далей бы рабілі дзяцей, бо што больш удумаеш цёмнымі доўгімі начамі, але дзеда нечакана забіў гром. Ішоў з поля, пачалася навальніца. Ён за дрэва схаваўся. А маланка як жахнула, дак і дрэва тое распаласавала, і дзеда абвугліла...

У хаце павісла цішыня. У такое імгненне добрых успамінаў, верыцца, над хатай Дзмітрыя Ліпскага праляцела светлая душа яго дзеда Янкі Ліпскага. Выпілі за добрую памяць прашчураў, і гаспадар зноў ухапіў ініцыятыву ў размове:

— Ад дзеда нам усім засталася клічка Сумнікі. Гэта ж ён любіў паўтараць: «Як сумна, аж страшна». От мы ўсе па сённяшні дзень — Сумнікі.



Лельчыцка-ельскія Ліпскія — сведкі двух стагоддзяў: Якуб Іванавіч і Лізавета Пятроўна (Баравая)

А баба Хрысціна засталася тады з малалеткамі. Як іх выгадаваць, што даць у спадчыну? І занялася мая бабка бізнесам. Пан Гілнвіч з Дарашэвіч меў свой бровар. Даверыў удаве Хрысціне прадаваць гарэлку ў Каросціне. От яна і цягала вёдры з той гаручкай аж за васемнаццаць вёрст. Па балотах, па дзікіх альсах. Падгадуе кабанчыка пад закуску, глядзіш, гарэлку можна даражэй прадаць. Так і разжывалася на грошы...

Для цікаўных паведамім, што да 1851 года, а гэта якраз той час, калі баба Хрысціна Ліпская займалася бізнесам, на Беларусі было вельмі шмат вінакурных заводаў. Яны мелі даволі ладны аб'ём, бо памешчыкам забаранялася мець вінакурні, дзе б выраблялася меней 2000 вёдзер гарэлкі. З аднаго затора (25 пудоў жыта) выраблялі 18,5 вядра гарэлкі. Прадавалі па 3 рублі 50 капеек срэбрам за вядро. У казну памешчык аддаваў па 75 капеек, астатні барыш перападаў яму і ўсім, хто працаваў на яго.

Так баба Хрысціна змагла сабраць грошай і купіла сынам зямлю. Меншаму, Якубу, — 12 дзесяцін, старэйшаму, Янку, — 8 дзесяцін. І пачалі хлопцы драць балота ад кустоўя, асушаць яго, пракладваць грэблю. І па сённяшні дзень за кіламетр ад Каросціна ёсць урочышча Якубава Поле.

— Гэта майго бацькі поле, — з гонарам заявіў Дзмітрый Якаўлевіч. — Пайду калі туды, пасяджу, прыгадаецца нешта даўнейшае...

— А чаму вы бацьку называеце Якубам, а вас клічуць Дзмітрый Якаўлевіч?



Дзмітрый Якубавіч і Антаніна Міхайлаўна (Палын)

— Хэ, мой дзед Янка і бацька Якуб лічыліся шляхтай, каталікамі. І вось надышоў час жаніцца Якубу. Пакахаў ён паляшучку Лізавету Баравую. Яе хацелі аддаць за багатага. Прыгожая ўдалася, разумная. Ужо й сваты прыехалі з гарэлкай. А мой бацька Якуб якраз лес траляваў на валах. Яго таварыш дый кажа яму: «Слухай, Якубе, тваю Лізаветку ўжо сасваталі...» Бацька як стаяў ў штанах, замурзаных смалою, так і пабег у Лізавеціну хату. Нехта з яе радні не пускаў. Дык ён яго пугай як свісне, родзіч — у карыта са свінячымі памыямі, — Дзмітрый Якаўлевіч па-дзіцячы шчыра рагоча на ўсю хату, працёр вочы ад слёз, дадаў: — Во як даўней змагаліся за сваіх нявест!.. Але ж і нявеста з ганарком трапілася. Кажа: «Пайду за цябе замуж, толькі ў ксяндза вянчацца не хачу». От мой бацька з Якуба стаў Якавам, прыняў праваслаўную веру. І нарадзілі разам дванаццаць дзяцей... Тут, у нашым Каросціне, уся шляхта пераапранулася ў мужыкоў. Вельмі ж прыгожыя дзяўчаты вадзіліся, — стары Дзмітро хітравата скасавурыўся ў бок сваёй жонкі Тоні, падміргнуў ёй. — Была такая прыкмета. Каб адрозніць мужычку ад шляхцянкі, трэба пабываць на танцах. Як музыка зайграе, то мужыцкая дзеўка стаіць у куце і нагой — туп-туп. А ў шляхцянкі толькі спаднічка — дрэнч-дрэнч. У яе спадніца акуратна зараблена, а ў мужычкі — вялізны рубец унізе, мо на палец...

— Як вы, Дзмітрый Якаўлевіч, жаніліся?

— У мяне першая сям'я загінула ў вайну. Вярнуўся з фронту, а быў на Курскай дузе, вызваляў Украіну, Беларусь, Польшчу, пабываў у Японіі, Хірасіме, прыходжу дамоў, а сям'і няма. Згава-



Якаў Дзмітрыевіч і Ліля Фёдараўна (Сасноўская)

рыліся во з Тоняй Палын. Яна з вялікай сям'і. Пагадзілася, слава Богу, дак я хутчэй запрог каня, перавёз яе скрыню ў сваю хату, дай пачалі жыць. Чацвёра дзяцей нажылі. Якаў во прывёз вас. Міша з Мазыра сам прыехаў. А Каця і Адам у Гомелі жывуць і працуюць. Я некалі, пасля рэвалюцыі, першым вучнем лічыўся ў Каросціне, чатыры класы скончыў. А нашы ўсе дзеці маюць вышэйшую адукацыю...

Выпілі за гэта па чарцы пякучай, што спірт, самагонкі, і Дзмітрый Якаўлевіч папрасіў:

— Пазнач, пісьменнік, у сваёй кнізе, што ўсе каросцінскія Ліпскія, ды і ўсе лельчыцкія, каго ведаю, гарушчыя людзі. Болей, як Ліпскія, ніхто столькі лапцей не перанасіў. Трудзягі!.. Мой бацька ноччу, пры месяцы касіў. Скрабём лес. Кажу: «Татка, давай атдышэм». — «Давай, сынок, толькі будзем ціхенька шкрэбці калоду». Спалі стоячы, елі едучы, а адпачывалі — на могілках...

Зноў зазвінела цішыня ў хаце. Кожны, відаць, думаў пра самую найвялікшую несправядлівасць у свеце: чаму на гэтай зямлі адзін шыкуе, другі гаруе, чаму не роўна дзеліць Бог?

Кожная сям'я на Беларусі не абышлася без страт. Каго раскулачылі, хто на вайне загінуў, скалечыўся, каго шпіёнам польскім абазвалі і рэпрэсіравалі... Божухна, за што беларусам такія выпрабаванні і пакуты?!

Сям'я Сумнікаў — не выключэнне.

Прадзеда Янкі братоў Тодара і Паўла «кулачылі». Якубаў сын Пятро загінуў пад Масквой, так і не зведаўшы сям'і. Сам Дзмітрый Якаўлевіч — інвалід вайны. Яго малодшы брат Аляксандр, працаваў старшынёй калгаса ў Лельчыцкім раёне, заўчасна памёр.

— Раскажу вам адну быль, як маім бацькам ледзь вышку не прызначылі, — падахвоціўся паведаць на развітанне Дзмітрый



Аляксандр Якаўлевіч і Галіна Аляксандраўна (Старацітарава)

Якаўлевіч. — У маці дзеці мерлі малымі. Падказала адна шаптуха: трэба ў хату ўзяць сірацінy. Знайшлі дзяўчынку Таню — без маці, без бацькі. Запісалі Ліпскай. Яна жыла і гадавалася ў нас, як родная. Маці пачала здаровых дзяцей раджаць. А як Таня сабралася замуж, то бацькі мае далі ёй на пасаг карову, свінню, сена. Яна сама нарадзіла восем дзяцей. Мы і цяпер разам святкуем вяселлі, хрэсьбіны, юбілеі... А за яе ледзь не раскулачылі бацькоў. Нехта сказаў: трымаюць наймічку. Во як!..

Развітваемся з гасціннымі Дзмітрыем Якаўлевічам, Антанінай Міхайлаўнай. Такое ўражанне, што пабываў у бацькоў не толькі іх сын Якаў, але і я, сын незнаёмых Ліпскіх. Гэта сустрэча яшчэ раз пераканала: усе мы на Зямлі — радня, а людзі, якія жывуць пад адным прозвішчам, — радня ўдвая. Трэба нястомна шукаць збліжэння! Ад гэтага багацеем душой і сэрцам.

Праз дваццаць кіламетраў ад Каросціна — сталіца Ліпскіх Убарцкая Рудня. У эпоху «развітога сацыялізму» там жыло 220 сем'яў. Цяпер — у эпоху «перабудовы, рыначнай эканомікі, чарнобыльскай навалы» — засталося толькі 40 сем'яў, з іх 15 — Ліпскія.

Самы стары руднянец Павел Мікалаевіч Ліпскі, нараджэння 1903 года. Бацька ў яго Мікалай, 1870 года нараджэння, а дзед — Кірыла Іванавіч.

Ён толькі і сказаў:

— Намі кіраваў нейкі Даронт. А болей, людзі, нічоганькі не ведаю і не помню. Кожны дзень прашу ў Бога смерці. Не хачу нічоганькі...

Я пакешкаўся ў сваіх архівах і сказаў нямогламу старому:

— Ваш дзед Кірыла нарадзіўся ў 1845 годзе. У яго былі браты Андрэй, 1848 года нараджэння, і Іван, 1852 года нараджэння, а

таксама сястра — Ірына. Ваш прадзед Іван нарадзіўся ў 1813 годзе, меў жонку Харыту. А прапрадзеда вашага звалі Фёдар. Усе яны жылі ва Убарцкай Рудні. Тут некалі працавалі жалезарудная плавільня і млын...

Дзед Павел падняўся з ложка, павекі яго заморгалі, а вочы павільгатнелі:

— Няўжо пра нашых Ліпскіх пішуць дзе-небудзь?

— Пішуць, дзядуля!..

Павел Мікалаевіч Ліпскі з палёгкай уздыхнуў:

— От, сынок, цяпер і памерці можна...

На гэтым добра было б скончыць аповяд пра лельчыцкіх Ліпскіх, але за той час, пакуль пісаў пра іх, паштальён прынёс мне некалькі новых пісьмаў. Прачытаем іх.

Піша з Якуцка, з Рэспублікі Саха, Анатоль Паўлавіч Ліпскі:

*«Я нарадзіўся ў вёсцы Убарцкая Рудня ў 1952 годзе. Нас пяцёра сыноў у Паўла Аляксандравіча. Майго дзеда ўсе звалі Алесь. Загінуў у апошнія дні вайны. Дзед партызаніў у лясах. Часта прыводзіў дамоў параненых чырвонаармейцаў, хаваў у склепе яўрэяў. Аднойчы, пасля няўдалага бою, уцякаў праз рэчку па плывучых ільдзінах... Пра майго прадзеда казалі, што ён з заможных палякаў. Чым закончыў жыццё? Відаць, як усе багатыя беднякі таго часу — расціснуты колам гісторыі... У 1954 годзе бацька мой, цясляр — залатыя рукі, сабраў усю сям'ю і вывез у Казахстан на асваенне цалінных земель. Пазней пераехалі ў Амурскую вобласць. Там, у пасёлку Праграэс, і жывуць Ліпскія з Убарцкай Рудні: бацька Павел Аляксандравіч, маці Анфіса Іванаўна, мае браты Мікалай, Пётр, Віктар, Аляксандр. Усе робяць на электрастанцыі. А я пасля арміі трапіў у Якуцк. Працую інжынерам-электрыкам. Вось так, Ліпскія з Беларусі даюць святло расіянам, якутам! Пра іх варта напісаць цікавую кнігу!..»*

Ігар Цімафеевіч Ліпскі адгукнуўся з Лельчыц двума пісьмамі:

*«Родам я з Убарцкай Рудні. Дак от, расказваў мне дзед Ліпскі Адам Ігнатавіч, было ета ў шасцідзесятыя гады, што ў нашу мясцовасць гадоў дзвесце назад прыехалі чатыры браты. Нібыта з-пад Тураўшчыны. Яны былі каваля́мі. От і пачалі развіваць Убарцкую Рудню. Той дзед Адам умеў чытаць і пісаць, казаў, складваў скаргі самому цару. У 1912 годзе яго брат ажаніўся на Ліпскай і з'ехаў у Амерыку. Пасля вайны піша Адаму: «Як жывеш?» Напішы, што дрэнна, прышыюць палітыку. От дзед Адам і адпісвае ў Амерыку брату: «Жыву я вельмі добра, як Павел Каралёў». А ў нашай Убарцкай Рудні болей бяднейшай сям'і не было. От і пачаў яму брат слаць пасылкі з Амерыкі... Бацька мой Цімафей, 1908 г. н., расстраляны кэгэбістамі ў Мазыры. Дзед мой Адам загінуў у вайне 1914 года, а яго малодшы брат Мацвей рэпрэсіраваны ў 1937 годзе. Прадзеда звалі Базыль, у яго браты — Фёдар і Міхась. Пра іх нічога не ведаю... У нашай вёсцы распаўсюджана імя Адам. І яшчэ, што я прыкмеціў, Ліпскія з Ліпскімі стараліся аб'яднацца ў сем'і. Дзявоцкае прозвішча маёй жонкі Ніны таксама Ліпская. Цесць Ліпскі жаніўся на Ліпскай. Мой старшы сын Мікалай таксама жаніўся на цёзцы па прозвішчу. А мо на родзічцы?..»*

Прыгожым почыркам напісала ліст з Лельчыц Святлана Ліпская:

*«Мой дзед Ліпскі Міхаіл Адамавіч нарадзіўся ў вёсцы Жмурнае ў 1915 годзе. Да вайны тры гады служыў у кавалерыі, пасля ваяваў з немцамі.*

*Тры разы паранены, дзевяць месяцаў ляжаў у шпіталі. Мой дзядуля майстар на ўсе рукі: абутнік, цясляр, сталяр, будаўнік, музыкант, танцор. А бабуля Юзэфа Аляксандраўна Ліпская закончыла чатыры класы польскай школы ў вёсцы Усаў. Яна прыгадвала, што ў іх гаспадарцы заўсёды вяліся прыгожыя валы: чырвоныя, белыя, чорныя. З-за гэтых валоў іх і раскулачылі... Мой прадзед Адам Іосіфавіч таксама са Жмурнага. У вёсцы іх сям'я адзіная насіла прозвішча Ліпскія. Багатыя людзі, бо мелі зямлю, трымалі вялікую гаспадарку. Па тым часе прадзед быў адукаваны — сам умеў распісацца...»*

Іна Ліпская з вёскі Фядоры Столінскага раёна паведаміла:

*«Мы родам з Сіманіцкай Рудні. Вёска заснавана, кажуць, трыма братамі Ліпскімі, а цяпер яна вымірае. Амаль усе раз'ехаліся. Разбрыліся па свеце і Ліпскія. Брат мой у Магілёве, мы з маці — на Століншчыне...»*

З Мазыра знайшло мяне пісьмо ад Ліпскага Мечыслава Антонавіча:

*«Хачу паведаміць вам, што ведаю пра Ліпскіх, хаця ведаю вельмі мала. Родам я з вёскі Зарубнае Буйнавіцкага сельсавета. Дык вось, мой родны дзядзька Станіслаў Юльянавіч казаў, што род наш пачынаўся ў Лохвіцы Лельчыцкага раёна. А пасля тры сыны прапрадзеда рассяліліся так: адзін у Зарубным, другі ва Убарцкай Рудні, трэці ў Злодзіне. І ён яшчэ казаў, што мы — дваране. У таго прадзеда, што жыў у Зарубным, было тры сыны — Казімір, Юльян, Міхаіл... З нашага роду чатырох забралі па лініі энкэвэдэ. Але карані не абарваліся. Жывой ніткай цягнуцца ў Буду-Сафіеўку, Ельск, Зарубнае, Грабяні, Рудню, Адрынку.*

*Сам я жыву ў Мазыры, на вуліцы Тургенева, 12. У мяне — тры сыны і два ўнукі. Цягнецца наш корань у будучыню. А мне б вельмі хацелася ведаць, адкуль пачынаецца самы каранны корань Ліпскіх. Даруйце за памылкі і ведайце, мой дарагі пісьменнік, што мы з дваран!..»*

У людзей прачынаецца цікавасць да сваіх каранёў — гэта цешыць.

Людзі шукаюць радню на Зямлі — гэта радуе, бо хочуць узбагаціць свае душы і перадаць у спадчыну сваю мінуўшчыну.

Мае землякі абуджаюцца! Дай Бог ім крылы і веру. Хай навучацца людзьмі звацца!

А я хачу дапамагчы ім у гэтым.

І хачу верыць, што мае пошукі радаводнай крынічкі бязгербавых лельчыцкіх Ліпскіх дапамогуць ім аднавіць сямейнае, разгалінаванае ў стагоддзях дрэва, пазнаёміць іх, блізкіх і далёкіх, а можа, і парадніць.

Хай на карысць ім усім пойдзе мая новая архіўная знаходка — пасямейны спіс Ліпскіх з вёскі Убарцкая Рудня, якія жылі там у 1858 годзе:

Антон Якаваў Ліпскі, 44 гады; жонка Агата, 42 гады; сыны Васіль (19 год, жонка Яўхімія, 17 год), Адам; дочкі Соф'я, 12 год, Алена, 13 год.

Тэафіл Якаваў Ліпскі, 34 гады; жонка Алеся, 33 гады; сын Васіль, 1 год; дачка Францішка, 3 гады.

Іван Паўлаў Ліпскі, 63 гады, памёр у 1854 годзе; жонка Марфа, 67 гадоў; сын Іосіф, 25 гадоў, памёр у 1855 годзе, яго жонка Ксеня, 31 год, іх сыны — Якаў, 11 год, Фёдар, памёр у 1856 годзе, Іван,

5 год; дачка Івана Паўлава — Сынклета, яе незаконная дачка — Мар'я.

Іосіф Рыгораў Ліпскі, 52 гады; жонка Домна, 51 год; сын Сава, 31 год, яго жонка Параска, 31 год, іх дачка Ганна, 4 гады; другі сын — Якаў, 8 год; дачка Кацярына, 17 год; брат Іосіфа Аўгусцін, 46 год; жонка Марыя, 50 год; іх сын Лявон, 22 гады, дочкі Аляксандра, 16 год, Кацярына, 14 год, Ганна, 7 год.

Савелій Рыгораў Ліпскі, 50 год; жонка Марыя, 36 год; ад першай жонкі дачка Марфа, 20 год; ад другой — сыны Венедзікт, 16 год, Адам, 9 год, Іван, 3 гады; дочкі — Еўдакія, 12 год, Ганна, 3 гады, Кацярына, 1 год.

Якаў Рыгораў Ліпскі, 43 гады; жонка Ксеня, 35 год; цешча Еўдакія Яўхімава, 59 год; сыны Іван, 16 год, Сільвестр, 7 год.

Францішак Іванаў Ліпскі, 45 год; жонка Еўдакія, 57 год; сын Лявон, 32 гады, яго жонка Прося, 33 гады, іх сын Павел, 10 гадоў; другі сын Францішка — Іван, памёр у 1855 годзе; трэці — Стэфан, 19 год, жонка Еўдакія, 20 год; чацвёрты — Францішак, 17 год.

Фёдар Міхайлаў Ліпскі, 49 год; жонка Прося, 47 год, сыны Сямён, 15 год, Міхаіл, 12 год, Якаў, 9 год; дачка Насця, 16 год.

Іосіф Аляксандраў Ліпскі, 33 гады; жонка Вера, 25 гадоў; сыны — ад першай жонкі Ігнат, 7 гадоў, ад другой — Аляксандр, 2 гады; брат Іосіфа — Міхаіл, памёр у 1854 годзе, у 16 год.

Стэфан Лявонаў Ліпскі, 73 гады, памёр у 1851 годзе; жонка Ганна, 50 гадоў; сын Сава, 45 год, яго сыны Юльян, 22 гады (жонка Кацярына, 19 год); Фама, 12 год; другі сын Стэфана — Васіль, 37 гадоў (жонка Міхаліна, 33 гады), іх сыны — Войцэх, 11 год, Стэфан, 4 гады, Антон, 1 год; іх дачка Ганна, 13 год; дочкі Стэфана Лявонава — Еўдакія, 23 гады, Марыя, 15 год.

Панцеляймон Міхайлаў Ліпскі, 36 гадоў, памёр у 1856 годзе; жонка Марыя, 39 год; сын Міхаіл, 14 год; дачка Яўхімія, 3 гады.

Рыгор Стэфанаў Ліпскі, 44 гады; жонка Марыя, 37 год, сыны Аляксандр, 13 год, Карл, 10 год; дочкі Марыя, 15 год, Юстына, 6 год, Соф'я, 3 гады.

Даніла Лявонаў Ліпскі, 65 год, памёр у 1852 годзе; сын Варнава, 45 год, яго жонка Настасся, 39 год, іх сын Іван, 4 гады, дочкі Ганна, Марыя; другі сын Данілы — Севасцьян, 34 гады, жонка яго Стэфанія, 25 год, іх сын Нікіфар, 6 год, дочкі Марыя, Насця; трэці сын Данілы — Ксенафонт, 29 год, жонка Пелагея, 25 год, іх дочкі Гліперыя, Марыя, Фёкла; Данілы братанічы — Ксенафонт, 36 год, Якаў, 39.

Іван Фёдараў Ліпскі, 45 год; жонка Харціна, 44 гады; сыны Кірыл, 13 год, Андрэй, 10 год, Іван, 6 год; дачка Ірына, 18 год.

Учытаемся ў гэты спіс. І задумаемся: колькі і якіх сем'яў стварылі ўсе тыя Міхаілы, Сямёны, Якавы, Адамы, Васілі, Іваны, Лявоны, Паўлы, Стэфаны, Кірылы, Андрэі, Ігнаты, Данілы, якія распачыналі сваё жыццё ва Убарцкай Рудні сто пяцьдзесят гадоў таму назад?

Шукайма адзін аднаго!

# *ДАЙ, БОЖА, ПАМЯЦЬ*

*У белай пене праносяцца коні, —*
*Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*
Максім Багдановіч

## *ГЕРБАВАЕ БРАТЭРСТВА*

У гісторыі чалавецтва, асобных краін — мноства загадак. Ёсць нязведаныя, белыя старонкі. Але ўсё гэта, пагадзіцеся, для людзей недасведчаных, лянотных, якія прывыклі есці толькі манную кашку.

У адной мінскай школе я спытаў у старшакласнікаў: хто такія мужык і шляхціц?

Пытанне павісла ў класе на цэлых пяць хвілін. Адчувалася, сучасным дзецям лягчэй і прасцей расказаць, як і з чаго складзены камп'ютэр, што спяваюць Ленан, Баярскі, ці ёсць жыццё на Марсе. Яны доўга ламалі галовы над маім нечаканым пытаннем і прыдумалі:

— Мужык — гэта беларус, а шляхціц — паляк.

— Мужык гаворыць па-сялянску, а шляхціц па-гарадскому.

Правільны, а не прымітыўны адказ можна даць, толькі ведаючы гісторыю, заглыбіўшыся ў адвечна няпростыя адносіны паміж Вялікім княствам Літоўскім, Каралеўствам Польскім і Расіяй.

Само слова «шляхта» тлумачыцца ў польскай, чэшскай, старажытнанямецкай мовах як «род», «парода». Адметнай рысай гэтай «пароды» людзей была ўласнасць на зямлю. З гэтага і пачыналася прывіліяванае саслоўе шляхты, якое асабліва характэрна для Польшчы, Чэхіі, Літвы, Беларусі, Украіны ў XII—пачатку XX стагоддзя.

Зямлю людзі атрымлівалі рознай чыннасцю. Адны мелі яе па спадчыне. Другія куплялі. Трэцім даставалася яна ў падарунак за ваенную выслугу, вернасць, за праяўленае рыцарства, а то і прасцей — за падхалімства, фаварыцтва, здраду.

У складзе шляхецкага саслоўя, як бачым, сем'і розныя: спрадвеку багатыя і слынныя, а таксама воіны, сяляне, мяшчане, рамеснікі, купцы, чыноўнікі — новыя ўласнікі, якім пашчасціла набыць найдаражэйшы скарб — зямельныя ўгоддзі.

Такіх уласнікаў, дробных і сярэдніх, з беларускім паходжаннем

было (па перапісе войска 1528 года) у Браслаўскім, Рагачоўскім паветах і Гарадзецкім (цэнтр Давыд-Гарадок) княстве сто працэнтаў. Крыху меней у Мсціслаўскім княстве, у паветах Пінскім, Мінскім, Віцебскім, Навагрудскім, Кобрынскім, Слонімскім, Берасцейскім, Ваўкавыскім, Гродзенскім...

А ўсё гэта тлумачыцца тым, што Статут Вялікага княства Літоўскага забараняў іншаземцам набываць беларускія землі. Тым жа Статутам у раздзеле 3 вызначаны 51 артыкул Закона «Аб вольнасцях шляхецкіх».

У чым іх сутнасць?

Вялікі князь браў на сябе абавязак захоўваць усё насельніцтва пры свабодах і вольнасцях хрысціянскіх, «бо для того права суть постановлены, абы можному и потужному не все было вольно чынити». Як вучыў Цыцэрон: «Мы з'яўляемся нявольнікамі праў для таго, каб карыстацца свабодай маглі».

Заканадаўствам было вызначана права шляхты на самакіраванне, выбары дэпутатаў у павятовыя соймікі, агульнадзяржаўныя соймы і ў суды ўсіх узроўняў. Шляхта мела права выбіраць караля, і, па сутнасці, кожны шляхцюк мог быць абраны каралём. Мо таму князь Караль Радзівіл (Пане Каханку) называў шараговага шляхціца «панам-братам». Нездарма існавала прымаўка: «Шляхціц на загродзе роўны ваяводзе».

Артыкул 10 забараняў арыштоўваць і папярэдне знявольваць аседлага шляхціца да суда. Выключэнне складалі выпадкі, калі ён быў затрыманы на месцы злачынства, якое магло карацца смерцю. Забаранялася таксама пазбаўленне пасад і дадзеных дзяржавай маёнткаў па завочным абвінавачанні.

Жаніцьба шляхціца на дзяўчыне простага паходжання надавала ёй і дзецям шляхецкую годнасць. Адказнасць за знявагу чалавечай годнасці і яго паходжання побач з матэрыяльнымі санкцыямі патрабавала таксама і маральнага задавальнення. Абвінавачаны ў знявазе павінен быў публічна прасіць у пакрыўджанага прабачэння і сказаць перад судом: «На тебя брехал яко пёс». Калі хто адмаўляўся гэта зрабіць, яго саджалі ў турму...

Як бачым, шляхта мела важныя прывілеі. Яна складала значную частку свядомых насельнікаў краіны, найбольш адукаваных, культурных ва ўсіх адносінах. І калі пасля Гарадзельскага прывілея 1413 года беларускай шляхце дазвалялася ўжываць родавыя гербы нароўні з польскай шляхтай, сярод якой геральдыка была шырока распаўсюджана, то тады, можна сказаць, і пачалося гербавае братэрства.

Герб для сям'і па тым часе — гэта сонца на небе, вясна ў прыродзе, дах над хатай, карона на галаве, усмешка на твары, найдаражэйшая спадчына дзецям. Нездарма ў панегірыку герба Льва Сапегі паэт Андрэй Рымша напісаў:

Взгляни на герб Сапеги величавый:
В нем чести суть и знаки славы,
Которая пришла не сразу и не вдруг,
И главный перечень заслуг.

Три графских линии, а справа рыцарь конный
С мечом в руках, к походу снаряженный.
Готов властителю помочь в любой нужде,
Не думая о собственной судьбе.
Свидетельством тому рука, пронзенная стрелою,
Из лука выпущенной крепкой тетивою.
Такие раны не получит дома,
Кто с вражескими ордами знакомый.
На гербе есть стрела с двумя крестами
И третий крест меж лунными серпами.
Тот символ значит: ради христианства
Дрались Сапеги, позабыв про панство...

У Рэчы Паспалітай налічвалася каля пяці тысяч гербаў польскай, беларускай, украінскай, літоўскай шляхты. Багата з іх перайшлі на Беларусь і захаваліся тут аж да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года. Шкада, што добрая выхаваўчая традыцыя парушана і абняслаўлена разам з іншымі буржуазнымі забабонамі і прымхамі.

Цяпер відавочна ўсім: трэба аднавіць сямейную, фамільную геральдыку, трэба ўзнавіць гербавае братэрства і трэба рухаць гэту справу ўперад, распрацоўваць яе і настойлівей даводзіць да нашчадкаў. Каб гэтак жа, як і пра слынны беларускі род Сапегаў, паэт мог напісаць і пра ваш род:

Пусть здравствуют Сапеги многие года
И слава их не меркнет никогда!
Наследство предков завещайте детям,
Дел ваших праведных весь мир свидетель.

А мы ў гэтым раздзеле раскажам крыху падрабязней толькі пра некаторыя сямейныя гербы, якія насілі некалі Ліпскія. Разам з імі тыя гербы мелі сотні іншых сямейных родаў. Назавём іх, прыгадаем, каб падахвоціць новых энтузіястаў на новыя пошукі і адкрыцці.

## *ГЕРБ «ЛАДА»*

Першы ўспамін пра гэты герб адносіцца да сівой даўніны — 1401 года.

Крыху пазней, у 1466 годзе, выява герба адлюстравана на пячатках нейкага Владэка са Ржэпішава. Цікава б ведаць, хто такі Владэк, які ўвайшоў у гісторыю геральдыкі, чаму менавіта гэты герб ён выбраў для сваёй пячаткі?

Адно можна сказаць: густ у Владэка адмысловы. Герб вельмі прыгожы, элегантны, увасабляе ў сабе мноства загадкавых сімвалаў.

У цэнтры — чырвонае поле, падобнае на шчыт. Форма яго паўкруглая ўнізе, з лісцёвым аздабленнем вакол. Такія абрысы шчыта папулярызаваў і Францыск Скарына.

На самім чырвоным полі — срэбная падкова. Наверсе яе — залаты мальтыйскі крыж. А па баках — дзве срэбныя стралы, вас-

трыём — уніз. Адна — з апярэннем, другая — з расшчэпленым канцом. Як мне ўяўляецца, гэтыя сімвалы азначаюць: уладар герба — ваяўнік, мужны чалавек, але ваяваць не хоча. У яго ўжо ёсць узнагарода — залаты крыж. Стрэлы падвешаны на ўспамін. А падкова — на шчасце.

У кляйноце, над рыцарскім шлемам, з кароны вытыркаецца палова залатога льва з каронай на галаве і з мячом у правай лапе. Леў ваяўнічы. Меч узняты ўгору, гатовы да бою. А левая растапыраная лапа рашуча працягнута ўперад, як бы леў, смелы і моцны, папярэджвае: «Ісці да мяне толькі з мірам, бо хто з мячом прыйдзе, той ад яго і загіне!»

Існавалі іншыя варыянты герба. Яны тычыліся колеру шчыта, стрэлы змяшчаліся вастрыём угору, меліся розныя выявы льва. Але ўсе гэтыя змены — прадмет для вывучэння геральдыстаў-спецыялістаў. Нас жа цікавіць самае галоўнае: якія роды, сем'і, хто браў сабе фамільны герб «Лада»?

Вядомы 107 прозвішчаў родаў беларускай шляхты, якія карысталіся гэтым гербам. Учытаемся ў іх і зазначым: сем'і з такімі прозвішчамі жывуць і ў сённяшняй Беларусі. А гэта азначае адно: жыццё, росквіт і традыцыі іх зніταваны стагоддзямі, пераплецены ў адну чалавечую гармонію, якая і называецца НАРОД. Дык ці маюць права так званыя ратавальнікі Беларусі заяўляць, што ў нас пакуль няма народа, а ёсць толькі насельніцтва. Калі гэта не палітычны фарс, а іх перакананне, то можна смела сказаць ім у вочы: не чалавекі вы з радаводнага дрэва, а тэлефонныя слупы.

Пад гербам «Лада» высвечаны наступныя роды:

*Бардоўскі, Барташэвіч, Банчкоўскі, Беняшэўскі, Бяньkoўскі, Білінскі, Багдановіч, Багдановіч-Рошак, Багданоўскі, Багдановіч, Багдановіч-Война, Багданоўскі, Бажымоўскі, Брадоўскі, Брудка, Брашкоўскі, Хадакоўскі, Цішкевіч, Цыбульскі, Чарноўскі, Чарняк, Чарнякоўскі, Чарняхоўскі, Дабкоўскі, Дабжынецкі, Дабжышэўскі, Гяркоўскі, Глятоўскі, Гнатоўскі, Грамніцкі, Грандзіцкі, Градэцкі, Градзіцкі, Гронскі, Янікоўскі, Янкоўскі, Янушэўскі, Камінскі, Капушчэўскі, Кэмскі, Кладніцкі, Кладзенскі, Кабылінскі, Какошка, Капанскі, Караноўскі, Катоўскі, Кавалеўскі, Кршчытоўскі, Крачоўскі, Кубіткевіч, Куч, Кучэўскі, Ліпскі, Лютаслаўскі, Лаханскі, Лада, Ладамірскі, Ладоўскі, Ладзіц, Лазомскі, Лазоўскі, Лабашэўскі, Мандэцкі, Мазарскі, Міхалоўскі, Міляноўскі, Млосал, Мачарскі, Мажароўскі, Мроцкі, Наскоўскі, Пяшкоўскі, Пільх, Прашкоўскі, Радонскі, Радастоўскі, Фальк-Рэгульскі, Рэмбартоўскі, Рэндзіна, Рэндзінскі, Ражнішэўскі, Рыбенскі, Рыбоўскі, Жэпішэўскі, Скшынскі, Скупскі, Служавецкі, Смяржынскі, Сабалеўскі, Святліцкі, Валіцкі, Вансовіч, Вансоўскі, Вільчак, Влад, Высоцкі, Заблоцкі, Залескі, Заляшчынскі, Заорскі, Зарцішэўскі, Завацкі, Завістоўскі, Згажэльскі, Звалінскі.*

Удалося адкрыць адно магутнае дрэва Ліпскіх з герба «Лада». Карані яго глыбока запушчаны на польскай зямлі. Там жа развіваліся зялёная крона, асобныя галіны, якія пры жыццёвых вятрах дакраналіся да радаводных дрэваў у Вялікім княстве Літоўскім, на Львоўшчыне.

Самая вялікая трагедыя гэтага радаводнага дрэва, хаця ўслаў-



Герб «Лада»

лена вялікімі постацямі, у тым, што яно на самай вяршаліне засохла, звяла, не мела зялёных парасткаў. Паказальны ўрок, як гінуць сямейныя дрэвы, калі няма спадчыннікаў.

Ліпскія гербу «Лада» заявілі аб сваім існаванні на зямлі раўскай, у маёнтках Ліп'е і Крамянцы. А гняздо іх дома — у Мазавецкім ваяводстве. Першым у Раўскае ваяводства перабраўся Якуб, сын Яраслава, казначэй князёў Мазавецкіх, які суправаджаў княгіню Цымбарку да герцага Аўстрыйскага Эрнэста.

Па дарозе Якуб нагледзеў для сябе Вялікія і Малыя Крамянцы, маёнтак Ліп'е, ды па вяртанні з падарожжа пераехаў з сям'ёй на



# ГЕРБ «ЛАДА»




## ЗАЎВАГІ ДА ГЕРБА «ЛАДА»

**1** — падскарбій князёў Мазавецкіх; **2** — у 1454 г. яму нададзены прывілей караля; **4—5** — пражылі без спадчыннікаў; **6** — ж. Малгажата Вангроўская; **8** — воін; **9** — ж. Дарота Рушкоўская; **10** — 1-ая ж. Катажына Буяльская, 2-ая ж. Малгажата Чэрвеньская; **11** — воін; **12** — воін; **13** — памёр малалеткам; **15** — ж. Эмерцыяна Ранбелінская, дочкі Ганна, Ядвіга, Агнешка, Дарота; **16** — святар; **17** — памёр маладым; [redacted] — 1540—1618 гг., архіепіскап; **19** — раўскі земскі суддзя, ж. Ганна Пліхцянкова, дочкі Юстына, Альжбета, Ганна; **20** — воін, загінуў у 1629 г.; **21** — святар, памёр у 1645 г.; **22** — стараста, ж. Ганна Пліхцянкова, памёр у 1667 г.; **23** — памёр маладым; **24** — ваявода, 1591—1656 гг., ж. Зоф'я Крышталеўская, дочкі Зоф'я, Катажына, Ганна; **25** — суддзя, загінуў; **26** — архіепіскап, 1589—1641 гг.; **27** — воін; **28** — раўскі кашталян, 1-ая ж. Ядвіга Брахоўская, 2-ая ж. Катажына Дульская, памёр у 1643 г., дочкі Іаанна, Геатруда; **29** — воін, загінуў у 1656 г.; **30** — памёр у 1674 г.; **31** — кракаўскі канонік, памёр у 1694 г., ж. Ізабэла Ланкронская, дачка Канстанцыя-Хелена; **32** — граф, ваявода, памёр у 1676 г., ж. Максіміляна Асалінская, дочкі Канстанцыя, Ганна; **33** — 1622—1698 гг., архіепіскап; **34** — кашталян, ж. Зоф'я Кжыштафоўская; **35** — дачка Канстанцыя, сын — манах; **36** — калішскі ваявода, граф, памёр у 1702 г., 1-ая ж. Зоф'я Альшоўская, 2-ая ж. Уршуля Красіцкая, дачка Марыяна; **37** — воін, загінуў у вайне са шведамі; **40** — памёр маладым у 1704 г., бяздзетны, ж. Альжбета Веземберкаўна.




новае месца жыхарства. Невядома, якое ён меў прозвішча дагэтуль, але польскі геральдыст Каспар Нясецкі даводзіць, што нашчадкі Якуба, якія жылі ў маёнтку Ліп'е, сталі называць сябе Ліпскімі. Аб гэтым пішацца і ў прывілеі князёў Мазавецкіх Земавіта і Уладзіслава, выдадзеным іх казначэю Якубу ў 1454 годзе. Вось так было пасаджана новае сямейнае дрэва Ліпскіх.

Ад Якуба пайшлі чатыры сыны — Мікалай, Ян, Войцэх і Марцін. Мікалай стаў святаром. Ян і Войцэх памерлі халасцякамі. Прадоўжыў род Марцін, бацькава надзея і апора.

Марцін ажаніўся на Малгажаце Вангроўскай, сястры земскага суддзі, і, як піша біёграф, «произвел на свет» двух сыноў — Анджэя і Мацея.

Анджэй, рыцарская душа, усё сваё жыццё, аж да «почетного пожилого возраста», правёў у ваенных лагерах. Удзельнічаў у самых розных паходах, экспедыцыях. Сям'і не меў.

Даў жыццё роду Мацей, які з Даротай Рушкоўскай меў чатырох сыноў — Пятра, Анджэя, Іераніма, Станіслава. І ў гэтым калене ледзь не засохла Якубава дрэва. Стасік памёр малым. Іеранім і Анджэй былі людзьмі ваеннымі і загінулі за караля Зыгмунта І у

1518 годзе. На гэты раз Пётр выручыў сямейны род. Два разы жаніўся. Ад яго пайшлі Ліпскія — Анджэй, Якуб, Іеранім. Апошнія два сямей не мелі. Адзін памёр рана, другі, Якуб, прысвяціў жыццё Богу.

На сёмае калена вывеў свой род Анджэй. Відаць, ён добра разумеў сваю адказнасць перад дзедзічам Якубам, бо са сваёй жонкай Эмерцыянай Ранбелінскай «произвел» ажно сямёра дзяцей. Сярод іх толькі два сыны — Францішак і Ваўжынец (Георгій).

Францішак (1540—1618) выбраў для сябе духоўнае саслоўе. Даслужыўся да гнезінскага архіепіскапа. Увайшоў у памяць вернікаў як чалавек шчодры, справядлівы, разумны. У Крамянцы за свае сродкі пабудаваў каменны касцёл, аздобіў яго каштоўнасцямі. Там жа і пахаваны. Па ім засталася толькі памяць і шыкоўная мармуровая пліта.

А вось яго брат Ваўжынец, хаця і служыў раўскім земскім суддзёй, не забываўся, што менавіта ад яго залежыць — прадоўжыцца іх род ці не. Ён пажыццёва пакахаў Ганну Пліхцянкову. І ад вялікіх пачуццяў у іх нарадзіліся чатыры дачкі і дзевяць сыноў. Зайздросны прыклад, як людзі даражылі сваім родам, клапаціліся пра іх новыя жыццёвыя галіны.

У сучасным цывілізаваным свеце на дзяржаўным узроўні даўно праяўляюцца клопаты аб планаванні сям'і. І гэта больш чым пахвальна, бо, думаючы і падтрымліваючы сям'ю сённяшнюю, правіцель закладвае магутную будучыню сваёй дзяржавы. Гэткі ж дзяржаўны клопат пра сваю сям'ю абавязаны мець і бацькі, бо яны нясуць адказнасць за будучыню свайго радаводу.

Тым часам прадоўжым аповед пра слынны род Ліпскіх з маёнтка Ліп'е. Ваўжынец і Ганна нездарма клапаціліся пра дзяцей. Яны ўславілі свой род.

Тры сыны, Мацей, Дадзібург і Арнольд, прысвяцілі сваё жыццё вайсковай службе. Не заводзілі сем'яў. Мацей у рангу раўскага войскага* правёў жыццё ў ваенных паходах, мужна змагаўся, «подвергая риску свою грудь» пад Арынінам, Цэцорай, Хоцінам. Брат яго Дадзібург шукаў славы ў каронным войску. Загінуў у баі з татарамі ў 1629 годзе. Склаў галаву за Бацькаўшчыну і Арнольд. Праліў кроў у баях з ворагам у валошынскім краі, ля ракі Дзіс.

Старэйшы ў сям'і — Франц выбіўся ў раўскія кашталяны**. Быў сціплым, чалавечным, ад прыроды разумным. Яго старанні прыкмеціў нават кароль Уладзіслаў IV Ваза, і кашталяна Францішка Ліпскага выбралі дэпутатам у Раўскую кварту, рэгулярную наёмную армію, якая ўтрымлівалася за кошт чацвёртай часткі даходаў з каралеўскіх зямель.

---

* **Войскі** — ваенны начальнік над асобным паветам альбо толькі над якім-небудзь замкам.

** **Кашталян** — памочнік ваяводы, выконваў адміністрацыйныя, вайсковыя і судовыя функцыі ў ваяводстве.

З вялікай сям'і Ваўжынца і Ганны Ліпскіх можна адзначыць Самуэля, раўскага і жывецкага старасту. Ён валодаў некалькімі замежнымі мовамі. Бываў у чужых краінах як прыдворны польскіх каралеўскіх сыноў Аляксандра і Фердынанда.

Піліп, восьмы сын, служыў гнезінскім схаластыкам. Гэта духоўная асоба, кіраўнік школы пры кафедральным саборы.

Дочкі Ваўжынца і Ганны ўдала павыходзілі замуж. Згубілі прозвішча Ліпскіх, растварыліся ў сем'ях Красноўскіх, Кляноўскіх, Курнохаў. Адна з іх, яшчэ дзяўчынай, пачала служыць Госпаду за высокай сцяной кляштара. Стала манашкай, па-польску — законніцай.

З трынаццаці дзяцей гэтай сям'і, апроч названых вышэй, двое, Ян і Каспар, занялі асобае месца ў гісторыі Польшчы. Іх біяграфіі занатаваны ва ўсіх біяграфічных энцыклапедыях. Скажам і мы пра іх некалькі слоў.

Ліпскі Ян (1589—1641), сын Ваўжынца, нарадзіўся ў маёнтку Ліп'е на раўскай зямлі. Выхаваннем і адукацыяй Яна заняўся яго багаты, бяздзетны дзядзька Францішак. Ён бачыў, як цяжка брату Ваўжынцу з такой шматдзетнай сям'ёй, і ўзяў у свой дом здольнага, кемлівага, дасціпнага Яна.

Спачатку Ян вучыўся ў калегіі езуітаў у Калішы. Затым дзядзька, вядомы па тым часе архіепіскап, накіраваў Яна ў Італію, каб вывучыў у акадэміях тэалогію і права. У Рыме Ян Ліпскі пасябраваў з Альбрэхтам-Станіславам Радзівілам. Відаць, гэта было моцнае сяброўства, бо, вярнуўшыся дамоў, яны падтрымлівалі адзін аднаго.

Ян Ліпскі па вяртанні з-за мяжы па пратэкцыі свайго дзядзькі Францішка, канцлера Вялікага Каралеўства Крыскова, біскупа Анджэя Ліпскага з герба «Граблі» быў запрошаны каралём Сігізмундам III і каралевай Канстанцыяй на пасаду рэгента* каралеўскай канцылярыі. Потым стаў канцлерам каралевы і, урэшце, каралеўскім рэферэндарыем**.

У гэты ж самы час Альбрэхт-Станіслаў Радзівіл быў звязаны з дваром польскага караля Сігізмунда III, а з 1619 года стаў падканцлерам Вялікага княства Літоўскага і старастам луцкім, з 1623 года — канцлерам ВКЛ.

Ян Ліпскі ў 1633 годзе ў складзе дэпутацыі Ежы Асалінскага ездзіў у Рым да папы Урбана VIII. Дапамагаў сенатарам весці перамовы з маскоўскімі пасламі ў 1635 годзе. Кароль Уладзіслаў IV Ваза вельмі давяраў Яну Ліпскаму ў вырашэнні важных, заблытаных, далікатных спраў. Ён «жаловал» вернаму паслужніку і высокія духоўныя пасады, так ён стаў хелмскім біскупам.

Кароль даверыў Яну Ліпскаму сасватаць свайго сына каралевіча

---

* **Рэгент** — сакратар канцылярыі, правіў і падаваў на подпіс розныя важныя дакументы, выконваў абавязкі натарыуса.

** **Рэферэндарый** — саноўнік, прызначаўся каралём, у службовай іерархіі займаў другое месца пасля вялікага сакратара.

Яна Казімежа з сястрой імператара Фердынанда III Цэцыліяй. Яго прамовы ў Вене былі нават аддрукаваны. За паспяховае выкананне гэтай няпростай місіі, за верную службу Уладзіслаў IV надаў Яну Ліпскаму графскі тытул.

За тры гады да смерці граф Ян Ліпскі стаў прымасам* гнезінскім. Па абавязку сваёй пасады прымаў удзел у дзяржаўных сеймах, вёў актыўную палітычную, духоўную дзейнасць. Пабудаваў палац у Лышковіцах і палац у сямейным Ліп'і.

Памёр Ян Ліпскі нечакана 13 мая 1641 года ад хваробы страўніка. Некаторыя біёграфы схільны да таго, што прымаса атруціў прыдворны лекар, падкуплены віленскімі кальвіністамі.

Насецкі апісвае гэта так: «Дамашні доктар убачыў, што памірае яго гаспадар прымас Польшчы Ян Ліпскі, кінуўся яму ў ногі і сказаў: «Мой праведны муж, міласэрны пан, даруй мне цяжкае злачынства, якое я здзейсніў супраць цябе. Ты паміраеш ад рук маіх. Гэта я, перакуплены і засыпаны падарункамі, атруціў цябе. Я шкадую аб гэтым і раскайваюся. Калі можаш, даруй». Задумаўся біскуп, звярнуў свой позірк да неба: «Мой Бог, уміраючы, ты дараваў усім іх грахі. Няўжо я не павінен так зрабіць? Дарую табе, мой лекар, ад усяго сэрца, а каб ты меў доказ майго даравання, я зраблю так...» Ян Ліпскі загадаў свайму казначэю адлічыць доктару сто злотых чыстага чырвонага золата.

Пахаваны Ян Ліпскі ў Ловіцкім калегіяце. Па запавету, сваю ўласнасць ён ахвяраваў на духоўныя мэты, а 20 тысяч злотых — на будаўніцтва імянной часоўні Ліпскіх у Ловіцы, пры кафедральным саборы. 30 тысяч злотых прызначыў святарам сабора і распісаў іх богаслужэнні на кожны дзень тыдня. На штогодні малебен за ўпакой сваёй душы выдзеліў дзве тысячы злотых. Розным касцёлам аддаў 50 тысяч злотых. На семінарыю пры Раўскай калегіі езуітаў — 25 тысяч злотых.

У сучаснікаў Ян Ліпскі славіўся набожнасцю, мудрасцю, мяккасцю ў адносінах да людзей, добрым сэрцам.

Брат Яна Каспер Ліпскі (1591—1656) выслужыўся да раўскага ваяводы**. Закончыў езуіцкі калегіум у Пултуску. Больш дзесяці гадоў служыў у арміі. Удзельнік паходаў супраць туркаў, татар, валахаў, казакаў. Шматразова паранены. У 1625—1629 гг. прымаў удзел у прускім паходзе супраць караля Швецыі Густава Адольфа. Нейкі час быў маршалам трыбунала каралеўскага. Атрымаў тытул графа.

Каспер Ліпскі ўпэўнена ішоў па службовай лесвіцы. Дарогу яму пракладваў брат Ян, які карыстаўся аўтарытэтам і давер'ем самога

---

* **Прымас** — па-лацінску «першынствуючы», ганаровы тытул вялікіх біскупаў, якім падпарадкоўваліся ўсе служыцелі каталіцкіх цэркваў Польшчы і адначасова Вялікага княства Літоўскага. Выконваў абавязкі кіраўніка дзяржавы на час бескаралеўя.

** **Ваявода** — кіраўнік ваяводства, засядаў у сенаце Рэчы Паспалітай, прызначаўся пажыццёва, карыстаўся значнай аўтаноміяй.

караля. Так Каспер увайшоў у сенат, удзельнічаў у камісіі па пахаванні караля Уладзіслава IV Ваза. Выбіраў караля Яна Казіміра Вазу. Быў рэзідэнтам пры каралі. А пасля — раўскім ваяводам. Памёр 3 красавіка 1656 года. Пахаваны ў сямейным склепе Ліпскіх у касцёле ў Крамянцах, дзе святарамі служылі багата хто з іх роду.

У адрозненне ад брата Яна, які пакінуў спадчыннікам толькі сваю маёмасць і грошы, Каспер пакінуў сыноў — Станіслава, Яна-Францішка, Войцэха. Першыя два — памерлі бяздзетнымі, трэці — загінуў у баях са шведамі пад Варшавай. Меў Каспер і трох дачок — Ганну, Катажыну, Зоф'ю.

Як бачым, вялізная сям'я Ваўжынца і Ганны Ліпскіх уславіла іх род. Гэта быў апагей росквіту іх сямейнага дрэва, самае прыкметнае і магутнае адгалінаванне.

З трынаццаці іх дзяцей самым багатым на спадчыннікаў быў Франц-Фелікс, раўскі кашталян. З дзвюма жонкамі, Ядвігай Брахоўскай і Катажынай Дульскай, ён займеў сямёра дзяцей. Адзін з яго сыноў — Канстанцін-Самуэль (1622—1698) таксама ўслаўлены ў гісторыі Польшчы. Зноў жа, не без рукі свайго дзядзькі прымаса Яна Ліпскага, ён стаў архіепіскапам львоўскім. Нарадзіўся, як і ўсе Ліпскія гэтага роду, у маёнтку Ліп'е. Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі, у Грэцыі, Італіі. Быў сакратаром у караля Уладзіслава IV. Меў высокія духоўныя пасады.

Прызначэнне ў Львоўскае архіепіскапства атрымаў ад караля Яна III Сабескага на пачатку 1677 года. Адбудаваў некалькі касцёлаў там, у тым ліку Найсвяцейшай панны Снежнай у Львове.

Пахаваны ў Львоўскім саборы.

Другі сын Франца-Фелікса Ліпскага стаў раўскім ваяводам. Яго звалі Ян-Альбрыхт. Апроч службовай кар'еры ён удала ажаніўся, на дачцэ прыдворнага кароннага казначэя Максіміляне Асалінскай, якая нарадзіла яму дзвюх дачок і двух сыноў. Адзін з іх, Франц-Станіслаў, стаў манахам, а другі, Аляксандр-Фелікс, калішскім ваяводам. Пра апошняга згадваецца ў польскіх энцыклапедыях.

Аляксандр-Фелікс Ліпскі быў побач з каралём у час ваенных парадаў. Прызначаўся галоўным паслом да шведскага караля. Лічыўся адным з лепшых лацінскіх прамоўцаў свайго часу. Быў у краіне фігурай прыкметнай, асобай каларытнай і багатай. Скупіў некалькі маёнткаў, у тым ліку і ў Сапегаў. Але, на вялікі жаль, не паклапаціўся пра спадчыннікаў, хаця і быў двойчы жанаты. Другі раз — на ўдаве жытомірскага старасты. А ён жа заставаўся адзіным, хто мог і абавязаны быў «произвести» як мага болей дзяцей. Чыноўніцкая кар'ера, самаўлюбёнасць, асалода ад улады — гэта ўсё, відаць, шкодзіла Аляксандру-Феліксу Ліпскаму выканаць сямейны доўг перад сваім родам. Вось і атрымаў, чаго не чакаў. Польскія геральдысты адзначылі: «Сей дом Липских перастал существовать».

І жыла яшчэ ў 1745 годзе апошняя спадчынніца Ліпскіх з герба «Лада» — Марыяна, дачка калішскага ваяводы Аляксандра-Фелікса Ліпскага, жонка генерала Гранoўскага...

Падаюць дрэвы. Перасыхаюць рэкі. Гінуць звяры. Знікаюць сямейныя роды. Пачалі вымiраць беларусы. З 1993 года прыпыніўся ў рэспубліцы натуральны прырост насельніцтва.

А мы ніяк не возьмемся за розум.

Варажбуем. Развялі самаедства.

Задыхаемся ў чарнобыльскім брудзе.

Усё яшчэ выбіраем: з якім суседам лепей сябраваць.

А суседзяў, як і дзяцей, не выбіраюць: хто ёсць, таго трэба шанаваць, з тым ладзіць сумеснае жыццё. Гісторыя ў нас адна.

І неба — адно!

## ГЕРБ «АБДАНК»

Адзін са старажытнейшых гербаў. Першыя знакі, пячаткі з гербам «Абданк» з'явіліся ўжо на пачатку трынаццатага стагоддзя.

Выява герба простая, але прывабная і крыху загадкавая. На чырвоным шчыце — двойчы заламаная срэбная стужка. Такая ж стужка і на шлеме, над каронай. Геральдысты сцвярджаюць, што першапачаткова гэта стужка была перакручана накшталт літары «М». Але ў такім выглядзе, як дайшла да нас, яе лягчэй змяшчаць на шлеме.

Першыя гаспадары гэтага герба ўвайшлі ў гісторыю геральдыкі. Ім карысталіся кашталян кракаўскі Лупус у 1212 годзе, граф Пакаслаў, ваявода сандамірскі, у 1228 годзе, Міхал, кашталян кракаўскі, у 1243 годзе, Ян Нос, ваявода львоўскі, у 1405 годзе, Войцэх Ванбароўскі, суддзя земскі сандамірскі, у 1408 годзе, Пётр з Відава, суддзя сіроцкі, у 1412 годзе, Ганна з Літвінава ў 1483 годзе...

У судовых справах герб «Абданк» з 1402 года.

Актам Гарадзельскай уніі гэты герб перанесены на Беларусь, Літву. На тым гістарычным сейме род Абданк прадстаўлялі Пётр з Відава і Якуб з Рагозіна. Яны да уніі прыклалі свае пячаткі.

У Польшчы герб «Абданк» найбольш распаўсюджаны на землях калішскіх, сандамірскіх і сіродскіх. А дзе на Беларусі?

Давайце нагадаем прозвішчы сем'яў, якія карысталіся гэтым гербам, і ўважліва прыгледзімся, хто жыве побач з намі. Ці не іх продкі хадзілі пад старажытным гербам?

Гербам «Абданк» карысталіся (прозвішчы пададзены ў польскім алфавіце. — *Ул. Л.*):

*Абакановіч, Абчынскі, Абламовіч, Абрамовіч, Абрамоўскі, Абжалтоўскі, Акаевіч, Анкіевіч, Анквіч, Баландовіч, Банькоўскі, Бардзінскі, Бандзынскі, Банчацкі, Бельгард, Бенькіевіч, Бейнаровіч, Бейнарт, Белабжэскі, Белапятровіч, Беласкурскі, Бялінскі, Бярнацкі, Бішоўскі, Блажаеўскі, Баговіч, Багуцкі, Багунеўскі, Багуслаўскі, Балінскі, Бароўскі, Баравы, Бажыкоўскі, Бажымінскі, Бажымскі, Брам, Бжазінскі, Бучацкі, Будзішэўскі, Буйноўскі, Булгак, Буткевіч, Бушэўскі, Цяклінскі-Скарбек, Цялінскі, Халецкі, Хамец, Хмяльніцкі, Хаенскі, Харынскі, Хажэўскі, Цяклінскі, Цялінскі, Цяслінскі,*



Герб «Абданк»

*Цюндзявіцкі, Цюндзевіч, Чахароўскі, Чахорскі, Чаркоўскі, Чалядка, Чэлай, Чалятыцкі, Чаркаўскі, Чэрнік, Чэсхаў, Чанстоцкі, Данфельд, Дамброўскі, Дэлінскі, Дамбінскі, Длота, Дабашынскі, Докурн, Далінянскі, Дамарадскі, Даўгяла, Доўгвіл, Даўгяловіч, Душат, Дваракоўскі, Дырмант, Эйдырговіч, Эйгірд, Фаскевіч, Габрыяловіч, Гамбажоўскі, Гаштолд, Гембажэўскі, Гірдвойн, Гаглевіч, Гамбровіч, Гошчыц, Гурскі, Грахольскі, Гранкевіч, Гадкоўскі, Гаеўскі, Ганкевіч-Гарбіцкі, Гарабурда, Гаўрылкевіч, Галоўскі, Грамыка, Гунятыцкі, Ільцэвіч, Ілгоўскі, Янкевіч, Янквіч, Яшгяла, Яшлавецкі, Ядленскі, Югашэўскі, Юневіч, Юркоўскі, Качыцкі, Каймір, Каплінскі, Карніцкі, Карскі, Кібарт, Кялчэўскі, Кляноўскі, Кабылінскі, Калачкоўскі, Канарскі, Капцевіч, Каплеўскі, Карэва, Касоўскі, Касцялкоўскі, Кавальскі, Казятульскі, Казубскі, Крабаноўскі, Крачоўскі, Крушэўскі, Кшывінскі, Крыжаноўскі, Куніцкі, Лаўгмін, Ляшчынскі, Левікоўскі, Лібнар, Лічбінскі, Лідзбанскі, Ліпскі, Любянскі, Любятоўскі, Лагеўніцкі, Ласіцкі, Ласінскі, Ладвікоўскі, Лубніцкі, Лужэўскі, Махоўскі, Магнуцкі, Маляноўскі, Мальчэўскі, Маляхоўскі, Малышка, Мяноўскі, Мячкоўскі, Мечыкоўскі, Мечыхоўскі, Мікалаеўскі, Мілеўскі, Мілкоўскі, Млынкоўскі, Напрушэўскі, Нарбут, Абарніцкі, Аборскі, Адахоўскі, Апароскі, Арлікоўскі, Асоўскі, Асташэўскі-Скарбек, Астшынскі, Астрынскі, Ашчапальскі, Палішэўскі, Пенкаслаўскі, Пястроўскі,*

*Петрашэўскі, Пятроўскі, Піўка, Пнеўскі, Паморскі, Пасадоўскі, Прабалеўскі, Пшэбароўскі, Пшазвіцкі, Пшыбыльскі, Псарскі, Пучнеўскі, Пудлішкоўскі, Пукошак, Радонскі, Радунскі, Радзаноўскі, Радзянткоўскі, Раймір, Ратоўскі, Ратаўт, Ражак, Ракоўскі, Равенскі, Рэўкуць, Рагоўскі, Рагазінскі, Рагускі, Раеўскі, Разбарскі, Рудзкі, Русецкі, Рыбскі, Салява, Самплоўскі, Сендзіч, Скарбек, Скарашэўскі, Скарачэўскі, Скура, Скурэцкі, Скуба, Сланка, Сланчынскі, Сломка, Сламоўскі, Сломскі, Слупскі, Слыш, Слышэўскі, Сакульскі, Старасядліцкі, Старскі, Стпічынскі, Сухадольскі, Судольскі, Свашоўскі, Шэпіг, Шчыцінскі, Шчыенскі, Шэлеў, Шпачынскі, Шумкоўскі, Сліза, Слізоўскі, Сняткоўскі, Тафілоўскі, Тальшэўскі, Тачылоўскі, Тычынскі, Тачуцкі, Трацэўскі, Тшэбінскі, Твароўскі, Твашыянскі, Устарбоўскі, Валёўскі, Варакоўскі, Варшыцкі, Ват, Выжынскі-Скарбек, Вашыцкі, Верпоўскі, Відаўскі, Велябыцкі, Вісерскі, Вішаваты, Вітоўскі, Ваянкоўскі, Ваявудскі, Валшлегер, Волчак, Валынецкі, Валынскі, Вашчынскі, Вайчынскі, Выгоўскі, Закшэўскі, Закрэўскі, Завадскі, Збыхальскі, Злотун, Жангаловіч, Жаранскі, Жандзіцкі, Жолундзь.*

Ліпскія займелі гэты герб у 1512 годзе.

У энцыклапедыях шляхецкіх зарэгістраваны кракаўскі купец Фелікс Ліпскі, які атрымаў шляхецтва ў 1521 годзе і ўзяў для сябе герб «Абданк». У яго былі дзеці Фелікс, Войцэх, Фартунат, Ганна, Катажына, Агнешка і Вікторыя. Далей пра гэты род нічога невядома. Магчыма, той шматдзетны купец вазіў свой тавар і на Беларусь. Мо прышчапіў сваю галіну на нашай зямлі?

З іншых родаў гэтага герба на Беларусі і ў Літве знакамітыя і багатыя роды Гаштольдаў, Гарабурдаў. У Барысаўскім павеце мелі маёнткі Сюндзеўскія.

Для беларусаў добра вядомы прозвішчы палітыка, дзяржаўнага дзеяча Грамыкі, пісьменніка Гурскага, вучонага Карскага, рэжысёра Раеўскага, паэта Русецкага. Усе яны ў гербе «Абданк». Шкада, што доўгі час мы не пазначалі ў біяграфіях слынных людзей такую важную радаводную адзнаку. Затое абавязкова пісалі, з якога года ўступіў у камуністычную партыю, што рабілі бацькі да бальшавіцкай рэвалюцыі. Дай жа Бог вярнуць нам чалавечую памяць!

## ГЕРБ «ДАЛІВА»

Гэты герб, як і багата іншых, перанесены на Беларусь і Літву пасля Гарадзельскай уніі. Трэба ведаць, што тая знакамітая унія адбылася хутка пасля Грунвальдскай бітвы. Саюз Вялікага княства Літоўскага з Польшчай замацаваны 2 кастрычніка 1413 года трыма граматамі. Пасяджэнне праходзіла ў замку Гарадле на Заходнім Бузе. Менавіта тады 47 польскіх феадалаў надзялілі сваімі гербамі 47 феадалаў Вялікага княства Літоўскага. Прынялі іх ў свае гербавае братэрства і абяцалі быць з імі ў вечнай дружбе.

Герб «Даліва» вядомы ўжо ў сярэднявеччы, на пачатку 1334-га і 1343 гадоў. Яго меў Мікалай, ваявода пазнанскі. Амаль аднача-сова гэту геральдычную адзнаку займеў калішскі кашталян Ян.



Герб «Даліва»

Пазней — біскуп пазнанскі Ян, каштэлян біяхоўскі Януш, ваявода пазнанскі Вінцэнт, падсудак земскі галіцкі Пётр Сямковіч, біскуп кракаўскі Ян Лутэк, каштэлян ленчыцкі Томаш Собаты...

Першы запіс герба ў судовых справах — з 1402 года.

Што яўляе сабой герб «Даліва»?

У блакітным полі — срэбная стужка, скошаная ўлева. На ёй — тры чырвоныя ружы. У кляйноце над шлемам, паміж дзвюма трубамі, — зноў тры ружы, адна над адной, слупком.

У Польшчы герб «Даліва» найбольш распаўсюджаны ў землях дабржынскіх, кракаўскіх, ленчыцкіх, сандамірскіх, сіродскіх і на Мазоўшы. Усё гэта гістарычныя вобласці Польшчы, у сярэднім цячэнні Віслы, у ніжнім цячэнні Нарава і Буга.

Гербам «Даліва» ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве карысталіся 138 сямейных родаў. У тым ліку:

*Алькімовіч, Андруховіч, Андрушэвіч, Бабіцкі, Бабіла, Бадоўскі, Бальцаровіч, Берытх, Бянёнцкі, Блатніцкі, Бабраўніцкі, Багданскі, Борна, Бару-*

*хоўскі, Бжазінскі, Ханоўскі, Цехалёўскі, Цялецкі, Цялескі, Цемяжынскі, Чындальскі, Даневіч, Дамбінскі, Дыер, Добеш, Добрат, Дабравольскі, Дабруцкі, Даліва, Драбст, Дуневіч, Дзячэнскі, Дзік, Фалькоўскі, Гезак, Глажаеўскі, Глажэўскі, Гламбоцкі, Гойскі, Галгоўскі, Гажыцкі, Газдоўскі, Гасцінскі, Газдзецкі, Гоздцкі, Газімірскі, Гурскі, Граеўскі, Граніеўскі, Гузоўскі, Ірашэўскі, Ірушэвіч, Ямялкоўскі, Янскі, Ялітка, Емялкоўскі, Кадлубіцкі, Клячкоўскі, Кліхоўскі, Клікоўскі, Клачоўскі, Кнот, Копач, Касінскі, Кошчыц, Кашэмбар, Кот, Кажухоўскі, Крушэўскі, Лангенаў, Ліпскі, Лубенскі, Лутак, Лукомскі, Лышкоўскі, Махвіч, Міласлаўскі, Млечка, Марачэўскі, Начка, Нашынец, Натка, Насвіцкі, Навамейскі, Ахімоўскі, Альшынскі, Пасак, Пампоўскі, Падлескі, Пажэцкі, Пшакулея, Пужыцкі, Радзецкі, Раздражэўскі, Ружыцкі, Рыкальскі, Рыкоўскі, Жашоўскі, Садкоўскі, Савінскі, Сіцінскі, Сяльніцкі, Семакоўскі, Сільніцкі, Скомпскі, Скарбек, Скавінскі, Смалінскі, Сабоцкі, Сакалоўскі, Срачкоўскі, Стампчэўскі, Стажынскі, Старынскі, Стампжэнскі, Стэмпскі, Стравінскі, Стронскі, Сускі, Сыруць, Сырня, Счыцкі, Слясінскі, Тэўта, Тшэскі, Владкоўскі, Вольскі, Вжэмбскі, Захарэўскі, Закрэўскі, Зальхоцкі, Залонскі, Зямбжуцкі, Зялёнцкі, Зялінскі, Жыдоўскі.*

Зноў зайздрошчу польскім сямейным родам. Яны хоць што знаходзяць у геральдыстаў, гісторыкаў, вучоных пра сябе. Вядома, што пад гэтым гербам хадзіў Ліпскі Пётр, уладальнік Ліп'я ў Сандамірскім ваяводстве. І было гэта ў далёкім 1470 годзе. Ліпскі Марцін з сынамі Янам і Мікалаем жыў пад «Далівай» у 1512 годзе. Ліпскі Аляксандр, рэгент гастынскі, меў той герб з 1669 года. Ліпскі Ян, стараста сандамірскі, з жонкай Катажынай Сапега і сынамі Янам, Паўлам, Сымонам узяў «Даліву» ў 1690 годзе. Ліпскі Антон, стараста чэхоўскі, яго брат Ян і сын Яна займелі герб з 1715 года...

Хто радня ім сёння? У якіх краях і землях парасткі іх сямейнага дрэва?

Тайна? А мо таму тайна, што ніхто і ніколі нават не спрабаваў яе разгадаць? Дык пазнаем жа сваю мінуўшчыну, каб смялей і надзейней рухацца ў заўтрашні дзень!

## ГЕРБ «ГАЛОБАК»

У чырвоным полі — палова срэбнага ласося, галавой скіраванага ўверх. У кляйноце над шлемам два чорныя ражкі, паміж імі — такая ж выява ласося.

Што азначае ўсё гэта на гербе?

Якія сімвалы заклаў гербапачынальнік?

Чаму такая пашана рыбе? Ён — рыбак? А два чорныя ражкі навошта? Трубіць аб трывозе ці аб перамозе?

Не выклікаюць пытанняў толькі металічны шлем і карона. Безумоўна, гэта быў воін, рыцар, абаронца радзімы. А карона — адзнака паважанай і слыннай асобы.

Першая пячатка з выявай такога герба зарэгістравана ў 1462



Герб «Галобак»

годзе ў Пятра з Браніцы, суддзі земскага львоўскага. Яшчэ адзін Пётр, па прозвішчы Цэброўскі, са Стока меў герб з 1464 года.

Першая запіска аб гербе ў 1388 годзе.

Найбольш распаўсюджаны на кракаўскай і сандамірскай землях.

Гербам «Галобак» карысталіся:

*Барціцкі, Берульт, Біруля-Бялыніцкі, Барэцкі, Бажэнцкі, Браніцкі, Цэброўскі, Цэдроўскі, Цэкоўскі, Дамброўскі, Дразвінскі, Глаўнеўскі, Глуўчэўскі, Грабаўніцкі, Гэрэйка, Галобак, Елавіцкі, Клапотак, Лятычынскі, Ліпніцкі, Ліпскі, Лушчыц, Мрозік, Нечваеўскі, Ніклёвіч, Ніклоўскі, Асельскі, Піктановіч, Ратульд, Студзенскі, Тарло, Уніслоўскі, Віркоўскі, Зрудцкі.*

# ГЕРБ «ЯНІНА»

У Вялікае княства Літоўскае гэты герб першым прыняў нехта Войцэх Даняйковіч. З яго добрай рукі герб прынялі 123 сямейныя роды.

Першая пісьмовая крыніца пра герб «Яніна» захавалася з 1388 года. Пячаткі з выявай герба з'явіліся крыху раней. Іх мелі Пелка, суддзя земскі сандамірскі, Ян з Джэвіцы, Мацей Сухадольскі, суддзя земскі любельскі, Пётр Вечэмуноўскі, падсудак земскі сандамірскі, Станіслаў з Горцыч, кашталян царноўскі.

Найперш герб «Яніна» прыжыўся на землях кракаўскіх, ленчыцкіх, сандамірскіх, сіродскіх.

А дзе, у якіх раёнах, гарадах і вёсках Беларусі, жывуць нашчадкі сем'яў, якія насілі гэты герб? Мяркуйце самі па прозвішчах:

*Антаневіч, Антановіч, Акст, Белаблоцкі, Белабоцкі, Белабродцкі, Бідзінскі, Бялецкі, Бялеўскі, Бяліцкі, Бялёўскі, Браніцкі, Бранвіцкі, Хатэльскі, Хужоўскі, Цудзяноўскі, Данчыкевіч, Даняйковіч, Дарухоўскі, Габонскі, Габрыяловіч, Галубіцкі, Гяльчэўскі, Галамбёўскі, Гулінскі, Ганіцкі, Галубіцкі, Галубовіч, Губарэвіч-Радабыльскі, Янік, Янікоўскі, Янінскі, Яноўскі, Ярацінскі, Ярашэўскі, Явіцкі, Яворскі, Янткевіч, Юргевіч, Канскі, Краскі, Кашэўскі, Кялчэўскі, Калачкоўскі, Канрадскі, Кажанёўскі, Квасак, Квасібродскі, Лендскі, Ліпніцкі, Ліпскі, Лабэнцкі, Лэнцкі, Лэнскі, Мацяёўскі, Мнеўскі, Мацевіч, Мшчуй, Нараёўскі, Нэцэвіч, Нэпэльскі, Альбецкі, Альбенскі, Ольшбанк, Апоцкі, Пелка, Пясецкі, Пеляшкоўскі, Падлядоўскі, Пагладоўскі, Патоцкі, Пшазвоцкі, Пшонка, Путыяновіч, Пуздроўскі, Радажыцкі, Жачыцкі, Жазэнскі, Садла, Савін, Сяніцкі, Браўн, Смасарскі, Сабескі, Сапоцкі, Сапатніцкі, Сракоўскі, Стаінскі, Стаеўскі, Стронскі, Стшашкоўскі, Сухадольскі, Свайкоўскі, Шчыпецкі, Шчыпскі, Свянціцкі, Свярчкоўскі, Тарнаўскі, Турскі, Трымовіч, Тудароўскі, Убнінскі, Уняшоўскі, Ужаноўскі, Ужазоўскі, Усажэўскі, Ушацкі, Варпэнскі, Вашмунтоўскі, Вешмунт, Вернак, Вяжбента, Вінярскі, Властоўскі-Пелка, Вайткевіч, Валіцкі, Войшын, Вжазоўскі, Высацінскі-Пелка, Задускі, Зава- дзіцкі, Завадскі, Завепрскі, Збілюта, Зяжынскі, Жуліцкі.*

Герб «Яніна» па сваім афармленні крыху загадкавы і, як бы сказалі палякі, вельмі пенкны. На чырвоным шчыце — фіялетавы шчыт, як бы мужчынскі і жаночы. У кляйноце над шлемам — паўлінавы хвост. Вайсковыя рэгаліі пераплятаюцца з пэўнай лірычнасцю колераў. Магчыма, першы ўладар герба быў закаханым воінам альбо разам са сваёй каханай змагаўся на полі бітваў. А пасля ўсё гэта ўвасобілі ў сваім сямейным гербе. Магчыма, усё было не так. Пафантазіруем разам і пашкадуем яшчэ раз, што нашы сем'і не маюць сваіх фамільных гербаў.



Герб «Яніна»

## ГЕРБ «КОРЧАК»

Ліпскія пад гэтым гербам паходзяць ад Корчакаў-Гарайскіх. Узялі прозвішча ад вёскі Ліпск, на зямлі хелмскай, непадалёк ад Замосця. Там, каля 1580 года, жылі два браты — Ян і Мікалай. Ян быў воінам, меў заслугі ў Рэчы Паспалітай, горача падтрымліваў кальвінізм. Пісаўся так: «Ян з Гарая на Ліпску і Краснагроддзі». Пасля займеў сталае прозвішча — Ліпскі.

Службовая кар'ера Яна Ліпскага пачыналася з пасады падка-

морага* бельзскага. Пасля, з мая 1613 года, прызначаны кашталянам таго ж павета. З жонкай Ганнай Слупецкай меў сыноў Адама, Яна, Фелікса, Збігнева і дачку Грызельду.

Брат кашталяна Мікалай Ліпскі пасяліўся на Валыні, каля Сокала. Пра яго радавод згубіліся звесткі. Але дакладна вядома, што і цяпер на Валыні жывуць Ліпскія і лічаць сябе там адвечнымі насельнікамі.

Продкам братоў Яна і Мікалая Ліпскіх лічыцца Дзмітрый з Гарая, які быў прыдворным кардынала Збігнева з Алешніцы ў 1454 годзе. Яму тады і дастаўся маёнтак Ліпск, які пайшоў па руках спадчыннікаў, прадаваўся, закладваўся, зноў выкупляўся, аж пакуль не перайшоў у надзейныя рукі братоў — Яна і Мікалая.

Гербам «Корчак» карыстаўся сямейны род Лышчынскіх, сярод якога нязгаснай зоркай высвечваецца постаць беларускага мысліцеля-вальнадумца Казіміра Лышчынскага (1634—1689). Ён даводзіўся праўнукам родапачынальніку Льву, які паходзіў ад венгерскіх князёў. Яны мелі на Берасцейшчыне вёскі Лышчыцы, Дабраніж, Кустынь, Матыкалы.

Казімір Лышчынскі — адзін з адукаванейшых людзей свайго часу. Ён быў прарэктарам Берасцейскага езуіцкага калегіума, падсудкам Берасцейскага земскага суда, ездзіў паслом ад павятовай шляхты на выбары караля польскага і вялікага князя літоўскага. А за трактат пад крамольнай назвай «Аб неіснаванні Бога» прыцягнуты да суда на варшаўскім сейме. Падсудны прасіў літасці, сцвярджаў, што меў намер напісаць яшчэ адну кнігу, каб абвергнуць першую. З яго вуснаў гучала доказная мудрасць:

У кожным родзе істот ёсць найбольш дасканалая.
У Сусвеце найдасканалейшым з'яўляецца Сонца.
У свеце жывёл — чалавек.
Сярод разумных стварэнняў самая дасканалая з істот — Бог.

Але суд быў строгі і няўмольны. 30 сакавіка 1689 года на плошчы Старога рынку ў Варшаве кат сцяў Лышчынскаму галаву. Цела яго аддалі агню, а попелам стрэлілі з гарматы...

Герб «Корчак», пад якім жылі Ліпскія, Лышчынскія ды іншыя слаўныя людзі, бярэ свой пачатак з 1368 года.

Пячаткі з гербам выяўлены ўжо ў 1431 годзе ў Вялікім княстве Літоўскім. Іх меў нейкі Гранка Клуковіч, а ў 1501 годзе — Ержы Кілніч, маршалак надворны і дзяржаўца лідскі. Першым жа перанёс герб «Корчак» на Літву баярын Чупа.

Родапачынальнікі герба жылі на землях кракаўскіх, любельскіх і на Чырвонай Русі (Галіччына, Заходняя Украіна. — *Ул. Л.*).

Існавалі варыянты герба, але да нас дайшоў такі. У чырвоным полі — тры срэбраныя ракі, пасмы, стужкі, як хто іх уяўляе, адна

---

* **Падкаморы** — разглядаў зямельныя спрэчкі паміж шляхтай у падкаморскім павятовым судзе, гэту пасаду мог займаць шляхціц, які валодаў маёнткам у сваім павеце, ведаў права.



Герб «Корчак»

над другой, ніжэйшая карацей за сярэднюю, а тая карацей за вышэйшую. А ў кляйноце над каронай у залатым келіху — палова срэбранага сабакі. Ён стаіць з паднятымі лапамі, гатоў служыць гаспадару і нават лізнуць яго.

У кнізе «Старапольскія гербавыя паданні» польскі даследчык Марыуш Казанчук даводзіць легенду аб узнікненні герба «Корчак».

Было гэта ў часы гунскага правадыра Ацілы, дзяржава якога займала тэрыторыю сучаснай Венгрыі. І быў у яго таленавіты палкаводзец Зоард. Аднойчы ён са сваім войскам разбіў ворага ў бітвах каля трох рэк — Бадрока, Цісы і Дуная. Тыя рэкі ўзяты за сімвал на шчыце герба «Корчак». А сабака ў залатым келіху — гэта знак таго, што Зоард дапамог звергнуць з трона жорсткага ўладара, якога людзі параўноўвалі са злосным псом.

Рускі ж геральдыст Лакіер у кнізе «Руская геральдыка» даводзіць, што гербам «Корчак» спачатку карысталіся князі Славоніі, потым Венгрыі, Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Яго ўжывалі рускія дваранскія роды, якія мелі паходжанне з Польскага каралеўства і Літвы, — Аляб'евы, Баратынскія, Дундуковы-Корсакавы, Рымскія-Корсакавы...

Герб «Корчак» прынялі 270 сямейных родаў. Прачытаем прозвішчы некаторых і пашукаем сярод іх сваю радню, сваіх знаёмых і суседзяў:

*Балевіч, Балабан, Банунынскі, Бажы, Барсоўскі, Баткевіч, Баткоўскі, Батужыцкі, Бандлевіч, Бандлеўскі, Бібель, Бібельскі, Бянеўскі, Бярнацкі, Бернашэўскі, Бярнаўскі, Бяжаўскі, Білінскі, Білізненскі, Блізінскі, Багдановіч, Багавітын, Баратанскі (князі), Баршоўскі, Барткевіч, Бартніцкі, Бартноўскі, Бажыдар, Браніцкі, Бродзкі, Бранавіцкі, Ханькоўскі, Ханькі, Ханцінскі, Хадароўскі, Хадорскі, Хаінскі, Халанеўскі, Хатэцкі, Хрычэўскі, Хуляўскі, Хычэўскі, Хышэўскі, Хыжэўскі, Цупер, Чарнкоўскі, Чароўскі, Чарыскі, Чашкоўскі, Чаша, Чарняёўскі, Чупа, Чурыла, Даляшынскі, Дамбкоўскі, Дамброўскі, Даравінскі, Дэрмант, Дэршняк, Дэўбель, Дабрачэўскі, Дабрачынскі, Далінскі, Дрэлінг, Драхоўскі, Драгаеўскі, Дражаўскі, Дрыневіч, Джэмлік, Джавінскі, Дуніцкі, Дусенскі, Дзячцеўскі, Гацкі, Гаеўскі, Глінскі, Глюзінскі, Гараеўскі, Гарайскі, Гуральскі, Грушкоўскі, Гжандзельскі, Гваздецкі, Галушынскі, Ганьскі, Галадынскі, Галавіцкі, Гараім, Гарбоўскі, Гарбаноўскі, Гарноўскі, Гарадэнскі, Гарадыйскі, Гарадынскі, Гашэўскі, Грачына, Грушвіцкі, Губіцкі, Гынька, Ілініч, Іллюкевіч, Івоня, Івоньскі, Яркоўскі, Ярмалінскі, Ярашынскі, Яскулоўскі, Яленскі, Янкевіч, Есман, Яўлашка, Еўлашковіч, Кадлубіцкі, Казімірскі, Клімкоўскі, Камар, Камароўскі, Канажэўскі, Капроўскі, Корбут, Корчак, Карчакоўскі, Карчмінскі, Карытынскі, Костка, Катовіч, Казярадзкі, Краснадомбскі, Краснапольскі, Крэнжылоўскі, Крукяўніцкі, Крупскі, Крыніцкі, Кжэчоўскі, Ляхадоўскі, Латычынскі, Ляшчынскі, Ліпскі, Лушкоўскі, Ладаміцкі, Лагадоўскі, Ланеўскі, Лаўрыновіч, Лопат, Лаёвіч, Лушчэўскі, Лушчкоўскі, Лушчынскі, Лушкоўскі, Лышчынскі, Мальчыцкі, Манувір, Меляховіч, Меляшкевіч, Міхалеўскі, Міхальскі, Мялешка, Млечка, Магільніцкі, Марахоўскі, Мышчыц, Мышка, Невельскі, Нівіцкі, Арчыслаўскі, Арноўскі, Аслаўскі, Астроўскі, Ашчыслаўскі, Асціслаўскі, Паўловіч, Пяльчыцкі, Пісьніцкі, Пласконскі, Падголія, Падгарадэнскі, Партанты, Парванецкі, Парвінскі, Прухніцкі, Пракаповіч, Пшылупскі, Рацімірскі, Рымкевіч, Рынка, Рынкоўскі, Рынскі, Сачка, Садлоха, Салямонскі, Саладыкоўскі, Самплоўскі, Сапароўскі, Серабрыцкі, Сяліцкі, Сяліцкі-Каравай, Сянкоўскі, Сіладкоўскі, Сіліч, Сільніцкі, Сівіцкі, Сівінскі, Скаблоньскі, Скарута, Смыкоўскі, Сабанскі, Саламунскі, Солтан, Сасноўскі, Сова, Сажанскі, Стаўскі, Стэцковіч, Страш, Струсь, Струшкевіч, Суткоўскі, Сварычэўскі, Сынкоўскі, Шаклакоўскі, Шчаска, Шаптыцкі, Шарабінскі, Шаломскі, Шумбарскі, Шумлянскі, Слядзеўскі, Смятанка, Свідла, Свідлоўскі, Свяжынскі, Свінюскі, Таманоўскі, Танкоўскі, Томкель, Тамaнавіцкі, Трошак, Труханоўскі, Трухоўскі, Тур, Ульчыцкі, Умястоўскі, Варкоўскі, Васічынскі, Васялкоўскі, Васілкоўскі, Васютынскі, Васушынскі, Вашчынскі, Верашчынскі, Весалоўскі, Весель, Вешхалоўскі, Віталішоўскі, Вайналовіч, Воўк, Вольскі, Волад, Валадыёўскі, Варатынскі, Вытыз, Загароўскі, Заянчніцкі, Заянчынскі, Заранак, Заранскі, Збароўскі, Зегарт, Зялкоўскі, Жаратынскі, Журавінскі.*

Са згаданых прозвішчаў мне найбольш блізкія, безумоўна ж пасля Ліпскага, яшчэ тры: Паўловіч, Корбут, Яленскі. За Паўловіча выходзіла замуж сястра маёй бабулі Алена. За Вікенція Яленскага выходзіла замуж і шчасліва дажыла з ім да залатога вяселля мая цётка Агата. Замужам за Іванам Корбутам, гарманістам, рыбаком і дружбаком, была мая сястра Люба. Усе гэтыя прозвішчы звязаны з маёй роднай вёскай Шоўкавічы. Але свой род, свой герб я прадаўжаю шукаць. І, верыцца, знайду!

А лірычнае адступленне дазволіў сабе толькі таму, каб засяродзіць увагу чытачоў на прозвішчах, якія старанна выпісваю пад кожным радаводным гербам.

## ГЕРБ «КОТ МАРСКІ»

На чырвоным шчыце сядзіць срэбраны кот з залатым поясам. Над шлемам у кароне — тры страусавых пярыны.

У герба адны загадкі. Чаму марскі кот узяты за сімвал? Дарэчы, леапарда называлі марскім катом. Чаму страусавае апярэнне вянчае герб? І чаму ўзяты менавіта тры пяры?

Пасля Гарадзельскай уніі герб перанесены ў Вялікае княства Літоўскае. І ў 1413 годзе пячатку з выявай герба «Кот марскі» ўжо меў літвін Войчнар Веркаловіч.

Вядомы ўсяго дзевяць сямейных родаў, якія карысталіся гэтым гербам. Вось яны: Корзун, Кот, Катлубай, Ліпскі, Сварчынскі, Свbooражынскі, Веркаловіч, Войшнар, Вайшнаровіч-Каўнацкі.

## ГЕРБ «РАГАЛЯ»

Тры браты Міланоўскія — Ян, Пётр і Станіслаў у 1434 годзе падзялілі бацькоўскія маёнткі. Ян узяў Тржылятка і стаў нашчадкам Тржыляткоўскіх. Пятру дастаўся маёнтак Ранчай, і ён стаў спадчыннікам Ранчайскім. А Станіславу перапала Ліпа ў зямлі чэрскай. І ён стаў родапачынальнікам Ліпскім пад гербам «Рагаля».

Дзеці Станіслава Ліпскага з Ліпы — Ганна, Мікалай, Мацей, Станіслаў, Павел, Міхаіл, Ян, Барбара, Беата і Катажына. Усе яны займаліся справамі зямнымі, маёмаснымі, зямельнымі.

З іх толькі адзін, Станіслаў, выбіўся ў людзі і сваёй працай заслужыў месца ў польскай біяграфічнай энцыклапедыі. Набожны, старанны, адукаваны, ён прыкметна рухаўся па службовай лесвіцы: ад каноніка плоцкага і варшаўскага, прэпазіта плоцкага да падканцлера* князёў Мазавецкіх Баляслава V і Януша II.

---

* **Падканцлер** — намеснік канцлера, хавальнік пячаткі, вёў справаводства, казначэйскую кнігу з рахункамі княжага двара.



Герб «Кот марскі»

За адданую і верную службу Станіслаў Ліпскі атрымліваў вялікія дары: вёску Грамадзын Велькі ў павеце Цэханоўскім, вёску Люшава ў павеце Шрэньскім, амбар, сад і вінаграднік у Плоцку. Ён і сам шустра і ўмела ўзбагачаўся. Набываў з ільготнымі падаткамі вёскі і маёнткі. Пад залог браў сядзібу Рагалінскую ў Варшаве, на тэрыторыі княжага двара. У 1489 годзе купіў у пляменнікаў маёнтак Залессе ў вёсцы Махнатка. У 1494 годзе атрымаў ад князя Януша II дом з садамі і пабудовамі ў Ражане.

Ды ўвесь гэты набытак пайшоў пасля смерці Станіслава Ліпскага па руках яго спадчыннікаў. Матэрыяльнае багацце губляецца вельмі лёгка. Можна толькі дзівавацца з нашых сучаснікаў, якія без разбору, нахабна і часам злачынна лезуць у ярмо нажывы.

У Станіслава і Дароты Ліпскіх былі дзеці — Ян, Якуб, Кржыш-



Герб «Рагаля»

таф, Станіслаў, Ваўжынец, Барбара, Дарота. Вось яны і пачалі дзяліцца, судзіцца за бацькавы маёнткі. Падзялілі нават радаводны маёнтак Ліпу. А самі нічога прыкметнага і значнага не пакінулі на гэтай зямлі.

Можна толькі адзначыць, што Станіслаў, сын Станіслава, унук Станіслава, Ліпскі ажаніўся на Ганне Завішанцы. А мы ведаем славуты род Завішаў на Беларусі. Магчыма, дрэва Ліпскіх гэтай галінай і прышчэплена на нашай зямлі. Можа, такім шляхам і перайшоў герб «Рагаля» ў наш край.

Нараджэнне герба геральдысты адносяць да 1257 года. Менавіта ў гэтым годзе зафіксавана пячатка з выявай «Рагалі» ў графа Вільха.

Што сабой уяўляе герб?

Як звычайна, пасярэдзіне — шчыт, а на ім — асноўныя сімвалы

герба. На гэты раз шчыт падзелены, рассечаны папалам. У чырвонай палавіне — рог аленя з пяццю адросткамі. У срэбранай палавіне — чырвоны буйвалаў рог. Над каронай — такія ж два рагі.

У старажытнасці герб быў распаўсюджаны асабліва на Мазовіі, у землях добжыцкіх, бельскіх і плоцкіх.

Гербам «Рагаля» карысталіся:

*Баеўскі, Бандорскі, Бэх, Бэхоўскі, Бэндорскі, Беляноўскі, Бянецкі, Блашчынскі, Блонскі, Болька, Бальшэўскі, Бжэзінскі, Бжазоўскі, Бутkoўскі, Хандзынскі, Харманскі, Хшаноўскі, Хыноўскі, Целямэнцкі, Чамбар, Чэканоўскі, Дучымінскі, Дзяткоўскі, Фільч, Гінтаўт, Гнаенскі, Гурскі, Груненберг, Гжэмбскі, Гарбашэўскі, Гіраш, Гадзіцкі, Іваноўскі, Яжэцкі, Ясенскі-Вітніковіч, Язерскі, Ютроўскі, Качароўскі, Калускі, Каменскі, Карнеўскі, Казнеўскі, Кіцінскі, Кялпінскі, Кабжынскі, Каценскі, Качароўскі, Кальчынскі, Калічкоўскі, Калітоўскі, Касценскі, Касенскі, Касінскі, Касткевіч, Кастравіцкі, Красіцкі, Красоўскі, Крушэўскі, Куммерн, Кунстэттар, Кураш, Кужанткоўскі, Ляпаноўскі, Лятычынскі, Ляшчэнскі, Лявіцкі, Леваневіч, Ліхоўскі, Ліпскі, Лісаніцкі, Лёка, Лёрк, Люка, Лапаноўскі, Ласкі, Лоскі, Махцінскі, Махнацкі, Мандывель, Маршэўскі, Марушэўскі, Міляноўскі, Міраслаўскі, Маджэўскі, Нічгурскі, Нівіцкі, Навіцкі, Аджывольскі, Арчынскі, Ажэхоўскі, Асікоўскі, Асмольскі, Астроўскі, Пачкоўскі, Парушэўскі, Пікульскі, Пільхоўскі, Пілька, Папялоўскі, Паплаўскі, Патрыкоўскі, Павальскі, Паўсінскі, Пшэцішэўскі, Пунікеўскі, Радзікоўскі, Рашынскі, Райкоўскі, Рэнчайскі, Рэмбеўскі, Рагаля, Рагалінскі, Рагальскі, Ракіцкі, Развадоўскі, Ражыцкі, Рудгеж, Руноўскі, Рыньскі, Санхаціна, Сарачынскі, Сяцінскі, Сярпінскі, Скальскі, Скалка, Скамоўскі, Скрамоўскі, Скульскі, Слаўкоўскі, Слодзей, Сабесцянскі, Сакалоўскі, Старавейскі, Сварацкі, Сверскі, Шчыгельскі, Таргоўскі, Тхажэўскі, Трэмбінскі, Трашынскі, Тшылятоўскі, Тсхамер, Турскі, Тыраў, Увілінскі, Вангродскі, Вангроўскі, Васілеўскі, Вэндрыхоўскі, Вэнгжыноўскі, Вэнскі, Вэнсла, Вэссель, Вірскі, Вітніковіч, Вітунскі, Выбіцкі, Выдражэўскі, Высоцкі, Забароўскі, Загорскі, Загажыцкі, Завадскі, Зэмбоцкі, Жарноўскі, Жэрніцкі.*

## *ГЕРБ «РАВІЧ», альбо Віцебскі след паўстання Каліноўскага*

Пад гербам «Равіч» жылі два сямейныя роды — Гана-Ліпскі і Ліпскі.

Па звестках польскага геральдыста Банеўскага, нехта з Ганаў асеў у нейкай Ліпе і прыняў для сябе прозвішча Гана-Ліпскі. А можа, усё было наадварот: нехта з Ліпскіх набыў маёнтак Гана і далучыў яго назву да свайго прозвішча.

Захаваліся даволі сціплыя звесткі пра гэты род. Адам Ліпскі і Павел Гана валодалі ў 1564 годзе часткай вёскі Срэдні ў Краснаставускім павеце. Магчыма, з гэтых Ліпскіх Мікалай — уладальнік зямлі ў Кржчанове, а Мікалай і Піліп — зямлі ў Казаржове, у Любельскім павеце, непадалёк ад Ганаў.

Той жа Банеўскі даводзіць, што Пётр Гана-Ліпскі быў у 1663



Герб «Равіч»

годзе ў палоне ў Маскве. Праз некалькі год вярнуўся і падпісаў у Аршанскім павеце выбранне караля Яна III Сабескага. Калі ўлічыць, што той кароль уступіў на трон у 1674 годзе, то можна ўявіць, што азначаюць для Пятра Гана-Ліпскага «некалькі» год палону.

Яшчэ адну цікавую звестку падае Банеўскі: «Андрэй і Ян-Барталамей Ганы-Ліпскія — выбраннікі сейма Віцебскага ў 1722 годзе».

А цяпер прачытаем некалькі радкоў з гістарычнага зборніка «Геральдыка» пад рэдакцыяй Шапашнікава, які выйшаў у 1900 годзе ў Санкт-Пецярбургу. У раздзеле «Гербоўнік віцебскага дваранства» напісана:

«Род Ліпскіх сваё слаўнае паходжанне даказвае радаводнаю ад

нашчадка Вацлава Грабіе дэ-Ліпэ-Гана-Ліпскага, стольніка* калішскага, які валодаў маёнткамі ў Белзскім ваяводстве». Шматлікія яго нашчадкі мелі розныя маёнткі і землі, выконвалі розныя службы і абавязкі. З гэтага роду Пётр Гана-Ліпскі быў два разы ў палоне ў рускіх — у 1655, 1664 гадах. Дваране Ліпскія на падставе прад'яўленых прывілееў, дакументаў, актаў і пасведчанняў даказалі сваё дваранскае званне за сем пакаленняў, а таксама валоданне маёнткамі ў Польшчы і на Белай Русі.

Яшчэ адно сведчанне, што Ліпскія гэтага роду даўно і шырока аселі на Віцебшчыне, — гэта «Алфавітны спіс дваранскіх родаў Віцебскай губерні за 1900 год». Там указана, что дэ-Ліпэ-Ліпскія ўказам Урадавага Сената па дэпартаменту геральдыі ўнесены ў радаводную кнігу дваран 7 красавіка 1861 года за № 4212.

Сярод дваран Віцебскай губерні пазначаны вельмі вядомыя прозвішчы: Бялінскі, Валодзька, Васілеўскі, Вішнеўскі, Гарэцкі, Дзядзюля, Яленскі, Заблоцкі, Зубоўскі, Ігнатовіч, Івашкевіч, Іодка, Каліноўскі, Козіч, Купрэвіч, Кара-Корбут, Кіркора, Караткевіч, Коўзан, Львоў, Маеўскі, Мажэйка, Маліноўскі, Насовіч, Шпілеўскі, Агінскі, Пылінскі, Пальчэўскі, Радкевіч, Храптовіч, Чайкоўскі...

Стварыць паслядоўную радаводную схему Гана-Ліпскіх на Віцебшчыне мне не пашчасціла. Асобныя факты, як сполахі зорак на небе, усё-такі прасвечваюць след гэтага рода. Адчуваецца, ён быў уплывовы, знакаміты і заможны.

Уявіце сабе, далёка не за кожнага памешчыка будзе заступацца расійскі міністр дзяржаўнай маёмасці. А вось за памешчыка Ліпскага заступіўся, прыслаў ліст віцебскаму губернатару 5 ліпеня 1838 года.

Аб чым «покорнейше» просіць міністр?

У Люцінскім павеце памешчык Ліпскі купіў 1720 дзесяцін** зямлі. Але яму адмералі больш лесу, чым пашні, не ўзгадніўшы з уласнікам.

Міністр просіць «войти в ближайшее соображение» і аддзяліць прададзеную зямлю памешчыку Ліпскаму, згодна гандлёваму лісту і купчай крэпасці. Пра гэта аб'явіць Ліпскаму, выклікаўшы яго ва ўстаноўленым парадку праз губернскае праўленне.

У сваім пісьме міністр не называе імя і па бацьку памешчыка Ліпскага. І можна толькі здагадвацца, хто гэта быў. Але нашы здагадкі рэальныя, блізкія да праўды.

У Памятнай кніжцы Віцебскай губерні за 1861 год знаходзім, што прадвадзіцелем дваранства губерні з'яўляецца штабс-капітан

---

* **Стольнік** — дварцовы, потым прыдворны чын, адказваў за сервіроўку велікакняжацкага стала, пазней — ганаровы тытул, які надаваўся знатным феадалам і павятовай шляхце.

** **Дзесяціна** — руская мера зямельных плошчаў, якой карысталіся і ў Вялікім княстве Літоўскім. Плошча ў форме квадрата, адзін з бакоў якога раўняецца $^1/_{10}$ вярсты (50 сажняў, а сажань — 194,88 см). Адсюль і назва.

Іван Ігнатавіч дэ-Ліпэ-Ліпскі. Жыве ў сваім доме на рагу Афіцэрскай і Палацавай вуліц у Віцебску.

А далей высвятляем, што прадвадзіцель віцебскіх дваран Ліпскі — буйны землеўласнік. У тым жа Люцінскім павеце мае маёнтак Марыенгаўзен і зямлі 43 382 дзесяціны. Дык вось за каго некалі заступаўся расійскі міністр!

Ад куплі зямлі памешчыкам Ліпскім да выбрання яго на высокую, ганаровую пасаду прадвадзіцеля дваран губерні прайшло 23 гады. Гэта даволі часу, каб прыкмеціць памешчыка, даверыць яму адказную пасаду, прызнаць яго аўтарытэт, вядомасць сярод усіх дваран.

На жаль, гэта былі апошнія гады жыцця ўплывовага на Віцебшчыне двараніна Івана Ігнатавіча Ліпскага. У хуткім часе ён памёр.

Неяк у Віцебску мне паказалі прыгожы асабняк на горцы, у цэнтры горада, дзе некалі засядалі на сваіх сходах дваране губерні. Пад'язджаў на вараных да таго доміка і прадвадзіцель дваран Ліпскі, падымаўся па шырокіх прыступках, з ім паважліва віталася багатая эліта губерні.

Цяпер у тым доміку гарадскі тэатр лялек. Шумная дзятва запаўняе яго залы, калідоры, фае. Ідуць цікавыя спектаклі, сучасныя і пра сівую даўніну. Юныя гледачы вучацца жыць, радавацца і хваляваццa. Хочацца верыць, што і дваранін Іван Ігнатавіч Ліпскі марыў пра такіх дзяцей, нешта рабіў для іх будучыні.

Хочацца верыць і веру, бо наступныя архіўныя знаходкі мяне проста ашаламілі.

Памёр Іван Ігнатавіч Ліпскі напярэдадні паўстання, узнятага слынным Кастусём Каліноўскім. Усё грамадства, само паветра набрынялі хвалюючымі падзеямі. І, відаць, прадвадзіцель дваран нешта рабіў, а калі не рабіў, то шчыра спачуваў надыходзячай навальніцы, падзяляў заклікі і намеры паўстанцаў. Не мог жа ён, калі гэта так, не падзяліцца сваімі думкамі і меркаваннямі з любай жонкай Алінай Аляксандраўнай, якая падаравала яму дачок Марыю, Імельфію, Соф'ю, Рафаэлу.

І вось — адкрыццё!!!

У Ведамасці аб канфіскаваных і падвергнутых забароне маёнтках, а таксама нерухомасці, якія належаць мяшчанам, што ўдзельнічалі ў мяцяжы 1863 года, чытаем пад № 10:

*«Дунін-Марцінкевіч Вікенцій, маёнтак Люцінка, асеквестравана 14 красавіка 1865 года, ацэнена ў 904 рублі 94 капейкі».*

Пад № 395 у той жа ведамасці чытаем:

*«Ліпская-дэ-Ліпэ Аліна Аляксандраўна, жонка былога Віцебскага Губернскага Прадвадзіцеля Дваранства...»*

Божа мой! А за што пакаралі ўдаву, маці чацвярых дзяцей, былую жонку слыннага двараніна?

Далейшыя архіўныя пошукі вывелі на пісьмо № 678 ад 8 сакавіка 1867 г. з Віленскай ваеннай акругі, ад часовага палявога аўдытарыята віцебскаму губернатару. Без асаблівых далікатнасцей, начальніцкім тонам там было напісана (падаецца ў арыгінале. — *Ул. Л.*):

*«Высланной по конфирмации Генерала графа Муравьева от 21 февраля 1864 года на жительство под надзор полиции в Воронежскую губернию помещице Витебской губернии Алине Липпе-Липской в официальной бумаге от 28 декабря прошлого года объяснено, что принадлежащие как ей, так и малолетним ее детям имения ■ Люцинском, Себежском, Дрисненском уездах зачислены в число подлежащих обязательной продаже по Высочайшему повелению от 10 декабря 1865 года. Между тем, Особая канцелярия по водворению русских земледельцев ■ Северо-Западный край уведомила полевой Аудиториат, что ■ доставленных от Вашего превосходительства списках имений, подлежащих обязательной продаже в двухгодичный срок, нет имений помещицы Липпе-Липской или ее малолетних детей.*

*Прошу уведомить по приказанию Господина Главного начальника Края ■ возможно скорейшее время...»*

У маі 1867 года за № 4630, ужо за подпісам самога Мураўёва-вешальніка, а афіцыйна — віленскага, ковенскага, гродзенскага і мінскага генерал-губернатара і галоўнага начальніка Віцебскай і Магілёўскай губерняў Мураўёва, у Віцебск прыйшла тэлеграма. У ёй далікатна-пагражальным тонам сказана:

*«Покорнейше прошу, Милостивый Государь, уведомить меня, по какой причине был замедлен ответ, и прислать 2 рубля* (падкрэслена. — *Ул. Л.) за посылку телеграммы. С виновных в замедлении удержать ■ выслать в мою концилярию».*

Прыемна, што чыноўнікі Віцебскай губерні не вельмі спалохаліся рыку Мураўёва. Яны адпісваюць яму:

*«У губернскае праўленне не паступала патрабаванне аб высылцы Вам спісаў маёнткаў памешчыцы Аліны дэ-Ліпэ-Ліпскай. Уведамляем, што яе пакойны муж Іван Ліпскі Духоўным запаветам, здзейсненым 23 ліпеня 1861 года і зарэгістраваным Віцебскай Грамадзянскай Палатай 21 снежня 1862 года, належачыя яму родавыя маёнткі Марыенгаўзен, Андрэполь, Своłна ў Люцінскім павеце адказаў жонцы сваёй Аліне і чатыром дочкам у законных частках. Памешчык Ліпскі меў яшчэ маёнткі і зямлю ў Кухарнёве і Забор'і ў Дрысенскім павеце, маёнтак Трубілаўская Дача ў Себежскім павеце, пры ім 123 дзесяціны зямлі (41 — пашні, 82 — няўдобіцы, лесу), а таксама драўляны дом у Віцебску. Пакорнейша просім паведаміць, якія маёнткі належаць продажу?..»*

Цікавая даведка. Павятовы горад Люцін ад Віцебска — за 272 вярсты. Горад здадзены Польшчы ў 1561 годзе ў складзе Інфлянцкага павета. У 1577 годзе ім авалодалі рускія, а праз пяць гадоў зноў аддалі палякам. У 1772 годзе Люцін далучаны да Расіі. Спачатку ўваходзіў у Полацкую губерню, пасля — у Беларускую, а з 1802 года — у Віцебскую.

За 79 вёрст ад Люціна, сярод возера Вялікая Лужа, на востраве стаяў замак Марыенгаўзен. Вось там і быў маёнтак дваранiна Івана Ігнатавіча дэ-Ліпэ-Ліпскага.

Замак заснавалі рыцары яшчэ ў 1293 годзе. Востраў займаў усяго дзве дзесяціны. І можна ўявіць, якое прыгожае збудаванне высілася на тым востраве, акружаным азёрнай і нябеснай сінявой. Але, на жаль, драпежніцкі інстынкт людзей скіраваны на тое, каб нішчыць і разбураць усё прыгожае і прыдатнае для жыцця. Не аб-

мінуў гэты лёс і замак Марыенгаузен. У 1577 годзе ім авалодалі рускія, разбурылі яго, а жыхароў забралі ў палон. У 1582 годзе на замак напалі шведы. У час Паўночнай вайны ён канчаткова зруйнаваны.

На Віцебшчыне здаўна ведаюць такую загадку пра галаву: у адну пуньку — ажно сем варот. Намёк на тое, што ёсць вочы, вушы, нос, рот, а мазгі пры такім багацці бываюць дурнымі. Ды што казаць пра даўніну, калі зусім нядаўна ў Маскве, сярод белага дня, спакойна бабахалі з гармат па будынку Вярхоўнага Савета. Расстрэльвалі свае сваіх. Крушылі велічны будынак. Па тэлебачанні за гэтым назіраў увесь свет. О Божа, навошта грэшным і праведнікам такія выпрабаванні?

Разбураны замак Марыенгаузен, разам з возерам і ўсім Люцінскім паветам царыца Кацярына II «пожаловала» гофмаршалу Ялагіну. Хто далей гаспадарыў там, цяжка ўстанавіць. Ды ці трэба?

У нашай гісторыі дастаткова ведаць, што прадвадзіцель дваран Віцебскай губерні Іван Ігнатавіч Ліпскі меў маёнтак Марыенгаўзен. Ды не толькі цешыўся там прыгажосцю возера, лясоў. Мая новая знаходка раскрывае сапраўдны змест таго таямнічага паселішча. Адказвае на загадкавае пытанне: чаму, за якія грахі карнік Мураўёў выслаў удаву Аліну Ліпскую пад нагляд паліцыі ў Варонежскую губерню?

У гісторыка-літаратурным часопісе «Вестник Западной России», які выдаваў К. Гаворскі, у кніжцы VIII тома III за 1867 год змешчаны рукапісы В. Ратча «О польском мятеже 1863 года в Северо-Западной России». На старонцы 46 чытаем:

*«Местные власти в Западной России тогда только получали достаточные данные для противодействия польской крамоле, когда собравшаяся шайка уже открыто подымала знамя мятежа; а у границы Псковской губернии, в лесистых дебрях Люцинского уезда, таинственные приготовления ■ имении бывшего Предводителя дворянства Липпы-Липского не укрылись от их русских соседей. За несколько недель до открытых мятежных действий ■ западной части Витебской губернии псковичи уже довели до сведения, что невдалеке от них, ■ восточной части, завелась таинственная польская стрепня приготовлений к бунту...»*

Цікава было б ведаць далейшы лёс удзельніцы паўстання Каліноўскага, пакутніцы Аліны Ліпскай. Хацелася б ведаць, якімі жыццёвымі дарогамі пайшлі яе дочкі — Марыя, Імельфія, Соф'я, Рафаэла.

Вядома толькі, што ў 1890 годзе ў праўленні Люцінскага павета служылі два Ліпскія — Восіп Мацвееў і Іван Восіпаў. Сярод землеўладальнікаў Віцебскай губерні ў 1903 годзе лічыліся Ліпскі Уладзімір Іванавіч, жыў у Віцебску, і Ліпскі Рафаіл Міхайлавіч, жыў у Краслаўцы Дзвінскага павета. Маёнткам Марыенгаўзен па тым часе запраўлялі графы Марыян і Сігізмунд Забелы. А маёнткам Трубілаўская Дача валодалі... нашчадкі дэ-Ліпэ-Ліпскіх! Хто гэта былі? Дзе згубіліся іх сляды? Ці ёсць прадаўжальнікі іх роду?..

Для цікаўных і дасціпных застаецца паведаміць, што пад гербам «Равіч» хадзілі не толькі Ліпскія. Ім карысталіся:

*Амшынскі, Арцішэўскі, Банкоўскі, Багоцкі, Бандроўскі, Бар, Барановіч, Бараноўскі, Белдоўскі, Беджыцкі, Бельскі, Бянецкі, Бінбінк, Бліскоўскі, Бахэнскі, Багуцкі, Барышэўскі, Бажэвіцкі, Брабантцкі, Брашнёўскі, Цэльгоўскі, Хабжынскі, Хадынскі, Цяцерскі, Цвікла, Чэкерсткі, Чэрскі, Чэскі, Чыста, Дамброўскі, Дальмат, Дэмбінскі, Дэмбскі, Дэпульт, Дэрган, Дабранеўскі, Дабжанецкі, Дарастайскі, Джэвіцкі, Дзяконскі, Дзявульскі, Фагель, Філіпіцкі, Фрыбес, Гандэцкі, Гадзіцкі, Гаецкі, Галімскі, Гана-Ліпскі, Гаўронскі, Гяшкоўскі, Гневаш, Галынскі, Горскі, Гаварчэўскі, Гаворак, Грандцкі, Грот, Гратоўскі, Гут, Гуткоўскі, Гаміцкі, Яроцкі, Яроўскі, Ясенскі, Ясількоўскі, Ясткоўскі, Яшчуроўскі, Явойш, Езяркоўскі, Каменскі, Каспровіч, Карвоўскі, Казімірскі, Кемліч, Кяневіч, Клішоўскі, Клачкоўскі, Клапоцкі, Кохан, Канінскі, Карніловіч, Касінскі, Касацкі, Касоўскі, Костра, Кастравіцкі, Катлінскі, Казіцкі, Красніцкі, Красноўскі, Кручынскі, Крукоўскі, Крычыкоўскі, Куяўскі, Кураш, Лясота, Лясотавіч, Ленк, Ленек, Ляснеўскі, Лявіцкі, Ліноўскі, Ліпіцкі, Ліпінскі, Ліпскі, Лонцкі, Лэнтоўскі, Лупінскі, Магер, Макоцкі, Маліна, Малгеўскі, Мэнцінскі, Маляневскі, Мэйштовіч, Міхоўскі, Мяхоўскі, Мікульскі, Мікулоўскі, Мітроўскі, Мніхоўскі, Мадлішэўскі, Моньека, Масінскі, Мыслоўскі, Надарскі, Насута, Недзялтоўскі, Нямцэвіч, Несялькоўскі, Няверскі, Нішчэўскі, Наскоўскі, Навамейскі, Нажоўскі, Нужынскі, Акольскі, Аленскі, Алэндзкі, Альшэўскі, Алдакоўскі, Оскі, Астроўскі, Атрэмбус, Аўсяны, Ажароўскі, Ажагальскі, Ожга, Пахнеўскі, Панкрацкі, Пароскі, Пясецкі, Плоцкі, Пландзінскі, Падчаскі, Паддэмбскі, Падконьскі, Паражынскі, Прандота, Прасінскі, Прушынскі, Пшыемскі, Пшысталовіч, Пшычынскі, Рамблеўскі, Раціборскі, Радомскі, Радзяёўскі, Ракоцы, Рапцэвіч, Рава, Рагульскі, Рашчэнскі, Раэмер, Рагалінскі, Роек, Ракіцкі, Ракатніцкі, Рудзінскі, Русецкі, Жэпінскі, Саляневіч, Самбажэцкі, Сіб, Сядлецкі, Скавінскі, Скіндэр, Скавескі, Скубіш, Слугоцкі, Слупецкі, Смяроўскі, Смарчэўскі, Снапкоўскі, Саламярэцкі, Савінскі, Стахоўскі, Станоўскі, Стоцкі, Стакоўскі, Страхоцкі, Сухадольскі, Сулістроўскі, Сулішэўскі, Сум, Свінёўскі, Шабранскі, Шахлацкі, Шацінскі, Шантыр, Шчэрба, Шчыцінскі, Шулішэўскі, Шумовіч, Шыдлоўскі, Свяжбінскі, Тадэёўскі, Тчынскі, Таміслаўскі, Тшцінскі, Ужэлёўскі, Варш,Варшаўскі, Варшоўскі, Вэнгжыноўскі, Вярцінскі, Вількоўскі, Вісімірскі, Ваячынскі, Вайцінскі, Вольскі, Валмінскі, Валуцкі, Вайціцкі, Вазніцкі, Важненскі, Урэнцкі, Врачэнскі, Высоцкі, Вышамірскі, Забароўскі, Зацвіліхоўскі, Зачкоўскі, Загродцкі, Закашэўскі, Залескі, Залускі, Завада, Здэмбінскі, Здзяхоўскі, Зэлясоўскі, Зямацкі, Земак, Знамяроўскі, Жабінскі, Жаляза, Жаландкоўскі, Жаландоўскі, Жван.*

Выява герба больш адмысловая. На залатым шчыце — пані ў чырвонай сукенцы з распушчанымі валасамі, на якіх — залатая карона. Дзяўчына з паднятымі ўшыркі рукамі сядзіць на чорным мядзведзі. Мне ўяўляецца: гэта мужная Аліна Ліпская, уладальніца паўстанцкага маёнтка, добрая да ўсіх лясных звяроў.

У кляйноце над шлемам у кароне — палова чорнага мядзведзя з чырвонай ружай у лапе. Вакол яго — два рагі аленя.

Герб вядомы з 1306 года. Ім найперш карысталіся кашталян сандамірскі Прандот, біскуп кракаўскі Грот.

У Вялікім княстве Літоўскім першым прыняў герб «Равіч» кашталян віленскі Мінігайла.

# ГЕРБ «ШРАНЯВА»

Гербам «Шранява» карысталіся:

*Адамоўскі, Адуцкевіч, Агдыевіч, Александровіч, Амборскі, Амфор, Андрановіч, Анфаровіч, Арасімовіч, Арцімовіч, Бялінскі, Бельскі, Бер, Бяркоўскі, Біскупскі, Богун, Барыслаўскі, Бравански, Бжэзніцкі, Хажэўскі, Чарнеўскі, Чыемеж, Дароўскі, Добшыц, Дружына, Гарбоўскі, Гачалкоўскі, Гараін, Ядальд, Кампоўскі, Клюсь, Клюскі, Кміта, Калацкі, Каморскі, Казлянткоўскі, Красоўскі, Кжэш, Кухарскі, Курчэўскі, Куроўскі, Куразвэнцкі, Кужэўскі, Квілецкі, Лядайка, Лянгач, Ляскоўскі, Лясоцкі, Лебен, Ліпскі, Лісецкі, Лохман, Любамірскі, Любавіцкі, Любавецкі, Лапка, Лапскі, Мацяёўскі, Мядзведскі, Манячкоўскі, Мрочак, Мрачкоўск, Мстоўскі, Арачэўскі, Пэрніроўскі, Пісарскі, Плачкоўскі, Панятоўскі, Парэмбскі, Патоцкі, Прандота, Прачак, Пшыбель, Пшылэнцкі, Пукажэўскі, Радван, Рагаза, Рагоўскі, Разбіцкі, Разэмбарскі, Рупнеўскі, Рэцкі, Садло, Садлоўскі, Сaганоўскі, Сагатынскі, Сядлецкі, Скарбек, Скупнеўскі, Скіндэр, Скатніцкі, Слупскі, Сабезскі, Сракоўскі, Стандзіцкі, Стаўскі, Страханоўскі, Стжалкоўскі, Шоў, Шыкоўскі, Шыпоўскі, Шрэнява, Тэнгаборскі, Тэлякоўскі, Трэтэр, Тшэбінскі, Туроўскі, Тушоўскі, Уейскі, Вэнгленскі, Вэнгажэўскі, Вярыга, Вяруцкі, Вявёрскі, Вількоўскі, Врохай, Вздоўскі, Жмігродцкі, Жміеўскі.*

Мастак і першы гаспадар герба ўклалі ў яго мноства фантазіі, выдумкі і сімвалаў. На чырвоным шчыце чамусьці змешчана срэбная стужка, а зверху яе — залаты крыж. У кляйноце над шлемам — галава льва, якая пазірае на нас амаль чалавечымі вачыма. Галава цара звяроў акаймавана рагамі тура са званочкамі.

Першыя пячаткі з гербам вядомы ў 1371—1376 гадах. Іх мелі Януш Вольскі, суддзя кракаўскага ваяводы Дадзіслава, Мікалай Куроўскі, архібіскуп гнезінскі.

У Вялікім княстве Літоўскім першым прыняў герб «Шранява» баярын Ядант.

Ліпскія з гэтым гербам — род старадаўні, багаты і магутны. Заснаваўся ў Кракаўскім ваяводстве. Паходзіць з адной зямлі з Любамірскімі.

У Чырыцкім кляштары пахаваны ў 1376 годзе Пётр з Ліп'я, сандамірскі ваявода.

Міхаіл Ліпскі з гэтага роду быў доктарам навук у Кракаўскай акадэміі, абатам кляштара Святога Крыжа пад Сендамежам, паслом караля польскага Казіміра III у апостальскую сталіцу Ватыкан. Як піша Насецкі, «он ушел из этого мира для получения платы за свои труды и заслуги в 1476 году».

Анджэй Ліпскі аб'ехаў з кардыналам Радзівілам чужыя краіны, а на Бацькаўшчыне займаўся ваеннымі праблемамі, вёў перамовы па гэтых пытаннях. Памёр у 1624 годзе, аб чым сведчыць надгроб'е ў Кракаўскім кляштары ордэна францысканцаў.

Ян Ліпскі, сандзецкі і чэхоўскі стараста, сеймам 1678 года ўключаны ў склад камісіі па ўстанаўленні мяжы з Сілезіяй. Ён «соединился в пожизненном супружеском союзе» з Катаржынай-Ганнай, дачкой Паўла Сапегі, віленскага ваяводы і гетмана Вялі-



Герб «Шранява»

кага княства Літоўскага, якая засталася ўдавой пасля смерці Любамірскага, старасты сандзецкага. Ад гэтага шлюбу былі два сыны — Антон і Ян, дачка Тэрэза, жонка Дэмбінскага, стольніка кракаўскага.

Ліпскія з гэтага роду радніліся з падчашым навагрудскім Война цэхам Шчэпаноўскім, з бургграфам замка кракаўскага Станіславам Хвалібогскім, а таксама з Яленскімі, Асалінскімі, Любамірскімі, Закржэўскімі, Дэмбінскімі, Камароўскімі...

* * *

Сустракаюцца Ліпскія і ў іншых гербах.

Станіслаў Ліпскі з Ліпы, апраўдваючыся ад нагавору, выводзіў у 1446 годзе шляхецтва ад бацькі па гербу «Дружына», ад маці — па гербу «Гералт», ад бабкі — па гербу «Шаржа». Быў суддзёй

каралеўскага двара. Яго сын Якуб вучыўся ў Кракаўскім універсітэце.

Пад гербам «Пабуг» жыў Мар'ян Ліпскі з Ліпы, у зямлі нурскай. Ён засвяціўся ў гісторыі тым, што ў 1599 годзе падаў у суд на Станіслава Цэханоўскага, бо той заручоную з ім дачку аддаў замуж за Міхалоўскага.

Альбрын Ліпскі з герба «Памян», радавод пачынаўся з Ліпы, у зямлі інаўроцлаўскай, меў у 1415—1420 гадах справу ў Брэсце. Войцэх, сын Андрэя, быў бургграфам брэсцкім у 1622 годзе. Перадаў брату Станіславу маёнтак Ліпу.

Да герба «Власны» прыпісваў сябе Ханус фон дэ-Ліпэ-Ліпскі, уладальнік Выпчы ў 1405 годзе, і Ян Ліпскі, уладальнік часткі Балеміна ў 1600 годзе.

Браты Карл і Станіслаў Ліпскія за прыхільнасць да каталіцкай веры атрымалі шляхецтва і герб «Касцеша» ў 1764 годзе. На белым полі герба — камень ад млына натуральнага колеру. А ўверсе, над шчытом, у шлеме — дзевяць шчанят.

Якуб, сын Паўла, Ліпскі згадваецца ў 1720 годзе ў нурскіх павятовых актах як уладальнік маёнтка Гадлёва-Люба. З жонкай Катаржынай Стакоўскай меў сына Юзэфа, а ў таго — сын Антоній, які меў сына Якуба.

Шматлікія Ліпскія былі ваярамі, вайскоўцамі, мелі чыны. Гіпаліт, сын Валянціна і Мар'яны, нарадзіўся ў 1790 годзе ў Сцецку на Валыні, быў паручнікам конных стралкоў, удзельнічаў у кампаніі 1812 года ў Расіі, у 1813 годзе — у Саксоніі.

Станіслаў, сын Антонія і Тэклі Пякарскай, нарадзіўся ў 1805 годзе ў Варшаве, закончыў кадэцкі корпус у Калішы, служыў у лінейным палку, а ў 1831 годзе, у год паўстання, быў ва уланскім палку паручнікам.

Вікторыя Ліпская з Міхалова ў 1733 годзе падарыла Пузынам частку маёнткаў Кулча, Хахлова. Ёзаф Ліпскі з Гловач, жанаты на Канстанцыі Сярніцкай, прадаў у 1738 годзе частку Сернік у Пінскім павеце, а ў Жытомірскім аддаў у заклад.

Сярод студэнтаў Кракаўскага універсітэта сустракаюцца Ліпскія, якія пісаліся жыхарамі Ліпы, ці Ліпа: Пётр, сын Яна, — у 1424 годзе; Ян, сын Андрэя, — у 1454 годзе; Пётр, сын Фабіяна, — у 1457 годзе; Томаш, сын Томаша,— у 1460 годзе; сыны Мікалая — Францішак, Марцін, Станіслаў з Ліпы Гнезінскай — у 1535 годзе; Ян і Кшыштаф, сыны Станіслава, — у 1545 годзе; Станіслаў, сын Пятра, — у 1552 годзе...

Розныя Ліпскія ў розных гербах. А падмурак чалавечы адзін — наша Зямля.

# ГРАБЛІ НА ЗЯЛЁНАЙ МУРАВЕ

*Зямля бацькоў!*
*Зямля маёй надзеі,*
*Зеленакрылы салаўіны кут...*
*Так хораша сябе*
*Не адчуваў нідзе я,*
*Нідзе так цяжка*
*Не было, як тут.*

Анатоль Грачанікаў

## ГЕРБ «ГРАБЛІ»

На зялёным пагорку, у летняй мураве стаяць срэбныя граблі. На іх — сем зубоў, як сем дзён у тыдні, як прыкмета таго, што гэтай сельскай зброяй зямляне карысталіся кожны дзень. Летам і восенню — на лузе, сенажаці, у полі. Зімой і вясной — ля стога сена, у хляве, на двары.

На залатым шчыце срэбныя граблі — сімвал працавітасці, адданасці зямлі, свайму роднаму краю, бацькам і Богу, якія падаравалі шчасце ўбачыць свет.

У кляйноце, як звычайна, — шлем рыцарскі і карона. Шлем азначае, што радавод гэты ўслаўлены абаронцамі, воінамі, змагарамі за Бацькаўшчыну. А карона — знак таго, што род пад гэтым гербам знакаміты, старажытны, прызнаны.

Герб «Граблі» вядомы з 1227 года.

Кажуць, ён паходжання чэшскага. А правільней — багемскага, бо Чэхія і Маравія даўней называліся Багеміяй. У VI—XII стагоддзях там гаспадарылі славяне.

У Польшчу герб перанесены на самым пачатку XIV стагоддзя. Першыя ўладальнікі — Ержы з Косіна і Ян Касінскі. Найбольш распаўсюджаны ў землях кракаўскіх, калішскіх, сандамірскіх, у Белзскім ваяводстве.

З сямідзесяці двух сямейных родаў, якія прынялі герб «Граблі», багата якія перанеслі той герб на Беларусь, у Чырвоную Русь, Мазовію, на Віленшчыну.

Гербам «Граблі» карысталіся:

*Арцяхоўскі, Архутоўскі, Артыхоўскі, Беняшоўскі, Хлявётка, Хацімірскі, Чапліцкі, Чарняўскі, Чарноўскі, Дабрагойскі, Дабрагост, Дабрагоўскі, Даб-*



Герб «Граблі»

*равольскі, Гасцімінскі, Гасцімскі, Гасцінскі, Грабя, Грабе, Грабскі, Гзоўскі, Ябжыкоўскі, Гурэвіч, Кіюць, Касінскі, Казікоўскі, Крачэўскі, Крачынскі, Лесель, Лесны, Ліпскі, Лубкоўскі, Лушчэўскі, Мазоўскі, Місоўскі, Магленцкі, Моклак, Мудрэйка, Насутовіч, Няпартцкі, Альбрахціцкі, Раздэрскі, Песцяроўскі, Псуцкі, Радзінскі, Рашэўскі, Ратаўт, Рынскі, Скашэўскі, Славец, Шчука, Шчыперскі, Сярчэўскі, Сяркоўскі, Сяшэўскі, Табачынскі, Вабенскі, Вандалкоўскі, Вандалоўскі, Вэнглёўскі, Велягурскі, Віршыл, Вісенскі, Вішэнскі, Вышынскі, Валінскі, Выпыскі, Заpускі, Завіша, Злачоўскі, Жупаноўскі.*

Слаўны род Ліпскіх, як сцвярджаюць польскія гербаапісальнікі, пачаўся ад Генрыха з Ліпы, які ў 1305 годзе ўнёс у Польшчу з Багеміі герб «Граблі».

Гняздом гэтага шырока разгалінаванага роду была вёска Грабіна Воля бліз горада Пётркава. А прозвішча Ліпскі атрымаў род



# ГЕРБ «ГРАБЛІ»

- 1. МАЦЕЙ ЛІПСКІ
  - 2. ЯН
    - 8. АДАМ
      - 15. ЯН
      - 16. АНДЖЭЙ
      - 17. СТАНІСЛАЎ
    - 6. МАРЦІН
    - 7. ЯН
    - 9. АНДЖЭЙ
  - 3. СВЕНТАСЛАЎ
    - 10. АНДЖЭЙ
      - 18. МІКАЛАЙ
      - 19. СВЕНТАСЛАЎ
      - 20. ЯН
      - 21. АДАЎКТУС — I
      - 22. ЯРАСЛАЎ
      - 23. ІЕРАНІМ — II
    - 11. САМУЭЛЬ
      - 24. АНДЖЭЙ
      - 25. ЯН — III
  - 4. МАЦЕЙ
    - 12. СТАНІСЛАЎ
      - 26. АЛЯКСАНДР
      - 27. КАЗІМІР
      - 28. ЮЗЭФ
      - 30. СТАНІСЛАЎ
      - 31. ЯН
      - 29. АДАМ — IV
  - 5. ВАЦЛАЎ
    - 13. ПЁТР
      - 32. ЯН
      - 33. МАЦЕЙ
      - 34. ПЁТР
    - 14. ПРАКОП
      - 35. ЯН — V
      - 36. АДАМ



I
37. ЗЫГМУНТ
38. ЯН
39. АДАЎКТУС
II
40. МІХАІЛ
41. ФРАНЦ
42. КАЗІМІР
43. ЯН
III
44. АДАМ
45. АНДЖЭЙ
46. АЛЯКСАНДР
47. САМУЭЛЬ
IV
48. МІХАІЛ
49. СТАНІСЛАЎ
V
50. ВОЙЦЭХ
52. ПРАКОП
53. СТАНІСЛАЎ
51. ВАЦЛАЎ
54. АНТОН
55. ЯН
56. ЮЗЭФ
57. САМУЭЛЬ
58. ЮЗЭФ
59. МАРЦІН
60. СТАНІСЛАЎ
61. АНТОН
62. СТАНІСЛАЎ
63. МІХАІЛ
64. СТЭФАН
65. ЮЗЭФ
66. ЮЗЭФ
67. ТОМАШ
68. ВОЙЦЭХ
69. АНДРЭЙ
70. ТОМАШ
72. АНДЖЭЙ
74. ЯН
71. СТАНІСЛАЎ
73. ПРАКОП
76. ЯН-АЛЯКСАНДР
75. АНДЖЭЙ
77. ЮЗЭФ
78. ЯКУБ VI
79. ІДЗІ VII
80. МІХАІЛ
81. ТОМАШ
КАРОЛЬ
МІХАІЛ
ТОМАШ VIII
82. АНТОН
83. МІХАІЛ
84. АНТОН XI
85. ЮЗЭФ X
86. БАРТАЛАМЕЙ
87. ЯН XI
88. ТОМАШ
89. МІКАЛАЙ
91. ФЛАРЭНЦЫЙ
92. АНДРЭЙ
90. МАРТЫН XII
93. ДАМІНІК
94. СТАНІСЛАЎ XIII
95. ЮЛЬЯН
96. БАЗЫЛЬ XIV
97. ЭЎЗЕБУШ
98. ФЛАРЫЯН
99. КАНСТАНЦІН
100. ЛЮДВІГ
101. АЎГУСЦІН
102. МАЦЕЙ XV
103. ЮЗЭФ
104. АМАНД
105. БЕНЕДЫКТ
106. ТАДЭВУШ XVI
107. ФРАНЦ
108. ТОМАШ
109. КАЗІМІР
110. СТАНІСЛАЎ
111. АЛЯКСЕЙ XVII
112. МАРТЫН XVIII
113. АНТОН
114. ЯКУБ
115. ВОЙЦЭХ
116. МІХАІЛ
117. МІХАІЛ XIX
118. ХРЫЗАСТАМ
119. ЯН XX
120. ЯН-ЮЗЭФ
121. ФРАНЦІШАК


VI
122. КАЗІМІР
123. ВІНЦЭНТ
VII
124. ФАБІЯН
125. ЯН
126. МАТЭВУШ
127. РАМАН
128. СЕВЯРЫН
VIII
129. ЮЗЭФ
130. ЯН
131. АДАМ
XI
133. СТАНІСЛАЎ
154. АНТОН
X
132. СТАНІСЛАЎ
XI
134. МІКАДЗІМ
135. ЛЮДВІГ
136. АНТОН
137. ГАБРЫЭЛЬ
XII
138. СТЭФАН
139. МАЎРЫЦЫЙ
140. ВОЙЦЭХ
141. ЯН
155. ЗАХАРЫЙ
166. МІКАЛАЙ
169. КАРОЛЬ
172. МЕЧЫСЛАЎ
170. АЛЯКСАНДР
XIII
143. ВОЙЦЭХ
XIV
142. МІХАІЛ
XV
144. ВІНЦЭНТ
145. ТАДЭВУШ
XVI
146. КСАВЕРЫЙ
156. КАСПЕР
157. СТАНІСЛАЎ
158. ФРАНЦ
159. АЎГУСТ
147. САМУЭЛЬ
160. АЛАІЗІЙ
161. ФРАНЦ
162. ВІНЦЭНТ
XVII
148. ЮЗЭФ
149. ЯН
163. КСАВЕРЫЙ
164. ВОЙЦЭХ
167. ЯН
168. МІХАІЛ
171. ВОЙЦЭХ
173. ЮЗЭФ
174. ВОЙЦЭХ
176. ЮЗЭФ
177. ЯН
175. КАЗІМІР
XVIII
150. ЯКУБ
XIX
151. ЮЗЭФ
152. ІГНАТ
XX
153. ЮЗЭФ
165. АЛЯКСЕЙ

## ЗАЎВАГІ ДА ГЕРБА «ГРАБЛІ»

**1** — ад бацькі Станіслава, 1530 г., уладальнік Ліпска; **2** — памешчык; **3** — белзскі памешчык, памёр у 1604 г.; **4** — памёр у 1587 г.; **5** — стольнік; **7** — суддзя, памёр у 1630 г.; **8** — пра яго раздзел «ХАРУНЖЫ», 1575—1633 гг.; **9** — пра яго раздзел «КАНЦЛЕР», 1572—1631 гг.; **10** — падчашы, памёр у 1622 г.; **11** — пра яго раздзел «ПАМЕШЧЫК», памёр у 1618 г.; **12** — стольнік, памёр у 1630 г.; **13** — стольнік, памёр у 1633 г.; **14** — земскі пісар, памёр у 1638 г.; **15** — харунжы, **16** — староста, ад яго патомкі на Чырвонай Русі і Падоллі; **19** — воін, загінуў у 1657 г.; **20** — архідзяк; **21** — воін, загінуў; **22** — воін, загінуў у 1657 г.; **23** — харунжы, памёр у 1667 г.; **25** — суддзя белзскі; **27** — без патомкаў; **28** — святар; **30** — пробашч; **32** — прыдворны караля, 1620—1643 гг.; **35** — пісар, суддзя, памёр у 1673 г.; **38** — загінуў; **40** — памёр у 1688 г., без патомства; **41** — манах; **42** — харунжы; **43** — харунжы; **44** — загінуў у 1657 г.; **45** — уладальнік Ліпска; **46** — стольнік, памёр у 1715 г.; **47** — ротмістр, тры разы жаніўся; **48** — лоўчы; **50** — уладальнік Ліпы; **51** — памёр у 1721 г.; **52** — пісар, стольнік, кашталян, памёр у 1726 г.; **53** — архідзяк, памёр у 1711 г.; **54** — электар; **58** — харунжы, 1711 г.; у яго сыны Караль, Міхал, Томаш; **59** — лоўчы смаленскі, памёр у 1725 г.; **61** — казначэй белзскі, памёр у 1746 г.; **62** — падчашы; **64** — памёр у 1720 г., бяздзетны; **65** — памёр у 1750 г.; **66** — кашталян бельзскі, 1686—1752 гг.; **67** — стольнік; **68** — памёр у 1697 г.; **73** — мечнік, памёр у 1758 г.; **74** — канонік, памёр у 1735 г.; **75** — мечнік, памёр у 1729 г.; **76** — пра яго раздзел «КАРДЫНАЛ», 1690—1746 гг., **78** — электар; **79** — падстолій; **89** — канонік, 1721—1755 гг.; **91** — староста; **92** — харунжы; **97** — суддзя, памёр у 1824 г.; **101** — скарбнік, памёр у 1789 г.; **105** — езуіт, памёр у 1746 г.; **106** — генерал, 1725—1796 гг.; **107** — езуіт; **108** — харунжы; **109** — архідзяк, забіты ў 1797 г.; **111** — генерал; **116** — канонік, памёр у 1780 г.; **118** — стольнік; **119** — ротмістр, 1739—1832 гг.; **120** — староста, пісар; **121** — памёр маладым; **141** — староста; **142** — уладальнік Ліпска; **143** — канонік; **146** — пра яго раздзел «МЭР МІНСКА», нар. 1766 г.; **147** — камергер, памёр у 1793 г.; **149** — кашталян, памёр у 1781 г.; **151** — 1777—1843 гг.; **153** — палкоўнік, 1769—1812 гг.; **156** — 1804—1861 гг.; **157** — 1807—1850 гг.; **158** — нар. 1811 г.; **159** — 1808—1880 гг.; **160** — нар. 1778 г.; **165** — памёр у 1822 г.; **166** — 1815—1863 гг.; **168** — памёр у 1813 г. у расійскай турме; **169** — паручнік; **170** — нар. 1851 г.; **171** — афіцэр, 1805—1830 гг.; **175** — 1870—1940 гг.; **176** — пра яго раздзел «ПАСОЛ», 1894—1958 гг.; **177** — 1892—1943 гг.

---

ад набытага на вечнасць маёнтка Ліп'е ў Калішскім ваяводстве. У XVI стагоддзі, пішуць геральдысты, многія з Ліпскіх герба «Граблі» перасяліліся ў Вялікае княства Літоўскае, на тэрыторыю сучаснай Беларусі.

З родапачынальнікаў вядомы Міраслаў і Войцэх, якія валодалі Ліп'ем у 1401 годзе. Міраслаў пакінуў сыноў Якава і Мікалая, апошні з іх гаспадарыў у Ліп'і ў 1450 годзе.

Мікалай меў сына Марціна, а той — некалькі сыноў, з іх Станіслаў валодаў радаводным маёнткам Ліп'е ў 1530 годзе. З жонкай Расноўскай пакінуў сына Мацея.

Як у Бібліі: Аўраам спарадзіў Ісаака, Ісаак спарадзіў Якава, Якаў спарадзіў...

Ды гэта толькі на першы погляд здаецца, што такі пералік — занятак марны, чытво сумнае. А мне чуецца ў гэтым чалавечым ланцужку вялікая паэзія, песня жыцця. Як пераклічка пакаленняў! І радасць апаноўвае ад таго, што на тваю позву адгукаецца пэўная асоба — Іван, Сцяпан, Пятро, што ты знайшоў невядомага дасюль чалавека і ажывіў яго ў радаводнай сям'і.

Дык вось, Мацей Ліпскі, сын Станіслава, і лічыцца заснавальнікам асноўных галін сямейнага дрэва Ліпскіх у гербе «Граблі». Чаму? Ды таму, што да Мацея захаваліся адрывачныя звесткі пра род, а пасля яго складзена даволі грунтоўная, падрабязная схема,

вымаляваны і выпісаны асобныя радаводныя галіны, у якіх вядома па 10—13 каленаў.

Мацей пакінуў пасля сябе чатырох сыноў — Яна, Святаслава, Мацея і Вацлава. Яны заснавалі дзве галіны гэтага роду. Як і Святаслаў — белзскую, а Мацей і Вацлаў — вялікапольскую. Яны валодалі рознымі маёнткамі і землямі, удзельнічалі ў ваенных баталіях, падымаліся па службовай рэлігійнай лесвіцы, былі заўважаны і аблашчаны самім каралём, пакінулі добрую памяць у простых людзей. Мудрасць, мужнасць, дабрыня — вось аснова, падмурак гэтага прыкметнага чалавечага роду.

Кажуць, не вер яснаму надвор'ю, не вер спячай змяі, пяшчоце той, на кім задумаў жаніцца, пераломленаму мячу, сыну багача, нядаўна пасеянай ніве. Можна дадаць: не вер хлуслівай гісторыі, балбатуну-палітыку, неправеранаму факту, недаказанай вінаватасці...

Я перавярнуў пуды архіўных папер, якія да мяне ніхто ніколі не глядзеў. І паверыў: адкрыў вялікі род Ліпскіх! Не буду пераказваць, хто каго і колькі «произвел», хто на кім жаніўся і якія меў маёнткі. Цікаўных адсылаю да радаводнай табліцы. А мой аповед — пра асобныя постаці гэтага роду.

## *КАНЦЛЕР*

Анджэй Ліпскі (1572—1631) увайшоў у гісторыю як канцлер каралеўскі, біскуп кракаўскі, адзін з таленавіцейшых юрыстаў свайго часу, выдатны прамоўца і аўтар шматлікіх кніг.

З ім я сустрэўся першы раз у Варшаве, у рыцарскім пакоі каралеўскага замка. Здзіслаў Паўлік, мой даўні і верны польскі сябар, вёў нашу дэлегацыю па залах шыкоўнага музея. Мы захапляліся багаццем былых польскіх каралёў: незвычайным паркетам, упрыгажэннем сцен, крышталёвымі люстрамі, старажытнай мэбляй, адмысловымі камінамі ды незлічонымі сувенірамі. І раптам Здзіслаў ухапіў мяне за руку і парушыў музейную цішыню вокрыкам:

— Пане Валодзя, зірні, во дзе твой родзіч!

На пастаменце стаяў бюст хударлявага, з бародкай і вусамі чалавека. Ніжэй подпіс — «Анджэй Ліпскі». Я ўхапіўся за фотаапарат, але строгая наглядчыца музея папярэдзіла:

— Тут няможна!.. Забаронена фатаграфаваць!..

Шкада, а можна было б здорава ўвекавечыцца з Ліпскім, які жыў амаль чатырыста гадоў назад. Як мог, перамаляваў свайго аднафамільца, паўзіраўся ў яго твар з чорнага мармуру. І захацелася ажывіць дзедзіча Анджэя, разгадаць біяграфію, нешта ведаць пра яго мінулыя справы.

Што з тайнага стала яўным?

Анджэй Ліпскі нарадзіўся ў Жэпліне. Яго бацькі — Ян, сын Мацея, і Ганна Жэплінская — былі пратэстантамі, вялі жыццё аседлае, мелі маёнтак, зямлю. І, пэўна, вадзіліся ў іх грошы, бо



Гэты будынак у Кракаве помніць канцлера і кардынала Ліпскіх

ўладкавалі сына на вучобу ў Польшчы. А потым паслалі вывучаць юрыспрудэнцыю ў Страсбург. У Рыме Анджэй удасканальваў тэалогію, права. Там жа прыняў каталіцкую веру.

Па вяртанні дамоў яго, юнака 23 гадоў, адукаванага і энергічнага, прыкмецілі ў каралеўскім двары і запрасілі працаваць у высокай канцылярыі. У хуткім часе Анджэй Ліпскі стаў сакратаром караля Зыгмунда III Вазы.

Ішла вайна Рэчы Паспалітай са Швецыяй. У Расіі, пасля смерці апошняга цара з Рурыкавічаў Фёдара, наступіла «смута». Палякі падтрымалі Ілжэдзмітрыя і з войскам рушылі на Маскву. Рыхтаваўся стаць царом маскоўскім сын Зыгмунда III Уладзіслаў. Ва ўсіх гэтых складаных праблемах надзейным дарадчыкам каралю стаў яго сакратар Анджэй Ліпскі. І ўладар шчодра адорваў таленавітага памочніка. Пасля смерці кракаўскага біскупа Пятра Ты-

ліцкага ён быў абраны адміністратарам епархіі і атрымаў прызначэнне на Луцкае біскупства.

У 1617 годзе Анджэй Ліпскі займаў пост камісара пры каралевічу Уладзіславе ў час яго паходу ў Расію. Варшаўскі сейм вызначыў восем камісараў. Сярод іх былі яшчэ кашталян белзскі Станіслаў Журавінскі, кашталян сахачэўскі Канстанцін Пліхта, канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега, стараста шрэмскі Пётр Апалінскі, стараста мазырскі Балтазар Стравінскі, сын люблінскага ваяводы Якаў Сабескі. Камісарам даручалася дапамагчы Уладзіславу заключыць выгадны мір з Масквой. Галоўным начальнікам у войску, якое ішло з каралевічам, быў гетман з Беларусі Карл Хадкевіч.

Па вяртанні з Расіі Анджэя Ліпскага чакала новае павышэнне. Ён быў прызначаны намеснікам вялікага канцлера, а праз два гады — канцлерам каралеўскім. На сейме 23 сакавіка 1618 года Ліпскі атрымаў з рук каралеўскага маршалка* Вольскага пячатку. Сказаў пры гэтым доўгую і палымяную прамову, у якой зазначыў: «Хавальнік пячаткі з'яўляецца вуснамі, вачыма і вушамі дзяржавы».

Новую пасаду Анджэй Ліпскі апраўдваў стараннай працай. Ён часта выкарыстоўваў трыбуну сейма. Яго доказнымі, эмацыянальнымі прамовамі заслухоўваліся, іх перапісвалі і выдавалі асобнымі брашурамі. У сваім дзённіку яго сучаснік адзначыў, што Ліпскі ў сейме абараняў правы духавенства так горача, нібыта «с большим чувством землю ногами бил». А калі вымушаны быў прыпыніць прамову, то доўга не мог супакоіцца.

Анджэй Ліпскі ўвайшоў у памяць тых, хто яго добра ведаў, як чалавек мудры, сумленны, з памяркоўным позіркам на дзяржаўныя справы і ў той жа час вельмі імпульсіўны, энергічны, нецярпімы, з вогненным характарам. Ён, прыгадваюць сучаснікі, «как Люцифер на цепи кидался, не могучи погасить холеры волнения». Аднойчы на сейме завязалася спрэчка з Ежы Асалінскім, і Анджэй Ліпскі выпаліў яму: «Ваша міласць яшчэ ў школе былі, калі я ўжо права на памяць ведаў».

У 1630 годзе Анджэй Ліпскі заняў прэстыжнае месца біскупа** кракаўскага. Гэта не перашкодзіла яму тварыць у літаратуры. З-пад яго пяра адна за адной выходзяць кнігі «Некаторыя назіранні над дзяржаўнымі саслоўямі», «Дзесяць пытанняў з выпадку грамадскага служэння каралёў польскіх», «Гісторыя праўлення Зыгмунда III» і іншыя.

На кнігах пазначана, што яны друкаваліся ў Кракаве, Рызе, Гданьску, Рыме, Познані. Я трымаў гэтыя кнігі ў сваіх руках. На

---

* **Маршалак** — важная службовая асоба ў сейме, старшынстваваў на пасяджэннях, абвяшчаў рашэнні, судзіў за злачынствы, зробленыя на сейме, размяшчаў дэпутатаў на сейме.

** **Біскуп** — кіраўнік каталіцкай царкоўна-адміністрацыйнай епархіі, узначальваў царкоўны апарат, адносіўся да вышэйшых саноўнікаў дзяржавы.



Гэтыя кніжкі напісаў у XVI стагоддзі Анджэй Ліпскі.
Цяпер яны — рэліквіі ў архіве Чартарыйскіх у Кракаве

мяне дыхнула такая даўніна, агарнулі такія пачуцці, што ледзь стрымліваўся, каб не крычаць ад радасці на ўсю бібліятэку Чартарыйскіх у Кракаве. І гэта, лічу, была мая другая сустрэча з Анджэем Ліпскім.

Адбылася і трэцяя сустрэча.

У тым жа чароўным Кракаве сябры павялі на экскурсію ў былы каралеўскі палац на Вавеле. Пра яго напісаны тамы кніг, і я не рызыкую апісваць велічнасць і багацце таго палаца. Можна толькі паўтарыць за Станіславам Выспянскім: «Тут усё — гэта Польшча».

І хаця каралі ў Кракаве жылі толькі да 1596 года, а Варшава даўно і трывала стала сталіцай Польшчы, кракавяне і цяпер вераць, што цэнтр дзяржавы ў іхнім горадзе. З пацехай і доляй іроніі расказваюць такі жарт:

«Чаму каралі пераехалі ў Варшаву? Дактары параілі жыць у вёсцы...»

Побач з каралеўскім палацам — кафедральны сабор, дзе каранавалі каралёў. Гэта помнік сусветнай культуры. Увайсці ў яго нельга без замірання сэрца, бо трапляеш у казачную прыгажосць, у своеасаблівы маўзалей святых і славутых людзей. Апроч каралёў, біскупаў і магнатаў тут, у спецыяльным склепе, пахаваны прах Адама Міцкевіча, Юліуша Славацкага.

Ёсць у саборы і капэла Ліпскіх. Яна пабудавана па запавету біскупа Анджэя Ліпскага. Мы прыпыніліся каля металічнай рашоткі ў стылі ракако. І ў паўзмроку пачалі ўзірацца ў інтэр'ер капліцы. Хацелася ўсё да дробязі разгледзець і запомніць.

Ды раптам, як з неба, з'явілася побач служка сабора, уся ў чорным і з ключамі. Яна шчоўкнула замком, уключыла святло і запрасіла ўвайсці ў сямейную святыню Ліпскіх. Дазволіла нават фатаграфаваць.

Як цяпер бачу: злева — помнік Анджэю Ліпскаму, справа — кардыналу Яну-Аляксандру Ліпскаму (пра яго яшчэ раскажу. — *Ул. Л.*). У алтары — партрэт святога Мацвея, работы мастака XVIII стагоддзя Францішка Смуглевіча. На метале — герб «Граблі».

Калі мы выйшлі на вуліцу і ўдыхнулі свежага паветра, я спытаў у Мірэка Ярасінскага:

— Скажы, дружа, што паўплывала на строгую служку сабора, якая так міла дазволіла пабыць у забароненай святыні?

— А я шапнуў ёй, што ты Ліпскі з Беларусі, родзіч тым біскупу і кардыналу.

Мы ўсміхнуліся шчодраму сонцу, якое вісела над кафедральным саборам, па-сяброўску абняліся. І я, грэшны, цэлы дзень хадзіў па Кракаву з патаемным пачуццём: а мо, сапраўды, тыя слынныя Ліпскія — мае родзічы?..

Свой аповед пра канцлера і біскупа Анджэя Ліпскага не хацелася б заканчваць звесткай, што ён памёр 4 верасня 1631 года ў Варшаве. Ён не меў сям'і і за жыццё сабраў мноства грошай. Па тым, як ён загадаў выкарыстаць сваё багацце, давайце яшчэ раз пераканаемся: жыў на свеце мудры і шчодры Анджэй Ліпскі, сын Яна, унук Мацвея.

Сваю каштоўную мітру, рызу, залатую чашу, ампулкі, таз з чыстага золата завяшчаў Кракаўскаму сабору. Пабудаваў кляштар, касцёл францысканцаў у Влоцлавеку і касцёл у Хочве са школай на 12 вучняў. На адну з бальніц ахвяраваў тры тысячы злотых. На штогодні малебен за ўпакой сваёй душы выдзеліў дзесяць тысяч злотых. Столькі ж даў на выкуп вязняў.

Са сваіх накапленняў адпісаў у запавеце каралю Зыгмунду III дзесяць тысяч злотых з чырвонага золата і мноства партугалаў*. Каралеве даў сто тысяч злотых, старэйшаму каралеўскаму сыну Яну Казімежу — пяцьдзесят тысяч злотых, астатнім каралевічам — па дзесяць тысяч злотых кожнаму, а княжне, прынцэсе Баварскай,— пяць тысяч злотых. Аднаму свайму брату — семнаццаць тысяч, другому — сем тысяч злотых.

Калі паміраючаму Анджэю Ліпскаму нагадалі, што ў яго маецца яшчэ значная сума грошай, каму б ён хацеў перадаць яе, біскуп адказаў:

— Пакіньце мяне ў спакоі. Мне цяпер важней думаць пра Бога, а не пра грошы. Няхай іх патрацяць на добрыя справы чэсныя і праведныя выканаўцы маёй апошняй волі...

---

* **Партугалы** — залатыя манеты, якія чаканіліся ў XVI—XVII стагоддзях у Паўночнай і Цэнтральнай Еўропе, у тым ліку і ў Польшчы, па ўзору партугальскіх манет.

Ён быў пастырам непарушнай дабрадзейнасці, уплывовым палітыкам, чалавекам тэмпераментным, энергічным. У парыве гневу і жару, адзін на адзін, мог хвастаць сябе тоўстай вяроўчынай або чым-небудзь цвёрдым, пакуль не прыходзіў у сябе.

Анджэю Ліпскаму прыпісваюць прымаўку: «Не больно разумен ■ тот, кто не пьет водку, когда это требуется, и тот, кто пьет ее чрезмерно много либо тогда, когда это не требуется».

## *ХАРУНЖЫ*

Адам Ліпскі (1575—1633), малодшы брат канцлера каралеўскага, біскупа кракаўскага Анджэя Ліпскага, сын Яна і Ганны Жэплінскай, сваю кар'еру прысвяціў ваеннай справе. Быў адчайным і смелым воінам, з вогненным парывам у сэрцы і характары.

Біёграфы пішуць, што Адам Ліпскі хадзіў ад харугвы Аляксандра Збароўскага на Маскву і нават выступаў ад імя салдат маскоўскага гарнізона. Гэта было ў пачатку XVII стагоддзя і дае падставу паверыць, што менавіта пра Адама Ліпскага згадвае ў сваім гістарычным шматтомніку вядомы даследчык Расіі С. М. Салаўёў:

*«После царского венчания своего Лжедмитрий отпустил иностранное войско, состоявшее преимущественно из поляков, выдав ему должное за поход жалование, но этот сброд, привыкший жить на чужой счет, хотел подолее повеселиться на счет царя московского; взявши деньги, поляки остались в Москве, начали роскошничать, держать по десять слуг, пошили себе дорогие платья, стали буйствовать по улицам, бить встречных. Шляхтич Липский был захвачен ■ буйстве и приговорен ■ кнуту; когда перед наказанием, по обычаю, стали водить его по улицам, то поляки отбили его, перерaнивши сторожей. Царь послал сказать им, чтобы выдали Липского для наказания, иначе он велит пушками разгромить их двор и истребить их всех. Поляки отвечали, что помрут, ■ не выдадут товарища, но прежде чем помрут, наделают много зла Москве. Тогда царь послал сказать им, чтобы выдали Липского для успокоения народа, а ему не будет ничего дурного, ■ поляки согласились.*

*Проигравши ■ пропировавши все деньги, поляки снова обратились ■ царю с просьбами, когда тот отказал им, то они отправились в Польшу с громкими жалобами на неблагодарность Лжедмитрия...»*

Пра польскае піраванне ў Маскве пасля прызнання Ілжэдзмітрыя царом піша і Карамзін у «Истории государства Российского»:

*«Отпустил Лжедмитрий своих иноземных телохранителей и всех ляхов, дав каждому из них в награду за верную службу по сороку злотых деньгами и мехами, но тем не удовлетворив их корыстолюбию: они хотели более, не выезжали из Москвы, жаловались и пировали».*

Ілжэдзмітрый цараваў у 1605—1606 гадах, усяго 11 месяцаў. Але гэты час, як і сама загадкавая постаць цара, прадаўжае хваляваць, цікавіць і нашага сучасніка.

Адна з версій гістарычнага рамана такая.



Так выглядаюць сёння былыя каралеўскія палацы ў Кракаве

У сярэдзіне 1603 года ў беларускім мястэчку Брагін, у замку князя Адама Вішнявецкага, пражываў малады чалавек і займаў сціплую пасаду конюха. Аднойчы ён моцна захварэў і папрасіў да сябе хатняга княжага капелана, каб паспавядацца. Святар той быў езуітам.

Духоўніку хворы юнак адкрыўся, што ён — рускі царэвіч Дзмітрый, сын Івана Грознага ад сёмага шлюбу, маці яго Марыя Нагая, што на двары Угліцкага палаца забілі 15 мая 1591 года зусім не яго, а іншага хлопца і што менавіта ён, Дзмітрый, законны цар Расіі, а не ўзурпатар Барыс Гадуноў. Яго быццам выратаваў ад наёмных забойцаў Гадунова адзін нямецкі доктар. У доказ сказанага юнак нібыта паказаў залаты крыжык з каштоўнымі камянямі, які падараваў яму хросны бацька, князь Мсціслаўскі.

Таямнічую гісторыю прызнаў князь Адам Вішнявецкі, а за ім — магнат Вялікага княства Літоўскага Канстанцін Вішнявецкі і сандамірскі ваявода Юрый Мнішак. Яны і далажылі пра Ілжэдзмітрыя польскаму каралю Зыгмунду III, які нібыта прызначыў прэтэндэнту на маскоўскі трон 40 тысяч злотых у год. І пачалі палякі ды беларусы рыхтаваць свайго госця да ўступлення на расійскае цараванне.

Адна з задач той падрыхтоўкі была — сабраць надзейную світу для Ілжэдзмітрыя, як піша Карамзін, целаахоўнікаў.

У той час Анджэй Ліпскі служыў сакратаром у караля, а брат Адам быў камандзірам атрада лёгкай кавалерыі. Хіба не падзяліўся Анджэй з братам пра таемны паход на Маскву? Ці не напрасіўся Адам у гэта падарожжа?



Сучасны Кракаў — сведка сівой мінуўшчыны

Гісторык піша:

*«Дваццатага чэрвеня 1605 года цар Дзмітрый, так ён сам сябе называў, з урачыстым трыумфам уехаў у Маскву. Паперадзе доўгай калонай ехалі польскія гусары, пастроеныя па дваццаць у рад, з коп'ямі наперавес, пад гукі труб і барабанаў...»* Так і бачыцца сярод тых гусараў бравы і зухаваты кавалерыст Адам Ліпскі, які з радасці загуляў так, што ведала пра яго ўся Масква, уціхамірваў сам цар, зацікавіў гэты факт слыннага гісторыка Салаўёва.

Ва ўсёй гэтай загадкавай з'яве яскрава вымалёўваецца роля Льва Сапегі. Гэта ж ён быў у часы расійскага безуладдзя паслом у Маскве. Гэта ён, канцлер Вялікага княства Літоўскага, суправаджаў у якасці камісара-дарадцы сына караля Уладзіслава ў Маскву, каб зрабіць яго маскоўскім царом пасля Ілжэдзмітрыя. Дык хіба мог Леў Іванавіч Сапега быць абыякавы да падрыхтоўкі і ўзвядзення на трон Ілжэдзмітрыя?!

Адказам на гэта рытарычнае пытанне можа служыць надпіс на кніжным знаку Льва Сапегі: «Марна жыве той, хто нікому не дапамагае».

Пасля вяртання Адама Ліпскага ў Польшчу ён, хутчэй за ўсё, праз брата аказаўся ў свіце караля. Зыгмунд III даручыў яму, вернаму служку, арганізоўваць новыя атрады лёгкай кавалерыі. З імі ён хадзіў паходам на Вену. Відаць, удзельнічаў у баях з туркамі, бо ў рэкруцкіх спісах за 1621 год стаіць прозвішча Ліпскага (без імя), як ротмістра казацкай конніцы ў палку С. Любамірскага.

За заслугі перад каралём Адам Ліпскі атрымаў вёску Багуцічы

і пасаду белзскага харунжага*. Яшчэ згадваецца, што ён прымаў удзел у выбранні караля Уладзіслава IV Вазы. Далей яго след губляецца. Хутчэй за ўсё, што былы вайсковец заняўся сям'ёй, маёнткам, сваімі службовымі клопатамі, зямлёй.

Вядома, што Адам Ліпскі ажаніўся на Катажыне Вяжбіцкай, герба «Нечуя». Пакінуў у спадчыну трох сыноў — Яна, Андрэя і Станіслава. Ён быў адзіным з чатырох братоў, хто меў спадчыннікаў. Але, на жаль, пра яго сыноў, пра далейшы росквіт сямейнай галіны ад Яна нічога не вядома.

## КАРДЫНАЛ

Ян-Аляксандр Ліпскі (1690—1746) ад прыходскага ксяндза даслужыўся да кардынала. Вышэй стаяў толькі папа ў Ватыкане ды сам Бог на небе.

На яго службовых прыступках былі самыя розныя рэлігійныя пасады. Не будзем тлумачыць іх, а толькі назавём: прэлат, канонік, кантар, абат, адміністратар абацтва, біскуп. Як бачым, даўней, каб узняцца ўгору, трэба было адолець амаль усю службовую лесвіцу. Альбо мець каралеўскую руку.

Праўда, сучасная гісторыя ведае выпадкі, калі чалавек-ніхто раптам станавіўся правадыром нацыі. Так здарылася ў Польшчы, калі электрыка выбралі адразу прэзідэнтам дзяржавы. У Літве ім стаў кампазітар. У Калмыкіі — малады бізнесмен... Бог з імі, не будзем умешвацца ва ўнутраныя справы іншых краін. Народ абраў сабе лідэра, ён можа яго ўславіць ці праклясці, а гісторыя паставіць сваю ацэнку.

Мы ж прасочым лёс кардынала Яна-Аляксандра Ліпскага. У яго родзе, па лініі дзедзічавага брата, ужо была слынная постаць — Анджэй Ліпскі, канцлер каралеўскі, біскуп кракаўскі, таленавіты юрыст і пісьменнік. Але і ў непасрэднай сямейнай галіне Яна-Аляксандра закладзены спадчынныя гены здольных, неардынарных людзей.

Яго прадзед Пракоп, сын Вацлава, быў земскім калішскім пісарам, паслом сеймаў, замяшчаў гродскага суддзю, ездзіў да караля з пасланнем ад ваяводства. У Калішскім павеце валодаў вёскамі Ліп'е, Янкаў, меў каменны дом у Калішы па вуліцы Святога Мікалая.

Ад двух шлюбаў Пракоп меў сыноў Яна, Адама, дачок Дароту і Марцыяну.

Ян, сын Пракопа, стаў дзедам кардынала Яна-Аляксандра. Пра Яна таксама згадвае энцыклапедыя. Служыў калішскім земскім

---

* **Харунжы** — вайсковая службовая асоба ў павеце, захавальнік сцяга, вёў улік і мабілізацыю ваеннаабавязанай шляхты і баяр, сачыў за станам іх узбраення, у час вайны збіраў шляхецкае апалчэнне.

суддзёй, быў паслом сейма, уваходзіў у камісію па вызначэнні спрэчак паміж межамі вялікапольскіх ваяводстваў і Сілезіяй, Брандэнбургіяй і Заходнім Памор'ем.

Дзед кардынала два разы жаніўся. Быў у сваяцтве з вядомымі магнатамі Вішнявецкімі. Меў сыноў Станіслава, Войцэха, Пракопа, Вацлава.

Вацлаў Ліпскі, сын Яна, і стаў бацькам кардынала. Яго маці — Барбара Мяскоўская.

Першую ступень адукацыі Ян-Аляксандр атрымаў у школе калішскіх езуітаў. Працягваў вучобу ў Парыжы і Рыме, у Сарбоне. Там, ва ўзросце 27 гадоў, абараніў доктарскую дысертацыю. Падарожнічаў па Францыі і Германіі. Яго прыкмеціў і падтрымаў прымас каралеўскі Тэадор Патоцкі, увёў таленавітага духоўніка ў акружэнне караля Аўгуста II «Моцнага». З таго знаёмства і пачаўся службовы ўзлёт Яна-Аляксандра Ліпскага.

З кардыналам мы спаткаліся ў карціннай галерэі ў Кракаве. А туды мяне правёў Марэк Халеўка, старшыня ваяводскага аддзялення Таварыства сяброў дзяцей. Мы павольна ішлі з ім па шырокай галерэі. Са сцен, з агромністых залачоных рам пазіралі на нас важныя духоўнікі, дзяржаўцы. Ды вось і кардынал Ліпскі!

Велічны, з праніклівым тварам, ён, здаецца, адразу ўхапіў нас учэпістым позіркам, а вусны ледзь-ледзь адкрыліся ва ўсмешцы. На ім — мантыя з узорамі і шырокае плацце. У руках трымае аркуш паперы. Што напісана на ім? Якімі думкамі асветлена палыселая галава кардынала?

Перад ім стол з фігурнымі ножкамі. За ім — мяккае крэсла. Здаецца, ён толькі што ўзняўся з яго, каб сустрэць нас, невядомых нашчадкаў. Відаць, даўно ніхто з такой пяшчотнай цікаўнасцю не падыходзіў да яго.

Я стаў каля партрэта кардынала Ліпскага, Марэк узвёў курок фотаапарата, грамавым рэхам пранёсся яго голас па карціннай галерэі:

— Увага, Ліпскія, увекавечваю!

Бліснула маланка, і засвяціўся кардынал, ажыў, нібыта загаварыў:

— Сябры мае спагадлівыя, колькі душэўных і дзяржаўных тайнаў панёс я з сабой у вечнасць. Не крыўдуйце, а ўмейце чытаць гісторыю паміж радкамі...

I я паспрабаваў тое-сёе прачытаць паміж сціплымі радкамі біяграфіі кардынала Яна-Аляксандра Ліпскага. Вядома, што гісторыкі далі высокую ацэнку яго дзяржаўнай, дыпламатычнай і духоўнай вартасці. Геральдыст Насецкі пісаў: «Да найвышэйшага тытула праасвяшчэнства ў царкве Божай і на самыя высокія пасады ў краіне яго ўзвялі тыя вялікія заслугі, тыя знакі Божай міласці і таленту, тая шчодрасць душы, якія злучаліся ў ім з набожнасцю пастыра душ чалавечых».

«Ён быў чалавекам тонкім, далікатным, але вельмі прынцыповым», — адзначае іншы даследчык.



Капліца Ліпскіх у кракаўскім каралеўскім замку

А гэта расшыфроўваецца вось такім прыкладам.

Морыц, граф Саксонскі, пабочны сын польскага караля Аўгуста II, сватаўся ў другім шлюбе да герцагіні Ганны Курляндскай. Безумоўна, кароль быў зацікаўлены ў такім сваяцтве і ўсё рабіў, каб не правалілася сватаўство, пасля якога можна было весці палітычны націск на тое, каб выбраць свайго сына герцагам Курляндыі. Ці аднадумцамі былі яго міністры? Як паводзіў сябе падканцлер каронны, кардынал Ліпскі, які ў руках трымаў пячатку дзяржавы?

Пра гэта даведваемся з рапарта расійскага пасла ў Польшчы Васіля Лукіча Далгарукага ў Санкт-Пецярбург 7 мая 1725 года:

*«А везти Морица в Курляндию думают таким образом: король тайно от министров польских подписал позволение курляндцам созвать сейм для избрания герцога, но на этом позволении нет печати, и хотя Мориц давал подканцлеру коронному Липскому тысячу червонных за приложение печати, однако тот не согласился; поэтому король велел Морицу ехать в Петербург через Вильну, где живут гетман Потей и канцлер литовский*



Брамка да капліцы Ліпскіх у Кракаве

*Вишневецкий, которые должны приложить литовскую (чытай — «Вялікага княства Літоўскага». — Ул. Л.) печать к королевскому позволению...»*

Відавочна, што для Яна-Аляксандра Ліпскага, якога прыкмеціў і ўзнёс кароль Аўгуст II, важней дзяржаўныя інтарэсы, чысціня свайго гонару і сумлення, чым угодніцтва і падхалімства. Добры ўрок нашым сённяшнім неразборлівым чыноўнікам.

І яшчэ прыклад.

Памёр кароль Аўгуст II. Першай асобай у Рэчы Паспалітай часова стаў прымас Польшчы, архібіскуп гнезінскі Тэадор Патоцкі. Усе ведалі, што ён прыхільнік Станіслава Ляшчынскага, які прэтэндаваў на каралеўскі трон. Стваралася здаровая апазіцыя супраць такога выбару. Вось тады і паслалі дэкларацыю да рускага двара. Яе падпісалі «доброжелатели». Аб чым яны прасілі магутную па тым часе дзяржаву, аб чым быў іх галоўны клопат?

*«Ввиду опасностей, которые грозят правам и вольностям нашего Отечества со стороны Франции и ее приверженцев, обращаемся к союзным державам с просьбой о защите драгоценнейшего сокровища Польши — права свободного избрания короля. Мы признаем королем того, кто окажется достойнейшим и кого даст нам Бог. Мы не обязуемся союзным дворам за оказанную помощь никакою вещественною благодарностью, но обязуемся не предпринимать ничего такого, что могло бы нарушить вечную дружбу между нами».*

Подпісаў пад дэкларацыяй не было. Але цяпер яны вядомы. «Доброжелателями» былі: Мнішак, вялікі маршалак каронны, Ліпскі, кардынал і падканцлер, Сангушка, гофмаршалак Вялікага княства Літоўскага, а таксама Любамірскі, Радзівіл, Сапега, Шамбека, Браніцкі, харунжы каронны...

Каралём Польшчы пад націскам Карла XII, караля Швецыі, і

французскай дыпламатыі паставілі ўсё-ткі Станіслава Ляшчынскага. Яго дачка была жонкай французскага караля Людовіка XV. Палякі ўгледзелі ў гэтым націску абразу сваёй волі і тры гады вялі барацьбу за ўстанаўленне справядлівасці.

Прынцыповую пазіцыю заняў і кардынал Ліпскі. Ён стаў на бок каралеўскай апазіцыі. У выбранні Ляшчынскага не прымаў удзелу. Затое падтрымліваў выбранне Аўгуста III і разам з пражскімі дысідэнтамі вітаў яго ўрачыстай прамовай у Тарнаўскіх гарах. Яшчэ за год да выбрання Аўгуста III каралём Ліпскі каранаваў яго ў Вавельскім кафедральным саборы. Гэта быў смелы і рызыкоўны крок. Ён выклікаў вялікае абурэнне ў прыхільнікаў Ляшчынскага. Кароль нават адправіў свайго візіцёра Андрэя Залускага ў Ватыкан да папы, каб той паставіў Яна-Аляксандра Ліпскага перад судом касцёла. Але аўтарытэт кардынала быў высокі, а суд для яго — недасягальны.

Калі прыйшоў да ўлады кароль Аўгуст III, ён хацеў яшчэ больш узвысіць кардынала Ліпскага, прапанаваў яму пасаду прымаса Польшчы, свайго намесніка, другой асобы дзяржавы. Аднак Ян-Аляксандр Ліпскі адмовіўся ад гэтай высокай пасады, вырашыў засяродзіцца на справах епархіі.

Гэта не азначае, што ён не ўдзельнічаў у палітычным жыцці. Да апошніх дзён кардынал Ян-Аляксандр Ліпскі карыстаўся вялізным уплывам і аўтарытэтам у шляхты. Часта выязджаў на сеймы ў Варшаву і Гродна. Дамагаўся мірнай згоды, а не бойкі паміж Казімірам Радзівілам, палявым гетманам Вялікага княства Літоўскага, і Янам Тарло, ваяводам сандамірскім, у іх спрэчцы за спадчыну Сабескіх...

Даследчык Вільчэк назваў Яна-Аляксандра Ліпскага «бескарыстным патриотом». Ён добра ведаў міжнародную палітыку, умеў знаходзіць кампрамісы, клапаціўся пра сваю дзяржаву. Ён аўтар шматлікіх указаў і пастырскіх пасланняў. Быў прыхільнікам моцнай манархічнай улады і процістаяў удзелу краіны ва ўзброеных канфліктах.

Прыкметны дзяржаўны і рэлігійны дзеяч свайго часу, Ян-Аляксандр Ліпскі ўвайшоў у памяць суайчыннікаў Рэчы Паспалітай і Вялікага княства Літоўскага як вялікі прамоўца, дабрадзейны, сумленны, справядлівы, міласэрны чалавек.

Памёр кардынал Ліпскі 20 лютага 1746 года, ва ўзросце 56 гадоў, у Кельцах, у звычайнай рэзідэнцыі кракаўскіх біскупаў. Пахаваны ў каралеўскім саборы на Вавеле ў Кракаве, у капліцы, якую за кошт кардынала адрэстаўрыравалі і перарабілі яшчэ пры яго жыцці.

# ПАМЕШЧЫК

Самуэль Ліпскі ў трэцім калене ад родапачынальніка Мацея ўславіў сваё імя тым, што заснаваў у 1625 годзе мястэчка Ліпск і вёску Ліп'е на прывыворскіх землях у Белзскім ваяводстве. Адбылася гэта падзея ў часы панавання караля Зыгмунда III Вазы.

Рэч Паспалітая вяла вайну са Швецыяй. Палякі ды беларусы вадзілі Ілжэдзмітрыя ў Маскву, а пасля хацелі сілай войска надзець расійскую карону на сына польскага караля. Адны палякі бралі зброяй гатовыя гарады — Смаленск, Ноўгарад-Северскі, Чарнігаў. А шляхціц Самуэль Ліпскі ў гэты час засноўваў свой горад і сваю вёску. Гэта больш надзейны і перспектыўны шлях забяспечыць свайму роду трывалы падмурак.

Пашчасціла пабываць і мне ў Ліпску і Ліп'і.

З панам Матэвушам Корвін-Шыманоўскім, маім верным польскім сябрам, мы селі ў Варшаве ў аўтобус. Ехалі доўга. Была магчымасць уволю палюбавацца краявідамі, дарэчы, амаль такімі ж, як і на Беларусі, была шчаслівая нагода нагаварыцца пра справы, нашу агульную мінуўшчыну і аб будучым дзяцей. Апетытна з'елі ў дарозе слуцкае сала з нарачанскім хлебам ды варшаўскія шакаладкі. А на прыпынку ў Любліне папілі са смакам прахалоднага мясцовага квасу. Зноў паехалі ў бок Львоўшчыны. У прыцемках сталічны аўтобус зашамацеў па вуліцах старажытнага горада Замосце.

Амаль усю ноч пані Хелена знаёміла нас з даўнейшымі забудовамі свайго горада. І цяпер, калі пасля паездкі прайшло нямала часу, заплюшчу вочы — і бачыцца мне элегантная вежа Замасцянскай ратушы, якая сваім шпілем ледзь не ўтыркаецца ў начныя зоркі, нібыта зноў іду па квадратнай брукаванай плошчы Вялікага Рынку, акружанай дамамі з фантастычнымі фасадамі.

Тут у пашане Ян Замойскі (1542—1605), вялікі канцлер і гетман каронны, вядомы палітык і мецэнат, заснавальнік «замасцянскай дзяржавы». Гэта ён у 1580 годзе выдаў указ аб закладцы горада.

А хто і якія дазволы даваў Самуэлю Ліпскаму, каб заснаваць свой горад і сваю вёску?

Раніцай, пад позвы гулкай касцельнай званіцы, мы выязджалі ў накірунку Ліпска. На душы — трывога і хваляванне, нібыта еxаў на радзіму, у свае Шоўкавічы.

Баляслаў упэўнена кіраваў «фольксвагенам». Хелена і Матэвуш спявалі польскія песні. А я не зводзіў вачэй з дарогі. Хацелася запомніць кожны палетак, кожнае дрэўца, паселішчы і асобныя маёнткі.

Пайшлі лясы. Грыбныя сасniakі. Ім на змену заступіў змешаны лес з дубамі, бярозамі. Як у нас на Палессі. Жыло ўва мне пачуццё, што еду на спатканне са сваёй душой.

І праўда! Толькі паказаліся забудовы Ліпска, я папрасіў Баляслава супыніцца. Паўзіраўся наўкол і сказаў маім здзіўленым сябрам-палякам:




На гэтай карце — горад Ліпск і вёска Ліп'е, якія заснаваў некалі памешчык герба «Граблі» Самуэль Ліпскі

— Я тут ужо быў!

Па сёння жыве са мной тое дзіўнае ўражанне, нечаканае адкрыццё. Не магу адагнаць яго ад сябе, не магу пазбавіцца ад яго.

Быў у Ліпску, куды прыехаў упершыню! Як магло такое здарыцца? Адкуль гэта перакананасць? Чаму яна асела ўва мне?

Горад Ліпск — невялікае паселішча. Адной вуліцай, на якой касцёл, утыркаецца ў вёску Ліп'е. А праз рэчку Танвіца — горад Нароль. Усё гэта адзіны жылы арганізм. На ўскрайку Нароля стаіць занядбаны, разбіты і аграблены маёнтак. Спачатку ён належаў Марціноўскім, а праз шлюб перайшоў да Лашчаў. Думаецца, што і Ліпскія бывалі тут частымі і жаданымі гасцямі.

Маёнтак у выглядзе падковы акружаны тоўстымі ліпамі. Некалі тут кіпела жыццё, цяпер — маўклівая цішыня, чорныя вокны пазіраюць на рэдкіх турыстаў, як бы скардзяцца на свой лёс. На калонах — нейкія надпісы. Мы дарэмна трацілі час, каб прачытаць іх. Літары абшкрэбаны, выцвілі. Дапамог мясцовы краязнаўца Генрых Баранчык. Ён расшыфраваў тыя надпісы, а яны як бы раскрываюць душу, жыццёвыя прынцыпы былых гаспадароў. Укінем і мы іх у сваю памяць:

«Чалавечае жыццё кароткае. У нябыт адыходзіць хутка. Не дбай ні аб чым пры жыцці, а толькі аб славе і гонары».

«У гонар будзь убраны, а не ў золата».

«Прымі перасцярогу: калі ўсё ведаеш добра, спытай яшчэ дарогу».



Тут некалі балявалі Ліпскія

Багата было гаспадароў у тым маёнтку, а гісторыкі найбольш помняць графа Фелікса Лося. Ён завёў тут салон для танцаў, арганізаваў музычную і драматычную школы, сабраў багатую бібліятэку, унікальную калекцыю французскага ды італьянскага жывапісу.

У маёнтку гасцяваў кароль Аўгуст II.

Мы аб'ехалі, абышлі ўвесь Ліпск і Ліп'е. Самым людным месцам быў касцёл. Пры ўваходзе вісіць рамка, і ў ёй — гістарычная даведка і добрыя словы пра Самуэля Ліпскага, заснавальніка горада, вёскі і гэтага касцёла.

Была якраз нядзеля. Па даўнейшай завядзёнцы ўсе збіраліся ў касцёл. Ішлі сем'ямі, старыя і дзеці, юнакі і дзяўчаты. У святочных уборах, засяроджаныя, з набожнымі тварамі. Усе разам, але кожны па-свойму ўслаўлялі Творцу, спавядаліся перад ім, нечага прасілі ў Яго. І, хочацца верыць, на такіх набажэнствах удзячныя жыхары Ліпска і Ліп'я прыгадваюць Самуэля Ліпскага, які даў жыццё гэтым паселішчам.

З архіўных крыніц вядома, што Самуэль Ліпскі — сын Свентаслава, падстарасты белзскага. Маці яго звалі Ганнай. Яна з сям'і Падгарэцкіх.

У Самуэля быў брат Андрэй, падчашы белзскі, і тры сястры — Альжбета, Ядвіга, Зося. У іх — свае сем'і, свае лёсы.

Самуэль пачынаў самастойнае жыццё ў войску. Пасля служыў земскім суддзёй у Белзску. У спадчыну ад бацькі атрымаў Чашнікі, частку Няверкава, палову Пршыворска. Дамогся прывілея на заснаванне горада і вёскі. І назваў іх — Ліпск і Ліп'е. Чым і ўшанаваны спадчыннікамі і самой матухнай Гісторыяй.



Уваход у касцёл, які захоўвае памяць пра заснавальніка горада Ліпска
і вёскі Ліп'е Самуэля Ліпскага



Якая непрачытаная кніжка Ліпскага пад гэтым каменным крыжам?
г. Ліпск, Польшча

Яшчэ вядома, што Самуэль Ліпскі ажаніўся на Соф'і Лашуўне, якая пасля яго смерці яшчэ двойчы выходзіла замуж. Гэта дае падставу меркаваць, што Самуэль пражыў не вельмі багата гадоў. З Соф'яй яны далі жыццё сынам Андрэю і Яну, дачцэ Катажыне.

Хлопцы, як водзіцца з дзецьмі, падзялілі бацькавы маёнткі. Ліпск і Ліп'е перапалі Яну Ліпскаму, малодшаму сыну Самуэля. Ён заклаў іх Якубу Ляшкоўскаму за 40 тысяч фларынаў, а сам служыў суддзёй белзскім.

У Яна Ліпскага было чатыры сыны, і яны далі магутны штуршок для росту сямейнага дрэва. У пятым калене ад Яна «вырас» мэр Мінска Ксаверый Ліпскі...

На могілках у Ліпску я дарэмна аглядваў замшэлыя крыжы. Надпісаў не знайшоў. Амаль чатырыста гадоў мінула, калі жылі тут слаўныя Ліпскія. Багдан Хмяльніцкі тут крываві людзей і паліў дамы. Фашысты не мілавалі гэтыя паселішчы. Навальніцы ламалі дрэвы. Нараджаліся і паміралі людзі. Рушыліся дамы ад старасці і будаваліся новыя. А сонца, як і пры Ліпскіх, лагодзіць гэтыя паселішчы. Кожную ноч над горадам Ліпскам і вёскай Ліп'е ў высокім небе ўспыхваюць зоркі, як бы салютуюць людзям, якія ўслаўляюць зямлю добрымі справамі.

Падалося, што ў небе гарыць і зорка Самуэля Ліпскага, і ад гэтага зрабілася ўтульней на душы.

Жыву з пачуццём, што я да паездкі ў Ліпск і Ліп'е ўжо бываў там. Калі гэта было? У якім жыцці? Кім я тады быў?..

## *МЭР МІНСКА*

Ксаверый Ліпскі (1766—1820) узняўся да сваіх жыццёвых, маральных вышынь не без падмогі генных сокаў родапачынальніка Мацея. Ад яго, як вядома, было чатыры сыны — Ян, Святаслаў, Мацей і Вацлаў. На дрэве Святаслава вырас мэр Мінска Ксаверый Ліпскі.

Перад ім быў Самуэль — заснавальнік горада Ліпска і вёскі Ліп'е, Ян, сын Самуэля, спадчынец-памешчык Ліпска і Белзца. З чатырох сыноў Яна падняў род на новую ступень Самуэль, кіеўскі стольнік, гусарскі ротмістр, неаднаразовы дэпутат сейма і Кароннага трыбунала*.

Самуэль з Ганнай Стадніцкай меў адзінага сына Юзэфа, які і стаў дзедам мінскага мэра Ксаверыя. Пра Юзэфа пішуць польскія энцыклапедысты, што ён рана пачаў актыўнічаць у палітычным жыцці краіны. У 26 год абраны паслом сейма. Займаў пасады бугскага харунжага, белзскага і ленчыцкага кашталяна. Пасля вылу-

---

* **Каронны трыбунал** — вышэйшы апеляцыйны суд Польшчы, створаны сеймам у 1578 годзе ў Варшаве. Адначасова быў створаны Луцкі трыбунал — для ўкраінскіх зямель і Трыбунал Вялікага княства Літоўскага — для беларускіх зямель.

чаны ў загадчыкі каралеўскай канцылярыі, у сакратары канцлера. У 1733 годзе, пасля смерці Аўгуста II, выконваў функцыі пасла сената рускай імператрыцы Анны Іаанаўны.

Юзэф Ліпскі меў некалькі маёнткаў у розных ваяводствах. Двойчы жаніўся. Пакінуў пасля сябе трох сыноў і трох дачок. Адна з іх, Цэцылія, стала жонкай Францішка Жабы, ваяводзіча мінскага. І гэтым, запомнім, вымасціла дарогу свайму далейшаму роду на Беларусь.

Для цікаўных дададзім, што Жаба — старажытны дваранскі род у Вялікім княстве Літоўскім. Паходзіць ад Канстанціна Жабы, смаленскага баярына, які жыў у канцы XV стагоддзя. Адна галіна роду патухла на пачатку XIX стагоддзя, і прозвішча Жаба перайшло ад яе да роду Марцінкевічаў. Другая галіна ўнесена ў VI частку дваранскіх родаў па Віцебскай і Ковенскай губернях.

З трох сыноў Юзэфа найбольшы след у гісторыі пакінуў Тадэвуш Ліпскі, бацька мінскага мэра Ксаверыя. Ён нарадзіўся 17 жніўня 1725 года на Украіне. Відаць, тады, калі Юзэф Ліпскі, кашталян белзскі, удзельнічаў ва ўціхамірванні гайдамакаў. Закончыў Тадэвуш езуіцкі калегіум у Познані, пасля вывучаў кананічнае і грамадзянскае права ў Рыме. У 1748 годзе стаў камергерам караля Аўгуста III. Крыху пазней атрымаў званне генерал-маёра і пасаду ленчыцкага кашталяна. Паслухмяны і здольны службіст, ён часцяком адорваўся ўвагай уладароў. Яму выдаваліся салідныя прэміі з казны, яму ўручылі ордэн Белага Арла.

Па даручэнні караля Тадэвуш Ліпскі і мсціслаўскі ваявода Канстанцін Плятэр ездзілі ў Курляндыю, каб абараніць правы каралевіча Карла ад любімца царыцы герцага Бірона, які, па сутнасці, кіраваў тады Расіяй.

У жніўні 1765 года з інфлянцкім біскупам Гедройцам Тадэвуш Ліпскі ўдзельнічаў у пасяджэнні сінода уніятаў у Брэсце.

А праз год кароль даручыў Ліпскаму, свайму камергеру, шэфства над польскім тэатрам. Чыноўнік і генерал Тадэвуш Ліпскі праявіў не толькі здольнасці арганізатара і выхаваццеля, а вылучыўся сярод тэатралаў як рэжысёр і літаратар. Ён пераклаў і паставіў п'есу Карла Гальдоні «Прыстойная жонка». Камедыя, зробленая ў традыцыях італьянскага народнага тэатра, выклікала «неблагасклоннасць» да Ліпскага з боку ўплывовых людзей князя Казіміра Панятоўскага. Каб рэабілітаваць сябе, Тадэвуш Ліпскі напісаў і паставіў п'есу «Прыстойны муж». На яго аўтарскім рахунку і камедыя «Падазроны шлюб».

Тадэвушу Ліпскаму прыпісваюцца і публіцыстычныя творы «Адказ народа на каралеўскі універсал», «Роздум польскага грамадзяніна аб цяперашнім стане сваёй Айчыны», «Цікавыя матэрыялы 1771 і 1772 гадоў». У апошнім яго творы адкрыта выказана пазіцыя аўтара на падзел Рэчы Паспалітай. Там занатаваны пісьмы, чуткі, плёткі, заявы самых розных яго сучаснікаў, якія нераўнадушна ўспрымалі гістарычную падзею.

Тадэвуш Ліпскі актыўнічаў і як палітык, дзяржаўны муж. За-

сядаў у дэпартаментах юстыцыі і паліцыі. На чатырохгадовым сейме сказаў 25 верасня 1789 года палымяную прамову, рэкамендаваў Тадэвуша Касцюшку кіраўніком польскай арміі, прапанаваў праект палявога палка і нацыянальнай харугвы кавалерыі. З пачаткам касцюшкаўскага паўстання заклікаў да барацьбы і вытрымкі. З-за свайго ўзросту, яму было тады ўжо семдзесят гадоў, не мог служыць у паўстанцкіх органах.

Вось у такой сям'і нарадзіўся Ксаверый Ліпскі. Яго хрысцілі ў Варшаве граф Чартарыйскі і ўдава князя Паўла Сангуткі, маршалка Вялікага княства Літоўскага. Бацькі далі яму добрую адукацыю, падмаглі выйсці на высокую жыццёвую арбіту. І, напэўна, падштурхнулі да выгаднай жаніцьбы на дачцэ віцебскага ваяводы Барбары Прозар. А што гэта так, сведчыць службовая кар'ера Ксаверыя, сына Тадэвуша Ліпскага.

Пачынаў працаваць у канцылярыі польскага караля Станіслава-Аўгуста Панятоўскага. Пасля абраны дэпутатам у трыбунал Вялікага княства Літоўскага ад Мінскага ваяводства. У тым жа 1791 годзе ўзнагароджаны ордэнам Святога Станіслава. Гэтыя дзве падзеі ў жыцці Ксаверыя Ліпскага засведчаны архіўнымі дакументамі стогадовай даўніны. Іх, думаю, з цікавасцю прачытаюць сучаснікі нашага дагараючага стагоддзя.

З пратакола абрання дэпутата ў Галоўны трыбунал:

*«Мы, Сенатары, Саноўнікі, Чыноўнікі земскія і гродскія, воінства, Дваране і памешчыкі Мінскага ваяводства, паведамляем сім, што, сабраўшыся на Срэцінскі сеймік для выбараў у Губернскім горадзе Мінску бягучага года, 7 дня, лютага, пад старшынствам падкаморага Мінскага ваяводства Антона Прушынскага, выбралі ў Дэпутаты для пасяджэнняў у Галоўным Трыбунале Вялікага княства Літоўскага адзінадумнымі галасамі сына Ленчыцкага кашталяна Ліпскага пана Ксаверыя Ліпскага, які прысягнуў нам на вернасць у прысутнасці сходу...»*

Другі дакумент — указ польскага караля аб узнагароджанні ордэнам Ксаверыя Ліпскага. Звернем увагу на поўны каралеўскі тытул і на выкрунтасны змест старога пісьменства:

*«Божай міласцю Мы, Станіслаў-Аўгуст, Кароль Польскі, Вялікі Князь Літоўскі, Рускі, Прускі, Мазавецкі, Кіеўскі, Валынскі, Падольскі, Падляшскі, Інфлянцкі, Смаленскі, Севярскі, Чарнігаўскі, павеляваем:*

*Вядома хай будзе ўсім увогуле і кожнаму паасобку, каму пра тое ведаць належыць, што, як толькі па вызначэнню Божаму і па вольных галасах Польскага і Літоўскага народаў былі Мы ўзведзены на прастол Царства Польскага, той жа час з намерам ўшанавання заслужаных нам і Дзяржаве людзей, а таксама як прадмет заахвочвання заслуг, заснавалі па асобай Нашай Грамаце ў 7-ы дзень мая 1765 года ордэн імя Ангела Нашага, абаронцы ўсёй Дзяржавы Святога Станіслава, біскупа і мучаніка, і так як сын Ленчыцкага кашталяна Ліпскага пан Ксаверый Ліпскі выбраны Суддзёй і Дэпутатам для пасяджэнняў у Галоўным Трыбунале ў Вялікім Княстве Літоўскім, выдатнымі заслугамі паказаў быць таго вартым, — Мы, па Царскай нашай міласці, прызналі яго быць упрыгожаным Ордэнам Святога Станіслава і далучаем яго да ліку Кавалераў такога ордэна, для чаго онай*

*Граматай па ўсіх правілах і перавагах жалуем да канчыны Яго Наша ўшанаванне...»*

Сакратар Іван Заражыцкі «припечатал» на копіі ўказа пячатку за князя Аляксандра Сапегу, графа на Быхаў, Друю, Шкуды, Чэрэн, Ражаны, вялікага канцлера Вялікага княства Літоўскага.

З такой каралеўскай павагай Ксаверый Ліпскі ўпэўнена рухаўся па службовай лесвіцы. Яго абралі яшчэ дэпутатам у Духоўны трыбунал, прызначылі старшынёй межавага суда Мінскага ваяводства.

У 1796 годзе Ксаверый Ліпскі, як пасол ад Полацкай губерні, разам з графам Дзмітрыем Зубавым быў прыстаўлены да двара Усепрасвятлейшай імператрыцы Кацярыны II. Адтуль вярнуўся ў чыне прыдворнага саветніка і з падоранымі маёнткамі ў Ігуменскім павеце — Сяргеевічы, Кавалевічы і вёскамі Світайлаўка, Хароміцка.

Нейкі час Ксаверый Ліпскі займаўся, як памешчык, сваімі землямі, маёнткамі, адышоў ад актыўнай дзяржаўнай дзейнасці, бо ў службовым спісе пазначана, што ён быў толькі членам у Ігуменскім павятовым для ваенных павіннасцей прысутстввіі.

І вось наступіў выпрабавальны 1812 год. Армія Напалеона 24 чэрвеня перайшла Нёман непадалёк ад Коўна. Праз чатыры дні яе ўрачыста віталі насельнікі Вільні, сталіцы Вялікага княства Літоўскага. На чале французскай арміі па горадзе маршыраваў 8-ы польскі уланскі полк, якім камандаваў князь Дамінік Радзівіл.

Праз два тыдні войскі Напалеона былі ў Мінску, Навагрудку, Пружанах, выйшлі да Дзвіны і Дняпра. Французскі імператар аб'явіў аб аднаўленні Вялікага княства Літоўскага, і гэта натхніла патрыётаў сваёй дзяржаўнасці актыўна ўзяцца за справу.

Рускія чыноўнікі разам з мінскім губернатарам Дабрынскім і казной уцяклі ў Рэчыцу і там адседжваліся да канца вайны. А ў Мінску быў тэрмінова створаны Дэпартамент Вялікага княства Літоўскага па кіраўніцтву губерняй. У яго адміністрацыю ўвайшлі лепшыя прадстаўнікі мясцовага дваранства — Іосіф Валадкевіч, Ігнат Манюшка (дзядзька вядомага кампазітара Станіслава Манюшкі), Антон Ванькові́ч, Адам Гінтэр, Людвіг Камінскі, Ян Хадзько, Ксаверый Абуховіч, Апанас Прашынскі, Карл Чапскі, Міхаіл Пузына.

Мэрам Мінска стаў граф Ксаверый Ліпскі. Па метрыках, у яго было сем імёнаў: Ксаверый-Франц-Казімір-Норберт-Аліозій-Фадзей-Іосіф. Для мэрыі была вызначана галоўная задача: захоўваць парадак у горадзе, забяспечыць яго жыццядзейнасць, умацоўваць новую адміністрацыю і дапамагаць арміі вызваліцеляў.

15 жніўня, у дзень нараджэння Напалеона, адбылося ўсенароднае свята. Паўгадзіны гудзелі званіцы цэркваў і касцёлаў. Галоўны малебен адбыўся ў кафедральным саборы.

У 4 гадзіны апоўдні мэр горада граф Ліпскі разам з усім муніцыпалітэтам адправіўся на плошчу Высокі Рынак. Там адбылося адкрыццё помніка Напалеону, і мэр Ксаверый Ліпскі сказаў урачыстую прамову:

*«Абывацелі* і жыхары горада Мінска!*

*Калі б тут прысутнічаў Вялікі Напалеон і ўбачыў нашы сэрцы, ён пераканаўся б, што знаходзіцца сярод народа, які варты быць Яго народам. Гэту агульную радасць, гарачыя віншаванні і шчырыя пажаданні, якія мы сёння праяўляем, вырашана ўвекавечыць новым помнікам. Аб'яўляю, што гэты рынак надалей будзе называцца «Плошчай Напалеона»...»*

Да ночы святкаваў Мінск дзень нараджэння Напалеона. У гарадскім тэатры ішоў спектакль у вершах «Вызваленне Літвы», які напісаў прэзідэнт Хадзько. Сярод акцёраў быў сам Ян Хадзько, падпрэфект Ігнат Манюшка, спявалі княжна Юлія Радзевіч, пані Завішанская, Хадзько, Пржэздзецкая...

Ад імя Радзімы пані Юдзіцкая дэкламавала:

«Пачуйце мяне, палякі, выслухайце голас Маці,
Хай маё адраджэнне адродзіць і вас!»

І багата хто пачуў голас мэрыі Мінска аб дапамозе. Пачаліся ахвяраванні на карысць горада і яго патрэбы. Княжна Караліна Радзівіл ахвяравала 30 бочак жытняй мукі, 2 бочкі круп, 10 валоў, 20 бараноў. Граф Людвіг Ракіцкі адшкадаваў шэсць выробленых ласіных скур. Мінскі біскуп Дзядзерка выдзеліў для ваеннага шпіталя 200 гарнцаў** гарэлкі. Дзяўчына Пелагея Ваньковіч дала ваеннаму шпіталю 6 падушак, 12 палатняных кашуль, 42 фунты мёду, 10 драўляных лыжак...

Але палякі ды беларусы, якія так сардэчна паверылі ў адраджэнне сваіх зямель, хутка зразумелі: ім далі ўладу часова, як цацку, з якой можна толькі пацешыцца і пагуляць. Маршал Даву, якога так урачыста сустракалі мінчане на Ракаўскай шашы, будучы ў Магілёве, заявіў:

— Напалеон жадае ад палякаў ды беларусаў толькі трох рэчаў: хлеба, хлеба, хлеба.

А яшчэ трэба было паставіць у французскае войска сваіх сыноў, сабраць падаткі па 9,5 злотага з душы, лячыць параненых. Пад шпіталі і лазарэты пачалі займацца жылыя дамы, гімназіі, цэрквы. Мінск ператварыўся ў вялізны правіянцкі склад і эвакуацыйны пункт для параненых французскіх салдат.

Адны беларусы служылі ў расійскай арміі, другія — у напалеонаўскай. Ваявалі брат з братам, сусед з суседам. Такая варожасць стала новай трагедыяй нацыі. Яе хутка зразумелі і новыя кіраўнікі дэпартамента, і насельнікі беларускага краю.

Агульным выратаваннем для ўсіх стала выгнанне Напалеона і мудрае (!) рашэнне цара Аляксандра. 24 снежня 1812 года, у дзень свайго нараджэння, будучы ў вызваленай Вільні, цар абвясціў ма-

---

* **Абывацель** — так у прававых актах з XVI стагоддзя называлі паўнапраўных грамадзян Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, г. зн. феадалаў, шляхту, памешчыкаў.

** **Гарнец** — мера вадкасці ў сістэме мер Вялікага княства Літоўскага, малы (шынковы) гарнец раўняўся 2,8 літра, а вялікі (цэхавы) — у два разы большы.

ніфест аб усеагульнай амністыі для жыхароў польска-літоўскіх губерняў: «Возвещено забвение прошлого и полное прощение».

Вярнуўся ў свой маёнтак Сяргеевічы і граф Ксаверый Ліпскі. Вядома, што 21 студзеня 1818 года мінскія дваране абралі яго старшынёй Галоўнага суда ў 1-ы дэпартамент. Праз год яму за «усердную службу пожаловано» званне калежскага саветніка. Далей сляды графа Ліпскага губляюцца, і, відаць, як кожны смяротны на зямлі, ён адышоў у вечнасць.

Спадчыннікамі Ксаверыя Ліпскага сталі чатыры сыны: Каспер-Іосіф-Фадзей-Казімір (нар. 07.01.1804 г.), Станіслаў-Іван-Ігнат-Геранім (нар. 08.05.1807 г.), Аўгуст-Цэзарый (нар. 16.08.1808 г.), Франц-Іван (нар. 17.05.1811 г.).

Пра сыноў вядома мала. Яны дзялілі бацькавы маёнткі, і з інвентарнага вопісу можна пра тое-сёе даведацца.

Пры маёнтку Світайлаўка была вёска такога ж наймення. У шасці хатах жылі 40 чалавек: тры сям'і Шыдлоўскіх — Кацярыны, Саўкі і Міхаіла, сем'і Дзям'яна Церашковіча, Давыда Давідоўскага і Казіміра Амдзіонака.

У вёсцы Хароміцка — таксама вялікія сем'і: у шасці хатах — 47 душ. Тут свае прозвішчы: Летуны, Пікала, Палінчук.

У маёнтку Кавалевічы, а ўсе зямельныя ўладанні Ліпскага былі на адлегласці 50 вёрст ад Мінска, — 87 душ. У сем'ях па 6—12 чалавек: Дагуцькі, Пархімовіч, Зянкевіч, Ананьеў, Крыгун...

Граф Ліпскі дазваляў сялянам карыстацца дрывамі, лесам і выганам для пашы жывёлы, пры неабходнасці даваў матэрыяльную дапамогу. На кожны сялянскі двор прыпадала па 15 дзесяцін пашні і сенажаці. Кожны селянін мог зарабіць у гаспадара па 5—12 рублёў срэбрам у год. У якасці падаткаў беднякі здавалі ягады.

Маёнтак Сяргеевічы ў Шацкай воласці перайшоў ва ўладанне памешчыка Аляксандра Ельскага, які быў у прыязных адносінах з Дунінім-Марцінкевічам.

Пра сыноў Ксаверыя Ліпскага толькі і вядома, што Каспер жыў у бацькавых маёнтках да сваёй смерці, да 1861 года. Аўгуст стаў духоўнікам, служыў цэзарам-інфулатам у Санкт-Пецярбургу. Пражыў 72 гады, адышоў у нябыт у 1880 годзе.

Станіслаў Ліпскі служыў юнкерам лейб-гвардыі Падольскага керасірскага палка. У час паўстання 1831 года знаходзіўся ў Варшаве і, як сказана ў даносе, «вступил в ряды мятежников, поддержал кампанию против российских войск, не явился в Комиссию для принятия присяги от польских офицеров».

Рускія чыноўнікі прынялі рашэнне адняць на карысць казны пятую частку кошту ўсіх спадчынных маёнткаў, якія належалі Станіславу Ліпскаму. Гэта было зроблена: усё падлічана і «изъято» 10 539 рублёў 68 капеек.

І яшчэ. Станіслава Ліпскага, сына Ксаверыя, залічылі да другога разраду дзяржаўных злачынцаў. Яму прапісалі жорсткае і несправядлівае рашэнне: «воспретить навсегда возвращаться в Отечество».

Па волі чужынцаў, якія зняволілі яго Бацькаўшчыну, памёр Станіслаў Ліпскі на чужыне. Пахаваны ў 1850 годзе на парыжскіх могілках. Няма грэху, ды падвешаны. Хацеў бачыць сваю Айчыну вольнай, ды за гэта і пакараны. Ды так, што нават не знайшлося месца для магілкі на радзіме.

Даруй, сын графа, мэра Мінска і старшыні Галоўнага суда Мінскай губерні Ксаверыя Ліпскага. Прымі пакаянне, Станіслаў, з Беларусі, якая пакутна, але нястомна ідзе да сваёй вольнасці.

## *ПАСОЛ*

Юзэф Ліпскі (1894—1956) быў паслом Польшчы ў Германіі ў гады фашысцкага панавання. Ён — вяршыня сямейнага роду, яго чатырнаццатае калена. Давайце разам намалюем гэта непаўторнае чалавечае дрэва.

Заснавальнікам, коранем і падмуркам яго з'яўляецца Мацей, ад якога чатыры сыны — Ян, Святаслаў, Вацлаў і Мацей. Наш сучасны астролаг Павел Глоба не раіць называць дзіцё імем яшчэ жывога бацькі. Мы ж на радаводных паверхах назіраем даўнейшую звычку бацькоў — надаць аднаму з сыноў сваё імя. Найчасцей самаму любімаму. Разам з імем як бы перадаецца жыццёвы факел, надзея і вера сям'і.

Дык вось, Мацей спарадзіў Мацея. Адбылася гэта вялікая падзея ў 1587 годзе. На польскі трон якраз заступіў свежы кароль — Зыгмунд III са шведскай дынастыі Вазаў. У Вялікім княстве Літоўскім у гэтым годзе хавалі вялікага канцлера Астафія Валовіча. Яго пасаду, аж на 34 гады, рыхтаваўся заняць Леў Сапега. А Расіяй у гэты час валодаў ціхі і хваравіты цар Фёдар, апошні прадстаўнік Рурыкавічаў. Ён дажываў свой кароткі век, і кіраванне дзяржавай спусціў да брата сваёй жонкі Барыса Гадунова.

Вялікія і малыя падзеі хвалявалі свет. Ішлі бойкі за зямельныя абшары. Голад касіў людзей. Прымаўся Статут Вялікага княства Літоўскага. Па Люблінскай уніі пачала жыць Рэч Паспалітая. А ў маёнтку Ліп'е, у сям'і Мацея і Малгажаты, гулялі хрэсьбіны. Жадалі немаўляці Мацейку даўгалецця, здароўя і славы. І толькі мы цяпер можам бачыць, як спраўдзіліся тыя надзеі бацькоў.

Мацей, калі надышоў час спеласці, займеў сына Станіслава, пазнанскага харунжага. Той — сына Адама. І пачаў ствараццa жывы чалавечы ланцужок. Як зялёная мурав інка прабіваецца вясною праз зямную цемру да жывільнага сонейка, так і ў чалавечым родзе рухаецца да вяршынь знакамітасці нечае Я. Не ўсе муравінкі дацягваюцца да сонечных промняў. Не ўсім добра пад імі. Не паспеюць нацешыцца, іх карова захапіла языком. Іх брые вострая каса, яны засыхаюць ад спякоты. Нешта падобнае адбываецца і ў людзей. Так здарылася і з сямейным родам Мацея з Ліп'я.

Толькі ў чатырнаццатым пакаленні засвяцілася таленавітая зорка. Ёй стаў вядомы дыпламат Юзэф Ліпскі. Увесь гэты час, ад

1587 да 1894 года, з пакалення ў пакаленне перадаваліся лепшыя гены. Вось той чалавек, мосцік, які вывеў у людзі пасла: Мацей—Мацей—Станіслаў—Адам—Станіслаў—Войцэх—Аляксей—Ян—Ксаверый—Міхаіл—Войцэх—Юзэф—Войцэх—Юзэф...

Войцэх, прадзед пасла Юзэфа Ліпскага, вучыўся ў кадэцкім корпусе ў Калішы, старажытным польскім паселішчы, на мяжы з Прусіяй. Прымаў удзел у паўстанні 1831 года. Пасля вяртання ў Пазнанскае ваяводства адсядзеў год у глагоўскай крэпасці. Дарэчы, яго бацька Міхаіл памёр у 1813 годзе ў расійскай турме. Да канца жыцця Войцэх цікавіўся палітыкай і не парываў сувязі з кругамі польскай канспірацыі. Спрабаваў, як дэлегат мясцовага сейміка, адкрыць польскую сярэднюю школу, навучальню для дзяўчынак. Заснаваў часопіс «Землеўладальнік», пісаў артыкулы з вопыту сваёй працы на зямлі.

Войцэхам зваўся і бацька пасла. Ён нарадзіўся ў Ляўкове, у сям'і памешчыка, сын Юзэфа і Антаніны Качароўскай. Закончыў гімназію ў Астрове. Вывучаў права і эканоміку ў Кракаве, Вроцлаве, Лейпцыгу. У 1884 годзе, з прычыны смерці бацькі, перапыніў працу над дысертацыяй і ўнаследаваў Ляўкова. Засядаў у пазнанскім сейміку. Быў адным з заснавальнікаў саюза вялікапольскіх землеўласнікаў. У сярэдзіне 1918 года стаў членам тайнага грамадзянскага камітэта ў Познані. Такі ж камітэт арганізаваў у Астрове і стаў яго старастам. Калі вярталіся з Германіі рускія ваеннапалонныя, арганізоўваў над імі апеку. Не шкадаваў свайго багацця для адраджэння Польшчы. Пакінуў пасля сябе рукапіс «Мае ўспаміны аб вялікапольскім паўстанні 1918—1919 гадоў». Узнагароджаны Крыжам Незалежнасці. Памёр у Ляўкове 16 кастрычніка 1930 года. Пахаваны ў сямейным склепе.

А цяпер — сенсацыя!

Ежы Петшак у «Польскім біяграфічным даведніку» паведамляе:

«Войцэх Ліпскі быў жанаты (з 1890 года) на Соф'і Ліпскай, дачцэ Яна, маршала шляхты Віцебскай губерні і ўдзельніка студзеньскага паўстання».

Божа, як пераплятаюцца людскія дарогі і лёсы! Можна пісаць раман пра Івана Ігнатавіча Ліпскага, прадвадзіцеля дваранства Віцебскай губерні, пра яго мужную і пакутную ўдаву Аліну, якой напалохаўся сам Мураўёў і выслаў пад нагляд паліцыі ў варонежскія стэпы, пра іх добрых і спагадлівых дачок — Марыю, Імельфію, Соф'ю, Рафаэлу.

Цяпер мы ведаем: адна з іх, Соф'я, знайшла сваё шчасце на польскай зямлі, у Ляўкове, з Войцэхам Ліпскім. Першым нарадзіла сына Яна, імя яму дала ў гонар свайго бацькі, якога любіла і шанавала. Другога сына назвалі па імені бацькі мужа — Юзэф.

Шкада, мы больш нічога не ведаем пра Соф'ю Ліпскую. Але ёсць звесткі пра яе сыноў. Яны прыстойна пражылі, уславілі род. Дык ці не з малаком маці, з яе пяшчотай і святасцю ўвабралі ў сябе ўсё лепшае, прыгожае, чалавечнае?

Ян нарадзіўся ў Ляўкове, у Астроўскім павеце. Вучыўся ў гім-

назіі ў Астрове. Экзамены на атэстат сталасці здаў у Пачкове, у Сілезіі. У Мюнхене атрымаў вышэйшую адукацыю па прафесіі юрыст-эканаміст. Гаспадарнічаў у маёнтку Шчуры ў Астроўскім павеце, а тады — у бацькоўскім Ляўкове. Служыў міравым суддзёй у Астрове. Уваходзіў у Пазнанскі камітэт крэдытнага земства, выбіраўся ў сеймік. Працаваў старшынёй вялікапольскага земскага саюза. Быў членам галоўнай класіфікацыйнай камісіі пры Міністэрстве дзяржаўнай маёмасці. Узначальваў банк «Квілецкі—Патоцкі»...

У лістападзе 1939 года арыштаваны фашыстамі. Вывезены ў Берлін, у падзямеллі гестапа на Прынц Альберт-штрасэ. Адтуль перавезены ў лагер Заксенгаузен. Там праз паўгода цяжка захварэў, у стане агоніі яго перавозілі з аднаго шпіталя ў другі. Праз год невылечна хвораму Яну Ліпскаму дазволілі жыць у Польшчы, але пад наглядам гестапа. Памёр у Варшаве 18 снежня 1943 года. Двойчы ўзнагароджаны Крыжам Заслугі. Жанаты быў на Антаніне Жултоўскай. Меў сына Войцэха і чатырох дачок.

За што ж так помсцілі гестапаўцы Яну Ліпскаму? Чым ён правінаваціўся перад імі? А мо з-за брата Юзэфа?

Юзэф Ліпскі нарадзіўся 5 чэрвеня 1894 года ў Брэслаўлі. Закончыў нямецкую гімназію ў Астрове. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Лазане.

Пачынаў службу ў Парыжы, у Нацыянальным польскім камітэце. З 1919 года прыняты на польскую дыпламатычную службу. Быў сакратаром пасольстваў у Лондане, Парыжы, Берліне ў такіх вопытных паслоў, як Яўстахій Сапега, Маўрыцый Замойскі, Альфрэд Хлапоўскі і Казімір Альшоўскі.

З 1925 па 1933 год працаваў у Міністэрстве замежных спраў Польшчы. Часта выязджаў у складзе высокіх польскіх дэлегацый на міжнародныя канферэнцыі. Па службовай лесвіцы падняўся да саветніка міністэрства. Таленавітага дыпламата Юзэфа Ліпскага прыкмеціў нават «начальнік» Польшчы, маршал Юзэф Пілсудскі, і пабываў у яго бацькоў у Ляўкове. Высокага госця шчодра прымалі Войцэх і Соф'я Ліпскія. І было гэта ў 1928 годзе.

Юзэф Ліпскі, лічылася, лепш за ўсіх польскіх дыпламатаў разбіраўся ў нямецкіх праблемах. І калі да ўлады ў Германіі дарваліся фашысты, з Берліна быў адазваны польскі пасол Альфрэд Высоцкі. Яго пераемнікам стаў Юзэф Ліпскі, які прыбыў у Берлін 3 чэрвеня 1933 года. Малады, энергічны, таленавіты пасол Польшчы імкнуўся зблізіць суседнія дзяржавы. З міністрам замежных спраў рэйха К. Нойратам падпісаў пакт аб ненападзенні.

Да восені 1938 года Юзэф Ліпскі карыстаўся папулярнасцю ў сталіцы рэйха, быў у добрых адносінах з кіруючымі коламі гітлераўскай Германіі, усё рабіў, каб Германія захавала сяброўскія адносіны да Польшчы. Але выйгрыш часу, пра які гаварылі паслу Ліпскаму кіраўнікі Польшчы Пілсудскі і Бек, быў выйгрышам выключна на карысць Германіі і яе агрэсіўнай палітыкі.

У канцы сакавіка 1939 года адбылася вострая размова Ю. Ліп-

скага і Рыбентропа. Польскі пасол адчуў, што губляе кантакты, з ім не лічацца ў акружэнні Гітлера. Адвярнуўся нават Г. Герынг, з якім яшчэ нядаўна Юзэф Ліпскі мог неафіцыйна сустрэцца.

Пасол перадаў такі настрой германскіх лідэраў у Варшаву, папрасіў адстаўкі. З ім не пагадзіліся.

31 жніўня ў 18 гадзін 30 хвілін адбылася кароткая, у ледзяной атмасферы, размова Юзэфа Ліпскага з Рыбентропам. Праз некалькі гадзін фашысты аб'явілі вайну Польшчы. Пасольства было ізалявана ад усяго свету. Пачалася другая сусветная вайна.

2 верасня пасол Юзэф Ліпскі пакінуў Берлін, каб праз Данію і балтыйскія краіны трапіць на радзіму. Але шлях на радзіму быў для яго закрыты. Ён здолеў прабрацца ў Парыж і там напісаў свой рапарт аб заканчэнні дыпламатычнай місіі ў Берліне.

Далейшы лёс пасла Юзэфа Ліпскага звязаны з вайной і замежжам. Ён служыў у французскай дывізіі грэнадзёраў, прымаў удзел у баях з немцамі. Пасля паражэння Францыі трапіў у Англію. У званні паручніка быў дарадцам у генерала В. Сікорскага, суправаджаў яго ў паездцы ў ЗША. Будучы маёрам, удзельнічаў у баях у Італіі.

Пасля заканчэння вайны — у эміграцыі. Спачатку ў Англіі, а з 1951 года — у Злучаных Штатах Амерыкі. Яго мемуары аб дыпламатычнай службе ў Берліне выкарыстоўваліся, як дакументы, на Нюрнбергскім працэсе.

Юзэф Ліпскі памёр 1 лістапада 1958 года ў Вашынгтоне. Яго жыццё і служба ацэнены ордэнам Палонія Рэстытута, французскім ордэнам Ганаровага легіёна, бельгійскім ордэнам Кароны, нарвежскім ордэнам Святога Олафа, дацкім ордэнам Данеброга, чатыры разы Крыжом Доблесным.

Юзэф Ліпскі быў жанаты на Ганне Машынскай. Спадчыннікаў не пакінулі.

## *РОТМІСТР**

Іван Ліпскі падняўся ў сваім жыцці да ротмістра Аршанскага павета, старосты** езярыцкага.

А было гэта так.

Бацька Іванаў, таксама Іван, выхоўваўся ў сям'і кракаўскага біскупа Ліпскага. Пасля ажаніўся на дачцэ кіеўскага ваяводы. І з ёй прыдбаў сына Івана, які ажаніўся на княжне Друцкай-Саталінскай.

Выгадны шлюб прынёс Івану Ліпскаму і пасаду, і спадчынныя маёнткі. У Віцебскім ваяводстве ён валодаў староствам Езярыцкім

---

* **Ротмістр** — камандзір роты ў войску, прызначаўся на пасаду ад ваяводства ці зямлі з аселых шляхціцаў, якія добра ведалі вайсковую справу.

** **Староста** — службовая асоба ў павеце, акрузе, дзяржаўным маёнтку, выконваў адміністрацыйныя і судовыя функцыі. Староствы даваліся на пажыццёвае карыстанне, як узнагарода за паслугі вялікаму князю ці дзяржаве.



**ГЕРБ «ГРАБЛІ»**
да раздзела «РОТМІСТР»




## ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «РОТМІСТР» (ГЕРБ «ГРАБЛІ»)

**6** — пра яго раздзел «РОТМІСТР»; **14** — поўнае імя Міхаіл-Геранім, памёр у 1752 г.; **25** — ад яго пайшоў род, які апісаны ў раздзеле «Лапташ»; **26** — паручнік, нар. 1727 г.; **29** — возны, нар. 1758 г.; **30** — нар. 1772 г.; **31** — нар. 1775 г.; **32** — нар. 1776 г.; **33** — нар. 1784 г.; **34** — нар. 1771 г.; **35** — нар. 16.01.1779 г.; **36** — нар. 1778 г.; **39** — нар. 1763 г.; **40** — нар. 1769 г.; **41** — нар. 1761 г.; **42** — нар. 1757 г.; **43** — поўнае імя Фёдар-Франц, нар. 1765 г.; **44** — поўнае імя Мікалай-Франц., нар. 1778 г.; **46** — нар. 1790 г.; **47** — нар. 1783 г.; **48** — нар. 1793 г.; **49** — нар. 1808 г.; **50** — поўнае імя Антон-Фелікс, нар. 1802 г.; **51** — нар. 1788 г.; **52** — поўнае імя Каміль-Сымон, нар. 1838 г.; **53** — поўнае імя Аляксандр-Карл-Юльян, нар. 1834 г.; **54** — поўнае імя Фадзей-Отан, нар. 1836 г.; **55** — поўнае імя Станіслаў-Мікадзім-Геранім, нар. 1828 г.; **56** — поўнае імя Фадзей-Люцыян-Войцэх, нар. 1832 г.; **57** — нар. 1804 г.; **58** — нар. 06.11.1806 г.; **59** — нар. 1821 г.; **60** — поўнае імя Канстанцін-Антон, нар. 1824 г.; **61** — нар. 1818 г.; **62** — нар. 1825 г.; **63** — нар. 1797 г.; **64** — нар. 1810 г.; **65** — нар. 1814 г.; **66** — нар. 1812 г.; **67** — губернскі сакратар, нар. 1825 г.; **68** — нар. 1805 г.; **69** — поўнае імя Фадзей-Пётр, нар. 1873 г.; **70** — поўнае імя Уладзіслаў-Баляслаў, нар. 1861 г.; **71** — нар. 1847 г.; **76** — нар. 1843 г.; **77** — нар. 1861 г.; **78** — нар. 1864 г.; **79** — нар. 1870 г.



61. МАКСІМІЛЬЯН
71. АНТОН
39. БАНІФАЦЫЙ
62. ЛАЎРЭН
72. ДАМІНІК
40. ЮСІФ
63. ВАРФАЛАМЕЙ
73. МІХАІЛ
41. МІКАЛАЙ
64. ІВАН
42. ІГНАТ
65. ЮСІФ
74. АНТОН
26. АНТОН
44. МІКАЛАЙ
66. МАЦВЕЙ
75. ФРАНЦ
27. МІХАІЛ
43. ФЁДАР
67. ЗАХАР
76. АЛЯКСАНДР
16. ФРАНЦ
28. КАЗІМІР
45. ГІПАЛІТ
77. ІВАН
I
17. МАРТЫН
29. ПАВЕЛ
46. МАТЭВУШ
78. ЛЮДВІГ
18. АНТОН
30. ЛЯВОН
47. ПЁТР
68. ФРАНЦ
79. АНТОН
19. ЮСІФ
31. МІКАДЗІМ
48. ІВАН
20. СТАНІСЛАЎ
32. ЮСІФ
49. МІХАІЛ
22. АЛЯКСАНДР
33. ФАДЗЕЙ
50. АНТОН
II
21. МАТЭВУШ
35. АДАМ
51. ЮСІФ
III
24. МІХАІЛ
34. ФАДЗЕЙ
52. КАМІЛЬ
25. ФРАНЦ
36. ВІКЕНЦІЙ
53. АЛЯКСАНДР
69. ФАДЗЕЙ
23. ІВАН
37. АНТОН
54. ФАДЗЕЙ
70. УЛАДЗІСЛАЎ
38. МІХАІЛ
55. СТАНІСЛАЎ
56. ФАДЗЕЙ
57. ЮСІФ
58. КАРЛ
59. МАТЭВУШ
60. КАНСТАНЦІН

з вёскамі Грамы, Вялікія і Малыя Паляшаны, Прыкупна, Палішкі, а ў Полацкім ваяводстве — вотчыннымі маёнткамі Забеле, Наўліч, Поне, Прэдалы, Свірыдаўка, Ветрына і «прочими», як сказана ў архіўным дакуменце.

Але павагу да сваёй асобы, аўтарытэт сярод чыноўнікаў і сялян займеў Іван Ліпскі ў час ваенных выпрабаванняў. Займеўшы прадпісанне Януша Радзівіла, гетмана Вялікага княства Літоўскага, ён стварыў на свае сродкі атрад народнай кавалерыі і змагаўся «супраць бунтуючых казакаў і дружын дзяржаўных, якія былі ў вайне з Вялікім княствам Літоўскім».

А што гэта праўда, чытайма збуцвелы гістарычны ліст:

*«Мы, сенатары, земскія і гродскія чыноўнікі, воінства, дваране і абывацелі Аршанскага павета, сабраліся па вяленню Яго Каралеўскай вялікасці ў Оршы Кастрычніка 11 дня 1649 года для выбара на наступаючы Варшаўскі сейм пасланнікаў, аб'яўляем сім нашым сведчаннем, што, ведаючы мужнасць пана Івана Ліпскага, праяўленую ім у імя Айчыны, выбралі мы дэпутатам яго, ротмістра народнай кавалерыі, які пры Аршанскім палку і з іншымі сваімі сябрамі, ротмістрамі Аршанскага павета, даказаў сяброўства і міласць да Айчыны, асабістымі сродкамі ўтрымліваў свой атрад і праяўляў гераічныя подзвігі. Мы выказваем яму шчырую падзяку і прызнанасць...»*

Пратакол падпісалі смаленскі ваявода Юры Горскі, харунжы Вялікага княства Літоўскага Адам Схушко, падкаморы аршанскі Іван Падаберзкі, суддзя Мікалай Баратынскі, падсудак Якаў Віслаух, пісар земскі аршанскі Герасім Сакалінскі.

Мяркуючы па даце гэтага дакумента, Іван Ліпскі прымаў удзел у вайне 1648—1651 гг. на Беларусі і Украіне. Следам кацілася трынаццацігадовая захопніцкая вайна рускага самадзяржаўя за землі Смаленшчыны, Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы і польскі трон. Цар даў наказ сваім паслухмяным войскам: «Касцёлам не быць! Уніятам не быць! Жыдам не быць! Забіваць, колькі міласэрны Бог дапаможа!..»

Як Пярун, бог нябеснага агню, пускае на зямлю свае вогненныя стрэлы, так наляцела варожая маланка на нашу пакутную зямельку. Пярун у народным уяўленні — гэта страла нябеснага Уладара, скіраваная ў грэшных нячысцікаў. А яны любяць хавацца за сумленных людзей, у іхніх хатах. Вось і гінуць бязвінныя...

Аднаму Богу вядома, колькі праліта крыві, колькі загінула шчырых патрыётаў Беларусі ў баях за абарону Оршы, Полацка, Віцебска, Мсціслава, Гомеля, Рэчыцы, Стрэшына, Жлобіна...

Хочацца верыць, што ротмістр кавалерыі Іван Ліпскі не адседжваўся ў акопах. Ён быў не толькі мужным, але і прынцыповым, верным патрыётам сваёй Айчыны.

Захавалася скарга ў Мінскі гродскі суд ад 4 кастрычніка 1651 года, якую падаў аршанскі ротмістр Іван Ліпскі на свайго таварыша Рыгора Вяліцкага. Камандзіраваў яго ротмістр збіраць хлеб для ўтрымання каманды, а той прыкарманіў 200 злотых. Ён не даравaў і сынам Карлу, Канстанціну, якія аднойчы падвялі бацьку.

Паслаў ротмістр сыноў сваіх занесці салдатам атрада жалаванне і парцыённыя грошы, а яны не данеслі іх да абозу, які стаяў пад Рэчыцай. Вярнуліся дамоў з тысячай злотых.

Пакрыўджаны «столь низким» учынкам сыноў сваіх, Іван Ліпскі загадаў у час генеральнага агляду войск адлупцаваць іх бізунамі. А калі складваў духоўны запавет, то завяшчаў Карлу і Канстанціну тую тысячу казённых злотых, якую яны ўкралі. Трэцяму сыну — Гераніму, які ўвесь час знаходзіўся з ім у паходах, ахвяраваў свае маёнткі. А іх засталося мала, бо амаль усе страціў у час вайны, як ён сам напісаў, «вайны казацкай, маскоўскай і шведскай».

Геранім Ліпскі прадоўжыў бацькаву вернасць вайсковай справе, служыў полацкім падстоліем. Ад войска Вялікага княства Літоўскага ён ездзіў у Маскву для абмену палоннымі. У архівах ляжыць пісьмо стражніка Уладзіслава Халецкага да полацкага падстолія:

*«Міласцівы Пан і брацец Ліпскі!*

*Маючы зручны выпадак засведчыць Вам праз пана Грыцкевіча маю павагу, прашу адшукаць хлопчыка майго, якога я аддаў на ўслугі Айчыне... Са шчырай павагай і адданасцю застаюся Вашым братам і пакорным слугою».*

Такіх пісьмаў Геранім Ліпскі вёз у Маскву нямала. Няпростую місію даручыў яму гетман Вялікага княства Літоўскага. І ён з ёй справіўся, бо далей карыстаўся вялікай пашанай.

Вось толькі родзічы жонкі не давалі спакою. Геранім удала ажаніўся на Канстанцыі Гарабурдзянцы. А яна прынесла ў прыданае маёнткі Гібайлавічы, Куплонка, Свірыдаўка ў Аршанскім павеце, Галынка, Дарагабушка, Маляцічы — у Слонімскім, Красна — у Полацкім, Вязь — у Мінскім павеце, а закладныя маёнткі Маклакова і Талсцяны — у Віцебскім ваяводстве. Гэта багацце, якое яна перадала ва ўладу свайго мужа Гераніма Ліпскага, і не давала спакойнага сну яе ваяўнічым родзічам.

Вось як апісвае гэту драму сын Гераніма Міхаіл у сваім духоўным запавеце:

*«...7 ліпеня 1690 года ў маёнтку Гібайлавічы апоўначы, калі пані падстоліна з дзецьмі сваімі і пакаёўкі леглі спаць, а служывыя мужчыны з коньмі былі на начлезе, адна са служанак, якая спала ў пярэдняй, убачыла праз шкляное акенца вялікі агонь. Выбегла, а дах спальні, у якой адпачывала падстоліна, — гарыць. Падняла крык. Падстоліна выбегла на крык без адзежы з трыма дзецьмі. Камора, два склепы з жаночым плаццем, бялізнай, абрусамі, якія хаваліся там ад пацукоў, два куфры з грашыма, у якіх — чырвонцы, талеры і мелкая манета, куфар са зброяй, а таксама дакументы, прывілеі Караля на маёнткі — усё гэта ў попел ператварылася...*

*Вядома і Богу, і людзям, як я нацярпеўся з-за маёнткаў маіх у Слонімскім павеце ад Міхаіла-Карла Гарабурды, стрыечнага брата маёй маці Канстанцыі, жонкі Гераніма Ліпскага. Бацькі яе Іван і Кацярына памерлі, пакінуўшы непаўналетнюю Канстанцыю на апеку дзядзькі Івана Гарабурды, а па смерці якога названы Слонімскі маршалак Міхаіл Гарабурда беззаконна прысвоіў сабе чацвёртую частку вотчынных яе маёнткаў Галынка, Ма-*

*ляцічы, Дарагабушка, а ў Полацкім ваяводстве — Красна, Салтанаўка. Ды яшчэ прымушаў маці маю прадаць яму маёнткі поўнасцю. Аднойчы я быў адкамандзіраваны ад майго палка ў Мінск, да Генеральнага палкоўніка Вялікага княства Літоўскага, віцебскага кашталяна і Маршалка Галоўнага Літоўскага Трыбунала Котлы для атрымання асігновак, то ў час маёй адсутнасці Міхаіл Гарабурда з вялікім атрадам узброеных людзей паслаў свайго сына Венядзікта ў маёнтак маёй маці Бойкі. Досвіткам, як вораг, ускочыў ён з крыкам у хату з аголенай шабляй. Біў ёй бацьку майго, а брата злавіў за валасы і кінуў на зямлю. Сястру маю біў нагайкай. Пасля забраў куфар з грашыма, дакументамі, два пісталеты, шаблю, бурку, жывёлу — і ўсё перавёз у бацькі свайго маёнтак — Астравец.*

*Бацька мой цярпеў ад Гарабурдаў пастаянныя разбоі, набегі на маёнтак Бойкі. А па іх смерці непрыемнасці чынілі новыя ўласнікі — Палубінскія, Гродзенскі падкаморы Фадзей Юндзіла, ■ больш за ўсіх Антон Пржэздецкі, пісар Вялікага княства Літоўскага. Ён заняў пасля Гарабурдаў маёнткі Астроў, Маляцічы. Прывёў мяне да такой крайнасці, што я вымушаны быў з дзецьмі бадзяцца з месца на месца, будучы законным, па маці маёй Канстанцыі, уладальнікам тых маёнткаў. Ды яшчэ моцай сваёй не дапускаў вырашыць між намі спрэчку ў Галоўным Літоўскім Трыбунале, за ўсе мае крыўды Бог адпомсціць яму...»*

Міхаіл Ліпскі, падстолій полацкі. Жанаты быў на Камашэўскай, дачцэ суддзі Лідскага земскага суда. Яны нажылі сыноў Антона, Іосіфа, Станіслава, Матэвуша, Аляксандра. Памёр бацька гэтага вялікага сямейства 29 жніўня 1752 года. Яго духоўны запавет — гэта споведзь жыцця, па якой можна меркаваць, якім быў Міхаіл Ліпскі, у які час жыў, якім было яго жыццё. Пра вайну паміж родзічамі за маёнткі мы ўжо ведаем. А што яшчэ запісаў Міхаіл Геранімаў у сваім запавеце?

*«У імя Айца, і Сына, і Святага Духа Ісуса, Марыі, Іосіфа, Я, падстолій Полацкі Міхаіл, Геранімаў сын, Ліпскі, маючы на ўвазе святую Божую волю, што лёсам кожнага чалавека ёсць смерць, ■ не ведаючы часу, у якім яна мяне падкараўульвае, раблю так, як прыстойна кожнаму чалавеку, які трымаецца рымска-каталіцкай веры, грэшную маю душу ўручаю Ісусу Хрысту, творцу і збавіцелю майму, прасвятой Багародзіцы, апякунцы маёй, прашу яе, каб прадставіла мяне перад Сынам сваім, прашу ўсіх нябесных анёлаў, каб Госпад Бог быў літасцівы да маёй грэшнай душы. Маючы стары ўзрост і слабое здароўе, адчуваючы набліжэнне смерці, але знаходзячыся яшчэ ў прысутнасці духа і маючы добрую памяць, апошняй воляй сваёй абавязваю сыноў маіх Антона, Іосіфа, Станіслава, Матэвуша і Аляксандра, дачку маю Кацярыну Ліпскіх пасля смерці маёй грэшнае цела маё пахаваць у Луконіцкай царкве. Маёнткі, якія будуць прысуджаны мне па заканчэнні працэса ў Галоўным Літоўскім Трыбунале, адпісваю Дзецям маім у роўных частках. Прашу са слязамі, каб справядлівымі сваімі рашэннямі Трыбунал абараніў маіх дзяцей ад несправядлівасці і прыгнёту маіх ворагаў...*

*Даручаю сыноў сваіх і дачку пад апеку Ісуса Хрыста, Святой Багародзіцы і ўсіх святых».*

У пятым калене ад ротмістра народнай кавалерыі Івана Ліпскага вырас паручнік расійскіх войск Фадзей Ліпскі, праўнук Гераніма. Бацька Фадзея Станіслаў Міхайлаў служыў грамадзянскім ваен-

ным камісарам у Слонімскім павеце. І гэта наводзіць на думку, што даўней на Беларусі ўсе, хто меў маёнткі і зямлю, былі яшчэ і прафесійнымі воінамі. Вельмі ж багата існавала ахвотнікаў праглынуць, захапіць спакуслівую божую прастору.

Пісьменнік Кастусь Тарасаў склаў «Кароткі спіс войнаў, бітваў, паўстанняў, у якіх удзельнічалі беларусы». У тым «кароткім» даведніку пазначана 314 бойняў. І гэта толькі за апошняе тысячагоддзе нашай эры. Але што трэба помніць нашчадкам: беларусы ніколі не распачыналі ваенныя пажары. Іх уцягвалі ў бойкі. Яны абаранялі сваю зямельку да апошняга ўздыху. Яшчэ прыйдуць летапісцы, якія на ўвесь свет уславяць цярпенне, дабрыню і мужнасць нашых прашчураў, дзедзічаў, бацькоў. А пакуль задумаемся: якія мы самі, што робім, каб бараніць вольнасць і незалежнасць мілай да слёз Беларусі?

Ды вернемся да паручніка расійскіх войск, шляхціца Фадзея Ліпскага. Ён удзельнічаў у выгнанні войск Напалеона, які так і не спраўдзіў свайго абяцання — аднавіць Вялікае княства Літоўскае. Па сведчанні генерал-маёра Рахманава, камандзіра 6-ай пяхотнай дывізіі, паручнік Фадзей Ліпскі «знаходзіўся ў баях і сваёй храбрасцю, бясстрашнай мужнасцю даваў прыклад сваім падначаленым, а пры асадзе крэпасці горада Данцвіга жніўня 21 дня 1813 года паранены ў правую руку, якой цяпер не валодае...»

Фадзей Ліпскі вярнуўся на радзіму інвалідам, жыў у Слоніме. Яму прызначылі пенсію 450 рублёў у год, а па царскаму «повелению» дадаткова выдавалі 150 рублёў у год замест дзеншчыка, для найму вольнай прыслугі. У 1818 годзе для нейкай патрэбы Фадзей прасіў характарыстыку на сябе ў прадвадзіцеля дваранства і памешчыкаў Слонімскага павета. Вось што яны напісалі:

*«По прошению господина Фадея Станиславова, сына Липского, отставного поручика войск Российских и Кавалера, выдать настоящее наше свидетельство в том, что он, господин поручик Липский, происходя из дворянской фамилии здешнего уезда, живет после службы здесь, в городе Слониме. Удостоверяем, что он есть преотличных характера, нравов и поведения, сим образом заслужил наше доверие и почитание».*

Гэта пасведчанне ўмацавалі «собственноручными» подпісамі графы Станіслаў і Адам Солтаны, памешчыкі Іван Стравінскі, Самуіл Есьман, Станіслаў Юндзіла.

Фадзей Ліпскі вярнуўся з фронту, калі яму было 29 гадоў. Ажаніўся на Гангрэце з Есьманаў. У іх нарадзіліся сыны, якім яны прыдумалі складаныя імёны: Станіслаў-Нікадзім-Геранім (нар. 21.Х.1828 г.), Фадзей-Люцыян-Войцэх (нар. 29.XII.1832 г.), Аляксандр-Карл-Юльян (нар. 03.VI.1834 г.), Фадзей-Отан (нар. 23.III.1836 г.), Каміль-Сымон (нар. 21.VI.1838 г.).

Фадзей-Отан вучыўся ў Аляксандраўскім Брэсцкім кадэцкім корпусе. Служыў у войску. Удзельнічаў у Крымскай вайне ў 1853—1856 гадах. Узнагароджаны ордэнам Святога Станіслава 3-яй ступені і бронзавым медалём на Андрэеўскай стужцы. Звольнены са службы з-за хваробы ў чыне штабс-капітана. Такая вайсковая кар'ера ў сына Фадзея Станіслававa Ліпскага.

Яшчэ трэба ўлічыць, што брат Фадзея Павел, па прывілею караля Станіслава-Аўгуста Панятоўскага, быў возным Мінскага ваяводства. А другі брат Іосіф служыў рэгентам слонімскім, старшынёй земскага суда, членам камітэта ваенных патрэб. Узнагароджаны ордэнам Святога Уладзіміра 4-ай ступені. Як бачым, эстафета вайсковай годнасці і прыстойнага жыцця Ліпскіх прадаўжалася.

Але кожная новая радаводная прыступка ўносіла свае змены. І не заўсёды ў лепшы бок. Вось аб чым піша прадвадзіцель дваранства Мінскага павета Багдашэўскі 24 чэрвеня 1848 года:

*«Вследствие поданного прошения дано сие от Минского Уездного Предводителя Дворянства ■ том, что Дворяне Минского Уезда Михаил, Иосиф, Антон, Павловы сыновья, Липские суть бедного состояния и действительно не имеют никаких средств сделать перевод с Документов, служащих доказательством о Дворянском их происхождении на узаконенной Гербовой бумаге...»*

А вось у дваранiна Слонімскага павета Аляксандра-Карла-Юльяна, Фадзеевага сына, Ліпскага ўзнікла свая праблема. Здарыўся ў Гродне пажар 29 мая 1885 года, «истреблены» дакументы дваранскага архіва. І трохімянны сын Фадзееў пытае геральдыю, як яму пісацца: адным імем ці трыма? А ў адказ чыноўнікі «уведомляют», што ў спісах дваран Аляксандр-Карл-Юльян Фадзееў Ліпскі не лічыцца...

Праблемы ўзніклі ў шостым ад Івана калене. Ішло на схіл XIX стагоддзе. Якія падножкі чакалі гэты род Ліпскіх у новых пакаленнях? У XX стагоддзі?..

Гэта ўсё звесткі пра Геранімаву лінію, якая пайшла ў жыццё ад паслухмянага і любімага сына ротмістра народнай кавалерыі Івана Ліпскага. А што здарылася з яго сынамі Карлам і Канстанцінам, якім бацька не даравaў украдзеныя вайсковыя грошы?

У Канстанціна быў сын Антон. І болей — аніякіх звестак.

Карл меў трох сыноў — Гераніма, Гаўрылу, Хрызастама. Патомства пайшло толькі ад Гаўрылы, уладальніка маёнтка Поліна ў Аршанскім павеце. Яго сын Франц не даў вымерці роду, «произвел» трох сыноў — Антона, Міхаіла і Казіміра. Іх «след» пайшоў у Магілёўскую губерню.

Найбольш у гэтай лініі пашанцавала Антону Францаву Ліпскаму. Ён, здаецца, падняўся на самую высокую жыццёвую прыступку ў гэтай радаводнай лініі. Даслужыўся да харунжага палка перадавых атрадаў. Яго рэкамендавалі ў паручнікі. І вялікі ваявода, гетман Вялікага княства Літоўскага Міхаіл Радзівіл сваім указам ад 23 сакавіка 1755 года «произвел благородного Антона Липского из хорунжего ■ чин поручика». Антон Ліпскі меў чатырох сыноў — Ігната, Мікалая, Іосіфа, Баніфацыя; шэсць унукаў — Мацвея, Іосіфа, Івана, Варфаламея, Лаўрэна, Максіміляна; дзевяць праўнукаў — Дамініка, Міхаіла, Франца, Аляксандра, Івана, Людвіга і трох Антонаў.

Сем'і гэтых Ліпскіх жылі ў Магілёўскім, Быхаўскім, Чачэрскім,

Мсціслаўскім, Аршанскім паветах. Упамінаюцца маёнткі і фальваркі Копысь, Сакалаўшчына, Длаўкі, Грыбы. Дзеці, унукі і праўнукі Антона найчасцей карысталіся не спадчыннымі, а закладнымі землямі і маёнткамі. Па-сучаснаму мовіць, жылі не гаспадарамі ў хатах, а як кватаранты, прымакі. Зямлю бралі ў арэнду, купляць не было за што.

Толькі адну купчую адшукаў у архівах. Яна, думаю, зацікавіць чытача, бо прыадкрывае завесу старога часу і на сцэне жыцця высвечвае такую дзею, якую нам цяжка і ўявіць.

У дваццаты дзень лютага 1822 года Магілёўскі павятовы суд зацвердзіў купчую крэпасць, згодна якой памешчык, тытулярны саветнік Іосіф Корсак прадаў двух сялян дваранам Мікалаю і Варфаламею Ліпскім за 500 рублёў асігнацыямі. Спадчынныя сяляне Корсака Міхаіл Сямёнаў з вёскі Храсішчава і Андрэй Герасімаў з вёскі Саннік у Магілёўскім павеце сталі ўласнасцю новых гаспадароў. Памешчык Корсак прадаў іх «в вечное и потомственное владение, сумму за них сполна получил, и вышеупомянутыми крестьянами можно владеть, распоряжаться, подарить, продать, только за них нужно уплачивать государственные подати...»

Пра гэту галіну Іванавага дрэва захавалася мала звестак. Вядома, што Максімілян Ліпскі, унук Антона, быў калежскім рэгістратарам у Магілёўскім павеце. Захар Фёдараў Ліпскі даслужыўся да губернскага сакратара.

І самая апошняя справа гэтага сямейства занатавана ў архівах 1887 годам. Да роду дваран далучалі адзінаццацігадовага Міхаіла Ліпскага, праўнука паручніка Антона, выхаванца Магілёўскага гарадскога вучылішча. На той час у яго былі: брат Дамінік, 25 год, удавец, адукацыя дамашняя; брат Антон, 22 гады, выхаванец Магілёўскай губернскай гімназіі; сястра Дарота, 27 год, замужам за Іосіфам Шчэрбам; сястра Алена, 24 гады, сёстры Леакадзія, 17 год, Бранікслава, 15 год, Варвара, 13 год. У гэтай шматдзетнай сям'і жывой на той час была толькі маці Марыя Тамашэвічава. А Дамінік Лаўрэнаў указам Магілёўскай дваранскай апекі прызначаўся апекуном над братам Міхаілам. Жылі ўсе яны ў ваколіцы Жураўцы Магілёўскага павета.

Цікава, хто і дзе жыве сёння з сямейнага дрэва ротмістра народнай кавалерыі, шчырага і мужнага абаронцы Бацькаўшчыны Івана Ліпскага?

## *ВОЗНЫ*

Васіль Ліпскі па Божай літасці караля польскага і вялікага князя літоўскага Аўгуста III быў прызначаны возным у Рэчыцкі павет. Дакумент падпісаў князь Фрэдэрык-Міхаіл Чартарыйскі 12 кастрычніка 1750 года. У ім чытаем:

*«Извещая, кому о том знать надлежит, что урожденному Василию Липскому, земянину и обывателю Речицкого повета, предполóжили Мы назначить уряд Возного в оном повете. Он подает во всякие суды пра-*



**ГЕРБ «ГРАБЛІ»**
да раздзела «ВОЗНЫ»

- 1. ЯКАЎ ЛІПСКІ
  - 2. СЯМЁН
    - 3. СЦЯПАН
      - 8. ЯКАЎ
      - 9. АНТОН
        - 17. ЮСІФ — I
        - 18. КАРЛ — II
        - 19. ВАРФАЛАМЕЙ
      - 10. ВАСІЛЬ
        - 20. ІВАН — III
        - 21. ПАВЕЛ — IV
        - 22. КРЫСЦЯН
        - 23. СЦЯПАН
        - 24. ЯКАЎ
    - 4. ІВАН
      - 11. ВАЎРЖЫНЕЦ
      - 12. ЯКАЎ
      - 13. АНТОН
      - 14. ІВАН
    - 5. МІКАЛАЙ
      - 15. КУЗЬМА
    - 6. ХРЫСТАФОР
      - 16. ЯЦЭК
        - 25. ІВАН — V
        - 26. СЯМЁН — VI
        - 27. ВОЙЦЭХ — VII
    - 7. ВАЛЕРЫЙ



I
II
III
IV
V
VI
VII
VIII
IX
X
XI
XII
XIII
XIV
28. ГАЎРЫЛА
29. ЮРЫЙ
30. МАЦВЕЙ
31. МІХАІЛ
32. КАРЛ
33. МІКАЛАЙ
34. КАЗІМІР
35. ЮСІФ
36. ПЁТР
37. ЮСІФ
38. ВАРФАЛАМЕЙ
39. КАЗІМІР
40. ЛУКА
41. РЫГОР
42. СТАНІСЛАЎ
43. ВОЙЦЭХ
44. АНДРЭЙ
45. ПЁТР
46. ЮСІФ
47. СЦЯПАН
48. ІВАН
49. ЛАЎРЭН
50. МАРТЫН
51. АДАМ
52. АЛЯКСАНДР
53. ЛЯВОН
54. СЯМЁН
55. ПАВЕЛ
56. ПЁТР
57. МІХАІЛ
58. ІГНАТ
59. ІВАН
60. ВАСІЛЬ
61. МІХАІЛ
62. ДЗЯНІСІЙ
63. ЮСІФ
64. ІВАН
65. УЛАДЗІСЛАЎ
66. АНТОН
67. ФРАНЦ
69. ЦІМАФЕЙ
70. РЫГОР
71. ВОСІП
68. ФАМА
72. БЕРНАРД
73. ЛУКА
76. ІВАН
74. АНТОН
75. ЮСІФ
77. ЯКАЎ
78. ІВАН
79. ПАВЕЛ
80. УЛАДЗІСЛАЎ
81. ЮСІФ
82. АНТОН
83. КАРЛ
84. БАЛЯСЛАЎ
85. УЛАДЗІСЛАЎ
86. ІВАН
87. МІКАЛАЙ
88. ВАСІЛЬ
89. ЯЎСТАФІЙ
90. АДАМ
91. КЛЕАФАС
92. ВІТАЛЬ
93. АДОЛЬФ
94. МІКАЛАЙ
95. ЛОНГІН
96. ЮСІФ
97. ІГНАТ
98. ЮСІФ
99. ВАСІЛЬ
100. ІГНАТ
101. ПЁТР
102. ЯЎГЕН
103. КІПРЫЯН
104. ФЁДАР
105. ІГНАТ
106. АЎГУСТ
107. АНДРЭЙ
108. АДАМ
109. МАЎРЫКІЙ
110. ЮСІФ
111 ФРАНЦ










## ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «ВОЗНЫ» (ГЕРБ «ГРАБЛІ»)

**3** — у 1722 г. купіў зямлю ў Чарцяжы; **6** — ад яго род пайшоў на Валынь; **8** — памёр малым; **10** — пра яго раздзел «ВОЗНЫ»; **26** — нар. 1754 г.; **27** — нар. 1780 г.; **39** — нар. 1792 г.; **41** — нар. 1791 г.; **42** — поўнае імя Станіслаў-Марцін; **44** — нар. 1796 г.; **50** — нар. 1825 г.; **51** — нар. — 1781 г.; **52** — нар. 1784 г.; **54** — нар. 1805 г.; **55** — поўнае імя Павел-Іван, нар. 1808 г.; **56** — нар. 1801 г.; **57** — нар. 1798 г.; **59** — нар. 1833 г.; **60** — нар. 1820 г.; **66** — поўнае імя Антон-Андрэй; **67** — нар. 1821 г.; **72** — нар. 1830 г.; **73** — нар. 1813 г.; **74** — нар. 1816 г.; **75** — нар. 1821 г.; **76** — нар. 1818 г.; **77** — нар. 1826 г.; **78—79** — нар. 1864 г.; блізняты; **80** — нар. 1861 г.; **81** — нар. 1844 г.; **82** — нар. 1854 г.; **83** — нар. 1853 г.; **84** — нар. 1855 г.; **85** — нар. 1856 г.; **86** — нар. 1857 г.; **87** — нар. 1864 г.; **88** — нар. 1833 г.; **89** — нар. 1823 г.; **90** — нар. 1833 г.; **91** — нар. 1819 г.; **92** — нар. 1823 г.; **93** — нар. 1854 г.; **94** — нар. 1847 г.; **95** — нар. 1861 г.; **96** — нар. 1860 г.; **97** — нар. 1838 г.; **98** — нар. 1840 г.; **99** — нар. 1846 г.; **100** — нар. 1822 г., поўнае імя Ігнат-Сямён; **101** — нар. 1821 г.; **102** — нар. 1826 г., поўнае імя Яўген-Іосіф; **103** — нар. 1833 г.; **104** — нар. 1832 г.; **106** — нар. 1848 г.; **107** — поўнае імя Андрэй-Шчэпан; **109** — нар. 1877 г.; **110** — нар. 1852 г.; **111** — нар. 1854 г.; **112** — нар. 1864 г.; **113** — нар. 1862 г.; **114** — нар. 1874 г.; **115** — нар. 1848 г.; **116** — нар. 1845 г.; **117** — нар. 1864 г.; **118** — нар. 1853 г.; **119** — нар. 1858 г.; **120** — нар. 1862 г.; **121** — нар. 1864 г.; **122** — нар. 1872 г., дочкі Алеся, Уршуля; **129** — нар. 1876 г., дачка Зося; **124** — нар. 1878 г., дочкі Яніна, Вікторыя; **125** — нар. 1882 г.; **126** — нар. 1884 г.; **127** — нар. 1888 г.; дачка Галіна; **130** — дочкі Галіна, Яніна.

*вильно составленные позвы и прочие, выдает и развозит решения для требуемых сторон и протчим порядком исполняет свойственные ему обязанности. А господа обыватели Речицкого повета обязываются оного Возного за действительного признавать и почитать...»*

Возны, як бачым, уваходзіў у каралеўскую наменклатуру. Па міласці ўладара, з яго ведама надавалася гэта пасада. Да яе трэба было даслужыцца, урэшце, заваяваць.

Дык хто ж такі Васіль Ліпскі? Чым і дзе праявіў сябе? Якога роду ён?

Самая розная радня Васіля Ліпскага пяць разоў даказвала сваё дваранскае паходжанне. Сабіралі метрыкі, прывілеі, купчыя і, як даўней пісалі, «протчие» дакументы.

Былі і асечкі некаторых Ліпскіх з гэтага радаводу. У пятым, шостым, сёмым каленах іх не хацелі прызнаваць дваранамі. За якія грахі?

Адказ знаходзім у рапарце камісіі Магілёўскага дваранскага сходу ад 21 снежня 1839 года:

*«З дакументаў пра род Ліпскіх бачна, што яны валодалі зямлёй у ваколіцы Чарцёж, але тая зямля «жалованная» не за службу, а па купчай. Гэта, па артыкулу 56 тома X зводу Законаў, не дае права на дваранства. Трэба, каб валодалі на правах уласнасці з сялянамі альбо служылі. Дакументы не заверыны праз павятовых страпчых... А таму камісія лічыць, што дакументы бездоказныя, процізаконныя і на падставе 10 пункта дадатка да 116 артыкула 9 тома зводу Законаў адмовіць оным Ліпскім у дваранстве...»*

Законнікі ведалі талмуды назубок. Пільнавалі, каб у вышэйшае саслоўе грамадства не прасачыліся выпадковыя людзі, без роду і звання. Але ж і Ліпскія ўпартыя ды ганарлівыя ўрадзіліся. Яны ведалі, што дзедзічы іх насілі герб «Граблі», уславілі род добрымі справамі. І таму настырна шукалі новыя доказы свайго дваранства. Тут годнымі рабіліся не толькі афіцыйныя паперы з пячаткамі, а і распіскі, сведчанні родзічаў, далёкіх і блізкіх. Адно гэта вымагала ведаць сваю радню, вывучаць род, сустракацца, падтрымліваць сувязь.

Уяўляю, як дваране Павел і Гаўрыла Ліпскія з-пад Жлобіна, з маёнтка Чарцёж, паехалі ў Каралеўства шукаць доказу свайго радаводу. Ці то на сваіх коніках, ці на дзяржаўным дыліжансе прабіраліся яны за няблізкі свет у Белзскае ваяводства. Там у 1632 годзе жыў іхні продак Якаў Ліпскі, з якога і завязаўся радавод. Ён па прывілеі караля Уладзіслава IV Вазы працаваў падчашым* і меў маёнтак Ліполіна ў пажыццёвым карыстанні.

Палякі здаўна шанавалі сваю гісторыю, таму Ліпскія, якія атабарыліся на беларускіх землях і паспелі забыць сваё імя, у Кара-

---

* **Падчашы** — намеснік, памочнік чашніка, обер-мундшэнка, гэтыя службісты ведалі напіткамі на каралеўскім стале, ва ўрачыстых выпадках падносілі кубак з віном каралю. Чашнік і падчашы ў ваяводстве абслугоўвалі свайго ўладара. Відаць, такія пасады ёсць і цяпер, толькі яны па-іншаму называюцца.

леўстве ўзнавілі памяць. Аказалася, што ў падчашага Якава Ліпскага было два сыны — Сямён і Франц. Старэйшы з іх Сямён па міласці караля Яна-Казіміра Вазы меў пасаду скарбніка на Смаленшчыне, валодаў маёнткам Міхашын з сялянамі.

У Сямёна Ліпскага былі сыны — Валерый, Мікалай, Сцяпан, Іван, Хрыстафор. Як бачым, скарбнік польскага паходжання жыў на Русі і даваў імёны дзецям праваслаўныя. Вядома, што сыны Сямёна Ліпскага ў 1701 годзе, 1 мая, прадалі спадчынны маёнтак Міхашын з сялянамі.

Знайшоўся дакумент, калі падканцлер Вялікага княства Літоўскага (канцлерам тады быў Пац Крыштаф. — *Ул. Л.*) даручыў «благородному» дваранiну Сцяпану Ліпскаму выканаць рашэнне Галоўнага трыбунала — спагнаць грошы на карысць дваранiна Міхаіла Бароўскага з яго адказчыка Азьміны.

Дакумент не ахці якой важнасці. Але даручэнне Сцяпану Ліпскаму рабіў высокі дзяржаўны чын Вялікага княства Літоўскага. А самае галоўнае: у той даведцы сказана, што заданне Галоўнага трыбунала выконваў дваранін. Гэта ўлічвалі букваеды, калі прымалі рашэнне аб далучэнні ў дваранства новых радаводцаў.

Больш таго, Павел і Гаўрыла, якія прадстаўлялі Ліпскіх данага дрэва ў шостым і сёмым калене, прывезлі з радзімы дзедзічаў расліску сталага і важнага родзіча. У ёй пісалася:

*«Я, пямешчык Белзскага ваяводства Юзэф Ліпскі, сведчу на гербавай паперы, што дваране Павел і Гаўрыла Ліпскія, якія пражываюць у Рэчыцкім павеце, у маёнтку Чарцёж, знаходзяцца ў блізкім радстве са мною, а дваранін Сцяпан Ліпскі быў дзедам дваранiну Паўлу і прадзедам дваранiну Гаўрылу, ■ названыя Павел і Гаўрыла ад роднага майго брата прадзеда паходзяць. Герб у нас адзін — «Граблі». Хачу, каб званнем дваранiна карысталіся ўсе з нашага роду, і ў гэтым не можа быць сумнення. Пры сім падпісваюся і прыкладваю гербавую пячатку — Юзэф дэ-Ліпэ-Ліпскі, 1785 года, марта 10 дня. Сведкамі майго подпісу былі дваране Міхаіл Дзямецкі, Мікола Міхайлоўскі, Венядзікт Мартоўскі».*

У сабраных дакументах, як заўважылі, часцей за ўсё прыгадваецца дваранін Сцяпан Ліпскі. Гэта адзін з пяці сыноў Сямёна Ліпскага, смаленскага скарбніка. І гэта важна помніць, бо менавіта гэты Сцяпан і з'яўляецца бацькам вознага Рэчыцкага павета Васіля Ліпскага.

Як яны апынуліся на Міншчыне? Чаму выбралі менавіта Рэчыцкі павет?

Вядома, што 12 снежня 1722 года дваранін Сцяпан Ліпскі з жонкай Рэгінай з Дубінскіх купіў паўвалокі зямлі ў ваколіцы Чарцёж за сто пяцьдзесят злотых. Зямлю прадалі мясцовыя памешчыкі, браты Іван, Кузьма і Адам Жалткі. У купчай, якая прызнана Рэчыцкім павятовым земскім судом 6 лютага 1725 года, сказана:

*«Зямля Сцяпана Ліпскага мяжуе з аднаго боку з зямлёй прадаўцоў, з другога — з надзелам дваранiна Васіля Глачкоўскага, пачынаючы ад Маневіцкага маёнтка. Гэтай зямлёй Сцяпан Ліпскі, яго жонка і нашчадкі могуць карыстацца вечна і беззваротна і каму захочуць могуць прадаць, падарыць без усялякіх перашкод».*

Дваране Жалткі не ўмелі распісацца пад купчай, дык за іх, неадукаваных, паставілі подпісы Ваўжынец, Марцішэўскі, Іван Гракоўскі, Іосіф Закранеўскі.

Вось так на дзесяці гектарах зямлі ў ваколіцы Чарцёж пачалі ладзіць сваё жыццё Сцяпан і Рэгіна Ліпскія. Пабудавалі маёнтак. Займелі чатырох сыноў — Кузьму, Якава, Антона і Васіля. Апошні з іх, Васіль, падняўся па службовай лесвіцы на вяршыню ўсяго дзевяцікаленнага роду — стаў возным Рэчыцкага павета.

Цікава, а дзе той Чарцёж, гняздо Ліпскіх, які вывеў у людзі Васіля Ліпскага, які стаў жыццёвай прыстанню для шматлікіх пакаленняў пладавітай сям'і?

Вучоныя мяркуюць, што ў тапонімах захаваліся назвы з часоў старажытнага падсечна-агнявога земляробства. У прыклад прыводзяць назвы паселішчаў — Ляда, Новіна, Дзерць, Чысць, Выдранка, Чарцёж. Выходзіць, ваколіца Чарцёж і землі наўкол яе — даўнішні прыстанак людзей.

У межах сённяшняга Рэчыцкага раёна такой вёскі няма. Абследаваў суседнія раёны — Светлагорскі, Жлобінскі, Рагачоўскі. І знайшоў! Чарцёж — за 15 кіламетраў ад Жлобіна, ад Рагачова — 21, ад Магілёва — 128 кіламетраў. У 1908 годзе вёска ўваходзіла ў Рагачоўскі павет. У ёй было 83 двары, 260 насельнікаў мужчынскага і 248 жаночага полу.

У сучасным Чарцяжы мы яшчэ пабываем, а пакуль давайце прыкінем, як удалося Васілю Ліпскаму быць прыкмечаным высокай міласцю караля?

Пытанне надта складанае. Знайсці адказ праз тоўшчу двухсот гадоў — клопат малаперспектыўны. Свет на яго пралівае хіба што вось гэты дакумент:

*«Дваранін Васіль Ліпскі пры горадзе Яго Каралеўскай Вялікасці Рагачове з маёнтка свайго Чарцёж у павеце Рэчыцкім ляжачае, у Бабруйскім прыходзе, адбываў конную службу пры Рагачоўскім замку. Аб чым запісана ў замкавым рэгістры».*

Даведку выдаў 3 кастрычніка 1765 года харунжы Рагачоўскага павета Іосіф Дзерналовіч.

Пазней такую ж службу адбывалі сын Васіля Ліпскага Павел і ўнук Карл.

Рагачоўскі замак вядомы з XVI стагоддзя. Збудаваны з дрэва, у сутоках рэк Дняпра і Друці. У той час, калі дваранін Васіль Ліпскі адбываў конную службу, замак абносілі земляным валам з вадзяным ровам. Магчыма, тады і праявіў сябе стараннай службай дваранін з ваколіцы Чарцёж.

Тое-сёе праясняецца і з духоўнага запавету Сцяпана Ліпскага. Будучы «при здравом рассудке и совершенной памяти», каб сыны Антон і Васіль пасля смерці яго між сабой не ладзілі спрэчак і судоў, бацька выказаў апошнюю волю сваю. На пахаванне свайго грэшнага цела выдзеліў сем талераў і адзінаццаць польскіх злотых. Ад закладнога маёнтка, які быў у пана Пархімовіча, дакляраваў сынам па сто злотых. А малодшаму сыну Васілю, з якім ён

«жительствовал», адпісаў маёнтак у ваколіцы Чарцёж з усімі забудовамі і ўсялякай рухомасцю. Запавет складзены 12 сакавіка 1740 года і ўласнаручна падпісаны дваранінам Сцяпанам Ліпскім. Пры гэтым ён паведамляў, што сачыць за выкананнем свайго запавету папрасіў чашніка Рэчыцкага павета Каспера Улянкоўскага, які і будзе яго сыну Васілю апекуном і дабрадзеем.

Возны Васіль Ліпскі ажаніўся на Настассі Лазоўскай, а тая прынесла ў сям'ю новы кавалак зямлі ў ваколіцы Чарцёж. Клопаты жонкі пра зямлю і маёнтак, адказныя службовыя абавязкі мужа не перашкодзілі ім стаць шматдзетнай сям'ёй. У іх нарадзіліся сыны Якаў, Іван, Сцяпан, Павел і дачка Хрысціна.

Надышоў час і вознаму пісаць духоўны запавет. Ён склаў яго адпаведна свайму разумоваму развіццю, з улікам сямейных адносін і нажытага багацця.

*«Я, Василий Липский, Возный Его Королевского Величества Речицкого уезда милостью ■ могуществом Всевышнего творца, проживший лета, мне от Бога назначенные, ■ чувствуя себя в слабости здоровья, и готовясь к выплате долга жизненного, зная, кто родился, тот умереть должен, то я, обращаясь к защите спасителя моего, к обороне святой Марии и всех святых, а также целого хора небесного и приняв святую причасть на дорогу вечности, в здравом теперь еще уме распоряжаюсь таким образом. Тело мое, с земли сотворенное, — земле отдаю. Желаю, дабы жена моя и милые дети погребли меня при костеле Карпиловском со святой литургией ксендза настоятеля Карпиловского. Движимое и недвижимое имение в околице Чертеж с двумя крестьянскими хатами и рухлядью записываю в пожизненное право моей милой жене Анастасии из Лозовских. Дочерей наших малолетних жена должна выходить до выпосаженья. Сыновья мои Иван и Степан Липские должны будут тех сыновей моих Якова и Павла, которые службою занимаются и, даст Бог, вернутся домой, то принять их до равного раздела во всех землях и имуществе. Благословляю этим и приказываю, дабы мать свою с должным повиновением почитали и до кончины смерти ея уважали».*

Гэта сачыненне склаў Васіль Сцяпанаў Ліпскі ў маёнтку Чарцёж 9 лютага 1753 года. Як водзіцца ў такіх выпадках, былі сведкі, якія падпісаліся пад запаветам, пілі за здароўе і даўгалецце шаноўнага markdownвознага. І думаў сталы дваранін, якім будзе жыццё ў будучым, што чакае яго дзяцей, унукаў, праўнукаў.

Яшчэ доўга, з пакалення ў пакаленне, перадавалася зямля ў ваколіцы Чарцёж. Ёсць там Ліпскія і па сённяшні дзень. Яны нічога не ведаюць пра свой радавод. Для іх і для ўсіх цікаўных цярпліва перапісваю з архіва ліст смычкоўскага прадвадзіцеля дваранства Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні, складзены 9 ліпеня 1849 года па просьбе праўнука Васіля Сцяпанава Ліпскага. У гэтым лісце ён апісвае, хто з Ліпскіх жыў на той час у ваколіцы Чарцёж. Верыцца, багата хто са згаданых асоб сустрэлі ў здароўі дваццатае стагоддзе, у якім жывём і мы з вамі. А для дапытлівых гэты спіс стане штуршком для пошуку сваіх каранёў. Запрашаю ў хаты Ліпскіх:

Аляксандр Мікалаеў Ліпскі, 70 год, жонка Антаніна з Маневі-

чаў, 50 год. У іх сын Клеафас, 30 год, жанаты на Еве з Кунтовічаў, а яшчэ сыны — Віталь, 23 гады, халасцяк, і Адам, 14 год. Дочкі Аляксандра, Анастасія, Людвіка, Элеанора. Сям'я валодала 117 дзесяцінамі зямлі. Чыноў не мелі, у службе не былі.

Міхаіл Казіміраў Ліпскі, 51 год, жонка Агаф'я з Хадасоўскіх, 49 год. У іх дзеці: Ігнат, 27 год, Пётр, 25 год, Яўген-Іосіф, 23 гады, Кіпрыян, 14 год, дочкі Анастасія, Елізавета, Марыя.

Лявон Казіміраў Ліпскі, 48 гадоў, халасцяк.

Пётр Казіміраў Ліпскі, 46 год, жонка Марыя з Гінтаўтаў, 40 год. Іх дзеці: Ігнат, 12 год, Іосіф, 10 год, Васіль, 4 гады, дачка Юля.

Павел-Іван Казіміраў Ліпскі, 44 гады, жонка Кацярына з Баньκоўскіх, 29 год. Іх дзеці: Мікалай, паўтара года, дачка Канстанцыя, 4 гады.

Карл Іванаў Ліпскі, 76 год, удавец. Яго сыны: Лаўрэн, 30 год, жонка Пелагея з Закрэўскіх, 24 гады. Іх дзеці — Іосіф, 5 год, дочкі Канстанцыя і Мальвіна, Марцэлій, 24 гады, жонка Ганна з Чашаў, 22 гады. Дочкі Карла — Марыя і Мар'яна.

Яўстафій Адамаў Ліпскі, 26 год, жонка Аршуля з Закрэўскіх, 22 гады. Сёстры — Анфіса і Пелагея. Сыны — Леанід, 3 гады, Адольф, паўгода.

...Еду ў вёску Чарцёж.

Машына ныряе па вуліцах Жлобіна то ўлева, то ўправа. Пад коламі — асфальт. За акенцам легкавушкі мільгаюць то цагляныя камуналкі, то драўляныя хаты. У вушах звініць мелодыя некалі папулярнай песні: «Городок наш ничего, населенье таково...» Радуюся: ёсць на карце Зямлі беларускі горад Жлобін. Тут — буйны чыгуначны вузел, металургічны завод, фабрыка штучнага футра...

А ўзнік Жлобін, як паселішча Вялікага княства Літоўскага, ажно ў XV стагоддзі. Хутка рос і ўжо ў 1566 годзе лічыўся буйным мястэчкам Рэчыцкага павета Мінскага ваяводства. Не міналі яго спустошальныя войны паміж Расіяй і Літвой. Яго дзялілі між сабой палякі і рускія. Мяняліся гаспадары: то ўладарыў тут памешчык Вайзбунаў, то граф Чарнышоў-Круглікаў, то магнат Хадкевіч. Ды людзі не пакідалі Божую мясціну, ладзілі жыццё на вякі. Сяліліся тут разнаверцы, сем'і пад рознымі прозвішчамі. Не прамінулі гэты край і Ліпскія.

У 1994 годзе ў Жлобінскім раёне жылі сорак Ліпскіх. А ў вёсцы Чарцёж, якая некалі была заселена аднымі Ліпскімі, засталася толькі бабця Марыя Адольфаўна Ліпская. Ёй — дзевяноста гадоў. Яна — у дзесятым калене ад заснавальніка роду Якава, у сёмым — ад вознага Васіля Ліпскага. Едзем да яе ў госці.

Машынай рулюе дваюрадны ўнук бабці Уладзімір, побач са мной на сядзенні Эдуард Ліпскі, бацька якога Антон і чарцяжанка Марыя — брат і сястра. Кіруем прасёлачнай дарогай да вёскі Чарцёж. Паабапал дарогі — багатыя палеткі. На іх abліваліся потам дваране Ліпскія. Вядзём няспешную гаману, і я баюся прапусціць хоць адно слоўца, усё хочацца ўкінуць у памяць.

— Я тут закончыў чатыры класы, — прыгадвае Эдуард Антонавіч. — Пасля — сельскагаспадарчы тэхнікум у Чырвоным Беразе. Працаваў брыгадзірам трактарнай брыгады, загадчыкам мехмайстэрні. У Чарцяжы даўней было за сто двароў. Жылі Ліпскія, Шацілы, Банькоўскія, Пархімовічы. Сярод Ліпскіх не было ні п'яніц, ні дэбашыраў. Парадачныя людзі. Трудзягі. Ды ўсіх іх у трыццаць сёмым падгрэблі, як ворагаў народа...

Едзем. Маўчым. Што тут казаць? Паляглі чарцяжанскія мужчыны ў зямельку нізашто. Загінулі сумленныя нашчадкі вознага ад рук неўтаймоўных берыеўцаў. Калі загоіцца гэта крывавая рана?

А вось і жаданая вёска Чарцёж. Пясчаныя вуліцы. Ля хат — сады, узгоркі. «Маёнткі» драўляныя, счарнелыя. Мала хто адбудаваў новае жытло. У вёсцы — матрыярхат.

— Усіх нашых заступнікаў падабралі ў трыццаць сёмым. За адну ночачку... — пачала свой аповед Марыя Адольфаўна Ліпская. — Брата Антона Сталін падабраў... Віцю, майго мужа, забралі... Пасля прыслалі паперку — невінаватыя. Плявала я на іх рэабілітацыю... Наплявузгалі, што ў Чарцёж прылятаў польскі самалёт. О, што прыдумалі, каб забраць нашых мужчын. Усіх расчысцілі... Сто семдзесят чалавек... З хаты па трох выводзілі — бацьку і сыноў. Аўгусціна Закрэўскага, Мятлікам дражнілі, забралі, а ён без нагі. І трох сыноў яго... (Лічыць на пальцах.) О, пяць годзікаў з мужам спала, а ўсё жыццё — адненькая. Я з Ліпскіх, і муж — Ліпскі. Прыгажун. Любіліся моцна...

Марыя Адольфаўна ўздыхнула, пачала расказваць, як прыходзілі ў сваты розныя мужчыны, як яна адбрывала іх.

— Вох ты, Божа мой, па натуры вясёлая ўдалася, а весялосці не ведаю...

На гэты раз мы прывезлі ў хату і ў душу Марыі Адольфаўны весялосць. Я паведаў ёй пра слаўны род Ліпскіх. Слухала і слязілася. А тады захацела пачаставаць нас салам і яйкамі. Пад настрой расказала, як яна, дзевяностагадовая непаседа, выкарчоўвала засохлую вішню на сваім агародзе, як пілавала яе.

— Дровы раблю!.. Перазімаваць хачу!.. — аптымістычна заявіла бабця Ліпская. — Усё сама!.. І дзяцей сваіх, Віцю і Колю, вучу так жыць...

Не па сваёй волі пакінулі Ліпскія сваё дзедзішча Чарцёж. Каго вывезлі прынудна, хто сам збег. Як Віктар Францавіч Ліпскі. Жыве ён у Гомелі, з жонкай Аленай, дачкой Жаннай і сынам Валодзем. У сваім пісьме паспавядаўся, як і чаму зрабіўся сіратой:

*«Бацька мой Франц Адамавіч Ліпскі нарадзіўся ў Чарцяжы, працаваў на зямлі. Падтрымаў калгас, як стварылі. А ўсё роўна ворагам народа зрабілі. У 1937 годзе расстралялі ў Магілёве. Арыштавалі і маці. А мяне з братам Валодзем — у дзетдом. Перад вайной бабулька Юля, бацькава маці, забрала нас да сябе. Што перажылі — адзін Бог ведае. Холад, голад. І ганьбу — дзеці ворагаў народа. Хадзілі па хатах, па вагонах, папрашайнічалі... Брат у сорак пятым памёр. Пахавалі ў Чарцяжы. Было яму ўсяго чатырнаццаць гадкоў. А я выкарабкаўся, і пражыў жыццё, як скалалаз. Кожны раз мусіў пераадольваць нейкія бар'еры. Пасля сямі класаў хацеў*



Ліпскі Пётр Кіпрыянавіч — на кані. А колькі Ліпскіх перабыло пад канём?

*паступіць у ваеннае вучылішча, не прынялі з-за біяграфіі. Чэсна ўсё расказаў. Зразумеў: трэба хлусіць. Як дзетдомаўца, бацькі якога «загінулі ў час вайны», прынялі ў тэхнікум, узялі ў армію. З такой біяграфіяй даслужыўся да начальніка станцыі нафтаправода «Дружба» ў Гомелі. Быў нават сакратаром партарганізацыі. Далі медаль цаліннніка. У маладосці пісаў вершы. Марыў стаць ваенным ці спартсменам, але жыццё зрушвала мае планы...»*

Пасля такой споведзі хочацца доўга маўчаць. Сядзець, адключыцца ад усяго свету і маўкліва пазіраць у далячынь стагоддзяў. Жылі продкі сумленна і праўдзіва, узнікае адно жаданне — перапрасіць іх. Сорамна і перад Богам за людзей, што яны, бы ўпартыя бараны, б'юць, збіваюць з ног адзін аднаго.

Як не зразумець: быў час, была эпоха, калі званне двараніна, шляхціца прыраўноўвалася да заслужанага, ганаровага грамадзяніна сваёй Айчыны. Людзі аддавалі апошнія капейкі, каб даказаць сваю прыналежнасць да «белай косткі». А пасля ўсім сваім жыццём пацвярджалі высокае званне. Дык за гэта, калі змянілася ўлада, калі яе захапілі лідэры новай плыні, трэба людзей расстрэльваць, трэба «прышываць» ім здраду, далучаць да ворагаў народа? Якога народа?

Яны ж самі — народ!

Гэтыя думкі пацвердзілі новыя пісьмы нашчадкаў чарцяжанскіх

дваран, родзічаў вознага Васіля Ліпскага ў сёмым і восьмым каленах.

Уладзімір Уладзіміравіч Ліпскі са Жлобіна напісаў, што іх даўнейшая радня пражывала ў Хадасовічах, пад Рагачовам. Гэта супадае з архіўнымі данымі: Ліпскія з Чарцяжа часта радніліся з Хадасоўскімі з Хадасовіч, пераязджалі на зямлю нявест, прыжываліся там. Сам Уладзімір Уладзіміравіч мала што ведае пра свой радавод, бо 22 гады пражыў у Магадане, нікога са старэйшых з роду не заспеў, не распытаў. Затое падказаў адрас цёткі, якая жыве ў Рагачове, па вуліцы Друцкай, 122.

Неўзабаве я атрымаў тоўсты канверт ад Галіны Пятроўны Мамантавай, у дзявоцтве — Ліпскай. Сваімі дакументамі, успамінамі яна і звязала старажытную галіну Ліпскіх з сённяшнім зялёным парасткам.

Вялікая архіўная справа № 2158 пра жлобінскіх Ліпскіх заканчваецца просьбай Кіпрыяна Міхайлавіча аб далучэнні яго сыноў да дваранскага роду. Гэта было 12 мая 1894 года. Кіпрыяну тады ўжо стукнула 60 гадоў, жыў ён з жонкай Уршуляй Хадасоўскай у ваколіцы Хадасовічы, меў 60 дзесяцін зямлі. І быў у пятым калене ад вознага Васіля Ліпскага.

Сярод дакументаў ляжалі копіі метрыкаў сыноў: Міхаіл нарадзіўся 14 жніўня 1872 года, Віктар — 6 сакавіка 1876 года, Станіслаў — 26 студзеня 1878 года, Юльян — 12 красавіка 1882 года, Адам — 27 верасня 1884 года, Пётр — 18 студзеня 1888 года.

Калі я цярпліва перапісваў дні нараджэння невядомых мне Ліпскіх, то падумаў: «Усе яны з'явіліся на свет пад канец XIX стагоддзя, няўжо не адгукнуцца нашчадкі?»

І вось пісьмо з Рагачова, ад Галіны Пятроўны. Яна — дачка Пятра Кіпрыянава!

*«Паважаны Уладзімір Сцяпанавіч! Я вельмі здзівілася, калі атрымала ваш ліст. Вас бачыла некалькі разоў па тэлевізары. Заўсёды здавалася, што вы родны нам чалавек. Цяпер маю магчымасць паспавядацца перад вамі. Ніколі ні перад кім гэтага не рабіла. Не было патрэбы, дый нікога не цікавіў наш лёс.*

*На вялікі жаль, аб продках нічога не ведаю. Адкуль яны засяліліся ў Хадасовічах, за сем кіламетраў ад Рагачова? У бацькі Пятра было шэсць братоў і адна сястра. І ў мамы такая ж сям'я. Наш дзед Кіпрыян, а пры Саветах запісалі Купрыян, падзяліў зямлю паміж сынамі пароўну. Усім перапала і пашні, і лугу, і лесу, і балота. Кожны кавалачак зямлі пеставалі, як малое дзіця. Гуляць не было калі, затое ўсё мелі сваё.*

*Браты жылі дружна. Усе збудавалі сабе хаты. Яны вылучаліся з ўсёй вялікай вёскі Хадасовічы. Ліпскія жылі на ўскрайку, як казалі, у ваколіцы, і гэта чамусьці стала нейкім ганебным месцам. Там, маўляў, жывуць ляхі, шляхта. За што так не любілі? Мо таму, што ў ваколіцы было чыста і прыбрана ў хатах, віселі адпрасаваныя фіранкі, у палісадніках раслі кветкі?*

*Толькі адзін татаў брат Юльян памёр сваёй смерцю, маладым ды нежанатым. А ўсіх астатніх у 1937 годзе забралі, як ворагаў народа.*

*Мой тата Пётр — самы малодшы ў сям'і Купрыяна. Служыў яфрэйтарам у пагранічнай Вержбалоўскай брыгадзе. Ёсць дакумент, у якім пал-*

# Свидѣтельство.

Дано сіе свидѣтельство уч̃ащемуся при бригадной кузницѣ 7й пограничной 1й [illegible] бригады, по программѣ, объявленной въ приказѣ по войскамъ сего Корпуса 1909 г. № 63, радовому стражнику Петру Липскому въ томъ, что означенный нижній чинъ, при испытаніи его въ коммисіи обнаружилъ слѣдующія знанія:

1) Устройство копыта и его формы отлично

2) Уходъ за копытомъ и приготовленіе его къ ковкѣ отлично

3) Приготовленіе подковъ для правильныхъ, неправильныхъ и больныхъ копытъ; пригонка подковъ отлично

[redacted] матеріаловъ, необходимыхъ при кузнечной работѣ; оборудованіе кузницы хорошо

5) Практика по расчисткѣ копытъ и ихъ ковкѣ отлично

С.-Петербургъ, Июня 26 дня 1911 года.

*Ветеринарный Инспекторъ Отдѣльнаго Корпуса Пограничной Стражи, Статскій Совѣтникъ* [signature]

Помощникъ Ветеринарнаго Инспектора, Коллежскій Совѣтникъ [signature]



У сего свидѣтельства печать ветеринарной части Отдѣльнаго Корпуса Пограничной Стражи.

*коўнік брыгады піша: «Во время службы Петр Киприянович Липский отличился честностью, исполнительностью, отличным поведением, трезвостью. По своим служебным и нравственным качествам заслужил выдачу рекомендательного свидетельства».*

*Мама мая Альбіна, як былі ў вайну ў бежанцах, насіла гэту паперку з сабой, як самую дарагую рэліквію. Захоўвала і яшчэ адзін дакумент — па-*

РЕКОМЕНДАТЕЛЬНОЕ СВИДѢТЕЛЬСТВО.

Фамилія Липскій

Имя и отчество Петръ Киприяновичъ

Званіе и часть войскъ Ефрейторъ 7-ой Пограничной Вержболовской бригады.

Уроженецъ Могилев. губ. Рогачевского уезда

Вѣроисповѣданіе ~~Православное~~ Римско-католическое.

По какое время дѣйствительно свидѣтельство по 1-е января 1915 года.

Грамотность Грамотенъ

Во время службы въ 7-ой Пограничной Вержболовской бригадѣ отличался честностью, исполнительностью по службѣ, отличнымъ поведеніемъ, трезвостью По своимъ служебнымъ и нравственнымъ качествамъ заслужилъ выдачу рекомендательнаго свидѣтельства.

Е. 22..... Декабря дня 1913 г. Пос. Кибарты, Сув. губ.



Командиръ бригады,
Полковникъ

Бригадный Адъютантъ,
Штабсъ-ротмистръ

*сведчанне аб заканчэнні Пятром Ліпскім у 1911 годзе курсаў пры брыгаднай кузні 7-ай пагранічнай брыгады ў Санкт-Пецярбургу. З пяці прадметаў мой бацька атрымаў пяцёркі па чатырох. Вызначыўся ў вывучэнні капытоў і іх формы, у даглядзе капытоў і падрыхтоўцы іх да коўкі, у падрыхтоўцы і прыгонцы падкоў, у практычнай працы. А вось пра сарты жалеза і сталі, абсталяванне кузні атрымаў адзнаку «добра».*

*Бацька мой Пётр Купрыянавіч служыў не толькі ў царскай, але і ў савецкай кавалерыі. Сам маршал Будзённы ўзнагародзіў яго срэбраным кі-*



Фота 1930 года засведчыла дзеда Стася і яго сына Адама

*шэнным гадзіннікам з ланцужком і гравіроўкай. Не ведаю, у якім годзе, але бацька паспеў пабудаваць у Хадасовічах хату і кузню. Як была малая, дапамагала яму раздуваць горан. Любіла разглядваць розныя кавальскія прылады, інструменты.*

*У 1933 годзе, помню, 13 чэрвеня, на Антонія, згарэла ад маланкі наша хата. Пераехалі жыць у Рагачоў. Татка ўладкаваўся кавалём у школу механізацыі. Пачалі зноў будавацца. Але так і не згулялі ўваходзін. Бацьку нечакана забралі. Ішоў 1937 год. І пачаліся нашы пакуты ў жыцці. На нас прычапілі ганебны ярлык: «сям'я ворага народа». Мама ўладкавалася рабочай на малочны камбінат. Звольнілі: нельга ёй працаваць у харчовай прамысловасці. Падаткамі абкладвалі...*

*Пасля смерці Сталіна пачалі шукаць бацьку. Нам выдалі 25 ліпеня 1958 года пасведчанне за № 101112 аб смерці Пятра Купрыянавіча Ліпскага ад рака страўніка. Нібыта гэта адбылося 4 снежня 1942 года. Пазней, 29 лістапада 1990 года, атрымалі новае пасведчанне аб смерці бацькі за № 311852. У ім паведамлялася, што Пётр Купрыянавіч Ліпскі расстраляны ў Магілёве 4 снежня 1937 года. Вось такая праўда!*

*Мы нават даведаліся, што, з даносу аднаго рагачоўца, наш бацька быў*

*«сакратаром падпольнай арганізацыі контрразведкі». Яго сябар Антушкевіч, працуючы механікам лесазавода, хацеў «спаліць завод», а ляснічы Хадасоўскі быццам хацеў «спаліць увесь лес». І грымнуў над гэтымі людзьмі стрэл пакарання.*

*А бацька вучыў нас жыць сумленна, не браць чужога, не хлусіць. Усё рабіць сваімі рукамі. Не помню, каб ён піў гарэлку, як цяпер п'юць. У нас на стале заўсёды стаяў самавар, ля яго не пераводзіўся мёд, бо трымалі пчол. Усе Ліпскія любілі пасядзець за абедзенным сталом. На святы — пяклі булкі, смажылі парасяціну, варылі грыбы...*

*Пасля таго, як забралі татку, і аж да яго рэабілітацыі мы жылі пад цяжкім грузам недаверу і пагарды мясцовага начальства. Цяжкая доля!..»*

Галіна Пятроўна вывела мяне на Хадасоўскую Соф'ю Васільеўну, унучку Міхаіла Кіпрыянавіча, брата яе бацькі Пятра. Соф'я Васільеўна ўсё жыццё працавала медыкам. Абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Спадчыннае захворванне нервовай сістэмы». Жыве ў Мінску, мае дачку Людмілу. Маці яе Уршуля была дачкой Міхаіла Ліпскага, старэйшага з сыноў Кіпрыяна.

Соф'я Васільеўна мала што дадала пра свой род. У дзеда Міхаіла былі яшчэ сын Мікола і дачка Алеся. Сын вывучыўся на ксяндза і пасля рэвалюцыі пераехаў у Польшчу.

Брат Міхаіла Віктар меў трох сыноў і дачку Зосю. Некалі плаваў матросам на параходах. А як пасяліўся ў Рагачове, займеў ламавога каня. Удзень на ім працаваў на лесазаводзе. А ноччу, каб болей зарабіць, вазіў людзям дровы, іншы груз. Хацеў дзецям пабудаваць хаты, ды надышоў 1937 год...

Другі брат Міхаіла — Адам меў трох дачок, на якіх і абарваўся яго род. Трэці брат — Юлій быў прадпрымальнікам, не жаніўся. А чацвёрты — Станіслаў меў сына Адама, дачок Яніну і Вікторыю.

Пра Адама Ліпскага, франтавіка і камуніста, напісаў у сваім рамане «Сутокі дзён» яго зяць, вядомы беларускі пісьменнік, доктар філалагічных навук Яўген Радкевіч.

Дачка Адама Галіна стала кандыдатам біялагічных навук, дачка Аліна — матэматыкам-праграмістам. Унучка Алена — журналістка.

Знішчальная бура прайшлася па чарцяжанскім родзе Ліпскіх. Мужнасць і цярплівасць, мазольныя рукі і чыстае сумленне дазволілі гэтым людзям процістаяць усім нягодам. Вытрымаць цяжкія выпрабаванні. Выжыць! І з гонарам сустракаць дваццаць першае стагоддзе.

## *ЛАПТАШ*
## *(аўтабіяграфія)*

*Дружа мой прыўкрасны, мы — не вечныя.*
*Падстаўляй дажджу і сонцу твар,*
*Кожны дзень, ад раніцы да вечара,*
*Успрымай душой, як божы дар.*

Мікола Маляўка

Я, Ліпскі Уладзімір Сцяпанавіч, у мінулым жыцці ўжо нараджаўся. Было гэта ў 925 годзе нашай эры, у панядзелак. Як сцвярджае гараскоп, я ўбачыў свет на поўначы Новай Зеландыі.

Цяжка ўявіць маё жыццё на астравах, якія ахоўвае, лашчыць калючы Ціхі акіян. Старажытная гісторыя Новай Зеландыі недастаткова вывучана па сённяшні дзень. Вядома, што ў дзесятым стагоддзі, якраз як я нарадзіўся, на акіянскія астравы перасяліліся з Цэнтральнай Палінезіі продкі сучаснага карэннага насельніцтва маоры.

А Палінезія — гэта зноў жа астравы ў Акіяніі, у цэнтры Ціхага акіяна. Там і Гавайя, і Эліс, і Фенікс, і Піткэрн, і Самоа, і Футуна, і Вялікадня, і архіпелаг Кука. Адкуль дакладна мяне перавезлі ў Новую Зеландыю, даруйце, не памятаю. А магчыма, мае продкі маоры займелі мяне ўжо на новым, аселым востраве. Так і адзначылі сваё перасяленне, сваё пазбаўленне ад вулканічных астравоў.

Калі зноў жа верыць гараскопу, то на багатай зямлі Новай Зеландыі я быў, як і належыць акіянскаму жыхару, — мараком. А ў дадатак — гандляром, перакупшчыкам. Шчодрая зямля на вугаль, нафту, сланцы, фасфарыты, золата прымушала зеландцаў асвойваць гандлярства з іншымі краінамі, адкрываць іх.

Першымі з еўрапейцаў паявіліся тут англічане. Пасля — аўстралійцы, японцы, амерыканцы. Завіталі ў райскі куток і беларусы, бо як жа я без славянскіх генаў нарадзіўся б зноў? І цяпер ужо — у цэнтры Еўропы!

Калі я першы раз жыў у далёкай Зеландыі (от бы пабываць калі-небудзь там!), на маёй цяперашняй радзіме, Беларусі, у Полацку, валадарыў князь Рагвалод. Пра яго летапіс кажа: «Рагвалод прыйшоў з-за мора». Гэта дае падставу гісторыкам лічыць, што першы беларускі князь — выхадзец са Скандынавіі. А можа, і з Новай Зеландыі?

Рагвалод вядомы нашчадкам не толькі як уладар, ваяр, мудры кіраўнік нацыі, але і як бацька гаспадарлівай і прыгожай князёўны Рагнеды. Гэта яна адмовіла ў сватаўстве наўгародскаму князічу Уладзіміру. І тады абражаны жаніх пайшоў вайной на Полацк.

Што зрабіў злачынец?

Полацк спаліў, разбурыў. Князя Рагвалода, яго жонку і двух сыноў забіў. А Рагнеду гвалтам узяў у жонкі. Яна нараджала ад нялюбага мужа дзяцей і аднойчы ледзь не забіла яго, помсцячы за бацьку, маці, братоў, за паланёную зямлю.



# ГЕРБ «ГРАБЛІ»

## да раздзела «ЛАПТАШ»

- 1. ФРАНЦ ЛІПСКІ
  - 2. ЯКАЎ
    - 3. ВОЙЦЕХ
      - 5. ІВАН
        - 13. СТЭФАН
        - 14. РАМАН
          - 27. ЮРЫЙ
      - 6. ПЁТР
        - 15. ВАЛЯНЦІН
        - 16. ФРАНЦ
        - 17. СЫМОН
        - 18 ФЕРДЫНАРД
      - 7. БАЗЫЛЬ
        - [redacted]. МІКАЛАЙ
    - 4. ІВАН
      - 8. СЦЯПАН
      - 9. ВАСІЛЬ
      - [redacted]. ІОСІФ
        - 20. ВАСІЛЬ
      - 11. ФАМА
        - 21. КАЗІМІР
        - 22 ІГНАТ
      - 12. ІВАН
        - 23. СЫМОН
        - 24. ІВАН
          - 28. МАРТЫН
          - 29. ВІКТАР — I
          - [redacted] СЦЯПАН
          - 31. ГІЛЯРЫЙ
          - 32. АНТОН — II
          - 33. ІВАН — III
        - 25. АНДРЭЙ
          - 34. ГАЎРЫЛА
          - 35 ІВАН
        - 26. ФАМА
          - 36. ГАЎРЫЛА — IV
          - 37. СЦЯПАН
          - 38. КАЗІМІР


47. ЮЗЭФ
48. ПАВЕЛ
49. ПЁТР
39. АЛЕСЬ
50. СЕВА
40. КАЗІМІР
51. ЛЕАНІД
52. ЯСЬ
41. КАСТУСЬ
53. ЛЕАНІД
54. МІКАЛАЙ
55. СТАСЬ
56. МІКАЛАЙ
57. СЦЯПАН
68. ПЁТР
77. АЛЯКСАНДР
I
58. АЛЯКСАНДР
78. КАНСТАНЦІН
59. ВІТАЛІЙ
79. ВІКТАР
42. ЭДУАРД
43. СЦЯПАН
60. ВАЦЛАЎ
69. МІКАЛАЙ
80. ЮРЫЙ
II
44. БРАНІСЛАЎ
61. СЦЯПАН
70. УЛАДЗІМІР
81. ІГАР
85. АНТОН
III
45. ІВАН
62. ІВАН
71. ПАВЕЛ
82. МІША
63. ТОДАР
72. АНДРЭЙ
83. ВАЛЕРА
64. МІКАЛАЙ
73. СЦЯПАН
IV
46. ПЁТР
65. ГАЎРЫЛА
74. ВЯЧАСЛАЎ
84. СЯРГЕЙ
66. ІВАН
75. ПЁТР
67. УЛАДЗІМІР
76. ВАЛЕРЫЙ

## ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «ЛАПТАШ» (ГЕРБ «ГРАБЛІ»)

**1** — па купчай ад 9 мая 1681 г. займеў частку маёнтка Германішкі ў Ашмянскім павеце, ж. Соф'я; **2** — нар. 26.06.1723 г., у 1745 г. атрымаў ад бацькі маёнтак Германішкі; **3** — служыў у войску, ж. Ганна; **4** — ж. Насця, валодаў Германішкамі, у 1790 г. прадаў барону дэ Форту; **6** — ж. Марцыяна; **8** — нар. 1759 г.; **9** — нар. 1785 г.; **11** — поўнае імя Фама-Сцяпан, нар. 1776 г.; **12** — нар. 1751 г., ж. Мар'яна; **20** — нар. 1817 г.; **21** — нар. 1807 г.; **22** — нар. 1810 г.; **23** — нар. 1801 г.; **24** — нар. 1804 г.; **25** — нар. 1793 г.; **26** — нар. 1809 г.; **28** — нар. 1827 г., у 1842 г. у вёсцы Куннае Рэчыцкага павета меў 40 дзесяцін зямлі; **29** — нар. 16.07.1829 г.; **30** — нар. 09.05.1833 г.; **31** — нар. 11.07.1835 г.; **32** — нар. 04.08.1840 г.; **33** — нар. 1837 г.; **34** — нар. 1819 г.; **35** — нар. 1827 г.; **36** — нар. 1827 г.; **37** — нар. 1832 г.; **44** — нар. 1872 г., ж. Адэля Іванаўна, нар. 1882 г., дочкі Алена, 1916 г., Яніна, 1918 г., Людміла, 1921 г., Валя, 1925 г., Марыя, 1923 г., Нэла, 1927 г.; **45** — памёр у 1925 г. у в. Шоўкавічы Горвальскай воласці Рэчыцкага павета, ж. Праксэда Старжынская, памерла ў 1942 г. ва ўзросце 92 гады, у сям'і было 12 дзяцей; **46** — нар. 1867 г., ж. Анастасія, нар. 1873 г.; **55** — меў тры дачкі; **58** — нар. 1911 г.; **59** — нар. 1913 г.; **60** — нар. 1916 г.; **61** — 1891—1977 гг., в. Шоўкавічы, Рэчыцкі раён, 1-ая ж. Браткоўская Варвара Аляксандраўна з в. Вялікі Лес, памерла пры родах, памерла і дачка Маня, пахаваны ў в. Шоўкавічы; 2-ая ж. Марыя Адамаўна Янушэўская, 1898 — 15.06.1972 гг., у сям'і — шасцёра дзяцей, дочкі — Ліда, 05.11.1919—06.08.1988 гг., Клава, нар. 22.10.1922 г., Люба, нар. 15.05.1926 г.; [redacted] — пражыў 60 гадоў, ж. Марыя Якубаўна Трацэўская, жыў і пахаваны ў в. Шоўкавічы; **63** — в. Шоўкавічы, ж. Анюта, дзеці — Марынька, Саша, Раіна; **64** — 14.05.1896—03.11.1933 гг., ж. Анця, дзеці Валя і Вацік жывуць у г. Рэчыцы; **65** — нар. 1913 г.; **66** — нар. 1904 г., в. Куннае; **67** — нар. 1907 г., ж. Алена, 1917 г.; **68** — нар. 06.01.1924 г., в Шоўкавічы, ж. Дзіна Рыгораўна Браткоўская, нар. 21.12.1927 г., дочкі — Лена, нар. 15.10.1951 г., Марыя, нар. 17.07.1954 г., Люба, нар. 14.12.1960 г.; **69** — нар. 21.03.1932 г., інвалід першай групы (у 64 гады ампутаваны ногі); **70** — нар. 06.05.1940 г., жыве ў Мінску, дачка Марына, нар. 27.10.1972 г., у яе дачка Маша, нар. 04.10.1994 г., ж. Ніна Іосіфаўна Радзюкевіч, нар. 04.11.1940 г. у в. Бабовішчы Слуцкага раёна; **71** — 17.04.1927—1976 гг., в Шоўкавічы, ж. Кашавар Анастасія Мінаўна, нар. 1928 г., дачка Наташа, жыве ў г. Гомелі; **72** — нар. 1925 г., партызан, загінуў; **73** — загінуў у вайну, дачка Эна, жыве ў Рэчыцы; **74** — нар. 1930 г., ж. Ніна Паўлаўна, дачка Люба, жыве ў Рэчыцы; **75** — жыве ў г. Кіраў; **77** — 03.11.1963 — 12.10.1982 гг., в. Шоўкавічы; **78** — нар. 24.08.1956 г.; **79** — нар. 10.03.1962 г.; **80** — нар. 13.05.1968 г.; **81** — нар. 16.06.1961 г. у 15.00, у пятніцу, у г. п. Гарадзея, архітэктар, ж. Таццяна, жывуць у Мінску; **82** — нар. 1961 г., ляснік, в. Дабужа; **83** — жыве ў в. Шоўкавічы; **84** — жыве ў Іванаўскай вобласці, ваенны; **85** — нар. 28 красавіка 1989 г., у пятніцу, у 1996 годзе пайшоў у школу, жыве ў Мінску.

---

За гэты ўчынак Уладзімір саслаў Рагнеду на жыхарства ў мястэчка Заслаўе, якое цяпер знаходзіцца непадалёк ад сталіцы Беларусі Мінска.

Вельмі важна ведаць, што дзеці беларускі Рагнеды сталі жывымі праваднікамі, як бы зніталі сваімі генамі ўсю Еўропу. Сын Ізяслаў адрадзіў полацкую княжацкую дынастыю. Мсціслаў стаў князем чарнігаўскім. Яраслаў Мудры — князем наўгародскім і кіеўскім. Дачка Прадаслава брала шлюб з чэшскім князем Баляславам III Рудым, а Прэміслава выходзіла замуж за прынца вугорскага* Ласла Сара Лысага. Унучка Рагнеды Анастасія стала пазней жонкай вугорскага караля Андрыя I, унучка Лізавета — жонкай нарвежскага караля Гаральда III, а пасля караля дацкага Свена III. Малодшая ўнучка Ганна ашчаслівіла караля Францыі Генрыха I Капету.

Бачыце, нават полацка-кіеўскіх радаводных сувязей дастаткова

---

* **Вугорская Русь** — гістарычная назва Закарпацкай Украіны, якая была з канца XI стагоддзя пад уладай Венгрыі.

для таго, каб сцвердзіць, што ўсе мы на Зямлі радня, усе мы, людзі, — браты зямныя, кроў і гены нашы сплецены ў адзіны чалавечы клубок.

Бяда ў тым, што радаводы складвалі толькі сем'і знакамітыя, багатыя, тытулаваныя. А каб разгадаць чалавечую знітаванасць усіх людзей на зямлі, мы б убачылі сапраўднае братэрства разумных істот. Пацвярджэнне гэтай простай аксіёмы — жыццё і росквіт розных радаводных дрэваў Ліпскіх.

Багата адкрыў цёзак па прозвішчы. Нямала ажывіў сямейных дрэваў Ліпскіх. А хто ж я сам?

У цяперашнім жыцці я нарадзіўся 6 мая 1940 года ў маленькай балотнай вёсачцы Шоўкавічы, што на Палессі, у Гомельскай вобласці, Рэчыцкім раёне. Мая Радзіма — Беларусь, старажытная славянская еўрапейская дзяржава. Яе паветрам наталяюся. Жыву яе радасцямі і пакутамі. Пяшчотна ступаю па зраненай, акрываўленай зямельцы. Цешуся непаўторнай прыгажосцю яе прыроды. І балюча люблю стаптаную войнамі, пакрыўджаную Чарнобылем маю мілую Беларусь.

Нарадзіўся, як і першы раз, у панядзелак. Стаяў сонечны вясновы дзень. Пяцёра дзяцей да мяне, тры сястры і два браты, мама нараджала дома, у сваёй хаце. Мяне не рызыкнула. Ёй тады было ўжо 42 гады. Бацьку — 49 гадоў.

Так што я адзіны з сям'і карыстаўся дапамогай акушэркі, паслугамі бальніцы. І адбылося гэта ў мястэчку Горваль, пад Рэчыцай, за 14 кіламетраў ад Шоўкавіч. Сястра Клава, якой тады споўнілася 18 гадоў, прыгадвае:

— Я страшна гневалася на маму, нават сарамоціла яе, калі яна хадзіла цяжарнай: «Што надумаліся, мама, я ж барышня ўжо...» А як трэба было забіраць з бальніцы, папрасілася ехаць з бацькам. Запрэглі коніка, пакацілі. У палаце мне падалі беленькі скрутачак. Гляджу, а там кругленькі тварык дзіцяткі, нос бульбінкай, зірнуў на свет мой брацік і ўсміхнууся... У Шоўкавічах амаль усе вясковыя жанчыны прыйшлі ў водведы. Згулялі хрэсьбіны. Цётка Раіна Ліпская і старшыня калгаса Раман Маркаў сталі хроснымі бацькамі. Вазілі ў Баравікі да бацюшкі...

Шостага мая 1940 года сонца ўзышло ў 5 гадзін 35 хвілін. Дзень доўжыўся 15 гадзін 45 хвілін. На неба ўзышоў малады месяц.

Буяла ў прыродзе вясна. Яе люблю пажыццёва. І лічу яе сваёй самай натхнёнай парой года. Вясной бачыцца светла і далёка, дыхаецца лёгка, хочацца спяваць і кахаць.

Тым далёкім маем, калі я смактаў маміна малачко і адсыпаўся пасля цяжкіх родаў, на Беларусі і ў свеце адбываліся падзеі, якія засведчаны ў гісторыі і памяці людской.

Газеты паведамлялі, што 6 мая 1940 года калоны студэнтаў і рабочых выйшлі на будаўніцтва Мінскага мора. У гарадскім Палацы піянераў пачаўся чарговы агляд дзіцячай творчасці. Мае землякі, гамяльчане, святкавалі дзесяцігадовы юбілей «Гомсельмаша».

У кінатэатрах паказвалі фільмы «Волга, Волга», «Чароўная Васіліса».

Я ж па тым часе пільнаваўся толькі мамінай цыцкі. Мой цягавіты, што вол, бацька разам са старшымі дзецьмі Лідай, Клавай, Пецем шчыравалі на палетках калгаса імя Молатава. А меншыя, сястра Люба і брат Коля, дапамагалі маме па гаспадарцы. Глядзелі мяне. Так вось распачалося жыццё новага Лапташа.

Да нашай сям'і здаўна была прашчэплена клічка Лапташы. Відаць, таму, што жылі бедна. Бацька плёў лапці ўсім дзецям. І сам не здымаў гэты танны і просты абутак. Лапці з лазовай кары лічыліся будзённымі, для працы. За тыдзень зношваліся дзве пары. А лапці, сплеценыя з кары маладзенькіх ліпак, абуваліся па святах, нават на вечарынкі.

Адкуль жа з'явіліся ліпавыя, лапцюжныя Ліпскія ў вёсцы Шоўкавічы? Хто яны? Якога роду-племені?

Гэтыя пытанні задаў сам сабе вельмі запознена, калі ўжо амаль не было нікога з жывых сведак мінулага стагоддзя. Памерлі мама і бацька, усе дзядзькі і цёткі, адышлі ў вечнасць старажылы Шоўкавіч. Усе тайны яны забралі з сабой у дамавіны. Бездапаможна плакаў на вясковых могілках, ля здзервянелых земляных пагорачкаў і прыгадваў усіх і ўсё, што асела ў памяці. Так нарадзілася кніга пра шоўкаўцаў «Адпяванне жывых».

А далей пайшлі бяссонныя ночы і клапатныя дні ў пошуку твайго і майго радаводу. Пачаў шукаць Ліпскіх у жыцці, у архівах, у перыёдыцы і кнігах. У муках нараджаліся гэтыя старонкі. Як дзіцё, радаваўся нават маленькаму адкрыццю. У кожным Ліпскім шукаў радню.

Пачаў цярпліва дакопвацца, адкуль і калі прыйшлі Ліпскія ў Шоўкавічы?

Устанавіў: мае Шоўкавічы ў мінулым стагоддзі лічыліся засценкам, хутарам Горвальскай воласці Рэчыцкага павета. Па даных 1870 года, там жылі 14 аднадворцаў. А па перапісе 1909 года — ужо 31 душа «обоего пола». Больш чым удвая павялічыліся Шоўкавічы пад канец стагоддзя. Чым гэта выклікана, што падмагло хутару стаць вёскай?

Адказ атрымаў, калі пачаў вывучаць гісторыю Горвальскага маёнтка, у межах якога знаходзіўся і хутар Шоўкавічы, з яго ўрадлівымі землямі, сенакоснымі лугамі, грыбнымі дубровамі ды травянымі лясамі, узлескамі.

Маёнтак утварыўся яшчэ ў XVIII стагоддзі. Вядома, што ў 1779 годзе землямер Навагрудскага ваяводства Якаў Чэчат склаў яго агульную карту. А валодаў усімі прыроднымі багаццямі ды жывымі душамі сапраўдны тайны саветнік фон Энгель. Пасля яго смерці маёнтак з добрай ласкі самога цара, з дапамогай землямера Мінскай губерні Плясава падзялілі яго родзічы.

Унучцы Марыі Раманаўне Холадавай перапалі Горваль з маёнткам, фальваркі Дзюрдзеў і Балашаўка, вёскі Берагавая Сла-

бада, Чарнейкі, Селішчы, Свецкае, Задзірэеўка, Гавінавічы, Шыбенка, Васількоў, Святое, Вузнаж і хутар Шоўкавічы.

Памешчыку Івану Сямёнавічу Адамовічу выдзелілі вёскі Якімаву Слабаду, Баравікі, Какуевічы, Лукі, Шупейкі, Дуброву, Алізаравічы і фальварак Заходы з вёскай.

Трэцяму пайшчыку, Раману Фурману, таксама сапраўднаму тайнаму саветніку, аддалі фальварак Кабанаўку, гэта за ракой Бярэзінай, вёскі Заброддзе, Дабрагошча, Карма, Ляды, Атрубы, Рудня, Таўстыкі.

Усе гэтыя тайныя саветнікі жылі-пажывалі ды людзей абіралі. Але ж свет рухаецца, мяняецца, вечнага нічога няма. Вось і на землях, якія вакол Шоўкавіч, з'явіўся новы гаспадар — прадстаўнік світы яго вялікасці цара-бацюхны генерал-маёр граф Георгій Фёдаравіч Менгдэн. Колькі часу ён карыстаўся ўсімі нашымі вёскамі, як і за што перапаў яму гэты гасцінец, хто ж ведае. Але вось што цікава: у фондах рэдкіх кніг я знайшоў невялічкую брашуру «Апісанне маёнтка Горваль-Свідэра». Яна выдадзена ў Санкт-Пецярбургу і разлічана на багатых пакупнікоў. Чытаем:

*«Кошт маёнтка Горваль-Свідэра вызначаецца прыкладна ў 2 000 000 рублёў. Але з выпадку таго, што гэты маёнтак трэба тэрмінова прадаць, каб пакрыць з выручкай сумы дзелавую запазычанасць графа Менгдэна, гэта сума можа быць значна меншай, памер якой будзе залежаць ад бліжэйшай згоды пакупніка з апякунскім упраўленнем па справах графа Менгдэна...»*

Далей паведамляўся адрас, па якому можна атрымаць усе патрэбныя даведкі, дакументы, кансультацыі: С.-Пецярбург, па р. Мойцы, дом № 94, апякун генерал-лейтэнант П. О. Баброўскі, звяртацца ад 2 да 3 гадзін апоўдні.

Свае мясціны вакол Шоўкавіч добра ведаю. Лясы выхадзіў, вытаптаў, пасвячы ў дзяцінстве кароў, збіраючы грыбы ды ягады. Абышоў і ўсе вёскі наўкол. У Вузнажы вучыўся ў сярэдняй школе. У Чарнейкі, Заходы, Дуброву бегаў на танцы. У Дабужу выйшла замуж сястра Люба. У Баравікі і Селішчы хадзіў у магазін па соль і запалкі. У Святым, Свецкім і Задзірэеўцы жылі мае аднакласнікі.

Але з вялікай цікаўнасцю чытаў «Апісанне маёнтка Горваль-Свідэра». Як хораша прадаўцы нашых лясоў і вёсак выстаўлялі свой тавар! Яны паведамлялі, што маёнтак з усімі абшарамі размешчаны на правым беразе суднаходных рэк Бярэзіна і Днепр. Агульная плошча — 40 709 дзесяцін, 489 квадратных сажняў*. У тым ліку: пад пашнямі — 4952 дзесяціны, пад сенакосам па сухадолу — 409, пад сенакосам па балотах — 900, пад выганамі — 439, страявога лесу па сухадолу — 22 036, страявога і дравяного лесу па нізінах і балотах — 8027, пад хмызняком — 35, пад пасяленнямі арандатараў і леснікоў — 265, пад могілкамі — 3,185,

---

* **Сажань** — даўнейшая адзінка вымярэння, складае 2 метры і 13,36 сантыметра; дзесяціна — 1,09 гектара.

пад рэчкай Бярэзіна, рэчкамі, ручаямі, возерам Свецкае, затокамі і канавамі — 420 дзесяцін.

З гэтай статыстыкі бачна, што палеская прастора, у якую ўваходзілі і мае Шоўкавічы, балоцістая, лясная, рыбная і грыбная, а пашні — ураджайныя. На тэрыторыі Горвальскага маёнтка былі лесапільня, смалакурні, сем прыстаней, ад якіх адыходзілі параходы з мясцовым грузам у Кіеў, Херсон, Екацярынаслаў, Адэсу, Бабруйск, Оршу.

На гэты прывабны кавалачак Божай зямлі знайшоўся пакупнік. Ім стала ўдава, графіня Вера Сяргееўна Зубава. Яна даверыла сваю новую нерухомасць апекуну, ураджэнцу Фінляндыі Пятру Андрэевічу Лейну. У даверанасці, засведчанай натарыусам Міхаілам Міляхінскім у С.-Пецярбургу, на Неўскім праспекце, 13, было сказана:

*«Сим уполномочиваю финляндского уроженца Петра Андреевича Лейно входить в соглашение с крестьянскими обществами по предмету аренды, обмена земель, участков ■ принадлежащем мне имении Горваль и Свидерь Минской губернии, Речицкого уезда, присутствовать при обмежевании земель, чинить полюбовные разводы, объявлять споры, подавать прошения, объявления, жалобы, везде, где нужно, расписываться вместо меня, получать документы, акты и т. д. Во всем, что он, Лейно, по этой доверенности учинит, я ему верю, спорить и протестовать не буду».*

Дакумент выдадзен і засведчан подпісам, пячаткай 18 лістапада 1888 года. Прыкладна ў гэты час і пасяліўся ў Шоўкавічах мой дзед Янка, Ліпскі Іван Іванавіч. Яго жонкай, а маёй бабкай, стала Праксэда Васільеўна Старжынская. Іх беззямельныя бацькі, як сведчаць дакументы, арандатары, відаць, прачулі пра Горвальскі маёнтак, які, з лёгкай рукі Лейна, кавалкамі здаваўся ў арэнду, і набылі для сваіх дзяцей надзел.

А пераехалі Янка і Праксэда ў Шоўкавічы з хутара Куннае. Гэта напрасткі — кіламетраў дваццаць. З цяперашніх Шоўкавіч бачны дымныя трубы г. Светлагорска (раней гэта мястэчка Шацілкі). А з процілеглага боку горада, з Куннага, Мядзведава, Печышчаў, бачны тыя ж трубы. Маладыя, выходзіць, не так і далёка ад'ехаліся ад сваіх бацькоў. Але ў іх была ўжо свая зямля, свая хата. І з радасці яны займелі амаль тузіну дзяцей.

Пасля ў Шоўкавічы пераехалі жыць два малодшыя браты Праксэды — Ягор і Уладзік. Свае сем'і займелі. Ягор расстараўся на восем дзяцей, меншы Уладзік — на траіх. Вось так іператвараўся бязлюдны хутар Шоўкавічы ў вясёлую, абнадзееную вёску.

Але адкуль і калі з'явіліся Ліпскія на хутары Куннае?

У спісе землеўласнікаў Мінскай губерні за 1889 год сярод мяшчан Рэчыцкага павета сустрэў двух Ліпскіх: Гаўрыла Андрэеў Ліпскі меў у ваколіцы Куннае 40 дзесяцін зямлі, а яго малодшы брат Іван Андрэеў — 20 дзесяцін.

Гэта звестка павісла б у воблаку здагадак і ніколі б з яе не праліўся дождж таямніцы, калі б не адшукаў новы дакумент. Ім аказалася пісьмо бацькі гэтых землеўласнікаў, Івана і Гаўрылы,

двараніна Рэчыцкага павета Андрэя Іванавага Ліпскага да цара Мікалая І. На гербавай паперы коштам 60 капеек срэбрам*. Пісьмо прынята ў канцылярыі за № 402, кастрычніка 15 дня 1852 года. Што паведамляў і чаго прасіў неадукаваны рэчыцкі дваранін Андрэй Іванаў Ліпскі?

*«В дополнение к делу, возвращенному при Указе Правительствующего Сената из Временного Присутствия Герольдии, при проверке документов с актовыми книгами, иные отыскав у родственников на Дворянское происхождение, удостоверяющих беспрерывную связь родства предков наших, владеющих недвижимым имением с крестьянами, Германишек называемым, состоящим в Ошмянском уезде. Для вещего подкрепления дела представляю документы...»*

Далей ішоў спіс дакументаў. Сярод іх — купчая, па якой Франц Ліпскі набыў у маі 1681 года частку маёнтка ў Германішках з шасцю сялянскімі хатамі ў Ашмянскім павеце ад двараніна яго каралеўскай вялікасці Міхаіла Красніцкага. У 1745 годзе гэту нерухомасць Франц перадаў свайму адзінаму сыну Якаву, якому па тым часе было ўжо 22 гады. А той у 1766 годзе, 14 лютага, праз Браслаўскі гродскі суд дакляраваў у спадчыну свайму малодшаму сыну Івану. Старэйшаму сыну Войцэху нічога не запісаў, бо той знаходзіўся на ваеннай службе. У 1790 годзе Іван, Якава сын, прадаў бацькаў маёнтак з сялянамі барону дэ Форта з просьбай быць апекуном над яго сынамі — Іванам, Сцяпанам, Васілём, Фамой, Іосіфам.

Цікава б ведаць, чым выклікана такое рашэнне Івана Якававага? Ясна адно, што сыноў сваіх ён пакінуў без спадчыны. З таго часу, відаць, і пачалася іх барацьба за прыстойнае выжыванне. Пачалося іх бадзянне з павета ў павет.

Так, Сцяпан Іванаў Ліпскі апынуўся ў Бабруйскім павеце, у фальварку Халопенічы, на эканамічнай службе ў памешчыка Антона Комара. А Іван Іванаў Ліпскі, сын якога, Андрэй, пасылаў пісьмо цару, арандаваў зямлю ва ўрочышчы Воўчы Бор, у Бабруйскім павеце, Рудабельскай воласці. З жонкай Мар'янай займеў сыноў Андрэя, Сымона, Івана, Фаму, дачок Даміцэлію і Мар'яну. Там жа з ім жыў і брат Фама з сынамі Казімірам і Ігнатам.

У новым калене Ліпскіх, у шостым ад Франца, я «адкапаў» трынаццаць постацей: Франца, Казіміра, Марціна, Вікенція, Гілярыя, Антона, Пятра, двух Сцяпанаў, двух Іванаў і двух Гаўрылаў. З іх Гаўрыла ды Іван Андрэевы жылі ў Кунным. Там жа мелі зямлю Антон і Вікенцій Іванавы. Чатыры з трынаццаці кінулі якар у Кунным, якое межавала з Бабруйскім паветам, Парычамі, але ўваходзіла ў Рэчыцкі павет.

Астатнія хлопцы, відаць, недзе служылі ці вучыліся альбо халасцякавалі, бо не трапілі ў спісы землеўласнікаў. Усё гэта дае

---

* Па тым часе фунт (410 грамаў) хлеба каштаваў 0,2 капейкі, фунт грэцкіх круп — 3 капейкі, фунт каровінага масла — 17 капеек, фунт свежай свініны — 6 капеек, фунт мёду — 10 капеек, кубічны сажань бярозавых дроў — 7 капеек.

падставу меркаваць, што аседлае месца Куннае і стала гняздом, «сталіцай», палігонам для старту Ліпскіх на новыя землі. Няма сумнення, што і мой дзед Янка, Іван Іванавіч Ліпскі, нарадзіўся там, а ў Шоўкавічах, пад салаўіныя трэлі, пачаў майстраваць сваіх дзяцей. Ажно дванаццаць! У тым ліку і майго бацьку Сцяпана.

З бацькам, на вялікі жаль, не паспеў нагаманіцца пра свой радавод. У апошнія гады жыцця ён стаў маўклівым. Любіў узірацца ў далёкі лес за сенажаццю. Ды я і сам вінаваты. У тыя рэдкія і кароткія пабыўкі дома, не вельмі спяшаўся, не лез з роспытамі. Думаў, наперадзе — мора часу. А яго ў бацькі заставалася на адзін удых.

Цяпер во, як пішу гэту кнігу, каторы год «грабуся» ў архіўных паперах ды ў людской памяці, збіраю радаводныя зярняткі. Так натрапіў у Мінску, на вуліцы Пляханава, на Георгія і Ніну, дзяцей Міхала Ліпскага. Іх бацька — аднагодак майму бацьку. Кажуць, разам хадзілі па арэхі, гасцяваліся сем'ямі, то ў Кунным, то ў Шоўкавічах. Бацькі Міхала і Сцяпана, а нашы дзяды Якаў і Іван, былі стрыечнымі братамі.

— Наш бацька, — згадвае Ніна Міхайлаўна, — узяўся стварыць калгас. Звялі кароў, авечак, свіней у хлеў «міраеда», якога выгурылі ў Сібір. Божа, які ён багацей? Домработніцу Куліну трымаў, дык у яго ж было дзевяць дзяцей... Ага, звялі жыўнасць у адзін хлеў, а раніцай, памятаю, бацька абхапіў галаву рукамі і стагнаў: «Што будзе, што будзе?..» Ноччу нашы хутаране разабралі ўсю калгасную худобу па сваіх хлявах...

— Нас тады, — падхоплівае размову Георгій Міхайлавіч, — кассялілі з Куннага ў Печышчы. І арганізавалі калгас «Камф». Кажуць, па-яўрэйску — гэта барацьба. У Печышчах кішэла яўрэяў. З імі дружна жылі, аж пакуль не пачалася вайна з германцамі...

Ніна Міхайлаўна медсястрой прайшла па вогненных сцяжынак. Георгій Міхайлавіч «саспеў» для войска толькі к канцу вайны. Пяць гадоў шафярыў пад Масквой, дзе будавалі аэрадромы.

Даўно аўдавела медсястра Якаўлева-Ліпская. Цяжкую аперацыю на страўніку перанёс яе брат Георгій Ліпскі, таленавіты музыка ансамбля «Карабейнікі» са Светлагорскага раёна. Сядзяць брат і сястра, прыгадваюць былое. Цешуся сустрэчай. І шкада сівых галубкоў. Яны так мала ведаюць пра свой род. Жылі пад страхам, было рызыкоўна прызнаваць сваё шляхецкае паходжанне.

— Я неяк склала схему нашай сям'і, — прызнаецца Ніна Міхайлаўна, — а тады ўзяла дый знішчыла. Цяпер не аднаўлю. Памяць дзіравая...

У Куннае ды Шоўкавічы мы яшчэ вернемся, а пакуль што, мае цярплівыя чытачы, давайце пагартаем скупыя архіўныя старонкі ды разам паразважаем над радаводнымі крыніцамі Ліпскіх. Хай гэта потная ды бяссонная праца натхніць і вас шукаць свой радавод, стане прыкладам, як гэта рабіць.

Памятаеце, Андрэй Іванаў Ліпскі пісаў цару, спасылаўся на сямейныя дакументы. Ён прасіў у міласцівага бацюхны, каб той садзейнічаў праз геральдыю прыняць яго сыноў і пляменнікаў, у шостым калене ад заснавальніка роду Франца, у дваранскае саслоўе. На пачатку свайго ліста Андрэй Іванаў пазначыў: «В дополнение к делу, возвращенному...»

Ага, выходзіць, справа ўжо вялася, але па нейкіх прычынах было адмоўлена маім продкам дваранамі звацца. Трэба шабуршэць архівамі.

Знайшоўся пратакол камісіі па рэвізіі дзеянняў Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу за № 292 ад 24 жніўня 1840 года, у якім разглядваецца справа аб дваранскім паходжанні роду Ліпскіх. Што новага даведваемся з гэтага пратакола?

Аказваецца, Іван Іванаў, у чацвёртым калене, яго сын Андрэй, у пятым калене, а ўнук Гаўрыла, сын Андрэеў, у шостым калене, ужо прызнаны дваранамі 4 верасня 1825 года і ўнесены ў І частку Дваранскай радаводнай кнігі Мінскай губерні. Сам прадвадзіцель дваранства Леў Оштарп і дзевяць дэпутатаў падпісалі гэта рашэнне. Во што надавала смеласці стукацца аж да гасудара імператара, каб такое ж званне атрымалі новыя Ліпскія.

Для доказу дваранства патрабаваліся розныя дакументы. Але самае галоўнае: дакажы, што твой родапачынальнік жыў прыстойна, меў зямлю, карыстаўся прывілеямі. Мае Ліпскія, называючы Франца ў падмурку роду, ужо прыводзілі, што ён купляў частку маёнтка з шасцю сялянскімі хатамі ў Германішках Ашмянскага павета. Вось новы дакумент: 8 сакавіка 1720 года той жа Франц Ліпскі з жонкай Соф'яй, па першаму шлюбу Бржастоўскай, купілі ў скарбніка аршанскага Дамініка Амброка паўтрэці валокі зямлі ў вёсцы Варкуцыён. А сына Якава, свайго адзінага спадчынніка, нарадзілі 29 чэрвеня 1723 года.

Хто ж такі Франц Ліпскі?

У розных радаводных схемах Ліпскіх я сустракаў Францаў. Але ад іх паходзілі іншыя дзеці. А то называлася, што яны ўвогуле бяздзетныя. Не супадалі гады і месца жыхарства.

Адкуль жа ўзяўся мой прашчур Франц? Не можа быць, каб яго прыдумалі? У геральдыі сядзелі такія чыноўнікі, што міма іх блыха не праскочыць. Спаймаюць і дакажуць: яна не ў тым месяцы спладзілася, у якім хрысціўся яе гаспадар.

І раптам нечаканая знаходка!

Пісьмо Яна Янавага Ліпскага па-польску. Займеў яго копію і паклаў у папку знаходак. Думаю, прачытаю некалі з перакладчыкам, а цяпер трэба перарыць іншыя архівы.

Ды вось дайшла чарга і да польскага ліста. Яго пісаў унук Якава, праўнук Франца, Іван Іванаў Ліпскі ў верасні 1825 года. Той Іван, які даказаў сваё дваранства і атрымаў пасведчанне. Шляхціц з засценка Воўчы Бор Бабруйскага павета пісаў:

*«Прозвішча наша Ліпскі існуе з даўніх часоў. Мае доказы дваранства першапачаткова адхілены таму, што ў спісах рэвізскіх казак была блытаніна ў імёнах. Я хачу растлумачыць. Спіс 1795 года складваў уладальнік маёнтка Фларыян Корсак, на зямлі якога арэндным правам жылі Ліпскія. Не ведаючы дастаткова іх род, ён запісаў нашы імёны, як яму прадыктавалі, без усялякага парадку. Ліпскія прасілі, каб ён паправіў, хаця б на той старонцы, дзе пісалася па-польску, а ён гэтага не зрабіў. Мы выправілі самі, а, магчыма, гэтага нельга было рабіць, і ўзніклі сумненні ў нашым шляхецкім паходжанні. Ды і ёсць жа яшчэ нашы пасямейныя спісы, зробленыя ў 1811, 1816 гадах, якія чыніліся мінскім скарбнікам і барысаўскім павятовым маршалкам. У першым калене наш продак называўся Францішкам Ліпскім, які карыстаўся шляхецкімі правамі і валодаў маёнткам земскім у Ашмянскім павеце, названым Галынка...»*

Божа мой, Галынка! Дык гэта ж адзін з маёнткаў Гераніма Ліпскага, сына ротмістра Івана Ліпскага, які некалі стварыў атрад народнай кавалерыі і абараняў беларускія землі ў вайне з Расіяй. Галынка — гэта ж той маёнтак, які хацелі вярнуць сабе Гарабурды, радня жонкі Гераніма. А Геранім — гэта той паслухмяны сын ротмістра, які быў у атрадзе разам з бацькам. Францішак, выходзіць, унук Гераніма!

Дык вось каго мае Ліпскія называлі родапачынальнікам. Ён, полацкі падстольнік*, пасля спадчыннай Галынкі купляў частку маёнтка Германішкі ў тым жа Ашмянскім павеце, набываў іншую нерухомасць. Але найгалоўнейшы яго жыццёвы здабытак — сын Якаў. Ад яго пайшлі сыны Іван і Войцэх. Ад Івана — пяць сыноў, сярод іх — яшчэ Іван. У Івана — чатыры сыны, і зноў — Іван. Гэты Іван, у пятым калене, займеў шэсць сыноў і аднаму з іх надаў спадчыннае імя — Іван, які нарадзіўся 15 мая 1837 года. Гэта і ёсць мой прадзед.

А дзед Янка, Іван Іванавіч, — шосты Іван у радаводнай лесвіцы. З жонкай Праксэдай Старжынскай у вёсцы Шоўкавічы займелі дванаццаць дзяцей. Трое з іх памерлі маленькімі. А сярод дзевяці, якія дажылі да спелага ўзросту, быў мой дзядзька Іван, прадаўжальнік слаўнага імя Іванаў. Яно трымалася ў сямі пакаленнях Ліпскіх. Як эстафета. Як добрая памяць па ротмістру Івану, якога і трэба лічыць родапачынальнікам. А яго карані ідуць з магутнага роду Ліпскіх пад гербам «Граблі».

Што ведаю пра бабчын род? Хто такія Старжынскія? Адкуль яны ўзяліся на Беларусі?

У падмурку роду — Гаўрыла Старжынскі. Ён меў прывілей караля Зыгмунда III на маёнтак Калугу, выдадзены 13 студзеня 1588 года. Сыну яго Фаме ў 1659 годзе князь Карл Радзівіл выдзеліў

---

* **Падстольнік** — службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім, намеснік стольніка. З XVI ст. ганаровы тытул, які надаваўся магнатам, феадалам, шляхціцам; былі падстольнікі земскія і павятовыя.

фальварак Абчын з васьмю сялянамі ў Слуцкім княстве Мінскага ваяводства.

Праз 128 гадоў, 7 кастрычніка 1787 года, унукі Фамы Рыгор і Іван Мацвеевы, Фёдар Іванаў, Аляксандр Лаўрэнаў, Фама Данілаў прадалі дзедаў маёнтак Абчын за 12 000 злотых двараніну Міхалькевічу.

У 1852 годзе ў спісах былой польскай шляхты знаходзім Старжынскіх у Бабруйскім, Ігуменскім, Слуцкім паветах. Лінія маёй бабкі Праксэды пайшла на Рэчыцкі павет. Ад Фамы, сына Гаўрылы, пайшоў Мацвей, пасля — Іван, Васіль, Кузьма, Марцін, Васіль.

Удалося адшукаць сямейны спіс двараніна Рэчыцкага павета Мінскай губерні Васіля Марцінавага Старжынскага, бацькі Праксэды, складзены 17 мая 1888 года. З яго даведваемся, што Васілю Марцінаву на той час было 52 гады, праваслаўны. Ніколі не служыў і не служыць. Хатняга выхавання. Яго жонцы Сынклеце Паўлаўне — 44 гады, праваслаўная. Сыны — Георгій, 17 год, Уладзімір, 5 год. Дочкі — Соф'я, 19 год, Алена, 13 год. Сям'я Старжынскага жыве ў ваколіцы Мядзведава Рэчыцкага павета. Сваёй зямлі няма. Займаюцца гаспадаркай на арандуемай зямлі.

Як бачым, у 1888 годзе Праксэды, старэйшай дачкі Васілёвай, у сям'і ўжо няма. Яна з Янкам Ліпскім ладзілі сваё гняздо ў Шоўкавічах, дзе іх бацькі арандавалі зямлю. Факт бясспрэчны, бо праз год ад гэтай даты ў іх з'явіўся першы сынок Тодар, а яшчэ праз два, у 1891 годзе, мой бацька Сцяпан.

Што ведаю пра дзядзькоў і цётак па бацькавай лініі?

Вельмі мала, той загадкавы мізэр, які пастаянна мучыць мяне. Былі-жылі людзі і зніклі, як сон. І ўжо ніхто ніколі не пачуе іх галасы, не прачытае іх кнігу душы. А тыя нямногія іх аднагодкі, якія і летам грэюць спіны на печы, упарта адмоўчваюцца. Адных асядлаў склероз. Іншыя ўзялі рот на замок яшчэ ў часы берыеўшчыны, і вітае над імі дух чорнага нячысціка да апошняга ўздыху. Горкая ява. Яна патрабуе ачышчэння, размарозкі, пакаяння. Ад усіх, а найперш ад новых ваяроў за вольную і незалежную Беларусь.

У Гомельскім абласным архіве знайшоў «Акладны ліст № 52 падаткаў на лён і каноплі па вёсцы Шоўкавічы за 1921 год». Сельсаветчыкі склалі дакумент, па якому «засвяціліся» мае аднавяскоўцы. Усяго сямей — 32, у іх едакоў — 169. Для падтрымкі рэвалюцыі яны абавязаны былі здаць дзяржаве 167 фунтаў ільнянога і 257 фунтаў канаплянага семя. Па іншых «цвёрдых накладных» павінны былі плаціць падаткі за жыўнасць і нерухомасць, за яблыню і грушу, за дым з коміна і за месца пад сонцам.

Па тым часе мой дзядзька Тодар Ліпскі меў шэсць едакоў і пяць дзесяцін пашні, сенакосу. Пры хадзьбе накульгваў, насіў вусы. Быў у прымах у Анюты Корзун. Лічыўся актывістам у сельсаветчыкаў. А як пачалі людзей зганяць у калгас, не захацеў абагульваць сваю зямлю, не павёў у агульны статак сваіх двух валоў

# ПОСЕМЕЙНЫЙ СПИСОКЪ

Дворянина Рѣчицкаго уѣзда Минской губепіи Василія Ѳедорова Старжинскаго

**1888 года**

| № по порядку. | Мужескій полъ. Имя, отчество и фамилія | Лѣта отъ роду или же по метрикѣ когда родился. | Вѣроисповѣданіе. | Гдѣ состоитъ на Государственной службѣ и въ какой части служитъ и воспитаніе. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Василій Ѳедоровъ Старжинскій . . . | Родился 22 Марта 1817 года | правосл. | Нигдѣ не служилъ и не служитъ, занимается хлѣбопашествомъ |
| | его сыновья: | | | |
| 2. | Григорій | 40л. | тоже | нигдѣ |
| 3 | Павелъ | 34 | тоже | нигдѣ |
| 4. | Ѳедоръ | 28. | тоже | — |
| | Сыновья Григорія: | | | |
| 5 | 1. Никита | 4г. | тоже | — |
| 6. | 2. Иванъ | 1 мѣсяцъ | тоже | — |
| | Сынъ Павла: | | | |
| 7 | Иванъ | 6л. | тоже | — |

Примѣчаніе: по дворянскимъ спискамъ — ставъ въ Рѣчицкій уѣздъ по случаю покупки земли. Что настоящій списокъ составленъ правильно, въ томъ подписомъ своимъ удостовѣряю.

Василій С

і дзве каровы. Кажуць, на сход, дзе начальства прымусова запісвала жадаючых, прыйшоў Тодар з вяроўчынай і сказаў: «Вядзіце мяне на гэтай вяроўчыне ў калгас. Калі не парвецца, запішуся ў арцель. А парвецца — выбачайце!..»

Праз некалькі дзён да хаты крывога Тодара пад'ехаў чорны варанок. І павезлі шоўкавіцкага селяніна аж у Архангельск. Адтуль і не вярнуўся. А дочкі яго Марылька, Саша, Раіна пражылі жыццё пад гнётам удвоеных падаткаў і вечнага кляйма, што бацька — вораг народа.

Дзядзька Мікалай пражыў мала, усяго 37 гадоў. Прастудзіўся, займеў туберкулез. Сваёй жонцы Ганне пакінуў хату з саламяным дахам ды двое дзяцей — Валю і Ваціка. Яны ўжо пенсіянеры. Жывуць у Рэчыцы.

Дзядзька Іван выбіўся ў старшыні шоўкавіцкага калгаса імя Молатава. Яго ўсе клікалі — Думка. Дзе трэба, дзе не вельмі, ён казаў: «У мяне ёсць думка. Трэба падумаць...» Ажаніўся на Марыі Трацэўскай з багатай Якубавай сям'і. Меў тры з паловай дзесяціны зямлі і пяць едакоў. А памёр ад ліхога янота.

Як было?

Ішоў дзядзька Іван па Шоўкавічах, а з лесу выскачыў звярок. Нашы Шоўкавічы акружаны непаўторным лесам. У бок Вузнажы — дубняк, дрэвы з небам гамоняць. Як ісці ў Свецкае і Святое — сасоннік, грыбныя ды ягадныя баравіны. Па накірунку да Селішчаў — балота, алёс. У бок Заходаў, Восава — бярозавыя гаі. Звяр'я ў лесе заўсёды кішэла, а пасля вайны яны ніяк не маглі змірыцца, што людзі вярнуліся на папялішчы і выстукваюць, ладзяць сабе новае жытло. Вось і той звар'яцелы янот, які перад дзядзькам перабягаў вуліцу, узяў ды пакусаў Думку, самога старшыню калгаса. Тады ж не было моды бегаць па дактарах. Не дадумаўся схадзіць да фельчара і дзядзька Іван. А праз некалькі дзён зачыніўся ў хаце. Пачаў выкрыкваць бальшавіцкія лозунгі. Не прызнаваў жонку, дзяцей. Вось тады ў Шоўкавічы ўпершыню прыехала з раёна машына хуткай дапамогі.

У пяцярых маіх цётак не было шчасця. Анэта выйшла замуж за Самуся Мажэйку з Куннага, адкуль Ліпскія і Старжынскія. Добрая была звычка: тасаваліся сем'ямі, якіх ведалі і паважалі. Нажыла бядовая цётка траіх дзетак, дый адразу ж згубіла мужа. Сын Жэня вучыўся на лётчыка, але вельмі хутка згарэў ад туберкулёзу. Дачку Таню пагналі на лесанарыхтоўкі. Там яе прыбіла дрэвам. І цётка Анэта да сваёй смерці гадавала асірацелых унукаў — Надзьку і Шурыка.

Цётка Марыля, кажуць, жыла з Чэчатам няўлюбкі. Ён часта прыходзіў з вузнажскай карчмы ў адных падштаніках. Грошы прапіваў, вопратку аддаваў у заклад. Двое дзяцей займелі. Паўлік малым памёр. А Холька, дачка, у сваім замужжы нарадзіла багата сыноў. Памірала цяжка: параліч не памілаваў яе рук, ног, мовы, зроку.

Цётка Жэня выйшла замуж за Лазоўскага ў Загуменне. Памерла, як насіла пад сэрцам першынца.

Дзве цёткі, Раіна і Каця, памерлі з голаду. Здарылася гэта ў 1947 годзе. Бясхлебіца панавала наўкол. Пуста і гола ў засеках вясной. А цёткі аб'явілі пост перад Вялікаднем. Шчыравалі ў працы, дома і ў калгасе, галодныя і аслабленыя. Святочным днём, як Хрыстос уваскрэс, яны разгавеліся, паелі першы раз скаромнага пасля посту. Іх і вынеслі адна за адной у сасоннік, на вясковыя могілкі, дзе ўжо спачывалі іх бацькі...

Восенню 1994 года мне пашчасціла пабываць у пупавінных мясцінах маіх дзеда і бабы — у Печышчах, Мядзведаве, Кунным. Усю дарогу да гэтых паселішчаў круцілася ў галаве казачка маленства: «Жыў дзед і баба, і была ў іх курка раба...» Пазней зразумеў: казка адгукнулася ў маім камп'ютэры таму, што далёкія і невядомыя дзед і баба ўявіліся такой жа светлай явай, як і ў казцы.

— Во тут жылі нашы, — махнуў рукой удалячынь Лявон Ліпскі, — гэта была ваколіца Куннае. Адной сям'ёй жылі Старжынскія, Кулеўскія, Мажэйкі, Ліпскія. Сплачона жылі...

Лявон, мой праваднік з Печышчаў, яшчэ нешта гаварыў, а я ўпіўся вачыма ў шырокі палетак, на якім калгас «Прагрэс» высадзіў хмель. Тут, на гэтых загонах, даўней абліваліся потам дваране Ліпскія і Старжынскія. Тут стаялі іх хутары-маёнткі.

— Хутары з Куннага ў трыццаць дзевятым загадалі перасяліць у Печышчы. Хто не захацеў — паехалі за Урал, — кінуў рэпліку Лявон.

Перад нашай сустрэчай я прачытаў кніжку Паўла Старжынскага «Такое дарослае дзяцінства», выдадзеную ў Маскве. У раздзеле «Хутар на Палессі», якім пачынаецца аповесць, аўтар піша:

*«Мне не верылася, што наш бацька кулак. На малюнках кулак — здаравенны і брухаты, як паросная свіння. Бацьку аднойчы маці назвала недаросткам. А раздзенецца — плоскі, тонкі, што лаўка, ніякага жывата. Кулак, кажуць, міраед, увесь свет поедам глытае. Бацька — першы прыгажун на ўсіх хутарах у Кунным ды Мядзведаве, паважаны чалавек...»*

Пісьменнік Павел Старжынскі — пляменнік маёй бабе Праксэдзе. І таму кожнае яго жывое сведчанне ўспрымалася як найвялікшае адкрыццё каштоўнага радовішча.

*«Хутар наш — з трынаццаці хат з прыбудовамі, садамі, агародамі. Жылі тут блізкія і далёкія родзічы. Ад усходу да захаду сонца працавалі на зямлі. Хлеба не куплялі, хлебам не гандлявалі. Белыя булкі пяклі толькі па святах. У аднаго зямлі ўдосталь, іншы мог прыкрыць свой надзел лапцем. Гультаёў на хутары не вадзілася...»*

У сваёй аповесці Павел Старжынскі апісвае Броню Ліпскага, якога разам з імі выслалі ў Сібір:

*«Ліпскі жыў на хутары адным домам, быў заможным і адукаваным. Меў новую параконную малацілку, веялку і трыер*. Імі ён зарабляў сабе на хлеб,*

---

* **Трыер** — машына для сарціроўкі і ачысткі насення.

З-за гэтага кавалка зямлі Браніслаў Антонавіч Ліпскі «загрымеў» з дзевяццю дзеткамі ў Сібір

*ездзячы па хутарах і вёсках. З яго малодшай дачкой, чарнявай Люсяй, мы вучыліся ў першым класе, за адной партай сядзелі. Я гатоў быў на ёй жаніцца, але мама не дазволіла...»*

Трымаю ў руках архіўныя паперы КГБ. Ліпскі Браніслаў Антонавіч арыштаваны на хутары Куннае 12 лютага 1930 года. Абвінавачваўся ў антысавецкай дзейнасці. «Шпіёну» па тым часе споўнілася 58 гадоў. Праз месяц яго павезлі ў Омскую вобласць. Разам з ім выслалі жонку Адэлю і дзевяць дзяцей: Алену, Яніну, Людмілу, Валянціну, Марыю, Нэлу, Аляксандра, Віталія, Вацлава. Нэлі было толькі тры гады, Валі — шэсць, Марыі — восем. Трое падлеткаў.

Пра гэтага Броню Ліпскага казалі ў Печышчах, што моцна працавітым урадзіўся. Расцерабіў ладную дзялянку ў лесе, сеяў там проса. Яго кашчавая Адэля любіла есці кашу. Ад яе, кажуць, штогод нараджала дзяцей.

Перад адпраўкай у Сібір Броніка Ліпскага раскулачылі. На карысць народнай рэвалюцыі. У гаспадара з Куннага забралі два кані, сем кароў, чацвёра цялятак, тры авечкі, тры парсюкі, хату, хлеў, гумно, свіран, малацілку і веялку...

Пісьменнік Старжынскі апісаў, як хутаране з Куннага ды Мядзведава прыжываліся ў Сібіры, як там абраблялі чужую зямлю. Так кара́лі працавітых гаспадароў. А за што, дык яны і самі не ведалі.

Родзічка пісьменніка Старжынскага Клаўдзія Васільеўна, з якой пазнаёміўся ў Печышчах, распавядала:

— Нявестка наша вычытала, а мо пачула дзе, што ісці ў калгас можна толькі добраахвотна. Ну а нам казалі, калі не запішашся ў калгас, то табе месца — на Месяцы. От нашы бабы сабраліся і пайшлі ў калгас адвязваць сваіх кароў. А тады насенне сваё забралі. Пракурор прыехаў, дапытвае: «Хто вас падвучыў?» Маўчаць. Пытае: «Хто на вашых хутарах чытаць умее?» Так во і пачалі раскулачваць тых, хто азбуку ведаў і ўмеў распісацца. Мама мая схавала ў грубку, пад халодны попел, адзежку сабе і бацьку на смерць, дык дайжа і тое выграблі. Лялька была, дак і тую забралі. Во як раскулачвалі...

Да гэтай жорсткай праўды дадае свае словы Лявон Міхайлаў Ліпскі, якога бачу ўпершыню, а ён перакананы, што мы блізкая радня:

— Я табе, братуха, так скажу: не вельмі выйгралі тыя, каго не раскулачвалі. У бацькі майго быў жарабец чорны, кабыла, тры дойныя каровы, пяць цёлак, шэсць свіней. Усё здаў у калгас. Яго паставілі старшынёй калгаса. А ў вайну — забілі...

Там, дзе раней жылі Ліпскія ў Кунным, пасадзілі хмель, садовыя дрэўцы. Сеткай абгарадзілі. Ад зайцоў і ад людзей. Сад, як помнік шчырым, мазольным зямлянам.

А ў Мядзведаве, дзе жылі Старжынскія, цяпер атабарыліся чарнобыльцы, перасяленцы з Хойніцкага раёна. Для іх пабудавалі пяцьдзесят домікаў, школу, падвялі газ, ваду. Абкараняйцеся, падсечаныя пад корань.

Адшукаў у Мядзведаве адзіную з даўнейшых Старжынскіх — бабу Анюту. Яна, трымаючыся за жэрдку, злезла з печы, паправіла хустку на галаве, вельмі абрадавалася, што ёй цікавіцца пісьменнік з Мінска:

— Я, галубчык Ліпскі, перад Пакровай радзілася. Дак мне ўжо з таго часу восемдзесят восем гадоў мінула. Яшчэ сама з печы злезу і на печ узлезу. Нас, усіх Старжынскіх, берыеўцы патрывожылі. Каму двайныя падаткі прыпісалі, каго раскулачылі, іншых у таварняк пасадзілі і вывезлі далёка, — баба Анюта прыжмурыла і без таго вузкія, старэчыя вочы, як бы ўключыла кіно памяці, расказвала далей: — Я ў лесе якраз была. Мо ў грыбы хадзіла, ці



Лявон Ліпскі з Печышчаў вельмі падобны на Пятра Ліпскага з Шоўкавіч. У іх адны карані, але яны гэтага не ведаюць

што. Вяртаюся, а ў хаце — вэрхал. Усё забралі, усё падгрэблі. Сынок сядзеў у люльцы, дык з-пад яго не ўзялі пялёнкі. Зміласцівіліся. З хаты нас, кулакоў, выгналі. У хлевушку начавалі. Хадзілі ў бежанцы: Мольч, Старына, Шацілкі, Парычы... Падлавілі ў вайну і вывезлі ў Германію. Год пад прымусам працавала на заводзе, дзе рабілі снарады. А дома чакала горкая навіна. Мужа забілі ў лесе. Па дровы ездзіў. Прыкапаны быў са звязанымі рукамі. З лапцей аборы павыцягвалі. Каму ён шкодзіў, чым? Ляжу на печы, і душыць крыўда...

Не магу забыць і Вячаслава Сяргеевіча Старжынскага з Асопнага. Гэта вёсачка непадалёк ад Мядзведава. Статны. Мудры. Прыветлівы. Загадаў жонцы прынесці з кладоўкі свежаніны, пляшку. У свае восемдзесят гадоў лёгка каўтнуў чарку. З яго доўгага аповеду запомнілася во што:

— Мой брат Валодзя на фронце загінуў. Прыслалі ізвяшчэнне. Маці схавала, дак мышы сцяглі ды з'елі. Галодныя былі, як і мы, дваране... А бацька памёр да вайны. У лапцях пагнаў кароў пасвіць. Карова ўгрузла. Пераначаваў ля яе ў балоце. Моцна прастудзіўся. Памёр раскулачаны... Мядзведава засялілі Старжынскія здаўна. У нашым родзе быў Сцяпан. Здаровы, што мядзведзь. У лесе зваліў сасну на вуллі. Усклаў на воз, прывёз у двор. Сабраў мужыкоў, каб падсабілі разгрузіць. Пакуль тыя курылі, ён узяў паціхеньку і зняў камель, пасля — вільчык. А тады й кажа: «Дзякуй, хлопцы, што прыйшлі, дзякуй за падмогу». Сільна крэпкі быў. Зімой спаў у амбары. Жонка ці дзеці, бывае, нагрэюць коўдру, накрыюць яго.

Скіне, павесіць на плот. А раніцай ідзе даглядаць худобу ў нацельным, босы. Праўнук яго Павел напісаў кніжку, як іх раскулачвалі і вывозілі ў Сібір. От як бывае!..

Сустракаўся яшчэ з двума жывымі сведкамі па лініі бабкі. У Жлобіне — з сынам Георгія Старжынскага Парфірам, а ў Шоўкавічах — з дачкой Уладзіка Старжынскага Надзяй. Але, на вялікі жаль, нічога новага яны не паведалі. Здзівіў іх я, калі паказаў ім копіі метрыкаў бацькоў: Георгій нарадзіўся 6 красавіка 1871 года, а Уладзік, Уладзімір, — 14 ліпеня 1883 года. Яны былі роднымі братамі маёй бабкі Праксэды.

Ва ўсіх сведак хацелася выцудзіць паболей пра дзеда Івана і прадзеда Івана Ліпскіх. Пра іх мала хто помніў. Тады я занатаваў у блакнот і ў памяць усіх Ліпскіх, якіх мне называлі і якія ў свой час атабарыліся ў Кунным, Мядзведаве, Печышчах. Хай застануцца ў генетычным гняздзе Ліпскіх:

Якаў Ліпскі, жаніўся на Дуні Караткевіч. З ім у Дуні — сыны Усевалад і Міхаіл. А Лявон, у якога я начаваў і які арганізаваў экскурсію па родных мне і яму мясцінах, якраз і ёсць сын Міхаіла. Другі раз да Дуні прыстаў прымак, родзіч мужа — Казімір Ліпскі. Гэта дваюрадны брат майго дзеда Івана. Ад яго — Ніла, маці опернага спевака ў Мінску Уладзіміра Любінскага, Клава, дачка якой Ліна Пятроўна — вядомая ў Светлагорску настаўніца, а таксама дочкі Лена і Шура;

Іван Ліпскі, а гэта імя жыло ў шматлікіх галінах дрэва Ліпскіх, як жаніўся ў 1926 годзе на Анюце Старжынскай, стаяў моцны мароз. Каня, каб не змёрз, увялі ў хату, дзе было вяселле;

быў прымак Костусь Ліпскі ў Мядзведаве. Жонка ў яго — Каета Старжынская, грузная баба. А ён — з барадой, шустры. Возьме курачку, занясе ў Давыдаўку, прадасць яўрэям за гарэлку;

у Кунным жыў Зміцер Ліпскі, малы і лысы. А Эдвард, яго брат, высокі, з вусікамі;

Юзіка Ліпскага саслалі ў 1937 годзе за тое, што хадзіў маліцца ў касцёл. Быў талковы каваль, пчол трымаў, віртуозна на скрыпцы іграў. Змайстраваў вялізную хату, з жонкай Воляй Прыжылуцкай хацеў мець багата дзяцей. Паспелі нарадзіць толькі Жоржа і Генку;

Алесь Ліпскі — стары і з барадой. Хлус несусветны. Змарозіць любіў небыліцу, што нават сучасныя аўцюкоўцы пазайздросцілі б;

Базыль Ліпскі — не дурань выпіць і пагуляць. Пра такіх спяваюць: «Прапіў маё імячка, прапіў бела лічыка, з маёй галовушкі платок, з правай рукі — персцянёк»;

Георгій Ліпскі хаваў у хляве на гербавай паперы дакумент, што ён дваранін. Яго раскулачылі, а хлеў згарэў;

Іван Іванаў Ліпскі — століначальнік у 1907 годзе ў паліцэйскім упраўленні Рагачоўскага павета, праваслаўны, дамашняга выхавання і адукацыі. Пазней займеў такую ж пасаду ў Касцюковіцкім павеце;

Фёдар Мікалаеў Ліпскі (Парыцкая валасць) і Сцяпан Дамінікаў Ліпскі (Рудабельская валасць Бабруйскага павета) мелі права ад



Мая мама, Марыя Адамаўна Янушэўская-Караткевіч-Ліпская, — мая Багіня, Настаўніца

з'езда землеўласнікаў галасаваць за дэпутатаў Дзяржаўнай думы. Такім высокім правам карысталіся на Бабруйшчыне вядомыя людзі Ванькові́ч, Валадзько, Забэла, Дабравольскі, Хадасевіч, Сазановіч, Лянкевіч, Мурашка, Чаплін, Янкоўскі...

Гэткі атрымаўся экскурс у гісторыю майго роду. Такія вось Ліпскія і Старжынскія падрыхтавалі маё нараджэнне на сучаснай зямлі. Адбылося гэта 6 мая 1940 года, якраз жа на Юр'еў дзень. Кажуць, у гэты дзень святы Юрый адмыкае зямлю. Гаспадары ўпершыню выганяюць на пашу хатнюю жывёлу. Перад брамай пракладуць кажух, кудлаччам уверх, а ў яго — хлеб і яйка. Усе праводзяць статак на луг. Спяваюць песні і просяць святога Юрыя, каб пусціў расу і даў цёплае лета. Каб урадзіла ніва, трэба пераганяць праз яе статак. А маладыя члены сям'і павінны пакачацца па руні, каб жыта расло густое.

У такі Божы дзень убачыў я свет. Мы з мамай былі ў бальніцы. А што рабіла наша сям'я?

Бацька, відаць, выгнаў карову на пашу, а вечарам запрасіў усіх, хто мог, выпіць за мяне. У хату завітала бабка Праксэда, маленькая і згорбленая, памалілася. Яна даўно пахавала свайго мужа Янку, і ў самой дагарала свечка жыцця. Прыйшоў яе брат Уладзік Старжынскі з жонкай Марыяй. Другі бабчын брат Георгій не дачакаўся майго нараджэння — памёр. З дзядзькоў не было Міколы — памёр, і Тодара — «паліў печы начальнікам у Архангельску».

Радаваліся майму з'яўленню браты Коля і Пеця, сёстры Клава і Люба. Асабліва цешыўся сынок маёй сястры Ліды — Міша. Яму было ўжо два месяцы. Ён даводзіўся мне пляменнікам, а я яму — дзядзькам. Ад такой навіны Міхаська кульнуў лішнюю чарку мамінага малачка і цэлы дзень смяяўся.



На гэтым месцы ў вёсцы Шоўкавічы стаяла хата, дзе я нарадзіўся

Пакуль мы з мамай ляжым у горвальскай радзільні, я раскажу вам пра гэту святую жанчыну Марылю. Яна — мая багіня. Маё сумленне. І цяпер ужо дакладна ведаю: яна натхніла мяне стаць тым, кім я ёсць у жыцці. У свае сорак два гады мама беражліва вынасіла мяне пад сэрцам і з радасцю нарадзіла. Подзвіг мамы, яе светлы вобраз помню кажнюткі дзень, хаця адышла яна ў вечнасць дваццаць тры гады назад.

Мама мая Марыля з дваранскага роду Янушэўскіх, герба «Дамброва». Заснавальнік дрэва Казімір набыў маёнтак Заблаўшчызну ў Ашмянскім павеце 2 лютага 1741 года, з шасцю сялянскімі хатамі, у землеўласніка Станіслава Вайцяхоўскага. Адсюль і пачаў плесціся радаводны ланцужок Янушэўскіх. Ён зніатаваў Мазырскі, Рэчыцкі, Бабруйскі паветы, Магілёўскую, Чарнігаўскую, Курскую губерні. Сярод Янушэўскіх сустракаем калежскага рэгістратара, губернскага сакратара, унтэр-афіцэра, паручніка літоўскіх войск, пісара, свяшчэнніка Мінскага Святадухавага манастыра.

Мая мама з сям'і арандатара Адама Фларыянава Янушэўскага. Кажуць, разумны вельмі быў. Умеў чытаць газету. Людзей любіў. Пойдзе па вуліцы, прывядзе ў хату на начлег цыгана ці яўрэя.

Хату збудаваў у вёсцы Вялікі Лес, каля Стрэшына. З жонкай Пелагеяй Караткевіч нарадзілі шасцёра дзяцей: Анюту, Агату, Марылю (маю маму), Паўла, Юзіка, Любу (памерла маленькай).

Паўла забралі берыеўцы ў той жа дзень, як яго жонка Арыша нарадзіла дзіцё. Яна не змагла нават падняцца з ложка, каб развітацца. Павезлі і расстралялі ў Гомелі, як шпіёна буржуазнай Польшчы. А ён жа стварыў калгас і ладзіў моцную сям'ю.

Юзік памёр маладым. Быў сакратаром камсамольскім. Хавалі з аркестрам і «Інтэрнацыяналам».

Цётка Анюта, Бабічыха, жыла ў Шоўкавічах. Вучылася ў школе ўсяго сем месяцаў. А розуму і этыкету ні ў каго не пазычала. Прыгожая ўдалася цётка. Уважлівая да ўсіх, шчодрая. Любіў бегаць да яе на гулянкі, бо заўсёды чым-небудзь смачным частавала. Сустрэліся мы і за некалькі месяцаў да яе смерці. Ёй, адчуваў, хацелася выгаварыцца, даверыць свае таямніцы, і я асмеліўся спытаць:

— Што больш запомнілася вам за восемдзесят тры гады жыцця?

— Ох, Валодзька, двух мужоў пахавала. Сына з вайны не дачакалася. На чацвёра дзяцей выходзіла замуж. Сваіх трое нарадзіла. Дваццаць гадоў удавой пражыла. А ніколі не забывала першага кавалера Васіля Пакаева. На ім усё гарэла. Як загаворыць ды заспявае — млею. Сватаўся. Гарэлку пілі. А бацькі не аддалі мяне. Сказалі, твой Васіль — мужык, табе не раўня. Я ж яго і цяпер люблю!..

Цётка Агата жыла ў Мінску. Яна мяне прыючіла, калі пасля заканчэння школы прыехаў да іх у Сцяпянку. Вельмі дзівавалася, што я з цяжкім чамаданам ішоў поначы і распытваў у цыганоў дарогу. А калі раскрыў абшарпаны чамадан, яшчэ больш здзівілася. Там ляжалі адны падручнікі і брусок сала. Мы тады прагаварылі з ёй да раніцы. Яе цікавіла ўсё: у каго штаны пазычыў, каб ехаць у сталіцу вучыцца на журналіста, як здароўе маёй мамы, яе сястры, ці нясуцца куры, што расце ў агародзе?..

Са мной цётка Агата гаварыла як з роўным, і за гэта яе паважаў усё жыццё. Пасля пераканаўся: больш гасціннай і хлебасольнай цёткі няма ва ўсім свеце. Яна замяніла мне маму, калі тая памерла. А калі пахавалі і цётку Агату, я адчуў сябе круглым сіратою.

У мамы маёй не атрымаўся першы шлюб. Выходзіла замуж за Міхаіла Караткевіча ў Дабужу. З багатай сям'і, дваранін. Але ж не адкупіўся ад тыфу. Пакінуў па сабе спадчыну — дачку Ліду, а мне — старэйшую сястру. Вось тады ўдавец Сцяпан Іванавіч Ліпскі і адшукаў аўдавелую Марыю Адамаўну Караткевіч-Янушэўскую. Першая бацькава жонка Варвара Браткоўская памерла пры родах. За ёй загінула і дзіцянятка.

Даўней лічылася, што па другому разу жаніцца ці выходзіць замуж маюць права толькі тыя, хто па прычыне смерці губляў свайго спадарожніка жыцця. У сучаснай моладзі, на вялікі жаль, колькі шлюбаў — столькі і разводаў. Пахіснулася маральная трываласць сем'яў, іх падмурак.

Мае бацькі пражылі ў любасці 52 гады. Нажылі нас, дзяцей, шасцёра. І перадалі нам у спадчыну ўсё лепшае, што атрымалі ад сваіх бацькоў: чыстае сумленне, любоў да жыцця і прыроды, душэўную дабрыню. Іх запавет: будзь Чалавекам!

Мама спявала нам калыханкі. Кожнага ўволю напаіла сваім малачком. Умела гатаваць і частаваць. Як прыгадаю яе мачанку, бліны, сырніцу, крывянкі, каўбасы, дык аж слінка цячэ. Зімою — прала і ткала. З вясны і да восені — у полі і агародзе. Адзіную

ўзнагароду мела — «Медаль мацярынства» другой ступені. Я нават адшукаў рэчыцкую газету «Сацыялістычная праца» (№ 46 ад 1 лістапада 1946 года), у якой надрукаваны указ аб узнагароджанні Ліпскай Марыі Адамаўны, калгасніцы калгаса імя Молатава Вузнажскага сельсавета. Мамін медаль — мая самая дарагая рэліквія ў кватэры.

А ў архіўных дакументах Вузнажскага сельсавета за 1925 год сустрэў спіс шоўкаўцаў, якія праходзілі курсы па вывучэнні азбукі. «Курсанткай» запісана і мая мама Ліпская Марыя Адамаўна. Па тым часе ёй было ўжо трыццаць гадоў. А на руках — трое дзяцей: Лідзе — шэсць гадоў, Клаве — тры, Пецю — адзін год.

Тады мама і навучылася распісвацца. А перад смерцю прыслала мне ў Мінск пісьмо. Літарка за літаркай складвала словы. Іх вывучыў, як малітву: «Мае дарагія сынок Валодзя, нявестка Ніна, унучак Ігарок, хачу вас сустрэць гэтым пісьмом у добрым здароўі і вясёлым настроі. Жыццё наша ідзе па-старому. Здароўе дрэннае. То я хварэю, то бацька ваш. Залезем на печ удваіх, а кот трэці — грэемся. Чакаем, каб хутчэй вясна. Да спаткання. Моцна цалую вас усіх. Ваша мама Марыя Ліпская».

Следам прыляцела пісьмо ад сястры Любы: «Я толькі ад мамы. Яна вельмі слабая. Папрасіла мяне напісаць вам, каб не перажывалі і не палохаліся. Хацела пабываць у вас, але, сказала, ужо не давядзецца, моцна стукае ў грудзях. Прасіла, каб не плакалі...»

15 чэрвеня 1972 года пад поўнач я атрымаў тэлеграму ад брата Пеці: «Прыязджай тэрмінова. Мама памерла».

У чэрвені — самыя кароткія ночы. А тая доўжылася вечнасць. Яна была самай балючай за ўсё жыццё. Цягнулася так марудна, так цяжка ціснула на мяне, думаў, не дажыву да рання. Не верыў тэлеграме. Не мог змірыцца, што мама не загаворыць больш са мной, што не напячэ мне пульхных аладак. Няпраўда, што ў чэрвені самыя кароткія ночы.

З узыходам сонца паляцеў на вакзал. Ехаў да мамы на апошняе спатканне...

Пракацілася пасля той трагедыі багата гадоў, а я штодня прыгадваю маму, перад яе партрэтам малюся і спавядаюся.

Бацька пераждыў маму на пяць гадоў.

Не мог паверыць вачам сваім, што ў труне ляжаў волат, цягавіты, што вол, чалавек. На грудзях — пабялелыя рукі. Яны ўмелі рабіць усё: бочкі, цэбры, рамы, санкі, калёсы, верацёны, самапрадкі. Умелі касіць і араць, збіраць грыбы і няньчыць дзяцей. Бацька курыў, выпіваў і мацюкаўся, а дзецям гэтага ўсяго не дазваляў. Быў стаханаўцам у калгасе і аднойчы атрымаў прэмію — картовы касцюм.

У свае восемдзесят чатыры гады ён стаў слязлівым, чуллівым. З пенсіі сабраў кожнаму з нас, дзяцей, па пяцьсот рублёў. А мне ў спадчыну перапалі яго сшыткі, у якіх ён штогод і штодня старанна запісваў, што рабіў у калгасе. Тыя сшыткі натхнілі мяне напісаць аповесць «Лаўрэнавы працадні».

Маё жыццё, як і лёс усёй нашай сям'і, маіх братоў і сясцёр, вымяраецца, ацэньваецца вайной. Яна — адлік усіх бедаў, слёз і пакут.

Бацьку па старасці на фронт не ўзялі. Дапамагаў, як мог, партызанам. Служыў у іх сувязным. І як медалі, усё жыццё беражліва хаваў паперкі ад камандзіраў партызанскіх атрадаў, у якіх яны дзякавалі шоўкавіцкага памагатага за сабраны хлеб, за начлег, за сухія анучы.

У Нацыянальным архіве ляжыць даведка: «Ліпскі Сцяпан Іванавіч, 1891 года нараджэння, лічыцца сувязным партызанскага атрада № 108 імя Катоўскага 1-ай Буда-Кашалёўскай брыгады Гомельскай вобласці».

Брат Пеця вярнуўся з вайны параненым, з інвалідным дакументам. Як падап'е, усім паказвае сваю прабітую галаву і мацюкае Гітлера: «Гэта Адоля мяне пачаставаў». Брата ўзялі на фронт у чым стаяў: у фуфайцы і лапцях. Далі вінтоўку і павялі ў бой. Праз пару месяцаў мы атрымалі паперу, што ён забіты і пахаваны. Мама ездзіла пад Парычы на Пятрову магілку. А яшчэ праз некалькі месяцаў атрымалі ад яго пісьмо з Уфы, са шпіталя. На яго, аказваецца, рана выпісалі пахавальную...

«Галоўка ў нашага Пятра варыла добра», — любіў хваліцца бацька. Вельмі ж спрытна рашаў задачы. З-за іх, лічыць Пеця, у шостым класе сядзеў два гады: «Паспрачаўся з настаўнікам, што той няправільна рашыў задачу. Па-мойму выйшла. Дак жонка яго па рускай мове мяне заганяла».

Да вайны мой брат закончыў сем класаў і курсы бухгалтараў у Калінкавічах. У той дзень, калі яму трэба было ехаць у Шацілкі, прымаць бухгалтэрыю на суднаверфі, пачалася вайна. Яна і скалечыла яму жыццё. Інваліду другой групы Пятру Ліпскаму даверылі ў калгасе быць конюхам. Так ён і даслужыўся да пенсіі.

Жаніўся Пятрусь на прыгажуні Дзіне Браткоўскай з вёскі Вялікі Лес, з-за ракі Бярэзіны, з радзімы маёй мамы. Адтуль браў першую жонку і наш бацька.

Яны нажылі тры дачкі — Лену, Маню, Любу, а тыя падарылі ім шасцёра ўнукаў. Быў адзіны спадчыннік, сын Шура, але яго жыццёвая свечка гарэла толькі васемнаццаць гадкоў. Загінуў выпадкова і недарэчна — упаў з трактара, якім газаваў сусед Колька Трацэўскі. Пятро грозіўся забіць Кольку, ды што зробіш — хаты побач, іх не перанясеш. З гадамі паміры́ліся. Шурыка пахавалі побач з маімі бацькамі, а для яго — з дзедам Сцяпанам і бабай Маняй.

Сясцёр Клаву і Любу вайна загнала ажно ў польскі горад Пулавы. З франтавым шпіталем № 3650 яны прайшлі цяжкімі дарогамі вайны, падбіраючы і ратуючы байцоў. Адрас аднаго з іх санітарка Клава прывезла дамоў, у Шоўкавічы. А следам прыехаў у вёску і пярмяк Угліцкі Аляксандр Сцяпанавіч. Бацька зарэзаў казліка, згулялі вяселле. Было гэта 14 лютага 1946 года, у зямлянцы.

Сваё франтавое каханне маладыя загартавалі пяццюдзесяццю гадамі сумеснага жыцця. Займелі чатырох дачок — Таню, Любу



Мой бацька Сцяпан Іванавіч Ліпскі з сынамі Пятром і Міколам

і блізнят Валю, Алу, а таксама шасцёра ўнукаў. Блізняты былі і ў бабкі Праксэды. Так што нічога выпадковага ў прыродзе не бывае.

Сястра Люба пра сваё маленства:

«У школу бегала ў лапцях. Задачкі добра рашала, а пра цароў нічога не лезла ў галаву. Помню, бегалі ў Восаў, ад нашых Шоўкавіч мо кіламетраў сем, сустракаць Алісея і Піліпа Зайцавых, якія вярнуліся ад Сталіна. У Алісея было васемнаццаць дзяцей, а Піліпу далі ордэн Леніна за парасят. Для сустрэчы пабудавалі трыбуну пасярод вёскі. Алісей узышоў і сказаў: «Я даў абяцанне Сталіну, што будзе дваццаць дзяцей. Гэта было ў маі сорак першага. Праз месяц над нашай хатай праляцеў чорны самалёт са свастыкай. Вельмі ж страшна гудзеў...»

Як гудзеў варожы самалёт, здаецца, помню і я, хаця мне тады было толькі год з невялікім «хвосцікам». А сястру Любу, як і сястру Клаву, запомніў, калі вярнуліся дамоў з фронту. Прывезлі цукерак, якіх я ў вочы не бачыў, ды магазінныя штонікі. Першыя ў жыцці!

Люба выйшла замуж у Дабужу за Івана Корбута. У гэту невялічкую вёсачку ля Бярэзіны, куды ў першае і вельмі кароткае замужжа выходзіла і наша мама.

Любіна вяселле помню. Мне ўжо было восем гадоў. Танцаваў «Барыню» і спяваў прыпеўку:

Не глядзіце на мяне,
Што я абадраўся.
Мой і бацька такі быў,
Я ў яго ўдаўся...

А калі маладыя збіраліся ад'язджаць з двара, мяне падвучылі залезці на падушкі, Любін пасаг, і патрабаваць выкуп. Так я зарабіў першыя ў жыцці грошы.

Люба з Іванам нажылі дачку Клаву і сыноў Віцю, Валодзю, а таксама шэсць унукаў. Іван Корбут умеў багата чаго рабіць, але ўмеў і выпіць. Рана памёр. Другі раз сястра выйшла замуж таксама за Івана, лесніка Пракапенку, жывуць у згодзе, дружна.

Люба пра сваю жытку з новым Іванам:

«Цяпер я багатая! Хата — пад шыферам. Каня трымаем, карову, кабаноў, чатыры сабакі, два каты. Курам ліку няма. А зямлі — абы здароўе, бяры, колькі абробіш. У возеры і рацэ — рыба не перавялася, дак і на нашай патэльні часта сквірчыць...»

У Дабужы — некалькі хат. Божы куточак. Тут — неба вышэй, травы мурожныя, лясы лекавыя. Тут жыве мая сястра Люба, якая нечакана праславілася на ўсю Беларусь. Рэспубліканская «Народная газета» надрукавала 15 кастрычніка 1992 года артыкул «Исцеление» — як наша Люба вылечыла ад рака свайго сына Валодзю. Дактары выпісалі яму смяротны прыгавор, выклікалі маці, каб развіталася з ім. А яна завезла яго ў Дабужу, пачала збіраць па лугах, лясах лекавыя травы і грыбы. Два гады мацярынскага подзвігу паставілі Валодзю на ногі. Ён вярнуўся ў Заслаўе, дзе жыве з сям'ёй, зноў сеў на экскаватар.

Мой брат Коля, які нада мной, старэйшы за мяне на восем гадоў. Люба ўсім расказвае, як яна падгледзела Колева нараджэнне. Залезла ў падушкі, а побач, на ложку, баба Праксэда бабіла маму, прасіла парадзіху: «Маня, дуй у бутэльку...»

Колю, як і Пецю, Клаве, Любе, вайна пераблытала вучобу. Закончыў нейкіх шэсць класаў, курсы трактарыстаў. Доўгія гады працаваў у МТС, на падсочцы, у геадэзістаў. Ён купіў некалі мне першы ў жыцці касцюмчык, і я ўдзячны яму за гэта заўжды.

Працавіты, з умелымі рукамі, сялянскі хлопец Мікола Ліпскі дапусціў у жыцці адну памылку. Паехаў жыць у Гомель. Жонка Ніна зманіла туды. А вясковы прышчэп не прырос да гарадскога. Разышоўся з жонкай. Сыны Косця, Віця, Юрась разбрыліся па свеце. І застаўся мой брацік адзінокай былінкай у старасці. Да таго яшчэ з хворымі нагамі, якія давялося ампутаваць.

Вайна зачапіла і самую старэйшую сястру Ліду, родную мне толькі па маме. Яна выйшла замуж за Сцяпана Сыцьку ў вёску Старына за тры гады да вайны. Нажылі двух сыноў — Мішу і Шуру, дачка Марынка памерла маленькай. Муж Сцяпан ваяваў, дайшоў да Берліна. А калі вярнуўся дамоў, злыя языкі нашапталі, што нібыта ён, перад тым як пайсці ў армію, перавозіў цераз раку немцаў. Сцяпана, не ўлічваючы ўсе яго ўзнагароды і раненні, загрэблі і вывезлі ў невядомым накірунку. А Ліду з двума малымі дзеткамі выслалі на вольнае пасяленне ў Краснаярскі край. Там яна пяць гадоў даіла расійскіх кароў. Пасля пачала даіць шоўкавіцкіх. Даслужылася да пенсіі ды ціха і памерла. А перад гэтым — пахавала свайго меншага сына Шуру, які пакінуў у Гомелі дзве

дачкі — Марыну і Свету. Старэйшы Міша жыве ў Пухавіцкім раёне, мае дачку Лену і сына Сяргея.

Калі ўзяць толькі адну нашу сям'ю, то ў яе радаводны клубок уплецены прозвішчы: Ліпскі, Угліцкі, Корбут, Сыцька, Караткевіч, Янушэўскі, Старжынскі, Яленскі, Мажэйка, Шумілкін, Бабіч, Чаплінскі, Паўловіч, Пракаповіч, Пракапенка, Чэчат, Лазоўскі, Браткоўскі, Радзюкевіч, Ханеўскі, Гвоздзь, Бурмялёў, Шафарэнка, Паташка, Старажэнка, Юркевіч, Дудар, Захарэнка, Міцін, Камароў, Лось, Савошка, Мікіценка, Мурашка, Сушко, Яновіч, Пылінскі, Жарын, Кашавар, Трацэўскі, Каламіец, Рэўтовіч...

Гэты невад прозвішчаў прымушае пільна ўгледзецца наўкол: ці не з родзічам ходзім па адной вуліцы і не здароўкаемся, ці не радні топчам ногі ў трамваі, ці не з блізкімі людзьмі жывём чужакамі?

І зноў вяртаюся да вайны. Гэта такая пачвара, якая не мінае ні малога, ні старога. Праходзіць па лёсах, як па костках, са сваёй балюча смяротнай касой. Калі не заб'е, то параніць, калі і абміне, то дыхне гаркотай, ад якой пякотна на ўсё жыццё.

З маленькіх Шоўкавіч сталі пад ружжо трыццаць два хлопцы, чатырнаццаць з іх у вёску не вярнуліся. Загінулі і шэсць маіх дваюрадных братоў: Ліпскі Андрэй, Ліпскі Сцяпан, Сыцька Аркадзь, Коля Бабіч, Старжынскі Васіль і Старжынскі Лявон.

Нашы Шоўкавічы немцы спалілі на першы дзень Сёмухі. Разгар лета. Гарачыня. Касавіца. А ў вёску ўскочыў на кані пасыльны з партызанскага атрада «Бальшавік»:

— Уцякайце!.. Ратуйцеся!.. Немцы будуць вас паліць... Бяжыце ў бок Хаўруснага...

Нечаканая навіна абляцела вёску. Уяўляю разгубленасць людзей: як кінуць нажытае, што ўхапіць з сабой?

Мама ўхапіла іконку, загарнула мяне, гадавалага, у саматканую посцілку. Бацька ўзяў у печы чыгунок з бульбай, даёнку і вяроўчыну. Спадзяваўся на лузе залыгаць сваю карову.

Так для маіх шоўкаўцаў пачалося лясное быццё. Вёску спалілі датла. З хатамі згарэлі пяць чалавек. Старых і нямоглых, хто не здолеў дабегчы да лесу. Сяргея Маркава карнік дагнаў у жыце, выстраліў у спіну. Ваяку гітлераўскаму нечым замінаў наш дзед Сяргей.

Пачалі жыць у куранях, зямлянках. Харчаваліся, што зверкі, усім лясным: грыбамі, ягадамі, травой, карой. Нельга было крычаць, плакаць, спяваць. Маёй любімай цацкай стаў самаробны аўтамат: палка сукаватая з кансервавай бляшанкай.

Так вайна адняла ў мяне дзяцінства.

З таго часу страшна перажываю, калі крыўдзяць дзяцей. Сэрца разрываецца на друзачкі, калі бачу слёзы на бязвінных тварыках. Душа баліць за нашых дзяцей — заложнікаў Чарнобыля.

І ўсё-такі я шчаслівы, бо ўсё сваё свядомае жыццё прысвяціў дзецям.

Як пісьменнік пішу для іх кніжкі. Мае творы ўключаны ў

школьныя падручнікі. А за кніжку «Вясёлая азбука» атрымаў Літаратурную прэмію імя Янкі Маўра.

Як галоўны рэдактар рэспубліканскага часопіса «Вясёлка» ўсё раблю, каб часопіс быў патрэбным і карысным нашым дзецям. Вучым іх любіць родную зямлю і мову, паважаць старэйшых, хто клапоціцца пра іх заўтрашні дзень. Выхоўваем патрыётаў сваёй Айчыны.

Як прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду ссівеў, абараняючы правы дзяцей, дапамагаючы сіротам, інвалідам, хворым.

Як бацька разам з жонкай Нінай Іосіфаўнай выгадавалі дваіх дзяцей — сына Ігара і дачку Марыну. Сын — архітэктар, мастак, афармляе мае кніжкі. Дачка — біёлаг, закончыла універсітэт. Жадае распазнаць тайны ракавых клетак пасля чарнобыльскай трагедыі.

Як дзед ганаруся ўнукам Антонам і ўнучкай Машай. У 1995 годзе, калі заканчваў гэту кніжку, Антону споўнілася шэсць гадоў, Машы — гадок.

Сам я ўсё жыццё вучыўся быць чалавекам. Імкнуўся жыць па Божых запаветах. Умею сябраваць і любіць. Як сказана ў гараскопе пра цяльцоў, упарты ў дасягненні мэты, цягавіты ў працы, чуллівы, люблю ва ўсім гармонію і прыгажосць.

Вучыўся ў школе, тэхнікуме, універсітэце. Асноўная акадэмія — само жыццё, прырода, людзі.

Працаваў слесарам на Гарадзейскім цукровым заводзе, рэпарцёрам нясвіжскай раённай газеты. Шчыраваў у камсамоле і ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Мая праца ацэнена медалём «За працоўную доблесць».

Пішу кніжкі для дзяцей і дарослых. Гэта, пра твой і мой радавод, — трыццаць шостая. Па кнізе «Вясёлая азбука» пастаўлены спектакль у тэатры музычнай камедыі. Па кнізе «Аўцюкоўцы» праведзены першы ўсебеларускі фестываль народнага гумару ў вёсках Малыя і Вялікія Аўцюкі ў Калінкавіцкім раёне. Там атрымаў самы дарагі падарунак за ўсё жыццё — воранага, неаб'езджанага каня.

Майго каня гадуюць вучні Вялікааўцюкоўскай школы. Па маёй просьбе дзеці дапамагаюць старым, нямоглым людзям прывезці дроў, узараць соткі, пабаранаваць бульбу...

Галоўны прынцып майго жыцця: што аддаў — тое і тваё!

Раптам здарыцца, што калі-небудзь нараджуся ў нейкім новым стагоддзі, а мо на іншай планеце, то хацеў бы і ў тым вымярэнні быць чалавекам, любіць жыццё і прагнуць высокага кахання.

За пражытыя гады адкрыў для сябе дзве мудрасці.

Каб спазнаць першую, трэба глыбока зразумець і сардэчна палюбіць дзяцей, асэнсаваць свой род. Цяпер, як запавет, дэкларую ўсім: дзеці-спадчыннікі павінны ад бацькоў, як з чыстай крыніцы, наталіць багаццем свой розум, сэрца, душу і цела. Калі гэтага не здараецца, дзеці трапляюць у бяду.

Другую мудрасць адкрыў, калі пабываў у Злучаных Штатах Амерыкі, Мексіцы, Даніі, Бельгіі, Германіі, Францыі, Фінляндыі,

Югаславіі, Польшчы, Венгрыі, Балгарыі, В'етнаме, Карэі. Лепшай мясціны, чым мае Шоўкавічы, няма ва ўсім свеце. Тут самае зорнае неба. Самыя чыстыя росы. Самыя галасістыя салаўі. Самыя шчырыя людзі. Тут мае карані, якія надаюць сілы, натхненне і аптымізм.

Вучоныя адкрылі: сэрца чалавека штогод расходуе столькі энергіі, колькі патрэбна для таго, каб падняць груз вагой каля 900 кг на вышыню 14 сантыметраў. Маё сэрца падняло гэты груз ужо на 7 метраў і 70 сантыметраў. Вышэй за мяне самога больш чым у чатыры разы. З гэтай вышыні прамаўляю сваю штодзённую малітву:

Дай, Божа, даваць, а не прасіць;
Дай, Божа, заўсёды смяяцца і ніколі не плакаць;
Дай, Божа, каб было гожа;
Дай, Божа, з радасцю працаваць і дома начаваць;
Дай, Божа, разам двое: і шчасце, і здароўе;
Дай, Божа, усё ўмець, а не ўсё рабіць;
Дай, Божа, чутае бачыць;
Дай, Божа, на жыццё, на быццё і на доўгі век.
У імя Айца, і Сына, і Святога Духа. Амін.

# ШТО Ў ІМЕНІ ТВАІМ?

*Жыццё, якое б ні было, ёсць дабро,*
*вышэй якога няма нічога.*

Леў Талстой

## КАЛІ ХОЧАШ БЫЦЬ ПАНАМ...

У Бібліі сказана: «По имени ■ житие».

Сапраўды, мы так прывыкаем да свайго імя, што з гадамі цяжка ўявіць, каб цябе клікалі неяк інакш. Гэта тычыцца імёнаў і нашых бацькоў, блізкіх людзей, сяброў.

Ды што казаць, зваўся б Пушкін не Аляксандрам, а Мікалаем і ён, здаецца, ніколі б не стаў такім слынным паэтам. Прыдумайце новае імя Янку Купалу, і мы страцім свайго класіка. Гэтак можна сказаць пра цароў, сучасных правіцеляў, артыстаў, дый пра кожнага чалавека.

Але ў простай біблейскай фразе, відаць, закладзены больш глыбінны сэнс. Па тваім імені, па тваіх справах, думках і памкненнях Бог адмярае, выдзяляе табе адпаведнае месца ў жыцці. Можна звацца панам, насіць якія хочаш медалі, мець ганаровыя званні, а ў Бога ўсё-такі свая мерка кожнаму. Бо па ёй вызначаецца чалавечнасць той ці іншай разумнай істоты.

Вельмі вобразна сцвердзіў гэту думку невядомы аўтар невялічкай кніжкі «Рассказы на белорусском наречии», якая выдадзена ў 1863 годзе за кошт Віленскай навучальнай акругі. Яна, як і іншыя ананімныя творы таго часу, напісана ў форме гутаркі. Дык вось якую мудрасць пакінуў нам невядомы беларус:

*«Калі хочаш быць панам, спалняй свае павіннасці, глядзі харашэнька за сваёй сямейкай і гаспадарствам, узары, угнаі, запашы зямельку, садзяржы добра скацінку — і ты пан. Ёсць у цябе дзеткі, маеш дастатак, аддай іх да школ; іх там будуць вучыць усяму, чаму вучаць дзяцей панскіх. Калі дасць ім Бог розум і памяць і ахвоту да навукі, яны могуць быць лепшымі, чым дзеці панскія, і будуць болей паважацца. Цяпер настае пара, калі болей усяго значыць розум і праца чалавека, а не панства. Не дай Божа быць сіратой, каторая не помніць свайго таткі і мамкі. У дзесяць раз хужа адракацца ад свайго роду і племені; быць, напрыклад, мужыком і пнуцца да паноў; але над сіратой, прынаймней, можа зміласцівацца Бог і людзі; а над такім чалавекам ніхто не змілуецца, а толькі кожды над ім пасмяецца...»*

У гэтым раздзеле кніжкі я раскажу пра розных Ліпскіх. Не ведаю, якога яны герба, хто іх прашчуры, з якой крыніцы чэрпалі жывільную расу, але яны сустрэліся на маім шляху, запалі ў душу і памяць. Насіць іх, як таямніцу, было б грэшна.

Адны Ліпскія прыехалі, прыйшлі на спатканне самі. Іншыя даслалі свае лісты-споведзі. Пра некаторых вычытаў, чуў. Хай увекавечацца ўсялякія Ліпскія, як таго заслугоўвае кожны сумленны чалавек на Зямлі.

## ЮЗІК

*«Маё прозвішча не Ліпскі, але я добра памятаю мясцовага двараніна Іосіфа (Юзіка) Ліпскага. Яго ўжо сярод жывых, пэўна, няма, а яго нашчадкі ваш зварот ва ўсе газеты «Адгукніцеся, Ліпскія» не прачытаюць. Яны — за мяжой.*

*Мне спадабаўся ваш намер — напісаць кнігу пра радавод Ліпскіх, вось таму і хачу дапамагчы.*

*У вёсцы Глінная Івацэвіцкага раёна, на Брэстчыне, яшчэ з XVIII стагоддзя была памешчыцкая сядзіба. Апошняя яе ўладарка — дваранка Сініцкая. Яна, кажуць, добра гаспадарыла на зямлі. Да свайго маёнтка праклала дарогу, якая і па цяперашні час называецца сініцкай дарогай.*

*А ў дваранкі Сініцкай была дачка, да якой яна ўзяла прымака, палкоўніка Ліпскага. Вось той палкоўнік пасля смерці цешчы і стаў уладаром панскага двара. З дачкой пані Сініцкай яны пакінулі адзінага спадчынніка — Юзіка. Вучылі яго ў Петраградзе. І ходзіць па ваколіцы чутка, што той Юзік ехаў аднойчы ў цягніку на вучобу і пазнаёміўся з дзяўчынай з Літвы. Хацеў ажаніцца. Бацькі не дазволілі, дак тапіўся з-за гэтага.*

*Падчас ленінскай рэвалюцыі панскі маёнтак Сініцкіх-Ліпскіх спалілі. І Юзік адбудаваў новы дом. А калі вёска Глінная, як і ўся Брэстчына, увайшла ў склад Польшчы, то і Юзік да 1939 года быў у пашане. Служыў нейкім важным чыноўнікам у суседнім, Пінскім павеце.*

*У вёсцы Глінная вельмі любілі Юзіка Ліпскага. Умеў з людзьмі сябраваць, дапамагаў многім. І я памятаю таго пана. Ездзіў ён на белых конях. Росту — вышэй сярэдняга. Насіў вусы, капялюш, светлую верхнюю вопратку.*

*У трыццатых гадах, пачуўшы, відаць, подых новай навальніцы, Юзік пачаў прадаваць зямлю праз дзяржаўную казну. Сенажаці і лес, звыш ста гектараў, пакінуў сабе. Гэта ўрочышча і па сённяшні называецца «Край Ліпскага».*

*Прадаўшы зямлю, Юзік купіў маёнтак Зелянова, у ваколіцах Варшавы. Там выйшла замуж яго дачка. А маці Сініцкая пахавана на Беларусі, на каталіцкіх могілках у Целяханах.*

*У 1943 годзе маёнтак Юзіка Ліпскага ў Глінной быў яшчэ раз спалены. А самога Юзіка, кажуць, вылавіла савецкая контрразведка ў Варшаве пад канец вайны. Далейшы яго лёс невядомы. Жадаю поспехаў у вашай задуме...»*

Вось такі ліст атрымаў з Івацэвіцкага раёна ад Мікалая Арцёмавіча Дзядка. Ён сорак пяць гадоў настаўнічаў у школах раёна і сцвярджае, што Юзік Ліпскі пакінуў добрую памяць у мясцовых жыхароў.

На мой запыт пра Ліпскіх адгукнуліся нераўнадушныя людзі з раёнаў Брэсцкай вобласці. Дакладна вядома, што Ліпскія пражываюць у Брэсце і раёне, у Пінскім, Баранавіцкім, Жабінкаўскім, Ляхавіцкім, Бярозаўскім, Драгічынскім раёнах. Маю іх адрасы. Некаторых ведаю прафесіі: шафёр, трактарыст, жывёлавод, кааператар. Амаль усе яны нарадзіліся пасля масавай калектывізацыі і індустрыялізацыі, пасля берыеўскай калатнечы і Вялікай Айчыннай вайны. У гэтых людзей, на жаль, прысечана, прытуплена памяць. Гэта іх бяда, а не віна. Буду шчаслівы, калі мая кніга раздзьме попел памяці і людзям захочацца полымя жыцця. Калі не сабе, то дзецям, унукам, праўнукам.

## *ПРОХАР*

З Гродзенскай вобласці атрымаў пятнаццаць пісьмаў ад Ліпскіх. Што даведаўся з іх?

У Ваўкавыскім раёне жывуць Іван, Соф'я, Дар'я Ліпскія. Факт не з сенсацыйных. А для маёй кнігі — знаходка, як археалагічная раскопка, якая сцвярджае, што радаводнымі каранямі знітавана наша Айчына.

У першай беларускай сталіцы Навагрудку і раёне пражываюць шэсць сем'яў Ліпскіх. Шкада, ніхто з іх не ведае ні гербаў, ні свайго паходжання, ні далёкіх прашчураў. І нельга ім дапамагчы, бо іх памяць абрываецца з пачаткам кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі.

Жывуць мае цёзкі па прозвішчы ў Мастоўскім, Карэліцкім, Лідскім, Дзятлаўскім, Іўеўскім раёнах Гродзеншчыны. А ў абласным цэнтры, старажытнай Гародні, прапісаны звыш ста пяцідзесяці сем'яў Ліпскіх.

*«Нашы Ліпскія жывуць у г. п. Зэльва, — піша Сяргей Харытончык з вёскі Драпаўцы. — Уладзімір працуе шафёрам, яго жонка Ала — медсястрой. Іх «ліпчанят» завуць Света, Дзіма, Аляксандр. Бацькі Валодзі Ліпскага жывуць у Ашмянскім раёне, а яго брат Сяргей — у Латвіі, браты Мікалай і Леанід — на Украіне, брат Анатоль — у Магілёве, брат Васіль — у Ашмянах. А сваіх дзеда і бабу наш Уладзімір не памятае, хаця і старэйшы ў сям'і. От я, іх родзіч, і пішу вам, бо ім самім сорамна, што нічога не ведаюць пра сваё радаслоўе...»*

*«А я свайго мужа Ліпскага Анатоля Іванавіча мала ведаю, — напісала з Ваўкавыска Соф'я Іванаўна. — З ім мы пазнаёміліся да вайны ў Днепрапятроўску. Бацька яго працаваў настаўнікам, але ў хуткасці памёр. Пайшоў на фронт і мой Анатоль. Адтуль ужо не вярнуўся ў сям'ю. Кажуць, пачаў жыць з сястрой міласэрнасці, з якой разам служыў. Ад яе меў двух сыноў. Пасля яшчэ два разы жаніўся. Нічога добрага не пакінуў на зямлі, апроч болю ў сэрцах сваіх дзяцей...»*

Крыўдна за такога цёзку, які разбазарыў сваё Я, сваё імя, не пакінуў яго ў добрую спадчыну сваім дзецям.

А вось Ірына Ліпская з Гродна парадавала: даслала сваю радаводную схему. Ведае шэсць каленаў Ліпскіх, а ў іх —74 постаці. Ды не проста імёны ведае, а лёсы сваіх родзічаў. Дзякуй, Ірына!

Найбольш пашанцавала Прохару Германавічу Ліпскаму. Яго дачка Галіна, настаўніца са Шчучынскага раёна, сабрала пра бацьку саліднае дасье і прызналася мне ў пісьме:

*«Напісаць вам папрасіў мой бацька. Ён расказаў падрабязна пра сваіх продкаў, паварушыў мінулае. Гэта так цікава! Цяпер і мае дзеці ведаюць сябе ў пятым калене. Сорам быў несусветны: мой муж вывучыў радаслоўе сваіх паляўнічых сабак лепей, чым радавод дзяцей. Дзякуй вам, пісьменнік Ліпскі, што ўзварушылі нас усіх...»*

Прохар Ліпскі нарадзіўся ў 1915 годзе. Вытрымаў выпрабаванне ў вайне з фашызмам. Быў камандзірам роты сапёраў. Прайшоў крывавымі дарогамі аж да Сталінграда. Два разы паранены. Вярнуўся дамоў з ордэнам Чырвонай Зоркі, інвалідам другой групы.

Яшчэ да вайны Прохар Ліпскі вывучыўся на настаўніка. Вучыў дзяцей у Петрыкаўскім раёне. Сустракаўся з легендарным дзедам Талашом.

Пасля вайны Прохар Ліпскі зноў настаўнічаў у розных школах Брэсцкай вобласці. Шчыраваў з дзецьмі ажно да сваёй пенсіі.

А нарадзіўся Прохар у вёсцы Рафалава Мсціслаўскага раёна, на Магілёўшчыне. Тут некалі яго бацька Герман купіў кавалак зямлі. Хадзіў Герман Ліпскі па вёсках, шыў кажухі. На хлеб хапала, але не болей. Тады ён падбухторыў братоў Івана і Ямелю, дый паехалі хлопцы па вялікія грошы ў Данбас. Працавалі забойшчыкамі ў шахце. Там і разжыліся на грошы, за якія купілі зямлю ў вёсцы Рафалава.

Дзед Прохара жыў у вёсцы Паўлавічы, у Крычаўскім раёне. Звалі яго Аўрам Піліпавіч. А паходзіў ён ад Піліпа Анісімавіча, патомнага ганчара. Хадзіў, хадзіў Піліп па вёсках, насіў на продаж свае вырабы. Аднойчы «прыліп» у вёсцы Паўлавічы да мясцовай прыгажуні. От і пайшлі ад яго сыны Аўрам, Яўхім, Максім, Сяргей. Ад іх — новыя жыццёвыя парасткі. Так і вырасла на Беларусі ад ганчара Піліпа Ліпскага новае сямейнае дрэва.

Спытаеце, адкуль сам Піліп Анісімавіч Ліпскі, як ён стаў ганчаром і адкуль з'явіўся на Магілёўшчыне? Дык гэтага не ведае ні Прохар Ліпскі, адзіны з жывых яго праўнукаў, ні тым больш яго дачка Галіна, якая напісала мне.

*«Я толькі ведаю, — піша Галіна Прохараўна, — што сваё працалюбства я ўзяла ад бацькі. Ён, як той Сізіф, цягне і цягне свой камень на гару. У свае восемдзесят гадоў косіць сена, рэжа і коле дровы, пасвіць кароў. Вяскоўцам чытае па памяці вершы і паэмы Пушкіна. Ведае назубок паэму Твардоўскага пра Васіля Цёркіна. Любіць спяваць беларускія народныя песні. Вечарамі нешта піша ў блакноцік. Але яшчэ нікому не даваў чытаць. Сама я папісваю вершы, не для друку, для душы. Бацька вельмі прасіў мяне перапісаць некаторыя з іх для вас. Выконваю бацькаву волю...»*

З усіх вершаў настаўніцы Галіны Ліпскай, цяпер ужо Бяляўскай, мяне кранулі вось гэтыя радкі:

Я ў месцы знаёмым, ля роднае хаты,
Я сёння вітаюся з клёнам кудлатым.
Даўно я не бачыла стрэх невысокіх
І хаты, што ў ліпах стаіць адзінока.
Не чула даўно, як мурлыкае кот,
Даўно не стаяла ля мілых варот...
Гады ідуць, як туман, ціха сцелюцца.
Дзе ж ты, дзяцінства?
Прайшло, ужо не вернецца.

## *УЛАДЗІМІР*

Радаводная загадка: я ажаніўся на ўдаве, у якой была дарослая дачка; мой бацька закахаўся ў маю падчарку і ажаніўся на ёй; пасля вяселля бацька стаў маім зяцем, а мая падчарка стала мне маці; жонка мая нарадзіла сына, які даводзіўся шваграм майму бацьку і дзядзькам мне, як брат маёй падчаркі; жонка майго бацькі таксама нарадзіла сына, які адначасна стаў мне братам і ўнукам, як сын маёй прыёмнай дачкі; адсюль вынікае, што мая жонка стала мне бабуляй, як маці маёй маці; я зрабіўся сваёй жонцы мужам і ўнукам адначасова; а хто я сам у гэтай сямейнай сітуацыі?

Адгадка такая: паколькі муж бабулі называецца дзедам, то я сам сабе — дзед!

Прыгадалася гэта неверагодная сямейная радня з выпадку двух пісьмаў з Гомеля. Напісалі іх два Валодзі, Уладзіміры, Уладзікі — уладары свету, вялікія сілаю людзі. Адзін з іх жыве на вуліцы Шаўчэнкі, другі — на Іншагародняй. І адчувае мая душа, што ходзяць два Уладзіміры Ліпскія ў адзін гомельскі універмаг, з адной бочкі п'юць піва, на адных і тых жа ездзяць тралейбусах і не здагадваюцца аб сваёй радаводнай блізкасці.

Уладзімір Міхайлавіч Ліпскі паведамляе:

*«Дзед мой Стась Ліпскі і баба Анісся жылі ў вёсцы Гарошкаў Хойніцкага раёна. У іх былі чатыры сыны — Аляксандр, Васіль, Адам, Міхаіл, дзве дачкі — Ева і Насця. Ведаю, усе яны жылі на зямлі, мелі сваю гаспадарку. Дзед быў неадукаваным, але судзіўся з памешчыкам за зямлю. Тры дзедавы сыны з'ехалі ў Сібір яшчэ да рэвалюцыі. Пра іх лёс, жыццёвы шлях, іх дзяцей, унукаў — нічога не ведаю. Што пра сябе сказаць? У вайну партызаніў. Бацьку і маці расстралялі немцы. Хату спалілі. Браты і сёстры паразыходзіліся хто куды. Сястру і двух братоў вывозілі ў Германію. Брат Аляксандр трапіў у спецдзетдом, адтуль яго ўсынавілі, і стаў ён Кавалёвым...»*

Цяпер звернемся да ліста Уладзіміра Анатольевіча Ліпскага. Ён маладзейшы за Уладзіміра Міхайлавіча на трыццаць адзін год. Яго прадзед зваўся Станіславам, як і дзед другога гомельскага Уладзіміра. У таго, хойніцкага Станіслава былі чатыры сыны. Дык Ула-

дзімір-першы вядзе адлік ад Васіля Станіслававіча, а Уладзімір-другі — ад Міхаіла Станіслававіча.

Памятаеце, Уладзімір Міхайлавіч прызнаўся, што дзедавых сыноў, сваіх дзядзькоў, не ведае, бо з'ехалі ў Сібір. Ці па сваёй волі памянялі Палессе на сібірскія прасторы? Ды што, урэшце, укладвалася раней у паняцце «Сібір»? Іншая, чым родная, зямля, далёкая ад пупавіннай, — вось і Сібір.

Калі гэта мець на ўвазе, то цікавым робіцца паведамленне Уладзіміра Анатольевіча: «Мой дзед Васіль (гэта, перакана磁ны, брат Міхаіла, бацька Уладзіміра-другога. — *Ул. Л.*) жыў у Ленінградскай вобласці, ваяваў у Войску Польскім, быў судзімы...»

У Хойніцкі раён, у вёску Абрамаўская (цяпер Партызанская. — *Ул. Л.*), Васіль Ліпскі вярнуўся паміраць. На радзіму прывёз чацвёра дзяцей: сыноў Анатоля, Уладзіміра, Леаніда, дачку Тамару. Пражыў мала — пяцьдзесят два гады.

Бацька Уладзіміра-першага Анатоль пражыў таксама пяцьдзесят два гады. Але што цікава: жонку ўзяў з вёскі Гарошкаў, адкуль паходзіць родапачынальнік Станіслаў Ліпскі. Там жа нарадзіўся і сам Уладзімір.

Атрымліваецца, што Уладзімір Міхайлавіч Ліпскі даводзіцца дваюрадным братам бацьку Уладзіміра Анатольевіча. А Уладзіміры паміж сабой — дваюрадны дзядзька і дваюрадны пляменнік. У дзядзькі трое дзяцей і шэсць унукаў. У яго пляменніка — два сыны. Усе жывуць у Гомелі. І калі дзядзька з пляменнікам — незнаёмцы, то ці пародняцца калі-небудзь іх дзеці, унукі і праўнукі?

Вядома, што ў Хойніцкім раёне ў 1992 годзе пражывала адзінаццаць сем'яў Ліпскіх. Землякі пісьменніка Івана Мележа, людзі на балоце, ці засталіся цяпер там? Ці не паразганяў іх па розных кутках Беларусі чарнобыльскі атамны джын? Веру ў адно: тыя хойніцкія Іваны, Мар'і, Уладзіміры, Міхаілы, Юліі, Мікалаі, Анастасіі, Алёны, Валянціны Ліпскія — радня гомельскім Уладзімірам, якія адгукнуліся на маю позву.

Абласное адраснае бюро паведаміла, што ў Гомелі пражывае 123 Ліпскіх. Сярод іх ёсць выхадцы з Лельчыцкага, Кармянскага, Быхаўскага, Мазырскага, Рэчыцкага, Веткаўскага, Жлобінскага, Добрушскага, Светлагорскага, Лоеўскага, Калінкавіцкага, Чэрыкаўскага раёнаў. Некаторыя гомельскія Ліпскія нарадзіліся ў Пярмі, Прыморскім краі, Цалінаградзе, Кемераве, Краснадары, Арэнбургу і нават... у Германіі. Кожны з іх — непрачытаная кніга.

Лёс толькі аднаго Міхаіла Аляксандравіча Ліпскага мог бы натхніць раманіста. Мы ж у дакументальным аповедзе спашлёмся на асобныя моманты яго жыцця. Да 1984 года Міхаіл і Валянціна Ліпскія жылі на Пскоўшчыне, будавалі пасёлак Беларускі. Яны пакінулі там прыкметны свой след, добрую памяць. Вярнуліся на радзіму мужа, на Гомельшчыну.

Аднойчы Міхаіл вёз сваю сям'ю пагасцяваць на Пскоўшчыну. Непадалёк ад Віцебска на іх «Масквічок» наляцеў бензавоз. Жонка Валянціна загінула імгненна. Самога Міхаіла і трое дзяцей не-

прытомных прывезлі ў адну з віцебскіх бальніц. Траўмы ва ўсіх былі жудасныя...

Віцебскае і Гомельскае аддзяленні Беларускага дзіцячага фонду прынялі самы непасрэдны ўдзел у лёсе сям'і Міхаіла Ліпскага. Умешваўся і я ў судовы працэс, каб устанавіць справядлівасць у гэтай трагедыі.

## *АЛЯКСАНДР*

Пра міліцыянера Аляксандра Ліпскага пісала нават «Звязда». І было за што пахваліць віцебскага капітана крымінальнага вышуку. Ён адшукаў жорсткага рабаўніка, калі ўжо ўсе, хто браўся за справу, развялі рукамі.

Здавалася, ніякіх «слядоў» не пакінуў гвалтаўнік. Увараўся праз акно ў хату старых людзей, згроб іхнія грошы. Гаспадыню збіў і скінуў у склеп, а гаспадара па-садысцку катаваў. Потым накідаў на яго, знясіленага, усялякага рыззя і падпаліў.

Пажар патушылі. Дзед загінуў. Бабу ўратавалі, але памяць яе была спалена. Сведак няма. Як знайсці злачынца?

Аляксандр Пятровіч Ліпскі, начальнік аддзялення крымінальнага вышуку Віцебскага ўпраўлення ўнутраных спраў, не хацеў здаваць справу ў архіў. Закрыць яе — значыць дараваць волю рабаўніку і забойцу. А ён, адчуўшы непакаранасць, абавязкова паўторыць свой «подзвіг». «Шукаць і знайсці злачынца!» — гэта і быў асноўны метад капітана Ліпскага, пра які пісала рэспубліканская газета.

Цярпліва і старанна разблытваў Аляксандр Пятровіч клубок злачынства. І адкрыў таямніцу цёмнай ночы. І засадзіў за краты далёкага сваяка дзеда і бабы, які акрываівіў свае рукі аб іх.

Але знакамітым стаў капітан Ліпскі ў пошуку забойцы-садыста, які тэрарызаваў усю вобласць. Час ад часу знікалі дзяўчаты, жанчыны. Іх пасля знаходзілі ў лесе задушанымі і згвалтаванымі. Для пошуку вар'ята стварылі спецаддзяленне, якое ўзначаліў сам Ліпскі.

Праз восем месяцаў нястомнай працы, бяссонных начэй капітан Ліпскі раскрыў забойцу Міхасевіча з вёскі Салонікі Полацкага раёна.

У розных сітуацыях давялося пабываць Аляксандру Пятровічу Ліпскаму. Розныя міліцэйскія пасады меў. Найбольш запомніцца праца начальніка Верхнядзвінскага аддзела ўнутраных спраў.

А цяпер для профі, як кажуць, пытанне на засыпку: які яго радавод, адкуль карані, як глыбока ведае сваю радню?

Ведае, што нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Вусце Верхнядзвінскага раёна. Бацька яго Пётр Васільевіч з вёскі Заламы. Падчас вайны — партызан. Пасля — старшыня калгаса. Апошнія трыццаць гадоў працаваў участковым міліцыянерам.

На падмогу прыйшла старэйшая сястра Аляксандра бібліятэкар



Васіль Аляксандравіч Ліпскі
як бы пытаецца:
«Якія вы, нашчадкі нашы?»

Ніна Пятроўна Долінская. Яна паведаміла, што іх прадзеда звалі Аляксандрам і ён жыў у Заламах у сярэдзіне XIX стагоддзя. Меў дачку Юлю і двух сыноў Васілёў.

Чаму аднолькавыя імёны ў сыноў?

Калі хросныя прывезлі немаўля ў царкву, бацюшка адкрыў кнігу і сказаў: «Сённяшнім днём народжанага назавём Васілём». Ніхто і не думаў пярэчыць, што ў сям'і ўжо ёсць адзін Васіль.

Дзедам міліцыянера Аляксандра Ліпскага і бібліятэкаркі Ніны Долінскай якраз і з'яўляецца той Васіль-другі. Ён нарадзіўся ў 1882 годзе ў Заламах і памёр перад вайной з гітлераўцамі. З жонкай Ганнай Лемяшонак займелі ажно сямёра дзяцей: Аляксандра (загінуў у 1939 годзе, нежанатым), Марыю (памерла ў два гадкі), Кацярыну (памерла ў восем месяцаў), Антона (ваяваў, трапіў у палон, памёр у Гамбургу ў 1944 годзе), Максіма (загінуў у 1941 годзе), Пятра (малодшы, пражыў самае доўгае жыццё — 66 гадоў). Апроч згаданых ужо дзяцей Аляксандра і Ніны ў яго быў яшчэ сын Васіль. Служыў у авіяцыі. Памёр.

Для былога следчага крымінальнага вышуку Аляксандра Ліпскага будзе цікавым вось гэта пісьмо з Віцебска:

*«Мне б вельмі хацелася ведаць пра сваіх родзічаў, далёкіх і блізкіх. З якога я роду-племені? Прозвішча Ліпскіх я не нашу. Вельмі рана страціла бацькоў. А вось бабуля мая была з Ліпскіх, яе звалі Юля. Яна жыла ў вёсцы Заламы Верхнядзвінскага раёна. Яна мела брата Васіля, старэйшага за яе. Бабуля пражыла 92 гады, ■ мо і болей, бо ні яна, ні хто іншы не ведалі, колькі дакладна ёй гадоў...»*

Чакайце, следчы, дык гэта Юля Аляксандраўна Ліпская і ёсць сястра вашага дзеда Васіля. Яна памерла, Аляксандр, калі вам было 15 гадоў. Знесла ў вечнасць ключы ад сямейнай тайны прашчураў,

ИЗВЕЩЕНИЕ

Ваш брат мл. командир Липский Максим

муж, отец, сын, брат, должность, наименование части, воинское звание

Васильевич

фамилия, имя, отчество

уроженец д. Заломье Садовского с/с Дриссенского р-на

находясь на фронте, заболел ______

наименование болезни

умер Пропал без вести в августе 1941 г.

дата смерти

похоронен ______

адрес и наименование места погребения



Настоящее извещение является документом для возбуждения ходатайства о пенсии (приказ НКО СССР № ______

Дриссенский райвоенком майор [signature] (Лапин)

бо, падобна, была апошняй сведкай прыгоннага права. На ўсялякі выпадак пашукайце, капітан Ліпскі (а мо ўжо генерал?), адрас унучкі Юлі Аляксандраўны Ліпскай, якая напісала мне з Віцебска. Прозвішча яе Беладзед, а завуць Зінаідай Іванаўнай.

Віцебшчына, як мне вядома, і цяпер густа населена Ліпскімі. Хто яны? Продкі слынных людзей: біскупа мінскага Мацвея Ліпскага, у якога працаваў сакратаром Дунін-Марцінкевіч, альбо прадвадзіцеля дваранства губерні Івана Ігнатавіча Ліпскага, жонку якога з малымі дзеткамі Мураўёў-вешальнік выслаў у Варонежскую губерню, а мо ротмістра народнай кавалерыі з-пад Оршы Івана Ліпскага?

У адным Шаркоўшчынскім раёне пражываюць сорак адзін Ліпскі, якія маюць пашпарты і права голасу на ўсенародных выбарах. А дзяцей, унукаў і праўнукаў мы яшчэ не навучыліся лічыць за людзей, таму ніхто і не ведае, колькі малых «ліпчанят» у раёне. А дарэмна, бо менавіта яны і стануць следчымі, пракурорамі, суддзямі мінулага жыцця.

З Шаркоўшчыны даслаў схему свайго радаводу Віталь Ліпскі. Нехта яму дапамог дакапацца да пятага калена. Назваў прапрадзеда Рыгора, прадзеда Антона, дзеда Юльяна, бацьку Радзівона і родных дзядзькоў Віталя, Аляксандра, цётак Ліканіду і Ніну. Усе яны гняздзіліся ў мясцовай вёсцы Пялікі. Пакаленне Віталя з шасцідзесятых гадоў XX стагоддзя ўжо пачало эміграваць у гарадскі пасёлак Шаркоўшчыну, у гарады Глыбокае, Мінск, Рыгу.

А вось новае пісьмо-загадка з Віцебска, ад Ірыны Мікалаеўны Ліпскай:

*«Мне 68 год, пенсіянерка, былы інжынер па транспарту. У нашым родзе ўсё старэйшае пакаленне вымерла. Думаю, ёсць родзічы, якіх я не ведаю. Жыву з дачкой Агатай, а сын Сяргей слясарнічае ў Туле.*



Ліпскія з Віцебшчыны: Пётр Васільевіч, Соф'я Паўлаўна і іх дзеці Васіль, Ніна, Аляксандр

*Мае продкі Ліпскія жылі ў Віцебскім раёне. Прадзед Майсей Ліпскі меў маёнтак. У якой вёсцы? Не ведаю. Яго жонкай была нібыта незаконная дачка нейкага графа. Мама яе, прыгонная, працавала ў палацы таго графа, займела там дачку і атрымала вольную.*

*У Майсея — чацвёра дзяцей: Ілья (мой дзед), Фёдар, Наталля і Марыя. Дзед Ілья ў канцы XIX стагоддзя пераехаў на жыхарства ў Віцебск, працаваў рабочым на чыгунцы. Атрымаў нейкую адукацыю. Сумленны быў, і яго ўзвысілі да вагаўшчыка на станцыі.*

*У Ільі — шасцёра дзяцей: Мікалай (мой бацька), Анатоль, Аляксандр, Леанід, Ліда, Ніна. Амаль усе мае дзядзькі і цёткі атрымалі вышэйшую адукацыю: юрыст, землямер, два настаўнікі, бухгалтар, доктар. Усе ўмелі і любілі працаваць. Ніякіх п'яніц.*

*Бацька мой Мікалай Ільіч Ліпскі рана прысягнуў ленінскай партыі, удзельнічаў у грамадзянскай вайне. Дарос да намесніка пракурора БССР, пракурора на чыгунцы ў розных рэгіёнах краіны. За што і арыштавалі ў 1939 годзе. Прад'явілі нейкае лжывае абвінавачанне. Як я думаю, трэба было прыбраць з дарогі чалавека, які шмат ведаў. Адправілі ў лагер на Урал.*

*Мы заставаліся жыць у Віцебску. Пачалася вайна. Трапіла і я ў лагер у Германію. Перанесла ўсялякія ўніжэнні, дыскрымінацыю. Працавала на Сахаліне 27 гадоў. Цяпер жыву ў Віцебску, у кааператыўнай кватэры...»*

Пра мой пошук Ліпскіх неяк даведалася мінчанка Лідзія Фірсаўна Цэвелева. Мы сустрэліся, і яна паведаміла, што яе сям'я да вайны жыла ў Віцебску, у прыгожым драўляным доме, які некалі належаў дзеду. А ў двары таго дома стаяў флігель, і там жылі-кватаравалі Ліпскія. Пасля выкупілі тое жытло ў дзеда.



Прыгажуня Ірына,
дачка Мікалая Ільіча,
нарадзіла дачку Агату Ліпскую

Мінчанка Цэвелева расказала пра Ілью Ліпскага і яго сям'ю такія дэталі, якіх не ведае нават унучка Ірына Мікалаеўна Ліпская.

Ілья жаніўся двойчы. Першая жонка рана памерла. Тады ён узяў яе сястру Мар'ю Пракопаўну. Быў сівы, высокі, нелюдзімы. Памёр да вайны ад запалення лёгкіх.

Яго дзеці мелі такі лёс: Анатоль, землямер, жыў у Бранску; Леанід настаўнічаў у Лёзна, змайстраваў сам радыёпрыёмнік, паслухаць музыку збіраліся ўсе суседзі, ваяваў, жонку з сынам немцы расстралялі; Ніна — доктар, у вайну працавала ў шпіталях, мела званне палкоўніка; Аляксандр, бухгалтар, загінуў у вайну; Ліда — настаўніца хіміі і біялогіі, у вайну была вывезена ў Латвію, батрачыла ў памешчыка, пасля вярнулася ў Віцебск, працавала ў школе, педінстытуце, замуж не выйшла, стала ганаровым грамадзянінам Віцебска.

Як бачым, для дапытлівага гісторыка, геральдыста кожная сям'я — цікавая кніга са шматлікімі непрачытанымі старонкамі. І ў гэтай сям'і Ліпскіх вельмі б хацелася ведаць: хто той віцебскі граф, які зганьбіў прыгонную пакаёўку, ■ пасля адкупіўся вольнай, і хто ж той мудры Майсей Ліпскі, які ажаніўся на незаконнанароджанай дзяўчыне. А мо ён, графскі служка і паслухмянец, сваёй жаніцьбай прыкрыў гаспадара? Ды адкуль, урэшце, з'явіўся на Віцебшчыне Майсей Ліпскі? Дзе, ад каго чэрпаецца яго род? Ці не ад біблейскага Майсея?

У віцебскай пошце зацікавіла і пісьмо Гераніма Юстынавіча



Агата Ліпская,
мінчанка

Ліпскага з вёскі Барбарышкі Браслаўскага раёна. Ён незвычайна звяртаецца да мяне: *«Шаноўны пан Уладзімір Ліпскі! Я атрымаў Ваша пісьмо і даю адказ. Мае веды пра наш род пачынаюцца з дзеда Міхаіла, які нарадзіўся і жыў у вёсцы Букаўшчына. Ён там меў адну дзесяціну зямлі, а ў 1865 годзе атрымаў падарунак — 20 дзесяцін зямлі ва ўрочышчы Канцы-поля. Цяпер называецца Барбарышкі. Дзед меў аднаго сына Юстына (майго бацьку) і чатыры дачкі. А мой бацька Юстын ужо расстараўся на восем дзяцей. Я, Геранім, сярод братоў сярэдні, нарадзіўся ў 1917 годзе. Чатыры браты і дзве сястры ўжо пахаваны. Жыву я і сястра Ганна, 1912 года нараджэння. У мяне захаваўся план і вопіс зямлі, якую падарыў майму дзеду Міхаілу памешчык Лапацінскі. Прыязджайце...»*

Мільганула думка: лячу да пана Гераніма Ліпскага! А ў канцы пісьма прыпіска: «Піша сын Гераніма з Латвіі. Бацька жыве ў нас, калі зможаце, прыязджайце». Хіба пераадолееш цяпер дзяржаўныя межы? Хіба хопіць сіл і часу пагасцяваць ва ўсіх Ліпскіх? Вось і гэта пісьмо пакідаю ў аповесці як загадку. Хай разгадае Геранімаў род новы даследчык.

Таму натхнёнаму і апантанаму энтузіясту давядзецца дапамагчы і Аляксандру Іванавічу Ліпскаму, тэрапеўту шпіталя для інвалідаў у Аршанскім раёне. Ён шукае свае карані. А ведае толькі, што маці ў 1939 годзе працавала медсястрой у Беластоцкай турме:

Вольга Пракопаўна, першая жонка Ільі Майсеевіча, родная сястра Марыі Пракопаўны





Ілья Майсеевіч Ліпскі



Майсей Ліпскі
(бацька Ільі Майсевіча)



Марыя Пракопаўна. Другая жонка

*«Там пазнаёмілася з электраманцёрам Іванам Міхайлавічам Ліпскім, родам з Лоеўскага раёна, пажаніліся. Як пачалася вайна, бацька пайшоў на фронт. Назад вярнуўся паперкай: прапаў без вестак. Маці пераехала на сваю радзіму, на Аршаншчыну. Там я і нарадзіўся, жыву і працую. Бацьку бачыў толькі на фотаздымку. А дзед Міхаіл, кажуць, служыў матросам на рачным судне. Як ён, лоеўскі земляроб, трапіў у матросы?..»*

Гэта цікавіць і аршанскага доктара Ліпскага, і мяне, пісьменніка Ліпскага. А ад простай цікаўнасці да пазнання ісціны — астранамічная, камяністая адлегласць.

*«Ведаць свой род — значыць ведаць гісторыю сваёй Айчыны,* — піша мой віцебскі цёзка Васіль Мікалаевіч Ліпскі. — *А мы вывучалі гісторыю ад антычнага свету па сённяшні дзень па «Гісторыі КПСС». Таму і не ведаем продкаў. Нам унушалі, што ўсе яны — ворагі рэвалюцыі. Мелі сваю зямлю і свайго каня — значыць, буржуі, крывапіўцы...»*

Цяжка не пагадзіцца з электрыкам Васілём Ліпскім. А ў падтрымку яго — новае пісьмо з вёскі Паддубцы, што за два кіламетры ад Оршы, ад Алены Аляксандраўны Лазаравай:

*«Мой дзед Антон Андрэевіч Ліпскі і яго брат Цімафей усё жыццё — земляробы. Потам і расой здабывалі хлеб для сем'яў. Іх, як зажытачных, сас-*

*саслалі ў Сібір. Там яны змянілі прозвішча Ліпскі на Серада. І я была Серада, пакуль не выйшла замуж за Лазарава. Ці будуць ведаць гэту праўду нашы праўнукі?..»*

У Ліпскай Лідзіі Іосіфаўны з Верхнядзвінскага раёна свая крыўда:

*«Вайна балюча кранула нашу сям'ю. Дзядулю спалілі фашысты. Мяне з чатырохгадовай Тоськай, маму і сястру вывезлі ў латышскі лагер Саласпілс, адтуль — у Майданэк, Равенсбрук, Брандэнбург. Дачка Таіса засталася ў Саласпілсе. Там яе падабрала адна латышская сям'я. Сустрэлася з ёй толькі восенню 1947 года...»*

Так разбурыла вайна яшчэ адно гняздо Ліпскіх. І застаецца неразгаданым: хто змайстраваў тое гняздо, хто прынёс у яго першую галінку-пярынку?

Такія ж пытанні і ў Ліпскіх, якія пражываюць у Наваполацку, Оршы, Полацку, у Шумілінскім, Расонскім, Пастаўскім, Глыбоцкім, Лепельскім, Гарадоцкім, Чашніцкім, Міёрскім, Бешанковіцкім, Віцебскім, Браслаўскім раёнах.

Ім можа дапамагчы такі ж дбайны і творчы следчы, як капітан міліцыі Аляксандр Ліпскі. Ён разблытваў складанейшыя вузлы злачынстваў, такі ж даследчык можа дакапацца да вытокаў віцебскіх Ліпскіх і іх усіх аб'яднаць, парадніць.

А пад заслону віцебскай перапіскі пакідаю вось гэта пісьмо ад Аляксандра Алегавіча Ліпскага з Шаркоўшчыны. Захоўваю стыль аўтара. І хачу падзяліць яго боль: людзі, давайце не ствараць адзін аднаму новых бедаў, імі мы накормлены спаўна! Чытайце і раздумвайце:

*«Паспрабую, Уладзімір, адказаць на вашы пытанні, але ці знойдзеце што талковае ў маіх адказах. Я вельмі мала ведаю сваіх продкаў. Пра дзеда тое-сёе чуў, а прадзед — цёмная ноч. Дзед нарадзіўся ў Залессі Глыбоцкага раёна. Служыў кавалерыстам у польскай арміі. Паранены. Ад разрыву снарада раскалола нагу. Інвалідам памёр. Выхаваў двух сыноў і дачку. Яны займелі свае сем'і. Вось тут усё і пачалося. Сястра бацькі выйшла за Стукана, а яны, як мой бацька задумаў жаніцца, сталі супраць яго выбранніцы. Род раскалоўся. Атрымаліся — Ліпскія і Стуканы. Гэта варожасць захоўваецца і цяпер. Бацька працаваў шафёрам, маці — у пральні. Пражылі ў згодзе 17 гадоў. Пасля ўсё крута змянілася. Ужо ў нашай сям'і адбыўся раскол. Бацька запіў. Маці падала на аліменты. На маіх провадах у армію бацька ўчыніў бойку з-за гарэлкі. Я зазлаваў і ўзяў яго за жабры.*

*Служыў у Маскве. Быў шафёрам. Пад самы дэмбель трапіў у аварыю. Далі тры з паловай гады калоніі-пасялення. Адпахаў два гады за прыгожыя вочкі і быў адпушчаны дадому. Прыехаў не адзін да бацькоў, а прывёз «падругу тамбоўскую». Вяселля не адбылося — памёр бацька, які штодня выпіваў. Аднойчы халодным аказаўся. Праз тыдзень пасля пахавання тыя, хто паіў бацьку перад смерцю, пачалі абвінавачваць мяне з маці. Пачаўся фармальны дурдом. Тут яшчэ «нявеста» пачала паддакваць Стуканам. Я не стрымаўся і адправіў яе дамоў, да свайго бацькі ў Тамбоў. Праз месяц яна ўзбудзіла супраць мяне крымінальшчыну: нібыта нараджае ад мяне, а я выгнаў яе. І так яна ў пісьмах «раджала» кожны месяц, ды роды так і не адбыліся.*



Ніна і Лідзія Ліпскія

*Зноў у хаце раскол. Маці не роду Ліпскіх, і ў мяне з ёй па любому поваду — лаянка. Яна і я нарадзіліся ў год Пеўня, а, па гараскопу, два «пеўні» ў адной хаце — пажар. Я люблю маці, але і пагрызціся з ёй таксама люблю. Хаця і трымаю сябе ў руках, ды я сын, а значыць — крайні ў ругані. Усе няўдачы кучай зваліліся на мяне. Не куру, не захапляюся спіртным, нібыта і не ўрода, а «характарыстыка» ўсіх палохае. Не буду ж кожнаму тлумачыць, што сядзеў за нішто.*

*Пра продкаў можна было б тое-сёе даведацца ад Стуканіхі, роднай бацькавай сястры, і ад бабулі, але туды я не хадок, хаця яны ад нашай хаты — сто метраў. Бацьку майго крыўдзілі, ■ ў мяне ад яго і паходка, і характар, от і я іх за радню не прызнаю...»*

Іншыя людзі, каб устанавіць свой род, едуць за тысячы кіламетраў. Аляксандр Алегавіч Ліпскі з Шаркоўшчыны не можа дзеля гэтага пераступіць сто метраў.

Крыўдна: жыццё робіць людзей ворагамі.

Шкада: сваякі, бывае, мірна варагуюць да дамавіны.

Людзі, мы ў космасе, на адной ракеце. Не забывайма мудры запавет дзядулі Льва Талстога: «Жыццё, якое б ні было, ёсць дабро, вышэй якога няма нічога».

# ЯКАЎ

Пачынаю верыць: самы загадкавы і таямнічы на белым свеце — чалавек. Сам сябе, бывае, да канца жыцця не ведае. А як спазнаць таго, хто жыве далёка ад цябе альбо жыў некалькі стагоддзяў назад?

Неспазнанае ў нас усё: памеры душы і магчымасці мозгу, трываласць фізічная і багацце маральнае, цярплівасць сэрца.

Прызвычаіліся да Божых падарункаў: чуць, бачыць, гаварыць, хадзіць. А калі на хвілінку прыпынімся і задумаемся: чалавек на працягу дня робіць каля 20 тысяч крокаў, за год — 7 мільёнаў, а за 70 год — 384 тысячы кіламетраў, адлегласць ад Зямлі да Месяца.

Такую дарогу прайшоў па зямлі Якаў Анікеевіч Ліпскі. Родзічы ведаюць пра яго вельмі мала. Высокі. Моцны. Спакойны. Багаты, але неадукаваны. Меў зямлю і лес. Працаваў, што вол, нястомна і цягавіта. Жыў у Горацкім раёне, у вёсцы Чашнікі, на Магілёўшчыне.

Жанаты на Хоўры. Дзяцей па тым часе мелі столькі, колькі Бог даваў. А Бог шануе тых, хто дзень і ноч працуе. От і ў Якава з Хоўрай спраўна, праз год ці два з'яўляліся спадчыннікі. Колькі іх, ніхто не ведае. Радня назвала толькі чатырох: Мікіту, Уладзіміра, Гаўрылу, Міканора. Міканор, відаць, быў самым меншым, апошнім, бо вядома, што яму споўнілася толькі тры гады, калі памёр бацька Якаў.

На трэцяе пакаленне Міканор з жонкай Кацярынай Чабатарэўскай пакінулі сыноў Данілу і Аляксея, дачку Феню.

Пра Данілу, 1897 года нараджэння, вядома толькі адна біяграфічная рэмарка. У першую сусветную вайну яго, салдата, параніла ў сківіцу. Ды так цяжка, што трэба было замяніць яе. Яму выдалі па волі цара залатую сківіцу. А ў Горках мясцовы доктар аб'ягорыў салдата Данілу Ліпскага. Прыкарманіў залаты царскі падарунак, даверліваму ваяку сказаў, што ён яму не падыходзіць. Так Даніла да старасці і быў бяззубым.

Дачку Феню чамусьці занесла аж на Урал. І там яна нарадзіла двое дзяцей. Як бы іх нельга было нарадзіць на Магілёўшчыне.

Аляксей нарадзіўся за дзесяць гадоў да рэвалюцыі ў Расіі. Вучыцца не выпала, трэба было спяшацца рабіць сусветную рэвалюцыю. Скончыў толькі чатыры класы. Гэтага хапіла, каб прызначыць яго старшынёй калгаса ў вёсцы, дзе некалі дзед Якаў гаспадарыў на сваёй зямлі.

У Аляксея Ліпскага ўсе дзеці атрымалі сельскагаспадарчыя спецыяльнасці: Вера — эканаміст, Таня — заатэхнік, Федзя — паляявод, Васіль — шафёр.

З Чавусаў піша мне Вера Аляксееўна Кудзіновіч (Ліпская):

*«Жыццё пражыта не толькі маімі бацькамі, дзядамі, прадзедамі. Сама я ўжо на пенсіі. Дзеці мае Света і Саша закончылі школу з медалямі, маюць інстытуцкія дыпломы. А толку? З дачкой і мужам жывём у маласямейнай*

*кватэры. Сын ажаніўся, паехаў жыць да жонкі ў Сухумі. А там — вайна. Вярнуліся да нас, у Чавусы, ды не адны, а са сватамі. Вось такім інтэрнацыяналам і жывём у цеснаце: беларусы, рускія, грузіны...»*

У гэтай сямейнай гісторыі загалоўнымі літарамі напісана імя Якава. Ён пратаптаў сваімі нагамі дарогу да нябеснага свяцілы — Месяца. Хацеў дабра і шчаслівай долі спадчыннікам. Мазалямі здабываў хлеб. Мроілася яму жыццё прапраўнукаў светлым і бязвоблачным. Ці ёсць яно такое на свеце?

Валерый Паўлавіч Ліпскі са Шклоўскага раёна верыць, што ёсць. Ён — старшыня калгаса «Перамога», брат Уладзімір — адзін з кіраўнікоў раённага аграпрома. Бацька іхні Павел Ліпскі — першы трактарыст на Шклоўшчыне, удзельнік вайны, кіраваў МТС — машынна-трактарнай станцыяй, якая абслугоўвала тэхнікай некалькі калгасаў у акрузе.

Павел Ліпскі родам з вялікай сям'і. Ён з дзесяці дзяцей мо самы вязучы. Браты Іван і Захар загінулі на фронце. Антон расстраляны немцамі ў 1943 годзе за сувязь з партызанамі...

Род гэтай сям'і пачынаўся ад прадзеда Сямёна, дзеда Рыгора. Яны шчыравалі на зямлі плугам, у лузе — касою, у лесе — пілой ды сякерай. А ўнукі і праўнукі ўзяліся кіраваць зямлёй прынукай, загадамі, пяром. І сёння мы маем тое, што маем.

*«Гэтыя сціплыя радкі піша ваш цёзка па прозвішчы Ліпскі Анатоль Емяльянавіч з вёскі Косічы, што на Быхаўшчыне. Дзед мой Ануфрый, бацька Ямеля, яго браты Кузьма, Дзям'ян і Ягор нарадзіліся і жылі тут, у Косічах. Як маглі абаранялі Айчыну. Дзядзька Ягор, гвардзеец, склаў галаву ў першую імперыялістычную вайну — за цара. Браты Якаў і Васіль загінулі на франтах другой сусветнай вайны — за Саветы. Сам я ўсё жыццё служыў зямельцы. І даслужыўся да пенсіі. Хай шчаслівейшымі будуць дзеці і ўнукі!..»*

У Ліпскіх, як і ва ўсіх людзей на Зямлі, розныя радаводныя зоркі. І ў сваіх споведзях, веру, яны шчырыя. Ёсць чаму радавацца — не хаваюць гэтага. Ёсць магчымасць выказаць боль, крыўду — не саромеюцца. Бо, кажуць, пасля душэўнага спавядання наступае ачышчэнне, душа адчувае палёгку. З такімі пачуццямі чытаў пісьмо ад Ліпскай Раісы Адольфаўны:

*«Майго бацьку забралі і расстралялі, калі мне было пяць гадкоў.*

*Што ведаю пра бацьку?*

*Нарадзіўся ў 1900 годзе ў вёсцы Ражкі Круглянскага раёна. Падлеткам узяў яго да сябе ў Оршу блізкі родзіч. Там ён вучыўся ў школе і падрабляў у майстэрнях чыгуначнага дэпо. Ведаю, бацька крыху вучыўся ў нейкай тэхнічнай ВНУ ў Маскве, але не хапіла сродкаў яе закончыць. У 1924 годзе ўступіў у партыю. Прымаў удзел у стварэнні першых МТС на Магілёўшчыне. Пасля ўзначаліў абласны аўтатранс. Ноччу 22 жніўня 1938 года яго арыштавалі за «шпіянаж на карысць Польшчы». Не буду апісваць, як мы з мамай жылі пасля арышту, адчуваю, не хопіць на гэта душэўных сіл і вытрымкі.*

*Цяпер я ўжо па ўзросту старэйшая за бацьку, а боль у сэрцы не сціхае. З кожным годам становіцца больш пякучым. Пазбавілі чалавека жыцця, гонару, вартасці, і ніхто толкам не пакаяўся, не папрасіў прабачэння.*

*Следчая, якая дапытвала бацьку, усё жыццё спакойна працавала ў апараце Вярхоўнага Савета БССР. А я пісала ўсюды, шукала праўду, заступалася за бацьку. У адзін з восеньскіх дзён 1959 года мяне выклікалі ў ваенны трыбунал Беларускай акругі і ў вестыбюлі, каля шчотак для чысткі абутку, уручылі маленькую паперку, даведку за № 1313 ад 19.08.1959 года, за подпісам палкоўніка юстыцыі Каробскага. У ёй паведамілі, што Ліпскі Адольф Іванавіч рэабілітаваны пасмяротна ў сувязі з адсутнасцю прычын злачынства. Як проста, праўда?..»*

У Магілёўскай вобласці, як мне паведамілі з адраснага бюро, пражывае звыш пяцісот Ліпскіх. Я атрымаў спісы цёзак па прозвішчы з Мсціслаўскага, Клімавіцкага, Глускага, Магілёўскага раёнаў. За кожным прозвішчам — свой лёс. І неразгаданая тайна: якімі ж старажытнымі карэньчыкамі пераплецены гэтыя сем'і?

## ФЕЛІКС

*Спрадвеку тут жылі яны —*
*Талковыя і ўмелыя.*
*На іх магілах валуны*
*Цяжкія, заімшэлыя.*

Уладзімір Скарынкін

Яўрэй Шауль Валь прыехаў у Брэст з італьянскага горада Падуя. Адбылося гэта ў XVI стагоддзі. Тут ён ажаніўся, разбагацеў і стаў прыкметнай асобай. Гісторыі вядома, што кароль Стэфан Баторы выдаваў яму прывілей на здабычу і продаж солі. Другі кароль Зыгмунд III надаў беларускаму яўрэю найменне «каралеўскі слуга».

Шауль Валь, актыўны і адукаваны яўрэй, уславіў сваё імя яшчэ тым, што адну ноч быў... каралём Рэчы Паспалітай.

Пад новы, 1587 год памёр Стэфан Баторы, які кіраваў краінай дзесяць гадоў. Шляхта тэрмінова сабралася ў Варшаве, каб абраць новага ўладара. У сойме распаліліся спрэчкі, узніклі рознагалоссі. Вылучылі адразу некалькі ўплывовых асоб на каралеўскі трон. Тады, кажуць, падняўся Мікалай Радзівіл і сказаў: «А ці не выбраць нам каралём Шауля?..»

І выбралі. На адну ноч. Да раніцы. Бо нягожа, каб краіна заставалася да наступнага пасяджэння сойму без правіцеля. Кажуць, не без падказкі і ўплыву Шауля Валя новым каралём Рэчы Паспалітай абралі назаўтра Зыгмунда III Вазу, сына дачкі Зыгмунда I Кацярыны, з дынастыі Ягелаў, і Яна III, караля Швецыі, з дынастыі Вазаў. Ажно сорак шэсць гадоў сядзеў на троне Зыгмунд III.

Гістарычная легенда пра Шауля Валя сцвярджае, што яўрэі на Беларусі пасяліліся з даўніх часоў. Разам з карэнным насельніцтвам яны пераносілі ўсе нягоды жыцця: перамены ўлады, рэвалюцыі, паўстанні, войны. Яны і сёння з намі разам, як частка адной сям'і, уносяць свой важкі ўзнос у эканоміку, культуру, навуку, адукацыю.



Роза Ефраімаўна Ліпская
ў 1970 годзе

І сярод Ліпскіх, нечакана для сябе, адшукаў яўрэяў. Гэта лішні раз даказвае, што кроў чалавечая не вадзіца. Яна з адной крыніцы — ад Евы і Адама.

У даведніку, які выдадзены ў Нью-Йорку пад рэдакцыяй французскага вучонага Аляксандра Бейдэра, ёсць звесткі і пра Ліпскіх. Пазначана, што гэта прозвішча сярод яўрэяў было асабліва распаўсюджана ў Пінску, Вільні, Вілейцы, Слоніме, Кішынёве.

У архіўных «раскопках» адшукаў толькі двух Ліпскіх-яўрэяў. Пры віленскім губернатары быў некалі апякунскі дзіцячы прытулак пад непасрэдным заступніцтвам «Их Императорского Величества». Ганаровым членам таго прытулку з 1879 года быў купец Давыд Ефраімавіч Ліпскі, яўрэйскага веравызнання, меў хатняе выхаванне. З 1881 года ў апякунскі савет прытулку ўключаны яго брат Ілья Ефраімавіч, таксама купец, адзначаны срэбраным медалём для нашэння на шыі на Станіслававай стужцы.

У пазнейшых дакументах сустрэў, што віленскі купец другой гільдыі Давыд Ліпскі стаў ганаровым ахоўнікам яўрэйскага народнага вучылішча № 6 у г. Вільні. А яго брат Ілья апякаў яўрэйскае вучылішча № 5 з жаночай зменай. Да таго ж Ілья Ефраімавіч быў гласным Віленскай гарадской думы.

Цяжка ўстанавіць радавод гэтых Ліпскіх. Яго, на жаль, не ведаюць і сённяшнія Ліпскія, якія жывуць у Беларусі.

З Феліксам Якаўлевічам Ліпскім мы пазнаёміліся ў Беларускім дзіцячым фондзе. Два прэзідэнты. Я ўзначальваю дабрачынны фонд, які абараняе правы дзяцей. Фелікс Якаўлевіч кіруе Беларус-

кай асацыяцыяй яўрэяў, былых вязняў гета і нацысцкіх канцлагераў.

Цікавы субяседнік. Тэмпераментны чалавек. Вядомы ў Мінску хірург. Каранасты. У чарнявую палыселую чупрыну надзейна ўплецена сівізна. Вочы маладыя, з іскрынкай. Калі загаварылі пра радавод, Фелікс Якаўлевіч закурыў:

— Ведаю мала пра свой род. Прозвішча Ліпскі — маміна. Яна, Роза, Разалія, была дачкой Ефраіма Ліпскага, свіслацкага плытагона. Жыў і працаваў дзед у мястэчку Свіслач, пад Бабруйскам. Ганяў плыты па Свіслачы, Бярэзіне, Дняпры і аж да мора. Пражыў жыццё на вадзе, а плаваць не ўмеў. Казалі, мог на двух бёрнах трымацца гадзінамі. Сына Фейву, яшчэ падлеткам, браў з сабой. Моцна гаварыў, амаль крычаў. Плытагонская звычка...

— Адкуль Ефраім Ліпскі прыехаў у Свіслач, хто яго бацькі?

— Каб жа ведаць! — прадаўжае размову Фелікс Ліпскі на чысцюткай беларускай мове. — Мне самому карціць дакапацца да вытокаў: калі, чаму і хто з першых яўрэяў узяў сабе славянскае прозвішча?

— У дзеда колькі было дзяцей?

— Ад двух шлюбаў — дванаццаць, — смяецца, — рабіў плытагоншчыкаў ды крыху памыліўся. Грымнула рэвалюцыя. Дзеці Ефраіма пайшлі ў людзі. Абрам закончыў інстытут чырвонай прафесуры, вырас аж да сакратара Крымскага губкома партыі. Малодшы Ёсіф паехаў падарожнічаць, асеў на Чукотцы. Стаў заслужаным палярнікам. Там ажаніўся, займеў двух сыноў. Адзін з іх, Рыгор, жыве ў Мінску. Жонка яго Галя — беларуска. Ад Файвы пайшлі сыны Марык і Міша, якія пераехалі жыць у Ізраіль. Унук дачкі Рывы Якаў Яўно — заслужаны артыст Расіі. Жыве ў Нью-Йорку...

— Пра маму раскажыце.

— Мама Разалія Ефраімаўна Ліпская нарадзілася ў 1909 годзе ў мястэчку Свіслач. Вучылася ў беларускай школе. У сёмым класе ўступіла ў камсамол. Дзеля гэтага абрэзала касу, бо з касой не прымалі. Працавала на шклозаводзе. Там уступіла ў партыю. З 1929 года — у Мінску. Швачка, член гаркома камсамола. У трыццаць другім паслалі вучыцца ў Маскву, на беларускі факультэт Камуністычнага універсітэта нацменшасцей Захаду. Там мама і пазнаёмілася з Якавам Шленскім, польскім камуністам-эмігрантам. Яго не помню, бо праз год Якава арыштавалі, судзілі і вывезлі ў Нарыльск. А маме аб'явілі вымову за згубленую бальшавіцкую пільнасць...

— Трагедыя напаткала вас перад вайной. Відаць, вас чакалі новыя выпрабаванні?

— О, гэта не перадаць, не апісаць. Уявіце: праз шэсць дзён пасля пачатку бойні з фашыстамі быў акупіраваны Мінск. А праз тры тыдні палявы камендант выдаў загад нумар чатыры аб стварэнні ў Мінску яўрэйскага гета. За пяць сутак усіх яўрэяў сталіцы сагналі ў адзін гурт, абнеслі іх калючым дротам.



Файва і Абрам Ліпскія, 1938 год

— Дзе адбывалася такое злачынства?

— Як ні дзіўна, на тых вуліцах, дзе цяпер размешчаны Міністэрства юстыцыі, плошча Юбілейная, экзархат усяе Беларусі. Гета акружылі калючым дротам у пяць радоў. Уваход і выхад з яго — праз прапускныя пункты на вуліцах Апанскага, Астроўскага і Рэспубліканскай. У склад гета ўваходзіла амаль сорак вуліц і завулкаў старога Мінска, ад Нямігі да Заслаўскай. Сюды сагналі звыш ста тысяч яўрэяў. Сярод іх былі і «гамбургскія яўрэі», інтэрніраваныя гітлераўцамі з Германіі, Аўстрыі, Чэхаславакіі, Бельгіі, Галандыі...

— Фелікс Якаўлевіч, і вы былі ў тым гета?

— Мне споўнілася якраз тры гады. Мяне з мамай таксама пагналі за калючы дрот. Як усе, насілі на грудзях і на спіне круглыя жоўтыя латы. Нас, Ліпскіх, у Мінскім гета было дзесяць чалавек: цётка Рахіля з маленькай дачкой, цётка Воля з двойняй па паўгода і старэйшай дачкой, муж цёткі Рывы, Ліпская Раіса і я з мамай...

— Як вы жылі там?

— Якое жыццё: у мяне, малога, прабіліся сівыя валасы на галаве. Былі і халодныя, і галодныя, і бітыя. На нашых вачах акупанты арганізоўвалі масавыя пагромы, гвалтавалі жанчын, забівалі за малейшыя парушэнні. І ў гэты здзеклівы час бясстрашна дзейнічала яўрэйскае падполле. Мая мама выводзіла людзей у парты-



Фелікс Якаўлевіч Ліпскі з маці Розай і бацькам Аронам

занскія атрады, распаўсюджвала лістоўкі, дапамагала людзям не згубіць веру ў вызваленне. Пазней і нам з мамай удалося перайсці ў партызанскі яўрэйскі атрад № 106, якім камандаваў Шалом Зорын.

— Як склалася ваша жыццё пасля вайны?

— Вучыўся ў школе. Закончыў медінстытут. Па накірунку паехаў ва ўчастковую бальніцу ў вёску Любавін Буда-Кашалёўскага раёна. На кані ездзіў па двух сельсаветах, дапамагаў людзям не хварэць. Пасля ўзялі загадчыкам хірургічнага аддзялення ў раённую бальніцу. Там у партыю прынялі. Пазней у Мінск пераехаў. Трэба было маму даглядзець. Я ў яе адзіны спадчыннік. І вось ужо звыш трыццаці гадоў працую ў медыцынскім цэнтры трактарнага завода. Звыш дзвюх тысяч аперацый зрабіў. Ветэран завода...

— Якая сям'я ў вас?

— Жонка Соф'я, капылянка, працуе інжынерам у хімлабараторыі. Выхавалі дзве дачкі — Майю і Інэсу, медыкі. Зяці з Магілёўшчыны, таксама медыкі. Ёсць тры ўнукі...

— Скажыце колькі слоў пра асацыяцыю яўрэяў, былых вязняў гета, якую вы ўзначальваеце.

— У арганізацыі зарэгістравана каля трохсот членаў. Усё меней і меней застаецца жывых сведак трагедыі. Мы ставім за мэту дапамагаць хворым і старым вязням гета. Садзейнічаем пошуку адпаведных дакументаў, месцаў расстрэлу яўрэяў, увекавечанню памяці ахвяр. Змагаемся супраць адраджэння фашызму. Дэвіз нашай асацыяцыі — «Фашызм — не пройдзе!».

Мой субяседнік Фелікс Якаўлевіч Ліпскі прапануе часопісы, га-



Родзічы Фелікса Якаўлевіча Ліпскага, які працуе доктарам у Мінску

зеты, у якіх напісана пра Мінскае гета. І мы пагаджаемся, што вельмі сціпла ўслаўлены мужнасць і подзвіг яўрэяў у вайну, а пра гета не знайшоўся яшчэ свой летапісец...

У Мінску і вобласці пражывала ў 1995 годзе 514 Ліпскіх. Гэта рэгістрацыя па пашпарту. А дзеці, як вядома, адраснымі бюро не ўлічваюцца. Ці ёсць сярод іх яшчэ яўрэі? Не ведаю. Ды ці важна, урэшце, нацыянальнасць? Галоўнае, каб людзі, аб'яднаныя адным прозвішчам, не ганьбілі яго, множылі слаўныя традыцыі прашчураў і шанавалі зямлю, на якой жывуць, паветрам якой дыхаюць.

Васемнаццаць мінчан адгукнуліся на мой пошук Ліпскіх. У іх пісьмах — новыя адрасы і імёны. У кожным — свая гісторыя. Вядомы юрыст з Масквы Аляксандр Пятровіч Ліпскі шукае карані бацькоў, якія нарадзіліся ў Мінску, пасля жылі і працавалі ў Краснаярскім краі, настаўнічалі ў Нясвіжскім раёне, на Міншчыне.

Родзічы Фадзея Іосіфавіча Ліпскага, майстра цэха абутковай фабрыкі імя Тэльмана ў Мінску, хацелі б ведаць, за што ён быў расстраляны 29 лістапада 1938 года. Рэабілітацыя Фадзея Іосіфавіча не можа задаволіць зраненыя сэрцы яго родзічаў.

Свой лёс у мінскага мастака-рэстаўратара Аляксея Ліпскага. Яго тры сыны — Міша, Алесь, Кастусь — вельмі б хацелі ведаць, хто ў іх быў дзед Міхаіл, прадзед Астап, прапрадзед Васіль і адкуль, калі пасяліліся Ліпскія ў в. Сутокі Смалявіцкага раёна?

Вядома толькі, што Іван Іванавіч Ліпскі, ураджэнец вёскі Су-

токі, у 1931 годзе рашэннем «тройкі» загрымеў у Мардовію на дзесяць гадоў. Ён, калгаснік арцелі імя Варашылава, праводзіў антысавецкую агітацыю. А праз 58 гадоў высветлілася, што Іван Ліпскі невінаваты. Яго рэабілітавалі.

За такі ж «грэх» быў асуджаны і Міхаіл Іванавіч Ліпскі, 1892 года нараджэння, брат ужо названага Івана. Жылі ў адной вёсцы.

Непадалёк ад Сутокаў знаходзяцца вёскі Рудня, Алесіна. Адтуль расстралялі ў трыццатых гадах Ліпскага Рыгора Аляксандравіча, Ліпскага Станіслава Пятровіча. Садзілі ў турму Ліпскага Антона Ігнатавіча, а яго сям'ю ссылалі за Урал.

Хто гэтыя небаракі лёсу мінскаму мастаку-рэстаўратару Аляксею Ліпскаму? Вядома адно — радня. А ў якой ступені, хай сам шукае. Веру, яму ўжо не так салодка спіцца пасля майго вячэрняга званка па тэлефоне. І гэта добра, што запалілася яшчэ адна чалавечая душа ў пошуку свайго Я.

Рана адышоў у вечнасць салігорскі Ліпскі Канстанцін Уладзіміравіч. Загінуў на пажары, які ўспыхнуў на адной з саляных шахт. Удава Тамара Ліпская піша: «Паважаны пісьменнік, не адступайце ад ідэі напісаць кнігу пра вялікі род Ліпскіх. Гэтыя людзі, мяркую па свайму мужу, заслугоўваюць добрай і доўгай памяці...»

У салігорскага Ліпскага — тры браты: Віктар Уладзіміравіч працуе галоўным доктарам у «Артэку», Леанід Уладзіміравіч жыве на Брэстчыне, Іван Уладзіміравіч — масквіч.

Шукайце, Ліпскія, адзін аднаго.

Радніцеся.

Сябруйце.

## СІБІРСКІЯ МАТЫВЫ

Людзі на зямлі, як і зоркі на небе, — жывуць, знікаюць. Людзі да таго ж яшчэ і перамяшчаюцца. Хто па сваёй волі, як перакаціполе, а хто па загаду правадыра, па прымусу суда.

З Якуцка піша мне Ліпская Валянціна Васільеўна. Нарадзілася ў Новасібірскай вобласці ў 1934 годзе. Яна, сібірачка, ніколі не была на радзіме дзядоў.

*«Са слоў мамы ведаю, што дзед і баба паходзяць з Мінскай губерні. Дзеда звалі Клім, бабу — Праскоўя. Не ведаю, як яны трапілі ў новасібірскую вёску Новая Гута, вядома толькі тое, што ў іх былі дзве дачкі і два сыны. Адзін з іх, самы малодшы, — мой бацька. Да вайны мы жылі ў Комі, у горадзе Юрга. Бацька служыў плытагонам на рацэ Томі. Адтуль яго ўзялі на вайну з фашыстамі. Загінуў пад Масквой...*

*Кажуць, мой дзед Клім быў з характарам. Не хацеў запісвацца ў калгас. Сам сеяў хлеб, проса, бульбу, трымаў кароў, авечак, свіней. Яго клікалі «калдуном», таму што ў яго на полі ўсё расло добра, а ў калгасе — адны няўроды. За гэта яму давялося пасядзець у турме. Бараду там касмылькамі выдралі. А хату, як ворагу савецкай улады, разабралі па бервянку. Усе апошнія гады дзед працаваў у Сібіры. Пасля яго смерці мы з мамай паехалі ў Якуцк у заробкі. Так і аселі тут...»*

Ліпская Алена Дзмітрыеўна нарадзілася ў Комі, у горадзе Інце.

Яе дзед, баба і бацька прыехалі на Поўнач з Жытомірскай вобласці. І яна не ведае ўсю праўду: як і чаму іх сям'я рушыла ў далёкую і нязведаную дарогу? Бацьку да таго ж чакалі новыя выпрабаванні: фінская, Вялікая Айчынная войны, палон, канцлагеры.

З Інты Ліпскія пераехалі ў Курск, і новае пакаленне — Андрэй, Дзмітрый, якія нарадзіліся ў васьмідзесятых гадах, зусім нічога не ведаюць пра свой радавод.

У Тамбове асела сям'я Ліпскага Андрэя Сцяпанавіча, ураджэнца Магілёва. У 1936 годзе капітан Ліпскі прыехаў у Тамбоў на гадавыя курсы. Там ажаніўся. Прывёз у Мінск тамбоўку, нарадзілі дачку Людмілу. Сямейнае шчасце абарвала вайна. Капітан Ліпскі з першага яе дня — на фронце. Прыслаў жонцы тры пісьмы. Чацвёртай была... пахавальная.

Пасяліліся Ліпскія па ўсёй вялікай Расіі. Ніхто з іх ніколі не задумваўся пра свае карані. Старэйшае пакаленне насіла крыўду глыбока ў душы. Відаць, прывучылі сваіх дзяцей і ўнукаў не распытваць пра балючае. І цяпер па асобных абрывачных успамінах можна меркаваць, чаму Ліпскія з Беларусі і Украіны з'ехалі ў Сібір.

Былі, безумоўна, і добраахвотнікі на далёкія падарожжы, любіцелі новых геаграфічных прытулкаў. Адны Ліпскія згаслі бясследна на небасхіле жыцця. Іншыя ўславілі сябе нечым.

У Нацыянальнай бібліятэцы, што ў Мінску, захоўваюцца самыя розныя кнігі, аўтары якіх Ліпскія. Нехта Альберт Мікалаевіч Ліпскі апісаў енісейскія скульптуры. Кніга выдадзена ў Абакане. Анатоль Маркавіч Ліпскі і Рыгор Яўгенавіч Ліпскі выдалі свае кнігі ў Кіеве. Вячаслаў Іванавіч Ліпскі абнародаваў трактат «Структура грамадскай свядомасці ў Чалябінску». Кнігу па мастацтву выдаў у Маскве Уладзімір Мікалаевіч Ліпскі, а Барыс Іванавіч Ліпскі — у Ленінградзе. Медык Ізраіль Абрамавіч Ліпскі надрукаваў свае навуковыя працы ў Архангельску...

Аднойчы з газеты «Аргументы и факты» я даведаўся, што ў далёкія дваццатыя гады XX стагоддзя ў Н.-Мікалаеўскай губерні, у Камянецкім павеце, служыў старшынёй Ільінскага сельсавета нейкі А. Ліпскі. Ці то Аляксандр, ці то Анатоль? А мо —Альфрэд, Адоля, Абрам, Адам, Авяр'ян, Акім, Аляксей, Антон, Апанас, Аркадзь, Арсен, Астап?..

Не ўдаваўся я і ў біяграфію А. Ліпскага. Адкуль ён апынуўся ў Сібіры: з Беларусі, Украіны, Літвы ці Польшчы? Чаму ён там займеў аселасць? Які яго радавод і сям'я?

Цікаўнасць да старшыні сельсавета А. Ліпскага праявіла папулярная расійская газета таму, што ў партыйных архівах нехта адшукаў сексдакументы. Думаю, яны нікога не пакінуць раўнадушнымі і да пуза развяселяць любога мараліста.

Малайцы архівісты, столькі гадоў беражліва захоўвалі тайну аб камуне «Калантай». Кажуць, пра яе ведаў сам «жалезны Фелікс» і прапаноўваў Мехлісу, каб той далажыў, калі будзе час, самому Сталіну «о сибирских деревенских нравах». Далажылі ці не генсеку, аде дакументы засакрэцілі.

Цяпер яны абнародаваны. Адным з «герояў» тых разборак стаў А. Ліпскі. Таму з поўным правам уключаю гэтыя архіўныя споведзі ў сваю кнігу. Сведчу іх на мове арыгінала і ў тым «красным пісьменстве», у якім яны былі створаны.

Заява старшыні Ільінскага сельсавета А. Ліпскага ў Панкрушынскі павятовы партыйны камітэт:

*«Панкрушинскому волпарткому заявляю, что 18 мая было партсобрание ячейки Коллонтай и много было поднято разных вопросов... Все члены ячейки заявляли мы идем по стопам секретаря и бюро ячейки раз секретарь и бюро ячейки сидят самогон* (так у тэксце. — *Ул. Л.) и устраивают такую пьяную лавочку что в одно прекрасное время веселого вечера жена секретаря оказалась акушеркой ■ начала производить телесный осмотр мущин вымериванием через тарелку, у кого конец перевесится через тарелку, с того еще бутылку с носу, ■ также был произведен и женщинам осмотр...*

*Еще поступали личное заявление от Толстокорова Ефтефея, что жила у Толстокорова Павла их племянница Мария Толстокорова, которую Тостокоров Павел изодрал на масленицу ремнем бляхой на которой не было нигде живого места и все тело было синее и было заявлено бюро ячейки и делали осмотр тела Толстокоровой Марии, а после всего этого бюро умолчало ■ никому недонесло...*

*Все члены комячейки настаивали зафиксировать в протоколе, избрать комиссию ■ расследовать все поступки секретаря и бюро ячейки, но секретарь Толстокоров Павел забрал книгу протоколов к сибе подмышку и ничего недал фиксировать ■ протокол. И я прошу волпартком расследовать все поступки и выявить факты виновности...»*

З пратакола пасяджэння бюро ячэйкі «Калантай»:

*«1924 года 17 февраля мы члены РКП(б) бюро ячейки Коллонтай Панкрушихинской волости Каменского уезда Н.-Николаевской губ. Секретарь комячейки Толстокоров Павел, члены бюро Косотуров Иван, Шаблинский Иван, под председательством товарища Косотурова секретаря Толстокорова... постановили:*

*убрать т. е. снять с должности придсидателя сельсовета, а назначить на место его т. Толстокорова Павла, а Липского как злоумышленника придать партсуду...»*

З паслання сакратара Ільінскага сельсавета М. Крываротава сакратару кам'ячэйкі «Калантай»:

*«1. О неправильном ведении исполнения служебных обязанностей Председателя Ильинского Сельсовета тов. Липскова...*

*2. Предсельсовета тов. Липский сам выгонял самогонку к празднику Михайлову дню.*

*3. Два раза напивался самогонки на пос. Ново-Петровским и даже гулял на свадьбе у гражданина Михаила Веселкина.*

*4. 27 ноября 1923 года в п. Ильинском было пьянство где была даже драка... Кроме того в п. Ильинском развел усиленного вида самогон несмотря на изданные распоряжения по борьбе с тайным винокурением и пьянством... говоря гуляй ребята но не попадайтесь и я с вами буду гулять.*

*5. 27 ноября 1923 года гр. п. Ильинского Ефим Сазонов пьяный на улице дополусмерти убил свою жену... а он непринял даже во внимание не стал составлять материал говоря немое дело разбираться с вами, несмотря на то, что стоит у руля советской власти...»*

# *НА СУСВЕТНАЙ АРБІЦЕ*

Памятаю, адлятаў з Нью-Йорка, дзе цэлы месяц засядаў у будынку Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, і мяне літаральна з парога нумара вярнуў тэлефонны званок. Шукала місіс Джоан Фэйргайлд. Прачытала інтэрв'ю са мной у газеце «Нью-Йорк таймс» пра чарнобыльскую трагедыю. Усхвалявала яе атамная катастрофа. Пыталася, чым можа дапамагчы. Ды раптам прызналася:

— Я таксама з Ліпскіх. Бацькі мае з Беларусі. Але рана паўміралі. Так і не ведаю, з якой мясціны пераехалі...

З паважанай і сталай місіс мы так і не ўбачыліся, але ў памяці асела прыемная навіна: і ў Амерыцы жывуць Ліпскія!

За другім разам пашанцавала болей. З групай мінскіх настаўнікаў мы ездзілі па штату Агайя. У невялікім горадзе Перысбург наведалі мясцовую школу. І раптам настаўніца Моллі Харстэл сказала мне:

— А ў нашай школе вучацца Вікторыя, Тэрэза і Мэцью Ліпскія. Бацька іхні Лэслі Паул Ліпскі — вядомы ў горадзе банкір...

Праз гадзіну мы сядзелі ў школьным класе з амерыканскай сям'ёй Ліпскіх. Трое чароўных дзетак, сам Лэслі і яго жонка Джоэн з несхаванай цікаўнасцю разглядвалі мяне, Ліпскага з Беларусі, і я цешыў сябе нечаканым адкрыццём. Узіраўся ў сімпатычныя, поўныя задору і агню твары, шукаў падабенства.

Разам паспрабавалі скласці іх радаводную схему. Народжаны ў 1951 годзе, Лэслі Ліпскі вельмі мала ведаў пра сваё паходжанне. Ён, брат Лэры, сястра Лінда паходзяць ад Чэсцера Антоні Ліпскага (1918—1982). Дзед Фрэнк Ліпскі (1886—1966) нарадзіўся ў Польшчы, гэтак жа як і яго жонка Анжэліка. А дзе ў Польшчы, якога яны герба, як трапілі за акіян — гэтага ўнук, амерыканскі банкір, не ведае. Цяпер задумаўся. Паабяцаў прыехаць з сям'ёй у Беларусь. Адсюль пачне шукаць свае карані.

Сустрэча з амерыканцам Лэслі Ліпскім глыбока асела ў маёй памяці. І дзе б я ўжо ні быў, ці то ў Вашынгтоне, ці то ў Чыкага, ці ў Дэтройце, Рычмандзе, Таледзе, — усюды зазіраў у тэлефонныя кніжкі. Амаль усюды сустракаў сваіх цёзак па прозвішчы. На жаль, не меў магчымасці пазваніць ім, тым больш — сустрэцца.

У адной з публічных бібліятэк зазірнуў у амерыканскія энцыклапедыі. О Божа! Там спаткаўся з рознымі Ліпскімі.

Луіс Ліпскі, нараджэння 1876 года, увайшоў у лік вядомых людзей ЗША як рэдактар шматлікіх газет, прэзідэнт Сіяністскай арганізацыі Амерыкі ў дваццатых гадах.

Санфорд Ліпскі, нараджэння 1930 года, — выкладчык, хімік, бакалаўр мастацтваў, доктар філасофіі. Намеснік рэдактара выдання «Радыяцыйныя даследаванні». Атрымаў ганаровую ўзнагароду Нотр-Дамскага універсітэта, якая ўручаецца адзін раз у сто гадоў.

Дэвід Брус Ліпскі нарадзіўся ў Пенсільваніі. Бакалаўр навук, доктар філасофіі. Член Амерыканскага эканамічнага таварыства.

Аляксандр Ліпскі нарадзіўся 29 ліпеня 1919 года ў Берліне. За-

essential: кончыў Каліфарнійскі універсітэт. Бакалаўр мастацтваў, доктар філасофіі, прафесар гісторыі. Член Амерыканскага гістарычнага таварыства, Амерыканскай акадэміі рэлігіі, Асацыяцыі ўсходніх даследаванняў. Апроч нямецкай валодае шведскай, рускай, французскай, бенгальскай мовамі.

Елізар Ліпскі нарадзіўся ў 1911 годзе ў Нью-Йорку. Амерыканскі юрыст і пісьменнік. Раманы — «Народ супраць О'Хара» (па ім зняты фільм), «Лінкольн Макківер», «Вучоныя», «Пацалунак смерці».

Майкл Ліпскі — магістр мастацтваў, доктар філасофіі, прафесар палітычных навук. Аўтар шматлікіх кніг.

Мартымер Ліпскі нарадзіўся 6 мая 1915 года ў Брукліне. Сын Луіса і Сары Ліпскіх. Жанаты на Ганне Дэвіс, настаўніцы. Дзеці — Марк, Іаіль. Доктар права. Жыве ў Вашынгтоне. Кар'ера: армія ЗША, грамадзянскі бухгалтар, юрыст. Член Міжнароднага таварыства канстытуцыі і парламентарызму, Таварыства прымірэння. Працы: «Пошук міру: гісторыя Нобелеўскай прэміі», «Час гісторыі: грамадзянскае кіраўніцтва па раззбраенню», «Вайна: не, ніколі. Справа ўрадаў усіх краін», «Падаткі для багатых: альтэрнатыва рэвалюцыі ў Амерыцы».

Мартымер, па-нашаму, відаць, Марцін, Ліпскі ўдзельнічаў у міжнароднай асамблеі па канстытуцыйных праблемах у Інсбруку (Аўстрыя), на якой прыняты праект канстытуцыі Федэрацыі Зямлі. Можа, наступіць час, і з дапамогай гэтай канстытуцыі зямляне аб'яднаюцца ў адну дружную сям'ю. Хай, Божа, так будзе!

Самы моцны след Ліпскіх вядзе ў Польшчу і адтуль — на Беларусь. Не ўдалося, на жаль, атрымаць поўныя звесткі пра сваіх цёзак па прозвішчы ў суседняй краіне. Але нават і здабытыя, разрозненыя, падмацоўваюць мой вывад.

У Пазнанскім ваяводстве ў 1930 годзе жылі шэсць буйных землеўласнікаў. Казімір Ліпскі меў маёнтак Беганін і 1312 гектараў зямлі, Войцэх Ліпскі з Ляўкова — 1116 гектараў. Іх сем'і, як і сем'і Івана Ліпскага са Шчуры, Марыі Ліпскай з Бэндзешына, Казіміра Ліпскага са Шклярка, Войцэха Ліпскага з Карска, не маглі знікнуць бясследна. Яны, верыцца, размножыліся і ўзмацнілі дрэва Ліпскіх на Зямлі.

У тэлефонным даведніку Варшавы пазначаны 116 Ліпскіх. Сярод іх Барбары, Яны, Марэкі, Гелены, Тэрэзы, Ванды, Эдварды, Баляславы, Зыгмунды, Тадэвушы, Station Станіславы, Рычарды... У Катавіцы — шэсць Ліпскіх. У Туроні — пяць. Як дазваніцца да іх душы? Ці захочуць раскрыцца, пасябраваць?

У старажытным, архіўным Кракаве, дзе, здаецца, кожны камень можа нешта рассакрэціць, са мной сустрэўся Анджэй Ліпскі. Ён і яго бацька Юзэф нарадзіліся ў мястэчку Чэрск Бедгашчанскага ваяводства, у накірунку на Гданьск. Малады паляк, які жыве сярод гістарычных архіваў, рэдкіх бібліятэк, прасіў мяне, беларуса, устанавіць яго радавод. Мы міла пагаварылі з ім, і, веру, выкладчык кракаўскага ліцэя намоцна запаліўся мінулым сваіх прашчураў.



Амерыканскі банкір Лэслі Ліпскі з сям'ёй і аўтарам гэтай кніжкі. ЗША, 1994 год

З Янам Юзэфам Ліпскім мяне пазнаёміў маскоўскі часопіс «Иностранная литература» ў 1993 годзе. На адным дыханні прачытаў яго артыкул «Дзве радзімы — два патрыятызмы». Гэты артыкул хадзіў па Польшчы самвыдам. Пасля перакладзены на французскую, нямецкую мовы. Якую жывую струну зачапіў польскі публіцыст Ліпскі?

У 1981 годзе, калі мала хто гэтага страшыўся, Ян Юзэф Ліпскі напрарочыў: «Прывід блукае над Усходняй Еўропай, прывід нацыяналізму». Гэта было сказана, калі ў яго Айчыне аб'явілі ваеннае становішча. Ліпскі стаў сэрцам і гонарам дэмакратычнай апазіцыі.

Міжнацыянальныя зносіны — стрыжань яго артыкула. І гэту тэму аўтар разглядвае на матэрыялах гісторыі апошняга тысячагоддзя. Ліпскі — гісторык па прызванні, крытык. А ў канцы жыцця — актыўны грамадска-палітычны дзеяч. Ён — член Камітэта абароны рабочых, кіраўнік абноўленай ім Польскай сацыялістычнай партыі, сенатар Польскай Рэспублікі.

Артыкул Ліпскага — праўдзівае люстэрка, у якое, калі хопіць смеласці, можа зазірнуць любая нацыя, кожны з яе правадыроў. Хай мужна скажуць праўду пра сябе і сваіх суседзяў, як гэта зрабіў Ян Юзэф Ліпскі.

*«Асобае месца ў нашай свядомасці павінны займаць літоўскі, беларускі і ўкраінскі народы. Гэта народы, вякамі звязаныя з намі агульным лёсам. Паланізацыя шляхецкіх эліт у Літве і на Русі сутыкнула гэтыя нацыі ў шэраг «негістарычных» народаў, якія толькі ў другой палове XIX стагоддзя*

*з цяжкасцю пачалі ствараць свае новыя эліты, інтэлігенцыю. Паланізацыя была, праўда, працэсам натуральным, без выкарыстання сілы — але яна была таксама і катастрофай, якая затрымала ўтварэнне нацый...»*

Як бы хацелася ўбачыцца і пасябраваць з мужным польскім патрыётам Янам Юзэфам Ліпскім. Ён, напэўна, добра ведаў свае радаводныя карані. На жаль, 1991 год стаў для яго годам развітання з жыццём зямным...

Своеасаблівая сустрэча адбылася з нейкім Юзэфам фон Ліпскім у невялікім старажытным французскім горадзе Шлетштаце. Гэта паселішча славутае сваёй гуманістычнай бібліятэкай. У ёй сабраны амаль усе старажытныя кнігі, пачынаючы з XV стагоддзя.

З вялікай зайздрасцю разглядваў тоўстыя фаліянты ў пергаментных пераплётах. Божа, патрымаць бы іх у руках, спазнаць бы калі-небудзь схаваную ў іх мудрасць прашчураў. З такой апантанасцю хадзіў міма стэлажоў з кніжнымі скарбамі ды раптам падумаў: «Няўжо ніхто з Ліпскіх не трапіў у гэту бібліятэку?»

Праз некалькі хвілін паслужлівая мулатка прынесла мне тоненькую кніжку, выдадзеную ў Брацілаве ў 1852 годзе. Гэта была дысертацыя Юзэфа фон Ліпскага «Грамадскае царкоўнае права ў Польшчы». Вышэйшым саветам універсітэта Віадрына ў Франкфурце-на-Одэры майму цёзку была прысуджана высокая ступень доктара багаслоўя.

З кароткай даведкі пра дысертанта стала вядома, што ён нарадзіўся 5 жніўня 1827 года. Бацька яго Альберт быў рыцарам. Маці з сям'і Радзіцкіх. Яны валодалі рыцарскім памесцем. Юзэфа выхоўвалі добрыя педагогі. Чатыры гады выхоўваўся ў гімназіі Святой Марыі Магдаліны пры царкве, пробашчам якой служыў Брэтнер. Пасля вучыўся ў гімназіі Астраво, у Чэхіі. Сам дырэктар гімназіі доктар Энгер вучыў Юзэфа Ліпскага. Экзамены на атэстат здаваў у 1848 годзе ў Брацілаўскай гімназіі. Дарога адкрылася ва універсітэт Віадрына...

Гэту біяграфічную даведку пра Юзэфа фон Ліпскага пераклаў для мяне з латыні дырэктар Гамбургскай каталіцкай акадэміі доктар Гюнтэр Гаршэнек. Шчодры душой, розумам і сэрцам, мой новы нямецкі сябар пачаў паважліва называць мяне Валодзя фон Ліпскі. Кожны раз рабілася крыху смешна і трошкі прыемна. Як бы сустрэў у Францыі свайго далёкага родзіча.

Германія таксама вывела на арбіту Ліпскіх не адну сям'ю. Іх я спецыяльна не вывучаў, але адно спатканне заслугоўвае ўвагі.

У 1978 годзе ўпершыню трапіў на нямецкую зямлю ў складзе турысцкай групы з Беларусі. У невялікім горадзе Людвігсфельдэ нам паказалі аўтамабільны завод, а пасля завялі ў мясцовую школу. Я выступіў перад дзецьмі, расказаў ім пра Мінск, Хатынь і свае Шоўкавічы. Прачытаў казкі, якія на той час прыдумляў разам з мінскімі дзетсадаўцамі. Нямецкія хлопчыкі і дзяўчынкі таксама падахвоціліся скласці свае казкі.

А калі вярнуўся з паездкі дамоў, мяне ўжо чакала пісьмо з Людвігсфельдэ:

*«Паважаны Уладзімір Ліпскі! Маё прозвішча, як і ваша, — Ліпская. Я хачу перапісвацца з вамі і вашымі дзецьмі. Мне 15 год. Вучуся ў дзевятым класе. Я старшыня клуба інтэрнацыянальнай дружбы нашай школы, член клуба рускай мовы нашай акругі. Вельмі люблю чытаць кнігі і слухаць сучасную музыку. Чакаю вашага адказу. З павагай Керстын».*

Адрас нямецкай дзяўчыны я перадаў свайму сыну Ігару, які таксама заканчваў школу. І яны пачалі перапісвацца. Іх завочнае сяброўства доўжыцца амаль дваццаць гадоў, хаця ні разу яшчэ не бачыліся. Керстын выйшла замуж, нарадзіла двое дзяцей. Ігар стаў архітэктарам, ажаніўся, мае сына Антона. Керстын і Ігар знаёмяць ужо адзін з адным сваіх дзяцей і спадзяюцца, што пры сустрэчы, якая не можа не адбыцца, яны ўзмоцняць свае сувязі радаводнымі вытокамі.

Уславіў украінскую навуку акадэмік Уладзімір Іпалітавіч Ліпскі (1863—1937). Нарадзіўся на Валыні, у сяле Самастрэлы. Закончыў Жытомірскую гімназію, Кіеўскі універсітэт. Дваццаць гадоў служыў у Пецярбургскім батанічным садзе. Шэсць гадоў быў прэзідэнтам Акадэміі навук Украіны. Апісаў шмат новых відаў раслін. Склаў кнігі па флоры Каўказа, Сярэдняй Азіі, Паміра, Цянь-Шаня. Наведаў гербарыі Лондана, Парыжа, Жэневы, пабываў у Алжыры, Тунісе, ЗША, Бразіліі, Уругваі, Аргенціне, Егіпце, Японіі, Карэі. Закончыў жыццё і навуковыя даследаванні ў Адэсе. Простага і энергічнага чалавека помняць сучаснікі. Навука ніколі не забудзе таленавітага батаніка Ліпскага Уладзіміра Іпалітавіча.

Імператарская Ваенна-медыцынская акадэмія ў Санкт-Пецярбургу ганарылася сваім сачленам, прыват-дацэнтам Аляксандрам Аляксандравічам Ліпскім (1857—1915). Я трымаў у руках яго навуковыя працы, кнігі, бачыў партрэт. Помняцца шыкоўная барада, доўгія вусы, а пад акулярамі — добрыя, лагодныя вочы. Пяру доктара-пісьменніка належыць звыш ста прац. І напісаць пра яго жыццё, вывесці радавод — гэта асобнае даследаванне, якое патрабуе новага натхнення.

Даўно хацеў бы пазнаёміцца з літоўскім пісьменнікам Ліпскісам Стасісам. Мае веды пра яго, на жаль, толькі з біяграфічнага даведніка. Нарадзіўся ў ліпені 1941 года, пад кананаду вайны. Дзяцінства апалена ёй. Закончыў гісторыка-філалагічны факультэт Вільнюскага універсітэта. Працаваў у рэдакцыях розных газет, у Камітэце па кінематаграфіі, у Саюзе пісьменнікаў. Яго кнігі — «Гарызонты сучаснай аповесці», «Літоўская літаратура», «Водгукі пра літоўскае слова». Пры сустрэчы з ім сказаў бы: «Стасіс Ліпскіс, напішы пра слова, якое сказалі Ліпскія ў Вялікім княстве Літоўскім, калі іх дзяржаўнай мовай была беларуская. Якімі справамі і подзвігамі ўвайшлі ў гісторыю нашы продкі-цёзкі?..»

Жывуць на Зямлі людзі.

Людзі згуртаваны ў народы.

У кожным чалавеку — сваё Я.

Я ўтрымлівае ядро са спадчыннымі генамі. А ў іх — нашы мінулае, сённяшняе, будучае.

Я плюс Я — сям'я.

Сям'я плюс сям'я — род.

Род плюс род — народ.

Народ плюс народ — людзі Зямлі.

Дай жа, Бог, каб гэта жывая карусель была вечнай.

Падмажы, Божа, каб народ не згубіў повязь часоў.

Уразумі, Госпадзі, сем'і, што на іх трымаецца род і народ, іх слава і моц.

Не рабі, Усявышні, чалавека манкуртам, які не помніць, не ведае, хто ён, ад каго паходзіць і каму абавязаны сваім жыццём.

Хай кожнае чалавечае Я стане вобразам Дабрыні, Розуму і Любові. Тады і Зямля наша ператворыцца ў планету Шчасця. Тады і мы станем Людзьмі. І захочацца нам адзін аднаго называць родзічам.

Божа, хай так будзе!

# *Старажытныя беларускія шляхецкія роды**

**Абадовіч**, Абакановіч, Абаленскі, Аберучаў, Абламовіч, Абламоўскі, Аблачынскі, Абніскі, Аборскі, Абрамовіч, Абрамоўскі, Абрампальскі, Абрыцкі, Абуховіч, Абухоўскі, Авяркові́ч, Аганоўскі, Агінскі, Агонь, Агрызка, Адамовіч, Адахоўскі, Адашовіч, Адзінец, Адляніцкі, Адноўскі, Адольскі, Адольф, Адорскі, Адравонж, Адынец, Ажахоўскі, Ажэльскі, Азанчэўскі, Азаркевіч, Азаровіч, Азямблоўскі, Азямбоўскі, Акаловіч, Акінчыц, Аколаў, Аксак, Акулевіч, Акуліч, Акушка, Акшэўскі, Алдакоўскі, Александровіч, Алендзкі, Аленскі, Алецкі, Алеша, Алізаровіч, Алісевіч, Аліфіровіч, Аліфяровіч, Альбікоўскі, Альляк, Альпінскі, Альхімовіч, Альшэўскі, Алявінскі, Аляке́віч, Алянкевіч, Аляхновіч, Аляшкевіч, Амбражэвіч, Амброк, Амяцінскі, Анашковіч, Ангірскі, Андраеўскі, Андрайковіч, Андрусевіч, Андрушкевіч, Анікевіч, Анісовіч, Аніхімоўскі, Анкудовіч, Аношка, Антаневіч, Антушэвіч, Ануфровіч, Анцута, Анцыпа, Апанасовіч, Апока, Апухцін, Арамовіч, Арасімовіч, Арахоўскі, Арашкоўскі, Аргун, Ардынец, Аржаноўскі, Аржахоўскі, Арлоўскі, Арол, Арсеннеў, Арцімовіч, Арціхоўскі, Арцішэўскі, Аршаеўскі, Арымовіч, Арэльскі, Арэшка, Арэшкавіч, Асавецкі, Асіповіч, Асіпоўскі, Аскерка, Асмалоўскі, Асмольскі, Асоска, Асоўскі, Астаневіч, Астаньковіч, Астахевіч, Асташкевіч, Асташэвіч, Астражэнскі, Астраменцкі, Астрожскі, Астроўскі, Астрэйка, Астухоўскі, Асяеўскі, Асяндоўскі, Асяцінскі, Атэнгаўз, Аўгустоўскі, Аўгусціновіч, Аўлачынскі, Аўсяны, Аўтушкевіч, Аханка, Ахатніцкі, Ахацімскі, Ахрымовіч, Ачакоўскі, Ачапоўскі, Аш, Ашторп, Ашчэўскі.

**Бабашынскі**, Бабецкі, Бабінскі, Бабіцкі, Бабіч, Бабоўскі, Бабраўніцкі, Бабровіч, Баброўскі, Баваро́ўскі, Багамолец, Багарэвіч, Багатака, Багатырэвіч, Багдановіч, Багдановіч-Дварэцкі, Багданскі, Багданоўскі, Багдашэўскі, Багрын, Багурскі, Багуслаўскі, Багуцкі-Багушэвіч, Багушэўскі, Бадаровіч, Бадзента, Бажычка, Базарэўскі, Базычка, Байкоў, Байкоўскі, Бак, Бака,

* Друкуецца са згоды часопіса «Спадчына» і аўтара Уладзіміра Крукоўскага.

Бакіноўскі, Бакун, Балевіч, Балтоўскі, Бальвановіч, Бальцэвіч, Бандзкевіч, Баневіч, Банчэўскі, Банькоўскі, Банюшка, Баравік, Баранаў, Баранецкі, Баранкевіч, Барановіч, Бараноўскі, Баранцэвіч, Баратынскі, Бардзілоўскі, Бардзкі, Баржым, Барждынскі, Баржымоўскі, Барзабагаты, Барздынскі, Баркоўскі, Барло, Бародзіч, Бароздзіч, Бароўскі, Барсаба, Барсук, Барташэвіч, Барташэўскі, Барткевіч, Бартламевіч, Бартноўскі, Барцыта, Баршчэўскі, Барычэўскі, Барысовіч, Барысоўскі, Барэйка, Барэйша, Барэйша-Аляхновіч, Басяцкі, Батарэвіч, Батурыцкі, Баўфал, Бачкоўскі, Бачыжмальскі, Баярскі, Бжазінскі, Бжазоўскі, Бжэскі, Бейнар, Бейнаровіч, Белавескі, Белавянец, Белазор, Белапятровіч, Белашыцкі, Белгковіч, Беліновіч, Бельдзішэўскі, Бельскі, Белы, Белялюбскі, Беніслоўскі, Беразінскі, Беразоўскі, Берасневіч, Бербаш, Бергель, Бернатовіч, Бесер, Бесман, Біберштэйн, Бібікаў, Бібуловіч, Біёлт, Білевіч, Білунскі, Білдынскі, Більмін, Бірбаш, Біруля-Бялыніцкі, Бітнер, Бітны, Біцютка, Бішэўскі, Блажаеўскі, Блажэвіч, Блазаевіч, Блашчынскі, Блоцкі, Блусь, Бодак, Бой, Бокша, Боландзь, Болбас, Болтуць, Бонч-Багдановіч, Бонч-Бруевіч, Борк, Борсук-Шумёт, Боўт, Бохвіч, Брадоўскі, Бразгун, Бразіна, Бразінскі, Бразоўскі, Брайчэўскі, Брам, Бранавіцкі, Бранеўскі, Бранікоўскі, Брант, Брантка, Бранюшац, Брастоўскі, Браткоўскі, Браховіч, Брахоцкі, Брашчынскі, Бржастоўскі, Броель, Броніч, Бронскі, Брухальскі, Бруцкі, Брушэўскі, Брылеўскі, Брынк, Брынкман, Брэзгін, Брэскі, Бубель, Бувід, Бугарэвіч, Будагорскі, Будвіла, Будзінскі, Будзіслававіч, Будзько, Будзяноўскі, Будкевіч, Будніцкі, Будны, Будрэвіч, Буевіч, Буевіч-Выжляцінскі, Бужынскі, Бузаноўскі, Буйван, Буйвід, Буйко, Буйневіч, Буйніцкі, Буйніцкі-Несьцюж, Буйно, Буквецкі, Букоўскі, Букраба, Букрэй, Булановіч, Булат, Булгак, Булгарын, Бур, Бурачок, Бурба, Бурдзіцкі, Буржынецкі, Бурло-Будзіцкі, Бурскі, Бурцаў, Буры, Буслаўскі, Бутвілоўскі, Бут-Гусаім, Буткевіч, Бутман, Бутовіч, Бутрымовіч, Бухавецкі, Буцвілоўскі, Буцвіновіч, Буцько, Буцэвіч, Бучынскі, Буш, Бушынскі, Быкоўскі, Былеўскі, Быліна, Быльчынскі, Быстры, Быстрыцкі, Быхвец, Бычкоўскі, Бычынскі, Бябноўскі, Бядрыцкі, Бялаблоцкі, Бялабрэскі, Бялавескі, Бялевіч, Бялеўскі, Бялецкі, Бяліковіч, Бялінскі, Бяліцкі, Бялкоўскі, Бялькевіч, Бяльковіч, Бялыніцкі, Бяляўскі, Бяляцкі, Бянклеўскі, Бярлінскі, Бярнацкі, Бярновіч.

**Вабішчэвіч**, Вабішэвіч, Вагнэр, Вадчынскі, Вадынскі, Ваейка, Ваейкаў, Ваенскі, Важынскі, Вазгер, Вазгерд, Вазгінт, Вазноў, Вайдата, Вайдзевіч, Вайзбун, Вайневіч, Вайніловіч, Вайніловіч-Нянькоўскі, Вайніцкі, Вайноўскі, Вайткевіч, Вайткоўскі, Вайхштанскі, Вайцяховіч, Вайцяхоўскі, Вакар, Вакульскі, Валадкевіч, Валадковіч, Валанскі, Валанцэвіч, Валасевіч, Валасецкі, Валатоўскі, Валахоўскі, Валачоўскі, Валентыновіч, Валінскі, Ва-

ліцкі, Валковіч, Валовіч, Валодзька, Валожынскі, Валынскі, Валынцэвіч, Вальбек, Валькоўскі, Вальніцкі, Вальчэўскі, Вальтар, Валюжыніч, Валянскі, Ванкевіч, Ванкоўскі, Ванлярлярскі, Ваноўскі, Вансевіч, Ванслаў, Ванцовіч, Вансяцкі, Вансяцкі-Фурс, Ванькевіч, Ваньковіч, Ваньчын, Варанец, Варанковіч, Варановіч, Варапай, Варатніцкі, Варатынец, Варатыніцкі, Варнахоўскі, Варняхоўскі, Вароніч, Вароўскі, Васеўскі, Васілеўскі, Васількоўскі, Васінскі, Васкевіч, Васкоўскі, Васькевіч, Васьнеўскі, Васяцовіч, Ваулін, Ваўжэцкі, Ваўкавіцкі, Ваўканоўскі, Ваўраўскі, Ваўчанскі-Міткевіч, Ваўчкевіч, Ваўчковіч, Ваўчыневіч, Ваўчэцкі, Вахштайнскі, Вацура, Вашкевіч, Вашкоўскі, Вашчаровіч, Вашчынін, Ваяводскі, Вевель, Вевяроўскі, Вейтка, Велічкевіч, Велявейскі, Велямовіч, Веляноўскі, Венцкі, Венцлавовіч, Веразумскі, Верашчака, Верашчынскі, Вернікоўскі, Верны, Весялоўскі, Вечар, Вечар-Шчарбовіч, Вешанеўскі, Вешнякоў, Вжоска, Вігура-Касьцюшкевіч, Візгерд, Віктароўскі, Віламовіч, Віленчыц, Вілінбахаў, Вілкамірскі, Вількашэўскі, Вількіцкі, Вільпішэўскі, Вільчынскі, Вілямоўскі, Віляноўскі, Вінарскі, Вінскі, Вінча, Вінпша, Вінярскі, Вірт, Віртаў, Віскант, Віскоўскі, Віславух, Вітакоўскі, Вітвіцкі, Віткевіч, Віткоўскі, Вітоўскі, Вічульскі, Вішнеўскі, Вішнеўскі-Гольдым, Вішчынскі, Віюк, Влашчэўскі, Войзбун-Патуліцкі, Война, Война-Сідаровіч, Война-Ясянецкі, Войніч, Войсім, Волчак, Вольмер, Вольскі, Вольскі-Мягчыловіч, Вонскі, Воранаў, Воўк, Воўк-Карачэўскі, Воўк-Курачэўскі, Воўк-Ланеўскі, Воўк-Леванові, Воўк-Санеўскі, Вуловіч, Выганоўскі, Выжляцінскі, Выжыцкі, Выкоўскі, Вылазка, Выляжынскі, Вырвіч, Вырвіч-Васілевіч, Вырубаў, Вырыкоўскі, Выславух, Высоцкі, Вышамерскі, Вышамірскі, Вышкоўскі, Вышынскі, Вышэнскі, Вязьміцінаў, Вяленчыц, Вялёнга, Вялічка, Вянгерскі, Вянглеўскі, Вянглінскі, Вянгрэцкі, Вяндорф, Вянслаўскі, Вянцкевіч, Вянцкоўскі, Вянцэвіч, Вяракса, Вярбіцкі, Вярбоўскі, Вяржбіцкі, Вяржбоўскі, Вяржэнскі, Вярнікоўскі, Вяроўкін, Вяроўкін-Шалюта, Вярсоцкі, Вярхоўскі, Вярцінскі, Вярыга, Вярыга-Дароўскі, Вярыга-Дарэўскі, Вярэйскі, Вярэміч, Вярэніч, Вярэнка, Вярэнька, Вярэшка, Вячынскі, Вяшчыцкі.

**Гаваркоўскі**, Гаворка-Яштальд, Гагаліњскі, Гадачэўскі, Гадзельскі, Гадзінскі, Гадзіцкі, Гадзяеўскі, Гадлеўскі, Гадлеўскі-Газдава, Гадыцкі, Гадэцкі, Гаеўскі, Гайдамовіч, Гайжэўскі, Гайко, Гайковіч, Галавач, Галавін, Галавінскі, Галакціён, Галамбёўскі, Галанеўскі, Галаўня, Галецкі, Галіёф, Галіноўскі, Галінскі, Галіцкі, Галкоўскі, Галкоўскі-Аданевіч, Галоўчыц, Галубіцкі, Галубок, Галубоўскі, Галынскі, Галяеўскі, Галямбеўскі, Гамаліцкі, Гамлікевіч, Гамрат, Гамулецкі, Гана, Ганіпроўскі, Ганкевіч, Ганкоўскі, Гансеўскі, Гансоўскі, Гансяроўскі, Гантарскі, Гарабурда, Гарагляд, Гарадзецкі, Гарадынскі, Гаражанскі, Гара-

